№1 (80)
/студзень-люты/ 2016

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

спадчына

Васіль Быкаў



...мудрыя партыйныя кіраўнікі даўно ставілі пытаньне, каб кантраляваць пісьменніка на стадыі стварэньня твору, а не пасьля яго надрукаваньня....

# “У тую вясну...”

*Публікацыя Ірыны БЫКАВАЙ.*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

У тую вясну мне здорава не пашэнціла – прастудзіўся ў камандзіроўцы, як на ветраным прыпынку чакаў аўтобуса, і захварэў на запаленьне лёгкіх. Два тыдні праляжаў у больніцы, а як выпісаўся, яшчэ колькі часу ня мог давесьці да ладу здароўе, і наш мясцком, зважаючы на маю хваробу, выбіў у аблсаўпрофе пуцёўку ў адзін з менскіх беларускіх санаторыяў. Зрэшты, лепшым ён хіба лічыўся ў бюракратычных колах, асаблівага там не было нічога. Апроч хіба будынку – новага, няблага ўсталяванага з адна- і двухпакаёвымі нумарамі. Месца яго таксама было ўдала, з клопатам падабрана – у хваёвым лесе, непадалёк ад чыстай неспрастанай рачулкі; горад таксама быў недалёка. У выходныя некаторыя ездзілі туды на рэйсавым аўтобусе. І ўсё ж тое было для мяне ўдачай – ня кожны з маіх калег меў такую магчымасьць. Тым больш, што кантынгент пацыентаў-кліентаў там таксама быў не абы-які. Наменклатура рэспубліканскага,

ну, ня менш, абласнога маштабу. Некаторых там я пазнаваў – з Гарадзенскага выканкама двое, з міністэрства сельскай гаспадаркі загадчык аддзела – грузны, укормлены мужчына, надта, аднак, порсткі і вясёлы для сваіх мусіць перадпенсійных гадоў. Але каб добрых знаёмых ці калег-журналістаў, дык там я ня бачыў нікога, таму пачуваўся крыху самотна, хадзіў рэгулярна ў сталоўку ды на некаторыя працэдуры, што былі мне прапісаны. На лячэбную гімнастыку, якая мне хутка апрыкла, бо карысьці з яе я не адчуваў ніякай. Але і перапыніць яе не хапала сьмеласьці, дактары звычайна папракалі: чаму кінуў? Асабліва калі была персьпектыва зноў з тым жа самым да іх зьвярнуцца.

Так я і хадзіў у той працэдурны кабінет на першым паверсе, дзе маладая, даволі сімпатычная сястрычка валявым чынам ставіла маё дыханьне, прымушаючы прысядаць, нагінацца, хэкаць і хакаць. Аднойчы я прыйшоў кража крыху раней, давялося пачакаць у калідоры. Каб не было сумна чакаць, чаго я не выносіў асабліва ў лякарнях, я прыхапіў з сабой пару газет. Якраз уранку прыязджала з Гародні жонка, прывезла прысмакаў і – некалькі газет за мінулы тыдзень. І сярод іх, канешне, – “Гродзенскую праўду”. Цікава было даведацца, што там адбывалася ў вобласьці за той час, як я тут хэкаў і хакаў.

Асаблівага, аднак, нічога не адбывалася – газета была ўсё тая ж, што год і дзесяць таму, нарада ў абкаме партыі, пастанова аблвыканкама наконт падрыхтоўкі да ўборкі... Аднак на чацьвертай старонцы быў зьмешчаны даволі вялікі матэрыял развагі і ўспамінаў нашага гарадзенскага пісьменьніка Аляксея Карпюка, якога я трохі ведаў. Не так, каб сябраваў, але пры сустрэчах на вуліцах мы віталіся. Тым больш, што, як я чуў, ён таксама некалі працаваў у абласным друку, здаецца, у той жа газеце. А пасьля яго выключалі з партыі, зьнімалі з работы. Цяпер – гэты яго матэрыял, даволі крытычны, як я зразумеў, прабегшы першыя абзацы.

У той момант у ціхім гэтым калідорным тупічку паявіўся і яшчэ адзін пацыент – немалады ўжо чалавек з тросткай, у трэніровачных з лампасамі штанах, але ў шэрым пінжаку, на борце якога стракацеў, як у нас казалі, іканастас; радоў восем ордэнскіх планак. Чыста паголены твар чалавека выглядаў, аднак, ня надта маладым, нават хваравітым, сівыя валасы на галаве здорава парадзелі і на лобе трымалася толькі некалькі рэдзенькіх пасмачак, закінутых назад. Але бровы! Бровы былі, мусіць, як у маладога – чорныя і густыя, нават навіслыя над можа калісь і грознымі, але цяпер ужо надта паблеклымі вачмі. Увогуле нічога асаблівага, нейкі адстаўны пенсіянер, мабыць, вайсковец, падумаў я, наўкось зірнуўшы на чалавека. Не павітаўшыся, той сеў побач у крэсла, трохі аддыхаўся і затым з увагай агледзеў мяне, зірнуў на газету.

– Гродзенскую газету чытаеце? – густым басам запытаў ён.

– “Гродзенскую праўду”, – сказаў я.

– Ну і што яна піша? – пасьля нядоўгай паўзы папытаўся чалавек.

– Старая газета. Колішні нарыс Аляксея Карпюка чытаю.

– Карпюка? – перапытаў чалавек з зацікаўленьнем. – І пра што ён?

– Ды во яшчэ не дачытаў, – сказаў я, ня надта хочучы цяпер з ім гаварыць. Тое, што пісаў Карпюк, сапраўды было цікава: гаворка ішла пра пасьляваенныя метады калектывізацыі на Гродзеншчыне. Як кажуць, тыя яшчэ метады.

Аднак тут якраз расчыніліся дзверы кабінету і маладзенькая сястрычка

ў белым кіўнула – маўляў, заходзьце, Я ўстаў, складваючы газету. Ды мой сусед выпрастаў руку.

– Калі можна, пакуль вы там...

– Калі ласка, – сказаў я, аддаючы газету.

Можа хвілін дваццаць я там у каторы раз хэкаў і хакаў, а як выйшаў, прыйшла чарга майго адстаўніка, і ён нетаропка і акуратна склаў газету.

– Панятна, – сказаў толькі. – Прачытаў. Дзякуй.

І пайшоў у кабінет, а я выйшаў на волю.

Я сеў недалёка на лаўку і дачытаў нарыс. Увогуле нічога асаблівага – хто цяпер ня чуў і ня ведаў, як тады калектывізавалі заходнебеларускае сялянства. У цэнтральным друку, асабліва расейскім пра тыя часы пішуць і не такое, перабудова, здаецца, абудзіла памяць, а можа і сумленьне нават. Не ўсіх, вядома. Тыя, у каго гэтае сумленьне спала ў мінулыя гады, узялі, мабыць, за лепшае, каб яно спала і цяпер, так было зручней ва ўсіх адносінах. Але не ў Карпюка. Грамадскае сумленьне гэтага чалавека, як я разумеў, было надта ж чуйнае, і далікатнае. Можа нават балючае. Гэта, вядома, добра, нават выдатна для пісьменьніка ўсіх часоў, тым болей такіх, што перажывалі мы.

Некалькі наступных дзён я з гэтым чалавекам ня бачыўся. Праўда, аднойчы згледзеў яго ў сталоўцы, той сядзеў сьпіной да дзьвярэй, ужо канчаў абед, піў кампот. Я толькі прыйшоў, а як паабедаў, яго ў сталоўцы ўжо не было. Дзе, на якім паверсе ён жыў, таксама ня ведаў. Ды й наогул ён мяне мала цікавіў, – хіба тады, у калідоры, трохі зачапіў, і ўсё. Але праз тыдзень, ці, можа, дзён дзесяць, ён сам спыніў мяне на лесавой дарожцы, куды я выйшаў перад вячэрай прагуляцца. Мой знаёмец стаяў пасярод дарожкі і нешта пільна ўзіраўся ўгору ў вецьце хвой.

– Цікава, – сказаў ён, як я падышоў. – Цікава.

– А што цікава?

– Вунь бачыш?.. Вунь ля той высокай хвоі. Варона бурыць грачынае гняздо...

Бурыць ці не, здалёку цяжка было вызначыць, проста ў нейкім гнязьдзе з галля мясьцілася варона, падобна нават на тое – падкладвала ці папраўляла галінкі. Так я і сказаў чалавеку.

– Не, бурыць, – цьвёрда зазначыў ён. – Птушка ў чужое гняздо ня сядзе. Толькі пабурыўшы.

Можа і так, я пярэчыць ня стаў. Чалавек, таксама ўжо згубіўшы цікавасьць да птушак, памалу пайшоў па дарожцы, яўна зьбіраючыся скласьці са мной кампанію.

– А вы чыталі пра кнігі таго Карпюка?

– Дзе?

– А ўсё там жа. У "Гродзенскай праўдзе". Аказваецца, ветэраны ўсё ж далі яму прыкурыць.

– Ветэраны?

– Ну. Прыйдзем, дам вам пачытаць. Мне сьпецыяльна прыслалі. Па маёй просьбе, праўда. Як былому кадраваму супрацоўніку вобласьці.

– Во як! А дзе вы там супрацоўнічалі?

– У Камітэце дзяржаўнай бясьпекі, – ціха, з затоеным гонарам мовіў мой знаёмец. – Уся тая гісторыя з Карпюком – і ня толькі з ім, – прайшла ў мяне во дзе, – ткнуў ён сябе вялікім пальцам у грудзі і ўважліва паўзіраўся ў мяне.

– Во як! – толькі разгублена сказаў я.

– Во так. А ты ня сябра Карпюка?

– Не, – сказаў я ня надта рашуча, і ён, мабыць, заўважыў тую маю нерашучасьць. – Трохі знаёмы.

– Трохі знаёмы... Увогуле, я таксама, можна сказаць, трохі знаёмы. Выпіваць не даводзілася, сем'ямі не сябравалі...

Тое мяне заінтрыгавала, – па-першае, кадравы супрацоўнік органаў быў на той час фігураю амаль экзатычнай, дзе я такога і калі мог сустрэць? Хіба па выкліку ў камітэце. Але да гэтага, як кажуць, бог мілаваў, мяне туды ня клікалі. Зноў жа, адчуваў, штосьці яго падмывае распавесьці мне пра Аляксея, справа якога, падобна, пачала раскручвацца нанова. Але што ён мне можа паведаміць? Няўжо ён нешта сакрэтнае проста так, дзеля цікаўнасьці, можа даверыць малазнаёмаму, амаль выпадковаму чалавеку?

– Але ж вы, мабыць, ягоныя аповесьці чыталі? – сказаў я. Можа, з гэтага і трэба было пачынаць размову.

– Аповесьці я чытаў. Я іх ня толькі чытаў. Я іх амаль з алоўкам праштудзіраваў. Кожнае слова.

– Во як! – зноў вырвалася ў мяне.

Мы выходзілі з хвойнага лесу на адкрытае поле, у вочы ўдарыла перадвячэрняе сонца, і мой спадарожнік спыніўся.

– Сонца! Не люблю сонца. Ад яго ціск павышаецца...

– У вас гіпертанія?

– У мяне ня толькі гіпертанія, малады чалавек, – сказаў ён з непрыхаваным адчаем у голасе. – У мяне рак!

– Рак?

– А ты думаў... Хочаш запытаць, чаму не лячу? Лячыў, ды што толку. Цяпер ужо ўсё адно... Усё роўна, ад чаго загібацца... Так што...

Колькі часу ён памаўчаў, паволі ступаючы па асфальтавай дарожцы. Я памаўчаў таксама, бо ня ведаў, пра што казаць. Ці, можа, трэба было суцяшаць чалавека, ці ўгаворваць яго лячыцца. Але мне цікава было чуць пра Карпюка.

– Карпюк таксама штось занямог. Ляжаў у бальніцы.

– Карпюка чорт ня возьме. Здаровы, як бык! А што – ня п'е, ня курыць... Ну, можа трошкі з нервамі непарадак.

– Яно ўсё можа быць. Хваробы не разьбіраюць, хто п'е, хто курыць.

– Хваробы не разьбіраюць, а чалавек павінен разьбіраць. Кожны чалавек. Тым больш – савецкі.

Я ня ведаў, як далей працягваць размову, тым больш у гэткім, зададзеным ім тоне. І сказаў, можа трошкі правакуючы:

– Ну, Карпюк, здаецца, савецкі чалавек. І партызан, і паранены. А што з партыі выключалі, дык аднавілі ж.

– Аднавілі. Не было каму разьбірацца. Усё на хапок, абы для галачкі. Такое наша партыйнае кіраўніцтва.

– Хіба не разьбіраліся?

– Разьбіраліся... Вось ты мне скажы, чаму гэта ён усё жыцьцё ішоў уніз. Можа, па сьпіралі, але ўніз. А яму ж давяралі. Адразу пасьля інстытута паслалі ў Сапоцкінскі раён загадваць райана. Вялікая пасада. Дарэчы, я таксама быў там. Ну можа крыху пазьней за Карпюка, як яго ўжо адтуль папрасілі. Я прыехаў туды маленькім чалавекам, старшым сяржантам, танкістам. Але я рабіў, я чэсна ваяваў з бандытамі. А Сапоц-

кінскі раён, учці, тады быў самы бандыцкі... А я там атрымаў першую афіцэрскую зорачку...

– Чэкісцкую?

– Чэкісцкую, да. Улетку мяне ўжо ўзялі ва ўпраўленьне. А ён здрадзіў. Ён пачаў скардзіцца, пісаць у Менск, і яго адкамандзіравалі дырэктарам школы ў Ваўкавыск.

– Але няўжо здрадзіў? Ён жа пісаў, што ня мог пагадзіцца з метадамі калектывізацыі, – сказаў я. Па праўдзе, я пачаў ужо шкадаваць, што ўлез з гэтым чалавекам у размову, якая, адчуваў, прынясе мне мала задавальненьня. Але не хацелася і прыпыняць размову, тым болей, што ў ім штосьць набалела і карцела вырвацца.

Між тым у сталоўку ўжо ішлі людзі – па адным і групкамі; мы таксама паціху шпацыравалі да яе ганку.

– Пры чым тут метады! – пачаў прыкметна нервавацць чалавек. – Метады, як і ўсюды. Як і раней, вядома, бальшавіцкія метады. Кулакам не спрыялі. З кулакамі паступалі жорстка – тое праўда. Але бедната была за нас. Вот тут сабака і зарыта – за каго быў Карпюк? Хаця ладна, калі хочаш – пасьля ужына пагуляем.

– Добра. Пагуляем, – пагадзіўся я.

Пасьля вячэры, як я сышоў з ганку сталовай, ён ужо чакаў мяне трохі зводдаль ад уваходу, Надвор'е было цудоўнае, першыя цёплыя дні лета, сонца ўжо закацілася за бор, на бярозах паблізу не варухалася ніводнае лісьцейка, так было ціха. Некаторыя з санаторыя пабрылі па дарожцы ў бок шашы, а мы завярнулі па-над сьцяной бору да недалёкай рэчкі.

– Толькі я хацеў папярэдзіць, – ціхмана зазначыў чалавек. – Тое, што я расказваю, не для перадачы. Ты разумееш?

– Ды ўжо ж, – сказаў я.

– Цябе як завуць?

Я назваў сваё імя і прозьвішча, сказаў, што працую ў газеце. Чалавек паморшчыўся сваім даволі абвялым тварам.

– Не люблю журналістаў.

– Ну што ж... Журналісты таксама розныя.

– Мяне можаш называць Мікалаем Іванавічам.

– Добра, – пакорліва сказаў я, у душы, аднак, усумніўшыся, ці сапраўды ён той, кім назваўся. Але, можа, гэта ў іх так прынята, у чэкістаў. Як, скажам, у журналістаў – заведзена падпісвацца псеўданімам. Хаця мне ўсё роўна, хто ён – хай будзе Мікалай Іванавіч.

– Дык вось Карпюк, – сказаў Мікалай Іванавіч і, прыпыніўшыся, азірнуўся. Ззаду за намі нікога блізка не было, і мы пайшлі далей. – Ён жа як трапіў у нашае поле зроку. Усё праз сваю дурасьць. Ужо будучы дырэктарам школы пад Ваўкавыскам, напісаў у ЦК КПСС пісьмо, што ў Беларусі няправільна праводзяцца нарыхтоўкі хлеба. Што дужа сьпяшаюцца з выкананьнем плана, ад таго страты.

– Дык праўда ж, – сказаў я.

Мікалай Іванавіч аж прыпыніўся, акінуў мяне дакорлівым позіркам, але не сказаў нічога на маю заўвагу.

– Ён думаў – адкрывае Амерыку. Быццам у Маскве, у ЦК невядома, ад чаго і чаму страты. Знайшоўся адзін такі разумны ў Беларусі – настаўнік Карпюк. Адтуль, відаць, накруцілі хваста Першаму ў Менску, і той выклікае Карпюка. А гэты дурань рады – думае, заслужыў падзяку

ці нават павышэньне. Паехаў, прапусьцілі ў кабінет, ну ён і прэцца па дарожцы, выставіўшы руку. А Першы рукі за сьпіну, бровы ссунуў і адразу яму ва ўпор пытаньне: “Вы колькі год працуеце на англа-амерыканскі імперыялізм?” Во тут Карпюк і зьвяў. Забэкаў, замэкаў, а нічога растлумачыць ня можа. Не валодае тэмай... Так пасьля і адзначылі ў дакументах. А Карпюка – з дырэктарства прэч, хадзіў без работы, пасьля ўладкаваўся лабарантам у педінстытут. Во тады, мусіць, і пачаў пісаць сваю “Дануту”. А што – часу багата, крыўда душу точыць, самы раз узяцца за пісацельства.

– Але “Данута” не пра той час. Там – даваенная Польшча.

– Гэта няважна, што Польшча. Але відаць скіраванасьць. Мы накіроўвалі да сьпецыялістаў – не тады, праўда, пасьля. Сьпецыялісты з Акадэміі навук далі заключэньне, што антысавецкасьць аўтара адчуваецца.

– Так і напісалі? Сьпецыялісты? Літаратуразнаўцы? Цікава, а хто канкрэтна?

– Так я табе і скажу, – прыжмурыў вочы Мікалай Іванавіч. – Ды я і сам ня ведаю. Падпісана – псеўданімамі.

Бог ты мой, думаў я. Гэтая невялічкая аповесьць Карпюка, як я памятаў, была тады даволі цёпла сустрэта ў пісьменьніцкім друку, яе хвалілі ў рэцэнзіях. Карпюка неўзабаве прынялі ў СП, можа ўпершыню ён адчуў сябе на кані і нават прыбіў на дзьвярах кватэры медную таблічку “Аляксей Карпюк, пісьменьнік”. А гэтыя, глядзі ты, – праводзілі сваю эксьпертызу. І дзе! У Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Ці, можа, у іх сваіх “літаратуразнаўцаў” у штацкім бракавала?

– І вось тут паявілася праблема: зверху патрабуюць справаздачы, ну дадзеных, матэрыялы распрацоўкі, а ў нас тых распрацовак – кот наплакаў. Уся справа, ведаеш, што гэты тып на адным месцы сядзеў нядоўга. Усё лётаў, лятун сапраўдны, чэснае слова. Толькі нашыя аператыўнікі яго абсадзяць, ну, агентамі, так сказаць, асьведамляльнікамі, а ён ужо зьехаў. Або звольніўся. Што ўжо само па сабе падазрона – чаго гэта?

– Але ж яго звальнялі, – сказаў я. – Як жа было яму ня лётаць.

– Не заўжды звальнялі. Ён і сам умеў звальняцца. З рэдакцыі, напрыклад. Толькі там харошага хлопца да яго падсадзілі, беларуса-заходніка, таксама пачынаў нешта пісаць – звольніўся. Паступіў у “Інтурыст”. Мы як даведаліся, аж млосна стала, начальнік вымову тром супрацоўнікам уляпіў.

– Але завошта?

– Як завошта? Гэта ж прамы шлях – за мяжу. Ён, знаеш, такі шлях і падбіраў, каб пісаць і свае пісакі туды перапраўляць прамым ходам. Ды яшчэ некаторых туды уцягнуць. Тут ужо арганізацыяй запахла...

– Да, – сказаў я, ня дужа, аднак, разумеючы логіку гэтага чалавека. Затое чалавек, мабыць, выдатна разумеў сваю логіку.

– Во тут на Карпюка паявіўся яшчэ адзін пісака, во цяперашні народны Васіль Быкаў. Але пра гэта я раскажу пасьля. Вунь ідзе дзядок з кульбай, бачыш? Мне трэба зь ім паздароўкацца.

Наперадзе сапраўды паявіўся дзядок з кіёчкам, у цёмным гарнітуры пры гальштуку, ён, аднак, дробненька і жвава тупаў дарожкай, – ужо згледзеўшы нас, пачаў пільней узірацца праз акуляры. Каб не замінаць ім, я павярнуў назад.

Наступны дзень выдаўся дажджлівы, зраніцы ліў дождж, але пад абед перастаў, па небе плылі непрыемныя, зусім асеньнія хмары. Я сядзеў адзін у сваёй двойцы і думаў над учарашняй размовай. Усё ж тое было ня толькі

цікава, а і дужа важна, нічога падобнага мне чуць не даводзілася. І я думаў, ці не запісаць тое, можа б калі прыгадзілася, бо спадзявацца на памяць я ня дужа хацеў, мая памяць увогуле была дзіравая. Працуючы ў газеце, усё, бывала, браў у блакноцік. Калі гутарыў з калгаснымі кадрамі, было шмат лічбаў, прозьвішчаў – усё ў блакноцік. Тое здорава памагала заўжды, давала магчымасьць пазьбегнуць памылак. А неяк нават атрымаў апраўданьне праз суд – гэта калі адзін калгасны сьпецыяліст хацеў узяць на пушку. Сказаў, а пасьля адмовіўся. Але ў мяне ўсё было дакладна запісана.

У той дзень зранку напарнік мой, таксама малады хлопец з Талачынскага выканкама, зьехаў аўтобусам у горад, і я наважыўся. Прысеў ля стала і пачаў што-нішто накідваць у блакнот з пачутага ўчора пра Карпюка. Толькі напісаў паўстаронкі, у дзверы ціха стукнулі два разы, і на парозе з'явіўся Мікалай Іванавіч. Ён быў у даўгой зялёнай афіцэрскай накідцы.

– Што вы тут сядзіце, пойдзем пройдземся, – пачаў ён нейкім незадаволеным голасам. І, мусіць, згледзеўшы мой блакнот у руках, ціха засьцярожліва мовіў: – Што пішаце? Можа, мой расповед запісваеце? Ні ў якім разе. Я забараняю.

– Ды не, – сказаў я, сумеўшыся. – Тут я па матэрыялах санаторыя...

– Санаторыя? Мусіць, знайшлі недахопы? Ваш брат на гэта мастак. Хлебам яго не кармі – дай недахопы.

– Што ж, тым кормімся, – працытаваў я класіка журналістыкі. Мы выйшлі ў двор, дзе нас адразу падхапіў сьвежы напірысты вецер з-за вугла – увогуле надвор'е было не для пагулянак. Тым болей, што, сьпяшаючыся, я не надзеў нічога на свой новы пінжак.

– Можа, у пакоі лепш? – сказаў я. – Я там адзін.

– Не, – цьвёрда сказаў Мікалай Іванавіч. – У пакоі не гадзіцца.

Мы прайшлі ў хвоі, там стала трохі зацішней. Мой спадарожнік хмурыў нездаровы, з мяшкамі пад вачмі твар.

– Прыроды, пагоды ня трэба баяцца. Я, знаеце, як рабіў аператыўнікам і намокнуў, і намёрзся. Усяго было. Асабліва ў барацьбе з бандытызмам... Прыходзілася адзін на адзін на лясной трапе. Хто раней стрэльне, той і пераможа. Цераз труп пераступіш і – далей. Во такая была наша служба.

– А вы адкуль родам?

– Ды я з дальніх краёў. Сібірак! – з гонарам мовіў Мікалай Іванавіч. Але як прыехаў у 44-м у Сапоцкін, так тут і застаўся. Уся чэкісцкая служба на Беларусі. Ну, ня лічачы, канешне, вучобы — школы, акадэміі... Да-а. Дык на чым я ўчора спыніўся?

– Пра Быкава нешта пачалі, – успомніўся...

– Пра Быкава, ага. Гэты Быкаў Вася таксама задаў нам клопату. Памятаю, я дзяжурыў быў па ўпраўленьню, раніцой дакладваюць: невядомы грамадзянін захапіў сакрэтную явачную кватэру. Ну вы разумееце, якая гэта была кватэра? Што за грамадзянін? Адкуль? Далажыў начальніку, той выклікаў начальніка аддзела – ніхто нічога ня ведае. Срочна снарадзілі афіцэра з наружкі, выклікалі ўпраўдома, міліцыю. І высьвятляецца... Дэмабілізаваны афіцэр, прыехаў аднекуль з Далёкага Усходу, без дазволу, уначы, уламіўся ў нашу кватэру – з жонкай і малым дзіцём, і не адчыняе на патрабаваньні міліцыі... Як жа так можна? Ды яшчэ афіцэр! Далажылі начальніку другі раз, той аж счырванеў: ён жа яшчэ раскрые нашу мясцовую сетку, туды ж, ня ведаючы, пойдуць сексоты, а ён усіх іх засьвеціць. Вы разумееце, што можа атрымацца?

***Ад публікатара.*** *Тут ужо па праву героя сумнай гісторыі хачу ўзяць слова і зрабіць некаторыя заўвагі. Унесьці паразуменьне. Так, гэта быў я, Васіль Быкаў, публікатар гэтай дзіўнаватай працы. У час першага хрушчоўскага скарачэньня войска ў ліку іншых 500.000 я быў звелены з кадраў і прыехаў у Гродна, дзе некалі жыў пасьля вайны. Невялічкая аднапакаёўка тады дасталася жончынай сястры, маладой дзяўчынe-студэнтцы, якая, пакуль Быкаў мацаваў абарону далёкаўсходніх рубяжоў, натуральна, выйшла замуж, нарадзіла дачушку і жыла ў маленькай, прыстасаванай кватэры непадалёк ад рэстарана "Нёман".*

*Вот туды і прыехаў Быкаў. У адным пакоі паставілі другі ложак, сёстры неяк мірыліся з агульнай кухняй. Гаспадар працаваў у сумежнай з Мікалаем Іванавічам сістэме. Праз нейкі нядоўгі час стала зразумела, што мне трэба некуды ісьці, дзесьці шукаць кватэру – кватэры ж ад гарадскіх улад не дачакаешся. Аднойчы мой гаспадар і кажа: чуў, вызвалілася кватэра блізка ад вуліцы Алега Кашавога, чалавека, які там жыў, перавялі на працу ў Воранава, ці што. Так што пакуль ня позна – займай! Што самавольна – ня дрэйф, цяпер усе так робяць. Толькі ўпрыся. Будуць выганяць – стой, як абаронца Брэсцкай крэпасьці.*

*Што ж, угаворваць мяне не было патрэбы, так я і зрабіў. Увечары перанёс чамаданы. Ламаць дзьверы не спатрэбілася, у прабой быў уторкнуты іржавы замок без ключа. Але засоў знутры быў добры, моцны засоў. І я ім засунуў дзьверы.*

*Праўда, бліжэй да поўначы пачалі стукаць. І ціха, нясьмела, і нахабна. Нехта нават падаваў голас, называў сябе. Я маўчаў, не адгукаўся. Але і ня спаў. І так да раніцы. Раніцай трошкі заснуў, але разбудзіў мяне такі стук, што і мёртвы прачнуўся б. Патрабавалі адчыніць – то была міліцыя. І я адчыніў. Праўда, ўваліліся ў пакой не міліцыянеры, а двое ў драпавых паліто, з імі дамаўпраў, якога я ўжо ведаў, як заходзіў у домакіраўніцтва наконт кватэры. Яны запатрабавалі дакументы. Я падаў дакументы. Агледзеўшы іх, запатрабавалі выкідвацца. – "Куды?" – "Это не наше дело. Квартира принадлежит горжилуправлению, она уже занята". Нешта ня надта ў тое верылася – у горжылупраўленьне.*

*Пасьля прыходзілі і яшчэ – і ўдзень, і ўначы... Стукалі, пагражалі. Стала зразумела, што мне тут ня ўседзець. Тады я пачаў шукаць прыватнае жыльлё, і пад Новы год зьехаў на Падгорную – у цесны катушок старой дамоўкі. Там ужо ад мяне адчапіліся.*

Мы спыніліся на мокрай асфальтаванай дарожцы ў сасоньніку, мой спадарожнік, здаецца, нанова гатовы быў перажываць той даўні канфлікт з Быкавым. І яго я разумеў: па тым часе ўлезьці ў гэтую іх сакрэтную сетку – то, мабыць, было злачынства, якое, калі неяк абышлося дэмабілізаванаму Быкаву, дык то было шчасьце. Я ўжо ведаў, як гэтыя ўмелі помсьціць. Але пра тое – хай іншым разам.

– І вось гэты Быкаў, перазімаваўшы, апынаецца, дзе думаеце? Зноў у той жа рэдакцыі, дзе працуе Карпюк. Мала нам было аднаго Карпюка, дык яшчэ і Быкаў. І, уяўляеце, таксама пачынае пісаць. Што-нішто паяўляецца ў абласной газеце, але і ў Менску таксама. Ну, мы тут ужо паставілі пытаньне: або той, або другі. Але не абодва разам. І праўда, Карпюк неўзабаве звольніўся. Во тады ён і апынуўся ў "Інтурысьце". Адно за другое ня лепей. Але ўсё – партыйнае кіраўніцтва. Тады ж ужо

органаў пазбавілі сілы – Хрушчоў гэны – усё стала вырашаць партыя. Мы сігналілі ў час, папярэджвалі. Ды там, ведаеце, дужа цяжкія былі на пад'ём людзі. Пакуль раіліся, узгаднялі з Менскам. А тут чорт ведае, што тварылася... Быкаў пачаў стругаць свае аповесьці пра вайну. Ну, увогуле пра вайну добра, патрыятызм, гераізм і так далей. Але і ў яго таксама падазроныя ноткі. Мы ўсё чыталі, аналізавалі, і – сігналілі куды трэба. Але ж падтрымкі нуль. А тыя тым часам ужо наладзілі сувязь з італьянцамі. Так, Карпюк там не драмаў. Карыстаючыся службовым становішчам, сваім кабінетам на вакзале (адвёў для інтурыста кабінет начальнік вакзала, уяўляеце), наладзіў там падазроныя сустрэчы. І во ўжо ў яго незаконна жыве адзін італьянскі разведчык – цэлых тры дні. Уяўляеце?.. І яны з Быкавым кормяць яго ў рэстаране.

***Ад публікатара.*** *Тут зноў трэба ўзяць слова публікатару, каб растлумачыць простыя рэчы. Задача Карпюка, як начальніка Гродзенскага агенства "Інтурыст", была ўсё ж садзеяньне заходняму турызму, тым болей, што гродзенская станцыя тады (ды і цяпер) была прымежнай на ўчастку Ленінград – Варшава. І вось аднойчы пагранічнікі зьнялі з цягніка, у якім вярталася з Ленінграда група італьянскіх турыстаў, аднаго міланскага фельчара, у якога не аказалася пашпарта. Сказаў: згубіў. Што было рабіць начальніку турызму з турыстам, у якога ні дакументаў, ні грошай. Ён яго прывёў у свой кабінет і паведаміў у органы. Але тыя таксама ня ведалі, што рабіць. Мабыць, трэба было даць нейкі прытулак і — карміць. Але каму гэта хочацца? Ды мне трэба былі некаторыя італьянскія словы-фразы. Карпюк ведаў гэта. І ён мне аднойчы тэлефануе: прыходзь, пагаворым, – у мяне тут італьянец начуе. Ну я і прыйшоў. І мы спусьціліся з гэтым італьянцам у рэстаран, павячэралі, трохі выпілі. Ён з большага гутарыў па-расейску, і я ад яго дазнаўся шмат пра якія італьянскія выразы, якімі надзяліў маю гераіню ў "Баладзе". Дні праз тры дакументы італьянца знайшліся – іх у яго, канешне ж, укралі ў горадзе на Няве, а пасьля выкінулі на Неўскім, і ён зьехаў з Гродна. Але я яго не праводзіў – праводзіў Карпюк. Тая гісторыя, аднак, мела яшчэ свой працяг.*

– Мы, канешне, трымалі ўсё пад кантролем. Усе іх ня дужа прыстойныя – скажам так – размовы. Увогуле, тых размоў сабралася ў Карпюка нямала, хаця ён, хітрая бесьція, стараўся ў сьценах асабліва не балбатаць, не раскрывацца. Як што з тым жа Быкавым ці з кім іншым такога ж кшталту, дык ён – выйдзем, пагаворым.

– Мабыць жа, меў на тое падставу, – не ўтрымаўся я.

– Канешне, меў. У тым і справа. Але чэсны чалавек з чэснымі размовамі ня будзе таіцца, аглядвацца. Іншая справа, калі разгаворчыкі яшчэ тыя. Ну, але ў нас гэтая справа была адладжана – за вуглом мы таксама ўмелі слухаць, хоць тое і было болей складана. Дык вось, я сказаў, мы сігналілі. Пасьля першых аповесьцяў Быкава нават пачалі настойваць. Ну, ня тое, канешне, каб яго зарыштаваць – у той час арышты былі непапулярныя. Але каб хоць адлупцаваць як мае быць у друку. Не даць яму набыць антысавецкі капітал, з якім ён у Еўропе – герой. Праўда, тады яму толькі адзін "ЛіМ" добра ўлупіў – доказна, абгрунтавана, з бальшавіцкіх пазіцыяў.

– А, памятаю, – сказаў я. – Чытаў. Здаецца, артыкул называўся "Героі ці ахвяры лёсу".

– Во-во. Здаецца, так.
– Дык гэта з вашай ініцыятывы? – не ўтрымаўся я, і Мікалай Іванавіч аж прыпыніўся.
– Не пытайся, малады чалавек болей, чым я кажу. Зразумела?
– Зразумела.
– Ну, во. Я і без таго вам у рот кладу. А вам трэба, каб яшчэ і разжоўваў?
– Не, канешне...
Падобна, ён аж зазлаваў, ці, можа, зрабіў такі выгляд. Мяне ён называў то на ты, то на вы – як калі. Я ж стараўся абыходзіцца з ім як мага болей ветліва. Мне было дужа цікава ўсё, што ён расказваў. Тым болей, што пра некаторыя справы ў Гародні я ўжо чуў, але болей з размоў, чутак, з друку. А гэты – сьведчыць з самых глыбіняў. Яшчэ тых глыбіняў-сутарэньняў.
– Дык вось, я сказаў – пачатак быў добры. Звычайна было так, калі на пачатку творчасьці маладому даць добры ўрок, дык яго выйдзе неблагі пісьменьнік. Так і рабілі, вопыт у гэтым сэнсе у нас быў багаты. А што – вазьміце С., Ч., П. Мы іх добра направілі ў самы патрэбны час, і – вось вынік. Выдатныя празаікі ва ўсіх адносінах: ідэйныя, партыйныя, народныя. А з Быкавым дапусьцілі прамашку. Я ўжо не кажу пра Карпюка...
"Але ж хто вы такі, – думаў я, – каб даваць гэткага кшталту ўрокі? Вы што – выдатны пісьменьнік, прафесар, акадэмік? Ці нават адказны работнік ЦК? Хто вам даў такое права? Тым болей заезджаму расейцу, чэкісту, што прыехаў сюды, каб змагацца з бандытызмам у Сапоцкінскім раёне. А дайшоў да таго, што ўзяў за абавязак выхоўваць беларускіх пісьменьнікаў".
– Прабачце, а вы – таксама літаратар? – нясьмела папытаўся я.
– Я не літаратар, – амаль прастадушна адказаў Мікалай Іванавіч. – Але я чэкіст. Зноў жа, я – кандыдат навук.
– Якіх навук?
– Ну, юрыдычных. Думаеш, гэта мала? Гэта вельмі нават нямала. Бо я працаваў і вучыўся. Партыя вучыла.
– Зразумела, – сказаў, каб спыніць гэты паваротак у размове, які яўна не падабаўся Мікалаю Іванавічу.
– Учціце, я ў антысавецкай скіраванасьці гэтых іх аповесьцяў разьбіраўся лепш за некаторых рэдактараў, хоць бы і пісьменьнікаў. Я ўсё нутром адчуваў, бо нутро меў чэкісцкае. А тыя рэдактары па пяць разоў чыталі і нічога ня бачылі. Бо самі былі такія ж.
– Якія?
– Нацыяналісты, во якія! Вазьміце тую ж гісторыю з аповесьцю Кулакоўскага. Партыя яго паставіла рэдактарам, каб ён правільна ацэньваў чужыя творы. Але як ён мог іх правільна ацэньваць, калі сам напісаў заганны, ачарніцельскі твор.
– Гэта "Дабрасельцы"?
– "Дабрасельцы", а што ж! Зганьбіў, збэсьціў усё на сьвеце. Усе планы і дасягненьні партыі ў галіне сельскай гаспадаркі. Як ужо разгарэўся скандал, тады яны да нас, што ёсьць па Кулакоўскаму? Каб прыняць меры. А ў нас па Кулакоўскаму нічога, не пасьпелі, не прадбачылі. Дык ужо па Карпюку ці Быкаву мы стараліся мець, што трэба, і што трэба прадбачыць.
Так мы ў той дзень і хадзілі ўзад-уперад у хвойніку, ніхто нам не перашкаджаў, знаёмых Мікалая Іванавіча тут, здаецца, было няшмат. Даходзілі ў адзін канец – да будынку, спыняліся, трохі стаялі і паварочвалі назад.

Мікалай Іванавіч, падобна, быў ахвочы паспавядацца. А я стараўся як мага больш запомніць, бо наважыўся пасьля ўсё запісаць.

– Увогуле мы прадбачылі, шкада – да нас не заўжды прыслухоўваліся. Хаця мы рэгулярна сігналілі ў інстанцыі. Ды во ў Менску паявіўся яшчэ адзін разумнік, кандыдат навук Адамовіч. Гэты выступаў на пісьменьніцкім зьездзе і збэсьціў нашых лепшых пісьменьнікаў, на якіх было столькі надзей. Я маю на ўвазе Хадкевіча, Карпава, некаторых з маладых. А во Быкава ён ухваліў. Як у таго паявілася ягоная “Трэцяя ракета”, Адамовіч прабіў яе на кінастудыю, там пачалі здымаць фільм. Фільм, праўда, ня ўдаўся, але ў пачаткоўца Быкава, здаецца, закружылася галава. Ён сабе ўвабразіў чорт ведае што. Тут, трэба сказаць, і ў нас адбыліся некаторыя зьмены, пайшоў на заслужаны адпачынак старшыня камітэта, вопытны, заслужаны чэкіст, з Менску прыслалі новага. Новая мятла, як вядома, па-новаму мяце, але не заўжды ў той бок. А тут яшчэ Хрушчоў, гэты Мікіта, пачаў таптаць органы пад выглядам барацьбы з незаконнымі рэпрэсіямі. Быкаў усё капаўся ў вайне, сучаснасьці не чапаў. Ну, мы трохі і супакоіліся. Пацяралі бдзіцельнасьць! Увогуле мудрыя партыйныя кіраўнікі даўно ставілі пытаньне, каб кантраляваць пісьменьніка на стадыі стварэньня твору, а не пасьля яго надрукаваньня. Мудрая мера! Колькі б яна прадухіліла няўдач, скандалаў, а то і прамога шкодніцтва. Але не, не паслухаліся таго, ну і атрымалі.

У 65-м у “Маладосьці” паявілася аповесьць Быкава “Мёртвым не баліць”. Рэдактарам быў паэт Пімен Панчанка. Трэба сказаць, у нашых колах ён быў чалавек вельмі ненадзейны. І па часьці паэзіі і як рэдактар. Мы ня раз ставілі пытаньне, каб яго замяніць. Але нам пярэчылі. У Маскве “Юность” узначальвае вопытны, аўтарытэтны рэдактар, а яна вунь што друкуе! Еўтушэнку друкуе. А Панчанка Еўтушэнку не друкуе – дык што, і ён лепшы за таго маскоўскага? Дзіўная логіка, нічога ня скажаш. Мы як прачыталі гэтую аповесьць Быкава, дык адразу схапіліся за галаву – да чаго дайшоў! Ужо замахнуўся на органы. Раней усё пляжыў, але радавых, ну, некаторых начальнікаў – малога рангу. А тут – асабіста, сьмершаўца! Хаця і хітра замаскаваў яго пад штабнога афіцэра. Мы ўсё прааналізавалі, афармілі, данесьлі па інстанцыі. Чакаем. І нічога. Ні з Менска, ні з Масквы. Думаем, ну, павінны ж адрэагаваць, пасьнімаць з работы – і рэдактараў, і ў ЦК, а, можа, і нашым некаторым дастанецца. Але ідзе час, мёртвая ціша. Аслупянелі яны там, ці што? Аказваецца, не, не аслупянелі, але ніхто ня хоча браць на сябе адказнасьць.

Так цягнулася аж да зімы, і во навіна – аказваецца, гэты, з дазволу сказаць, твор, рыхтуецца да друку ў “Новом мире”, які ўзначальвае хрушчоўскі любімчык Твардоўскі. Тут ужо запахла драмай на ўсю вуліцу, і мы ў Гродні вырашылі залегчы на дно. Хай! Мы сваё зрабілі, прасігналілі, нас не паслухалі, хай адказваюць.

***Ад публікатара.*** *Гэта, здаецца, праўда, на той час, як “Новый мир” узяўся рыхтаваць аповесьць і аж да яе поўнай публікацыі ў Беларусі ніякіх прыкметных зрухаў супраць не адчувалася.*

*Аповесьць пераклаў Міхаіл Гарбачоў, маскоўскі перакладчык, сакратар Саюза пісьменьнікаў СССР, наш зямляк – родам з Сеньненскага раёна. Да таго ён ужо перакладаў на расейскую мову “Трэцюю ракету”, праз якую пасварыўся з Іванам Мележам, бо тым самым на пару месяцаў*

*затрымаў пераклад ягонай эпапеі "Людзі на балоце". Патрабавальны Мележ забраў у яго раман і аддаў на пераклад іншаму перакладчыку – Д. Кавалёву. Сьпярша ў планах Гарбачова быў часопіс "Юность", дзе на той час друкаваліся самыя сьмелыя аўтары – В. Аксёнаў, А. Гладзілін і інш. Але "Юность" аповесьць не ўзяла – хітры Б. Палявой уцяміў, што тое значыць. Уцямілі, канешне, і ў "Новом мире", але тое іх не спыніла, і аўтар атрымаў ад намесьніка галоўнага рэдактара А. Кандратовіча тэлеграму, што аповесьць будуць рыхтаваць да друку. Напачатку восені 1965 года я першы раз паехаў за мяжу на кангрэс "Комэса" ў Рым, у групе савецкіх пісьменьнікаў быў і А. Твардоўскі, з якім я там пазнаёміўся. Ён сказаў, што ўжо прачытаў аповесьць, не з усім там згодны, але друкаваць будзе. Неўзабаве мяне паклікалі ў Маскву, дзе пасялілі ў цудоўным гатэлі "Савецкі", рэдакцыя прымацавала вопытнага рэдактара Асю Берзер, з якой я і пачаў працаваць. Працы было багата – і па стылі, і ня толькі па стылі. Пераклад, у якім захавалася нямала беларусізмаў, рэдакцыю не задаволіў, відаць, не задаволіла і асоба перакладчыка, што паставіла мяне ў далікатнае становішча перад ім. Загадчык аддзела прама сказаў, што з Гарбачовым яны супрацоўнічаць ня будуць, будуць толькі проста з аўтарам. Гарбачоў, канешне, пакрыўдзіўся, але нічога зрабіць ня мог – рукапіс аповесьці ўжо быў у друкарні.*

– Вы не сьпяшаецеся? – запытаў Мікалай Іванавіч, як мы ў чарговы раз прыпыніліся на дарожцы. Час ужо набліжаўся да абеду, але мне было цікава, і я сказаў, што не.

– Падзеі далей разьвіваліся так. Я сказаў бы, даволі драматычна. Зімой пачаў працаваць зьезд партыі, на якім выразна азначылася паваротка да новай палітыкі ў галіне ідэалогіі. Хрушчоў, як вядома, наламаў дроў, трэба было іх прыбіраць. Асабліва па лініі адносінаў да Сталіна і да органаў. Таго, што склалася пад канец яго цараваньня, нельга было трываць, лінію трэба было выпростваць. Але тут паўстала перашкода: група маскоўскіх інтэлігентаў напісала ў ЦК, Брэжневу, заяву, дзе пратэставала супраць быццам бы вяртаньня палітыкі да сталінізму. Трэба зазначыць, кіраўніцтва ЦК, Суслаў, а можа, і Брэжнеў не праявілі прынцыповасьці, прамарудзілі, пачалі вагацца. У такіх варунках ідзе зьезд. І тут паяўляецца першы нумар "Нового мира" з аповесьцю Быкава, у якой на матэрыяле вайны бэсьцяцца органы. Увогуле гэта быў акт сабатажу ў адносінах да палітыкі партыі – ня меней. Трэба ім аддаць належнае – у Маскве тое зразумелі адразу ж, і адразу прынялі меры. Найперш – публіцыстычныя. Газета Цэнтральнага Камітэта "Правда", якую, дарэчы, на той час рэдагаваў наш зямляк таварыш Зімянін, выступіла з артыкулам, у якім у пух і прах разграміла заганную аповесьць.

***Ад публікатара.*** *Наконт "пуха і пяра" Мікалай Іванавіч дапускае перабольшаньне, на той час яны ўмелі тое рабіць знешне нават тактоўна, не патрабуючы вышэйшай меры для аўтара, як гэта было ў трыццатыя гады. Заганнасьць твора выяўлялася у мастацка-ідэйнай няўдачы, у прыніжэньні прынцыпаў партыйнасьці і народнасьці. Напрыканцы артыкула нават падносілася салодкая пілюля – прызнаньне таленту аўтара пры бесталанным творы. Адметна, што пры галоўным рэдактары "Правды" земляку Зімяніне аўтар таксама быў зямляк –*

*беларус, слухач Акадэміі Грамадскіх навук В. Сеўрук, і гэтая рэцэнзія стала для яго першым прыступкам у яго затым бліскучай кар'еры на ніве ўдушэньня савецкай літаратуры і, асабіста, аўтара-земляка Быкава...*

*(На гэтым рукапіс заканчваецца.)*

## Неабходны каментар ад рэдакцыі

*Гэты рукапіс перадала "Дзеяслову" Ірына Міхайлаўна Быкава колькі гадоў таму. Быў ён без назвы, на ім чыёйсьці рукой, мажліва, і самога Быкава, была толькі пазначаная дата: "89 г.". Распавед у тэксце вёўся ад "я" героя, прычым вельмі шчыра, асабіста, і можна было падумаць, што гэта быў першы падыход Васіля Уладзіміравіча да напісаньня біяграфічных успамінаў, якія сталі потым кнігай "Доўгая дарога дадому". І сапраўды, быў такі выпадак у жыцці Васіля Уладзіміравіча, калі пасля хваробы ён далечваўся ў адным з санаторыяў. А значыць, магла адбыцца і такая сустрэча. Але сумненні ўзніклі пасля вось гэтых словаў:*

"– Цябе як завуць?

Я назваў сваё імя і прозьвішча, сказаў, што працую ў газеце. Чалавек паморшчыўся сваім даволі абвялым тварам".

*Падобна, што ўсё ж гэты тэкст пісаўся не як успаміны, а як мастацкі твор. Як апавяданне. У якім герой, не Быкаў, распавядае пра сваю сустрэчу з былым кадэбістам. Распавядае каму? Тут усё проста: зразумела, Быкаву, які далей і называе сябе ўсяго толькі публікатарам гэтага распоседу і дае свае каментары да месцаў, што тычацца яго асабіста.*

*Вельмі шкада, што Васіль Уладзіміравіч, пачаўшы пісаць гэты тэкст яшчэ ў 1989 годзе, так да яго больш і не вярнуўся, не скончыў. Цікава, што яшчэ расказаў яму той "супрацоўнік" і якія былі ягоныя каментары. І ўва што потым, пасля дапрацоўкі, ператварыўся б гэты запіс: у мастацкі твор ці ўсё ж перамагла б дакументальнасць... Але, па вялікім рахунку, сёння ўжо гэта няважна. "Дзеяслоў" друкуе тэкст без зменаў, у такім выглядзе і правапісе, як напісаў яго Васіль Уладзіміравіч. І справа даследчыкаў-літаратуразнаўцаў рабіць высновы, што гэта ёсць і што магло б быць...*

Мікола Гіль



...На Бацькаўшчыне – па Радзіме сумаваць,
На Беларусі – жыць без Беларусі!..

# Зімовыя васьмірадкоўі

***З файлаў ганебных часін***

* * *

Белыя бярозы, чорныя вароны, –
У ваконнай раме відарыс зімовы.
Шэраю тугою шэрая вязь кроны
Цісне на душу мне, пазбаўляе мовы.

І душа – як гэты сумны ліст графічны,
Хоць пакуль што ёсць хлеб і да хлеба нешта, –
Колераў і ў ёй – набор песімістычны:
Чорны, белы, шэры – вось і ўсё, дарэшты!

*11.12.2011 г.*

* * *

Цяжкі дзень – панядзелак, –
Нехта звычна так скажа.

Ён жа – тыдня задзелак,
Тыдню ход ён укажа

– Добры дзень! – я гукаю
Панядзелку-прышэльцу...
Так штодня. Бы кідаю
Я паленца ў цяпельца.

* * *

Зірнуў на месяц і – здзівіўся:
Штосьці не так, не той сярпок,
Няйначай ён перакуліўся...
Трывогі нейкае аброк

Учора гнёў мяне да ночы,
А потым сон ніяк не браў...
Віной не страх быў патарочы –
Зацьмення вэлюм Поўню краў.

*12.12.2011 г.*

* * *

І ранкам, які дня ўсё не адкрые,
І ноччу, што бяссонне калыхала,
Не раз згадаўся мне радок Купалы, –
Як "у Паліпаўку воўк нема вые"...

І хай ваўчынага выцця не чую,
Каменнай клеткаю тут паланёны, –
Ды вусцішшу піліпаўскай – прыгнёны,
І толькі – прычакаць вясны! – хачу я...

* * *

Не ведаю, мо й Боская ёсць кара,
Якой ніводзін грэшнік не мінае.
Ды кара ёсць, што й Боскае да пары:
Якою кожны сам сябе карае.

Часцей за ўсё карае у тым веку,
Калі прыходзіць час падбіць рахункі:
Паправіць анічога, недарэка,
Не можаш ты, хоць выверні ўсе шлункі!

*13.12.2011 г.*

* * *

СССР, апошнія гады...
Гляджу кіно з слязамі на вачах:
Там быў шчаслівы я і малады...
І вось ён згінуў, разваліўся, спрах!

А розум кажа сэрцу, бы няўзнак:
Не плач і ў роспачы сябе не рві, –
Сканчаецца ўсё менавіта так,
Што ўзрошчана на фальшы і крыві.

* * *

Ты кажаш, можна заспяваць і з гора?
Наўрад! Дачушка весялосці – песня!
Душа і ў паняверцы – непакора,
Але для песні ў радасці ўваскрэсне.

І думка ўсё вярэдзіць, аж да болю:
Ніяк не ўспомню, мама каб спявала!
Няўжо ні разу і нідзе ніколі?
Няўжо адны турботы й гора знала?!

* * *

Успаміны... І без вас мне сёння
Цяжка, і маркотна, і тужліва, –
Вы ж – нібыта сон благі, прыснёны
Неўспадзеў – трывожны і прымхлівы...

Мама мне, студэнту, у дарогу
Свой траяк апошні аддавала...
Чым аддзячыў? Памаліцца б Богу,
Ды – не ўмею... Час вучыў нядбала...

*14.12.2011 г.*

* * *

*Памяцi Гдзеі*

Нікому ты й вады не замуціла –
Святая паміж грэшных нас усіх.
О, як жа моцна ты жыццё любіла!
І згасла у пакутак нелюдскіх...

Сястрыца любая, жыццё – світае,
Растуць твае унукі і сыны,
Ды толькі горыч, боль – не адступае,
Таксама, як і пачуццё віны...

* * *

О, як бы рады быў пачуць вас, другі,
Сябры маіх студэнцкіх будняў-свят!
На вечныя сышлі вы свая кругі
У сорак, пяцьдзесят і шэсцьдзесят...

Не стала Грышы, потым Мішы, Славы...
Як горка, што ў пярэдадні бяды
Сяброўства нашага былі праявы
Радзей, чым у юначыя гады!..

* * *

Гарадская мурашыная мітусня,
Беганіна невыносная, штурхатня!
Паўстагоддзя ломіць, гне мяне ў дугу, –
А прывыкнуць да гармідару – не магу!

А паўсюль у вёсцы – пустата й цішыня,
Ціха, глуха, ажно вусцішна там штодня, –
За дзядамі ўслед бабулі адышлі,
Быллём гоні прадзедаўскія зараслі...

*15.12.2011 г.*

* * *

Ах вы, добрыя хлопцы й мужчыны!
Ах вы, апазіцыянеры!
Патрыёты вы Беларусі?
І якой? І ў якое меры?

Вы старонку родную любіце,
Як Купала, да болю ў сэрцы?
Што ж маўчыце вы, патрыёты?
Таму ў д’ябла мы й на паверцы...

* * *

Дзяцінству наша старасць адэкватна:
Адзін расце здаровым, без турбот,
Другі – хварэе, доўга і шматкратна...
І ў старасці ўсё тое ж – цот у цот!

Але ў дзяцінстве ў тога і ў другога
Бацькі – анёлы шчасця і трывог,
А пры канцы мы ўсе без засцярогі:
Тут – калі ёсць – над намі толькі Бог!

* * *

Што больш за ўсё гняце, атручвае жыццё?
Што люд наш прадзедаў не збярог спадкі –
Нацыянальнае святое пачуццё, –
Ды і жыве гарохам анігадкі;

І што даводзіцца мне веку дажываць
Вось у такой балюча-горкай скрусе:
На Бацькаўшчыне – па Радзіме сумаваць,
На Беларусі – жыць без Беларусі!..

* * *

Паслязаўтра ўжо й Мікола –
Зімовы, халодны,
А наўкола... Што наўкола?
Дробны дожджык слотны.

Зіма плача як на згоне,
І я з ёю плачу...
Што і ўчора, і сягоння,
Тое й заўтра ўбачу...

*17.12.2011 г.*

* * *

Жыццё, лічы, я ў хлусні мадзеў,
З хлусні меў і свой кавалак хлеба:
Пісаў не так, як мог і хацеў, –
Змушаны быў пісаць, як трэба...

Даўно ўрабляюць ніву сыны,
Але й над імі ўсё тое ж неба:
Аруць не так, як маглі б яны,
Гэтак вымушаны – як трэба...

* * *

Хваробамі нас кон, па ўсім, карае
І жорстка выбівае з пастаянства.
Найлютая ж між іх найменне мае
Бяскрыўдная да весялосці – п’янства.

Ах, колькі гэткіх жа бяскрыўдных казак
Дзеля ягонага ёсць апраўдання!
Пустое! Знаю не з чужых падказак
Смяртэльны плён яго раскашавання!..

* * *

Мясціны родныя, вы – прад вачыма!
Былі вы эталонамі красы!
Я помню вас, пагоркі і лагчыны,
Мурожны луг у кропельках расы!..

Ды ўспомню сёння – боль праніжа сэрца:
Замест красы – знявечаны аблог!
Змяло гаспадара савецкім смерчам, –
Паўсюдна звалкі, хмызнякі, быльнёг...

* * *

У цёткі добрае Камароўкі
Купіў я неяк хлеб “Баравы”.
Факт абавязаны “загалоўку” –
Прывабіў голас зямлі жывы!

І я папраўдзе не памыліўся:
Найсмачны хлеб з жытнёвай мукі!
Ён уначы мне нават прысніўся, –
Мама пякла акурат такі...

*18.12.2011 г.*

* * *

Віншуе з Міколам пляменніца Тома,
Жадае здароўя мне et cetera.
Савецкі яшчэ я бязбожнік, вядома,
Ды слухаць прыемна зычэнні дабра.

Калі верыць байкам, легендам і міфам,
Быў Боскі угоднік папраўдзе святы, –
Міжволі пад слаўным, вялікасным грыфам
Ужо нібы варты чагосьці і ты...

* * *

Ці помніце вы гэткую зіму?
Каляды ўжо, лічыце, што на носе, –
Ні напаміну аб якім марозе:
Пад плотам кветкі сочаць сіняву!

Чаму ж мне, гарадскому жыхару,
Нейк непамысна, і душа ў трывозе?
Яна – вясковая, і ўсё ніяк не можа
Жыць па асфальтнаму календару!.

* * *

Народ і ўлада – без паразумення,
У нас яна чужая адпачатку.
Між тым раздзелены ўжо й пакаленні
Людскога абяздоленага статку.

Улада ўсё зрабіла, каб чужымі
Стаў бацьку сын, а ўнук, тым болей, дзеду:
На Беларусі толькі паміж імі
Бар'ер сумоўю ёсць – "язык соседа".

*19.12.2011 г.*

* * *

Хоць анікому не кажы,
Не прызнавайся нізавошта:
Адведаць родныя крыжы
Так доўга йшоў я да пагоста!

Даруйце, дзед і баба, мне, –
Свайму няўдзячнаму унуку...
Быць ці не быць маёй вясне? –
Больш не задоўжыцца разлука...

*20.12.2011 г.*

* * *

Мовіш: дзень сярэдзінны – серада.
Круць, быццам заведзена, – каляда.
А пры чым тут каляда? – хто б спытаў.
Проста рыфмаў чарада – супастаў.

Скора, скора загудзе й Каляда,
А пакуль што ў нас ідзе... серада.
А пракоціцца, мінецца яна –
Вось і тыдня ўжо, здаецца, няма!

* * *

Печаная бульба – ласунак дзяцінства...
Прыбяжыць знячэўку ў старэчую памяць
Згадка пахкай хваляй і праз гады замець, –
І смурод прыглушыць цяпершчыны свінства.

Як прыбегла сёння, дык я зухавата,
Ані без маруды і лішняга слоўка,

Выбраў лепшых бульбін, паклаў у духоўку , –
Водарам адвечным хай прапахне хата!

* * *

Не, мне не сорамна казаць, –
І паўтару сто раз! –
Што не хачу я паміраць,
Хоць, можа, ўжо і час;

Хоць дых сцінае, бы пятлёй,
Наш беларускі рай...
Пажыць бы, ўбачыць над зямлёй
Світанку небакрай!

*21.12.2011 г.*

* * *

Сэрца, сэрца, што ж ты, дружа,
Б'ешся гулка, ўразнабой?
Пэўна, шмат гадоў задужа
Ахвяроўвала сабой?

Вось і выбілася з сілы,
І якраз тады, калі
Хачу, Божа напрамілы,
Затрымацца на зямлі...

Уладзімір Някляеў



...круг за кругам, год за годам,
з дня ў дзень праца, пот, мазалі, кроў,
войны, бітвы, прасвету між імі не бачыў –
і гэта жыццё?..

# Лапаціна

***Прыпавесць***

> "Литвинку божи?!. Тю, литвинку, ти ж чортів!"
> "Ага, хай і чортів, аби не твой!"
>
> *З украінскага фальклору*

Сонца над Ярылавай гарой узыходзіла вясёлае – зусім не па настроі Ціта. Але што зробіш з сонцам? З Ярылам? Тут з самім сабой не зробіш нічога, а не тое што з богам...

Апошнімі гадамі Ярыла не ўзлюбіў за нешта Нальшу. Вось і ў гэтым годзе яшчэ напачатку лета спаліў збажыну. Чаму ён бяду наслаў, на каго, на што зазлаваў? – пра тое нават вайдэлот Тур і вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта, які прыехаў у Крэва, каб прынесці ахвяры Ярылу, не даzналіся. Увесь чэрвень стаяла гэткая спёка, што, здавалася, плавіліся камяні, і сям'ю Ціта, да якой хутка павінен быў дадацца яшчэ адзін рот, зімой чакаў голад. Дый не толькі

сям'і Ціта, а ўсяму Крэву, усёй Нальшы, на зямлі якой і без сонечных пажараў было ледзьве пракарміцца, выпадала гэтым годам галадаваць.

– Давайце мне лапаціну, – сказаў Ціт сынам, як толькі паснедалі. І паклаў каля пустой місы, выцершы хлебам, лыжку. – Мілава хутка народзіць, до мне ўжо...

Сыны ягоныя, старэйшы Віт, сярэдні Дан, муж Мілавы, ад якой не сёння-заўтра павінен быў з'явіцца ў Ціта ўнук, і малодшы Юр даелі сваё, таксама выцерлі хлебам і паклалі на стол лыжкі.

– Сёння?.. Ці заўтра? – спытаў Віт па праву старэйшага. І калі бацька, прамаўчаўшы на першае пытанне, на другое кіўнуў, Віт падняўся з-за стала. – Заўтра дык заўтра.

За ім падняліся Дан з Юрам. Гаварыць болей не было пра што. Воля бацькі – гэта воля бацькі. Як сказаў, гэтак мусіць быць.

З сівой даўніны вёўся ў Нальшанскай зямлі звычай: калі гаспадар, састарэўшы, знемагаў, не мог ні пасеяць, ні пажаць, ні змалаціць, а толькі з'есці, ён ці перасяляўся з чырвонага, гаспадарскага кута ў запечча, ці, каб не быць у сям'і нахлебнікам, прасіў даць яму лапаціну.

Большасць выбірала запечча. А лапаціну выбіраў той, хто не хацеў дажываць жыццё з мышамі.

Звычай патрабаваў, каб лапаціна была альбо з гумна, дзе ёй збожжа на таку веялі, альбо з хаты, дзе на ёй цеста ў печ ставілі. Каб мела дачыненне да хлеба – і было зразумела: усё. Сыта ці не, але наеўся. З'еў чалавек сваё.

Пад захад сонца ён падымаўся з лапацінай на Ярылаву гару, дзевяць разоў абыходзіў вяршыню, укленчваў на капішчы, маліўся Ярылу, а ў хвіліну, калі сонца хавалася за небасхіл, нахіляўся ўслед за ім, кладучы галаву на ахвярны камень. Лапаціну, якую прынёс ён на плячах, браў ягоны наймалодшы сын і біў па патыліцы. Звычай патрабаваў, каб абавязкова наймалодшы – гэтак замыкаўся чарговы круг жыцця. З апошнімі сонечнымі іскрамі цвіркала, пырскала кроў, і жыццё заходзіла, закочвалася за мяжу зямлі і неба разам з сонцам...

Ціт не мог выбраць запечча.

– Што гэта з бацькам? – спытаў Дан братоў, збіраючыся ў сваю буду ў Багушоўскім лесе, дзе ён драў бяросту, нарыхтоўваў смалу, дзёгаць, вугаль. – Яму ж не час, здаровы яшчэ...

– Сын твой здаравейшы будзе, – кіўнуў Віт на Мілаву, якая грэла на сонцы пад сцяной пуні свой вялізны жывот. – Не сёння-заўтра адным ротам стане болей. Значыць, адным ротам мусіць меней стаць.

«Хто ж ведаў, што голад...» – хацеў сказаць Дан, але Юр раней сказаў: «Ты чаго яго вінаваціш? Ён жа не ведаў, што голад. А калі б і ведаў, дык што?..»

На тым размова між братамі скончылася. Юр пайшоў на свой пчальнік, а Віт, глянуўшы на круглыя грудзі над круглым жыватом Мілавы, сказаў, аблізаўшыся:

– А тое. Не трэба было гэтую смалянку да нас цягнуць. Праз яе ўсе беды. І вось пабачыш, Дан: яны яшчэ не скончыліся. Калі не так, няхай мне ні рыбы ў рацэ, ні звера ў лесе...

Юр у іх сям'і пчалярыў, бортнічаў, бо чым яшчэ, як не пчоламі, аднарукаму займацца, а Віт паляваў ды рыбачыў. Ён склаў высушаныя сецi, каб паставіць іх у Крэўлянцы на стронгу, зірнуў яшчэ раз на Мілаву і пайшоў да ракі.

Пра тое, што было, Віт праўду сказаў. Але пра тое, што будзе, багам ведаць, а не Віту.

Беды пачаліся пасля наезда на Смаленскае княства, адкуль вярнуліся нальшанцы з багатымі абозамі, лупамі, а Дан яшчэ й з паланянкай. Ён не ведаў, як насамрэч яе зваць, а яна не казала, дык Дан сам назваў паланянку Мілавай. Вядома, сапраўднае імя яе было іншае, хрысціянскае, смаляне не трымаліся гэтак за паганскую веру і звычаі продкаў, як нальшанцы, але якая розніца, як называецца гэткае дзіва...

Мілава была прыгожая, як Ляля. Багіня прыгажосці. Высокая, гнуткая, з васільковымі вачыма, белая-белая з чорнымі, як смоль, валасамі. Дан казаў, што знайшоў яе ў палацы князя, але што яна там рабіла, кім была, ад Мілавы было не дазнацца.

Смалянаў падчас апошняга наезда Нальшы ўжо абклала данінай Арда, так што выходзіла, нібы нальшанцы ўзялі ў Смаленску не сваё, ардынскае. Таму меней чым праз год паскакала на Нальшу шалёнае войска хана Бурундая разам з дружынай валынскага князя Васількі Раманавіча. Нальшанскі князь Даўмонт кінуўся па дапамогу ў Наваградак да сваяка, вялікага князя літоўскага Міндава, але сваяк не дапамог. Было ў яго іншае на мэце: далучыць да Наваградка, да Літвы нальшанскую зямлю, аслабленую набегам Бурундая. А ў Крэва разам з князем Васількам прыскакаў смаленскі князь Глеб, і разам яны Крэва нішчылі, палілі, шукаючы паланянку, пра якую казалі, што яна была нявестай смаленскага князя, але не знайшлі яе, схаваную Данам у будзе ў Багушоўскім лесе.

Калі Васілька з Глебам пакінулі абрабаванае Крэва, калі Дан прывёў Мілаву, і калі ўсе, хто застаўся жывы, запатрабавалі прынесці яе ў ахвяру Ярылу, каб ён зліtaваўся над Нальшай, вайдэлот Тур сказаў: «Не. Ярыла даў мне знак, што яму патрэбная іншая ахвяра. Большая, чым паланянка. А якая – пакуль знаку не было». І ўсе, паглядзеўшы адзін на аднаго, прамаўчалі, не ведаючы, што гэта Ціт шапнуў вайдэлоту Туру: «Калі першай ахвярай стане смалянка, другой станеш ты». А вайдэлот Тур ведаў, як і ўсе ведалі, што Ціт, які колькі жыў на зямлі, столькі ваярыў, назабіваўшы людзей больш, чым іх засталося ў Крэве, слоў на вецер не кідае.

Быў той знак, ці не было таго знаку, але паланянку Мілаву не ахвяравалі Ярылу, а ў Наваградку нечакана памерла вялікая княгіня Марта. Жонка вялікага князя Міндава. Сястра княгіні Агны, жонкі князя Даўмонта. Здаровая, трыццацігадовая – і раптам...

Дзіўная смерць. «Вялікая княгіня – вялікая ахвяра, якой хацеў Ярыла!» – абвясціў вайдэлот Тур, і ўсе на нейкі час супакоіліся, апроч самога Ярылы і вялікага князя Міндава.

Некалі Марта звалася Ведай і была жонкай князя Вішымунта, якога разам з братамі ягонымі Ердзівілам і Спрудзейкам забіў Міндаў, каб узяць Веду – гэтак яна яму глянулася. І ўзяў ён паганку Веду, якую ахрысцілі ў Марту, і яна нарадзіла яму двух сыноў, Рэпіка і Руклю. Гуляючы з імі перад сном, Марта й памерла.

Сама?.. Якая гэта маці, маладая і здаровая, памірала, гуляючы з дзецьмі?.. А Міндаў шмат каму памерці дапамагаў, так што самыя розныя чуткі хадзілі...

Калі з весткай аб смерці Марты прыскакаў у Крэва ганец, і княгіня Агна зазбіралася ў Наваградак на пахаванне сястры, вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта паклікаў князя Даўмонта на Перунову гару: «Сам не

едзь, князь, і не пускай жонку». «Чаму?» «Бо сам паедзеш на смерць, а жонка твая – на гвалт. Так кажуць багі – і гэтак стаяць зоркі».

Сам Даўмонт не паехаў, не надта й хацелася яму бачыць Міндава, а жонку сваю наравістую на тое, каб не ехала, не ўгаварыў. «Не ведаю, – запярэчыла Агна, – што сказалі багі, але ведаю, што пра мяне людзі казаць будуць, калі з сястрой не развітаюся». І даў ёй князь дружыну ў трыццаць чалавек на чале з малодшым Цітавым сынам Юрам, і выправіў у Наваградак.

У Крэва вярнулася толькі палова дружыны, пабітая і пасечаная. Агна не вярнулася. Юр, які застаўся без правай рукі, распавёў такое, у што нават Ціт, добра зведаўшы Міндава і ў гульбах, і ў сечах, не адразу паверыў. На хаўтурах па Марце вялікі князь плакаў, жаліўся на лёс і на багоў, якія забралі ў яго жонку, а потым выцер слёзы і абвясціў, што перад самай смерцю Марта выказала апошнюю волю сваю: пабрацца князю з яе сястрой! І узяў Міндаў сабе ў жонкі Агну, жонку Даўмонта. Гвалтам узяў, як некалі Марту, забіўшы яе мужа Вішымунта. Дык Марта ўсё ж стала ўдавой, а тут – пры жывым мужы.

Ці звар'яцеў вялікі князь, ці гэтак яму самотна пад скон жыцця стала, што ўжо й не ведаў, як павесяліцца, гадаць пра тое мог хто заўгодна, але не Даўмонт. Яму выпадала адно: бараніць свой гонар. А значыць, адпомсціць за абразу. Знішчыць Міндава.

Аднаму нальшанскаму князю было гэта не па сіле, ён пачаў шукаць хаўруснікаў. І знайшоў літоўскага князя Трайната. Як Даўмонт марыў пра помсту, гэтак Трайнат, пляменнік Міндава, марыў пра вялікакняскі пасад. Змовіўшыся, яны сабралі дружыны нібыта для таго, каб дапамагчы Міндаву зваяваць Бранскае княства, але з паўдарогі павярнулі на Альконы. Там, у вусці Сулы, было селішча вялікага князя. Яны прыйшлі ўвечары, на ноч сталі ў лесе, а раніцай напалі...

У дружыне Даўмонта была ўся сям'я Ціта, апроч аднарукага Юра. Сам Ціт, Дан і Віт. Секлі так, што жывых не пакінулі. Міндава забіў сам Даўмонт, сыноў вялікага князя, Рэпіка і Руклю, Ціт з Вітам, а Дан засек Агну. Пакідалі іх, на кавалкі пасечаных, у раку – і рушылі на Навагрaдак. У стальцы вялікага князя Міндава ўжо ведалі пра ягоную пагібель, адчынілі перад Трайнатам і Даўмонтам гарадскую браму.

Помста нараджае толькі помсту, больш нічога яна не нараджае. Трайнат не доўга прабыў на вялікакняскім пасадзе, яго задушылі слугі Міндава. А Войшалак, старэйшы Міндаваў сын, сабраў войска і напаў на Крэва, змусіўшы Даўмонта збегчы ў Пскоў. Там нальшаскі князь ахрысціўся, ажаніўся, стаў князем Цімафеем і па скон жыцця помсціў Літве і Нальшы, насылаючы наезд за наездам, набег за набегам на зямлю бацькоў.

– Бацька, ты не забыўся, што ў Юра няма правай рукі? – спытаў Дан, збіраючыся ў лес. – І ён не ляўша. Дык глядзі, каб не выйшла так, як некалі з Драгавітам... Помніш?

Гэта ўсе ў Крэве помнілі. Малодшы сын Драгавіта быў кволы, слабы ў руках. Драгавіт лёг пад лапаціну і жывы застаўся. Толькі скалечаны. Не рухаўся два гады, пакуль памёр.

Такой долі нікому не пажадаеш. Але Юр хоць і з адной рукой – не кожны здужае яго дзвюма.

– Юр хоць і з адной рукой, але...

Дан, не даслухаўшы, зайшоў у стайню, вывеў жэмайцкага жарабца, якога таксама прыгнаў у абозе са Смаленску.

– Але пагаварыў бы ты, бацька, з вайдэлотам, каб ці Віт замяніў Юра, ці я... Вайдэлот хітры, што-небудзь прыдумае.

– Што ён прыдумае? Па звычаю малодшы сын лапаціць. А калі вайдэлот парушае звычай, дык які ён вайдэлот?

– Ну, глядзі... Прыдумалі ж вы з ім, як Мілаву не ахвяраваць Ярылу.

Ён скочыў на каня, Ціт узяўся за аброць:

– Ты сам хочаш мяне забіць?

– Не! – бізуном агрэў Дан жарабца, той узвіўся свечкай, ледзь руку Ціту не вырваўшы, і Ціт падумаў услед сярэдняму сыну: "Яшчэ як хоча!.."

Калі Дан прывёў у хату Мілаву, калі Ціт убачыў, як яна, нібы чорную хмару над белым снегам, валасы з грудзей на плечы перакідвае, дык зашумела ў ім кроў – і першае, што падумаў: «Некаму з нас, ці Дану, ці мне праз смалянку гэтую не жыць». І не адно таму, што Мілава была прыгожая. Дабранега, жонка Ціта, якая памерла, нарадзіўшы яму пяцёх сыноў, з якіх выжылі трое, таксама была гожай. Вельмі. Так што Ціт звык да жаночай прыгажосці. Але ў Дабранезе не было таго, што ён адразу адчуў у Мілаве. Таго, што, мусібыць, Міндаў адчуў у Агне, праз што і ўзяў яе гвалтам на хаўтурах па жонцы. Забраў у Даўмонта. І Ціт, як толькі ўбачыў Мілаву, адчуў яе. І зразумеў, што забярэ яе ў Дана.

І забраў. Але не так, як Міндаў забраў Агну. Не адкрыта, а ўпотай. Як толькі Дан у сваю буду лясную з'ехаў, Ціт узяў смалянку. Яна й не працівілася, бо адчула ў ім, мусібыць, тое, чаго не адчувала ў Дане. І наступным разам, калі Дан з'ехаў у буду, сама да Ціта прыйшла.

Так яны й жылі ўтраіх. Сын са сваёй жонкай і бацька з жонкай сына. Паганца Ціта гэта не мучыла, а Мілава, якая вырасла, выхавалася хрысціянкай, мучылася. І мучыла Ціта. «Гэта грэх. Гэта грэх. Так нельга, так нельга». Які грэх? Чаму нельга? Гэта прырода, жарсць. Куды яна вядзе, туды за ёй ідуць. Звяры, людзі. Апроч таго, яшчэ нядаўна ў нальшанскіх сем'ях і па дзве, і па тры жонкі было. Прадзед Ціта з трыма жыў. Карміў іх, дзяцей карміў – і жыў. Не мог бы карміць – не жыў бы.

Вось цяпер Ціт не толькі Мілаву, нікога карміць не можа – і сыходзіць ад усіх. Кладзецца пад лапаціну. Усё па звычаях продкаў, па спрадвечных законах жыцця, а не па прынесеных аднекуль пісаннях. Хто і дзе іх пісаў? Што ў іх?.. Мілава яму распавяла. Калі па іх жыць, дык чалавеку не павярнуцца. Самому нічога не вырашыць. Нават пра сябе. Вось ён сказаў Мілаве ўчора, што пойдзе пад лапаціну. Яна давай хрысціцца, маліцца. Зноў: «Нельга, нельга. Грэх, грэх. Страшны, смяротны». Чаму? Грэх у запеччы з мышамі жыць! Нават не так грэх, як сорам. А тут які сорам? Ніякі. Перад кім? Ні перад кім. А калі няма сораму, няма граху. А яна сваё: «Перад Богам грэх, які жыццё даў». Ну, калі нават даў, дык цяпер яно мае – і я сам з ім разбяруся. Як вырашу, гэтак і будзе.

Увогуле ўсё, што ў тых пісаннях – для слабых людзей. Не магу, маўляў, пад лапаціну легчы, Бог не дазваляе. Буду ў запеччы з мышамі сядзець. Нездарма Міндаў, моцны чалавек, выракся навязанай яму хрысціянскай веры і вярнуўся да веры паганскай. Веры продкаў.

"Ён здраднік, – казала Мілава. – І асудзіў сябе на мукі вечныя. Бог такога не даруе".

Калі Ціт першы раз узяў яе, Мілава доўга распавядала яму пра сваё жыццё – і ён слухаў. Ляжаў на спіне, гладзіў яе па валасах, рассыпаных на ягоных грудзях, і слухаў, што яна распавядае. Ніколі раней такога не

было, бо каго слухаць? Што можа сказаць жанчына? Таму звычайна ён утаймоўваў плоць, выплёхваў семя – і ўсё. Нацягваў апратку – і ці на працу, ці на вайну. А тут ляжаў і слухаў, здзіўляючыся самому сабе, яе аповеды пра дзяцінства, пра бацькоў, пра яе каханне, пра яе Бога...

"Вы дзікуны, – казала яна. – Вы моліцеся ідалам. У вас не злічыць багоў і бажкоў, якім вы прыносіце ахвяры, і яны разам з вамі п'юць, ядуць, рагочуць". Ён смяяўся: "Дык добра ж з багамі, калі яны з намі". "Бог адзін, – прыўставала і хрысцілася яна, – і ён Бог-бацька, Бог-сын і Бох-Дух Святы, і ён той, хто пайшоў на пакуты, ахвяраваў сабой дзеля нас, даў раскрыжаваць сябе..." – і Ціт пытаў: "А навошта? Мяне татары, у якіх свой бог, раскрыжаваць хацелі, дык я не даўся, забіў чатырох і ўцёк..." – а яна рот яму затуляла: "Кажу табе, што Бог ва ўсіх адзін, няма бога татарскага ці нальшанскага..." – і ён руку яе цалаваў, сам веры не даючы, што жанчыне руку цалуе. "Нальшанскі бог ёсць, ён прывёў Дана ў Смаленск, а Дан цябе прывёў у Крэва, каб ты стала маёй багіняй..." – казаў ён, думаючы: "О, Пяруне, о, Ярыла, о, Вялесе, што гэта я раблю і што кажу? Хто з вас паслаў мне гэтую жанчыну на маю пагібель? Ці не вы паслалі? Адзіны Бог, у якога ў Крэве ўсё болей вернікаў?.."

Хрысціянаў у Крэве, ды ва ўсёй Нальшы пасля набегу на Смаленск сапраўды паболела. Яны паставілі пад Ярылавай гарой капліцу і нават пачалі будаваць храм. Паганцы здзіўляліся: навошта? Калі храм – зямля пад небам. Нашто хавацца ў камяніцах, калі можна маліцца ў свяцілішчах, на гарах і пагорках ушаноўваць сваіх багоў, якія таксама не хаваліся, а спрадвеку жылі разам з людзьмі. Любіліся з імі, сварыліся і нават біліся, але ўрэшце заўсёды прыходзілі да згоды. Багі і людзі не былі рознымі светамі, жылі ў адным свеце, цэласным і непарыўным, які не падзяляўся на жыццё і смерць – і ніхто не баяўся ні жыць, ні паміраць.

Ціт баяўся, што заб'е Дана. Больш нічога ён не баяўся. І пытаўся ў сябе самога: "Калі ёсць нешта такое, праз што можна забіць сына, і калі гэта не ўлада і не золата, дык што гэта? Калі гэта жанчына, калі ён дажыўся да таго, што праз жанчыну можа праліць родную кроў, дык нельга чакаць, калі такое здарыцца. Вось чаму яшчэ, а не толькі праз страх голаду папрасіў Ціт лапаціну.

Ніхто гэтага не зразумеў. Ні Віт з Юрам, ні Дан. А Мілава зразумела.

– Навошта ты так?.. – спытала яна, калі сыны Ціта разышліся хто ў лес, хто на пчальнік, хто на раку, а ён прысеў да Мілавы каля гумна пад сцяну на сонцы. І яна паклала руку ягоную на свой жывот: "Нашто ты праз вялікага сына малога сіратой пакідаеш?.."

І нехта ўдарыў з жывата Мілавы ў далонь Ціта! Маленькім кулачком! Ціха, але ўдарыў!..

Ціт хацеў адняць далонь, ды нешта трымала руку на жываце, прыцягвала, і гэта не была гладкая скура Мілавы, а штосьці такое, што пад ёй, пра што Ціт да гэтага дня не спытаў, не падумаў, а Мілава дагаварыла: "Калі ўжо ты вырашыў, каб далі табе лапаціну, дык ведай: дзіця ўва мне тваё". Ён спытаў: "Скуль ты ведаеш, што маё?" – і яна мацней прыціснула да жывата ягоную руку, пад якой білася, пульсавала ў яе чэраве жыццё: "Я так вырашыла".

Вырашыла яна. Што яна можа вырашыць? Калі стане вядома, што дзіця ў яе не ад Дана, што яна здрадзіла мужу, Дан мусіць яе забіць.

– Ты ж не прызнайся нікому, – паглядзеўшы ва ўсе бакі, сказаў ён ціха. – За гэта смерць. Ды яшчэ лютая, праз распалавіньванне.

– Як гэта?

– Напалам рассякуць, калі з двума была.

Яна зазірнула яму ў вочы. Глыбока зазірнула.

– Гэта калі цябе не будзе... А калі ты будзеш? Абароніш?

Ціт падняўся.

– Ад людзей абараніў бы – ад звычаяў не абараніць. Калі Дан не заб’е, дык я забіць мушу. Бо сорам не на адным Дане – на ўсёй сям’і. А я найстарэйшы ў ёй. Галава роду. Мне й вяршыць суд па законах продкаў. Разумееш?

Вочы Мілавы сталі вільготныя, але яна стрымала слёзы.

– Які суд? Чаму нада мной? Не над табой, не над Данам... Хто прывёз мяне сюды, хто ўзяў сілай?.. Якія законы, калі я кахаю цябе? Калі я цябе кахаю і нашу тваё дзіця? Твайго сына, Ціт...

Ён не знайшоў, што сказаць на гэта. Павярнуўся і пайшоў на дрывотню. Распалавініў адзін бярозавы кругляк, другі, трэці – толькі шчэпкі ляцелі. «Моц яшчэ ёсць... – сам пра сябе падумаў. – Але сёння ёсць, а заўтра... – Уявіў, як вырасце сын, будзе стаяць во тут, на дрывотні, калоць бярозавыя круглякі, толькі шчэпкі ляцець будуць... Успомніў, як секлі дровы ягоны бацька, дзед... Як ляцелі шчэпкі... Усё было тое самае... І тое самае будзе... – Дык для чаго тады, калі ўсё тое самае, адно знікае, а іншае з’яўляецца? Адзін памірае, а другі...»

Ціт увагнаў сякеру ў калоду, набраў паленняў і панёс у лазню. Трэба было памыцца перад заўтрашнім днём.

Назаўтра з самага рання сонца паліла так, нібы звар’явалася. Зямля знемагала ад спёкі, а людзі знемагалі і ад спёкі, і ад зямлі, якую трэба было паліваць і паліваць, каб не згарэла. На гароды вёдрамі вынеслі ці не ўсю змялелую Крэўлянку, пасля чаго нібы ў насмешку з Ярылы Пярун наслаў дождж. Апоўдні наплыла духата, а пад вечар над Перуновай гарой раптоўна сабраліся хмары, з якіх абрынуўся вадаспад. Дождж не ліў, а сцяною падаў, і за нейкія хвіліны вады стала столькі, што Крэўлянка забурліла, выйшла з берагоў, затапіла і змыла ніжэйшыя гароды, а вышэйшыя, на пагорках, куды насіць ваду з ракі сілаў не ставала, былі ўжо спаленыя сонцам – і спусцелая, чорная ў лагчыне і зрыжэлая на схілах пагоркаў зямля страшна зеўрыла непазбежным зімовым голадам. Ціту цяпер і думаць не было пра што, толькі пра лапаціну.

Вайдэлоту Туру і вярхоўнаму вяшчуну Крыва-Крывэйту таксама. Бо хлебам іх былі відовішчы. І таму калі Ціт прыйшоў да Перуновай гары, да Прошчы, дзе вайдэлот з дванаццаццю жрацамі дзякаваў Перуну за дождж, і спытаў, ці можна нешта прыдумаць, каб памяняць аднарукага Юра на некага з ягоных братоў, Дана ці Віта, вайдэлот Тур адказаў, што прыдумаць нічога нельга. Бо калі ён, вайдэлот Тур, парушыць старадаўні звычай, па якім лапаціць бацьку мусіць наймалодшы сын, іначай не замкнецца круг і дарэмнай будзе ахвяра, дык вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта спытае: «Калі вайдэлот парушае звычай, які ж ён вайдэлот?..»

Ціт даўно ведаў вайдэлота Тура. Яшчэ з пары, калі Тур быў не вайдэлотам, а служкам вялікага князя Міндава. Прычым, служкам з невядома якімі абавязкамі, хутчэй за ўсё таемнымі. Лісам бегаў ён па Нальшы, нешта вынюхваў, некага высочваў. Пасля раптам знік – і гадоў праз пяць аб’явіўся на капішчы пад Наваградкам вайдэлотам. І абвясціў волю багоў: усёй Літве і Нальшы скарыцца перад вялікім князем.

Калі Юр з рэшткамі дружыны, пасечанай Міндавам, вяртаўся з Наваградка, вайдэлот Тур дагнаў іх па дарозе і сказаў, што наперадзе, пад Любчай, засада. Была там засада ці не, але яны абышлі Любчу, і Тур вярнуўся ў Нальшу разам з імі. Сказаў, што будзе ў Крэве маліць багоў за княгіню Агну. Тая, гвалтам узятая Міндавам, засталася ў Наваградку, а маліць багоў за яе Тур чамусьці вярнуўся ў Крэва.

Шпегам Міндава ён вярнуўся. Міндаў разумеў, што рана ці позна князь Даўмонт паспрабуе адпомсціць за жонку, і хацеў ведаць, калі і як.

Тур і Ціту прапанаваў служыць Міндаву. "Ты ж не толькі ваяр, ты ж разумны чалавек, – казаў ён, перадаўшы Ціту падарунак Міндава: паўтараручны, на вастрыню пчалінага джала адкаваны тэўтонскі меч. – Вялікі князь стварае вялікую дзяржаву, а малыя князі замінаюць. І Даўмонт замінае. Засеў тут на дарозе да Вільні. Думаеш, Міндаву жонка Даўмонта патрэбная? Ды ў яго такіх жонак!.. Ён наўмысна так зрабіў, каб Даўмонт, які зараз аслаблены набегамі татар, галаву страціў, помсціць кінуўся. І праз тое напраўду страціў галаву. Дапамажы вялікаму князю – і станеш ягонай правай рукой, якая меч трымае. Вось што азначае падарунак..."

Падарунак быў княскі, нехта іншы на яго б купіўся, але Ціт быў не проста ваяром. Ён быў ваяром верным. І сказаў Даўмонту пра размову з вайдэлотам Турам. Спытаў: "Знесці галаву падараваным мечам?" "Не, – сказаў князь. – Шапні ў вушы, якія растуць на той галаве, што мы збіраемся напасці ў наступнае лета. А мы ў змове з Трайнатам выступім гэтай восенню. І ўсім галовы пазносім".

Ціт зрабіў так, як сказаў князь Даўмонт. А князь зрабіў так, як змовіўся з Трайнатам. Напаў восенню і ўсім галовы пазносіў, пасля чаго вайдэлот Тур доўга баяўся Ціта. Рабіў усё так, як Ціт казаў. Але цяпер Даўмонт княжыў у Пскове, сам быў здраднікам, якому Ціт некалі служыў, дык чаго вайдэлоту Туру баяцца Ціта?

– Для Тура лепш, каб мяне аднарукі лапаціў, – сказаў Ціт, узышоўшы на Ярылаву гару да вярхоўнага вешчуна Крыва-Крывэйты. – Бо глядзець, як аднарукі бацьку забівае, цікавей, чым глядзець, як гэта робіць двухрукі. Скажы яму, каб памяняў Юра на Дана.

Крыва-Крывэйта, седзячы на схіле гары, цяжка ўзняў на Ціта выцвілыя, нібы пасівелыя за доўгія гады жыцця вочы.

– Я вымаліў дождж у багоў, а ты пра што мяне просіш?..

Ціт хацеў сказаць, што лепш бы Крыва-Крывэйта гэтак не стараўся, бо вымаліў не дождж, а патоп, пасля якога невядома, як жыць. Але не сказаў так. Калі прыходзіш прасіць, сваё не скажаш. Пакланіўся вярхоўнаму вешчуну: «Пра драбязу прашу. Багам хіба не ўсё адно, хто мяне заб'е?..»

– Пра драбязу... – падняўся Крыва-Крывэйта. – З драбязы ўсё й пачынаецца. Што трэба, каб сцяна парушылася? З падмурку каменьчык выняць. Вунь глядзі, – паказаў ён уніз, дзе ў падножжы гары бялела каплічка, нядаўна ўзведзеная крэўскімі хрысціянамі. – Яны таксама з драбязы пачыналі. Аднойчы пеўніка ахвярнага пашкадавалі. А цяпер?.. Адпрэчылі нашых багоў! Выракліся веры продкаў!.. – пачаў падвышаць голас Крыва-Крывэйта, паварочваючыся ад Ціта да тузіна людзей, што стаялі каля капліцы. – І раптам ускінуў рукі, перайшоў на крык, і словы ягоныя валунамі пакаціліся з гары на людзей, на капліцу, на Крэва. – Дык вось што кажу вам я, вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта! *Воля вашая будзе сцертая, як зярно ў жорнах, верай новай і развеецца, як порсць дарожная.*

*Слава вашая забудзецца, а імя вашае будзе імем пагарджаных і паярэмленых. Нашчадкі вашыя адвернуцца ад крыві сваёй і магілы вашыя зневажаць будуць. Плады зямлі вашай, кроў і пот вашыя возьмуць чужынцы, і вы іх багоміць будзеце. Жоны і дочкі вашыя стануць паслужніцамі ў тых, каторыя вамі валодаць будуць. Перад рабамі сваімі пахінеце каркі і знізіце аблічча свае ў пакорлівасці. Змоўкнуць вечавыя званы ў гарадах і песні свабоды ў сёлах. І перапоўняцца воды слязьмі вашымі, паветра стогнамі, а зямля крывёй вашай. І згінеце з аблічча зямлі, калі не ачуняеце і не скажаце сабе: зямля нашая — дом наш, яна — магіла прашчураў і калыска будучых пакаленняў нашых!..**

Крыва-Крывэйта страшны быў, і людзі ўнізе, нібы хаваючыся ад ягоных цяжкіх, што камянямі каціліся, слоў, туліліся да капліцы, да якой па дарозе ўздоўж Крэўлянкі, ад Цітавай хаты ў бок Ярылавай гары, абняўшы рукамі жывот, ішла Мілава. “Што гэта яна надумала?..” – пачаў спускацца, каб перахапіць яе, Ціт, і паспеў перастрэць на дарозе, але ў Мілавы быў такі твар, такія вочы, яна йшла так, як, можа быць, ідуць з зямлі на нябёсы, такая яна была, што людзі, гледзячы на яе, пачалі хрысціцца, і Ціт саступіў з дарогі, а Мілава схавалася ў капліцы.

Маліцца прыйшла. Ну, што ж... Няхай памоліцца свайму Богу, які невядома хто і невядома дзе...

– Дан! – паклікаў Ціт, вярнуўшыся дахаты. – Цягні барана на дрывотню! А ты, Юр, лапаціну вазьмі!

Віт выйшаў з хаты: “Ты што надумаў, бацька? Каб Юр на баране лапацінай біць налаўчыўся? Каб столькі мяса па такой гарачыні прапала? Нешта ты надумаў не тое...” – казаў ён, дапамагаючы Дану цягнуць барана, якога паклалі яны галавой на калоду, а Ціт крыкнуў Юру, які ўзняў лапаціну:

– Рэбрам! Роўна ўніз! Бі!

Юр ударыў. Не зусім рэбрам і не роўна ўніз, наўскасяк па шыі. “Бэ-э-э...” – прабэкаў баран, вырываючыся, але Дан з Вітам трымалі яго моцна, а Юр яшчэ раз ударыў, і баран яшчэ раз прабэкаў, і толькі за трэцім разам Юр патрапіў, як трэба, па чэрапе, баран падрыгаўся і заціх.

– Мне таксама гэтак бэкаць і дрыгацца? Дрыгацца і бэкаць? – раззлавана вырваў лапаціну ў Дана, гэкнуў ёй, як сякерай, раструшчыў барану чэрап, адкінуў лапаціну і пайшоў у хату Ціт. – Нарабіў сыноў на сваю галаву!..

Ціт падняў лапаціну, схадзіў на рэчку, адмыў ад крыві, паставіў да сцяны каля вакна, у якое раззлавана глядзеў на падворак бацька. Сказаў, павярнуўшыся да братоў:

– Не хоча ён паміраць.

Дан пацягнуў барана ў склеп. Там, у камяніцы, хоць і не было холадна, але ўсё ж не так горача, як на вуліцы.

– Тады нашто ўчора ён сказаў пра лапаціну? – спытаў Юр. – Хто яго за язык цягнуў?

Дан зачыніў склеп, навесіў стары кажух на дзверы.

– Думаў, што хоча. А цяпер падумаў, што не. Чалавек па-рознаму думае.

– Ага, – кіўнуў на дзверы склепа Юр. – Баран таксама думаў. А сёння мы ім павячэраем.

Гэта была непавага да бацькі, і Ціт, як старэйшы, зірнуў на Юра няўхвальна.

---

* Тэкст курсівам тут і далей Вацлава Ластоўскага.

– Ты сам думай, што кажаш.

Дан заступіўся за брата.

– Што ён кажа не так? Слушна кажа. Дзе цяпер яду браць, калі зямля пустая? Толькі ў набегах на суседзяў. А бацька наш ваяр. Ды яшчэ які. І сіла ў ім не меншая за маю. А ён пад лапаціну. Як баран.

Дану Віт нічога не сказаў. Павярнуўся і пайшоў у хату.

– Ён Мілаву абрухаціў, – ціха сказаў Юру Дан, і Юр ці не расчуў, ці не зразумеў.

– Што?.. Хто абрухаціў?.. Віт?

– Бацька.

– Ды кінь! Скуль ты ўзяў?..

– Мілава сказала.

– Калі?

– Сёння. Як навальніцай гароды змыла. "Гэта ж голад, – заплакала. – Дзіця мае памрэ. І гэта праз мой грэх". Я спытаў: "Праз які?.." – і яна сказала.

Юр падышоў да брата, абняў яго адной рукой.

– І ты яе не забіў? Адпусціў?

– Як я заб'ю? Калі ў Смаленску, як толькі ўбачыў, ува мне нібы гром выбухнуў: "Мая!" А дакрануўся – закалаціла ўсяго. Нібы жанчын не меў ніколі. І дасюль так. Яна кінжал турэцкі, крывенькі такі, з пахваў: "Возьмеш мяне сілай – ніколі твая не буду!" А я ўзяў. Не ўтрымацца было. Можа, праз тое яна з бацькам. Каб адпомсціць... Хоць сказала, што і ён сілай узяў. Але яго пакахала. Так, сказала, што насмерць. Вось як так?..

– Што як?

– Яго пакахала, мяне – не. Праз тое самае...

– Відаць, не праз тое. Ты здагадваўся?

– Мільгалі думкі. Але...

– Але не верыў у тое, што думалася?

– Не верыў.

– І не пытаў яе?

– Не.

– Тады навошта?

– Што навошта?

– Навошта прызналася?

Дан пацепнуў плячыма.

– Не ведаю. Спытаў сёння пра грэх – яна й сказала. Прагаварылася.

– Але ж магла пра іншы грэх сказаць?

– Магла.

– А сказала пра гэты. Чаму?

Дан не вытрымаў, адштурхнуў Юра.

– Што ты да мяне прычапіўся! Чаму, чаму?.. Голаду спалохалася. Ці спалохалася, што сам дазнаюся!

– Як? Сёння бацьку канец – і як бы ты дазнаўся? Ніхто б не дазнаўся ніколі. А яна прызналася. Чаму?

Дан ледзь не накінуўся на Юра.

– Ды не хачу я ведаць, чаму! Якая мне розніца, чаму! Мне трэба думаць, што рабіць, а не чаму прызналася!

Юр не адступіў, зноў абняў брата.

– Так. Трэба думаць, што рабіць. Бо Мілава прыдумала нешта.

Дан раптам абмяк.

– Я ведаю, што... Ну, здагадваюся... Памятаеш, я сказаў табе, што Агну ў Альконах засек, бо ты праз яе без рукі застаўся. Дык не... Я там і не помніў, што ты без рукі. Яно як было... Мы ўварваліся – Агна перад Даўмонтам на калені. Ногі яму цалаваць. «Толькі не забівай Міндава! Бо не ён вінаваты! Гэта мой грэх, гэта я вінаватая, што пакахала яго і засталася з ім! Мяне забі, толькі яго не забівай!..» Даўмонт разгубіўся, не чакаў... Тут Міндаў на нас кінуўся. Даўмонт яго засек, а я Агну... Напалам разваліў! Ад шыі да похвы. Курва! Я б зразумеў, каб за дзяцей папрасіла. А яна за яго! Ён мужа яе, сям'ю, Крэва, Нальшу зняважыў, а яна... Дык і Мілава за бацьку, разумееш? Ён сілай яе, а яна мне: «Яго аднаго кахаю! Хоць забі!..» Вось у мужыках такога быць не можа, а ў іх ёсць. У гэтых бабах. Так што яна...

– Ціт! – гукнулі з вуліцы. – Ты дома? – І, не чакаючы адказу, на падворак ступіў вайдэлот Тур са сваімі жрацамі. – Дзе бацька? Пара.

З хаты выйшаў Віт, за ім бацька. У белым споднім, падперазаны поясам з тэўтонскім мечам, падараваным некалі вялікім князем Міндавам. Павярнуўся тварам да дзвярэй, укленчыў, пацалаваў парожны камень. Падняўся:

– Я гатовы. Юр, падай лапаціну... – І нахіліўся да вуха Юра. – Калі не справішся лапацінай, мечам дасячэш.

Во прыдумаў! “Мечам нельга...” – падаючы лапаціну, паспрабаваў запярэчыць Юр, але бацька не стаў яго слухаць.

Выйшлі на вуліцу. Паперадзе вайдэлот Тур са жрацамі, за імі Ціт з мечам на поясе і лапацінай на плячах, за Цітам трое ягоных сыноў. Уздоўж Крэўлянкі рушылі да Ярылавай гары.

– Ціт, – спытаў, калі прайшлі палову дарогі, вайдэлот Тур. – Скажы мне: ты здурнеў? Ці здзяцініўся?

– Састарэў я, Тур.

– Ды пры чым тут састарэў, не састарэў? Людзі ўжо забыліся, калі ў нас некага лапацілі. Пасля таго, як сын Драгавіта не дабіў бацьку, і той два гады лежма прамучыўся, стаў зводзіцца звычай. А ты за яго ўчапіўся. Чаму? Толькі не кажы, што сыны цябе ў запечча гоняць. Я даўно цябе ведаю, ты сам іх загоніш, калі захочаш. Хіба не так? Га, Віт?

– Загоніць, – сказаў з-за спіны бацькі Віт. – Калі захоча.

Ціт вышэй ускінуў рукі на лапаціну.

– Не захачу. Хаценняў ува мне ўжо ніякіх не засталося. – І дадаў, памаўчаўшы. – Апроч аднаго.

– Якога? – павярнуўся да яго вайдэлот Тур. – Якога аднаго?

Ціт усміхнуўся.

– Скажу – не спраўдзіцца.

– Пасміхаецца ён, – плюнуў пад ногі вайдэлот. – Галаве на плячах быць паўгадзіны засталося, а ён пасміхаецца...

Падышлі да Ярылавай гары, у падножжы якой ужо тоўпіліся крэўляне, а на вяршыні, раскінуўшы рукі, стаяў нерухома, як крыж, вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта. У белым каптуры і ў чырвонай, аблямаванай белай тасьмой і падпяразанай белым поясам з бычынымі хвастамі на канцах, туніцы. “Зараз зноў праклінаць пачне...” – падумаў Ціт, але вярхоўны вяшчун глядзеў, як падымаюцца ўслед за вайдэлотам людзі ўгару, і маўчаў. Падняліся, сталі кругам – і Ціт рушыў па крузе, завяршаючы свой зямны шлях. Адзін круг, другі, трэці... Ішоў, нічога не думаючы, ні пра што не ўспамінаючы і ні пра што не шкадуючы, бо пра што шкадаваць? Круг за

кругам, год за годам, з дня ў дзень праца, пот, мазалі, кроў, войны, бітвы, прасвету між імі не бачыў – і гэта жыццё? Хіба пад канец бліснула, як сонца на мечы, каханне, але нібы ўкрадзенае, дык што ж: чапляцца за яго? Тым больш, што не ў староннягa чалавека ўкрадзенае, як Міндаў у Даўмонта ўкраў, а ў сына свайго – вунь ён стаіць каля вайдэлота Тура, спадылба зыркае, чакаючы, калі ягоны брат малодшы бацьку чэрап раструшчыць. Дык Ціт на ягоным месцы і не чакаў бы... У ложку разам з Мілавай задушыў бы...

Але Ціт на сваім месцы. На тым, дзе завяршаюцца ўсе кругі. Чацвёрты, пяты, шосты... І не хочацца яму нікога душыць, нікому помсціць – увогуле нічога не хочацца. Хіба сына свайго наймалодшага ўбачыць, пра якога ўсе будуць думаць, што гэта ўнук – вось, бадай, адно, якое яшчэ засталося, жаданне. І дзіўна, што па жыцці, у якім ён назабіваў людзей болей, чым іх сабралася цяпер на Ярылавай гары, яно, жаданне ўбачыць яшчэ адно жыццё, засталося...

Нікога болей ён не заб'е, нікому не адпомсціць. Назабіваўся, напомсціўся. Досыць. І не таму, што Мілава пра свайго адзінага Бога яму нашаптала, пра смяротны грэх...

"Які грэх? – пытаў ён Мілаву. – Рыбы глынаюць рыб, птушкі дзяўбуць птушак, звяры загрызаюць звяроў. Так было, ёсць і будзе. Так мусіць быць, бо калі не заб'еш, не з'ясі ты, дык заб'юць і з'ядуць цябе. А калі я дам сябе з'есці, дык што пра мяне скажуць? Што я бязгрэшны? І што мне з таго, што я бязгрэшны, калі мяне з'елі?.."

"Ты быў як рыба, як птушка і як звер, пакуль не ведаў Бога", – шаптала Мілава. І вучыла маліцца: "Ойча наш нябесны, ды свяціся імя Тваё..." І хрысціла: "У імя Айца, і Сына, і Святога Духа..." І тулілася да яго, распаленая: "Бог – любоў, Бог – любоў, Бог – любоў..."

Сёмы круг... восьмы... дзявяты... і кожны наступны карацейшы, вузейшы за папярэдні – чаму так?..

Ціт падышоў да ахвярнага каменя на капішчы, стаў тварам да сонца – і для сябе самога нечакана зашаптаў: "Ойча наш нябесны, ды свяціся імя Тваё..." Ён шаптаў зусім ціха, але Крыва-Крывэйта пачуў, заварочаў жаўлакамі. *"Воля вашая будзе сцертая, як зярно ў жорнах..."* – пачаў казаць вярхоўны вяшчун, падвышаючы голас, перакрываючы і малітву Ціта, і пранізлівы дзіцячы крык пад гарой, на вяршыні якой Ціт укленчыў, паклаў галаву на камень, скінуўшы рукі з лапаціны, што ляжала ў яго на шыі, як вясло, з якім пераплываюць мёртвую раку, з гэтага берага на той, а Крыва-Крывэйта не сціхаў: *"Нашчадкі вашыя адвернуцца ад крыві сваёй... магілы вашыя зняважаць будуць..."* – і вайдэлот Тур падвёў да каменя Юра, які ўзяўся за ўручча лапаціны, павярнуў яе рабром уніз, пaглядзеў на братоў, адзін з якіх, Віт, адвярнуўся, а другі, Дан, галавой кіўнуў на сонца, якое напалову ўжо схавалася за небасхіл: "Пара..." – але вярхоўны вяшчун не дакрычаў яшчэ свае праклёны: *"Жоны і дочкі вашыя стануць паслужніцамі... перад рабамі сваімі пахінеце каркі..."* – і Юр упёрся паглядам у бацькаў карак, думаючы толькі пра адно, пра тое, што мечам – нельга, бо па звычаю – толькі лапацінай, таму злаўчыцца трэба ўдарыць так, каб адразу ўсё скончыць, каб бацька не мучыўся, ці, яшчэ горш, не застаўся, як Драгавіт, прыкутым да ложка калекам, якому не дапамогуць ні вайдэлот, ні вярхоўны вяшчун, які доўжыў: *"Змоўкнуць вечавыя званы ў гарадах і песні свабоды ў сёлах..."* – і Юр, на памяць ведаючы праклёны Крыва-Крывэйты, узняў лапаціну, ды

тут Мілава, выскачыўшы з капліцы, загаласіла, нібы памёр нехта: “Сын! Сын! У Ціта сын!” – і пабегла ўгару з дзіцём, якога нават не абцёрла, у якога галава была ўся ў крыві, нібы пабітая камянямі слоў, праклёнамі, што кідаў з гары Крыва-Крывэйта: *І перапоўняцца воды слязамі вашымі... і згінеце з аблічча зямлі...* – і калі Мілава, прыпадаючы на локці, на калені, ускараскалася на вяршыню: “Ціт, глядзі: твой сын!..” – Ціт прыўзняў галаву, зірнуў на дзіця задаволена, як чалавек, у якога ўсё склалася так, як ён хацеў, і зноў паклаўся на камень, крыкнуўшы Юру: “Рэбрам! Роўна ўніз! Бі!” – але Юр не ўдарыў, адкінуў лапаціну: “Я не наймалодшы!..”

І закацілася за Перунову гару, бліснуўшы апошнім промнем, сонца. А на Ярылавай гары стала так ціха, што чуваць было, як дыхае немаўля.

Гара чакала...

Ціт падняўся і, не ведаючы, што яму, жывому, цяпер рабіць, глядзеў, як Мілава злізвае кроў з галавы дзіцяці. “Як сучка”, – падумаў.

– Ты прызнаеш, што здрадзіла мужу? – парушыў маўчанне, падышоўшы да Мілавы, вайдэлот Тур. – І што дзіця тваё не ад яго?

– Прызнаю, – прыціснула хлопчыка да грудзей Мілава. – Гэта сын Ціта. Наймалодшы.

Яна прыціскала да грудзей дзіця, глядзела на вайдэлота і пераможна ўсміхалася.

Гара чакала...

– О, Пяруне, які дае нам дождж! О, Ярыла, які дае нам сонца! О, Вялесе, які дае нам тое, што пад дажджом і сонцам узрастае! За што спалілі вы і патопам залілі нальшанскую зямлю? – не стаў болей чакаць вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта. – Бо на ёй узрасла здрада! Бо на яе прыйшла чужая вера! Бо на ёй сталі маліцца чужому Богу! Бо парушаныя законы, па якіх жылі продкі! Бо растаптаныя спрадвечныя звычаі! Бо патух ахвярны агонь!.. – распаляў сам сябе, амаль пры кожным слове пальцам тыкаючы ў бок Мілавы, вярхоўны вяшчун, наганяючы страху на людзей, якія ўціскалі галовы ў плечы і глядзелі на Мілаву з усё большай нянавісцю. Зразумела было, чым Крыва-Крывэйта скончыць, і калі ён ускінуў рукі ўгору: “Дык хай прымуць багі нашыя ахвяру нашую!..” – Ціт сказаў так, каб уся гара пачула: “Гэта не мой сын!”

– А чый?.. – падскочыў да яго вайдэлот Тур, у якога з’явілася магчымасць адпомсціць Ціту за ўсе прыніжэнні. – Калі Мілава кажа, што твой!

Ціт зрабіў выгляд, нібы вайдэлот здзіўляе яго сваёй даверлівасцю.

– Мала што яна кажа... Гэта сын майго сына. Мой унук. – І павярнуўся да Дана. – Дан, гэта твой сын?

Дан доўгім, пакутлівым позіркам паглядзеў на бацьку, на вайдэлота, на вярхоўнага вяшчуна, на Мілаву з хлопчыкам... Віт, які стаяў побач з Данам, нешта сказаў яму ціха... Дан пахітаў галавой: “Не...” – і прамовіў цвёрда:

– Не.

“Вух!..” – выдыхнула гара, а вайдэлот Тур выхапіў меч з-за пояса Ціта і ўтыркнуў яго ў зямлю каля ног Дана: “Тады ты ведаеш, што рабіць!..”

Меч стаяў, не хістаючыся.

Гара чакала...

– Па звычаі нашых продкаў жонка, якая здрадзіла мужу, мусіць быць асуджаная на страту! – пачаў, уздымаючы голас, Крыва-Крывэйта. – Вы адпрэчылі звычай – і на зямлю вашую прыйшла распуста, якая нясе пагібель! Бо калі жонка не паважае мужа, тады сын не паважае бацьку,

і рвецца повязь пакаленняў! Слабее і гібее род! Тады ворагі нашыя, якія мацнеюць праз нашую слабасць, прыходзяць і забіраюць...

– Досыць! – вырваў меч з зямлі Дан. – Я паважаю бацьку! І па звычаях нашых продкаў ён, галава роду, мусіць вяршыць суд! І над жонкай маёй, якая мне даўно не жонка, і над дзіцём яе, якое мне не дзіця, і нада мной, калі на тое ягоная воля! Бо я слабы, – падаў ён меч Ціту, – і сам звяршыць суд не здолею...

Дан стаяў перад бацькам, падаючы яму меч, які Ціт не браў, бо калі ты бярэш у рукі меч, дык мусіш ім секчы – во якую Дан прыдумаў помсту. “Ты ў мяне забраў Мілаву – цяпер забяры яе ў сябе...” Так яны стаялі, знерухомленыя, адзін перад адным, але колькі можна было ім, сыну і бацьку, адзін перад адным стаяць, калі чакаў, як каршун, гатовы ўчапіцца ў Мілаву, Крыва-Крывэйта, калі чакаў, з’едліва ўсміхаючыся, вайдэлот Тур, калі гара чакала...

Гара не прагла справядлівасці. Ніхто не чакаў, што Ціт возьме меч, каб спраўдзіць законы, па якіх жылі продкі. Не. Усе чакалі відовішча. Толькі відовішча – больш нічога. Ціт гэта разумеў. Але разумеў таксама іншае. Калі не звяршыць суд, дык усе засухі з патопамі і войны з пажарамі, усе беды, якія стануцца на гэтай зямлі хоць праз дзень, хоць праз год, хоць праз век, будуць бедамі, насланымі багамі праз Мілаву. Тут ужо вярхоўны вяшчун з вайдэлотам пастараюцца... А скуль Мілава ўзялася? У чыёй сям’і прыжылася?.. І калі сям’я, калі Ціт цяпер выявіць слабасць, згубная слава пра смалянку кляймом пакладзецца на ўвесь род. На Віта, Дана, Юра. На іх нашчадкаў. На гэтага хлопчыка, якога абдымае апошнімі абдымкамі Мілава...

Гара чакала.

Ціт адчуваў сябе, як за імгненне перад боем, шанцы ў якім роўныя на жыццё і смерць. Зрок, слых былі гэтак абвостраныя, што ён чуў, як у кожным, хто стаяў хоць блізка, хоць далёка, шуміць, патрабуючы выйсця, кроў. Чуў галасы, якія яшчэ не вырваліся, стаялі ў каго пад сэрцам, у каго пад горлам: “Ведзьма!.. Курва!.. На смерць!.. На страту!..” – і бачыў, як і ў вачах тых, хто верыў у многіх багоў, і ў вачах тых, хто верыў у Бога адзінага, аднолькава разгаралася нянавісць, праз якую забываліся яны пра любоў.

Яны праглі не толькі смерці Мілавы. Яшчэ больш яны праглі ганьбы Ціта. Ваяра, які ўзяў жанчыну – і не возьме меч...

“О, Пярун!.. О, Вялес!.. О, Ярыла!.. На што вы разгневаліся? На каханне? Чаму?.. Пазайздросцілі? Вас гэтак не кахалі, каб на смерць пайсці?.. Мяне таксама. Таму я не ведаю, што з гэтым рабіць. І мушу зрабіць тое, што ведаю...”

– Як назваць сына?.. – беручы меч, спытаў Ціт, і Мілава, зразумеўшы ўсё, адарвала ад сябе дзіця: “Мікалаем”.

“Яй... яй... яй...” – заякатаў, заплакаў хлопчык, калі Ціт узяў яго, прыціснуўшы уруччам меча і зрабіўшы, мусібыць, балюча, а Крыва-Крывэйта, усё яшчэ злуючыся, што яму праклёны дакрычаць не далі, буркнуў: “Няма ў нас такіх імёнаў, вось і плача...”

Ціт стаяў, баючыся зварухнуцца, каб як-небудзь не нашкодзіць немаўляці. Паспрабаваў успомніць, як іх трымаюць, дзяцей – і не ўспомніў. Бо не трымаў ніколі. Шаблі, дзіды, мячы ўсялякія трымаў, а такое малое дзіця – не. Першы сын нарадзіўся, калі з татарамі біўся, другі – калі з

крыжакамі, трэці... ужо й не помніў – з кім. Калі зрэдку перадых выпадаў, не паспяваў прывыкнуць да дзяцей, яны да яго – і зноў меч у рукі. І калі маці іх, Дабранега, з голаду памерла, на вайне быў. Вярнуўся – дзеці адны. Згаладнелыя, схаладнелыя. Было пяцёра, выжылі трое...

– На, патрымай... – падаў ён дзіця, каб рукі вызваліць, Дану. Той адступіў, не ўзяў – і Ціт паклаў сына на ахвярны камень.

Больш нічога, каб адцягнуць непазбежнае, зрабіць было нельга.

Ён падышоў да Мілавы... Трэба было нешта сказаць, але што?.. Што сказаць жанчыне, якая гэтак цябе кахала, што ахвяравала дзеля цябе жыццём?..

Не трэба было, дурніца.

“Мілава, я...”

“Я не Мілава. Калі хрысцілі, назвалі Вольгай”.

Яна глядзела спакойна. І спакойна казала.

Ён узяў яе за руку – і як зашумела ў ім кроў!

“Стань на калені...”

“Дзе?.. Тут?..”

“Тут”.

Яна ўкленчыла перад ім.

“Так?”

“Не. Да мяне спінай...”

Яна ўстала – вочы ў вочы... Нічога не сказала, зноў укленчыла. Спінай да яго, тварам да каменя. Да сына.

“Так лепей?”

“Так. Лепей”.

“А валасы...”

“Што валасы?..

“Можа, на грудзі згарнуць... Не замінаюць?..”

Яму стукнула пад сэрца, падкаціла пад горла...

Ён зглынуў.

“Не замінаюць... Але можаш згарнуць... І можаш памаліцца свайму Богу, Вольга...”

Яна кіўнула, падняла рукі, перакінула валасы з плячэй на грудзі... Як чорную хмару над белым снегам...

“Ойча наш нябесны! Ды свяціся імя Тваё, ды прыдзі валадарства тваё, ды станься воля Твая як на небе так і на зямлі...” – малілася яна, гледзячы на ахвярны камень, на сына, і калі, прашаптаўшы “амінь”, перахрысцілася, Ціт ударыў зверху ўніз з імгненным, маланкавым замахам, якому ўсё жыццё вучыўся, каб напалам рассякаць ворага, і Мілава аддзялілася ад Вольгі, і ўся кроў, якая была ў абедзвюх, лінулася на ахвярны камень...

Нават цішыня, здалося, сцішэла – і хвіліну стаяла вострая, як лязо мяча. “А-а-а!..” – рассек яе надвое захлёбны крык Мікалая, і адным дыхам: “Вувух..!” – выдыхнула гара, а Ціт кінуў меч, схапіў дзіця, прыціснуў да грудзей і, чырванеючы ў белым, подбегам рушыў ад капішча ўніз, скрозь натоўп да капліцы, дзе нехта ў жаху ад яго адступаў, а нехта на калені ставаў – ці то перад бацькам, ці то перад сынам, ахрышчаным у матчынай крыві.

*Чэрвень 2014, Крэва, ліпень 2015, Менск.*



Уладзімер Арлоў



...няхай жыве
сусветнае брацтва паэтаў!..

# Паэтычны фэст у Друскеніках

***Балада***

твой арганізм атручаны паэзіяй
яе падаюць на сняданак
у каве з аўтамата
ў яечні з беконам
у зялёнай і чорнай гарбаце
чорная рыфмуецца з турмой

чытаеш верш
*Ліст начальніку турмы*
на экране пераклад
літоўская і англійская
нехта з вязняў у 1937-м
надрапаў на тынку
*РАДЗІМА*
так і засталося

начальнік загадаў не зафарбоўваць
радзіму трэба любіць
паўсюль

што зала ведае пра 37-мы?
што ты ведаеш пра 37-мы?
ведаў твой дзед
калі-небудзь раскажа

паэтка з Брытанскіх выспаў:
ці мог ваш начальнік чытаць Уайлда?
у прыватнасці *Баладу Рэдынгскай турмы*
паэт з Венесуэлы таксама нязгодны
ведае чалавека які з дзяцінства
марыў стаць начальнікам турмы
стаў ім
мары здзяйсняюцца
ці мог ён чытаць Уайлда?
адказ станоўчы

адзін слухач упэўнены што ты сядзеў
другі сядзеў сам
запрашае выпіць
самагон грэе лепей за чытацкую любоў
апрача таго дэзінфекцыя

твой арганізм атручаны паэзіяй
на абедзе яна ў начынцы цэпелінаў
пачынаеш разумець
чаму бульбяныя клёцкі
названыя ў гонар лятальных апаратаў
кухары служылі па сумяшчальніцтве
прыдворнымі паэтамі
або наадварот
або лёталі на цэпелінах
бразнуліся аб глебу
смачна есці!

на календары 8 кастрычніка 2015-га
Стакгольм не падвёў
Нобель у Святланы Алексіевіч!
літоўскі паэт віншуе:
цяпер Літве не дадуць ніколі
там ведаюць геаграфію

абдымае за плечы латышку і эстонку:
вам таксама не свеціць
расслабцеся

харвацкі паэт
расслабляецца роднай слівовіцай
частуе цябе з японкай
ім Нобеля ўжо давалі
думаеце дапамагло?

японская паэтка
аддае перавагу сакэ
просіць напісаць “Алексіевіч” па-беларуску
Харукі Муракамі
ішоў у букмекераў на другім месцы
японка не чула
просіш напісаць Муракамі па-японску

паводле Нобелеўскага камітэта
сёння дзень прозы
але
твой арганізм атручаны паэзіяй
яна ў свіных вушках з лісічкамі
у вегетарыянскіх стравах
у неразбаўленым таматным соку
слівовіца стала ўспамінам
гомеапатычныя дозы самагону
могуць давесці да шпіталізацыі
няхай жыве беларускі бальзам!
цудоўны антыдот
колер нечай нобелеўскай зайздрасці
жуе Беларусь!

не сумуй літоўскі калега
вам калі-небудзь таксама дадуць
але спачатку зноў нам
вось пабачыце

чытаеш верш
*Дзяўчына з касой*
вакзал заплечнік з флікерам
лязо туга забінтаванае
пакуль што прыехала не да цябе
яшчэ ёсць прывідныя шанцы

адна слухачка
хацела б прыехаць да цябе
ты зможаш сустрэць?
калі захопіць касу-літоўку
выдатная рыфма:
літоўка – *літоўка*
не верыце – калі ласка ў *Google*

польскі паэт кажа
тут побач пахаваны Ян Чачот
едзеце на магілкі
выпіваеце за Яна Чачота
звоніць твой сотавы
гэта Чачот кажаш ты
той хто набраў нумар маўчыць
просіш яго паслаць *sms*

улучаеце Чачота
ў спіс удзельнікаў фэсту
спрабуеце ўзгадаць на памяць
хоць адзін яго верш
няхай жыве сусветнае брацтва паэтаў!
на тым і на гэтым свеце
у тым і гэтым сусвеце
ах якія рымфы!
ну проста як німфы

удакладняеш:
брацтва і сястрынства
паэтаў і паэтак

харват частуе японскую паэтку
падступна прыхаванай слівовіцай
іспанскі паэт удзельнічае ў дэгустацыі
падымае вялікі палец угору
хоча зрабіць японцы прыемнае
кажа: сакэ – *mierda*[1]
спрабуе адабраць у вавёркі арэх
трэба закусіць
зараз ягоны выхад

іспанскі паэт чытае верш
пра іспанскі горад Барселону
іспанскага дойліда Антоніо Гаўдзі
іспанскага мастака Хуана Міро

адзін слухач не вытрымлівае:
*Cataluña is not Spain!*[2]
гэты слухач не ты
але ты пляскаеш
зала таксама
верша ўжо не чуваць
бурныя працяглыя апладысменты
*Cataluña is not Spain!*

цвёрдым крокам падымаешся на сцэну
чытаеш верш
*Музей гадзіннікаў у Брацілаве*
урэшце ўсе мы ператворымся
ў дасканалыя часткі
сусветнага пясочнага гадзінніка
на экране пераклад
літоўская і англійская
*mierda* кажа іспанскі паэт
відавочна пра пераклад

польскі паэт чытае верш які
ты перакладаў на беларускую:

*не маеш дому*
*ёсць побач горад*
*засохне дрэва*
*застанецца лес*
*канае чалавек*
*перакульваецца свет*

на даляглядзе перакульваецца
невядомы паэт з невядомай краіны
свет не канае
паэт таксама жывучы

японская паэтка чытае верш
паводле якога
нікому нельга верыць
ні манархістам
ні сепаратыстам
ні камуністам
ні хрысціянам
ні дзэн-будыстам
ні ёй самой

харвацкі паэт кажа
пасля ўчорашняга – святая праўда

харвацкі паэт чытае верш
у якога толькі назва
назва *Цішыня*
далей таксама цішыня
на чыстым экране імёны перакладчыкаў
літоўская і англійская
геніяльныя рыфмы
найлепшыя пераклады

твой арганізм атручаны паэзіяй
да самых карэньчыкаў валасоў
добра шведскаму паэту
ён лысы
ды яшчэ прадбачліва не прыехаў
глядзіць з фоткі на праграмцы
дзякуй за Алексіевіч!

літоўскі паэт чытае верш пра магаў
знайшлі ў смеццевым кантэйнеры
мёртвае немаўля ў пластыкавым пакеце
не паднеслі яму дароў
не пахавалі
каб не мець праблемаў з паліцыяй
пакінулі пакутаваць за нашыя грахі

трэба выпіць бо
твой арганізм атручаны паэзіяй
стаіш з біклажкай у руках
з біклажкай дзе скончыўся антыдот
трэба ісці ў нумар на запраўку

украінскі паэт чытае верш
як стаіш з квітком у руках
з квітком на цягнік які сышоў
крычыш у сцяну
а яна – нічога нармальна – слухае
а на ёй нейкія бурыя плямы
быццам тут
ну самі разумееце

двое слухачоў уздымаюць
жоўта-блакітны сцяг

трэці выгуквае:
слава бандэраўцам!

чытаеш верш
*Я марыў стаць патолагаанатамам*
мара здзейснілася
але не ў цябе
адна слухачка кажа
яе званітавала ў пакецік
чытайце такія вершы ў трупярнях!
другая слухачка гатовая да знаёмства
пакуль без скальпеля
можна глыбей
для анестэзіі
цёмны як кроў патолагаанатама
беларускі бальзам

у развітальнай вечарыне
калі верыць праграмцы
бяруць удзел
*William Shakespeare*
*T.S. Eliot*
*Robert Frost*
*Walt Whitman*
*Rudyard Kipling*
*John Milton*
*Dante*
*and* нейкія *Others*[3]

даехалі не ўсе
аднак сэр Кіплінг
ужо рытмічна пагойдваецца
з ім рыфмуецца Ўітмэн
Эліёт спрытна зафіксаваўся
эпіграфам да барнае стойкі
але дзе – ты пытаешся
гендэрны баланс?
нельга было запрасіць Сапфо?
або Габрыэлу Містраль
або Віславу Шымборску
ці рызыкнуць нават
Эльфрыду Елінэк

аднаўляеш баланс на пустэльнай набярэжнай
літоўская паэтка чытае толькі табе

верш – пра поўню
на небе няма перакладу
калі не лічыць самой поўні
у рацэ таксама поўня
гэта пераклад на беларускую
перакладчык вядомы

запомні
жорстка кажаш ты
гэтая рака называецца Нёман
запомні
ласкава кажа літоўская паэтка
гэтая рака называецца Нямунас
іначай нічога не будзе

у самы напружаны момант
у зарасніках глогу
крычыць начная птушка
гэта паэт з Егіпта
*remember*
кажаш ты паэту з Егіпта
*this river is called the Nioman*[4]
*baćka Nioman*
*baćka!*
радасна галёкае паэт з Егіпта
*are you from Belarus!?*[5]
вечар атрымаўся

дастаеш біклажку
ты: *belarusian liqueur!*[6]
паэт з Егіпта: *is it alcohol?*[7]
ты: *no it isn't*[8]
вы бачылі як п'юць
асмяглыя жыхары Сахары?
паэт з Егіпта:
*no! it isn't alcohol!*[9]
залазіць на лавачку пад залатым клёнам
дэкламуе верш
тваёй англійскай не хапае
літоўская паэтка перакладае
верш як сфінкс ацэньвае
новую геапалітычную сітуацыю
ў Паўночнай Афрыцы
над Нёманам выбухае феерверк
паэт з Егіпта ацэньвае сітуацыю імгненна

падае пластуе за клён
нічога смешнага
брат загінуў у рэвалюцыю
*Алах акбар!*

кавярня атручаная паэзіяй
Мілтан дрэмле ў абдымках маладога прыхільніка
Эліёт захапіў месца бармэна
латышская паэтка аддаецца ўспамінам
даўні фэст у Ашгабадзе
святкавалі з беларусамі Ліго
па-вашаму Купалле
скакалі ў гатэлі
цераз паваленыя таршэры
напісала пра гэта верш
пасля глытка бальзаму павінна ўспомніць

ідзеце шукаць таршэры
у парку гусцее атручаны паэзіяй туман
латышская паэтка чытае пад ліхтаром
верш – пра таршэры
сярод слухачоў можна заўважыць
трох паліцэйскіх
адзін тлумачыць:
у парку не растуць таршэры
*А вы що Карл Леней?*
нечакана пытаецца паэт з Украіны

паваліць слуп з ліхтаром доўга не ўдаецца

паэтычныя чытанні
працягваюцца ў паліцэйскім участку
ты цалкам гатовы даваць паказанні
*yes*
твой арганізм атручаны паэзіяй
паэт з Егіпта ўдакладняе:
*it isn't alcohol!*
паліцэйскі сумняецца
краіна пражывання?
ты (урачыста):
*Magnus Dukatus Poesis!*[10]
паліцэйскі (задуменна):
зараз прыедзе Вергіліюс
ты (ветліва):
няхай захопіць Гарацыюса з Катуласам
і Шэкспіраса

з’яўляецца Вергіліюс
вядзе Уітмэна і Эліёта
Шэкспірас ідзе сам
бярэ мышку ад кампутара
пачынае ўпэўнена дэкламаваць у яе
чамусьці па-літоўску
радкі знаёмыя
ты перакладаў іх на беларускую:

*ну вось і ўсё... цяпер ужо капец*
*на небе поўня*
*думкі што адбой праз хвілю...*

Вергіліюс: яшчэ адзін пратакол!

адбіраеш у Шэкспіраса мышку
падносіш да вуснаў
ты хочаш зрабіць палітычную заяву
цішыня не запаноўвае
прашу паэтычнага прытулку!
нетэатральна падаеш
з галавой накрываешся праграмкай

бачыш як ва ўчастак
з баявой харугваю фэсту
урываюцца
Дантэ з Хаданавічусам
Муракамі з сакэ і сакурай
венесуэльскі паэт з калашнікавым
*and others*

дзесьці за сцэнай
Бон Джові спявае песню
на твой даўні верш
*it’s all the same*
*only the names have changed*[11]...

---

[1] лайно (*ісп.*)
[2] Каталонія – не Іспанія! (*англ.*)
[3] ды іншыя (*англ.*)
[4] запомні: гэтая рака завецца Нёман (*англ.*)
[5] вы з Беларусі!? (*англ.*)
[6] тут – беларускі бальзам! (*англ.*)
[7] гэта алкаголь? (*англ.*)
[8] не (*англ.*)
[9] не! гэта не алкаголь! (*англ.*)
[10] Вялікае Княства Паэзіі (*лац.*)
[11] усё па-ранейшаму
толькі імёны змяніліся (*англ.*)

Валеры Гапееў



...наўрад ці сёння хоць адзін звычайны чалавек падазрае, наколькі ён наіўны ў сваіх жаданнях мець асабістае, быццам бы схаванае ад іншых жыццё...

# Ноч Цмока

***Раман***

## 1.

Калі непрыемнасці пачынаюцца з раніцы – значыць, гэта будуць вялікія непрыемнасці.

Палова на сёмую. Гарадок пусты. Я іду па праезнай частцы, бо на гэтай вуліцы, якая сцелецца ўздоўж высачэзнай сцяны-агароджы калоніі, няма ходніка. Цёмна-шэрая, амаль чорная ад вільгаці стужка асфальту бяжыць уніз, да скрыжавання. Там цяпер міргае жоўтым святлафор. Ад святлафора прайсці паўсотні крокаў – і вось ён, светла-шэры будынак пракуратуры. А далей шаша перакульваецца цераз скрыжаванне і пачынае ўздымацца ўверх, зноў нырцуе ўніз і ўпіраецца ў сучасны будынак царквы з чорнымі купаламі.

Заўсёдны бомж ля трох смеццевых кантэйнераў педантычна перабірае іх змесціва. Яго я бачу штораз толькі

са спіны, ён ніколі не паварочваецца на мае крокі. Робіць сваю справу бязгучна, нават шкляныя бутэлькі дастае і пакуе ў свае торбы без адзінага дзінькання. На бамжы добра зношаныя, але чыстыя джынсы, велікаватыя. Чырвоныя красоўкі на нагах, моладзевыя. Шэрая куртка з капюшонам, які цяпер насунуты на галаву. Куртка, відаць, падабаецца бамжу, бо яна адна застаецца на ім вось ужо колькі месяцаў, ад зімовых халадоў. Штаны і абутак ён мяняе, як зносяцца ці забрудзяцца. Бомж не зважае на людзей, а для мяне ён стаўся прадметам вуліцы, бы нейкі дадатковы антураж да кантэйнернай смеццевай пляцоўкі.

Вартавы на вышцы ў куце агароджы, высока над зямлёй, стаіць у драўляным акенцы, плечуком і галавой прыціснуўшыся да вушака. Расплюшчвае вочы на мае крокі, глядзіць лянотна і абыякава і зноў заплюшчвае іх – яму хочацца спаць... Проста над вакенцам будкі ашчэрылася вастрыямі спіраль калючага дроту, якая мацуецца над высокай агароджай, і я зноў думаю пра тое, што калі з той вышкі глянуць удалеч праз сярэдзіну спіралі, бы праз трубу, дык пабачыш якраз вялікі чорны купал царквы з жоўтым крыжам. Але ж не будзеш прасіць вартавога, каб зірнуў і праверыў...

Гэты вартавы і тое, што я іду па правай частцы дарогі да пракуратуры, адно і пераконваюць: прайшло больш за дванаццаць гадзінаў. І хоць цяпер гэтак жа хмурна і шэра, як было надвячоркам, гэтак жа бязлюдна і мярцвяна ціха, учарашні вартавы на вышцы быў не сонным, а я ішоў у другім напрамку. Значыць, цяпер не ўчора, а сёння...

Адзін дзень падобны да другога, ранкі не розняцца ад надвячоркаў, начэй без зорак. Мне здаецца, такое надвор'е – пахмурнае, без дажджоў, іншым разам з мокрым пылам у паветры – было тут заўсёды і будзе заўсёды. Некалькі сонечных дзён, калі цвілі вішні, здаліся кароткімі і сарамлівымі, прамільгнулі, быццам іх і не было, нібыта школьніцы-выпускніцы прабеглі тратуарам, свецячы вакол сябе незагарэлай маладой скурай высока адкрытых ног.

Не, я не злуюся на надвор'е, мне быццам усё роўна, але я здзіўлены, што вельмі доўга яно трымаецца вось такое: ціхае, шэрае і не халоднае. І адначасова дзіўлюся сам з сябе праз тое, што я дзіўлюся надвор'ю. Хіба раней я звяртаў на яго ўвагу? І ці задумваўся: чаму так, а не іначай? Было разоў колькі, калі нечаканая непагадзь магла сапсаваць нашую студэнцкую вылазку на прыроду, але мы заўсёды мелі на такі выпадак запасны варыянт у выглядзе якой сядзібы. А вось цяпер на мяне неяк ціснe, мякка, але няўмольна ахутвае лёгкай незразумелай тугой нашая штодзённая шэрасць...

Мне спадабаўся райцэнтр пасля тлумнага Мінска: варта выйсці на працу ўсяго на паўгадзіны раней – і табе ніхто не сустрэнецца наперадзе, ніхто не будзе даганяць ззаду. Нечакана для сябе я зрабіў адкрыццё: тут можна пабыць самотным без асаблівых высілкаў. Увесь горад жыве паводле аднаго вялізнага нябачнага будзільніка. Праз хвілінаў трыццаць-сорак з'явяцца першыя аўтамабілі, пасля – веласіпедысты, потым тратуары пачнуць запаўняцца мінакамі. А пакуль – цішыня, адно мае крокі. Вечарамі ў нейкі момант вуліцы імкліва пусцеюць, цішэюць, нешматлікія пары-тройкі моладзі ў пагусцелай шэрасці, якая глушыць гукі, брыдуць з аддаленых куткоў у цэнтр – там іх месцы тусоўкі, там некалькі ліхтароў і лавы ў цяню...

Яшчэ мяне прывабіў правінцыйны гарадок сваім адчуваннем прасторы.

Тут няма старых вуліц жыдоўскай забудовы, дзе дарогу шырынёй толькі каб аўто праціснуцца, падпіраюць сцены дамоў, і ты ідзеш міма вакон, бы які злодзей – на адлегласці выцягнутай рукі ад пакрытых пылам шыбаў. Вуліцы прыватнай забудовы ў райцэнтры шырокія, ад краю дарогі да хат – добры дзясятак метраў. Няма ў гарадку і сучасных вышэзных дамоў, вузкіх двароў. Тут самы высокі шматпавярховік – на пяць паверхаў, двары проста велічэзныя, у сталіцы на такой плошчы яшчэ б тры-чатыры гмахі ўціснулі. І таму тут прывольна. Нават аўтамабілям хапае месца. Праз самы кароткі час пасля мінскай таўкатні і даўкі да цябе вяртаецца адчуванне тваёй асабістай прасторы, амаль фізічнае адчуванне, і людзі вакол таксама заўважаюць яе. Тут усе быццам маюць асаблівы зрок, бачаць воблака твайго працягу вакол цябе. І нават калі падыходзяць на вуліцы, спыніўшы, – не парушаюць, не разрываюць гвалтам нябачную тваю абалонку і берагуць сваю. І ты таксама не лезеш нахабам у чужы свет, нават калі перад табой твой сябар.

Хаця, па праўдзе, сяброў у мяне тут пакуль няма. У пракуратуры я не толькі самы малады, але, бадай, усім магу дацца ў сыны па ўзросце. Хіба акрамя сакратаркі Зіначкі, трыццацітрохгадовай крэпенькай жанчыны невысокага росту з завялікімі для яе танкарысага твару пульхнымі грудзьмі.

...Тэлефон у кішэні ўздрыгвае, непрыемна, са штучнай бадзёрасцю гучыць у ранішняй застыласці электронная мелодыя. Трэба выбраць іншую...

Тамара! Хваляванне разганяе думкі: што здарылася? Ведаю я свае абавязкі, вось і выйшаў раней... Надзвычайнае нешта? Не, не можа быць... Нават калі здарылася забойства, Тамара наўрад ці пачне турбаваць за паўтары гадзіны да пачатку работы. Бо куды спяшацца? Калі недзе труп – дык пачакае, не збяжыць жа...

Трупаў у нас год ад году па-рознаму. Калі не лічыць «недапалкаў» – аматараў пакурыць п'янымі ў ложку, абгарэлыя косткі якіх пасля знаходзяць у тых жа ложках, – такіх да дзесяці за год бывае. А па крымінальнай частцы – тры-чатыры. П'яныя бойкі... І сын бацьку, і сужыцелька мужыка, і між сабой сябры-таварышы не падзеляць чаго, як пераП'юць. Хаця, калі ўзняць справы хоць бы пяцігадовай даўніны, хапае і сапраўдных трагедый. Ды вось два гады таму жанчына мужа былога – касой і ў калодзеж. Не анекдот, так і было: якраз прынёс сусед наклёпаную касу – ёй і шмарганула па шыі мужыка, калі той прылёг у двары на лаўцы адпачыць пасля няўдалае спробы гвалтавання. Расследаваць, па сутнасці, не было чаго: калі з сухога калодзежа суседняга закінутага двара пачало смярдзець мярцвячынай, жанчына прызналася ва ўсім. Запісваў яе паказанні, старонка за старонкай паўставала перада мной яе жыццё, і не верылася, вось далібог, не верылася, каб дэградацыя чалавека (то я пра яе былога мужа кажу) магла праходзіць з такой неймавернай хуткасцю... З жанчынай, якую цікавіла цяпер толькі адно – будучыня дачкі, падоўгу размаўляла сама Тамара. Пасля выкурвала ў сваім кабінеце па дзве цыгарэты запар.

– Законы... Законы! – выгуквала яна, страсала попел так, што той ляцеў ва ўсе бакі ад попельнічкі. – Сістэматычна збіваў, двойчы гвалтаваў пасля разводу ўжо, зневажаў прылюдна, апошні раз збіў і амаль згвалтаваў на вачах дванаццацігадовай дачкі, – а нельга кваліфікаваць яе дзеянні станам афекту!

Так, нельга было. Тым больш, пасля таго, як адхрыпеў і заціх мужык, яна разам з дачкой зацягнула труп на суседскі падворак і перакінула ў высахлы калодзеж. Яшчэ і галлём зверху прыкінула... Жанчына сядзела

ў маім кабінеце, не жанчына, а бясполая істота з толькі адным жывым інстынктам – мацярынскім, бы і не чалавек ужо, і сам я злаваўся немаведама на што: жанчыне цяпер трэба доктар, сапраўднае лячэнне, а яе чакае зона гадоў на дзесяць...

«Дзясятку» яна і атрымала, але праз паўгода ўнеслі змяненні ў азначэнне таго самага стану афекту. Ніколі раней не бачыў такой радаснай Тамары:

– Я даўно казала, даўно: стан афекту можа быць выкліканы шэрагам падзей, разнесеных у часе, і доўжыцца не хвіліны, а дні і тыдні! Дайшло да іх, нарэшце! Гэтулькі жыццяў скалечылі!

Яна сама вярнула справу жанчыны-забойцы на паўторны разгляд у суд. І жанчыну вызвалілі на судовым працэсе.

Чамусьці менавіта той выпадак згадваецца мне між позіркам на высвечаны нумар і націсканнем кнопкі адказу.

– Слухаю, Тамара Сяргееўна.

– Васіль, ты ідзеш? – хрыпата пытае пракурор.

– Іду, Тамара Сяргееўна! – асцярожна адказваю я, імкнуся па тоне ўгадаць прычыну нечаканага званка. – Дзесяць хвілінаў – і буду.

– Ага, давай... Не пужайся, усё добра... Я тут сяджу, чакаю... заходзь да мяне адразу.

На душы лягчэе. Ну і цудоўна. А чакае... ну, няхай пачакае. Галоўнае – голас спагадлівы і дадала, што ўсё добра. Наша Тамара не з тых начальнікаў, якія хаваюць камяні за пазухай. Калі што не па ёй, яна не будзе выбіраць час і месца, трымаць нешта на ўсякі выпадак. Сказала не пужацца – значыць, учорашняе застолле не нясе для мяне непрыемнасцяў.

Калі мне паведамілі, што накіроўваюся следчым у пракуратуру, якую ўзначальвае жанчына сарака пяці гадоў, асаблівых эмоцый у мяне не ўзнікла. Бо жанчыны-пракуроры – даўно вядомая практыка. І, як сведчыла неафіцыйная статыстыка, ступень іх сцярвознасці нічколькі не пераўзыходзіла ступень ссучанасці мужчын-пракурораў. Карацей, як пашанцуе, то і з жанчынай-начальнікам можна жыць, а як не – дык не...

Мне пашанцавала. Тамара Сяргееўна, ростам вышэй за сярэдні, худая бы дошка, амаль без грудзей, з худым скуластым тварам, глыбока запалымі вачыма і тонкімі, злёгку падфарбаванымі вуснамі, падстрыжаная, як на мой густ, вельмі коратка для жанчыны, пры знаёмстве мне не ўсміхалася, але пасля кароткага запрашэння прысесці і такога ж аднаслоўнага загаду добра зачыніць дзверы палезла ў свой невялікі сейф і выцягнула адтуль пачатую бутэльку каньяку.

– Сядай, – зусім па-хатняму стомлена запрасіла яна (быў канец працоўнага дня), дастала з шуфляды два стограмовыя кілішкі, нейкія занадта старыя, з зялёнага шкла, расшыраныя кверху, з выкручастым узорам па краях. Наліла па траціне, кіўнула: – Бяры, не саромся. У нас тут па-простаму.

Паводзіны пракурора, яе знешні выгляд нечакана выклікалі ў мяне асацыяцыю з некалі прачытанай гісторыяй пра царыцу Тамару. Як высвілася, такое было не толькі ў мяне, таму ў пракуратуры Тамару Сяргееўну за вочы так і клікалі, нязвычна па імені – Тамара, быццам падкрэслівалі кароткім зваротам уладнасць і вялікаснасць асобы гэтай жанчыны.

Выпілі, яна тут жа закурыла (вялікая цяжкая попельніца з зялёнага шкла займала на яе стале такое ж пачэснае месца, як і перакідны каляндар) і паўтарыла:

– У нас тут па-простаму. Калі будзеш даносіць – пачынай адразу, вось

табе і першы факт, – без усмешкі кіўнула яна на бутэльку. – Будзеш свалачыць – вылічу і выкіну. Тут толькі адна сволач можа жыць – я сама. Мужчынам не дарую аднаго – калі ратуюць сваю скуру, топячы іншых. Астатняе можна зразумець. Налівай цяпер сам...

І насамрэч, у пракуратуры адносіны былі дастаткова простымі і празрыстымі. Першую праверку на вашывасць я прайшоў ужо праз тыдзень: у маім кабінеце выпівалі, ужо не помню з якой нагоды, усім складам. Мне патлумачылі два простыя правілы: першае – выпіваць будуць заўсёды ў кабінеце самага малодшага, другое – прыбіраць пасля выпіўкі дазволена толькі раніцай і толькі гаспадару кабінета. Калі першае было дастаткова зразумелым, то слушнасць другога я дапяў, калі назаўтра прыйшоў за гадзіну да пачатку работы, адчыніў фортку і стаў прыбіраць. Дарэмна было ўспамінаць, як і калі так атрымалася, але ж на факсе тэлефанаграмы ляжалі некалькі скрылікаў падсохлага сычужнага сыру. Учора яны б дакладна апынуліся разам з дакументам у сметніцы. Шукаў бы потым...

Заскочыў у свой кабінет, адчыніў фортку: смурод з сумесі тытунёвага дыму, гарэлкі, часночнай каўбасы (яе чамусьці вельмі паважаюць у пракуратуры) і яшчэ не разабраць чаго быў густым, хоць па сценках размазвай. Прымкнуў дзверы і пайшоў на другі паверх да Тамары. Як і думаў, яна сядзела за сваім сталом і курыла. Заўважыла мяне, махнула рукой – прычыні дзверы, нахілілася і дастала бутэльку.

– Кажуць, не станеш алкаголікам, пакуль не навучышся піць адзін, – казала яна, наліваючы ў тыя самыя шклянкі з узорам па краях. – Безумоўна, гэта глупства, але ж вось не магу адна. А пахмяліцца трэба... Старая стала зусім, колькі там учора выпіла, а галава, як цэбар, і ў роце страшна... Бяры!

Мы выпілі, Тамара пасунула мне попельніцу.

– Ты справу па трупеню-тапельцу закончыў?

Тое, што яна пачала размову са справы, падказала: патэлефанавала яна не толькі з жадання пахмяліцца разам.

– Закончыў, – кіўнуў у адказ. – Заключэнне паправіць крыху...

– Паправіш... – Тамара паказала позіркам на бутэльку: – Давай яшчэ па адной... і больш не будзем. Выклікала кіроўцу, паедзем зараз...

– Трупень?

– Ён самы... Ты так і жывеш без дзеўкі? – неспадзявана спыталася Тамара.

– Ды неяк часу на іх няма, – адмахнуўся я.

– Ну, вось і пазаймаешся, – без усмешкі пажартавала Тамара. – Каб не забыўся, як баба выглядае... Вясковую маладзіцу, 27 гадоў, знайшлі голай на ячменным полі. Як табе?

– Ого! – здзівіўся я. – Цікава... А дзе такія жарсці?

– Ляўдок... Ведаеш?

– Не давялося пакуль пабыць...

– Дваццаць кіламетраў па трасе, крыху ўбок. Была вёска сярод лесу, засталося пяць хат жывых... Але ж гадоў восем таму нехта першы аблюбаваў сабе хатку пад дачу. Ну і панеслася. Хоць ніяк не зразумею, дзе там цікавае: лес ды поле. Рачулка – вераб'ю па калена. Але факт: сёння там невялікі дачны пасёлак; праўда, дамкі сціплыя... Збіраюцца, адпачываюць, памідоры-трускалкі...

Завібраваў тэлефон на стале, Тамара зірнула, ціснула кнопку і коратка адказала: «Чакай».

Сама наліла яшчэ па колькі ў чаркі.

– Кіроўца прыехаў... Ты скажы, як мы на ўмоўнасцях пападаемся... От кажуць: трэба тры выпіць. І спыняцца на дзвюх ужо і няправільна, супраць нечага ідзеш... Давай, налі і чайнік уключы. Кавы пап'ем. Аператыўнікі выехалі паўгадзіны таму... Зараз, адзванюся ім...

Праз паўгадзіны мы ўязджалі роўнай лясной дарогай у вёсачку Ляўдок. Нас сустрэў ля першай хаты ўчастковы, мужчына гадоў сарака, з вялікім пукатым жыватом, мажны, амаль лысы. Фуражку ён трымаў у руцэ, не стаў яе надзяваць, калі мы прыпыніліся. Лысіна ягоная была ў дробных кропельках, хоць дажджу не было, роўнае шэрае неба ўзнялося вышэй.

– Добрай раніцы, Тамара Сяргееўна, – павітаўся ён.

– Здароў, Тумар, – адказала пракурор. – Добрыя ты нам раніцы падганяеш... Гэта мой следчы...

– Ведаем, ведаем, – участковы моцна paціснуў мне руку, і яго далонь, насуперак майму прадчуванню, аказалася сухой і шурпатай.

– Далёка яшчэ? – пацікавілася Тамара.

– Тут пешкі трэба, метраў пяцьсот, Тамара Сяргееўна, – завінаваціўся ўчастковы, быццам ён адказваў за тое, дзе цяпер знаходзіцца труп.

– Аператыўнікі там?

– Там... Чакаюць...

– Чаго чакаць? – у спіну ўчастковаму, які павярнуў на сцяжынку ўздоўж агарода, строга спытала Тамара. – Мамку?

– Ды там... там пабачыце, Тамара Сяргееўна, – незразумела адказаў участковы, але Тамара, на здзіўленне, пытанняў задаваць не стала. Мабыць, доўгая практыка падказвала: калі нечага чакаюць – так, значыць, і трэба.

– Забітая – мясцовая, з вёскі, – казаў, гучна заглытваючы паветра, участковы. – Жыла з бацькам, той зусім стары, даглядала. Не замужам, 27 гадоў. Працавала санітаркай у бальніцы. Нідзе не была заўважана, ціхая, нават дзікая. Ды яны з бацькам жылі... асобна ад усіх. Труп пабачыла першай гаспадыня поля, іх суседка, старая баба. Выйшла да ветру за хлеў – ляжыць.

Спыніліся.

Тры аператыўнікі стаялі, як мне падалося, у крыху разгубленым чаканні, на мяжы ячменнага поля. Бліжэй да нашай мяжы, метраў за дзесяць ад яе, сярод невысокіх тонкіх парасткаў ячменю на жываце ляжала жанчына. Левая рука выкінутая далёка наперад, правая сагнутая ў локці, адведзеная крыху назад. Правая нага сагнутая ў калене, левая – выцягнутая. Твару не відаць, галава павернутая на левую руку. Чорныя валасы, кароткая стрыжка. Маладое, дужае цела быццам раптоўна застыла ў кароткім перадыху.

– Не дапаўзла, – услых агучыла маю думку Тамара. – А што здарылася яшчэ, чаго стаіцё, не працуеце?

– Ды вось... – кіўнуў на труп начальнік крымінальнага вышуку. – Слядоў няма. Учора бабця паскародзіла ячмень.

І ўжо разам з намі, невядома ў каторы раз некалькі пар вачэй пільна ўглядваліся ў ляжачую жанчыну і лапік зямлі вакол. Да яе і назад ішоў толькі адзін ланцужок слядоў – кагосьці з аператыўнікаў. А больш – нідзе не слядочка. Пабаранаванае поле з парасткамі было роўненькім, як кантрольна-следавая паласа на дзяржаўнай мяжы.

– Ну не з неба ж яна ўпала, – раздражнёна запярэчыла Тамара – яна

заўсёды раздражнялася, калі чамусьці не магла знайсці тлумачэння, – і пачала абыходзіць труп па коле на вялікай, у некалькі метраў, адлегласці.

– Няма слядоў... – ужо без здзіўлення і раздражнення канстатавала яна, калі вярнулася на месца. – Што скажа мой малады геній вышуку? – спытала без усмешкі.

– Трэба... вынесці труп на мяжу... пасля фатаграфавання, – прапанаваў я. – Са слядамі потым разбярэмся.

– Ага, разбярэмся, – пагадзілася Тамара, дастала цыгарэты. – Хлопчыкі, прымайцеся за справу... Першы раз пачынаю з нейкай чартаўні, – Тамара выдыхнула дым. – А якая крамяная дзеўка, га, Васіль? Чаму забіваюць прыгожых?

Яна не чакала адказу, дый што я мог адказаць? Што не абавязкова прыгожых? Розных бачылі...

## 2.

Нават калі вельмі доўга хадзіць па крузе, вынікам стане толькі вытаптаная сцежка.

З адным аператыўнікам мы хадзілі вакол трупа па спіралі, усё пашыраючы кола, і ўважліва ўглядаліся сабе пад ногі. Роўная зямля з характэрнымі бараздкамі пасля баранавання. Ячмень яшчэ не падняўся высока, ды і пасеяны быў радкамі, у ім не магло хоць нешта схавацца ад нашых позіркаў. Нідзе не тое што следу, а нават намёку, што тут нехта хадзіў.

За нашым кружляннем па полі з маўклівым дакорам назірала ад свайго хлява гаспадыня – бабулька сталага веку, апранутая ў чорную сукню. Стаяла, крыху прыгнуўшыся наперад, абапіраючыся на таўставаты кіёк. Было сорамна: топчам усходы. Мабыць жа, учора бабулька нямала пабегала, каб знайсці гаспадара з конікам, нямала ўлагоджвала, каб выскарадзіў чыста зелле, а ячмень каб не пацярпеў. І вядома ж, ставіла бутэльку на стол, смажыла яечню, кроіла тоўстымі кавалкамі магазінную каўбасу, якую так і не навучылася рэзаць па-гарадскому – тонкімі акуратнымі скрылікамі. Ды і навошта вучыцца, калі кавалак павінен быць на кавалак падобным, каб было што ў рот пакласці рабочаму мужчыну. А мы вось цяпер топчамся, ходзім па яе полі, як па сваім двары...

– Ну як? – узняла на мяне вочы Тамара, калі падышоў да яе пасля таго, як наша спіраль дайшла да ўтравелага ўзмежжа.

– Д'ябальшчына нейкая, – шчыра прызнаўся я ў сваёй няздольнасці хоць нешта патлумачыць. – Слядоў аніякіх. Нішто не паказвае на тое, што сляды, калі яны былі, нехта пасля заграбаў. З бараной ганяліся ад краю туды і назад па другім баку... Малюнак пасля зубцоў паўсюдна роўны, нідзе нічым не перапынены. Труп з'явіўся на ўжо пабаранаваным полі, – сказаў, каб нешта яшчэ сказаць, бо мне і самому падалася дурной думка пра тое, быццам нехта ўчыніў злачынства, пакінуў труп на полі, а сам стаў тое поле спакойна баранаваць.

– Будзем лічыць: з неба ўпала, – спакойна рэзюмавала Тамара, дастала цыгарэты. – А голая таму, што якраз на мятле ляцела, як тая... як яе, Маргарыта, так?

Я цішком глянуў на Тамару – жартуе яна ці што? Як яе разумець?

– Тады мятлу знайсці трэба.

– Халера з ёй, кажу, – загадна прамовіла Тамара і пільна паглядзела

на мяне. – Не тлумі галаву тым, што не можаш патлумачыць адразу, тым больш, ніякай карысці з таго тлумачэння не будзе...

– Чаму не будзе? – заўпарціўся я.

– Таму... Відавочна: смерць напаткала яе тут. Значыць, на поле прыйшла сама. Неяк прыйшла, але сама. Калі б яе сюды прынеслі – павінны, па-першае, несці ўдвух, бо не такая яна худзенькая. А калі б і адзін нёс, дык тут не сляды засталіся б, а яміны. І няма сэнсу несці забітую на чыстае поле, класці пад вочы людзям, ды яшчэ рукі-ногі выкладаць узорам. Усё лухта. Адкуль яна ішла? Вось пытанне, дзе ўсе адказы. Шукай...

– Ды разумею, – павініўся я.

Калі бачыў многа трупаў, не мёртвых у трунах, а менавіта трупаў, застылых у сваіх апошніх рухах, то лёгка адрозніць мёртвага чалавека ад проста знерухомелага. Асабліва труп без адзення. Але жанчына на мяккай посцілцы баранаванай зямлі ўдавала з сябе жывую. Настолькі жывую, што цягнула падысці і прыкрыць сваім пінжаком яе аголеныя сцёгны. Было няёмка... Здаровыя мужыкі стаяць над голай маладзіцай, якая сцішылася, утаймоўвае сваё дыханне, бо бачна ж, як цяжка даліся ёй апошнія метры поўзання па полі...

Але ж... невялікая дзірка ў вобласці рэбраў з кароткім засохлым крывавым падцёкам падказвала ўсім нам, хто не першы раз бачыў такія раны: жанчына – мёртвая.

Кажуць, калі чалавек памірае на руках, дык момант смерці вельмі проста вызначыць: цела яго раптоўна становіцца больш важкім. Не было ў мяне выпадку праверыць тое на практыцы, ведаю адно: мярцвяк заўсёды цяжкі. Смерць напаткала гэтую жанчыну зусім нядаўна: яшчэ ніколькі не спруцянелі мышцы яе рук і ног, яны лёгка разагнуліся, калі мы перавярнулі труп на спіну.

Цяпер я зразумеў сапраўднасць Тамарыных слоў наконт прыгожых, якіх забіваюць. Стан дзяўчыны быў бездакорны. Праўда, нехта мог бы давесці, што яна залішне тоўстая для свайго ўзросту, але менавіта такіх прыгажунь, кажучы сённяшняй мовай, рэкламаваў Кустодзіеў: паўнацелых, здаровых ва ўсіх сэнсах, калі і сцёгны – каб дзяцей нараджаць без страху, і грудзі – каб малака хапіла на тройню. Адно валасы каротка падстрыжаныя.

І спакойны твар. Заплюшчаныя вочы, сціснутыя вусны. Далібог, так паміраюць у сне, без болю і тугі.

– Вось дык маеш... – прысвіснуў старшы з аператыўнікаў. – Тамара Сяргееўна, рана скразная. Уваход з правага боку, а выхад – вось, – аператыўнік пацягнуў труп за руку і павярнуў цела на правы бок.

Другая невялікая рана была амаль без слядоў крыві, але дастаткова выразнай, каб казаць пра тое, што яна звязана з ранай на правым баку.

– І што такое можа быць? – Тамара амаль не выказала свайго здзіўлення, памацала рану пальцам. – Не надта вострае, атрымліваецца, скуру быццам парвала, а не разрэзала...

– Ды вось першае ў галаву прыйшло, – шомпал, – адказаў аператыўнік.

– Тады хутчэй нейкі самаробны шампур. Насадзілі яе, як кавалак мяса, – не згадзілася Тамара. – Уваходная адтуліна велікаватая для шомпала. Дакладна эксперт скажа. Прыкрыйце чым яе... – нечакана папрасіла Тамара. – Занадта яна... жывая.

Пракурор павярнулася да мяне з працягнутымі рукамі, я дастаў з кішэні пачак вільготных сурвэтак і выцягнуў дзве – сабе і ёй.

Калі труп загрузілі ў машыну аператыўнікаў, Тамара прысела на вялікі шэры камень, які відавочна выцягнулі на ўзмежжа з поля, і коратка прапанавала:

– Выказваемся.

– Маем труп голай бабы, няйначай ведзьмы, – скрывіўся ў спробе ўсміхнуцца адзін з аператыўнікаў.

– Ну, яна не ведзьма, – нечакана ўмяшаўся ўчастковы Тумар. Ён працёр сваю вільготную лысіну, але фуражку чамусьці не надзяваў. – Ва ўсякім разе, людзі нічога такога не казалі пра яе. А вось бацька – так.

– Што – так? – папрасіла ўдакладніць Тамара.

– Бацька яе – у мінулым вядомы вядзьмак, лячыў людзей, а больш – скаціну. Дзяцей ад спалоху адшэптваў. Казалі, мог і зелле для жанчын прыгатаваць, каб мужыка ўтрымаць ля сябе, – нехаця распавёў Тумар. – Ды не глядзіце на мяне так! Вядзьмак – ён і ў нас вядзьмак, і ў Афрыцы. Сам у яго гадоў колькі таму з жыватом быў. Так хапіла было жывот – нічога рады даць не магло, і дактары рукамі развялі.

– І чым лячыў? Шаптаў можа? – пакпіў нехта.

Тумар зірнуў на аператыўніка, які задаў пытанне, сарваў травінку і стаў, кусаючы яе, расказваць з лёгкай крыўдай, бы дзіця, якому не вераць:

– Як чалавек здаровы – ён з усяго смяяцца можа. А як прыцісне, калі стане не да смеху – пабяжыш, папаўзеш хоць да ведзьмака, хоць да чорта лысага. Кажу праўду: так скруціла было – ні халеры не дапамагала. На хуткай прыехалі, праверылі: апендыцыту – няма, тэмпературы – няма, панос не ганяе. Ляжы, цярпі, будзем назіраць незразумелую клінічную карціну! Ага, уляжыш... Мяне зяць у машыну закінуў – і паехалі. Зміцер... ну, вядзьмак, бацька вось забітай, мне адвару нейкага даў папіць, бы з грушак. А пасля на печ загнаў. І кажа: злазь, галавой і рукамі наперад.

– Як? Спаўзаў?

– Ну так, спаўзаў. З печы – на палок, з палка – на падлогу, тады ўжо ўстаў...

– І як? – першы раз за ранне ўсміхнулася тонкімі сухімі вуснамі Тамара.

– Ды пайшоў, як нованароджаны, – бы нехаця закончыў Тумар, і зірнуў на Тамару: – Не верыце?

– Чаму тут не верыць? – паціснула плечукамі Тамара. – Мая бабця свайго сына, майго дзядзьку так лячыла. Нескладанае вядзьмарства. Так лечаць, калі пуп надарвеш. Цяпер ужо і не ведаюць мужыкі, як тое і дзе – пуп надарваць. А раней... Так, давайце бліжэй да справы. Вядзьмак не ўцячэ ад нас. Адна-адзінюткая рана, ніякіх сінякоў, драпінаў. Голая. З'явілася ноччу. Значыць, шукаем мужчыну. І думаем, чым такім маглі ўдарыць. Давай, Тумар, кажы найперш пра яе каханка.

– Не скажу, – паморшчыўся Тумар, бы ад кіслага. – Не было ў яе каханка.

– Такая жанчына вабная – і каб кавалера не было?

– Ды яна мужык мужыком была! – адчайна выгукнуў Тумар прызнанне, быццам сам быў вінаваты. – На косы яе гляньце – пад хлопца падстрыжаная. Яна такой і хадзіла, як мужык апраналася. Калі яшчэ зусім дзеўкай была, дык адно з дзяўчатамі сябравала. Тады ўжо на яе паглядалі з насцярогай, маткі дзяўчатам казалі, каб з ёй не сябравалі. Пару разоў было, хлопцы да яе спрабавалі падысці-пад'ехаць на гулянках, дык дарэмна. Не, я колькі за ёй назіраю...

– І з чаго ты за ёй назіраць стаў? – перапыніла Тамара.

– Ды... – не разгубіўся Тумар, – цікава ж. То чытаеш, кіны глядзіш, дык там усе гэтыя... ненармальнасці толькі ў гарадскіх бываюць. А тут вось – хутар забіты, лес вакол, і такое.

– Прырода не выбірае: горад ці вёска, – умяшаўся старшы аператыўнік. – Значыць, маем актыўную лесбіянку.

– І трэба шукаць сяброўку...

– І сяброўак не было ў яе, – цяпер ужо са шкадаваннем паведаміў Тумар. – Цураліся яе. Хоць вось са мной яна была вельмі паважнай. Разумніца.

– Трэба капаць сярод знаёмых...

– Не спадзявайцеся на прастату, – Тамара ўзнялася, абтрэсла-абцягнула вузкую спадніцу. – Працуйце, ведаеце самі, што рабіць. Мне праз гадзіну ў турму, на разбіральніцтва скаргаў. Будзеце анатаміраваць, запрасіце загадчыцу гінекалагічнага аддзялення нашай бальніцы Раісу Ананьеўну. Бацьку распытайце асабліва.

– Ужо як атрымаецца, – уздыхнуў Тумар. – Слабы зусім. Амаль і не гаворыць. А як там з яго галавой і чаму верыць...

Мы заехалі ў сельвыканкам, я папрасіў сакратара, каб падрыхтавалі і да вечара перадалі звесткі пра ўсіх жыхароў вёскі. Папярэднія размовы з мясцовымі і з бацькам забітай будуць весці аператыўнікі. Мяне чакаў кабінет: папяровая работа, трэба было тэрмінова заканчваць заключэнне па тапельцу, а найперш прыбрацца. Хоць сонца і не было відаць, у паветры адчувальна пацяплела. Жах падумаць, якія водары там...

Але, на здзіўленне, пах у кабінеце быў амаль нармальным: выцягнула ўсё праз фортку. На навядзенне парадку патраціў хвілінаў дваццаць, нават бутэлькі паспеў вынесці, балазе, вялікі кантэйнер для смецця стаяў непадалёку ад будынка пракуратуры. Яшчэ з гадзіну выпраўляў-дадрукоўваў паперы. Невядома, як цяпер закруцяцца справы з забойствам...

Папярэдне дамовіўшыся з галоўурачом Віктарам Паўлавічам пра сустрэчу, бліжэй да абеду паехаў у раённую бальніцу.

Мне ўжо даводзілася сутыкацца з Віктарам Паўлавічам і па справе, і ў неафіцыйных абставінах. Імпанавала яго манера трымацца – інтэлігентна, сціпла, і адначасова з годнасцю. Хударлявы, заўсёды чыста выгалены і акуратна, каротка падстрыжаны, з вялікай залысінай. Нягледзячы на сваю адміністрацыйную занятасць, займаецца хірургічнай практыкай. Дарэчы, мясцовае насельніцтва яго паважае: кажуць – як галоўурач разрэжа, дык зажыве хутка. Паважаюць яго і ў бальніцы, прынамсі сярэдні і малодшы медперсанал. Адна з рыс галоўурача – заўсёды вітаецца з усімі ў аддзяленнях: аднойчы спытаўшы прозвішча і імя, адразу запамінае, і ў наступны раз звяртаецца па імю, а тое вельмі падабаецца і маладым медсёстрам, і распаўнелым санітаркам.

Асаблівую павагу сярод моладзі і пэўнай часткі разумнейшых немаладых супрацоўнікаў Віктар Паўлавіч здабыў у мінулым годзе. Тады стаяла неймаверная гарачыня, медсёстры ў бальніцы мусілі ратавацца, надзяваючы свае халаты на голае цела. А тыя халаты – з сінтэтыкі белай, то не касцюмы ўрачоў са шчыльнай зялёнай тканіны. Дык трусы і станікі жанчын, якія дастаткова сэксуальна падкрэслівалі вабныя формы ў большасці медработнікаў, выклікалі ў асобных пурытан, як мужчынаў, так і жанчын, літаральныя прыступы шаленства. Дайшло да таго, што пасыпаліся скаргі ад найбольш пільных грамадзянаў у райвыканкам.

Тамара расказвала, што на адной апаратнай нарадзе старшыня райвыканкама, той яшчэ самадур, накінуўся на галоўурача: развёў бардэль, медсёстры амаль голыя ходзяць. На гэта Віктар Паўлавіч выслухаўшы з'едлівыя абвінавачанні і патрабаванні неадкладна навесці парадак, спакойна адказаў: «Згодна з санітарнымі нормамі, медыцынскі персанал павінен пераапранацца ў спецадзенне, знімаючы сваю вопратку. Мы атрымалі тыя медыцынскія халаты па лініі гуманітарнай дапамогі пяць гадоў таму. Грошай, якія былі выдзеленыя на спецадзенне за мінулыя пяць гадоў, хапіла толькі на касцюмы пяці маладым урачам. Іншыя даношваюць старыя ці купляюць пры выпадку касцюмы за свае грошы. Калі мне сёння пералічаць патрэбныя мільёны (тут галоўурач назваў суму з дакладнасцю да рубля), заўтра ўвесь медперсанал будзе апрануты згодна з патрабаваннямі санітарыі і дыенталогіі. У адваротным выпадку медсёстры будуць насіць тыя самыя празрыстыя халаты, якія сталі празрыстымі з прычыны цалкам выпрацаванага рэсурсу і распаўзаюцца літаральна на вачах». Кіраўнік раёна быў уражаны менавіта дакладнай лічбай і, каб годна выйсці з сітуацыі, тут жа падняў начальніка фінаддзела і запатрабаваў знайсці хоць колькі грошай. Пазней нехта казаў, што сам галоўурач крадком заахвоціў медперсанал насіць халаты на голае цела, каб нарэшце атрымаць грошы, якія выбіваў пяць гадоў.

Віктар Паўлавіч сустрэў мяне ў сваім кабінеце з ужо прынесенай на яго загад асабістай справай. Яшчэ калі я тэлефанаваў яму, ён ужо ведаў пра смерць сваёй работніцы. І цяпер выглядаў вельмі засмучаным.

– Грыцук Насця... Вельмі шкада, шчыра кажу. Моцная маладая жанчына, не грэблівая. Угаварылі працаваць у хірургічным аддзяленні, там і сіла ў руках трэба, і самі разумееце, якія бываюць людзі пасля аперацыі, – пасля паціскання рукі прапанаваў мне сесці галоўурач, і пасунуў да мяне тонкую папку – асабістую справу. – Там усё чыста.

– Віктар Паўлавіч, мне, самі разумееце, пакуль трэба як мага больш даведацца пра... вашу былую работніцу.

– Асабіста магу адзначыць толькі наступнае: старанная, выключная выканаўца, ніякіх заўваг па рабоце, ніякіх эксцэсаў з хворымі. Працуе... працавала пяць гадоў. Сустракаўся з ёй я часта, бо мой профіль – хірургічны. Маўклівая, няўсмешлівая, але ветлівая. Вы б хацелі пагаварыць з усім персаналам, як я разумею? Магу саступіць вам свой кабінет, тут не перашкодзяць.

– Дзякуй вам, Віктар Паўлавіч, напачатку я хацеў бы пагаварыць са старшай медсястрой...

– Я запрасіў і яе, і загадчыцу аддзялення. Яны павінны падысці... – галоўурач пацягнуўся да кнопкі апарата: – Андрэеўна, калі ласка, запрасіце да мяне старшую медсястру хірургічнага аддзялення. І загадчыцу адразу, – аддаў ён распараджэнне сакратарцы.

У расчыненых дзвярах з'явілася жанчына гадоў сарака ў белай шырокай куртцы і такіх жа белых шырокіх штанах, і я не мог для сябе не адзначыць тое, як галоўурач прыўзняўся, жэстам паказаў жанчыне на крэсла ля стала:

– Праходзьце, Ганна Антонаўна. Гэта, – ён павярнуўся да мяне, – следчы пракуратуры. Ганна Антонаўна – старшая медсястра хірургічнага аддзялення. Прычыніце дзверы, калі ласка.

Я прыўстаў таксама, і, унутрана задаволены сваім выхаваннем, злёгку нахіліў галаву, вітаючы жанчыну.

– Ганна Антонаўна, вы, думаю, здагадваецеся, з якой прычыны ў нас такія... госці і чаму я вас паклікаў. Мне вас пакінуць сам-насам? – зірнуў на мяне Віктар Паўлавіч.

– Не, дзякуй, не трэба. Тут не допыт, хачу папярэдне пагутарыць. Праўда, фармальнасці нейкія трэба выканаць, таму прашу вас, – звярнуўся я да жанчыны, – ваша прозвішча, дзе жывяце, пасада...

Ведаю, наколькі такі вось момант напружвае і часам нервуе чалавека – калі ты пачынаеш уносіць у ліст апытання біяграфічныя даныя. Мне і самому не падабаецца, але трэба...

– Ганна Антонаўна, Віктар Паўлавіч коратка, але дастаткова змястоўна выказаўся наконт Насці Грыцук. Што вы можаце сказаць пра яе як работніка, як чалавека?

– Ды добрая работніца... была, – уздыхнула з усхліпам зусім па-бабску медсястра. – Ніяк не верыцца... Адказная. Ніколі не трэба было падганяць. Зноў жа, як да хворых, дык не заўважалася, каб адным увага, а другім абы зрабіць. Для яе ўсе роўныя былі – ці малады хлопец з грыжай, ці стары дзед з гемароем. Дужая, сама амаль заўсёды спраўлялася, калі пад цяжкім кім прасціны памяняць ці самога памыць. Не, не магу нічога дрэннага згадаць.

– А які яна была чалавек? Як у калектыве?

– Ну што... звычайна... Не канфліктавала. Ну... папраўдзе, яна ні з кім асабліва не сябравала. Убаку ад усіх, хоць калі які стол агульны на свята, дык не цуралася. Трошкі дзікаватая як быццам. Але не сквапная. Не гаваркая, але ж і не маўчун які, бяседу падтрымае. Такая вось... ціхая, спакойная. Можа, занадта спакойная. Надта не пасмяецца, але і раздражнёнай яе не бачылі. Усё больш у сабе хавала, відаць, былі ў яе нейкія іншыя цікавасці. Сярод санітарак толькі яна ў такім узросце, астатнія – амаль пенсіянеры. Ну, а з медсёстрамі... У нас, ведаеце, ёсць трошкі такое... ведаеце, прафесійнае. Калі медсёстры больш між сабой, малодшы персанал – між сабой...

– Зразумела, дзякуй... А як жанчына? Яна не была замужам. А жанчына ж статная, на твар – прыгожая. Характар, як вы кажаце, роўны, спакойны. Чаму яна не была замужам? У яе быў мужчына, не ведаеце? Прыходзіў да яе хто?

– Ой, тут і не ведаю, як казаць, – замарудзіла з адказам медсястра.

– Кажыце, як ёсць, – супакоіў-падахвоціў я. – Для нас самая нязначная дробязь можа стаць важным фактам. Кажыце, як думаеце, калі не ведаеце.

– Дык не было ў яе мужчыны, дакладна, – з уздыхам, асцярожна пачала Ганна Антонаўна. – Як прыйшла была пяць гадоў таму, то пыталіся ў яе часам, жартавалі: давай табе хлопца знойдзем. А потым... не ведаю, ці казаць... Заўважыла я аднойчы, выпадкам, як яна глядзела на адну медсястру, калі пераапраналіся, на змену прыйшоўшы.

– Як глядзела?

– Ды так вось... Як мужчыны глядзяць, – зноў уздыхнула Гана Антонаўна. – А пасля і нашы ўсе пагаворваць сталі, што... ну, цікавіцца Насця жанчынамі. Дык з ёй трошкі асобна сталі трымацца. Бо дзіка ж. Пасля прывыклі, ды яна і не прыставала ні да кога... з нашых, не заўважалі. Але вось як пераапранацца, дык з ёй неяк і саромеліся. Адна яна заставалася.

Жаночы голас праз селектар перапыніў нашу размову:

– Віктар Паўлавіч, тут Святлана Мікалаеўна чакае...

Галоўурач запытальна павярнуўся ў мой бок, і я паспешліва кіўнуў:

– Запрасіце.

Святлана Мікалаеўна – як я зразумеў, загадчыца аддзялення – зайшла ў кабінет. Глыбока пасаджаныя вочы і выразныя цёмныя кругі з адвіслымі складкамі пад вачыма надавалі яе твару стомлены, нават непрыгожы выгляд. Больш за тое, мільганула думка: жанчына толькі выйшла з запою. Але пастава яе, тое, як яна прысела на крэсла – упэўнена, але не з нахабнай самаўпэўненасцю, – а больш яе ўважлівы, прафесійна-дапытлівы позірк падказвалі мне, што паўкружжы пад вачыма – ад захворвання, магчыма, нешта з ныркамі. Ці сапраўды, ад стомы. Пасля таго, як я запісаў дадзеныя, асцярожна спытаў наконт цікавасці Насці Грыцук да жанчын.

– Так, я ў курсе яе сэксуальнай арыентацыі. Але Насця выключна сціплая ў гэтым плане. Яна – дастаткова разумная маладая жанчына.

– Была, – паправіў нехаця галоўурач.

– Так, была, – нечакана ціха пагадзілася загадчыца аддзялення і зірнула на мяне: – У Насці Грыцук не было ворагаў, я дакладна ведаю. Сяброў блізкіх не было таксама, але і ворагаў, хто б пайшоў на смертазабойства, не было. А што яе знайшлі, як тут кажуць, цалкам аголенай на полі – тое ўвогуле з вобласці ірэальнага.

– На жаль, рэальнасць, – паправіў я доктарку. – Мне трэба будзе паразмаўляць з кожным работнікам вашага аддзялення. Няўжо ў вашай санітаркі не было хоць якой сяброўкі, якой бы яна больш-менш давярала, з кім дзялілася сваім набалелым?

– Яе сяброўкі – у інтэрнэце, – упэўнена адказала Святлана Мікалаеўна. – Некалькі разоў я бачыла, як яна там бавіла час, карыстаючыся сваім тэлефонам. Звярнула ўвагу: у яе быў самы сучасны тэлефон. Яна мне пра тое сама казала, калі я пацікавілася. Шукайце там яе сяброў...

Мабыць, сакратаркі не было на месцы, бо дзверы асцярожна прыадчыніліся, галоўурач зірнуў на іх і тут жа запрасіў:

– Заходзьце, Раіса Ананьеўна...

Загадчыца гінекалагічнага аддзялення, невысокая жанчына перадпенсійнага веку, зайшла і разгублена агледзела прысутных, затрымаўшы позірк на мне.

– Следчы пракуратуры, – патлумачыў ёй галоўурач.

– Я тады скажу, усё адно яму даложаць, – нібыта сама сабе прамовіла жанчына, быццам набіралася смеласці, бо разумела: выдае прафесійную тайну. Аднак у навіне, якую прынесла ўрач, было нешта вельмі істотнае для яе самой, для кіраўніцтва і калектыву бальніцы, што здавалася больш важкім, чым правілы невыдавання.

Яна не стала сядаць і пасля кароткай паўзы прамовіла:

– Мяне выклікалі... Анатаміравалі нашу санітарачку. Дык вось... Насця Грыцук нарадзіла сама больш за трое-чацвёра сутак да сённяшняга дня. Маса маткі больш за 600 грамаў, невялікія разрывы яшчэ не зацягнуліся...

Яна абвяла позіркам усіх прысутных у кабінеце, і ў ім чыталіся выразныя асуджэнне і абвінавачанне.

Войкнула, не ўтрымаўшыся, старшая медсястра. Галоўурач нечакана густа пачырванеў, устаў і ціха спытаў, і было бачна, што спакойныя словы даюцца яму з цяжкасцю:

– Святлана Мікалаеўна, як так магло здарыцца? Я падпісваў паўтара месяцы таму яе заяву на два тыдні адпачынку без утрымання – у яе вельмі слабы бацька, так Насця патлумачыла ў заяве. А пасля ў яе быў

планавы адпачынак. Цяжарнасць... Яна павінна б была стаяць на ўліку ды і... Як не заўважылі?

Я назіраў за тварам загадчыцы аддзялення, на якім акрамя ўвагі да субяседніка нічога не адбілася. Яна адказала спакойна і ўпэўнена:

– Віктар Паўлавіч, калі жанчына пажадае, ёй няцяжка схаваць сваю цяжарнасць ад непатрэбных вачэй. Тым больш такой жанчыне, як наша Насця. У яе буйныя формы цела, пэўнае павелічэнне аб'ёму жывата лёгка прыкрыць адзеннем. Яна насіла касцюм, які даваў практычна поўную гарантыю трымаць цяжарнасць у таямніцы. Да пэўных тэрмінаў, зразумела, хоць ведаю выпадкі, калі жанчыны прыхоўвалі свой стан да апошняга тыдня. Трэба ўлічыць, дзеля спецыфічных адносінаў да Насці ў жаночым калектыве, яна, наколькі я ведаю, пераапраналася без сведкаў. Таму я не здзіўляюся факту ўтойвання цяжарнасці. Здзіўляюся таму, што яна зацяжарыла... улічваючы яе відавочныя лесбійскія схільнасці...

І ў той момант быццам нехта нябачны збоку нашаптаў мне прама ў галаву: калі б Насця Грыцук не нарадзіла, яна б засталася жыць.

## 3.

Нават самы бязглузды на першы погляд рытуал некалі быў важным і асэнсаваным дзеяннем.

Для Тамары курэнне даўно стала і патрэбнасцю, і рытуалам – я ў гэтым быў перакананы. Варта было толькі пабачыць, як яна нетаропка дастае наступную цыгарэту, нейкі час круціць яе ў руках, потым бярэ ў левую руку запальнічку, пстрыкае і зноў нейкае імгненне марудзіць, глядзіць на язычок полымя, і толькі потым прыкурвае. Зацягваецца, заўсёды два разы запар, і павольна выпускае дым тонкім струменем праз сціснутыя вусны. Потым адкладвае цыгарэту ў попельніцу, падсоўвае на сярэдзіну стала патрэбны ёй дакумент, апускае з ілба на вочы невялікія, у тонкай жоўтай аправе акуляры. Чытае, цыгарэта дыміць, дым выцягваецца ў расчыненае вакно...

Курыць яна пачала гадоў сем таму, адразу пасля разводу. Мясцовым пляткаркам развод пракурора з мужам, начальнікам буйнога ПМК, даў мала навінаў для плётак: няхай сабе Тамара і злавіла свайго мужа, як кажуць, на гарачым – нечакана завітала на дачу, дзе ён бавіў час са сваім эканамістам, – але скандалу ніякага не ўчыняла. Больш за тое, развяліся яны так, як даўнія сябры маглі б разабраць падстрэленага на паляванні секача: спакойна, памяркоўна падзялілі кватэру і іншую маёмасць, дамовіліся аб пытаннях далейшай дапамогі дзецям – старэйшая дачка ўжо працавала на той час у сталіцы настаўніцай, ёй збіралі грошы на кватэру, а малодшы сын вучыўся ва ўніверсітэце на трэцім курсе юрыдычнага факультэта. Праз год пасля разводу былы муж з усіх сілаў дапамагаў Тамары на дачы: прывозіў гной, шукаў гаспадара з конікам, каб узараць зямлю пад грады. Тамара большую частку зямлі засеяла травой, зрабіла адмысловую зону адпачынку з альтанкай і мангалам, але парнік з памідорамі быў заўсёдным на яе ўчастку. У пракуратуры пасля чэрвеня аж да позняй восені мы частаваліся памідорамі з таго парніка. Іншым разам Тамара брала ў былога мужа іх некалішні агульны аўтамабіль, а яму давала ключы ад дачы – на выхадныя ці ў які іншы дзень. І пры праверках выканання працоўнага заканадаўства яго ПМК не ставілася Тамарай пад асабліва жорсткі кантроль. Карацей, як

кажуць у такіх выпадках, разведзеныя муж і жонка засталіся сябрамі. Праўда ці не, але гуляла пагалоска, што адну ўмову Тамара паставіла надзвычай жорстка: муж перад разводам мусіў знішчыць усё з асабістых рэчаў, якія мелі дачыненне да іх сямейнага жыцця. Пачынаючы ад падараванай ручкі з сапраўдным залатым пяром і заканчваючы ношанымі шкарпэткамі і бялізнай. А вось ці захавала сама Тамара што-колечы са свайго мінулага замужняга жыцця, тое нікому не вядома. Як заставалася тайнай і яе асабістае жыццё пасля разводу: ніхто не бачыў пракурора ў кампаніі якога мужчыны ці ў горадзе, ці за горадам. Ну, калі не лічыць сустрэч па пракурорскіх справах.

Як мне расказвалі, Тамара практычна ніяк не змянілася, калі засталася адна ў кватэры. Такая ж, як і была: дзе трэба – стрыманая, дзе можна – дазваляла сабе разняволіцца. І адносіны да мужчынаў у пракуратуры не змяніліся. Толькі адно было новым: Тамара пачала курыць. І за апошнія гады, як сцвярджала наша сакратарка, звычка адбілася на Тамарыным твары: скура стала тонкай і дарэшты страціла сваю ружовасць, яшчэ больш завастрыліся скулы, нос і падбародак.

Уся сухаватая, з тонкімі кісцямі рук, са схуднелым тварам Тамара нагадвала драпежную птушку. І цяпер я міжволі ўзгадаў гэтае параўнанне: Тамара схіліла галаву над заключэннем медэксперта, і здавалася, яна не чытаць яго ўзяла, а вышукваць штосьці карыснае, ядомае, прыдатнае...

Тамара раз-пораз брала цыгарэту, зацягвалася, потым доўга дробным пастукваннем пальца па цыгарэце страсала попел – і ўсё чытала. Не, не чытала, я быў упэўнены: разважала. Нарэшце акуратна, бы шкляныя, паклала лісты заключэння медэксперта падалей ад сябе, наколькі хапала яе рукі. Як я і падумаў, дастала пляшку з рэшткамі каньяку і чаркі. Разліла ўвесь напой, зірнула ў акно, быццам там мог быць вывешаны дазвол на піццё. Міжволі я таксама зірнуў – за вакном выразна пашарэла, здавалася, вось-вось пойдзе дождж, але гэта было падманам, да якога немажліва было прывыкнуць.

– І што думаеш? – Тамара ўзяла чарку, не прапаноўваючы мне зрабіць тое ж: не маленькі, колькі мяне трэба запрашаць.

Я пацягнуўся за сваёй доляй, пакруціў кілішак у руках, каторы раз разглядваючы няроўны ніцяны ўзор:

– Мяне напружвае толькі адзін момант – чым яе забілі.

Тамара ўважліва глянула на мяне, быццам хацела ўпэўніцца, ці кажу я сур'ёзна, і працытавала на памяць радкі з заключэння:

– Уваходная адтуліна раны дазваляе зрабіць вывад, што прадметам яе нанясення стаў металічны, злёгку загнуты па дузе стрыжань круглай ці авальнай у разрэзе формы, каля двух сантыметраў таўшчыні, на канцы крыху завостраны. З улікам таго, што рана – скразная, прадмет меў даўжыню не менш за сорак сантыметраў. Што цябе непакоіць?

– Не магу даўмецца, які такі прадмет...

Тамара хмыкнула, адпіла крышку з чаркі.

– Вось што значыць не жыць у вёсцы... А той факт, што ўваходная адтуліна раны забруджаная рэшткамі самага звычайнага гною, табе нічога не падказвае?

– Тамара Сяргееўна! – усклікнуў я. – Не лічыце ж вы, быццам жанчыну насадзілі на гаспадарчыя вілы! У тых зубы ў два разы карацейшыя, адно. А другое... У целе толькі адна рана, аднак там як ні калі, астатнія зубы – мінімум яшчэ адзін – павінны былі пакінуць след.

– Ну і што? – паціснула плячыма Тамара. – Чаго ты чапляешся да ўсякай непатрэбнай на цяперашні момант дробязі? То адсутнасць слядоў табе спакою не дае... то вілы табе давай асаблівыя. Ну, кажу як ёсць: забойца мае вось такія вялізныя вілы... імі і забіў. А пасля ўзяў прыхаваны ў хляве паветраны шар, на ім прынёс і скінуў на поле цела. Разабраліся, будзем лічыць. Што па астатнім?

– Ну, калі так... – я пабоўтаў вадкасць у шклянцы, выпіў залпам, дастаў цыгарэты і, трошкі ніякавеючы ад сваёй нахабнасці, закурыў. – Калі так, то Насця Грыцук – інкубатар.

Тамара толькі незразумела паківала галавой, ці то згаджаючыся са мной, ці то асуджаючы маю думку.

– Працягвай, – прамовіла яна мякка, не загадна. – Што маем?

– Маем... Насця Грыцук, 27 гадоў, санітарка. Адзіная дачка ў сям'і. Маці памерла рана з-за траўмы ад падзення. Жыла з бацькам, простым вяскоўцам, работнікам мясцовага калгаса. Вучылася добра, але нічым асаблівым не вылучалася. Характарызуюць Насцю станоўча, падкрэсліваюць яе адасобленасць ад калектыву, хоць яна сябе калектыву не супрацьпастаўляла. Сяброў не было. Пасля школы пабыла на курсах ад цэнтра занятасці, уладкавалася ў краму прадавачкай. Працавала ў прыватніка, потым у райспажыўсаюзе. Характарыстыкі таксама добрыя. Сумленная, ураўнаважаная, халаднаватая ў адносінах. Ва ўсякім разе не ішла першая на кантакт. Пяць гадоў таму нечакана ўладкавалася ў бальніцу санітаркай...

– Чаму нечакана? – перапыніла мяне Тамара. – Для каго нечакана?

– Нечакана з пункту гледжання здаровай логікі, – спакойна адрэагаваў я. – Маладая жанчына без фізічных заганаў ідзе працаваць туды, дзе ад безвыходнасці знаходзяць сабе месца жанчыны, не здольныя больш ні на якую працу. У райцэнтры поўна сёння самых розных магазінаў і шапікаў, дзе такая, як Насця Грыцук, магла знайсці месца. Далей...

– Твая здаровая логіка мае сэнс у межах такіх жа здаровых абставінаў. Але мы, па сутнасці, а правільней, згодна з нашай агульнай логікай, маем справу не са здаровай жанчынай, забыўся? – нечакана жорстка перабіла мяне Тамара і, нібы перапрашаючы за сваю рэзкасць, закончыла ціха: – Насця Грыцук была лесбіянка. У нашых умовах ёй нічога не заставалася.

– Не разумею, – шчыра разгубіўся я. – А яе арыентацыя тут якую ролю адыграла?

– Ой, Васіль, Васіль, – са скрухай прамовіла Тамара. – Табе, як дзіцю, расказваць пра адносіны ў нашым грамадстве да асобаў з нетрадыцыйнай арыентацыяй? Ды яшчэ ў нашым горадзе, дзе калонія на пяць тысяч зэкаў і кожны школьнік ведае значэнне слова «апушчаны»... Ты паглядзі на яе характарыстыку. Яна паўсюль заставалася адна. Значыць, ведала пра сваю схільнасць змалку. Мяркую, гэта той самы выпадак, калі ў жаночым целе жыў праўдзівы мужчына. Вунь як участковы яе апісаў – мужык мужыком яна была ў сваёй хаце. Такое не схаваеш. Партнёра яна сабе відавочна знайсці тут не магла, а хутчэй, баялася пагалоскі. Працаваць санітаркай – значыць, мець магчымасць кантакту з жывым целам. Мужчынскім і жаночым, маладым і ва ўзросце... Яна такім чынам задавальняла свае патрэбы, наколькі магла.

– І вы лічыце, дзеля гэтага яна пайшла на такую работу?

Пракурор узняла на мяне вочы, у якіх нечакана для сябе я пабачыў самы сапраўдны сум.

– Ты вось, я ведаю, з суседкай-развядзёнкай зрэдку спіш. Не пужай-

ся, справа твая, безумоўна, але такое не схаваеш... у нашым горадзе. А колькі ты без жанчыны змог бы абыходзіцца? А бабы, думаеш, з іншага цеста зроблены? Дык жа з рабра мужчыны. І хочуць таго ж і гэтак жа. Ты, у выпадку чаго, ды і я, і яшчэ тысячы такіх, як мы, – пацерпім, бо ведаем: свайго дачакаемся. Нам – не праблематычна, для нас няма нічога заганнага ў тым, каб скарыстаць адзін аднаго і за грошы. А для іх? Што такім насцям рабіць? А потым... ёй менавіта там, у бальніцы, пры доглядзе хворых і можна было знайсці тую жанчыну, цела якой адгукнулася б на яе рукі. Ды і такія людзі, вымушаныя хавацца ад усіх, адчуваюць сабе падобных. Там жа, акрамя ўсяго, вялікі жаночы калектыў. Думаеш, мала ў нас такіх, з нетрадыцыйнай, як кажуць, арыентацыяй? Ды хапае... Так, перапыніла я цябе, але затое не будзем вяртацца. Упэўнена: Насця Грыцук пайшла працаваць у бальніцу толькі дзеля сваёй схільнасці. Ты супраць? Ёсць думкі?

– Не супраць, – уздыхнуў я. – Мушу прызнацца, маеце рацыю. Не падумаў як след...

– Проста жыццёвы вопыт, – даравала мне Тамара. – Працягвай.

– Дык вось... Насця Грыцук – фізічна цалкам здаровая жанчына, і з вельмі добрымі знешнімі данымі. Патэнцыйная маці здаровых дзяцей. Узрост самы спрыяльны для нараджэння. З улікам таго, што яна пачувала сябе больш мужчынам, чым жанчынай; з улікам адсутнасці ў яе жыцці мужчыны; з улікам захавання цяжарнасці, калі б яна была выпадковай; з улікам утойвання цяжарнасці да апошняга і запланаваных наперад адпачынкаў можна зрабіць толькі адзін вывад: яна выношвала дзіця для некага.

– Мужчыны не было... А калі яе згвалтавалі? Два з трох згвалтаванняў скрываюць...

– Чаму тады ёй не зрабіць аборт, тым больш, працуе ў бальніцы, тым больш...

– А калі яна катэгарычна супраць забойства дзіцяці?

– Тамара Сяргееўна, – усміхнуўся я. – Ярымі праціўнікамі абортаў выступаюць, як правіла, альбо тыя, хто нечакана паверыў у Бога, альбо жанчыны, якія зрабілі як мінімум адзін аборт і таксама раптоўна адчулі неабходнасць замольваць у цэрквах свае грахі. Ну, не вам мне пра такое казаць.

– Мы не ведаем, ці рабіла раней аборт Насця Грыцук...

– Але мы ведаем: яна нічым ніколі не выявіла сваіх хрысціянскіх поглядаў. У чорнай хустцы не хадзіла. Больш за тое, як я сёння пачуў, яна не асабліва святкавала той жа Вялікдзень – ні ў адзін год не прыносіла фарбаваныя яйкі на працу, хоць тое і традыцыйна для іх хірургічнага аддзялення, як я даведаўся з размоваў. Карацей, я перакананы: выношванне дзіцяці было абавязкам для Грыцук. Дарэчы, згода Грыцук на сурагатнае мацярынства магла быць абумоўленая яе жаданнем атрымаць грошы – і зрабіць пластычную аперацыю.

– Пакуль складна, – кіўнула Тамара. – Што адсюль вынікае?

– Матыў забойства.

– Забілі, каб не плаціць?

– Тут цяжка адказаць. Грошы найперш, асабліва калі яна мела справу не з непасрэдным заказчыкам, а з пасярэднікам. Калі пачытаць, дык справы такія абстаўляюць у большасці выпадкаў менавіта так: жанчына не ведае, для каго нараджае, а тыя, хто атрымлівае дзіця, не ведаюць, хто

нарадзіў. Практычна і бяспечна для абодвух бакоў. Пры ўмове сумленнага пасярэдніка, зразумела.

– Калі грошы найперш, якія яшчэ матывы і прычыны?

– Нязгода аддаць дзіця.

– І за гэта забіваць? – Тамара прымружылася, пільна глянула на мяне. – Скажу табе, у нашым правінцыйным райцэнтры адна жанчына нарадзіла дваіх дзяцей... на заказ. Аднаго аддала. А другога адмовілася.

– Ого, – не ўтрымаўся я. – Не ведаў...

– Ну, не здзіўляйся, справу абставілі так, каб ніякага крыміналу нідзе не было. Цяжарнасць хавала да апошняга, два месяцы адпачынку невядома дзе, вяртаецца пахудзелай і з грашыма... Другую цяжарнасць раскрыла напрыканцы. Вярнула грошы, ёй авансам выдалі палову сумы. Прыязджалі да яе. І пагрозы былі. Ведаю з яе вуснаў, бо ў маладосці з яе маці сябравалі, вось яна і прыйшла да мяне параіцца. Адбіліся, карацей. Там пасярэднікаў не было... Няшчасная, хоць і заможная, сям'я з Прыбалтыкі. Жанчына павінна была паехаць туды на тры месяцы, ёй рабілі візу, стваралі ўмовы пражывання. Там нарадзіць і вярнуцца. А яна адмовілася. Дарэчы, развядзёнка... так вось. Значыць, калі быў пасярэднік, то, магчыма, і забойства адбылося праз нязгоду аддаць дзіця? Правярай. Аператыўнікі забралі з дому забітай яе ноўтбук, сумачку. Тэлефона не знайшлі. Гэта незразумела. Падрыхтуй запыт на праверку асабістых рахункаў у банках... Пайшлі ўжо? – Тамара зноў зірнула на акно. – Трэба нешта згатаваць дома, мабыць... Развучылася боршч варыць. А ты ўмееш?

– Што? – разгубіўся я.

– Боршч варыць умееш?

– Не...

– І не вучыся. А то не ажэнішся...

## 4.

Найлепшае, што здараецца з намі, ніколі намі не прадбачылася.

Я вяртаўся той самай вуліцай, якой ішоў ранкам на працу, і яна была такой жа пустой – палова на дзясятую вечара. І ўжо амаль цёмнай.

Тамара развярэдзіла мае думкі сваім напамінам пра жанчыну, меркаваннем пра тое, што і яны з такога ж цеста. А мне ж дваццаць сем. Гэтулькі, колькі было і забітай. І столькі ж гадоў Надзеі.

З Надзеяй мы ў блізкіх адносінах усяго месяц. Не чакаў, што пра іх будуць ведаць. Ва ўсякім разе, не чакаў, што так хутка... Ды і якія там адносіны! Яна, разведзеная, без дзяцей (дзіця памерла на другі дзень пасля родаў, саму яе ледзь уратавалі), была звычайнай жанчынай, якая засумавала без мужчынскай увагі. Мы – суседзі. У яе невялікі дом, застаўся ад бацькоў, а я здымаю палову дома, які мяжуе з Надзеіным.

Сюды я пераехаў, калі зразумеў: больш не магу трываць у інтэрнацкім пакойчыку. Колькі сябе помню, мне заўсёды патрэбны быў такі свой куточак, дзе б я мог застацца зусім-зусім адзін. Студэнцкі інтэрнат стаў для мяне на час вучобы сапраўдным выпрабаваннем, і ратаваўся я ў горадзе: калі ўзнікала вострая, амаль фізічна адчувальная неабходнасць пабыць аднаму, пазбавіцца ад хоць чыёй увагі, я садзіўся ў любы тралейбус і, праехаўшы колькі прыпынкаў, выходзіў і блукаў. У вялікім горадзе ўсе адзінокія, калі толькі ты не ідзеш з некім па шматлюднай вуліцы. А ў

нашым невялікім райцэнтры так не атрымліваецца: ужо месяцы праз тры са мной сталі вітацца на вуліцах людзі. Тут твой няспешны шпацыр можа быць перапынены ў любую хвіліну, а галоўнае, ты заўжды застаешся пад увагай, бо заўсёды знойдзецца нехта, хто паглядзіць табе ўслед са сваімі здагадкамі: бач, следчы пракуратуры задумаўся, пэўна, справу расследуе – мабыць, пра нядаўняе згвалтаванне. Могуць спыніць і спытаць з вельмі спачувальным выглядам: што, браце, задумаўся? Ды адпачываю, адпачываю я! Так іншы раз хочацца крыкнуць: «Адпачываю ад вас, ад вашых твараў, словаў, позіркаў...»

У рабочым інтэрнаце я быў адзіны халасцяк на ўвесь доўгі і цёмны, як глыбокая труна, паверх. Можа, неяк прызвычаіўся б да дзіцячага плачу-смеху, страляніны і беганіны, да сямейных сварак і п'яных спеваў ці крыку штовечар, да кухонных звад... Але праз тыдзень мяне ўжо запрашалі то ў адзін пакой – рыбкі прывезлі, то ў другі – ад цешчы свежына. Мае катэгарычныя адмовы зусім не дапамагалі: раз на тыдзень у дзверы грукалі добра захмялелыя мужчыны і сілай цягнулі да сябе. Пазбавіцца іх дакучлівасці было немагчыма, але і злавацца на іх я не мог, бо бачыў – рабацягі-сямейнікі шчыра хацелі пачаставаць мяне нечым смачным, яны дружна лічылі сваім абавязкам разнастаіць мае вечары і стараліся «забяспечыць добрай бабай на ноч, галоўнае – акуратнай».

У той час у мяне была жанчына, якую можна было б назваць пастаяннай. Мы пазнаёміліся, калі я заканчваў універсітэт, а ёй заставалася вучыцца два гады. Тады мы сустракаліся часта, а потым яна па размеркаванні патрапіла ў наш аблвыканкам, дзе заняла пасаду юрыста. Я прыязджаў да яе амаль штотыдзень, мы праводзілі разам дзень у горадзе і ноч на яе вузкім ложку ў пакойчыку інтэрната. І расставаліся. Дзіўна, але мы ні разу не павялі гаворку пра будучае сумеснае жыццё, быццам яно магло пачацца толькі тады, калі яна ці я абзавядземся сваім жытлом. Ці гаварылі мы пра будучыню ўвогуле – ужо і не помню. Я ўстрымліваўся прапаноўваць ёй нешта праз сваю сарамлівасць, ды і куды мне было прывесці маладую жонку – у той інтэрнацкі пакой? Ашчаджаў грошы, каб купіць сваё жытло. А потым з'явілася нейкая крыўда і рэўнасць: чаму яна не загаворвае пра магчымую сям'ю, пра дзяцей? У апошні год выхадныя ў яе часта атрымліваліся занятымі, мы сустракаліся і радзей, і без той жарсці, якой былі запоўненыя ранейшыя ночы. Сэкс стаўся амаль механічным заняткам, дзе ў яе былі свае абавязкі, у мяне – свае, пры іх выкананні мы абое атрымлівалі жаданае задавальненне – і ўсё заканчвалася. Апошнія разы мы амаль і не цалаваліся ў вусны, абыходзілася без доўгіх гарачых любошчаў. А раніцай мы развітваліся, я – з сарамлівай палёгкай (выканаў абавязак, хутчэй дадому, у цягніку чакае такая жаданая адзінота, і, дасць бог, спакойна будзе ў інтэрнаце, пачытаю, пасплю пару гадзінаў...). І бачыў – гэтага не маглі схаваць яе вочы, – і яна гатовая была ўздыхнуць з палёгкай. Яна перастала праводзіць мяне на вакзал мо з год таму, калі аднойчы быў дождж і я прапанаваў ёй не мокнуць. У наступны раз яна не пачала збірацца, нават калі я быў ужо на парозе, і я, адчуўшы ў душы пустату, не стаў пытацца, чаму яна не ідзе...

А аднойчы я не паехаў сам, ці то спрабуючы на смак свае адчуванні ад такога рашэння, ці то ставячы эксперымент над ёй: што скажа? Яна нават не патэлефанавала, і мяне тое непрыемна разанула, мне стала крыўдна і шкада самога сябе. Вось жа, а калі б мяне дзе зэкі парэзалі ці забілі – а

ёй, глядзі ты, усё роўна. І я таксама не стаў званіць ёй. І ў панядзелак стрымаў сябе, і ў аўторак. А ў чацвер яна прыслала эсэмэску: на выхадныя едзе з сябрамі на нечую дачу адзначаць нечае вяселле на два дні. Не пыталася, ці я жывы, як у мяне справы, чаму не прыехаў.

Пасля кароткай крыўды мне стала нечакана весела. І лёгка.

Надзея, суседка, была невысокага росту, крыху паўнаватая, але дужая і ўвішная – гэта я найперш заўважыў. Бо ўжо на другі дзень пасля свайго засялення пабачыў, як яна шчыравала з рыдлёўкай на сваіх градах. Што здзівіла мяне: яна была ў белых шортах і кароткай жоўтай майцы – тады якраз надарыліся апошнія сонечныя дзянькі перад цяперашняй хмурнасцю. Я выйшаў з кубкам кавы праз заднія веснічкі і хацеў усесціся на лаўцы пад яблыняй (там гаспадары дома зрабілі куточак для адпачынку). Надзея, штохвілінна згінаючыся, дэманстравала мне свае пругкія клубы і агаленыя ногі, якія ўжо добра пачырванелі пад зыркім травеньскім сонцам. Да яе было метраў сем, мабыць, і яна адчула мой далёка не цнатлівы позірк, бо разагнулася, папраўіла валасы і павярнулася да мяне.

– Вельмі бянтэжу вас сваім голым задам? Страшна на лаўку сесці?

Пытанне было нечаканым для мяне, таму я адказаў не адразу. Глядзеў у яе прымружаныя вочы, дзе хавалася прыязная гарэзлівая ўсмешка (ды амаль насмешка!), разгублена маўчаў і адчуваў, як чырванею, ды злаваў на сябе: ну чаму я маўчу! А яна абаперлася на ўторкнутую ў зямлю рыдлёўку і працягнула:

– То ўжо пацярпіце, мне мала засталося. Бо перадам павярнуцца не магу.

– Чаму? – няўклюдна запытаўся я.

– Ды цыцкі вам на вочы вывальвацца будуць, – засмяялася яна, і толькі цяпер я звярнуў увагу на глыбокі выраз яе майкі і поўныя грудзі, якія без станіка дэманстравалі пухлінкі смочкаў пад тонкай тканінай.

– Дык я ж не аналой у царкве і ўзростам не хлопчык, якога грэх спакушаць, – нарэшце знайшоўся я і тут жа прапанаваў: – Давайце я вас кавай пачастую... за бясплатна атрыманае задавальненне ад сузірання вашых ног.

– Ногі як ногі... – трошкі засаромелася жанчына, мабыць, не чакала ад мяне такога спрыту. – За запрашэнне дзякуй, але іншым разам.

Не ведаю, чым яна прывабіла мяне ў той момант, хутчэй за ўсё ўва мне зайграла мужчынскае самалюбства. Гаспадары перад тым, як здаць мне палову дома і з'ехаць у сталіцу, трохі распавялі пра суседзяў. Я загадзя ведаў, што маю суседку завуць Надзея, яна развядзёнка, але за ёй «дрэннага не заўважалі». І таму адмова ад запрашэння ў той момант была расцэненая мной на ўзроўні падсвядомасці як мой асабісты пройгрыш, як поўная адсутнасць цікавасці з боку жанчыны да мяне, і гэта балюча драпнула маё самалюбства. Таму я мусіў паспрабаваць працягнуць гутарку:

– Надзея, вы ж самі ведаеце – у жыцці часта атрымліваецца так, што іншага разу і не бывае. Чайнік у мяне гарачы, заходзьце, балазе плоту між намі няма...

Жанчына пільна паглядзела на мяне, не паказала і кроплі здзіўлення, што я ведаю яе імя, і ў сваю чаргу прадэманстравала мне сваю дасведчанасць:

– Не, таварыш следчы пракуратуры, не магу, бо трэба дакончыць градку, пасадзіць гарох... потым памыцца і бегчы, бо мяне чакаюць, спазняцца не магу.

– Давайце дапамагу, – вырвалася ў мяне.

– О не, другі раз у дом зайшлі, а ўжо да развядзёнкі пабеглі – пачнуць казаць? Тут жа вачэй і вушэй – у кожнага куста.

– Ну, тады заходзьце самі... заўтра бліжэй да вечара, – не мог супакоіць я сваё мужчынскае эга, якое патрабавала ад мяне дабіцца ад жанчыны хоць нейкай згоды хоць на нешта.

– Добра, зайду, – нечакана проста для мяне згадзілася Надзея.

Чаму мяне так расхвалявала першая кароткая сустрэча, тут загадкі вялікай не было – круглыя клубы, паўнаватыя, крыху шырокія сцёгны, затое вельмі акуратныя (вось толькі цяпер успомніў!) «бутэлечныя» лыткі Надзеі ўспыхнулі перад вачыма, калі клаўся спаць. Што ні кажы, а мая ранейшая сяброўка прывучыла мяне да рытмічнага сэксуальнага жыцця, а цяпер ужо амаль два месяцы, як я без жанчыны. І жаданне, якое ўспыхнула ўва мне, было нежартоўным. Далібог, калі б яна не пайшла некуды (я пабачыў праз акно), то знайшоў бы спосаб яшчэ раз загаварыць з ёй.

Праўда, раніцай учарашняя карцінка не выглядала такой спакушальна-салодкай. Я пастараўся прыпомніць твар Надзеі: амаль круглай формы, невялікі падбародак, характэрны нос – востры, тонкі, з шырокімі трапяткімі крыламі, якія варушыліся ад яе адсопвання. Нічога асаблівага. Толькі позірк – вось што сапраўды хвалявала. Гарэзлівы, іскрысты. Яе вочы не абяцалі нічога, але быццам прапаноўвалі: заслужы, не пашкадуеш!

У той дзень здарыўся пажар у далёкай вёсцы, у нежылым доме. На падлозе пасля тушэння знайшлі труп: бамжыха, даўно вядомая ў вёсцы шасцідзесяцігадовая алкагалічка не змагла дапаўзці да выратавальных дзвярэй. Адзенне на бамжысе згарэла ўшчэнт, спіна яе і плечы абгарэлі да костак. Справы ўмомант выціснулі з галавы думкі пра Надзею.

Выгляд голага закурадымленага трупа немаладой жанчыны, які ляжаў перада мной на зялёным, у жоўтых кветках дзьмухаўцоў лужку, выклікаў мноства пачуццяў, але над усім дамінавала адчуванне жорсткай несправядлівасці, алагічнасці жыцця. Пакуль эксперт аглядаў труп на магчымую наяўнасць знешніх пашкоджанняў (раптам нехта пырнуў старую нажом?), мяне як зачапіла, так і не адпускала адна думка: вось гэта, страшнае ў сваёй недагледжанасці, бруднае, азызлае цела было раней самым жаданым для некага. Нехта некалі з жарсцю цалаваў яго, гэтыя брыдкія цяпер грудзі былі неверагодна спакушальнымі, іх смочкі з асалодай хапалі роцікі немаўлят і цалавалі вусны каханага... Мы ўжо ведалі: у бамжыхі раней былі муж, сын і дачка. Яе пазбавілі бацькоўскіх правоў у трыццацігадовым узросце.

Саладкавы смурод гарэлага чалавечага цела чуўся мне паўсюль да вечара, быццам ён уеўся ў маю скуру, не толькі ў адзенне. Вяртаўся дадому спустошаным, як ніколі. І толькі адно радавала цяпер – прадчуванне хуткай адзіноты, ціхай гадзіны ў садзе з кубкам кавы. Дзівіўся сам з сябе: не першы труп бачу за сваю практыку, але чаму так глыбока закрануў мяне гэты выпадак? Бо жанчына? Ці гісторыя яе пустога жыцця, якая ўмясцілася на паўстаронкі тэксту?

Я зусім забыўся пра ўчарашні дзень і сваю спакуслівую суседку, таму яе постаць ля дома выклікала ў мяне амаль здзіўленне. Умомант успомнілася маё запрашэнне на каву, і з лёгкай прыкрасцю я падумаў пра тое, што зараз давядзецца апраўдвацца: мне не хацелася ні з кім дзяліць рэшту часу да ночы.

Але адбылося тое, чаго я ніяк не чакаў. Ці то на маім твары было столькі тугі, ці то Надзея ўжо ведала пра здарэнне і неяк уяўляла тое,

з чым мне давялося сутыкнуцца, але ў яе вачах, калі я прыпыніўся ля сваіх веснічак, каб павітацца з ёй, пабачыў спагаду. Такую незвычайную, цёплую, што ажно разгубіўся: так глядзеў на мяне толькі адзін чалавек – мама. Але мамы два гады як няма...

– Несалодкі быў дзень? – замест прывітання клапатліва пацікавілася Надзея і патлумачыла: – Такія навіны ў нас хутка разносяцца...

– Несалодкі... – шчыра падзяліўся я. – Цяжка прызвычаіцца да смерці, тым больш вось такой... Вечар добры вам.

– І вам таго ж. Выгляд у вас...

– Страшны? – квола пажартаваў я.

Ніяк не чакаў, што выразная спагада жанчыны падасца мне самым неабходным з таго, што я хацеў бы адчуць зараз. І кіруючыся менавіта жаданнем атрымаць яшчэ колькі момантаў сапраўднай увагі і разумення, я наколькі мог бадзёра дадаў:

– Спадзяюся, аднак, не такі страшны, каб вы перадумалі выпіць са мной кавы пад тымі яблынямі. Заадно паглядзім, ці не прараслі кінутыя ў глебу зярняты.

Яна стаяла ля кута свайго плоту, я – ля сваіх веснічак. Абое адчувалі сябе на сваёй тэрыторыі. Старая вуліца, пабудаваная ў пасляваенны час, шырокая, зарослая паабапал кустамі бэзу і язміну, была бязлюднай.

– Зарана для прарастання, – без усмешкі адказала Надзея, і было нешта двухсэнсоўнае ў яе строгасці. – Вы хоць елі нешта сёння?

Наколькі пытанне было нечаканым для мяне, настолькі яно падалося незвычайна цёплым, чалавечым і дарэчным цяпер, і яно раптоўна зрабіла гэтую жанчыну маім быццам ужо і блізкім сябрам. Падсвядома тарганулася думка: мне ўжо многія гады ніхто не задаваў такога простага пытання з сапраўдным клопатам.

– А вы як думаеце, калі пытаецеся?

Мне захацелася вось такой моўнай гульні, неабавязковай, лёгкай, дзе можна схавацца за паўжартам, дзе дапускалася двухсэнсоўнасць, а ўся гульня ахуталася воблакам неабавязковасці, робленай раўнадушнасці – маўляў, як будзе, так і добра...

– Думаю, апетыт у вас наўрад ці быў, – зноў сур'ёзна адказала Надзея.

– І зараз няма, – развёў я рукі ў бакі.

Сапраўды, я не мог думаць пра ежу, мне здавалася, быццам ад мяне і цяпер тхне тым смуродам з пажарышча. І ўявіць сабе які кавалак каўбасы, што будзе сквірчэць на патэльні, – не, тое было ўжо амаль выпрабаваннем, якое мне над сабой не хацелася ладзіць. – Але кавы пап'ю з вамі з задавальненнем. Вось толькі абмыю працоўны пыл і копаць... – вырвалася ў мяне прызнанне. Пятнаццаць хвілінаў – і я вас чакаю. Вы абяцалі ўчора, – нагадаў я строга.

– Абяцала, значыць, прыйду, – паціснула плячыма Надзея, быццам я засумняваўся ў нечым непахісна стабільным і моцным. – Ідзіце, мыйцеся...

Яна пастукала ў расчыненыя дзверы і зайшла ў пакой, калі я, прыняўшы душ і пераапрануўшыся ў свой стары спартовы касцюм, ставіў чайнік.

Мае паўдома, якія я здымаў, складаліся з невялічкай веранды з двума выхадамі – на вуліцу і ў агарод, і даволі вялікага пакоя, частка якога была адгароджаная лёгкай фіранкай з тканіны – тут стаяў стол, два крэслы, газавая пліта і мыйка. Атрымлівалася нібыта кухня. Тут жа ў куце быў устаноўлены сучасны душ, на сцяне вісеў вялізны электрычны водана-

гравальнік. Як кажуць, усе выгоды, акрамя яшчэ адной, якая знаходзілася ў самым дальнім куце садка, сярод двух вялізных, бы копы сена, кустоў чорных парэчак. У пакоі – вялікая канапа, першая набытая мной асабістая рэч з нерухомасці, а таксама два фатэлі, часопісны столік і вялікі стол з кампутарам – усе мае набыткі. Старая плеценая з лазы этажэрка засталася ад гаспадароў – яны прапаноўвалі прыбраць яе, як будзе замінаць, але мне этажэрка спадабалася: яна вельмі ўмяшчальная для кніг, ды і было ў ёй нешта самавітае. Пэўна, матэрыял – лазовыя пруткі рознай таўшчыні – выклікаў пачуццё датычнасці да мінулага, нечага сапраўднага.

Надзея зайшла з пакетам і, не пытаючыся, стала выкладаць на стол бохан хлеба, бутэльку гарэлкі і нешта ў цэлафанавым мяшэчку.

– Навошта вы? – па-сапраўднаму разгубіўся я.

– Ну, будзем лічыць, на ўлазіны прыйшла, першы раз у вашай хаце, нельга ж з пустымі рукамі. Як раней людзі хадзілі: хлеба бохан цэлы абавязкова... Ну, а гарэлка... Вам выпіць трэба, мабыць, дык паясце трохі. Я катлет сёння нарабіла, не разагравала... мне самой смачна іх халоднымі есці, можа і вам даспадобы будзе... закусіце.

– Я люблю халодныя катлеты. Дастанеш такую з каструлі ў халадзільніку, на ёй тонкая белаватая паска застылага тлушчу... Смаката! А вось разагрэтыя не люблю. Як гарачыя – дык толькі каб адразу з патэльні, – зачасціў я, каб схаваць сваю ўзрушанасць, наразаючы хлеб і дастаючы талеркі. – А ў мяне... няма чарак, – разгублена ўсміхнуўся я Надзеі. – Але ёсць два кубкі... для кавы.

– Ух ты, які асаблівы мужчына, – пляснула ў ладкі яна, ці то сапраўды надта здзіўленая, ці то прыкідваючыся. – Зараз прынясу...

Я не паспеў запярэчыць, як яна павярнулася і выйшла. І толькі цяпер я заўважыў, а правільней – зразумеў сапраўдную прычыну свайго ўзрушэння і хвалявання: на ёй была апранутая сукенка! Няхай не новая, не святочная, але не тая майка і спартовыя штаны, у якіх яна стаяла ля плота чвэрць гадзіны таму. «Эх ты, следчы...» – паўшчуваў я сам сябе, хутка пераапрануўся ў джынсы і чыстую сарочку з кароткімі рукавамі. Паспеў аднесці ўсё на часопісны столік – тут нам будзе зручна ў крэслах.

Надзея быццам і не заўважыла майго пераапранання. Мы выпілі, і я пачаў есці, адчуўшы сапраўдны голад. Яна ж толькі злёгку прыкусіла.

– Вы ешце, не саромейцеся мяне, мы ж суседзі.

Потым падхапілася:

– Ой, на салату забылася!

З поўным ротам я замахаў рукамі, але яна ўжо была ля дзвярэй. Вярнулася хутка – з салатай са свежых агуркоў.

Мы вячэралі, выпівалі; правільней, еў і піў больш, натуральна, я, бо Надзея з'ела адно палову катлеты і колькі скрылікаў агурка ў смятане. У двух словах расказаў пра сябе, слухаў Надзею. Яна не многа расказвала ў той вечар, кароткімі рысамі. Вывучылася на настаўніцу, але пасля нараджэння і смерці дзіцяці працуе прадавачкай у прыватніка.

Многа пазней, у нетаропкіх і шчырых размовах пад старой яблыняй перада мной пакрысе, бы з асобных пазлаў, складвалася Надзеіна мінулае жыццё. Замужжа ў дзевятнаццаць гадоў – ці то закахалася, ці то падалося, бо ўсё было ў першы раз: і само ўспыхнулае пачуццё, і хлапечыя заляцанні, і абдыманні, і пацалункі, і першая, пякучая ад сарамлівасці і страшная ад няведання сапраўднай глыбіні адчуванняў, блізкасць. Кінулася

пасля вяселля стварaць свой сямейны куточак, перавялася на завочнае аддзяленне – вучылася на гістарычным факультэце. Жылі ў Мінску, закончыла вучобу – пераехалі сюды, на сваю радзіму, бо тут мужу бацькі купілі і падарылі аднапакаёўку. І раней здараліся крыўдныя спрэчкі быццам на пустым месцы, а тут варожасць свякрухі стала адкрытай – тая ад пачатку не ўпадабала выбар сына, надта ж незалежнай ёй падалася нявестка, ганарлівай... То калі перааязджалі ў кватэру, Надзею папярэдзілі: жыллё падоранае, а значыць, яе адсюль у любы момант могуць выкінуць. Змаўчала. Уладкавалася настаўніцай, выкладала гісторыю. Муж пайшоў у будаўнічую арганізацыю кіроўцам. Яго старыя сяброўскія сувязі добрай справы не зрабілі – пачыналася два разы на тыдзень партыямі ў більярд у кавярні, а пазней перайшло ў амаль штовечаровыя пасядзелкі ці ў кавярні, ці недзе ў інтэрнацкіх пакоях, іншы раз муж вяртаўся толькі пад раніцу. Спрабавала ўтрымаць – і адданай пяшчотай, ласкай, цярпеннем, і ўсёдазволенасцю ложку, – ды хутка адчула, што перад ёй нібыта не муж, а яго бяздушны вялізны грузавік, які яна нічым спыніць не зможа. Яна стала аднойчы на яго шляху, а пасля доўга не магла ачомацца. І не з-за болю ў пабітых спіне і галаве, а таму, што раптоўна стала пуста ў душы – так пуста, так холадна, што фізічны боль фактычна не заўважаўся, а на сінякі на твары яна ўвагі не звяртала. Добра, тое здарылася летам – не трэба было ісці ў клас да вучняў. Надзея ляжала на канапе доўгія вечары, амаль фізічна адчуваючы пустату ўнутры. Муж не прыходзіў некалькі дзён, але яна, падпарадкаваная галоўнаму правілу гаспадыні – якая б у сям'і ні была сварка, а абед павінен быць, – гатавала. У нейкі дзень, стоячы ля пліты, адчула, як невыносна смуродзіць смажаная рыба. Яе званітавала. Спуджаная, выйшла з туалета, а ў нос шыбанулі ў тысячу разоў узмоцненыя брыдотныя пахі такой знаёмай кухні. І ў чарговы раз укленчыўшы ў спазмах над унітазам, яна ўспомніла пра свае месячныя – і здагадка агаломшыла яе. У яе вось ужо другі тыдзень – затрымка. Надзея не спяшалася казаць пра цяжарнасць мужу і не памылілася: ён амаль ніяк не адрэагаваў на навіну. У тыя дні ён рэдка бываў цвярозым. Амаль усю сваю цяжарнасць Надзея праляжала ў гінекалогіі праз пагрозу выкідыша. Муж іншы раз наведваў яе, часцей нападпітку, колькі разоў яна не выходзіла да яго, бо ёй перaказвалі: моцна п'яны. І там жа вырашыла: народзіць – адразу да бацькоў. Нарадзіла. Парвалася вельмі, ледзь спынілі кроў. Хлопчык памёр; і дзякуй Богу, што забраў яго маленькім, такога... А яна пайшла да маці. Муж і не паказваўся, нават не званіў. І на развод не прыходзіў, суддзя зачытаў яго заяву-просьбу разглядаць справу ў яго адсутнасць і згоду на скасаванне шлюбу. І вось Надзея адна пяць гадоў. Цяпер зусім адна: нядаўна памерла маці, бацьку пахавалі раней...

Усё гэта я даведаўся пазней. А ў той вечар яна доўга не затрымалася, спасылаючыся на маю стомленасць. Не дала мне выпіць кавы: «Спаць не будзеце». Пайшла, і я, як кажуць, вырубіўся – заснуў, ледзь прыпаў тварам да падушкі, спаў усю ноч, і вось дзіва – нічога не снілася. Звычайна ж пасля выезду на месца забойства мне снілася ўсялякая дрэнь.

На працягу месяца мы амаль штодзень сустракаліся з Надзеяй, віталіся, перакідваліся парай слоў, часам разам пілі каву ў садку ці вячэралі ў мяне ў пакоі. Мы абое жадалі сустрэч, наталяючы сябе мяккімі адчуваннямі ўтульнасці і спакою за вячэрнім сталом, шчырых сяброўскіх стасункаў. Не ведаю, як так атрымалася, але пасля аднаго вечара ў садзе я адчуў: у

наступны раз у нас будзе сэкс, і яна таксама адчула, я быў упэўнены ў гэтым. Мы дасягнулі ў сваіх адносінах такой напоўненасці, калі магчымая блізкасць рабілася не нечым надзвычайным, а ўсяго толькі абавязковым завяршальным штрыхом. І мы развіталіся тады першы раз кароткім сціплым, напалову жартоўным, напалову сяброўскім пацалункам у куткі вуснаў, быццам стрымліваючы сябе да заўтрашняга і адначасова абяцаючы адно аднаму будучы вечар.

Так і атрымалася. Не будзённа-банальна, але і не як дасягненне нейкай вышыні пачуццяў, як кажуць, з эмацыйным выбухам. Мы быццам ішлі разам праз лес пакручастай сцежкай, якая вяла ўверх досыць строма, віхляла між старых дрэваў, нырцавала ў густы зараснік, спускалася ў балотца, караскалася на выспу жоўтага пяску з чэзлым сасоннікам; ішлі, даверліва трымаючыся за рукі, і нам абаім важна было не проста дайсці да роўнай паверхні, а дайсці з тым сяброўскім даверам і чалавечай павагай, з якімі мы рушылі ў дарогу.

Тады Надзея выйшла з майго душа, загорнутая ў вялікі ручнік, прысела на ўскрайчык канапы і прамовіла ціха:

– Ты выбачай... Прыкідвацца з табой не буду... У мяне пасля разводу не было мужчын ... – І тут жа прымружылася, у вачах успыхнулі агеньчыкі: – Забылася, што ўмела! Але і стрымлівацца не буду, як успомню!..

Сённяшняя гвалтоўная смерць маладой жанчыны была другой за час маёй працы ў пракуратуры. Вяртаўся дадому і думаў: як добра, што ёсць Надзея! За кароткі час я зразумеў, як многа яна значыць у маім жыцці. І не толькі як жанчына, а дакладней, зусім не столькі, а больш як сябар, якога паважаеш за яго розум, уменне слухаць, патрапляць у размове з табой на адну хвалю, разумець пачуцці і жаданні і не крыўдаваць, калі яны не супадуць з тваімі.

Пабачыў Надзею здалёк – на ёй была яе заўсёдная для работ на агародзе яркая жоўтая майка. Яна палівала грады са шланга: хмурныя дні ішлі адзін за другім без дажджу, вільготнасць часам вісела ў паветры, але зямля сохла. Абапёрся аб агароджу, павітаўся, адзначаючы для сябе: у такі позні час Надзея спецыяльна выйшла паліваць агарод – чакае мяне.

Яна кінула шланг, абцерла рукі аб запэцканыя шорты, падышла.

– Чайнік пастаўлю. Пасядзіш са мной?

Я не проста запрашаў, Надзея не магла не адчуць у маіх словах сапраўдную просьбу.

– Выпіць ты выпіў, а чым закусваў? – строга спытала яна. – Пачакае чайнік. Давай да мяне заходзь, я зварыла суп фасолевы з грыбамі. Заходзь, не мніся, не панясу ж я каструлю да цябе!

Я падпарадкаваўся. У Надзеінай хаце я ўжо быў два разы, то рушыў смела.

Яна не пыталася ні пра што, сядзела насупраць, глядзела, як я еў. Пасля супу паставіла на стол талерку з бульбяным пюрэ і кавалкам смажанай курыцы.

– Я наеўся, – квола засупраціўляўся я.

– Еш! – строга загадала Надзея, і дадала мякчэй: – Ты ж галодны ўвесь дзень...

– Ты, пэўна, чула пра сённяшняе?

– Знаю, расказвалі, – са скрухай уздыхнула Надзея. – Так шкада...

– Ты ведала Насцю Грыцук? – здагадаўся я аб прычыне скрухі.

– Так, – сумна пацвердзіла Надзея. – Ведзьма ведзьму ведаць павінна...

– Ты пра што? – са здзіўленнем зазірнуў я ў Надзеіны вочы.

– Я ж сказала табе: ведзьма ведзьму ведае. Насця – ведзьма, дачка ведзьмака. І я ведзьма, калі верыць былой свякрусе. Бо я чары навяла на яе сына, і той дапіўся да белай пены і сутаргаў...

Надзея памаўчала трошкі, сустрэла мой дапытлівы позірк і дадала:

– У мяне бабка, мама бацькі, казалі, была вядзьмаркай. Вучыла жанок рознаму, каб сваіх мужыкоў утрымліваць, каб сурокі наводзіць на разлучніцу... Вось, бачыш, як я цябе хутка да сябе прыманіла, – усміхнулася сумна, а потым дадала сур'ёзна: – Мы некалі разам у адным кіёску працавалі прадавачкамі. Пасябравалі. Яна мне спадабалася, хоць і была трошкі... дзіўная. Дарэчы, ты не смейся, я дык нічога не ўмею, ва ўсякім разе, не вучылася і мяне не вучылі, але нешта ад бабулькі мне перадалося. Я ў Насці адразу сілу пачула. І яна мяне адразу адчула. Мы трошкі сакрэтнічалі. Бацька яе многаму навучыў...

– Надзюш... Надзюшка, – працягнуў я ўмольна. – Мяне такое не цікавіць, ты ж разумны чалавек. У мяне не нейкія там сурокі – у мяне труп. Рэальны. Мне нецікавыя такія казкі...

– Ды я ведаю, нецікавыя, – не пакрыўдзілася Надзея. – Я толькі папрашу цябе даць мне нумар свайго мабільніка...

Што праўда, мы да гэтай пары не абмяняліся тэлефоннымі нумарамі. Дарэчы, мне было і няблага. Навошта добраахвотна здаваць сябе пад яўны кантроль, каб у любы момант цябе маглі спытаць: ты дзе? з кім? чаму? Але цяпер я не задумваючыся прадыктаваў нумар, Надзея ўвяла лічбы ў тэлефон, патэлефанавала і адключылася.

– Запішаш нумар... Я не буду званіць без патрэбы, не бойся.

– Не баюся.

– А я за цябе баюся, – зазірнула мне ў вочы Надзея.

– І адкуль страх? – ажно псіхануў я. – Ты – чалавек з вышэйшай адукацыяй, ты ў школе...

– Васіль... Прабач мне... Я цябе толькі папрашу: будзь асцярожным!

– Я заўсёды асцярожны!

– Ну, не крыўдуй, – Надзея ўстала, падышла да мяне, паклала свае далоні мне на галаву, прыціснула да сваіх грудзей, якія пад тонкай тканінай былі цёплымі. – У бабы ж не розум, у бабы сэрца. Вось маё сэрца так радасна трапяталася, як ты сюды засяляўся... А цяпер яно шчыміць. Не крыўдуй. Проста будзь асцярожны...

– Добра, буду...

## 5.

Наўрад ці сёння хоць адзін звычайны чалавек падазрае, наколькі ён наіўны ў сваіх жаданнях мець асабістае, быццам бы схаванае ад іншых жыццё.

Насця Грыцук была зарэгістраваная толькі ў адной сацыяльнай сетцы, дакладней, на сайце знаёмстваў. У гісторыі браўзера больш не знайшлося ніякіх анлайн-сэрвісаў. Як я і спадзяваўся, пароль быў захаваны ў браўзеры, і сам ноўтбук не запатрабаваў пароля для ўваходу. Сайт знаёмстваў Насця скарыстоўвала адно для асабістай перапіскі, больш ніякай актыўнасці не праяўляла. У яе анкеце быў толькі адзін фотаздымак, звычайны, без ценю

нейкай эратычнасці, бы фота на пашпарт. Паведамленняў ад розных наведвальнікаў было дастаткова многа, недзе за сотню, але перапіска з усімі заканчвалася з ініцыятывы Насці на другім-трэцім лісце. Па шчырасці, я пачаў ужо страчваць надзею знайсці хоць штосьці значнае: больш за дзве траціны прагледжаных ліставанняў не далі і каліва патрэбнай інфармацыі. Але неба пачула мае малітвы: з адной жанчынай Насця перапісвалася літаральна з першага дня рэгістрацыі – больш за год, як паказваў профіль, і амаль кожны дзень.

Паўдня я чытаў перапіску Насці з дзяўчынай з імем Руслана. Так, Насця Грыцук была мёртвай, але Руслана заставалася жывой, і інтымная перапіска дзвюх закаханых жанчын, шчымліва-шчырая, выклікала ў мяне пачуццё агіды да самога сябе і сваіх дзеянняў. Старонка за старонкай – мо за пяць соцень паведамленняў – адкрывалі перада мной нязвыклы, незразумелы мне свет лесбійскіх адносінаў. Упершыню ў жыцці я чытаў лісты, у якіх была сапраўдная пачуццёвасць, якія адрасаваліся толькі каханаму чалавеку і таму былі напісаныя з бязмежнай шчырасцю. Лісты ўтрымлівалі сэксуальныя і фізіялагічныя падрабязнасці, ад якіх мне рабілася сорамна. Усцешвала адно: як вынікала з перапіскі, жанчыны не сустракаліся ў рэальным жыцці, іх адносіны заставаліся віртуальнымі, а значыць, мне не трэба будзе шукаць гэтую Руслану і прызнавацца ёй: я чытаў яе лісты да забітай – лісты, напоўненыя такімі пачуццямі, што і не ведаю, як бы я размаўляў з жанчынай наяве. І пра што б яшчэ пытаўся. Чытаў амаль па дыяганалі, але не мог прапусціць ні радка – абавязак патрабаваў...

Сорам пёк. Я хаваўся ад яго за шчыт прафесійнай неабходнасці, вышукваў у тэкстах самыя нязначныя дэталі, якія б маглі мець дачыненне да смерці Насці, і тым ратаваўся. Уздыхнуў з палёгкай, калі дайшоў да апошніх паведамленняў. Адзначыў: жанчыны перапісваліся ў апошні вечар жыцця Насці. Вельмі істотна...

У перапісцы засталіся без адказу тры паведамленні ад Русланы, апошняе, учарашняе – поўнае горкай роспачы: чаму Насця не адказвае? Разлюбіла? Я стрымаў сябе, каб не адказаць: Насці няма сярод жывых, адказвае следчы пракуратуры.

Не, не трэба, няхай застаецца, як ёсць. Бязгрэшнае няведанне часта лягчэйшае за святую праўду...

Цікавага для справы ў перапісцы было нямнога. Па-сапраўднаму мяне ўзрушыў толькі адзін сказ у паведамленні Насці: «Я павінна нарадзіць цмока...» Але больш нідзе не было ні слова пра цмока, абавязак і цяжарнасць, і я зазлаваў на невядомую Руслану: чаму яна не стала распытваць пра такое ў Насці? Чаму замест пытанняў – каму абавязаная, які там цмок незразумелы, калі павінна нарадзіць, ад каго – яна прыдуркавата пытаецца, ці не кіне яе Насця пасля выканання свайго абавязку? Вось жа логіка ў жанчын... Зрэшты, як быццам зразумела: цмок у маім разуменні – той, які смокча кроў. Значыць, дзіця, якое насіла Насця, насамрэч было для яе абавязкам, цяжкай працай, у нечым і пакутай. Вось чаму – цмок...

Другую палову дня патраціў на аператара мабільнай сувязі. Я паведаміў кіраўніцтву салона, што ў сувязі з расследаваннем крымінальнай справы з пракуратуры ўжо накіраваны афіцыйны запыт на дазвол атрымання неабходнай інфармацыі, але абставіны патрабуюць неадкладных дзеянняў. Згоду я атрымаў адразу. Святлана, гаспадыня салона, маладая цяжарная

жанчына, пачала раздрукоўваць і перадаваць мне аркушы паперы. Я папрасіў усю інфармацыю аб актыўнасці Насці Грыцук за перыяд, калі яна стала абанентам аператара – трошкі больш за год. І як жа быў здзіўлены, калі мне раздрукавалі ўсяго тры аркушы!

Тут жа запрасіў звесткі пра ўсіх абанентаў, з кім камунікавала Насця. Не здзівіўся, калі пабачыў: практычна ўсе званкі – яе і да яе – датычыліся толькі некалькіх чалавек. Найчасцей, як я і прадчуваў, Насця размаўляла са старэйшай медсястрой, яшчэ некалькі абанентаў – санітаркі з хірургічнага аддзялення, – усе яны былі падключаныя на карпаратыўны тарыф бальніцы.

Толькі адзін тэлефонны нумар, за якім стаяў абанент, імя і прозвішча якога мне нічога не казалі, выклікаў цікавасць. Званкоў было толькі два: адзін уваходны – атрыманы дзевяць месяцаў таму, – і адзін зроблены самой Насцяй на гэты нумар – з тыдзень таму.

Поўная нечаканасць была прыхаваная ў канцы: Насця атрымала дванаццаць эмэмэсак ад розных абанентаў на працягу адной гадзіны чатыры дні таму вечарам. Адзін абанент быў знаёмы – той самы невядомы мужчына, які тэлефанаваў дзевяць месяцаў таму. Прозвішчы астатніх невядомыя. Мужчыны, жанчыны...

– Відавочна, яе віншавалі з нараджэннем дзіцяці, – выказала слушную думку Тамара, калі я расказаў ёй пра свае здабыткі. – Супадае дакладна.

– Але тады вынікае, што дванаццаць чалавек ведалі пра цяжарнасць Насці, – развёў я рукамі.

– Гэта цябе здзіўляе?

– Так, мае думкі наконт Насці як сурагатнай маці – памылковыя. Бо не можа быць, каб такая справа, як нараджэнне дзіцяці на заказ, было вядомае столькім людзям, ды яшчэ – гляньце на нумары – нашым, не замежнікам.

– Дарэчы, што за людзі? – Тамара пачала, пасунуўшы акуляры на нос, праглядваць спіс з дванаццаці абанентаў.

– Пакуль толькі палову ўстанавілі, – адказаў я. – Незвычайна нешта... Усе розныя, працуюць у розных месцах... Доктар гістарычных навук, рэдактар часопіса, мастачка... Дворнік, але і паэт па сумяшчальніцтве – дарэчы, як кажа Вікіпедыя, досыць вядомы ў сваіх колах.

– Зараз-зараз, – нечакана Тамара ўзрушылася, адклала мой аркуш з прозвішчамі абанентаў, пацягнулася да стоса папер на краю свайго вялікага стала. – Дзе ён тут быў, – мармытала яна, хутка перабіраючы лісты. – Ага! Вось табе сюрпрыз!

Яна трымала ў руках аркуш з нейкім спісам, працягнула мне мой ліст і загадала:

– Чытай прозвішчы!

Я падпарадкаваўся. Чытаў, а яна выгуквала: «Ёсць», – і крэсліла ў сваім спісе. Усе дванаццаць.

– Вось табе такое! – Тамара працягнула спіс мне. – Усе яны тут!

На старонцы было дваццаць тры прозвішчы. З іх названыя мной дванаццаць былі падкрэсленыя Тамарай. Унізе стаяла сіняя пячатка сельвыканкама, а ў шапцы ліста значылася: «Спіс жыхароў населенага пункта Ляўдок».

– І гэта трэба разумець так: цяжарнасць Насці была сакрэтам для ўсіх, але толькі не для пералічаных жыхароў вёскі. Дарэчы, яны ўсе – дачнікі, не мясцовыя...

– Значыць, яна знайшла там сяброў...

– І альбо яна мела з усімі імі самыя цесныя стасункі паасобку, альбо ўсе дачнікі – самыя шчырыя сябры між сабой... – услых падумаў я, трохі разгублены нашай знаходкай.

– Вось заўтра і разбірайся, – прапанавала-загадала Тамара. – Дарэчы, будзеш дапытваць Зміцера Грыцука, бацьку Насці, будзь вельмі настойлівым. Бо з запісу папярэдняй размовы вынікае, – яна зноў пакорпалася ў паперах, узяла ў рукі і з выразным незадавальненнем паклала назад ліст папярэдняга апытання, якое рабіла аператыўная група, – вынікае, што стары з галавой дружыць, але размаўляць зусім не хоча. Націсні там на яго... акуратна. Яшчэ?

– Пра цмока, якога павінна была нарадзіць Грыцук, я ўжо казаў. Мяне зацікавіў яшчэ адзін запіс у перапісцы. У палове на адзінаццатую вечара Насця піша апошнія словы – пра тое, што ёй трэба зараз «трошкі пажартаваць». Цалкам усё выглядае так... – я знайшоў аркуш з выпісаным дыялогам: – *“Насця: Выбачай, любая. Бягу, трэба мне тут пажартаваць. Руслана: Вой, ты там з некім жартуеш? Хто ён? Насця: Ды ёсць адна сволач... Руслана: Не разумею... Навошта табе жарты з нейкай сволаччу? Насця: Не думай нічога дрэннага пра мяне. Калі сволач, дык і жарты ў мяне адпаведныя. Каб ведаў...”* Вось такое, і больш ніякіх тлумачэнняў. Ці не стаў жарт прычынай смерці? Размова відавочна ідзе пра мужчыну. Ці не ў выніку гэтага незразумелага жарту яна і апынулася голай? – выказаў я здагадку.

– Усё можа быць, – думаючы пра нешта сваё, адказала Тамара, і потым дадала нечаканае для мяне: – Не падабаецца мне ўсё... Трэба хутчэй заканчваць.

– Як заканчваць? – разгубіўся я.

– Прыдумай, – Тамара ўзняла на мяне позірк, у яе вачах быў звычайны жаночы сум. – Вось чую я, няма тут па-сапраўднаму ніякага крыміналу, смерць – няшчасны выпадак...

– Але ж разабрацца трэба, – заўпарціўся я. – Лесбіянка раптам зацяжарыла, хавала гэта ад усіх, акрамя дачнікаў, нарадзіла... Дзе дзіця? І праз два дні пасля нараджэння няма ёй большай справы, як недзе з некім жартаваць... распрануўшыся цалкам!

– Разбірайся, – кіўнула згодна Тамара, – але надта не ўпірайся, не той, кажу, выпадак...

– Ну добра, – разгублена прамармытаў я. Мяне бянтэжыў настрой пракурора – яна заўсёды вельмі прынцыповая да следства, і раптам такое...

Тамара ўзнялася з-за стала, падышла да вакна, абаперлася на падваконне, нейкі час маўчала.

– Мне б хто лепш далажыў, калі сонца будзе. Хана маім памідорам, нейкія глісты растуць – тонкія, кволыя, дзыбатыя. Падаюць ужо...

Павярнулася да мяне, я ўстаў.

– Ты лепш, Васіль, пра жывых жанчын думай. Надзька твая ў самым часе раджаць... Ды і табе... Думаеш, лёгка нам, бабам, цераз людскія пагалоскі пераступіць?

Здаецца, я пачырванеў – адчуў, як прыліла кроў да твару.

– Ты выбачай, – Тамара шчыра павінілася. – Калі баба не хоча ні з кім жыць, дык ніхто і ведаць не будзе, з кім яна спіць. Вось пра мяне хто скажа хоць слова? Ці ты думаеш, за час пасля разводу ў мяне мужыкоў не

было? А калі табе, не хаваючыся, жанчына есці гатуе, дык павінен разумець. Не кіпі, я табе як маці кажу... Надзея твая – добрая жанчына, ведаю яе.

– Ды неяк разбяруся сам, – прамармытаў я.

– Ага, разбярэшся, – згадзілася Тамара і ўсміхнулася з незвычайным для яе твару клопатам. – Але як жанчына хачу табе сказаць... Мужчына выбірае сабе жанчыну, якая нечым падобная да яго маці, выбірае жанчыну для сябе. А вось жанчыны выбіраюць сярод мужчын не сабе каханка ці гаспадара, а бацьку для сваіх дзяцей. Тая цябе па-сапраўднаму кахае, якая хоча ад цябе нарадзіць... Ну ўсё, не буду больш цябе вучыць жыць. Ідзі, чакае яна цябе. Шчаслівы ты, зразумей нарэшце: цябе штовечар чакаюць...

Я выходзіў з пракуратуры з цяжкім і прыкрым пачуццём: Тамара мела рацыю, больш за тое, яна кранула самае балючае, тое, пра што я стараўся не думаць. Справа ў тым, што нашыя адносіны з Надзеяй зайшлі ў тупік. З аднаго боку, усё было добра: мы бачыліся практычна кожны вечар, ужо двойчы бавілі разам выходныя. Ездзілі разам на рынак у суседні райцэнтр – Надзея была заявіла, што я зусім абнасіўся, трэба займець мне колькі сарочак на лета, джынсы і касцюм. Сабе набірала рознай драбязы. Гатавала есці – і на мяне амаль штодня. Сэкс у нас хоць і стаўся бадай рэгулярным заняткам, але не страціў той самай першай радасці валодання жаданым целам. І я з асаблівай уцехай адзначаў: Надзея радуецца мне ў ложку, ёй прыемна не столькі атрымліваць, колькі аддаваць мне – ласку, пяшчоту. Зрэшты, для мяне і самога незаўважна стала галоўным даць як мага больш Надзеі. І тут не мужчынская гордасць самім сабой, не задавальненне ад выніку былі галоўным: вось, маўляў, які я спраўны і ўмелы мужчына – жанчына са мной у ложку штораз узнімаецца на пік асалоды кахання. Не, мяне апаноўвала невытлумачальнае шчасце сузіраць яе крышку ашалелай ад пачуцця ў такія імгненні, хацелася доўжыць такія хвіліны. Невыказна цёпла было сустрэць яе глыбока пяшчотны позірк, калі пасля мы ляжалі сцішаныя побач і ўглядваліся адно ў аднаго, быццам бачыліся першы раз, і старанна вывучалі кожную рысачку на тварах. Мне не хацелася думаць нейкімі высокімі катэгорыямі, але я ўпершыню ў жыцці сапраўды адчуваў шчасце ад таго, што я – даю і атрымліваю ўзамен такое ж: мне аддаюць, і жанчына шчаслівая, што аддае...

Я не думаў пра тое, як называць цяпер нашыя адносіны, не казаў і не думаў казаць Надзеі пра каханне. Неяк занадта будзённа ў нас усё пачалося і развівалася, дасягнула вяршыні... Дакладней – тупіка. Я адчуваў – тупіка. Бо вось жа пачыналася, быў нейкі рух, была мэта, было куды і да чаго рухацца, а цяпер мы дайшлі да таго пункта ў адносінах, за якім павінна пачацца нешта якасна новае...

Карацей, альбо жыць далей ужо як муж і жонка, альбо... разбягацца.

Надзея ніводным словам не намякнула на тое, што ў нашых адносінах павінна з'явіцца нейкая яснасць, яны павінны перайсці ў новую фазу. Але Тамара мела рацыю, ды і я сам не мог не разумець: Надзея чакае, верыць у працяг. Было ясна, што яшчэ месяц-два – і Надзея стоміцца быць адданай каханкай, і блізкасць урэшце страціць галоўнае – пачуццё самаахвярнасці, стане проста актам задавальнення патрэбы. Гэта звычайная дыялектыка: колькасць павінна пераходзіць у якасць, усё мусіць развівацца, а застыласць – для мёртвага...

А з другога боку, адкуль мне ведаць? Я ўмею чытаць думкі Надзеі? Фізічна здаровая жанчына, са мной у ложку яна навучылася поўнай

бессаромнасці (дарэчы, і я таму навучыўся), атрымлівае ад нашых з ёй хвілінаў усё, што можа атрымаць. Усклала на сябе невялікі абавязак іншы раз гатаваць для мяне нешта са страў, дазволіла карыстацца сваёй пральнай машынай-аўтаматам (праўда, пад яе кіраўніцтвам... ды па шчырасці, я больш стаю збоку). Але ж і я нечым дапамагаю ў яе гаспадарчых справах: ужо корпаўся на агародзе, рамантаваў водаправод, памяняў выключальнік... Карацей, пакуль у нас атрымліваецца гэткае бяскрыўднае суіснаванне, амаль сімбіёз. І галоўнае – ні я перад Надзеяй, ні яна перада мной не маем ніякіх абавязкаў! Хіба ж не адсутнасць абавязкаў і ёсць галоўны ўмацавальны фактар нашых адносінаў? Хіба не таму мы стараемся не пакрыўдзіць і не абразіць адно аднаго, бо нічога нас не трымае, акрамя нашай прыязнасці? Проста супала так: мы суседзі, падыходзім адно аднаму. А калі разбяжымся, хіба праблема – знайсці новага партнёра?

Але на гэтым месцы маіх разваг – не маіх нават, а нейкага бескампраміснага і цынічнага аналітыка, які часам прачынаўся ўва мне – я спатыкаўся.

Таму што – праблема.

Надзея пражыла без каханка некалькі гадоў пасля разводу. І зусім не пераймалася праз адсутнасць у яе жыцці мужчыны. І сам я, падсвядома адзначаючы сярод сустрэтых мной жанчын тых, якія патэнцыйна мне падыходзілі, не запомніў ніводнай, ніводная не захвалявала.

Пакуль не сустрэліся з Надзеяй. Я з ёй і яна са мной.

Мае сумневы тлумачыліся проста. У вёсцы, дзе я рос, выбар імёнаў быў надзіва небагаты. Сярод жанчын было па некалькі Надзяў, Таццян, Тамар. Сярод мужчынаў было тры Васілі, два Шуркі і ажно пяць Міколаў. Таму зазвычай кожны з вяскоўцаў меў дадатак да свайго імя. Надзька Пецькава (па імені мужа) і Надзька Прэдкава (па прозвішчы мужа). Шурка Кузьмоў – бо бацька быў Кузьма – і Васіль Таньчын, Шурка Тамарын. Доўгі час я не звяртаў на тое ўвагі, задумаўся толькі на трэцім курсе ўніверсітэта, калі нам чыталі лекцыю пра прозвішчы, мянушкі і падобнае.

А і сапраўды: чаму Надзька была Пецькавай, а Васіль – Таньчыным? Пытанне не столькі захапіла, колькі вярэдзіла сваёй нявырашанасцю. То прыехаў на вакацыі і спытаўся ў тады яшчэ жывой мамы. Тлумачэнне аказалася надзіва простым: Надзька была Пецькавай, бо прыйшла жыць да Пецькі, у пабудаваны ім дом. А Васіль быў Таньчыным, як і Шурка – Тамарыным, бо яны прыйшлі жыць у дамы сваіх жонак. І іх жонкі пасля замужжа зваліся па-вясковаму гэтаксама, як і да яго: Танька была Дуньчынай (так звалі яе маці) – і засталася Дуньчынай, Тамара – Грышкавай (па бацьку), хоць і выйшла замуж за Шурку. Васіль і Шурка былі прымакамі. І якімі б яны ні былі гаспадарамі, як бы ні шчыравалі на зямлі і ў двары, як бы ні перараблялі дамы, ды прымачы хлеб – сабачы. Не сталі яны гаспадарамі ў вачах вяскоўцаў, і не іхнімі сталіся жонкі, а яны – жончынымі мужамі.

Добра помню дзядзьку Шурку, суседа нашага. Здаравенны мужчына, першым хапаўся за самую цяжкую работу, за траіх касіў і сек. Васіль быў дзядзькам сціплым, але майстравым, на многія справы здатным. І паважалі іх вяскоўцы, і не чуваць было ў іх бок слоў асуджэння, ды назаўсёды загучала ў іх імёнах нечым здзеклівая, у нечым грэблівая прывязка залежнасці ад іх жонак...

Надзьчын Васіль – так і мяне могуць некалі назваць у нашым паўмёртвым шэрым райцэнтры, і мяне зробяць не гаспадаром, а дадаткам

да гаспадаркі адзінокай жанчыны. Хоць які там той дом – невялічкі, стары, у два пакоі, але ж – не мой, а яе. І пасля скажуць пра Надзею: «Прывяла сабе мужыка», і тут будзе гучаць ухваленне разумнай жанчыны і погляд на мяне, як на істоту, якую выбралі недзе ў базарны дзень...

Мабыць, яшчэ і з гэтай прычыны я ніколі не заставаўся ў Надзеі на ўсю ноч. Не ведаю чаму, але і Надзея, застаючыся з вечара ў мяне, хоць пад самы ранак, аднак вызвалялася з маіх абдымкаў, нацягвала на голае цела сукенку ці шорты з майкай, заціскала ў жменю станік і трусы, хутка цалавала ў вусны, дзячыла і спяшалася праз агарод у свой дом.

Пасля трэцяй нашай сумеснай ночы я думаў пра тое, што добра б было запрасіць Надзею да сябе, пажыць разам... тым самым грамадзянскім шлюбам. Чаму б і не? Але ж як мне запрашаць яе з асабістага дома, які побач, жыць да мяне на здымную кватэру? Ды каб на кватэру – у пакойчык! Не, тое было недарэчна, нават смешна. Ісці самому проста пажыць, паспрабаваць? О, не...

Была яшчэ адна акалічнасць, няхай і не вельмі істотная, але яна непрыемна казытала душу і сілкавала мае сумненні. Надзея нейкі час працавала настаўніцай. Цяпер жа яна – іпэшніца, гандлюе таннымі спажывецкімі таварамі. Сама закупляе тавар, мае месца на рынку. Два дні на тыдзень Надзея ў «камандзіроўцы» – ездзіць закупляцца, у суботу яна гандлюе на рынку, а ў іншыя дні да яе прыходзяць-прыязджаюць розныя людзі, грукаюць у дзверы ў любы час дня і ночы. І яна кідае мяне ў такія хвіліны, бо «людзі ж прыехалі, ім трэба».

Мне вядома, як, гандлюючы толькі адзін дзень на тыдзень, можна атрымліваць неблагія грошы. Надзея закупляе тавар на аптовым складзе, там усё – падпольнай вытворчасці, вельмі таннае, адпаведнай якасці. Прадаецца ж тавар ураздроб, часам з дзесяціразовай накруткай, але ўсё адно атрымліваецца нядорага. Тут Надзею вінаваціць нельга, яна мусіць трымацца тых цэнаў, якія склаліся на рынку: там існуе кругавая парука, і нельга скінуць цану, каб прадаць хутчэй, бо адразу нажывеш ворагаў сярод такіх жа гандляроў, як і яна сама. А вось як людзі прыязджаюць да яе дамоў, тады Надзея прадае значна танней – бяруць памногу...

Гэта сучасны рацыяналізм – і нічога супрацьпаставіць яму я не мог, бо разумеў асаблівасці нашага вычварнага рынку і няпростага жыцця. Хіба заробіць столькі настаўніца гісторыі? Надзея вунь ужо заказала сабе новы аўтамабіль. Але, шчыра кажучы, мяне гадзіў занятак Надзеі. Я не хацеў бы, каб са мной жыла жанчына, якая, па сутнасці, займаецца спекуляцыяй. Купіла – прадала...

І яшчэ... Няхай я – мужчына, якому ад жанчыны трэба толькі ўцеха ў ложку ды каб есці гатавала. Дапусцім, я такі, і тады становіцца зразумела, чаму я не прапаноўваю разам думаць пра будучыню, чаму маўчу пра тое, дзе і як збіраюся жыць далей. Але ж яна – жанчына! Калі яна, як кажа Тамара, угледзела ўва мне бацьку сваіх дзяцей, чаму ніколі не заікнулася пра тое, што хацела б мець дзяцей? Чаму сама не кажа пра тое, як збіраецца жыць далей? Выходзіць, яе ўсё задавальняе вось так, як ёсць? Надакучу, і тады пойдзе сама аднойчы, сказаўшы млява: «Не хачу, каб ты прыходзіў», – і нічога тлумачыць не стане...

На апошніх думках дайшоў да дому. Непрыемна адзначыў для сябе: Надзеі нідзе не відаць, а дзверы ў яе дом шчыльна прычыненыя – значыць, няма, бо яна амаль ніколі не зачыняе іх да канца, калі дома. І міжволі

варухнулася ў душы непрыемнае: вось жа, раней штодня сустракала, выглядвала, а цяпер ведае – нікуды не ўцяку, бо добра прывязала сваімі катлетамі і ласкамі ўначы, дык можна і не папярэджваць. А яшчэ нумар мабільніка брала... Быццам назло ўсё...

## 6.

Чуў, што жанчына застаецца жаданай, пакуль не перастае здзіўляць. Як па мне, дык здзіўленне павінна адбывацца толькі на кухні.

Апошнія дні я стаў заходзіць у свой пакой з боку агарода, не ведаю нават чаму, вось і цяпер абышоў веранду і – разгублена прыпыніўся: дзверы былі адчыненыя, праём прыкрыты пачэпленым на цвічкі цюлем – каб мухі не ляцелі. А да мяне даносілася сквірчэнне нечага на патэльні...

Умомант успомніў, як паказваў Надзеі, дзе я кладу запасны ключ ад дзвярэй. Яна тады пажартавала быццам, што раптам ёй захочацца згатаваць мне вячэру, пакуль я буду на працы.

У маім маленькім закуточку, які служыў кухняй, спінай да мяне стаяла Надзея. На ёй былі звыклыя белыя шорты (хоць дні нельга было назваць спякотнымі, але Надзея летам ходзіць толькі з аголенымі нагамі, яны ў яе не баяцца холаду), майка з кароткімі рукавамі і павязаны выцвілы фартух.

Хваля пяшчоты, якая падкаціла з сярэдзіны жывата пад горла, спыніла мяне ў дзвярах, змыла прыкрыя думкі, і мне стала пякуча сорамна, што хвіліну назад думаў нешта дрэннае пра Надзею. Яна не чула маіх крокаў і рухаў, завіхалася. Памешвала ў патэльні і, мабыць, нешта напявала сама сабе, бо лёгка прытупвала босай нагой...

Мне захацелася прысесці і пацалаваць лытку гэтай гарэзлівай нагі. Зрэшты, я так і зрабіў.

Надзея ўскудлаціла мае валасы, захапіла іх у жменю і пацягнула мяне, каб устаў. Пацалавала ў вусны і, роблена крыўдуючы, упікнула:

– Мае лыткі – самае зацалаванае табой месца. Я супраць! Нішто не павінна быць абдзеленым!

– Складзі спіс таго, чаму не хапіла і ў якой колькасці, – працягнуў я гульню. – Сёння ж справядлівасць будзе адноўлена, усім хопіць!

– Мне цябе ніколі не хопіць, – з лёгкай сарамлівасцю ціха прызналася Надзея, прытулілася тварам да маіх грудзей. – Мый рукі, сядай! – ператварылася ў строгую гаспадыню і падштурхнула мяне.

Позна ўночы мы пілі гарбату на верандзе. У апошні час мы часта так рабілі, бо калі мне адразу пасля любошчаў, як любому мужчыну, хацелася спаць, дык Надзея ўсчынала гаворку пра абы-што. Перапоўненая пяшчотай, яна магла доўга і замілавана гладзіць мае грудзі, шыю, твар – і гаварыць, гаварыць... А мне былі не вельмі прыемнымі яе пагладжванні, вось мы і вырашылі – будзем адпачываць і супакойвацца на верандзе за гарбатай.

Я расказваў Надзеі пра Насцю Грыцук, пра тое, як яна выношвала і нараджала дзіця відавочна на замову для некага. Зразумела, гэта вельмі непрафесійна з майго боку – адкрываць ход следства староннямy чалавеку, але Надзея... Надзея была мне сваёй. Я не першы раз расказваў ёй пра сваё, прафесійнае, быццам самому сабе, пры гэтым сам сябе слухаў, аналізаваў – і амаль штораз у мяне нараджалася новая думка. Цяпер я разумеў, чаму Тамара-пракурор так часта просіць усіх выказвацца ўголас па праблеме. Агучаная праблема дакладна хавае ў сабе рашэнне.

Любая крымінальная справа – справа чалавечая. Пачні шукаць прычыну – і становіцца страшна ад той бездані, у якую зрынаюцца чалавечыя душы, гідка ад тых істотаў, у якіх ператвараюцца людзі. Не мог я не падзяліцца з Надзеяй – бо яна ж жанчына! – нядаўняй гісторыяй пра згвалтаванне непаўналетняй. Дзяўчынцы ўсяго трынаццаць, на яе гвалтаўніка заява паступіла ад настаўніцы. Пачалі разбірацца. Дзяўчынка жыве з маці, тая, кажучы мовай пратакола, вядзе амаральны лад жыцця, хоць адбіраць у яе дзіця адвавочных прычынаў не было: дом больш-менш дагледжаны, працуе ў мясцовым калгасе. Выпівае? Так, здараецца. Але ж дзіця як быццам і апранутае не горш за іншых, і накормленае. Пакойчык свой мае, умовы адносна добрыя. Не была ж настаўніца ў тым доме начамі са свечкай, не бачыла, як маці займалася сэксам з чарговым сваім госцем за выпіўку, а дачка сачыла за ўсім са свайго пакоя, бо маці не зачыняла дзверы – глядзі за цікавай дарослай гульнёй... Нейк загадала дачцэ падысці ды «памацаць у дзядзі» – і дзядзька дасць грошай.

З таго пачалося. Мацала яна, мацалі яе пажадлівыя дарослыя рукі. Аднойчы той самы дзядзька, які ноччу мяў пад сабой яе маці на старой канапе і мацаў саму яе, завітаў днём, калі дзяўчынка толькі вярнулася са школы, а маці яшчэ не прыйшла з работы. Прынёс і стаў выкладаць на стол пячэнне, цукеркі, два жоўтыя бананы... Яна дазволіла сябе распрануць, каб дзядзька зноў, як мінулай ноччу, гладзіў, сціскаў небалюча яе цела. Потым дзядзька сказаў, што яна зусім дарослая і, калі яна зробіць як яе маці («Ты ж бачыла?»), зусім па-даросламу, ён дасць ёй многа грошай. І папраўдзе даў грошай, але папярэдзіў, каб яна не прызнавалася маці.

Трэба адзначыць, у свае трынаццаць год дзяўчынка выглядала даволі сталай: высокая і не худзенькая, цыцачкі ўжо адскочылі досыць адчувальна, круглявы азадак і плечы. Праз месяц вопытны мужчына зрабіў з падлетка сапраўдную німфетку. Як бясхітрасна і амаль безэмацыйна расказвала на допыце дзяўчына, дзядзька вельмі стараўся, каб ёй спадабалася, і яна сапраўды пачала атрымліваць фізічнае задавальненне ад «таемнай гульні». Прычым пачала нават прагнуць яго... Аднойчы разам з маці, якая была моцна п’янай, прыйшоў незнаёмы мужчына, амаль цвярозы, у чыстым адзенні, акуратны. Маці пацягнула яго да сваёй канапы, пачала бязладна распранацца.

«А дзядзечка такі прыгожы, дужы, мне так шкада яго стала, бо мама такая п’яная, непрыгожая, старая... Я дзядзьку да сябе паклікала, калі мама заснула, я ўжо ўсё умею...»

Тамара хапалася за галаву ў час допыту. І не вытрымала, калі дзяўчынку вывелі, павярнулася да яе маці, застылай на стуле, безуважнай да ўсяго, і голасна вылаялася: «Поскудзь! З якім задавальненнем я б цябе зараз прыдушыла!»

Назначаная экспертыза выявіла ў дзяўчынкі лёгкую ступень дэбільнасці, яе адправілі ў інтэрнат. З гвалтаўніком, які, як выявілася, быў чарговым кліентам дзяўчынкі-прастытуткі, разбіраўся суд. А маці, пазбаўленая бацькоўскіх правоў, вярнулася ў свой дом. І працуе там жа, і жыве гэтаксама. Хіба што вылічваюць з заробку на ўтрыманне дачкі...

– Мне шкада цябе, – прамовіла тады Надзея, калі я замаўчаў.

– Чаму? – здзівіўся я.

– Бо ты бачыш, якімі мы робімся. Ты бачыш той бок жыцця – вычварны бок, – які людзі хаваюць ад чужых вачэй і ад саміх сябе. Мы ж

у большасці сваёй адмахваемся ад такіх вось здарэнняў і з'яў. Бо яны – не з намі здараюцца, нас не датычацца. Мы вось на чарговы канцэрт падзівімся, на чарговае свята народнае сходзім. А тая брыда – дык то не пра нас. Цяжка табе...

– Цяжка чаму?

– Цяжка бачыць у людзях светлае, калі ведаеш, на што здольны чалавек, як глыбока можа ўпасці. Мы жывем, бы тэлесерыял дзівімся праз замочную шчылінку. І ўсё міма нас праходзіць, як нешта і блізка здарыцца, дык ахнем-войкнем – і забыліся. Абы не з намі. А ты... ты да самой сутнасці даходзіш, ты бачыш прычыны і следства, ты з гэтым жывеш, табе нельга забывацца, бо любая такая падзея становіцца для цябе наўпрост часткай нашага жыцця. І ты не можаш ад яе адмахнуцца, як адмахваемся ўсе мы, астатнія...

Я быў не тое што здзіўлены – уражаны словамі Надзеі. І не тым, што яна паспачувала мне, хоць і спачуванне мела для мяне вялікае значэнне, а тым, як яна пабачыла мяне ў маім крымінальным свеце. Сам я ніколі так глыбока не задумваўся над сваёй работай, з Надзеяй мы ўвогуле не размаўлялі на тэмы, якія б вымагалі наяўнасці ведаў і здольнасці да аналітыкі на ўзроўні, вышэйшым за... узровень гандляркі. Так, мне тады стала сорамна, далібог. Раптоўна я пабачыў іншую Надзею – разумную, адукаваную і здольную дакладна сфармуляваць і выказаць сваю думку, прычым – слушную, цвярозую і на такую складаную тэму.

– Мне няпроста, так, – прыціснуў я да сябе Надзею. – Але ж у мяне ёсць жанчына з такім шматзначным імем, мой светлы і чысты куточак жыцця. Тут я і ратуюся.

Мае словы гучалі як просьба прабачыць. Мабыць, тады і Надзея адчула, зразумела, што першы раз за наш час разам яна выказвалася зусім не як простая жанчына, спекулянтка з рынку. Бо і сама крышку зніякавела, быццам засаромелася.

Зазвычай Надзея слухала ўважліва, але ўтрымлівалася ад каментарыяў, калі я яе не пытаў. І цяпер, расказваючы-разважаючы пра Насцю Грыцук, якая для некага нарадзіла дзіця і была забітая, я сачыў за тварам Надзеі, бачыў у яе вачах не проста цікавасць, а суперажыванне і боль.

– Але ж ты так і не ведаеш дакладна: Насця нараджала для некага спецыяльна? То твае здагадкі? – ціха спытала яна, калі я замаўчаў.

– Так, здагадкі, – мусова згадзіўся я. – На жаль, нават у прыватнай перапісцы са сваёй сяброўкай Насця адно напісала, што павінна нарадзіць цмока. Але каму і чаму...

– Цмока? – нечакана здзіўлена выгукнула Надзея.

– Ну так, – пацiснуў я плячыма. – Дзіўна? Як я зразумеў, так яна звала дзіця, якое насіла. Бо жыў у ёй, сілкаваўся яе сокамі. Піў кроў...

– Цмокі не п'юць крыві, – сур'ёзна запярэчыла Надзея.

– Надзюш... Ну алегорыя ж. Так яна выказалася. А хто, па-твойму, цмок?

Надзея неяк дзіўна паглядзела на мяне, быццам шукала на твары падказку для свайго рашэння: казаць сур'ёзна далей ці абысціся нязначным удакладненнем. Я заставаўся сур'ёзным – мне сапраўды было цікава, якога цмока ведае Надзея.

– Ведаеш... У час майго студэнцтва быў у нас выкладчык. Ён літаральна заразіў мяне і яшчэ некалькі чалавек з нашае плыні любоўю і цікавасцю да гісторыі. Да сваёй, айчыннай. Тады былі... самыя лепшыя мае гады. Самыя

напоўненыя. Я адкрыла для сябе столькі ўсяго. Дык вось, Цмок – адно з самых загадкавых міфалагічных стварэнняў нашых продкаў. Невядома, як ён выглядаў, якая была яго роля ў жыцці людзей. З тых паданняў, якія захаваліся, можна зрабіць вывад: ён быў лятучым, мог спапяліць агнём са сваёй пашчы. Карацей, можна лічыць, то быў дракон...

– Ну вось, хіба ж я памыляюся тады? – перапыніў я і радасна дадаў: – Успомніў! Ёсць жа абраз такі – святы Юры забівае змея ці цмока. Так жа?

– Так, – пяшчотна ўсміхнулася Надзея і патлумачыла, бы настаўніца дзіцёнку: – Святы Юры забівае Цмока... Алегорыя, сімвал перамогі хрысціянства над паганствам, разумееш? Той змей на абразе – не нейкае стварэнне з Пекла, не д'яблава дзіця. Менавіта Цмок. І ён там увасабляе старажытную веру нашых продкаў, якая была вынішчана хрысціянствам. Тая ж казка пра Кашчэя Бессмяротнага – гэтаксама гісторыя змагання хрысціянскай царквы з паганствам... Можаш уявіць, на якім месцы ў пантэоне паганства знаходзіўся Цмок, калі смерць над ім зафіксавана ў абразах. Цмок... Цмок быў незалежнай, вольнай істотай. Але калі чалавек аднойчы ўстанаўліваў добрыя стасункі з Цмокам, то той забяспечваў яго бязбеднае існаванне: прыносіў яму скарбы, бараніў ад ворагаў, сцярог дом ад бяды.

– І як можна... нарадзіць Цмока? – прыдуркавата спытаўся я. – Ад каго?

– От не ведаю, – з усмешкай развяла рукі Надзея. – І ніхто не ведае. Хрысціянствам паступова было знішчана ўсё, што мела дачыненне да старажытнай веры. Вынішчалася агнём у прамым сэнсе. Засталіся толькі паданні... іншым разам і вельмі супярэчлівыя. Паводле адных, Цмока можна прывабіць, калі спячы для яго яечню без солі і тлушчу і аднесці той пачастунак на гарышча. Паводле іншых, Цмока можна было выгадаваць. Напачатку дачакацца, калі чорны певень знясе яйка. Пасля тое яйка павінен насіць мужчына пад пазухай некалькі гадоў. І з яйка вылупіцца маленькі Цмок. Карміць зноў жа яечняй без солі...

– Цікава! – не схаваў я захаплення. – А чаму Цмок не любіць солі?

– Солі не любяць усе, хто жыве ў пазасвеце... ну, не сярод людзей. Соль... яна як абярэг. Прыкмета ж вось ёсць: рассыплеш соль – да сваркі ў сям'і. Таму, што соль у тыя часы была вельмі рэдкая, каштоўная, яе ашчаджалі, бераглі. Таму ў яе і такія якасці абярэга.

Нейкі час я маўчаў, раздумваючы над тым, што з пачутага можа прыдасца практычна. Ведаць, безумоўна, цікава, але ж Насця Грыцук не была чорным пеўнем... Я ўсміхнуўся сваім думкам і спытаў:

– А хіба не недарэчна гучыць умова нараджэння Цмока: напачатку певень павінен знесці яйка?

– Ты таму і пасміхаўся? – трошкі раўніва спытала Надзея.

– Ды ўспомніў дзіцячую загадку: знёс певень яйка на кітайска-савецкай мяжы. Каму дастанецца: кітайцам ці савецкім?

– Ага, помню і я, – пасур'ёзнела Надзея. – А знаеш... пустое доўга не жыве.

– У сэнсе?

– У тым сэнсе, калі нешта мае пад сабой доўгую гісторыю жыцця ў казцы, міфе, то там заўсёды схаваны глыбокі сэнс, зашыфраваныя веды, сапраўдная гісторыя.

– Ты перакананая, што за кожнай небыліцай нешта хаваецца?

– А ты зменшыш свой скепсіс, калі я нагадаю табе, як была раскапана

Троя? Да Шлімана нават ніхто і не сумняваўся: выдумка, казка, легенда, міф! А лабірынты Мінатаўра? Яшчэ прыклады хочаш?

Якой прыгожай стала Надзея ў сваім узбуджэнні! Яна падалася наперад, прымружаныя вочы ззялі, нават невялікая складка на лбе не псавала твару, а надавала яму энергіі. Трапяткія ноздры вострага носа ўздрыгвалі. Я ўпершыню бачыў Надзею такой: сапраўды ўзрушанай, зацікаўленай, крышку нават агрэсіўнай, якая казала пра сваё, роднае і блізкае, бараніла яго. Міжволі ўсміхнуўся.

– Чаго ты смяешся? – разгублена спыніла сябе Надзея, неяк адразу асела, быццам птушка крылы склала.

– Прабач, калі ласка, – я прыгарнуў Надзею да сябе, пальцы правай рукі запусціў у яе валасы – ад скроні далей, нібы расчэсваў. Ведаў – яна любіла, калі я так рабіў. – Ты зараз мне так нагадала нашу сакратарку ў адзін дзень. Да яе прыйшла сяброўка, нешта пачалі гаварыць пра дзяцей. У сакратаркі двое, звычайныя дзеці, без асаблівых талентаў. І вось сяброўка неяк няўклюдна ўпікнула нашу Зіначку, маўляў, дзеці твае ні ў музычнай школе, ні ў мастацкай... О, як усхапілася Зіначка! Яна так бараніла сваіх, у тры сказы даказала, што яе дзеці – найлепшыя! Вось. І ты так бараніла сваё... свайго Цмока...

Крануўся вуснамі лба Надзеі. Удыхнуў пах яе валасоў. І нечакана Надзея застыла напружаная. Упершыню я адчуў такую незразумелую нерухомасць Надзеі, і мяне трывожна казытнула: нешта здарылася?

– Васіль... Можна я нараджу ад цябе дзіця?

Надзея вымавіла сваё пытанне, асцярожна, просячыся, вызвалілася з маіх рук, нейкае імгненне сядзела, схіліўшы галаву, потым узняла на мяне вочы.

Я пацягнуўся па цыгарэты.

Калі ў нас здарылася блізкасць, у той самы першы раз, неяк адным словам Надзея дала мне зразумець: мне не трэба непакоіцца пра наступствы. І мы ўвесь час не засцерагаліся.

– Я не разумею, як так атрымалася... – крыху нервова прагаварыў я, мнучы цыгарэту.

Унутры мяне пачынала дробна трэсці. Раптоўна я зразумеў, як жыццё, тое, якое ёсць сёння, можа абрынуцца, і замест яго ўзнікне нешта новае, пакуль чужое для мяне, а галоўнае – без майго жадання. Як жа так? Чаму яна вырашыла падмануць мяне?

– Вой, дурненькі! – весела-адчайна ўсклікнула Надзея. Саслізнула на калені перада мною, абхапіла мае ногі, паклала на іх галаву і зноў зірнула на мяне, знізу наверх, але з неверагоднай пяшчотнай перавагай.

– Дурненькі, – паўтарыла яна з усмешкай. – Нічога не здарылася. І не магло здарыцца. А ты падумаў? Падумаў?

І стаў тухнуць, знікаць цёплы агеньчык у яе вачах. Яна зразумела: я падумаў менавіта так, больш за тое, яна адчула, што ў мяне такая навіна выклікала ніяк не радасць.

Надзея не стала чакаць ад мяне нейкіх словаў. Яна зразумела? Зразумела, што я разгубіўся, спалохаўся? Зразумела, як у мяне маланкай пранеслася думка: вось, заляцела – нікуды не дзенешся, мусіш ажаніцца?

Зрэшты, усё было няважна. Бо Надзея зноў пачала казаць ціха, вінавацячыся:

– Я хачу нарадзіць дзіця... Вельмі хачу. Мне ўжо наўрад ці замуж

выйсці... А ад абы-каго нараджаць не хачу. Васіль... няхай яно народзіцца ад цябе... Хочаш, я напішу і падпішу паперу, што не буду мець ніякіх прэтэнзій да цябе?

Я быў не разгублены – мяне літаральна аглушыла. Мноства думак, пачуццяў узарвалі свядомасць. Не было магчымасці за нешта зачапіцца. І толькі адна, самая недарэчная думка, пульсавала ў скронях: вось Насця Грыцук – для некага нараджала, а ты – будзеш такім жа сурагатным бацькам...

– Надзюш... – хрыпата пачаў я, так і не прыпаліўшы цыгарэту. – А ты... Чаму ты не хочаш вярнуцца ў школу?

Яна зноў села побач, але не прыхіналася, усміхнулася, як павінілася:

– Табе прыкра, бо ты, следчы пракуратуры, інтэлігент, спіш з гандляркай з рынку?

Так, яна не абвінавачвала мяне, а менавіта прасіла прабачэння, быццам сама адчувала сябе чалавекам другога гатунку, жанчынай, якая прыдатная для мяне хіба як палюбоўніца, але не як... Не як жонка, не як маці маіх дзяцей.

Я не ведаў, што адказаць. Я не ведаў, што рабіць далей, як выйсці з сітуацыі, чым завяршыць размову. Не ведаў, наўпрост не ведаў...

У пакоі зайграў тэлефон, як сапраўдны паратунак для мяне. Я падхапіўся з невыказнай палёгкай, нават не здзівіўшыся такому позняму званку. Абы толькі не памыліліся нумарам. Няхай любое надзвычайнае здарэнне, няхай хоць што, абы толькі.... Абы толькі не працягваць размову... Мне трэба час, мне трэба пабыць аднаму...

– Васіль? – вінавата спытаўся голас пракурора. – Выбачай, разумею, на які момант магла патрапіць. Праз дзесяць хвілінаў будзем у цябе, апранайся.

– Апранаюся, – адказаў я, выдыхнуўшы. – У двух словах можна даведацца, што здарылася, Тамара Сяргееўна?

– Можна, – пагадзілася Тамара. – На трасе, на выездзе з Ляўдка – ДТЗ: фура збіла легкавы аўтамабіль. Пакуль там даішнікі разбіраюцца. У багажніку легкавіка знойдзена скрыня... Дакладней, невялікая труна. У ёй труп нядаўна народжанага дзіцяці.

– Кіроўца, пасажыры легкавіка?

– Пасажыраў не было... Кіроўца мёртвы.

– Зразумела... Чакаю.

Я апрануўся хвілінаў за пяць, выйшаў на веранду, прысеў, каб нарэшце закурыць. Усе хваляванні ад прапановы Надзеі зніклі. Пасля, усё пасля...

Надзея выйшла на веранду, трымаючы ў руцэ кубак з кавай.

– Папі... Ноч будзе доўгай?

– Ага, дзякуй табе, – шчыра адказаў я, крануты яе клапатлівай здагадлівасцю – вельмі добра зараз кубак кавы. І час ёсць... – Не ведаю, наўрад ці занадта доўга... Хочаш пачакаць? – прымусіў сябе жартам спытаць я.

– Калі табе будзе прыемна – пачакаю, – адказала Надзея з усмешкай на куточках вуснаў.

– Тады тут чакай! – паставіў я ўмову быццам усур'ёз, бо не мог іначай у гэтыя хвіліны, і вось такая гульня ў сур'ёзнасць была маёй выратавальнай кладкай між упэўненым у сабе чалавекам і цалкам разгубленым мужчынам.

– Тады буду тут чакаць, – пакорліва згадзілася Надзея ці то насамрэч, ці то жартам...

На верандзе заставалася гарэць нязыркае святло, калі я выходзіў з

веснічак. Тамара ні пра што не пыталася, моўчкі кіўнула, калі я ўсеўся. Мы паехалі, і я думаў пра тое, як нязвыкла, калі мужчыну жанчына прапаноўвае стаць бацькам яе дзіцяці. А можа, у будучым гэта будзе заместа прапановы ажаніцца?

## 7.

Добра, што ёсць ночы – у іх пачварнасць і жах выглядаюць цалкам натуральнымі.

– Божа, не дай Бог маці такое нарадзіць і пабачыць... – голас Тамары быў зусім не пракурорскім, яна казала, як звычайная кабета, уражаная відовішчам.

У невялікай драўлянай труне, якая была зроблена з абрэзкаў «вагонкі», хоць і груба, але дастаткова акуратна, ляжала мёртвае немаўля з вялізнай, выцягнутай даверху, амаль у свае паўроста, галавой. Гідрацэфал...

Я дастаў скарчанелае цельца. Нечакана цяжкое, яно падалося мне жалезнай лялькай, абцягнутай тоўстым латэксам. Цалкам разгарнуў вялікую мяккую пялюшку. Хлопчык...

– Пупавіна адпала... Некалькі дзён, – Тамара не кранулася мёртвага дзіцяці. – Вось і ўсе адгадкі...

– Не думаю, што ўсе, – неахвотна запярэчыў я.

Мне насамрэч не хацелася ні спрачацца, ні думаць пра нешта. Так недарэчна супала – просьба Надзеі нарадзіць ад мяне дзіця і мёртвае немаўля... І такое ж можа нарадзіцца. Мы так мала бачым на вуліцах хворых людзей, што думаем, быццам усе нараджаюцца здаровымі, фізічна беззаганнымі.

– Больш нам наўрад ці трэба, – настойліва працягнула Тамара. – Ніякага заказу на дзіця не было. Быў мужчына, выпадковая цяжарнасць, нараджэнне хворага дзіцяці. У мужыкоў заўсёды хапае розуму абвінаваціць у такім няшчасці жанчыну. Відавочна, быў канфлікт. Раніцай пашукаем на дачы кіроўцы. Знойдзем і тое, на што напаролася Насця...

– Напаролася? – здзівіўся я.

– Напаролася, – упэўнена кіўнула Тамара. – Не шукай таго, чаго не было. Магла бегчы, спатыкнуцца, упасці...

Накрапваў дождж. Мігалка машыны даішнікаў рэзала вочы, я раздражнёна думаў над тым, чаму яны не выключаюць яе, чаму Тамара не загадае тое зрабіць. Пад'ехалі нарэшце выратавальнікі на сваёй «газелі» з абсталяваннем. З блытанага аповеду кіроўцы фуры вынікала, што сутыкненне адбылося адразу пасля таго, як ён размінуўся з сустрэчнай. Кіроўца аўто, якое выязджала з павароту на Ляўдок, прапусціў гэтую сустрэчную і адразу выехаў на шашу. Ад удару машыну адкінула на металічны слуп і літаральна абгарнула вакол яго.

Моцна завуркатаў рухавік, пасля зароў, потым пасыпаліся іскры пад тонкі вісклівы гук – выратавальнікі разразалі жалеза, каб дастаць труп кіроўцы.

Участак дарогі, асветлены фарамі аўтамабіляў і жоўта-сінімі мігалкамі машын даішнікаў і «хуткай», выглядаў у абсалютнай чарнаце ночы ўрачыста-злавесна. Рэдкія машыны на трасе сцішвалі ход, праязджалі амаль бязгучна. Я адышоў падалей за куст на дарозе на Ляўдок, закурыў, глядзеў на постаці... Ні пра што не хацелася думаць.

У паветры віселі, таўкліся, як жамяра, дробныя кропелькі вільгаці, ліплі да твару і шыі. Быццам нешта нябачнае, вялізаранае, бясформеннае, але жывое хавалася ў цемры, на правах гаспадара бессаромна абмацвала кожнага і ўсё, што трапіла ў яе ўладанні. Яно, мокрае і чорнае, тут гаспадар... І нават калі прыйдзе ранне, яно распаўзецца туманом, прыўзнімецца да нізкіх аблокаў – агромністае, бяздушнае і халоднае.

– Што задумаўся? – Тамара падышла да мяне. – Запальнічку не ўзяла. Трэба ж, колькі ўзнімалі сярод ночы, ніколі нічога не забывала...

– Некалі ўсё здараецца ўпершыню, – я пстрыкнуў, пачакаў, пакуль Тамара дастане з пачка цыгарэту, паднёс у жмені жоўты агеньчык да яе скуластага твару. – Значыць, ніхто нашую Насцю не думаў скарыстоўваць у якасці інкубатара.

– Адказы на большасць пытанняў бываюць вельмі простымі, – нібыта ўсцешваючы, заўважыла Тамара. – Вось разбярэшся заўтра з кіроўцам. Можа, у яго была сапраўдная любоў. Насця магла паспрабаваць – ад адчаю, ад цікавасці – стаць нармальнай жанчынай. Раптам цяжарнасць яе змяніла? Калі мужчына кахае па-сапраўднаму, ён на многае пойдзе. Мог і ўгаварыць Насцю, каб нарадзіла яму...

– А мне вось прапанавалі бацькам стаць... сурагатным.

Словы вырваліся самі сабой. Не збіраўся аніяк, не думаў нават, што скажу Тамары пра тую просьбу, ды яшчэ ў такі момант і такім тонам, быццам прашу парады.

Тамара маўчала, як не пачула маіх слоў. Не перапытвала, не спынялася раз-пораз зацягвацца. Нарэшце яна дакурыла, адышла на ўзбочыну, кінула і прытаптала нагой акурак. Я зрабіў тое ж. Мы моўчкі пайшлі да месца аварыі.

– І ты адказаў? – нечакана запытала Тамара.

Я ўздрыгнуў.

– Не паспеў...

– Толькі не ўздумай цяпер адказваць, – насмешліва-жорстка папярэдзіла Тамара.

– Чаму? – разгубіўся я, больш ад таго, што Тамара не забылася на мае словы, думала пра іх і вось цяпер вучыць. Як школьніка перад экзаменамі.

– Таму. Такія прапановы – як тэст. Калі задумаўся мужык – ад яго трэба бегчы. Што б ты цяпер ні адказаў – тэст ты праваліў. І ведаеш... – Тамара прыпынілася, бо мы ўжо амаль падышлі да машыны, а ёй, мабыць, неабходна было дадаць колькі словаў. – Вось ты меркаваў, што Насцю скарысталі як інкубатар. Ты лёгка са словам абыходзішся. Скарыстаць – зусім не тое. Скарыстаць – узяць і не аддаць узамен. Вось ты Надзькай карыстаешся месяц... Маўчы. Паехалі.

«А яна мной не карыстаецца!?» – захлынуўся я воклічам, але падпарадкаваўся Тамары, трымаў у глотцы свае словы. Жанчыны заўсёды бароняць жанчын... Бач, я скарыстоўваю... А яна мяне? Хіба Надзея не карыстаецца мной, як мужчынам? Яна хіба мала ад мяне атрымлівае? Гэтулькі гадоў не ведаць элементарнай мужчынскай ласкі і цяпер бярэ напоўніцу ўсё ад мяне! А я ж даю ўсё, што магу! Ці была б яна з некім больш шчаслівай? Сама ж прызнавалася: са мной, менавіта са мной адчула ўпершыню тое, што падалося ёй стратай самой сябе, калі, здавалася, сэрца спынілася ад неспазнанай раней асалоды, пра якую і думаць не магла, у якую не верыла. Хіба яна не захлынулася тады шчаслівымі

слязьмі ўдзячнасці, хіба не цалавала мяне апантана, не шаптала бясконца самыя пяшчотныя словы?..

– Дай запальнічку!

Зазвычай Тамара не курыла ў салоне аўтамабіля, а тут павярнулася да мяне, пацягнулася тонкімі вузлаватымі пальцамі.

Я разгублена ляпаў па кішэнях: куды засунуў запальнічку? І нечага баяўся глядзець у вочы пракуроркі. Ды прыйшлося. Як і чакаў: у гэтых вачах застыў папрок. Абвінавачанне нават.

– Не крыўдуй. Сам падумай, – нечакана ціха сказала Тамара.

Ну чаго яна лезе? Якое яна мае права ўвогуле нешта мне ўказваць? Знайшла суб'ект для выхавання? Сумна адной стала?

– Віктар вось ведае, – Тамара лёгка кіўнула прыпаленай цыгарэтай у бок нашага кіроўцы, маўклівага, мне іншы раз здавалася, быццам ён нямы. Яшчэ і знешнасць такая непрыкметная, сцішваецца сам недзе ў куточку прыёмнай, калі вольны, тры словы пра яго не скажаш. – Тваёй Надзеі хапіла ўсяго.

– Я ведаю, – трохі крыўдліва ўставіў я.

– І пра звальненне са школы ведаеш? Пра даносы на яе ва ўсе інстанцыі, нават у КДБ, – ведаеш? Пра допыты? Пра ператрусы?

Тамара не паварочвалася да мяне, страсянула попел праз адчыненае вакно.

– Дык ведаеш?

– Не, – ціха адказаў я, агаломшаны пачутым. – Былая свякруха помсціла?

– Дурняў і без свякрух хапае, – уздыхнула Тамара. – Калегі так званыя. Надзея ж гісторыю выкладала. Некаму вельмі не спадабалася, як яна пра... як яго там... Касцюшку, пра якога ў падручніку няма нічога, вучням расказвала. Пайшоў першы данос – маўляў, настройвае дзяцей супраць славянскага братэрства, ставіць пад сумненне значнасць адзінай саюзнай дзяржавы. Атрымала па пошце кнігі – пайшоў данос пра атрыманне нейкай незаконнай друкаванай прадукцыі, налепак, бо якраз дзятва дурэла, на канікулы са сталіц папрыязджалі, ляпілі ўсякае на слупы... А ў яе самой не хапала хітрасці змаўчаць пра сваё стаўленне да таго Княства Літоўскага, да Пагоні той... Вось і папрасілі са школы. На маё імя, пакуль яна выкладала, васемнаццаць лістоў прыйшло. Адно нават з подпісамі бацькоў, не паленаваліся. У чым толькі не абвінавачвалі яе! Нават у стварэнні падпольнай арганізацыі дзеля звяржэння мясцовай улады. А ты не смейся, – нечакана павысіла голас Тамара, і цяпер я заўважыў, як яна паглядвае на мяне ў люстэрка задняга бачання. Я ж і праўда міжволі ўсміхнуўся: няўжо не дурнота – пісаць такое?

– Ды... якая багатая фантазія ў чалавека, – апраўдаўся я.

– Багатая... У мужыкоў, якіх мы, бабы, пасылаем з іх жаданнем залезці нам у трусы, фантазія багатая, – жорстка загаварыла Тамара. – Я таго пісара хутка вылічыла, Надзея распавядала мне пра свае справы школьныя і не школьныя. Настаўнік... Бач, разводзёнка не захацела спатоліць яго прагу. Карацей, Надзея намі, і не толькі намі, правераная ці не рэнтгенам. Чыстая душа, няхай сабе і любіць тое, што лепш у наш час не любіць. Але няма ў яе ні камянёў за пазухай, ні дулі ў кішэні. Яна нацярпелася... то мы яе ў крыўду не дадзім. Праўда ж, Віктар? – Тамара злёгку ляпнула па плечуку кіроўцы.

– Не дадзім, – ледзь чутна адказаў кіроўца. – Суседа дачку паўгода ва ўніверсітэт рыхтавала, рубля не ўзяла... Дзяўчына на бюджэт паступіла.

– Чуў? – Тамара спыталася ўжо з усмешкай у голасе і дадала: – У яе абаронцаў многа ў горадзе. Цяпер во раз у квартал за бесцань раздае рэшткі тавару, бачыў жа? Некалькі шматдзетных сямей адзеннем забяспечвае. Вельмі шчыры, аддананы чалавек. І кахаць умее, – зусім ужо нечакана зазначылаТамара і замоўкла.

Не чакаў, што апошнія словы бы які молат бэхнуць па мазгах. Жанчыне можа быць бясконца добра з мужчынам зусім не таму, што ён – атлет і ўмелец, а проста таму, што яна яго кахае. І яна шчаслівая, бо побач з ёй – каханы, бо яна дорыць яму сябе. Вось такая нечаканая думка.

Надзея кахае мяне?

Ніколі не думаў. Чаму не думаў? Чаму я за сваё жыццё ўвогуле ніколі не думаў пра каханне? Баяўся гэтага слова? Ці чакаў?

Так, чакаў. Бо недзе там, у мазгах, як на складзе, адклалася, задубела-пражжавела аксіёма: каханне – выбуховае пачуццё, шквал пачуццяў і эмоцый, нешта такое, якое ні з чым не зблытаеш.

А ў нас з Надзеяй усяго сэкс?

Але ж калі толькі сэкс, дык хіба я не атрымліваю ў ложку аднолькава з Надзеяй? А калі не толькі сэкс, дык што яшчэ?

Паглядзі на сябе збоку, казаў я сам сабе. Выключаем з размоваў сэкс, тут раўнавага. Далей глядзім.

Гатуе вячэру? Гатуе. А ты гатаваў на дваіх? Ні разу. А, каву запарваў. А яна? Таксама запарвала.

Посуд мые? Мые. Ты заўважаў, як паспявае працерці пыл, нешта паставіць, пераставіць... У цябе былі два кубкі, два відэльцы, каструлька ды патэльня. А сёння? Ты заўважыў новы чайны сервіз? Яна прынесла, быццам у яе іх некалькі. Посуду стала колькі? Урэшце, якой стала твая «кухня»?

Яна паспела памыць вокны, быццам між справай. Мые тваю бялізну... мые, ты ж толькі побач стаіш ля пральнай машыны. Прыбірае. Колькі ўсяго новага ў тваім пакоі? Яшчэ камплект бялізны. Настольная лямпа. Попельніца крышталёвая. Сурвэткі. Твой пакой стаў утульным, у які табе хочацца вяртацца.

А што ты даў ёй матэрыяльнага? Замяніў выключальнік і падкруціў гайку на водаправодзе?

Яна выслухоўвала цябе пасля работы. Спачувала, суцяшала, суперажывала. Яна ведае, колькі ты зарабляеш, ведае твае цяжкасці, пыталася пра планы і мары.

А ты? Ты ведаеш, чым яна жыве?

Яна ж для цябе гандлярка з рынку днём, хатняя гаспадыня вечарам і каханка ўначы. Усё! Ты хоць раз пацікавіўся яе турботамі? Спытаў, як справы? Ага, табе прыкра пытацца пра тавар ды грошы. А ты ведаеш, якімі бываюць дарогі ў Маскву па тавар? Ведаеш, як жанчыне двое сутак абыходзіцца без выгод і гарачай вады? Гідзяць цябе такія сітуацыі? А новыя майкі на лета, якія яна табе прывезла – вось такая брудная і смярдзючая, – не гідзяць?

...Я не разумеў, што са мной адбываецца. То быў нейкі акт мазахізму, я адчуваў ці не салодкі боль ад жорсткіх пытанняў самому сабе. Мо першы раз за сваё жыццё я ацэньваў свае паводзіны без адзінай спробы апраўдання. О, я б знайшоў апраўданне ўсяму, я б запярэчыў. Але не сёння...

– Падкіньце мяне да «Дзяжурнага», – папрасіў я.

«Дзяжурны» – магазін на прывакзальнай плошчы, які працуе кругласутачна.

Развітаўся з пракурорам і кіроўцам, перабег плошчу. На ганку магазіна стаялі два маладзёны, мабыць, некага чакалі. У магазіне было гулка і пуста, ззяла плітка толькі што памытай падлогі. Прадавачка ўзнялася аднекуль з-за вітрыны і глянула на мяне незадаволена, імгненна вызначыўшы: пакупнік у сціплай вятроўцы і ношаных джынсах возьме адно цыгарэты... Хіба сумка ў яго скураная, быццам не танная.

Я і насамрэч спытаў пачак цыгарэт, пасля – дзве шакаладкі і толькі потым – бутэльку белага віна і бутэльку каньяку. Дзяўчына заўсміхалася, рухі яе сталі ветліва-папераджальнымі, нават прамармытала нешта кшталту «калі ласка».

Віно паклаў у сумку, каньяк нёс у руцэ.

Ранейшыя маленькія кроплі нябачна віселі ў паветры, ліплі да твару. З асветленага ганка я ступіў у цемру за рог магазіна, і дарогу мне перакрылі двое.

Тыя самыя маладзёны. «Пэтэвэшнікі», – адзначыў я для сябе. Прыязджаюць з суседніх райцэнтраў, будучыя трактарысты і зваршчыкі, нахабныя, дурныя, не хочуць нікога ведаць у твар.

– Мужык, накінь на бутэльку піва, – сказаў адзін, амаль ветліва сказаў. – Заўтра аддамо, – рагатнуў.

Я перахапіў бутэльку ў руку, у якой трымаў і сумку, палез па партманет.

– І колькі табе? – спытаў з усмешкай. А чаму б і не даць? Няхай п'юць, такіх ужо не перавыхаваеш.

– Пяцёрку... – гыгыкнуў другі і насмешліва, але нервова працягнуў: – Кашалёк давай, доўбня.

Убаку пачуўся шоргат, я глянуў – у двух кроках быў трэці. Ён стаяў увесь у цемры, толькі вузкая палоска святла падала на яго грудзі і жывот. Ён трымаў рукі прыўзнятымі і вастрыём нажа ляніва калупаў пазногці. Твар было не разгледзець, але ўся пастава яго – спакойная, упэўненая і адначасова наструненая – казалі пра тое, што ён галоўны. І яшчэ пра многае. Я спыніў руку ў кішэні, прыглядаўся.

– Аглух, мужык? – запсіхаваў першы маладзён . – Усё давай, і сумку сваю... патрымаем.

На што яны разлічвалі? Я не запомню ні твараў, ні постацяў? Не, хлопчыкі, памыліліся...

– Не трэба крыўдзіць маладых, – здзекліва-павучальна працягнуў раптам трэці, рухі яго рук спыніліся, і я заўважыў тое, што і чакаў пабачыць – пяць кропак на руцэ, татуіроўка. «Я і чатыры вышкі».

І толькі цяпер я зразумеў: мяне, следчага пракуратуры, «бяруць на гоп-стоп» два маладзёны. Якіх нацкоўвае раней судзімы. Нож у яго руках – не запалохванне, а папярэджанне. Цяпер каля дзвюх гадзінаў ночы, плошча пустая, нават таксі няма: цягнік пройдзе толькі раніцай. Не, наўрад ці спрацуе нож. Двух маладых на мяне аднаго – дастаткова. Дзыбатыя, дужыя. А калі я адпушчу зараз сумку, бутэлькай каньяку агрэю аднаго, вось тады можа спрацаваць і нож. Калі былы зэк вывеў на паляванне сваіх маладых ваўкоў, ён павінен давесці справу да канца, прычым такога, у якім ён будзе пераможцам.

Закрычаць: «Я – следчы пракуратуры!»? Дзяцінства, дарэмна. Сорамна. Не спрацуе, яны не пабягуць уцякаць.

А недзе на далёкай адгэтуль ціхай вуліцы ў маім пакоі ў крэсле спіць

Надзея. Зачакалася мяне, заснула. Ці не спіць? Сядзіць і глядзіць у цемру вуліцы – раптам там з’явіцца мая постаць?

Як жа гэта далёка...

Я не даставаў руку з кішэні. Да мяне пацягнуўся адзін з маладзёнаў, ён стаяў блізка, я бачыў яго твар: напружаны, застылая ўсмешка перакрывіла вусны. Нос бульбінай, вочы крыху пукатыя, скулы невыразныя, шырокія надброўныя дугі, вострае падбароддзе...

– Рукі!

З такімі трэба размаўляць жорстка. Яны разумеюць толькі тую мову, у якой загад і папярэджанне.

– Даўно адкінуўся? – я крыху павярнуўся ў бок таго, трэцяга, пытаўся ўпэўнена, нават з выразнай перавагай. – Пацаноў на гоп-стоп нашпігоўваеш? Не занадта маладыя? Глядзі...

Юнакі разгубіліся, азірнуліся на свайго настаўніка. Я скарыстаў момант, спакойна дастаў партманет, выцягнуў купюру, здаецца, дзясятку, працягнуў у бок маладых:

– Трымай на сваё піва. Заўтра да абеду прынясеш, знойдзеш мяне ў пракуратуры.

– Атас, – ціха, але жорстка прагучала каманда ад трэцяга, нож знік з яго рук, яны апусціліся ўздоўж ног. – Выбачай, начальнік, памылка, просім прабачэння.

І раптоўна знік у цемры, ступіўшы назад, бязгучна, бы здань.

Маладзёны сарваліся з месца, гучна тупаючы, пабеглі чамусьці да асветленага ўваходу ў магазін, потым крута звярнулі ўбок.

Толькі цяпер мяне затрэсла. Паставіў сумку і пляшку на зямлю, закурыў. Вось дык маеш: следчага пракуратуры маглі абрабаваць нейкія пэтэвэшнікі. Заўтра ж падыду туды – у мяне выбітная памяць на твары. Аднаго я запомніў – ноччу пазнаю. Выпаўзкі, гадзяняты...

Дом сустрэў мяне чорнымі вокнамі і закрытымі дзвярыма. Адчуваючы, як пуста і холадна робіцца ўнутры, я адамкнуў дзверы сваім ключом, знарок не стаў глядзець, ці ёсць другі ў схованцы, уключыў святло і ціха зазірнуў у пакой.

Не было Надзеі.

Было чыста, усё прыбрана, нават пасцель на канапе перасцеленая.

Сеў у крэсла, пацягнуў на сябе попельніцу. Глядзеў на бутэлькі з вінам і каньяком і думаў: навошта я браў іх? Што я збіраўся сказаць Надзеі? А можа і лепш, што яна пайшла? Не трэба нічога тлумачыць. І годзе саплівых думак! Выпіць зараз? Аднаму, нагбом, з рыльца?

Не, мне раніцай трэба ў Ляўдок...

Курыў, глядзеў на бутэлькі.

І раптоўна прыйшла з ніадкуль упэўненасць у тым, што Надзея ніколі больш сюды не прыйдзе. Ніколі.

І ці прыходзіла ўвогуле?

Не, з рыльца я піць не буду... У мяне ёсць ажно шэсць кілішкаў. Надзея прынесла.

## 8.

Раніцы, як і жанчыны, бываюць непрадказальнымі.

На небе былі аблокі. Я нават прыпыніўся на ганку, зачыняючы дзверы,

задраў галаву. Так, аднастайная шэрая пахмурнасць неба цяпер была разарваная на цямныя і светлыя аблокі, якія насоўваліся адно на другое, плылі ў розныя бакі: нізкія, больш цёмныя і калматыя, – у адзін, светлыя, нейкія плоскія, – у процілеглы. І хоць сонца па-ранейшаму не было відаць, у рэдкіх і невялікіх разрывах праглядвала баязлівая, хваравітая сінеча.

Не мог не зірнуць на дом Надзеі. Ён падаўся мне змярцвела-маўклівым. «Усё прэч», – загадаў я сабе. Так, усё прэч... Не дачакалася, не патэлефанавала. Няхай сабе, па меркаванні Тамары, я і праваліў тэст. Надзея абавязана была прамовіць хоць слова. Абавязана!

Вартавы на вышцы, бомж ля сметніц, стужка шашы... Чорныя купалы царквы... Чаму яны мне падаюцца такімі злавеснымі? А як неба вызваліцца цалкам ад аблокаў, ці стане ўрачыста-блакітным? Хто прыдумаў пакрываць купалы меддзю, якая імгненна чарнее і надае будынку такую неверагодную вусцішнасць? Які бог згодзіцца жыць у храме пад чорным дахам?

Ды навошта яно мне?! Пра што я думаю? Здаецца, хмель ад выпітага каньяку не прайшоў. Я выцадзіў палову бутэлькі... Спаў у крэсле, цяпер баліць шыя... Колькі спаў? Чатыры гадзіны, не болей. Нават на гадзіннік не глядзеў, усё чакаў хоць эсэмэскі...

Ну і няхай... няхай ідзе на ўсе чатыры бакі! Быццам цяжка тут знайсці каго... на ноч! Вось жа д'ябальшчына: чаму я думаю пра Надзею? Нейкі месяц больш-менш разам... Грызе мяне самалюбства, бо не я, а яна пайшла без тлумачэнняў? Хіба так. Не вельмі прыемна быць кінутым. Нічога. Яшчэ пабачым.

Ля дзвярэй пракуратуры сустрэўся з сакратаркай Зіначкай.

– Нешта выгляд у вас, Васіль, не вельмі, – пасля вітання паспачувала мне яна. – Зайдзіце на каву... спецыяльную, – з загадкавай усмешкай дадала, падзячыла кіўком галавы за тое, што прытрымаў дзверы, упускаючы яе ў будынак.

Мне падалося, ці яна спецыяльна з асаблівым імпэтам віхляе сёння азадкам, абцягнутым заўсёднай чорнай кароткай спадніцай? Прываблівы ён у яе. Акуратны, не апушчаны ўніз, сцёгны не тоўстыя, клубы бы жывуць асобна ад цела. У свае трыццаць тры Зіначка ззаду ўдае падлеткам. Рухавая, гнуткая. Зрэшты, і спераду яна нічога, хіба грудзі вялікія, здаецца, вызвалі са станіка і расплывуцца пад пахі, як ляжа на спіну... Ці не расплывуцца, а выставяць дагары спакуслівыя смочкі?

Уяўленне было незвычайна моцным, у нейкі момант мне захацелася, каб Зіначка павярнулася і я змог пабачыць яе схаваныя цяпер пад тканінай грудзі і пераканацца: яны не павіслыя, яны пругкія, прахалодныя...

І яна азірнулася:

– Дык заходзьце!

Муж Зіначкі на заробках у Расіі, тое ў пракуратуры ведаюць: яна ці не штотыдзень расказвае пра свае няўдалыя спробы справіцца з побытавымі праблемамі, якія патрабуюць мужчынскіх рук. Часам вызвоньвае па тэлефоне камунальную службу: то ёй электрык патрэбны, то слесар. Кватэра ў старым доме, жанчына збірае грошы на капітальны рамонт, бо ўсё, пачынаючы ад пражавелых труб і заканчваючы аблупленай столлю, патрабуе працы і грошай. А тут яшчэ двое дзяцей, школьнікі, дай і дай... Нейкае імгненне я вагаўся: мо гатаваць самому каву? Але ж Зіначка запрасіла, і я не адмовіў. Значыць, згадзіўся. Ну, няхай пачастуе яна, не першы ж раз.

Падняўся на другі паверх – там кабінеты Тамары і яе намесніка, Антона

Шабацькі, мужчыны пяцідзесяці гадоў, сівога як лунь, але падцягнутага, сухарэбрага нават. Цікавы чалавек: ведае процьму ці то анекдотаў, ці то сапраўдных кур'ёзаў. Як ні збяромся, так бы мовіць, у неафіцыйных абставінах, ад яго абавязкова гісторыя, і да месца. Апавядальнік ён адмысловы: паўзу вытрымае, голас бясстрасны, сам не ўсміхнецца нават, калі іншыя хапаюцца за бакі ад рогату. Тры гады таму ў яго памерла жонка – рак страўніка. Калі выявілі, было ўжо позна, ажно чацвёртая, апошняя стадыя. Са скаргамі на жывот яна не адзін раз звярталася ў бальніцу, але там ставілі дыягназ «запушчаны гастрыт», што часткова і было праўдай... У нейкі момант малады ўрач, які ўсяго год як працаваў, адправіў яе на абследаванне мэтанакіравана на рак. Паўгода пасля гэтага яна толькі і пражыла. Шабацька, казалі, хворую апошні месяц насіў на руках, даглядаў цалкам сам, бо яна ўжо ляжала дома. У іх трое дзяцей, усе дарослыя, як кажуць тут, прыпучаныя: два сыны ажаніліся, дачка замужам. Прычакалі і ўнукаў. Сорак дзён пасля пахавання жонкі Шабацька прыходзіў на працу пакамечаным, з моцным перагарам, які стараўся прыхоўваць, пырскаючы на сябе раз-пораз адэкалонам (парфума была ў шуфлядзе ягонага стала). У другой палове дня ён піў купленую ў час абеду бутэльку гарэлкі і іншым разам засынаў за сталом. Але так працягвалася менавіта сорак дзён. Пасля іх ён аднойчы працверазеў і стаў такім, як і быў да смерці жонкі.

Мінуў год і адзін дзень пасля пахавання – і Шабацька прывёў у сваю кватэру жанчыну. Мяне вось гэта і здзіўляла ў Антоне: ён у жыцці кіраваўся дакладнымі правіламі, агульнапрынятымі нормамі, быццам не меў свайго асабістага стаўлення. Вось кажуць, што трэба мужу жонку дагледзець, – дагледзеў, трэба вытрымаць сорак дзён жалобы і год аднаму пажыць, – вытрымаў і пажыў...

Мажліва, менавіта штучнасцю паводзінаў, якую я падазраваў у Шабацьку, ён і быў мне несімпатычны. А яшчэ немаведама чаму ён лічыў, быццам Зіначка – яго асабістая сакратарка. Нават Тамара сама сабе часцяком гатавала каву, ці мыла свае зялёныя стограмоўкі, а Шабацька ў пяць хвілінаў на дзевятую штодня чакаў, калі Зіначка, цокаючы абцасікамі, прынясе яму каву. Калі нехта бачыў, як яна выходзіла з яго кабінета пасля, то не мог не здагадацца па запунсавелых Зіначчыных шчоках і іскрынках у вачах, што жанчына ў знак падзякі атрымала паляпванне па клубах і двухсэнсоўны камплімент наконт яе шыкоўных цыцак.

Я ўзняўся наверх у прыёмную-канцылярыю. Чайнік якраз забулькатаў.

– Зараз-зараз, – сустрэла мяне такой яскрава-лагоднай усмешкай Зіначка, аж мне стала трошкі ніякавата, але адначасова і прыемна. – Сядайце во! – запрасіла.

Я прысеў да сцяны – тут стаялі крэслы для наведвальнікаў. Зіначка заліла кіпнем кубак з кавай, але толькі напалову, пабоўтала лыжачкай, пасля прысела ля вялікай канцылярскай шафы. Яе сцёгны адкрыліся высока, быццам вынырнулі з-пад спадніцы – тугія, у тонкай тканіне празрыстых калготак. Зіначка пакорпалася ў ніжняй шуфлядзе (ох, як доўга яна корпалася!) і, не ўстаючы, павярнула галаву да мяне, трымаючы ў руцэ ля свайго амаль аголенага цалкам сцягна невялічкую бутэльку. Па-змоўніцку прымружыла вочы, падміргнула мне знізу ўверх, і я гатовы быў ісці ў заклад, што змоўніцкі агеньчык у яе вачах тычыўся не толькі бальзаму, які яна дастала.

– Выдатна лечыць! – Зіначка даліла да поўнага цёмнай вадкасці ў кубак, падала мне: – Бярыце і на здароўе!

Заварыла кавы сабе і таксама дадала, але з напарстак усяго, бальзаму. Бутэлечку закруціла, цяпер ужо чыста па-жаночы, ахайна і хутка, прысела і схавала яе.

Яно і праўда: пасля першага глытку пахучай вадкасці я адчуў, як мне палепшала, хоць галава не была цяжкай ці мяне нудзіла. Лягчэй рабілася на душы. Прасцей...

– Ой, дзякую, ці то напітак чароўны, ці то ад сэрца згатавалі, – падзякаваў я, зрабіўшы трэці глыток, парушаючы трохі няўтульную цішыню.

– І тое, і другое, і трэцяе, – выпаліла Зіначка.

– А што трэцяе? – здзівіўся я.

– А я на ўдзячнасць разлічваю, – прызналася яна без усмешкі. – Бабе без мужчыны ў хаце як без рук. Столькі ўсяго за дзень здараецца – хоць у акно вылазь ды крычы, кліч мужыкоў.

– Клікалі? – смехам пацікавіўся я.

– Ат, з тых, хто адразу адгукаецца, толку на адзін шкалік гарэлкі. За ёй і бягуць, – Зіначка ад прыкрасці зморшчыла свой невялічкі акуратны нос. – У суседа рукі растуць не з таго месца. Шабацьку ягоная сужыцелька раўнуе, бы законная жонка. А мне – хоць на курсы якія запісвайся!

– Такія пільныя справы, што і мужа не дачакаюцца?

– Той муж... не дуж, калі і з’явіцца праз тры месяцы. Ды рознага хапае... То лямпачка ў люстры стрэліла, святло не запальвалася. То акно адчыніць не магла... Ага, смешна, дробязі, а знаеце, як прыкра, калі нічога зрабіць не можаш і няма каму дапамагчы? Вось учора: тэлевізар не ідзе! Піша: няма кабелю. Я ўжо і там пакратала, і там – няма кіна. Хай мне мой серыял, дык жа дзецям – іхнія мульцікі давай! Замучылі вечарам, а майстроў выклікаць – толькі на аўторак. А сёння ж пятніца..

Я зразумеў, пра «трэцяе», адчуў: вось цяпер Зіначка чакае адказу, зрабіў глыток і бадзёра выдыхнуў:

– Зробім! Дзякуй вялікі, Зіначка! Проста выдатная кава!

Насамрэч я за гэтыя колькі хвілінаў адчуў сябе куды больш бадзёра. Жыццё падавалася зразумелым дарэшты. Як і запрашэнне на каву з бальзамам, выразнае дэманстрацыя свайго спакушальнага азадка, просьба...

– Дык я тады буду чакаць! Як вызваліцеся, прыходзьце. І замінаць не будзе каму: дзеці сёння да бабы пабягуць, заўтра на лецішча паедуць зранку.

І яна ўсміхнулася мне, гледзячы ў вочы. Там, у яе вачах, я прачытаў тое, пра што не кажуць жанчыны, калі клічуць мужчыну да сябе нібыта па справе. У вачах было абяцанне і чаканне, такое выразнае, што мне стала крыху няёмка. Паспяшаўся адказаць:

– Канечне, ніякіх праблем! Я вольны... Мяне раўнаваць няма каму, і рукі як быццам растуць з патрэбнага месца, – я асмялеў і закончыў ужо гулліва.

Зіначка зноў усміхнулася мне, цяпер як сапраўднаму змоўніку, адказала прыцішана:

– Пабачу, пабачу...

Ну і схаджу, пагляджу, той кабель. Дробязь, відаць, дзеці гуляліся, штосьці шмаргнулі... Вячэрай, мабыць, накорміць. Не трэба будзе вячэру гатаваць. Усё будзе добра...

Я спускаўся па лесвіцы, адчыняў свой кабінет, уключаў кампутар, а ў вачах стаялі высока вызваленыя ад тканіны спадніцы сцёгны Зіначкі і яе знарочыстая марудлівасць, калі яна даставала бальзам для пачастунку. Не задумваўся над тым, ці маю я права лезці да замужняй жанчыны.

Сакратарка не рабіла сакрэтаў, што мужа няма дома па месяцу і больш, і што хутчэй за ўсё, у яго там, у Расіі, ёсць жанчына, што сям'я фактычна не існуе: тыдзень, як муж дома, праходзіць у сварках.

Зіначка далёка не адзінокая ў сваёй бядзе. Заробкі ў Расіі – з'ява звычайная для нашага райцэнтра, бо месцаў, дзе можна нармальна зарабляць, не хапае і на чвэрць жадаючых. Мужыкі з'язджаюць на месяцы два-тры, жывуць там адзіным сваім клопатам: папрацаваў-паеў-паспаў. Вяртаюцца сюды, у сем'і, з грашыма, адчуваюць сябе героямі здабытчыкамі. Іх тут так і прывячаюць жонкі і дзеці, але ж жыццё – не суцэльнае свята. І праз тыдзень даводзіцца мужыку ўпрагацца ў хатнія праблемы, якіх, аказваецца, процьма: тут кран пацёк, тут адвалілася плітка, тут трэба тое, тут – сёе і далей, далей... А ён жа адвык ад падобнага. Яго раздражняе звычайная будзённасць клопатаў, праблемы дачкі ў школе, сына – у садку. Два тыдні вытрымае – і ляціць зноў у тую Расію. А там робіць, да прыкладу, рамонт у якім доме-кватэры, дзе гаспадыня адзінокая, масквічка. Ветлівая ды выхаваная, а галоўнае – па мужчынскай ласцы так засумавала, што ні робы той пакамечанай, зашмальцаванай не бачыць, ні паху рабочага не адчувае. І пры грашах яна. І ўсё ў яе ёсць, усё ў жыцці склалася, вось каб мужчыну яшчэ... Хоць на месяц які. І лёгка згаджаюцца мужыкі на такія прапановы. Бо тут ад іх якраз нічога не патрабуюць, акрамя аднаго занятку, самага мужчынскага – улагодзіць гаспадыню, даць ёй ноч любошчаў ці хоць колькі хвілінаў, але каб пасля – на тваім плячы ёй заснуць, а раніцай табе каву згатаваць з такім нязвычным для цябе амлетам. Няма чаго дзівіцца, калі і распадаюцца сем'і, у каторых мужыкі больш дурныя. Які разумны дык гадамі жыве сабе, лічы, з дзвюма жонкамі. І тых нямала, якія дзяцей нарабляюць і сваёй, законнай, і масквічцы. Пасля выбіраюць, дзе спыніцца. Масква перамагае часцей...

Зінчын мужык не з самых разумных: колькі разоў ужо намякаў ёй, каб была больш лагоднай і падатлівай, а то яму ёсць куды ісці. Неяк, злёгку падпіўшы, Зіначка, не тоячыся, расказвала пра апошнія сямейныя сцэны і храбрылася: «А няхай шагае страявым да тае масквічкі! Я дзяцей выгадую і без мужыка не застануся!» Наўрад ці хто сумняваўся ў праўдзівасці яе намераў у той момант. І падыме, і знойдзе. Толькі па гадах Зіначка за мяне старэйшая, а побач паставіць, дык ніяк не скажаш. Маленькая, мякенькая ўся, бы тая котка...

А што мне губляць? Згублена. Дый... Надзея была трэцяй жанчынай у маім жыцці. І яна была іншай... У поўным сэнсе слова, нават, калі ўжо шчыра казаць, фізіялагічна іншай. Зусім не такой, як мае першая і другая. І тыя былі рознымі. І вось адкрыццё, што жанчыны розняцца не толькі характарам, паводзінамі, але і целам, мяне хвалявала. А самым хвалюючым, самым чаканым – я цяпер дакладна ведаў – у маіх адносінах з жанчынамі былі вось гэтыя першыя хвіліны, рубікон, праз які пераходзіш – і настае тое незваротнае. Зыркі, напружаны да спынення стуку сэрца момант, момант ісціны: яна твая ці не? І з кожнай было па-рознаму! Такія моманты перажываць – сапраўдная асалода. Вось і Зіначка... з ёй павінна быць цікава. Як у нас будзе? Адразу з парога яна ўпадзе ў абдымкі, прыцiснецца, працягне рукі за спіну і шчоўкне замком? Ці будзе доўгая знарочыстая гульня, аж да нейкага моманту выпадковага, а пасля – імгненны выбух страсці? А можа, як з Надзеяй, па-сямейнаму цёпла, па-сяброўску шчыра і аддана? Як ні будзе, але будзе новае. А якая яна ў ложку?

Усё, хопіць. Ведаю я сябе: заўжды пасля таго, як перап'ю і не працверазею добра, вось такі сексуальна-заклапочаны настрой. Трэба супакоіцца, выкінуць з галавы Зіначчыны сцёгны і цыцкі. Не ўцякуць яны, ужо не ўцякуць... Хутчэй бы вечар!

Адчыніў фортку, закурыў. Радыё прапікала – восем гадзінаў. І адразу пасля кароткага стуку прачыніліся дзверы.

– Дазвольце?

Тумар, участковы.

– Канечне, заходзьце! Сядайце. Кавы, можа?

У глыбіні душы я зарадваўся таму, што мае думкі пра жаночыя вабноты нарэшце прагоніць будзённая справа.

– Ды я больш гарбату простую, – нечакана сумеўся ўчастковы міліцыянер, быццам быў вінаваты ў тым, што не любіць каву. Ён прайшоў у кабінет, прысеў на стул.

Я усміхнуўся: зноў ён трымаў сваю фуражку ў руках. Уключыў чайнік, раптам адчуўшы, што мне самому хочацца менавіта чаю – моцнага, без цукру. Каб сэрца затахкала. Бо ў роце пасля кавы з бальзамам пакрысе рабілася саладкавата-ліпка.

– І я сабе гарбату зраблю! – выгукнуў я, дастаў кубкі, цукар.

– Няма Сяргееўны? – спытаў участковы пра пракурора. – Калі яна нас адправіць?

– У выканкаме зранку, – адказаў я. – Сёння пасяджэнне, ёй выступаць.

– Засядаюць, засядаюць, – уздыхнуў Тумар. – Каб жа па справе што вырашылі...

– Напрыклад? – я пацікавіўся дзеля ветлівасці. Заварыў гарбату, пасунуў кубак участковаму.

– Што тут казаць? У мяне тры магазіны на сельсавет. Учора палучка была ў калгасе – і ва ўсе тры магазіны прыперлі таннага чарніла – ажно пяці гатункаў! А каўбаса ў адным толькі была, два гатункі, пельменяў не было... От так... А яшчэ сшыткі вексельныя заводзяць...

– Гэта якія? – не зразумеў я.

– Ды такія, – Тумар зморшчыўся, бы ад кіслага, загаварыў з выразным раздражненнем: – Пазычаюць чарніла і гарэлку мужыкам прадаўцы, у сшыткі запісваюць. А ўчора ішлі мужыкі з палучкай і палову за даўгі аддавалі. А жанкі ля магазінаў каравулілі. Тры бойкі, адна свайму галаву цаглінай рассекла...

– Жывы?

– Ды жывы... Схавалі ад мяне... Ды я надта не ўмешваюся, толку ніякага. Співаецца народ...

– Так...– я ўспомніў учарашні начны інцыдэнт, сваё абяцанне самому сабе знайсці рабаўнікоў і цяпер млява падумаў пра тое, што нікога шукаць не буду: дарэмна ж, сапраўды. – Вас як зваць, а то й не пазнаёміліся як след...

– Пятровіч... Сцяпан... – Тумар прыўзняўся і працягнуў руку, я паспяшаўся зрабіць тое ж. Яшчэ раз пераканаўся: шырокая рука міліцыянера моцная.

– Васіль... Проста Васіль, – адказаў я. – Раскажыце мне, Пятровіч, пакуль няма Сяргееўны, пра Ляўдок.

Прысеў за стол, пасунуў да сябе чыстыя аркушы паперы. Тумар пачкаў, пакуль я падрыхтуюся, і стаў расказваць, зрэдчас пасёрбваючы гарачую гарбату, нетаропка, каб я паспеў запісаць патрэбнае.

– Значыць, сёння там дваццаць тры жыхары. Чатырнаццаць хат. Некалі – ого! – вёска была знакамітая! Тут майстры-кушняры жылі... Ну, шкуры выраблялі: зайцоў, лісаў, ваўкоў, баброў. Але ж во за нейкіх дваццаць гадоў апошніх бы мятлой вымела... Старыя паўміралі, маладыя выехалі. То сваіх засталося чатыры сядзібы. Значыць, самы блізкі да лесу дом: Зміцер-вядзьмак і яго дачка... Жыла з ім...

– А жонка? Вы казалі, ён слабы зусім... Дык жа Насця не была ў такім сталым узросце. Позна нарадзілі дачку?

– Дык... казалі, Зміцер, пакуль ведзьмаком сапраўдным быў і лячыў гавяду, коней, людзей, не жаніўся, бо яму быццам нельга было. Так казалі. А ўзяў ён куды маладзейшую за сябе жанчыну, аднекуль прывёз. Яна хворая зусім была, ён яе лячыў, от яна яму і нарадзіла. Але ж доўга не пажыла: дачцэ, Насці значыць, дзесяць было, як памерла. Казалі... рознае казалі, але ўголас не асмельваліся, бо вядзьмак жа, хай сабе і нібыта на пенсіі. Дык вось, шапталіся, нібыта пабіў жонку Зміцер надта. А за што якое – не ведаю...

– Ого! – я здзівіўся з дасціпнасці Тумара. – Інфармацыя адкуль? Бы побач жылі...

– Ды распытаў трохі... Маці мая жывая, у памяці, хоць і не ўстае. Мы ў суседняй вёсцы жывём, аграгарадок цяпер. А вядзьмак жа заўсёды навідавоку... Так, значыць, суседка Зміцера – Сцёпчыха. Адзінокапражываючая, ёй каля васьмідзесяці. Дзеці раз’ехаліся, мужык памёр даўно. Усё жыццё ў калгасе, звычайная такая цётка... На яе агародзе знайшлі Насцю. Далей жыве адзінокая Марыля, такога ж узросту, як і Сцёпчыха, бадай. Манашкай мы яе клічам, яна пры царкве ўсё была, зараз слабая, далёка хадзіць не можа, ногі баляць. Замуж не выйшла, дзяцей не нарадзіла. Пенсія мізэрная ў яе была, з агарода адно і жыла. Ну, людзі нечым дапамагалі, бо раней жа і папоў не было нідзе, а яна хоць колькі малітваў ведала, кнігі ў яе гэтыя былі... То як паміраў хто – Марылю клікалі. Яна хоць нейкі парадак падтрымлівала, ноч усю малітвы ды яшчэ там якое трэба чытала над нябожчыкам. Цяпер гоніць самагонку, дачнікам. Але толькі сваім прадае, чужым ніяк. Добрая самагонка... Ну і далей трохі па вуліцы – хата Калтуневічаў, пенсіянеры: ён, Уладзіслаў і яна, Сонька. Дзеці, двое сыноў, на сядзібе жывуць, свае сем’і. Уладзіслаў раней у міліцыі працаваў, пакуль не пакалечыўся п’яны на матацыкле, цяпер кульгае. А Сонька яго партыйнай была, дэпутаткай нават выбіралі. Язык падвешаны дай бог, але і розум мае... на свой манер. Маё даведачнае бюро – усё пра ўсіх ведае, ранак пачынае з таго, што суседзяў аббяжыць, распытае-раскажа навіны... На другім краі, таксама пад лес, стаіць хата Міхася Падлужнага. Яму, здаецца, пяцьдзясят пяць ці болей трохі. Жыве бабылём. Колькі разоў прывозіў жанок сабе – не ўжываліся з ім, з’язджалі. То зараз на лета наймае з горада зазвычай дзвюх жанчын: у яго гаспадарка вялікая, трымае ці не два дзясяткі галоў гавяды. Хлявоў наставіў, суседні ўчастак яму сельсавет аддаў, плошчу пад пашу выдзелілі... Вось жа лёс які ў чалавека: і працавіты, не п’яніца, спакойны нібыта, а з жанчынамі ніяк, сям’і няма. Раней з сястрой жылі, тая замужам была, дзіця мела. Жылі разам, хата вялікая, яшчэ прыбудавалі трысцен. Нешта не склалася, кажуць, надта ж характарам няпросты Міхась. Ну, сястра з мужам і дзіцём з’ехала на сядзібу. А той застаўся. Упарты. Днюе і начуе на сваёй «ферме». Трактарок мае, бабулькам тут

падможа, зноў жа – дачнікі і гной купяць, і па малако прыйдуць... Але нейкі няўдачлівы, ніяк яму не шчасціць: цяляты дохнуць, каровы на мастыт захворваюць ці яшчэ якая трасца, малако перастаюць даваць, ён тых прадае, купляе новых. Круціцца без продыху, а няма толку... Вось, усе свае.

– Зразумела, – я прачытаў запісанае. – сваіх сямёра... было, з Насцяй. Пяць хат... Значыць, астатнія хаты – дзевяць – і астатнія людзі – шаснаццаць – тыя самыя дачнікі?

– Ну, хто дачнік, а нехта жыве стала ўвесь год, – згадзіўся Тумар.

– Чым жа іх, дачнікаў, Ляўдок прывабіў?

– Ды месца, мабыць, ціхае, зручнае... – падумаў уголас Тумар. – Траса недалёка. А лес побач надта на грыбы шчодры, нават на агародах баравікі растуць. А крыху далей – арэшнік стары. Яшчэ я малым быў, дык штогод мы па арэхі туды хадзілі. Гэта цяпер прысмакі магазінныя якія хочаш, а тады ляшчыну сушылі – ого, якое смакоцце было ўзімку! Ды і як на Каляды без арэхаў?

– Зразумела... Пятровіч, а дачнікі гэтыя хто? Як яны? Не турбуюць?

– Ды прыстойныя! – упэўнена пахваліў участковы невядомых мне людзей. – Мінчане ў асноўным, інтэлігенты. Ад вясны да самай позняй восені Ляўдок ажывае. З дзецьмі, унукамі прыязджаюць. Дамы падрамантавалі, якія куплялі, нехта і новы паставіў. Між сабой дружныя...

– Сябруюць?

– Так. Яны розныя гулі ладзяць, з сядзібы моладзь у Ляўдок калінікалі збіраецца.

– Якія гулі? – здзівіўся я. – Дыскатэкі?

– Ды не, – усміхнуўся Тумар. – Нядаўна во гулялі. Дзяўчаты адны, маладзіцы: у вянках, сукенках прыгожых, песні спявалі... Там сцэнарый цэлы, мне то не асабліва цікава, але ж прыгожа. Тады многа прыехала было народу, нашы мясцовыя ў Ляўдок прыходзяць кожны раз, ім цікава. От на Купалле прыгожа робяць: у іх там і музыкі ёсць – на дудах іграюць. Значыць, жанчыны строі апранаюць, бы з музеяў, мужчыны – кашулі вышываныя, падпяразаныя, як некалі хадзілі. І ідуць вечарам ад вёскі на выган з паходнямі пад музыку. Там вогнішча запальваюць, спектакль цэлы ладзяць. І сур’ёзныя такія, бы не дзіцячая забаўка, а справа важная ў іх. Помніцца, у пазамінулым годзе людзей шмат прыйшло, дык іх там папярэдзілі: мерапрыемства атрымліваецца, значыць, трэба ўсякія моманты арганізацыйныя забяспечыць. То ў мінулым годзе мяне запрасілі... ну, для аховы парадку. І медычка была, як патрабуецца. Але вельмі акуратна там усё. Ні п’яных, ні дурных.

– Значыць, дачнікі між сабой сяброўства водзяць? І нехта старшы ў іх ёсць?

– Ёсць, як жа без галоўнага? Федарук прозвішча, Алесь Тарасавіч. Вучоны. Усё піша нешта. На зямлі працаваць дык я яго і не бачыў, жонка шчыруе, худзенькая, невялічкая. Ім абаім за пяцьдзясят. Дачка ёсць, замужам, прыязджае іншы раз з мужам. Прыгажуня, скажу. Валасы льняныя, доўгія... У мінулым годзе дзівіўся: у сукенцы белай, з вяночкам на галаве з кветак, а валасы распушчаныя па плячах, ідзе лугам босая пад тую дуду, а з бакоў дзецюкі з паходнямі запаленымі... Бы тая русалка ці яшчэ хто. Прыгожа... Хай бы ўсе так во святы спраўлялі... А то...

– Федарук... Федарук... – я дастаў нататнік са сваімі запісамі. Вось ён

– Федарук А. Т. Той самы, хто тэлефанаваў Насці і каму тэлефанавала яна. Ну так: працуе ва ўніверсітэце, гісторык. – Дзякуй, Пятровіч, ужо лягчэй. Слухайце, вы казалі, Насця ў вёсцы была... якой?

– Ды нармальна яна жыла... Паважалі яе. Ну, як пагалоскі пайшлі раней, дык глядзелі скоса, а пасля пабачылі, што чалавек яна спагадлівы, добры. Ды яшчэ ў бальніцы робіць.

– Ці былі канфлікты ў яе з кім-небудзь?

– От не скажу. Здаецца, не было.

Мы пачакалі яшчэ хвілінаў дзесяць, і Тамара зазірнула ў кабінет, павіталася.

– Усё, можаце ехаць. Машына сёння нікому не трэба, то хай кіроўца дзе паспіць там у цяньку, бо не спаў жа ноч... Васіль, вось табе дадзеныя на ўчарашняе ДТЗ. Андрэй Янавіч Дылько, трыццаць два гады, разведзены, дзяцей няма. Веб-журналіст (сам разбярэшся, дзе ён там журналіст), паэт. Жыў адзін, дачу набыў два гады таму. Пятровіч, дзе гэты паэт жыў, ведаеш?

– Дык можна паглядзець, я тут у сельсавеце... значыць, замаляваў... – Тумар заспяшаўся, стаў расшпільваць сваю планшэтку.

– Мне не трэба, – спыніла яго Тамара. – Пачынайце з яго хаты. І каб панятыя былі спачатку, а не пасля таго, як у хату зойдзеце...

## 9.

Нават калі зусім няма чаго чакаць, ёсць дзень і ноч, хмары і сонца, зіма і лета.

Мы каторы тыдзень чакаем тут сонца. Здаецца, дачакаемся: ранішнія хмары распаўзліся па ўсяму небу, і яно цяпер зацягнута нечым густым, але не шэрым, а белым. Сонца высвечваецца вялікай круглай плямай, зыркай ужо. Такое ўражанне, што нас тут накрыла вялізным купалам, пад які напусцілі нейкага белага газу, ён узняўся ўверх, і там, уверсе недзе гарыць магутная белая лямпачка.

– Панятымі возьмем давайце Калтуневічаў, – прапанаваў Тумар, і я моўчкі згадзіўся.

Уладзіслаў, ці Уладзя, як звярталася да яго жонка, – мужчына каржакаваты, гадоў сямідзесяці, але відавочна яшчэ моцны. Спакойны, позірк адкрыты і амаль абыякавы. «Вам трэба – шукайце. Трэба – пабуду», – чыталася ў вачах, і амаль тое ж ён выказаў уголас:

– Як трэба, дык трэба. Час ёсць, пільнай справы няма...

Ягоная жонка Сонька выглядала маладзейшай за мужа гадоў на дзесяць. Невысокая – па плячо мужу, вяртлявая, нават крыху мітуслівая, яна сустрэла нас з участковым на сваім двары амаль з радасцю:

– Заходзьце, заходзьце, Пятровіч, я кваску прынясу, папіце. А то нешта задуха сёння. Вой, можа, хоць нешта зменіцца. Каб даў Бог добры дождж ды сонца нарэшце. Што ж ета робіцца цяперака? – і ўжо знікла ў сенцах, праз момант з'явілася на парозе з вялікім пластыкавым кубкам і двумя шклянкамі. – Піце, піце на здароўе, тут нічога-нічога, толькі бярозавік і хлеб... Во нарабілася ў нас, хто ж ета думаў, жылі ціха... А Насці ж як шкада, такая прыгожая дзеўка, і добрая, не адмовіць ніколі, уколы мне рабіла, і лепш за фельчара ў медпункце, не балела зусім. От, звялі са свету, звялі! Каму яна замінала? Ды ж во, знайшоўся злыдзень. Бач, чакаў

моманту, чакаў... – часціла Сонька, пакуль налівала нам у шклянкі і мы з Тумарам пілі халодны бярозавік, які біў у нос густым пахам хлеба.

Не было цяжка зразумець, чаму цётка ўзбуджана-радасная: такая падзея для яе – падстава для размоў на год і болей. А вось Насці ёй зусім, здаецца, і не шкада, бо кажа яна пра яе без жаночага нават спачування, так, быццам трымаецца традыцыі. І распірае яе ўсю – ёй падаецца, ведае яна многа-многа, і толькі адна ведае, і даўно ведае, – і вось выдалася нарэшце нагода, цяпер яе веданне станецца самым галоўным для следства, яна ў гэтым упэўнена. Бач, нават не сумняваецца, што гвалтоўнай смерцю памерла Насця.

– Сарока, не верашчы, – без злосці спыніў Соньку муж. – Будуць пытаць людзі – тады будзеш адказваць.

Жанчына махнула рукой у бок мужа, бы адганяючы муху, але замаўчала.

Дом, які скарыстоўваў пад дачу загінулы ў начным ДТЗ Андрэй Дылько, ад дарогі быў схаваны вялізнымі кустамі бэзу. Бэз зацвітаў, але дробна, нясмела, быццам і ён чакаў сапраўднага сонца. Гаспадар не надта клапаціўся пра стан дома, нічога не стаў перарабляць, адно ўезд у двор быў цалкам вызвалены ад рэшткаў старога плота, а трава на месцы, дзе ставіўся аўтамабіль, была выкашана трымерам ажно да жоўтых каранёў. Дзверы ў сенцы былі зачынены вялікім вісячым замком, старадаўнім. Відаць, застаўся ад ранейшых гаспадароў. Віктар, наш кіроўца, манціроўкай лёгка выцягнуў прабой, ён хоць і быў загнаны глыбока ў вушак, але ж дрэва састарылася, пабралася глыбокімі трэшчынамі і не трымала моцна жалеза ў сабе.

У першай палове невялікай хаты быў паўзмрок. На падлозе валяліся абрэзкі вагонкі, бярэмца гэтага матэрыялу ляжала на прыпечку печы. Электрычная піла-паркетка, малаток, цвікі на стале, дрыль, шурупы – усё паказвала на тое, дзе рабілася труна для дзіцяці.

Уладзя Калтуневіч застыў ля парога, падпёршы вушак, паказваючы сваім выглядам, што ён не цікавіцца асабліва тут ні чым, але як трэба – то паклічце, падыду. А ягоная Сонька не адступала ад мяне літаральна ні на крок, з прагай галоднага чалавека дзівілася з чужога жытла, вочы яе бегалі, бегалі па хаце, прыкмячаючы і брудныя шыбы акна, і павуцінне ў куце на столі, і засохлы кавалак хлеба, і крошкі на старым халадзільніку. Я не стаў казаць ёй, каб стала побач з мужам, хай насычаецца...

Нічога, што магло б паказаць на знаходжанне тут жывога дзіцяці хоць колькі дзён, не было. Уся вопратка – мужчынская. У халадзільніку – кавалак сала, колькі падсохлых зялёных агуркоў, тушонка ў бляшанках, пачатая пляшка гарэлкі і мінералка. Набор кавалера...

У другой палове дома, справа ад уваходу, за абшарпанай, даўно не беленай грубкай, стаяла канапа, на ёй – складзеныя пасцельныя рэчы. Злева – вялізнае скуранoе крэсла, чорнае, бліскучае, на выгляд мокрае і ліпкае, да яго быў прыткнуты сучасны часопісны столік. На ім шкляная попельніца з недакуркамі, адкрыты пачак цыгарэт, запальнічка і мабільны тэлефон. Ну вось, адна рэч адшукалася: на месцы аварыі мы тэлефона не знайшлі. Значыць, нябожчык спяшаўся, не ўзяў яго з сабой... Тэлефон працаваў. Апошні званок быў уваходным ад нейкага «Капітана». Я паглядзеў на лічбы. Як і чакаў, гэта быў той жа нумар, што і на тэлефоне Насці. Алесь Федарук, старшы тут...

Круглы стол на крывых нагах, старадаўні, я бачыў такія – стальніца

рассоўваецца, у прамежак укладаюцца ўстаўкі – і стол робіцца авальным, вялікім. Цяпер ён быў складзены, не засцелены цыратай. Ляжалі ў беспарадку кнігі, розныя: тонкія, тоўстыя, новенькія і патрапаныя. На сярэдзіне стаяў ноўтбук, адкрыты. Праз роўныя прамежкі часу ўспыхваў светадыёд на тарцы – кампутар быў у «рэжыме сну». Я тыцнуў на кнопку ўключэння, манітор засвяціўся. Браўзер... Фэйсбук... Так і ёсць, устаўлены «трыджык», ноўтбук і цяпер быў далучаны да інтэрнэту. З нудой я падумаў пра тое, як мне зноў давядзецца калупацца ў асабістай перапісцы незнаёмага мне чалавека.

Больш нічога.

Выцягнуты ў даўжыню агарод зарос травой, вішняком, дальні кут – непралазнымі сліўкамі. Адзіная ўскапаная градка, доўгая і вузкая, выглядала тут чужой і яшчэ раз падкрэслівала нежаданне гаспадара ўмешвацца ў прыродны рух. Я абышоў крок за крокам увесь сад, аблазіў сліvoўнік, зазірнуў у будку прыбіральні. Нідзе нічога. Ні нейкага клунка, ні свежакапанай зямлі. Быццам дзіця мёртвым прынеслі ў гэты дом, паэт зрабіў труну з прывезеных спецыяльна (відавочна!) дошчачак і павёз... Хаваць, бо Ляўдок не меў сваіх могілак, бліжэйшыя – за пяць кіламетраў на цэнтральнай сядзібе, ён якраз і ехаў туды.

Склаў пратакол, распісаліся панятыя: Уладзя – са сцішанай палёгкай, Сонька – з адчуваннем важнасці сваёй справы. Мы вярнуліся разам да дома Калтуневічаў, прыселі на лаўцы перад хатай – я і цётка Сонька.

– Гэта не допыт, Соф'я Андрэеўна, – патлумачыў я. – Папярэдняе апытанне, размова простая. Я заўважыў, вы нешта ведаеце пра Насцю, дакладней пра яе адносіны з некім, хто мог бы... быць яе ворагам. Раскажыце, калі ласка. Але напачатку: ці ведалі вы, што Насця была цяжарная?

– Здагадвалася! – выгукнула задаволеная цётка. Ёй, зразумела, вельмі імпанавала з'яўленне не абы-якога слухача, яна быццам падабралася ўся, усё адно як збіралася выступаць з трыбуны. – Апошні раз, значыць, як пабачыла, як Насця ідзе – гэтак павольна, асцярожна, не-не ды кране рукой жывата, – і здагадалася. Але ж во ніяк не ўцяміла, што раджаць ёй хутка. От, тут прагледзела...

– Ці бачылі вы Насцю і гаспадара дома, дзе мы толькі былі, разам? Якія ў іх адносіны былі?

– От гэтага не было, дакладна. Той дзівак адзін жыў. Насця яго цуралася.

– Па чым было заўважна?

– А неяк я бачыла, як яна ішла, а ён – насустрач (малако нёс, купляў у Падлужнага), то Насця і дарогу перайшла, хоць там сцежкі няма. Быццам да Марылі павярнула, а не зайшла ж да яе. От...

– А з кім з дачнікаў Насця сябравала, сустракалася?

– Ды яна зналася з імі ўсімі, яны яе мінулым годам у сваё свята ўзялі, восенню. Апранулі так дзіўна, абкружылі з усіх бакоў, стужкамі абвязалі і вялі ў лес. Там гулялі.

– А ні з кім канкрэтна не бачылі яе?

– Не, не бачыла. Ды гэтыя дачнікі ні пры чым! – упэўнена, але напаўголасу, павярнуўшыся да мяне, адказала Сонька.

– А хто пры чым? – не мог я схаваць здзіўлення.

– Нашы! Яны Насцю са свету звялі, я ўсё ведаю!

– У чым яна вінаватая так? Давайце па парадку, Соф'я...

– Якая я табе Соф'я, Сонька я, такой і памру. Усё жыццё Сонькай

прабыла, нат калі грамату давалі, дык старшыня так і казаў – Соня. Адна я тое ведаю і паклялася была маўчаць да смерці, ды во смерць Насці мне рукі развязвае. Ты слухай, я табе ўсё расказваць буду, а ўжо сам маракуй, тое табе трэба ці іншае.

– Ну, давайце так, – не змог я схаваць сваёй цікавасці ў голасе.

– Дык от... Ганначка, ета колішняя жонка Зміцера, сама не наша, з суседняга нават раёна. І яна сябравала з сястрой Міхася-Стаяка...

– Чакайце, чакайце, – перапыніў я цётку, хоць напачатку сабраўся яе толькі слухаць, не перабіваць, бо вопыт падказваў: чым менш пытанняў задаеш такім людзям, тым больш кароткі і змястоўны іх аповед.

– Ну дык ета мы так Падлужнага клічам. Сорам казаць маладому, але ж во скажу, – перайшла на хуткі шэпт Сонька. – Казалі, кара яму – цяпер як з жанчынай надараецца яму спаць, дык стаіць і стаіць... Ну, мужчынская сіла такая, ніяк не падае.

Я не змог стрымаць усмешку.

– Дык якое там пакаранне? Узнагарода...

– Ага... – прыкусіла пакрыўджана вусны Сонька, мабыць, ёй было крыўдна, што адну з яе таямніц, такую простую ісціну, я не змог зразумець ці зразумеў няправільна. – Ён жа і сам мучыцца, і жанок мучыць! – акрэсліла яна праблему Міхася Падлужнага. – То колькі ні было баб – ніводная не сцярпела. От цяпер думай: кара ета ці дарунак.

– Так, зразумела, – мусіў я згадзіцца, – канечне ж, пакаранне. Дык а далей?

Сонька пакоўзалася на лавачцы, бы выбіраючы сухім азадкам больш мяккае месца, хоць лаўкай была адна шырокая цёмная ад часу дошка.

– Перапыніў ты мяне... Ага, Ганначка сябравала з Міхасёвай сястрой. Да Падлужных яна прыязджала, а заадно каб да Зміцера схадзіць, бо Ганначка была слабаю зусім, з твару бледная, худзенькая, бы дошка, нат цыцкі віселі... Бачыла я, мыліся дзеўкі за хлявом, як бульбу прапалолі... Вось Зміцер і пачаў лячыць Ганначку: травянымі настоямі паіў, голую прымушаў па расе качацца. Ой, я от раз зусім незнарок пайшла... Іду сабе і бачу: сарамата якая – голая дзеўка качаецца вар'яткай па лузе! Але, брахаць не буду, стала Ганначка папраўляцца. Месяц яна тут прабыла. Шчыравала на агародзе разам з сястрой Міхася і ім самім, траву каровам рвала, даіла. І от праз месяц больш жвавая стала, паружавела крыху.

А я табе яшчэ во скажу: Міхась тады якраз нежанаты быў. І хай бы от тады ён на Ганначку паглядзеў на поўныя вочы. А то толькі крывіўся: які з тае дзеўкі толк – скура ды косці, такую пад сабой прыдушыш і не заўважыш, казаў. Ага... Ганначка прыязджала яшчэ разоў колькі, на дзень-другі. Увішная, на работу здатная. І ля печы гаспадыня – квасок хоць з трасок. А Падлужны сабе бабу прывёз гэткую... торбу. Сядзе ля каровы – сама карова, расцячэцца па зэдліку, ажно да зямлі ляжкі.

Паўгода Ганначка ездзіла, ноч-другую начавала ў Падлужных, хата ж, бачыце, во, дзе груша-дзічка, на самым краёчку леса? Вялікая хата, на два трысцены, хапала месца. І я знаю: сястра Міхася, Анюта, надта ж хацела, каб Ганначка засталася ды за Міхася пайшла. Яны якраз па гадах у пару сходзіліся, а Ганначка характарам мяккая, добрая душа. Ага... Але Міхась нос вярнуў, пасмейваўся. Праўда, тую торбу ці то выгнаў, ці то сама збегла.

От, значыць, Зміцер Ганначку лячыў-лячыў, а потым сам злёг, два тыдні на людзях не было. Ачомаўся, папрасіў у Падлужнага коніка, запрог і па-

ехаў. І што ты думаеш? Прывёз Ганначку. Аказваецца, сірата яна круглая засталася, жыла зусім адна. Малакроўе ў яе было. Чым яе Зміцер ратаваў, то ён адзін знае. Казалі, як прывёз ён Ганначку і ўзяў сабе за жонку, нельга ўжо яму стала лячыць. А я другое скажу: усю сілу сваю ён на Ганначку патраціў, от і не мог больш нічога, таму і сам лёгма ляжаў два тыдні.

Я не змог не перапыніць цётку, бо помніў пра тыя характарыстыкі, якія даваў мне раніцай Тумар на ляўдокцаў і на яе ў тым ліку:

– Выбачайце, я вас хачу спытаць...

Сонька зіркнула на мяне, падціснула вусны, быццам я перапыніў яе на самым цікавым месцы маналогу, з якім яна выступала перад гледачамі.

– Пытайся... Я ж усё па парадку кажу...

– Не, я трошкі не па тэме, можа быць. Дык вось, я ведаю: вы былая камуністка, былы савецкі работнік...

– І білет свой парцейны нікому не здавала і з партыі не выходзіла! – з гонарам хутка перапыніла мяне цётка.

– Ну вось, тым больш... – Я пастараўся схаваць свой сарказм і спытаць як мага мякчэй: – Вы ж камуністка, а тут кажаце пра ведзьмака нейкага так, быццам пра... урача-хірурга, і цалкам верыце ў яго здольнасці...

Цётка нейкі час глядзела на мяне, а ў вачах яе (надзіва чыстага васількавага колеру) збіраўся лёгкі сум і дакор.

– От, хлопча... А хіба калі я ў партыю ўступіла, дык Зміцер перастаў ведзьмаком быць? Якая яму розніца: я парційная ці не? Ён ведзьмаком быў, ім і заставаўся. І карова мая не глядзела на мой парцейны білет, як захварэла. Лекам тым ці ёсць розніца з чыіх рук у каравячы рот ліцца: з парцейных ці з непарцейных? Ці камуністка я, ці ў Бога веру – Богу ўсё роўна, ён быў і будзе. Так і Зміцеру: хай бы ўсё сяло парцейным стала, яго сілу які чалавек адбярэ?

Шчыра кажучы, я разгубіўся. Мне не было чым крыць вось гэтую на першы погляд наіўную, але ж цалкам здаровую логіку. І насамрэч: верым мы ці не ў тых марсіян, факт іх існавання ад гэтага не залежыць...

– Выбачайце, расказвайце далей, – сур'ёзна папрасіў я, перагарнуў старонку нататніка, на якім больш дзеля прыліку нешта крэсліў час ад часу. Хай цётка нацешыцца.

– Ага... Падзівіліся напачатку: бо ці не ўдвая Зміцер старэйшы за Ганначку, ды скрыпучае дзерава доўга стаіць, а яны наўздзіў гэтак ладна жыць сталі. Тут Ганначка і панесла хутка. Цяжарнай пакруглела ўся, адкуль і нарасло – і клубы, як у бабы, а не хлапчука, і цыцкі спраўныя. І я табе прама скажу: от з таго часу і стаў сачыць Падлужны за Ганначкай. Вочы яму засцілі крутазадыя, а цяпер угледзеў, што на характар дзівіцца трэба, а не на нешта там...

Ага... Добра жылі Ганначка і Зміцер, Насцечка нарадзілася харошанькая, расла такім ужо дзіцяткам цікаўным, але ж паслухмяная была. І вот што ета з Падлужным зрабілася, адзін чорт ведае. Стаў ён Ганначку прама праследаваць. Я з ёй пасябравала, нас жа тут баб, каторым даверыцца можна, дзве на тры хлявы. Дык мне жалілася Ганначка: перастрэне яе на дарозе адну, схопіцца за адзежу, на калені ўпадзе: «Кідай Зміцера, ідзі да мяне!» Во найшло, каб яму не адышло! А Падлужны палюе ды палюе, усё выгадвае, каб хоць на хвіліначку з вока на вока сустрэць дзеўку. І такія словы кажа, глядзі, зараз грудзіну разарве, дастане сэрца, адно спытай.

А я табе так скажу: бабе як? І дай – абгаворыць, і не дай – абгаворыць.

Ты сабаку добрае слова скажы – хвастом завіляе, а тут чалавек... Ганначка дзе смехам дзе спехам, вырывалася, уцякала. Ну, і не будзеш жа чалавека ганіць ды клясці, які на цябе так запаў, во гатовы ногі табе мыць і ваду тую пасля піць. То й усміхнецца яму Ганначка, пакпіць дзе жартам... Хто ж ета думаў, што да таго дойдзе?

І вот у адно лета (а было Насці акурат дзесяць гадкоў) Зміцера старшыня калгасны на ферму павёз – тамака нешта з каровамі зрабілася, на ногі ўпалі, цэлы хлеў. Бо як бяда, прыйдзеш і да ведзьмака. Дык я табе скажу, адпаіў Зміцер тады каровы, адно на тое поле схадзіў, дзе ім траву касілі, усё скеміў. Ага... А Ганначка з Насцяй дома была, якраз бялізну мыла. Во як маім агародам ісці, там такая канава невялікая, мой Уладзя месца адно пашырыў-паглыбіў, кладку зрабіў – так добра паласкаць мытае. Зацішна, берагі вербалозам абраслі... Яшчэ табе скажу перад етым: Насцечка з рук Зміцера мо гадоў да трох не сходзіла. Як дачка побач – так і хапае на рукі. Любіў ён яе сказаць няма як. І яна, як яго пабачыць: «Татачка, татачка!» Кветкі яму збірала, вяночкі пляла. А той Зміцер з ёй быў сам бы дзіця малое. Ага...

Дзень тады спякотны быў, а калі баба бялізну палошча, сам знаеш: тут спадніцу падтыкне, каб не мокла, ногі голыя, ліфіка не кладзе. А вада пырскае, усё да цела ліпне. От... Упільнаваў Падлужны – хай на яго чэрці палююць – Ганначку, як Насцечка да дому пайшла. Прыйшоў, пачаў зноў казаць сваё казанне. А Ганначка што ж... Не пагнала яго адразу, пасмейвалася, падначвала, бялізну паласкала. Адны быццам на свеце, кусты стаяць вакол, загарадзілі ад людзей і ад розуму. Нагнецца над вадой, дык хоць спераду паглядзець – цыцкі амаль голыя, хоць ззаду – азадкам свеціць. Падлужны і не ўцярпеў... Здаровы ж, ды яшчэ дурніца ў галаву стрэліла. Схапіў Ганначку з кладкі, на пляччо закінуў і пацёг у кусты вербалозу. От етага яна ніяк не чакала. А можа, і чакае кожная баба над сабой вось такога гвалту...

Спадніцу, кохту – усё сарваў, паскідаў, такі юр яго ахапіў, каб ты так піць хапаў, ды не напіваўся. Цалаваў, як ашалелы, усё цела і ці не павісквай шчанюком, так яго перахапіла. Ганначка білася-баранілася, ды куды ёй... Ды і баба ж, і прызналася яна мне: як абхапіў-ашчаперыў, сціснуў, пакрыў усю пацалункамі, то й свет белы знік... Упадабала яна яго раней, напачатку, от дзе бяда. Да яго ж ездзіла спярша, а ён – сляпак чортаў. Няма чаго доўга казаць... Насцечка як прыбегла, дык і пабачыла, от...

Цётка замаўчала. Маўчаў, некалькі разгублены, і я, бо не мог пакуль зразумець: навошта мне гэтая даўняя гісторыя пра любошчы на лужку ў вербалозе?

– А далей як было? – падахвоціў я цётку, дастаў тэлефон і дэманстратыўна паглядзеў на час, каб паказаць старой, што ў мяне нямала яшчэ пільных спраў.

– Ды тое і было... Ганначцы б адразу ва ўсім Зміцеру прызнацца – ён бы прабачыў, згатаваў адвар які, каб прыйшла яна ў розум. Ды баялася. Мне пераказвала ўсё, плакала-плакала. Кажу: «Ідзі, упадзі на калені, павініся!» Ды во дзе яшчэ бяда: Насцечка ж бачыла ўсё. Казала Ганначка, як скамянела дзяўчынка, трэсла адно яе і мову адняло. К вечару ліхаманка яе біць пачала, Зміцер спалохаўся, хапаўся за свае травы сушаныя, тоўк у ступцы, гатаваў зелле. Тры дні прайшло – дзіця ў гарачцы. Не спалі абое ля дачкі. А потым адпусціла. Ачомалася дзяўчынка, бацьку пазнала.

Ганначка булён звараны астудзіла, нясе Насцечцы, а тая ў крык немы: «Не кранайся мяне!» То ўжо Ганначка застыла слупам. Бачыла я, як ішла яна да той канавы вечарам. Без нічога ішла... Пайшла за ёй. Счарнела яна тварам, выла, траву грызла, па зямлі качалася. Хоць ты за руку яе бяры ды вядзі, а не будзеш жа мяшацца. Ды і сам знаеш: Зміцер мог такое ўтварыць – зажыва б згніў Падлужны. О, гэта не жартачкі – ведзьмаку дарогу перайсці, жонку яго ссільнічаць... То етага й баялася Ганначка: каб грэх цяжкі на сябе Зміцер не ўзяў. От і засілілася назаўтра.

– Як засілілася? – я ажно прыўстаў ад нечаканасці. – Памерла ж яна! І быццам Зміцер яе пабіў... – выклаў я сваю дасведчанасць перад цёткай.

– Засілілася яна, – ціха, з пякучым жалем у вачах паўтарыла цётка. – У хляве на бэльку вяроўку завязала, ды кароткая была вяроўка, а бэлька высока. Дык услончык узяла з сабой і яшчэ табурэтку. Зміцер у час спахапіўся, як яна ў хляве зачынілася, ён праз хвіліну і выскачыў з хаты. І з нажом у руках... Ці то па-свойму, па-вядзьмарску ён пра ўсё даведаўся, ці то Насцечка яму паспела расказаць, аж во пайшоў цікаваць за жонкай.

Яна ў яго на вачах з услончыка ступіла. Зміцер як скочыў уверх (адкуль той спрыт і сіла) і нажом па вяроўчыне. Перасек. Ды ж наканавана было ўсё, нічога не паробіш. Ганначка сарвалася, упала на табурэтку, а тая табурэтка ўверх ножкамі ўпала. От і ўдарыла пячонку, адбіла. Кровазліццё ўнутранае, не ўратавалі. Пакуль хуткая ехала, яна яшчэ жыла, мяне заклінала напрамілы Бог: не казаць нічога Зміцеру. Нічога-нічога. Не знаю, як там Зміцер у міліцыі казаў, бо пыталіся ў яго многа, і Насцечку пыталі, сама бачыла... Мімаходзь ішла, а яны якраз у двары яе дапытвалі.

– Дык Зміцер так і не даведаўся? – уражаны, спытаў я.

– Мабыць, здагадаўся. Ну, што было ў Ганначкі з Падлужным. Толькі не ведаў, што віны Ганначчынай адна макавінка... Не чапаў ён Падлужнага. А той дурань быў напіўся (ета як сталі казаць, быццам Ганначка памерла ад удару, быццам Зміцер яе выцяў моцна) і давай да Зміцера, біцца. І напраўду, ударыў з-за вуха. Мужыкі побач стаялі, схапілі, а то б забіў нагамі. А Зміцер і змаўчаў... Дзівіліся ўсе, і я во дзівілася. Ніяк у яго злосці не было – ні ў вачах, ні ў руках.

– Дык а Насця? – падагнаў я старую.

– Гадоў дзесяць таму Зміцер усю сваю сілу Насці перадаў.

Я хмыкнуў. Але сцярпеў, не стаў нічога казаць. Цётка ўздыхнула глыбока, быццам набірала паболей паветра ў грудзі і працягнула:

– Вяселле гулялі ў нас, у адных тут, яны ўжо даўно з'ехалі. Насцечцы ці не шаснаццаць было. Падлужны жыў з жанчынай адной ужо гады два, праўда, дзяцей нешта не заводзілі. Гуляў з ёй на вяселлі. І Насцечку пазвалі: сябравала яна з нявестай. А Насцечка, я табе скажу, рана паспела. Клубы шырокія, пругкія. Падлужны падпіў добра, ведама ж, чаго мужыкі на гулянкі ходзяць. На двор стол вынеслі ды стоячы ў карты гулялі. Насцечка міма ішла з дзяўчатамі. Ён і ляпнуў ёй услед: «Бач, вядзьмарскае семя паспела, хутка хлопцы ў чаргу станавіцца будуць!» Ды заржаў. Не любіў ён яе, на дух не пераносіў. А я во побач была якраз, прыпынілася. Насцечка павярнулася. Тварам страшная стала. Бы не яе твар, такі... не скамянелы, а як жалезны, шэры, крывіначкі няма. І вочы прымружыла, так глянула – ажно вусцішна ўсім стала. Мужыкі і на карты забыліся. А Насцечка ўсміхнулася так нядобра і гавора: «Дзякуй за пажаданне. Хай сабе стаіць чарга. І вам таго ж – няхай у вас стаіць і не падае». І

адкуль кветка ў яе руках узялася, далібог не бачыла. Рамонак. Яна і кінь той рамонак Падлужнаму. Ён і спаймаў, так во выйшла. А праз месяц ці меней яго жанчына ўпрочкі пайшла. Падлужны пасля пачаў да адной нашай мясцовай, развядзёнкі, старэйшай намнога, падыходзіць. Яна і не супраць была: чаго адной векаваць? І быццам пачалі жыць разам, ды разбегліся хутка. Яна збегла. От тады і пайшлі пагалоскі і сталі казаць на Падлужнага Стаяк...

Старая замаўчала. З хвіліну я думаў пра пачутае. Нічога карыснага. Канечне, цікавая гісторыя. Насця магла пранесці праз усё жыццё нянавісць да чалавека, які знішчыў яе шчасце. Тут няма сумненняў. Але не прымаць жа сур'ёзна яе нібыта вядзьмарства, ды яшчэ такое... фізіялагічнае.

– Дзякуй вам вялікі, – я закрыў нататнік. – Калі нешта яшчэ ўспомніце, звяртайцеся...

– Ды не ўсё яшчэ, куды ты? – заспяшалася цётка. – Гэтае, з бабамі, мо й перажыў бы Падлужны. Насця ж яму ніяк жыць не давала!

– І як? – без цікавасці ўсміхнуўся я.

– А вось так! Ты думаеш, з-за спрэчак якіх сястра з сям'ёй з бацькоўскага дому з'ехала? Яны ж столькі грошай уклалі, каб прасторна было ўсім жыць! Яны ж разам, як можна стала, кароў пачалі трымаць, цэлы гурт! Апарат гэты купілі для даення, швагер Падлужнага трактар набыў. Ферма цэлая была, зямлі многа. На капейку выбіліся. Ды ўсё абы-як ісці стала...

– Насця ўмяшалася? – не змог я схаваць сарказму.

– А ты не смейся, – зіркнула на мяне амаль злосна Сонька. – Ведзьме малако ў каровы забраць – як майму Уладзю самакрутку звярнуць.

– І як? – больш з-за ветлівасці спытаў я, бо мне, па праўдзе, стала шкада часу.

– А во прыйдзе кубак малака папытаецца – і ўсё забярэ. Даёнку папросіць, збанок, лазінай карову сцебане. У ведзьмы штукарстваў хопіць, каб чалавека звесці, не тое што карову.

– Зразумела...

Я ўстаў з лаўкі, цётка таксама падхапілася, кранула мой рукаў, прытрымала:

– Паджлужны гэта... – зашаптала яна таропка. – Месяц таму ён адну за другой чатыры свае лепшыя каровы (самыя малочныя, казала работніца з яго фермы) на мясакамбінат мусіў здаць. Напіўся тады. Як вярнуўся, дык крычаў: «Закалю суку! Патрапіць на вілы!» І закалоў от!

– Вы самі чулі?

– Чула! Са шчаўя вярталася, на канаве збірала, ужо адскочыў першы, маладзенькі, а Падлужны на двары сваім крычаў!

– Ясна... Разбяромся, – аўтаматычна адказаў я. – Дзякуй, вы мне вельмі дапамаглі!

Хата Міхася Падлужнага ад вуліцы была агароджана высокім плотам, шчыльным, у дзе дошкі, уваходная брамка не была зашчэплена знутры. З участковым мы зайшлі на двор. Забрахаў сабака, прывязаны ў куце на доўгі ланцуг. На сенцах вісеў замок. Яшчэ адзін уваход у хату, куды мы прайшлі пад раз'юшаны сабачы брэх, таксама быў зачынены, на ўнутраны замок.

За домам быў шырокі двор, стаяў просты воз без пярэдніх колаў, пад невялікім навесам – адмысловая брычка, амаль новая, на сапраўдных рысорах. Вялізны хлеў пуставаў, яшчэ адна гаспадарчая пабудова была зачынена на замок. Далей – агарод з роўненькімі радамі парасткаў буракоў,

якія цягнуліся далёка, да самага ўзлеску. З правага боку агарод таксама межаваў з лесам, у які ў далёкім канцы глыбока ўразалася паляна. На ёй пад разгалістым, не вельмі высокім дубам стаялі два леташнія рудыя стажкі, ужо і не пазнаеш – сена ці саломы. Між імі – нейкая гаспадарчая тэхніка.

– Мабыць, з каровамі на пашы, – выказаў думку Тумар. – А работніца, якая кароў доіць, вечарам прыходзіць.

– Сам пасе?

– Пакуль сам. Пачнуцца ў дзяцей канікулы – іх наймае. Мясцовым п'яніцам няма даверу...

Мы завярнулі назад. Позірк мой зноў зачапіўся за стажкі, дакладней за тое, што было між імі. Я пазнаў гэтую прыладу – конныя граблі. Два вялізныя колы, сядзенне, аглоблі... І ззаду – шэраг паўкруглых металічных зубоў...

– Стой! – усхвалявана гукнуў я, пацягнуў за сабой Тумара. – Глянем...

Граблі былі даўнішнія, метал добра паела ржа. Праўда, аглоблі нядаўна памянялі на новыя. Я абышоў ззаду. Металічны паўкруглы шэраг быў падобны на стары хворы рот – тут не хапала больш за трэць зубоў.

Няўжо гэта? Усхваляваны, я ўшчыльную падышоў да драпежна ўзнятага раду. Вось адзін асобны... З гэтага боку няма трох, з гэтага – двух. Якраз хапае, каб умясціцца чалавеку... На тым канцы – а граблі метры на тры – яшчэ такі ж асобны зуб. Не вельмі востры на канцы, з сантыметр ці трохі больш у дыяметры, паўкруглы.

– Тумар... Калі я зараз лягу вось тут, а ты там адкінеш нейкі рычаг, гэты зубец лёгенька праткне мяне... як Насцю?

– І лёгка нават, – паціснуў плячыма ўчастковы і пачаў старанна ўглядацца ў вострыя канцы зубцоў. – Толькі не надта падобна... А зубцы быццам усе спецыяльна выцерлі, – з лёгкім узрушэннем заключыў ён, калі прайшоў уздоўж.

– І не проста выцерлі, а добра пашаравалі, – я правёў асцярожна пальцамі па адным зубе, які, відавочна, зусім нядаўна дбайна пачысцілі шліфавальнай шкуркай. Метал быў хоць і з рудымі эразійнымі плямамі, але з чыстай гладкай паверхняй.

– Бо я ўчора рамантаваў грабалку, чысціў цэлыя і здымаў паламаныя зубы! – злосць, нянавісць і абурэнне сабраліся ў адным ускрыку, і іх было так многа, што я міжволі ўздрыгнуў. – І асцярожней тут, рычаг слаба трымае, сарвацца можа, з дзіркамі ў нагах пашыбуеце назад!

Мужчына гадоў пяцідзесяці ці крыху больш стаяў за некалькіх крокаў ад нас, глядзеў насуплена, зусім не прыязна. «Падлужны», – здагадаўся я.

Мабыць, на зямлі, фермерамі, павінны працаваць менавіта такія мужыкі: рослыя, здаровыя, з вялікімі і дужымі рукамі, упэўненыя. Ён стаяў неяк незвычайна, быццам ціснуў сваёй вагой на зямлю, а яна паслухмяна прасядала пад ім. Падлужны зрабіў яшчэ крок да нас – цяжкі, гаспадарскі.

– Тумар, ты мяне ведаеш! Заўтра атрымаеш скаргу ў пракуратуру! – голасна, але без пагрозы звярнуўся Падлужны да ўчастковага. Мяне ён быццам не заўважаў.

– Ды во, пракуратура на месцы, – спакойна адказаў Тумар. – Следчы.

– А мне пляваць! – цяпер ужо злосна адказаў Падлужны. – Я свае правы ведаю і парадкі вашы таксама. Чаго лезеце без дазволу ў маё жытло?

– Каб было зачынена, то б не лезлі, – умяшаўся я. – Я следчы пракуратуры. Мне трэба з вамі пагаварыць...

– Вось гукнеш сваёй паперкай – тады і будзем размаўляць у тваім кабінеце, – раздражнёна перапыніў мяне Падлужны. – А цяпер вымятайцеся! Мне некалі...

Толькі зараз я звярнуў увагу на гаспадарчыя вілы ў руках Падлужнага: яны былі відавочна не лёгкія, але трымаў ён іх у адной руцэ бы пярынку. Чатырма вастрыямі на нас. Злёгку паўкруглыя, яны металічна ледзь паблісквалі на канцах.

– Тады будзем па закону, – без эмоцый завяршыў я размову, хоць унутры закіпала злосць. – Чакайце павестку... А паляна гэтая вось... здаецца, не твая зямля, так? То ідзі сабе адсюль, цябе не затрымліваюць.

Дзіўна, але мужчына спакойна павярнуўся і пакрочыў у напрамку свайго двара.

– Не гасцінны таварыш, – заўважыў я.

– Ды такі вось, – згадзіўся Тумар. – Пакурым?

– Пакурым...

Мы адышлі колькі крокаў – пад дуб. Апусціліся ля камля, я паўлёг, выцягнуўшы ногі. І нечакана адчуў усё хараство гэтага месца.

Хату Падлужнага закрывалі стажкі і невялікі, але густы зараснік маладых бярозак трохі далей. З трох іншых бакоў паляны шчыльна стаяў лес з густым падлескам. Тут было не проста зацішна – тут было на дзіва спакойна, утульна. Нават неяк інтымна, далібог. У такім месцы добра сустракацца з жанчынай... А хата таго паэта, Дылько – вось жа, цераз дарогу, насупраць хаты Падлужнага амаль!

Тут, пад дубам, можа, занадта адкрыта, а калі падысці бліжэй да тых маладзенькіх бярозак, там нібыта і трава больш густая, зялёная... Я падхапіўся. Тумар здзіўлена глянуў на мяне.

– Пятровіч... Прызнайся, табе зараз пра жанчыну не падумалася?

Тумар хмыкнуў, прытаптаў недакурак абцасам.

– Некалі... у лес з жонкай хадзілі на сваю паляну. Было...

Белы поліэтыленавы пакет у бярэзніку я заўважыў адразу: ён ляжаў толькі ледзь прыкрыты леташняй лістотай. Я перавярнуў і патрос яго. Выпалі белыя жаночыя трусы, джынсы і майка. І мабільны тэлефон.

## 10.

Самая істотная інфармацыя часам хаваецца ў адказах на самыя бяскрыўдныя, другасныя пытанні.

Алесь Федарук, мужчына з вялікай залысінай, акуратнай бародкай, невысокі, хударлявы, але з выразным «прафесарскім» пузам, апрануты ў шэрую кашулю з кароткімі рукавамі і выцвілыя блакітныя, але чыстыя джынсы, стаяў перад намі ў двары свайго дома крыху разгублены, хоць (я гатовы быў паспрачацца) ён рыхтаваўся да сустрэчы з намі, у любым выпадку – ведаў, што мы прыйдзем да яго. Ён быў інтэлігентам не ў першым пакаленні – такое не нажываецца за адно жыццё. Ва ўсёй яго паважлівай, але адначасова годнай паставе, у насцярожаным позірку разумных вачэй, у злёгку падціснутых, напружаных вуснах праяўлялася яго жаданне быць нам карысным, не пакрыўдзіць нас і адначасова – хутчэй застацца ў спакоі. Апошняе праяўлялася нават залішне: ён, пакуль мы прадстаўляліся, азірнуўся на вокны хаты, быццам прыслухоўваючыся да нечага.

– Алесь Тарасавіч, думаю, вы здагадваецеся... – пачаў я, калі гаспадар запрасіў нас прысесці тут жа, ля хаты, на лаўку.

– Канечне-канечне, – хутка адказаў Федарук, сам застаўся стаяць, ці то выяўляючы залішнюю павагу і гатоўнасць адказваць на ўсе пытанні, ці то дэманструючы сваю занятасць і тое, што яму бракуе часу, каб яшчэ траціць яго на нас.

– Вы ведалі Насцю Грыцук?

– Так-так. Адзіная... не старая тут жанчына, вялікая разумніца, спагадлівая.

– Якія ў вас былі адносіны?

– Ды... ніякіх. Проста сябравалі.

– Вы абменьваліся з ёй нумарамі мабільных тэлефонаў?

– Так... – з ледзь заўважным выдыхам прызнаўся Федарук.

– Тады, выбачайце, такое пытанне. Вось вы – выкладчык універсітэта, вучоны, гісторык. Насця Грыцук – звычайная вясковая маладзіца, санітарка ў бальніцы. На чым трымаўся ваш інтарэс адзін да аднаго? Згадзіцеся, сёння абмяняцца нумарамі мабільных тэлефонаў – гэта...

– Згодзен, тут ёсць нават нешта інтымнае, – падказаў мне, усміхнуўшыся, Федарук. – Мы быццам дазваляем чалавеку турбаваць нас у любы час.

– Дык што такога было між вамі? – настойваў я.

– Як вам патлумачыць? Ведаеце, малады чалавек...

– Я следчы пракуратуры.

– Перапрашаю. Дык вось, таварыш следчы пракуратуры, у людзей самых розных сацыяльных саслоўяў, матэрыяльнага становішча незалежна ад адукацыі, месца жыхарства, прафесійнага занятку могуць быць агульныя інтарэсы...

– Вось яны мяне і цікавяць.

– Любоў, – з нясмелай усмешкай прамовіў Федарук.

– І каго вы агулам любіце? – не схаваў я свайго здзіўлення.

– Ды ўсё! – развёў рукамі ўшыркі, быццам хацеў абхапіць паветра, Федарук, у вачах яго была ўжо не вінаватасць, а ўсведамленне старанна прыхаванай уласнай перавагі.

– Выбачайце, але мне б менш абстракцый, а больш канкрэтыкі, – нецярпліва заўважыў я.

– Канечне, канечне, выбачайце, – заспяшаўся Федарук, зіркнуў нам за спіны, на акно, замаўчаў, быццам прыслухаўся, і загаварыў, спяшаючыся: – Любоў да зямлі, да роднага, да свайго. А сваё ў нашым канкрэтным выпадку... Як вам прасцей патлумачыць? Мінулае – гэта таксама наша, у ім мы самі, нашы карані. Выбачайце, кажу такія банальныя рэчы. Дык вось, Насця ведала шмат таго, што страчана людзьмі яе пакалення, ды і майго.

– Што страчана? – пачаў я псіхаваць.

– Калі ласка, не крыўдуйце, гэта няпроста ўявіць чалавеку... далёкаму ад усяго гэтага. Дык вось. Узаемаадносіны людзей з прыродай, з навакольным асяроддзем зацвярджаюцца ў традыцыях, вераваннях, легендах, міфах, калі хочаце. У абрадах. Мы шмат страцілі канчаткова, галоўнае – страцілі сэнс, да нас дайшлі толькі формы, знешнія атрыбуты. Мне як гісторыку, этнографу, надзвычай цікава ўсё. І лічу не проста цікавым, але карысным, проста неабходным для нас усіх... А Насця ведала шмат, бо вельмі шмат ведае яе бацька. Ды ён не ахвочы быў да размоў, а Насця

расказвала нам надзвычай многа істотнага, такога, што мы не ведалі раней, яно нідзе не зафіксавана. Гэта вельмі каштоўна для навукі, этнаграфіі, для народа, урэшце...

– Зразумела... – працягнуў я, некалькі раздражнёны шматслоўным і, па сутнасці, пустым адказам. – Вы сказалі «вам». Каму?

– Ну, разумееце... Усім тым, каму... Мы тут, так атрымалася, розныя па занятках, узросце, але вось цікавасць да мінулага нас аб'ядноўвае, многіх. Вось мы і бавім час разам.

– Ладзіце святы, адраджаеце абрады? – вырашыў я на гэты раз паказаць Федаруку, што ведаю трохі больш, чым пытаюся. Мне было не дзіўна, калі ён разгубіўся крыху пры пытанні аб нумарах мабільных тэлефонаў: у нас жа многія і не здагадваюцца нават, што пра чалавека столькі ўсяго можна даведацца за самы кароткі тэрмін! Не, ён яўна не падазрае, што я ведаю пра яго званкі да Насці, пра атрыманыя ёй эсэмэскі. Такі наіўны...

– Ну так, нам гэта цікава, а дзецям, моладзі – тым больш, ім – забаўка, свята. Ці многа ў нас святаў? А хіба ў гэтым ёсць нешта дрэннае? Вось жа няхай Сцяпан Пятровіч вам скажа, – з просьбай у голасе Федарук павярнуўся да ўчастковага.

Міжволі я ўсміхнуўся – мужчыны былі так падобны знешне адзін да аднаго, быццам Федарук быў зменшанай копіяй Тумара: такія ж залысіны, круглыя твары. Хіба бародка...

– Ды не перажывай ты, Тарасавіч, – заспакоіў, бы малое дзіця, адказам участковы, і я зразумеў: адносіны ў іх даволі блізкія, сяброўскія. – То ж парадак такі, трэба нам усё высветліць. Сам разумееш, дзяўчына загінула, тут кожная дробязь...

– Канечне, канечне. Чым яшчэ магу дапамагчы?

– Я б хацеў паразмаўляць з усімі вашымі... аматарамі абрадаў, – агучыў я просьбу.

Хвіліну таму я нічога такога не думаў, а вось цяпер рашэнне прыйшло і падалося мне вельмі лагічным і правільным. Калі іх сабраць разам і задаць пытанні... Федарук не здагадваецца пра тое, колькі я ведаю. Як і астатнія, трэба разумець. Не ведае, да прыкладу, што ў спісе тэлефонаў загінулага паэта ён пазначаны як «Капітан».

Мне трэба ўсё ведаць пра цяжарнасць Насці.

Калі ў іх тут сапраўды нейкі гурток па інтарэсах, падчас размовы з усімі многае ўсплыве супраць іх жадання. Толькі прадумаць добра тактыку.

Алесь Федарук нецярпліва пацёр рукой руку, зноў кінуў кароткі позірк на акно і прамовіў з вінаватасцю:

– Выбачайце, мне зараз трэба... Я вельмі заняты, тут такі момант якраз...

– Канечне, – я падняўся. – Я мушу выклікаць вас для допыту ў пракуратуру як сведку. Перад гэтым... Заўтра ў нас субота, я так разумею, на выхадныя вашы сябры з'едуцца? Маглі б мы дзе сабрацца, каб пагаварыць разам?

– Так-так, у нас ёсць адзін дом. Вялікі, мы там збіраемся іншы раз, калі абмяркоўваем нешта. Але заўтра не ва ўсіх вольны дзень, то толькі бліжэй да вечара збяруцца ўсе.

– Выдатна. Я вас папрашу сабраць усіх, скажам, а восьмай гадзіне вечара. Гэта прымальна?

– Так-так. Мы збяромся.

– Тады да пабачэння.

Мы выйшлі за веснічкі і накіраваліся ў другі канец вёсачкі – да хаты Зміцера, бацькі забітай.

Непазбежнасць смерці вёскі крыецца ў буянні зелені. Ляўдок, зарослы травой ад платоў да сярэдзіны дарожных каляін, проста патанаў у кустах бэзу, які пачынаў набрыняць белымі і ліловымі колерамі пухнатых суквеццяў. Не было каму ў мінулым годзе, не будзе каму і цяпер ламаць пахкія галінкі – вунь як вольна разрастаюцца кусты, суквецці хіляцца ажно да зямлі...

– Зміцер амаль не ўстае, хіба да ветру сам ідзе. Яго наша манашка, Марылька, даглядае, – расказваў мне Тумар. – Дарэчы, давайце-ка да яе заглянем, хлеба спытаем. Час ужо абедзенны, у мяне сала кавалак з сабой, – Тумар прыўзняў сваю планшэтку, якую насіў увесь час у левай руцэ. – Перакусім. Можна будзе і галаву вам палячыць.

– Ды галава як быццам нічога, – адказаў я, практычна прымаючы прапанову, бо чаго тут было саромецца ці хітрыць – есці я хацеў. І тое праўда: у роце было шурпата, і напамін пра кароткі перадых за сталом раптоўна выклікаў у свядомасці шклянку халоднай вады. Каб аж зубы заходзіліся. Мы за гэты час мінулі не адну студню, якая абяцала мне збавенне ад сухасці ўнутры, але мусіў цярпець, бо цяперашняя смага і яе наталенне падаваліся мне, лічы, нечым інтымным. Усё ж зразумеюць. Добра хоць, прапанавала адразу Сонька бярозавіку.

– У Марылі самагонка вельмі добрая, – не спыняў сваю тэму Тумар. – На травах, лёгкая, і паху пасля ніякага.

– Дзіўныя тут у вас парадкі, – без абвінавачвання заўважыў я – участковы ведае і, выходзіць, пакрывае самагонаварэнне.

– Нармальныя, – уздыхнуў Тумар. – Каб паўсюль так. Чалавечыя. Марылька травы ведае, настойвае. Гоніць нямнога, так, каб суседу было прадаць пры выпадку ці разлічыцца за якую паслугу. Спрадвеку так жылі... Во на сядзібе два кадры ёсць... Кожны трапляўся, штрафы неміласэрныя. А не кідаюць справу: прыбытковая!

– Гоняць?

– Адзін-то гоніць, бо сваяк на цукровым заводзе – галоўная сыравіна бясплатная. А другая прадае нейкую брыду, сын спірт пастаўляе. Да гэтай не падступіцца. Недзе ў вобласці плечы добрыя... Ну, во і Марыліна хата.

Мы прыпыніліся перад старэнькім невялічкім домам, які сваімі акенцамі амаль урос у зямлю. Колькі яму гадоў? Мабыць, як паставілі пасля вайны, так і не чапалі, хіба вось шыферам перакрылі дах. Нешаляваныя сцены, бярвёны шэрыя, у глыбокіх доўгіх трэшчынах. Агароджа спрахла, і яе прыбралі, засталіся толькі два, мабыць жа, дубовыя, тоўстыя і крываватыя слупы. Між імі ад вуліцы ў траве ўгадвалася вузенькая сцяжынка.

Дзверы ў сенцы расчыніліся перад намі. Худая, у чорным усім: доўгай спадніцы, кофце і хусцінцы, завязанай акуратным вузельчыкам пад бараду, – стаяла старая. У нейкі момант яна падалася бы намаляванай – настолькі лялечна-акуратна ўсё на ёй ляжала, і сам тварык, дробны, з тонкай застылай усмешкай, і занадта спагадлівы позірк вачэй, і запалыя шчокі, і васковага колеру скура рабілі яе падобнай да лялькі. Але яшчэ два крокі насустрач – і я пабачыў жывы агеньчык у гэтых вачах, асаблівы, цёплы і трохі сумны, у якім было не тое што адчуванне перавагі над намі, нашым быццём, а веданне яго нязначнасці. «От, ходзіце, марнуецеся, перажываеце з-за пустога, спяшаецеся, маркоціцеся з-за нібыта няўдач, а ўсё ж – мітусня, супыніцеся...»

– Здароў была, цётка Марыля, – павітаўся Тумар.

– Добры дзень, – паспяўшаўся і я.

– І вам хай Бог дае добрага здароўечка і ладу, – адказала старая, і голас яе прагучаў нечакана чыста для мяне, без старэчай задыхі, звонка, бы дзяўчынка малая вітала нас.

– Ці можна хлеба пазычыць, цёць? – спытаўся Тумар. – Затрымаліся во, а спраў яшчэ многа...

– Хадзіце, хадзіце ў хату, – адступіла ў сенцы старая, запрашаючы.

Унутры хата падалася яшчэ меншай, чым звонку. Вялікая печ з паўгрубкай займала ці не траціну ўсёй прасторы, далей у куце быў драўляны ложак, засцелены пярэстай саматканай посцілкай. Ложку было ніяк не меней гадоў, чым яго гаспадыні: драўляныя спінкі патачыў шашаль, яны пацямнелі да чорнага. Далёкі ад нас кут нагадваў царкоўны амбон: невялікі круглы стол з дзвюма патрапанымі кнігамі, свечкамі ў падсвечніку, шклянцы і стале; над ім – сапраўдны іканастас, дзе свяцілася жоўтая іскрынка агеньчыку ў лампадцы. Амаль насупраць печы – стол з лавай ад сцяны і два зэдлікі, самаробныя, драўляныя.

Мы прыселі за стол, засцелены некалі жоўтай у чырвоныя і зялёныя кветкі цыратай, якая ў тым месцы, дзе, відавочна, ела старая, была выцерта да белага. Гаспадыня, нічога ў нас не пытаючыся, амаль бясшумна і хутка снавала туды-сюды. На стале з'явіліся хлеб, дзве талеркі з халадніком, цыбуля, дошчачка. Тумар дастаў і парэзаў ладнымі кавалкамі мяккае сала.

– Дай, цётачка, калі не грэх сёння, дык і для апетыту. Але сваёй, жоўценькай, – па-свойску папрасіў ён яшчэ, і старая адгукнулася хуткім:

– Не грэх, не грэх... Рабіць не грэх, есці не грэх...

– А ў чым грэх? – не стрымаўся я, спытаў, калі старая прынесла і паставіла на стол два шкалікі і бутэльку сапраўды жоўтай, але празрыстай самагонкі.

– Грэх зло рабіць. Ці сабе, ці людзям, – без павучання адказала яна.

– А што зло? – вырвалася ў мяне.

– Ці ў іншых адняць, ці сабе лішняга ўзяць, – зноў гэтак жа, не задумваючыся, патлумачыла цётка Марыля, быццам я пытаўся аб нечым надзвычай простым і зразумелым. – Ешце, я падбягу да Зміцера...

– Не ўстае? – пацікавіўся Тумар.

– Не ўжо, – з жалем на гэты раз уздыхнула старая. – Каб жа Бог прыбраў, не даў пакутаў...

Старая слізганула за дзверы.

Тумар узяў бутэльку, не пытаючыся, наліў па амаль поўным шкаліку.

– Неяк вы... бы ў роднай.

– Ды... – Тумар выпіў, занюхаў хлебам. – А хто ў іх ёсць, акрамя мяне? У Марылькі вось, у Сцёпчыхі? У Калтуневічаў? Дзеці і ўлада далёка... Служба сацыяльная? Тая не бароніць. А бараніць трэба. То з горада наляціць саранча, цягнуць усё металічнае, хоць алюміній, хоць чыгун. Ні патэльні, ні чыгунка не пакінуць на двары. Цыганы завітаюць – знойдуць і выцягнуць грошы хоць з трусоў на табе. Чужы нехта падазроны з'явіцца, мне адразу і тэлефануюць... Як яна вось кажа, я чужога не бяру і лішняга сабе не патрабую. Гоніць цётка самагон – хай гоніць, не на зло ж іншым. Не першы раз у яе хаце. Тры гады таму яе абразы былі сцягнулі. Бачыце, якія?

Я ўзняў вочы, зірнуў для прыліку, нічога ўражальнага не пабачыў: цёмныя ад часу намаляваныя на дошках святыя. Звычайныя, мне не цікавыя.

– Як па мне, дык нічога каштоўнага, – шчыра прызнаўся я.

– У кожнага свае каштоўнасці, – зазначыў Тумар. – Ешце, ды яшчэ па кроплі.

Нейкі час мы елі моўчкі. Тумар не перабольшваў наконт гарэлкі: напітак быў мяккім і прыемным на смак, ніякага паху сівухі. Я назіраў за Тумарам: твар увачавідкі набрыняў чырванню, быццам яго фарбавалі знутры. Ён заўважыў мой позірк, няёмка апраўдаўся:

– Ды гэта хутка пройдзе... Такі вось урадзіўся. Як хоць нешта з градусамі – твар у чырвань кідае. Пройдзе.

– Зміцер пасля смерці дачкі злёг? – праз некалькі хвілінаў маўчання запытаў я.

– Ды ён жа і так не малады, – пачаў разважаць Тумар. – Калі Насця нарадзілася, яму ці не пад пяцьдзясят было. Як я ведаю, ён апошні год многа ляжаў, гады ж бяруць сваё. Ну а тут, канечне... Падкасіла старога. Хоць на пахаванні стаяў, хай з кійком, а вытрымаў. Твар бы скамянелы быў, скура на чэрапе жоўтая, як з паперы. Не дай Бог каму такое – хаваць сваіх дзяцей.

– А ў вас дзеці ёсць? – вырвалася ў мяне.

– Двое, – адгукнуўся Тумар. – Хлопец і дзеўка. У дзясятым і восьмым класе. Выдатнікі, разумнікі і добрыя.

– Шчаслівы бацька.

– Бацька – дык шчаслівы, – нечакана шчыра прамовіў Тумар з непрыхаваным болем, і я зразумеў гэтую шчырасць як гатоўнасць падзяліцца сваім, мужчынскім.

– А муж не асабліва? – асцярожна канстатаваў я з адначасовым пытаннем.

– Бо дурань быў, – няхмушана адгукнуўся на пытанне Тумар. – Дзеля дзяцей і жыву адно.

– Цяжка ж так, – падумаў я ўслых.

– Цяжка цяпер. Было прасцей некалі... – Тумар памаўчаў, быццам разважаючы, казаць далей ці не, і пачаў гаварыць, мне падалося, больш самому сабе, зазіраючы ў сябе, углядаючыся ў сваё мінулае, успамінаючы: –А цяпер во зразумеў: ёсць і па праўдзе тое каханне. І стала цяжка. Як былую аднакласніцу сустрэў. Сціплая была, шэрая мышка. Я яе калі і падкалупліваў, калі і на танцах запрашаў – для смеху. Усур'ёз ніяк да яе не ставіўся, у нас у класе такія прыгажуні былі! А яна мяне кахала. Усе ведалі: яна па мне сохла, пацвельвалі. І я смяяўся. Дазваляў сабе іншы раз абы-што.

Аказалася, яна ўсё жыццё тое каханне ў сабе несла. Замуж выйшла, канечне, як надзею згубіла адносна мяне, бо сям'ю хацела стварыць, дзетак нарадзіць. У яе маці памерла, як ёй ці то васемнаццаць было, ці больш трохі. Бацька надта гараваў. У ладзе яны жылі. Ім усе зайздросцілі: ніколі не сварыліся на людзях і да дзяцей толькі з ласкай. Вось і... і мая Верачка хацела такую сям'ю. Звіла гняздзечка, утульнае, цёплае. Лічы, з сябе пух ірвала, усцілала. Мужык еў, піў, спаў – увесь ягоны занятак дома. А потым пачаў да іншых цягацца. Свая надакучыла, ды яшчэ ў клопатах як глядзець за сабой? А чужыя – яны сустракаюць вабнымі. Пакінуў яе з дзецьмі, падняла адна дваіх. Сербанула гора праз край, але здужала. І во сустрэліся мы цяпер. У мяне бы вочы адкрыліся. Усё да кучы змяшалася: і віну сваю адчуў, што такім слепаком быў, і ўдзячнасць

да яе, і павагу. І хоць ваўком цяпер вый. Другі год няма спакою. От калі зразумеў, што значыць у каханні жыць, што ёсць насамрэч такія сем'і, якім так пашчасціла. Мы з ёй... выпадкова. Камандзіравалі мяне ў вобласць, дажынкі там былі, у ачапленні тры дні. Вось там сустрэліся. Дзве ночы ў яе начаваў. А яна сама перапужалася пасля, маўляў, насланнё найшло, улезла ў чужую сям'ю, хто ж я пасля гэтага? І кінуў бы ўсё, далібог! Але ж – дзеці. А яшчэ... Верачка перасцерагла: не рабі, кажа, глупстваў. Бо калі кінеш сям'ю, я сабе не дарую, а цябе аніяк не змагу прыняць. Не будзе мне тады даравання. І цяпер... Гоніць яна мяне. Плача сама, а гоніць. Адно просіць: даруй. «Больш не змагу прыняць. І хачу да болю, а не магу», – так мне кажа. А сам я... Як табе лепш патлумачыць? Некалі давялося мне па-сапраўднаму тры дні сядзець галоднаму. Малады яшчэ зусім быў, застаўся без грошай, а знаёмага – ніводнага ў горадзе. Чакаў у пустым інтэрнаце. Сорамна было ў каменданта пытаць, ды і не далі б... Хто міліцыянеру верыць? І вось на трэці дзень я куды ні ішоў, чым ні займаўся – думаў пра хлеб. Не, нават не думаў – хлеб быў пастаянна ў маёй галаве, ва ўсім! Я чуў яго пах. Адчуваў смак, пальцамі мацаў шурпаты бачок... Не, не трызніў, а вось... са мной той хлеб, са мной неадступна! Дык вось цяпер згадаў я той хлеб – мне ім Верачка стала. Не думаю я пра яе – яна проста са мной і са мной. Дні, тыдні, месяцы і ўжо вось два гады. Уначы баюся назваць яе імя. От якая справа, Васіль... Ты вось следчы, ведаеш прычыны ды наступствы, дапамажы разабрацца... – ужо зусім нечаканай для мяне просьбай, ды яшчэ з пераходам на ты закончыў участковы.

Я зірнуў уважліва на яго твар. І толькі цяпер пабачыў смутак – у апушчаных уніз вугалках вуснаў, у раўнадушным позірку. Тое, што я прымаў за службовую тактоўнасць Тумара – ён за ўвесь час са мной не прамовіў ніводнага лішняга слова, не імкнуўся разумнічаць і вучыць мяне прамудрасцям вясковага жыцця, не ўмешваўся, не пёрся падказаць, забегчы наперад, – аказалася яго абыякавасцю толькі...

– Сапраўды, думаеце, я змагу даць рады вашай бядзе? – з сумнай усмешкай адказаў я, усё ж трошкі непрыемна кранут‌ы яго тыканнем.

– Ты выбачай за маё ты... Я вось жыццё пражыў, быў у мяне адзіны сябра. Спіўся. Дакладней, жонка дапамагла дапіцца да чорцікаў, у вар'ятню сплавіла, бо любошчам яе замінаў. От з ім я мог падзяліцца. А цяпер больш няма з кім. А яно ж унутры цябе сядзіць, у галаве такі вэрхал, такая рэвалюцыя... А нельга нікому расказаць. У нас... у міліцыянераў сяброў няма. У нас – служба. Для вяскоўцаў я ў большасці – мент паганы, падлеткі толькі так і клічуць, нават у вочы. Смелыя... А што іх маткі да трэціх пеўняў бягуць да мяне з крывавым плачам: «Дапамажы, супакой мужыка!» – дык тое не лічыцца. На мяне і з нажом выходзілі, мазгі адпіўшы, адзін раз – з віламі, было – з рыдлёўкай. Шварцнэйгер доўбаны патрапіўся дык бензапілу завёў і давай агароджы рэзаць. І з той пілой мяне сустрэў. А я ж пісталет нават ні разу не дастаў. А ўсё адно – мент паганы...

Дык от, Васіль, ты выбачай... Калі кажаш некаму ўслых пра сваю бяду, быццам збоку на яе глядзіш. І хоць парады просіш, ды сам хутчэй выйсце знойдзеш... Ну, і на ты звяртаюся... то як да сябе быццам. Вось, выбачайце.

– Ды ўсё нармальна, – шчыра супакоіў я ўчастковага. – На ты, дык на ты, мне не праблемна. А падказаць... Наўрад ці з мяне які дарадца ў такіх выпадках. А жонка твая?

– А для яе я мент ці не першы, – сумна ўсміхнуўся Тумар. – Бачыць жа, з чым і кім я справу маю, а вось... Палітыкай яна ў мяне надта цікавіцца. У нас быццам жа і ладам усё было, пакуль гэтая палітыка, выбары ды апазіцыя. Ледзь не развяліся былі падчас адных выбараў, два месяцы ў розных пакоях спалі.

– Яна хіба не бачыць розніцы між палітыкай і элементарнай службай? – здзівіўся я.

– Не, не бачыць, – адказаў Тумар і стаў прыбіраць са стала. – У нас большая частка людзей бачыць толькі чорнае і белае. Як ва ўладзе хто, значыць, падхалім, супраць народу. Калі ты не за, значыць супраць. Вось так і жывуць, лёгка для сябе вызначаючы каштоўнасці. Калі недзе міліцыянеры мітынгі разганяюць, дубінкамі лупцуюць, значыць, і ты тут – гэткі ж. І няважна, што я той дзень патраціў, каб украдзеных у Сцёпчыхі курэй знайсці, я ўсё адно тае масці, таго колеру, дубінку магу ў рукі ўзяць... Нічога, тры гадочкі – і я на пенсію, дзеці – у інстытуты. Знайду занятак.

– А цяпер не можаш?

– Навошта? – прыпыніўся ля стала Тумар. – Я толькі і ўмею быць участковым міліцыянерам. Я раблю амаль 20 гадоў. А больш – нічога. Ну, зямлю капаць – калі ласка. Але ж... мне падабаецца. Я бачу сэнс у сваёй працы. Хоць я і мент паганы, – нечкана ўсміхнуўся ён амаль весела. – Вось! На пенсію – і на развод. І паеду да Верачкі сваёй.

– Дык жа не прыме, гаварыла!

– Там пабачым. Усё пабачым. Пераначуем – і пачуем... Хадзем да Зміцера?

Марылю мы засталі ў сенцах Зміцеравай хаты, яна нешта памешвала ў каструлі на газавай пліце. Было заўважна, што тут, у сенцах, гаспадыняй была сучасная жанчына: новыя шафкі, добрая газавая пліта, асаблівая утульнасць і парадак.

– Не спіць? – спытаў Тумар пра Зміцера.

– Не, толькі папіў, – адказала старая.

Хата складалася з двух паловаў, Зміцер ляжаў у першай на канапе, якая стаяла за печчу ў прыцемку – невялікае акенца ў сцяне насупраць было дбайна занавешана. На нашае з'яўленне ён ніяк не адрэагаваў, не павёў нават вачыма, хоць тыя былі расплюшчаныя і скіраваныя ў столь. Толькі вочы і казалі пра тое, што чалавек не мёртвы – ніводная клетачка на твары больш не выглядала жывой. Скура твару, жаўтлявая, у мностве карычневых плямаў і плямкаў, парасла рэдкімі белымі валасамі, густаватымі і доўгімі ўжо на барадзе.

– Здароў, дзядзька Зміцер, – Тумар падышоў бліжэй да канапы. – Тут да цябе з пракуратуры, следчы. Хоча, каб ты яму дапамог знайсці таго, хто забіў Насцю.

Стары быццам не чуў гэтых слоў.

– Мы шукаем забойцу вашай дачкі, – голасна, афіцыйна пачаў я. – Вы можаце нам сказаць: ці былі ў яе ворагі? Чаму ў апошні вечар Насця пайшла з дому? Яна з кімсьці сустракалася?

Адказу не было.

– Пагаварылі...

Для мяне стала відавочным: мы толькі марнуем час.

Дзверы ў другую палову хаты былі зачыненыя. Я ведаў, аператыўнікі

ў першы ж дзень старанна тут усё абшукалі. Больш дзеля цікавасці, чым у надзеі нешта знайсці, я адчыніў дзверы, зайшоў.

Тут было вельмі сціпла, але зусім не па-вясковаму. Хіба грубка злева ад уваходу. Сучасная мэбля, не дарагая, не новая, але падабраная з густам: канапа, два фатэлі, часопісны столік са крэслам. Вуглавы стол для кампутара, з дзясятак кніг на яго паліцах. Шафа і камода. Не, таратрасаць рэчы я не збіраўся... Кнігі... Жаночыя раманы, часопісы...

Вярнуўся ў пакой, зноў падышоў да старога, загаварыў гучней, чым раней (можа, ён недачувае?).

– Ваша дачка была цяжарнай і нарадзіла дзіця. Дзе яна нарадзіла? Хто бацька?

І тут ён паглядзеў на мяне. Зрэнкі ягоныя павольна змясціліся ў мой бок – і Зміцер зірнуў. Доўгім, пранізваючым усё маё нутро позіркам вачэй, якія былі амаль светла-шэрыя, так выцвілі з часам.

– Калі пайшла замуж за Яшчура, павінна была нарадзіць, – нечакана ціха скрыпучым шэптам прамовіў Зміцер адными вуснамі.

– За... за якога Яшчура? – перапытаў я, заікнуўшыся ад нечаканасці.

Зміцер маўчаў.

– Каго тут завуць Яшчурам? – павярнуўся я да Тумара.

– Ды халера ведае, – пацiснуў той плячыма. – Можа, і таго паэта так звалі між сабой дачнікі.

– Вы бачылі гэтага Яшчура? Як ён выглядае? Колькі яму гадоў? Ён мясцовы ці гарадскі, дачнік?

Шэрыя плямы зрэнак зноў утаропіліся ў столь, потым старэчыя векі павольна апусціліся.

– Пайшлі... Будзем шукаць Яшчура заўтра, – махнуў я рукой Тумару.

– Падыдзі, – нечакана зноў захрыпеў Зміцер.

– Слухаю вас, – зрабіў я крок да канапы.

– Яшчура не чапай. Дзіця не чапай, – прагаварыў стары, не расплюшчваючы вачэй.

– Дзіця памерла... Яго вёз хаваць чалавек, ад якога магла нарадзіць ваша дачка, той самы Яшчур, – адкрыта стаў казаць я. – Хто такі Яшчур?

Вядзьмак не ўздрыгнуў, але нейкая быццам хваля, як сонечны зайчык ад акна насупраць, прабегла па яго твары і ўсім целе.

– Ты дурань яшчэ зусім, – прасіпеў ён. – Дзіця жывое. Яго вам не забіць...

– Ніхто не збіраўся яго забіваць, – разгублена прагаварыў я. – Яно само... Вы ведаеце, хто забіў Насцю? У яе былі ворагі?

Хвіліну стаяла цішыня.

– Дзед, ты нам што яшчэ скажаш ці не? – з настойлівай просьбай спытаў Тумар.

На твары старога не зварухнулася ні адна жылка.

*(Працяг будзе.)*



Алег Мінкін



...Бо мне, старому, і мне, дзіцяці,
Ці не ўсё роўна, які канец?
Ці з крыкам вярнуцца ў чэрава маці?
Ці моўчкі легчы ў пясчаны капец?..

# Як дагарае свечка...

***Паэма***

***1. Свечка***

А ты ці ведаеш, як свечка дагарае?
Спачатку полымца здрыгнецца, заміргае,
Тады раптоўна зырка палысне
І нікне долу, покуль не засне...
Адно віецца над парэшткамі дымок
На знак таго, што ўладца свету – Змрок.

***2. Гісторыя***

А той, хто на каўчэг не быў узяты Ноем,
затхнуўся пад вадой і ўдатным стаўся гноем,
для вінаграднікаў, якія Ной
пасадзіць сваёй собскаю рукой
на яшчэ мокрых ад Патопу схілах...

А перад тым, зірнуўшы на магілы,
тапельцаў, ўсклікне: “Бог мяне збярог!
І я з усёй сям’ёй вось тут, на ўзвышшы,
з каўчэга цеснага на сухазем’е выйшаў”.
Потым зашыецца ў будан і, без ніякіх засцярог,
гісторыю людзей нанова перапіша,
бо ўсе да аднаго, хто запярэчыць мог,
пайшлі на дно...
Апошнюю паставіць кропку – і ажно
зіхне вясёлка весткай злагады й зацішша!

### *3. Цень*

За спінай сонца свеціць – ды дарма:
Бо ценю ад мяне наперадзе няма.
Я бацьку перажыў ужо на цэлы дзень –
І знік перада мной ягоны цень.

### *4. Эцюд*

О, божухна, якая засха –
Жыццё адродзіцца наўрад.
І дзівіцца апошні класік
На першы ў жніўні лістапад,

На парудзелыя дазвання
Палі, дзе ў бляску слюдзяным,
Стагі пасталі, бы ў саване
Ад скварy жарыя сланы.

### *5. Відок з гаўбца*

Вунь там, дзе пад сіняю шыльдай жаўцее
Апалае лісце – я ўсё адно
Бачу з гаўбца, што там залацее
Пад сіняю гладдзю азёрнае дно.

А там, дзе сонца найбольш зіхотка
Па даху бляшаным праменнем б’е,
Я бачу ветрам падшытую лодку,
І ў гэтай лодцы сябе і яе.

І там, на самым адонні, мы бачым,
На вострым каменні сярод жарствы,

Як серабрацца ў бляску дрыжачым
Лісцінкі драбнюткія жабер-травы.

І кажа яна: “Варта да скроні
Лісцінку прыкласці – і ўзапраўды
Прышласць адкрыецца, як на далоні,
Жыццё зыначыцца назаўжды”.

Хацеў ды спужаўся чамусь з той лодкі
Па жабер-траву я даць нырца...
І вось я тут – стаю наўзлакоткі,
Адзін, у лодцы бетоннай гаўбца.

### *6. На паўстанку*

Калі чамусь на паўстанку нейкім
Захрас мой цягнік і насунуўся змрок,
Пазелянелі перон і рэйкі
Ад святла, што шыбала знекуль здалёк.

А па хвіліне, вагон за вагонам,
Сустрэчны цягнік бясшумна праплыў –
Кожны вагон яго ярка-зялёным
Ззяннем нязвыклым аточаны быў.

І хоць дзіў-вагоны плылі нядоўга,
Паспеў я ў смарагдава-ззяйным акне
Пазнаць самога сябе, маладога,
І тую, што калісь кахаў, пры мне.

Калі ж наапошку, на развітанне,
Зіхнуў за паўстанкам прывід-цягнік,
Я зразумеў, што бачыў вяртанне
Сваё ў край дзяцінства, які даўно знік.

Той край быў таксама смарагдава-ззяйны,
Як тое вакно прамільгнулае, ды
Адсюль, дзе паўстанак самы звычайны
Цьмянеў, я не прагнуў вярнуцца туды.

Бо мне, старому, і мне, дзіцяці,
Ці не ўсё роўна, які канец?
Ці з крыкам вярнуцца ў чэрава маці?
Ці моўчкі легчы ў пясчаны капец?

### *7. Сабака*

*Бурхану*

Сабака – ён адданы чалавек,
Ён вые, калі ты сышоў навек,
Не разумее, чаму татка родны
Ляжыць каля яго, няўзрушны і халодны,
Крыўдуе, як ты мог настолькі здрадзіць,
Што ўжо не можаш ні абняць, ні
па галаве пагладзіць.

### *8. Лодкі*

Не сумуй, што не вяснуем,
Што мацнее халадок,
Што ў вачох снуецца змрок:
Усё роўна павяслуем
Мы на лодках каляровых
Праз тунеля жарало
У вясёлае кубло
Безцялесых і здаровых.

Анатоль Бутэвіч



...І ў караля была свабода
не стаць каралём.
Была... Але ж стаў.
Бо цела ўцехі хацела...

# Тунэль чалавечага жыцця

***Дзве рэфлексіі***

## НЕСВАБОДА СВАБОДЫ

***Рэфлексія пазбаўлення ад страху***

**1.**

Насценны гадзіннік у шыкоўна абстаўленай гарадской аднапакаёўцы ахрыплым ад стараннасці ці мо ад наліплага пылу – хоць, здавалася, адкуль бярэцца пыл на вышыні васямнаццатага паверха – пракукаваў дванаццаць вечаровых разоў і сцішыўся да наступнага кукавання. Антон уздрыгнуў і механічна зірнуў у ніжні правы куток манітора. Ён ніколі не мог спакойна пазіраць на электронны цыферблат кампутара, калі на ім ядавіта зялёным колерам высвечваліся ажно чатыры нулі. Яны, як чатыры колы брычкі, якая з далёкай невядомасці нясецца бог ведае куды, выкочваліся заўсёды нечакана і ўзнікалі

перад вачыма як покліч, як папярэджанне, ці мо як неразгаданы пароль неспазнанай невядомасці.

Аднак нулі гэтыя вабілі, магнітам прыцягвалі позірк. Антон з трывожна напятымі нервамі – як быццам у гэты час “безвременья” павінна адбыцца нешта нечаканае, але чамусьці абавязкова благое – і з тахканнем сэрца расшыранымі зрэнкамі пазіраў на экран. Яму здавалася, што ў гэты нулявы момант, калі чатырохколая брычка часу адпраўляе ў вечнасць прошласці суткі мінулыя і штурхае перад сабой суткі будучыя, у свеце абавязкова адбываецца нешта дрэннае і непажаданае. Гэта як марскія тры хвіліны маўчання, як сігнал SOS, што пасылаюць да ўсяго сусвету бедакі і гаротнікі, няўдачнікі і недалэнгі. Антон з міжвольнай пільнасцю ўзіраўся ў манітор кампутара, быццам і сапраўды чакаў, што ўбачыць там замест чатырох нулёў тры лацінскія літары – SOS.

Але неўзабаве апошні нуль, а затым і перадапошні, змяніліся на адзінку. Антон уздыхнуў з палёгкай, а правая рука механічна націснула на мышку. На экране манітора адна за адной замільгалі карцінкі з агаленымі целамі, а затым засвяціўся надпіс “Клуб знаёмстваў”. Пад ім – два слупкі загалоўкаў. У левым быў тэматычны пералік кшталту “Шукаю годнага кавалера”, “Пазнаёмлюся для сумеснага жыцця”, “Мужчына хоча мець сябра”. А ў правым – “Жанчыны жанчынам”, “Мужчыны мужчынам”. І не паспеў Антон уцяміць, што мае рабіць далей, як кампутар сам вырашыў за яго. На экране з’явіўся надпіс: “Давай паразмаўляем”. Не чакаючы згоды Антона, кампутар са свайго бяздоннага інтэрнэтаўскага нутра выцягнуў чарговы радок: “Мне прыемна, што ты таксама не спіш. Я магу стаць тваім партнёрам. Хочаш?”

– Хачу, – адказаў Антон, яшчэ да канца не зразумеўшы, што будзе рабіць далей.

І пачаўся незвычайны дыялог. Міжзорны? Зямны? Касмічны? Глыбокаінтэрнэтны? Антон гэтага не ведаў.

– Колькі часу ты маеш? – спытаўся нябачны субяседнік.

– А якое гэта мае значэнне?

– Для мяне – вялікае.

– А мне ўсё адно.

– Але тады я не ведаю, ці варта пачынаць...

– Што пачынаць?

– Тое, што мае быць.

– А што мае быць?

– Ну, ты ж згадзіўся на партнёрства?

– На партнёрства?.. Ладна, лічы, што згадзіўся. Ну і што?

– Мне важна, колькі часу буду я тваім партнёрам...

– Ого, ты ўжо разлічваеш на многае...

– Не, я не ў тым сэнсе...

– Не ў тым, не ў гэтым,– перабіў Антон. – Я таксама не ў тым.

– Тады добра, згода, – хуценька адказаў невядомы субяседнік і на нейкі час змоўк.

Памаўчаў і Антон. Пасля ягоныя пальцы спрытна пабеглі па клавіятуры:

– Я не ведаю, на што ты згаджаешся? Як не ведаю, хто ты?

– А табе гэта важна?

– Ну... – Антон сумеўся. – А табе?

– Мне не вельмі. Мяне гэта не моцна турбуе.

Далей, відаць, адбыўся нейкі збой, бо на экране замільгалі то асобныя

літары, то нейкія перакручаныя словы. Антон паспрабаваў выправіць допіс, але яму гэта не ўдалося. Манітор нарэшце выдаў:

– ...я заўсёды люблю пагаманіць з цікавымі субяседнікамі. Мне здаецца, што ты менавіта такі. І яшчэ мне здаецца, што ты асоба мужчынскага полу...

– Ну проста незвычайная прадбачлівасць! Адкуль гэткі глыбокі досвед?

– З вопыту. Толькі мужчынскія асобы бываюць нясмелымі і нерашучымі.

– Я не лічу сябе такім.

– Ну вось, ты і прызнаўся.

– Нічога я не прызнаваўся, але давай пагодзімся з тваім дапушчэннем. Ну, а ты хто?

– Для цябе гэта і праўда мае значэнне?

– Вядома, што за пытанне?

– Тады здагадайся. Альбо вылічы.

– Я не матэматык.

– І гэта бачна. Твой стыль выдае.

– А ты, відаць, псіхолаг?

– Не, я добры знаўца кампутара.

Антон перастаў бегаць пальцамі па клавіятуры і на хвіліну задумаўся: “Ці варта працягваць гэтую нечаканую і незразумелую гульню? Толькі час змарную”.

Экран жа заставаўся актыўным.

– Што, спалохаўся? – нібыта прачытаў ягоныя думкі нябачны суразмоўца. – Баішся невядомасці? Але ж у гэтым найбольшы кайф. Хіба можна здаволіцца вядомым, посным і прагназуемым? Куды цікавей, калі з перчыкам, ды яшчэ вострым...

– Ну, я, відаць, зразумеў нарэшце, што ты асоба жаночага полу.

– А мо я цябе спецыяльна заблытваю?

– Навошта?

– Каб вастрэй было...

– Дык хто ж ты ў рэшце рэшт, каб на цябе д’ябал?

– А вось гэтага не трэба. Нават калі размаўляеш з мужчынам. А калі я і праўда асоба жаночага полу?

– Паслухай, асоба жаночага полу, а часу ў цябе хапае?

– Хапае. А што?

– Тады ты забаўляйся з кампутарам, а я пайду да д’ябла.

– Як сабе хочаш, – холадна адказаў экран. – Але я не раю табе гэтага.

– Чаму? Чаму ты спрабуеш павучаць мяне? Якое ў цябе на гэта права?

– Права інтэрнэтнага старажыла.

– А-а, я і не здагадаўся, што табе проста цікава калекцыяніраваць сувязі.

– Па-першае, не “калекцыяніраваць”, а калекцыянаваць...

– А па-другое, – перабіў Антон, – філолагі з прызваннем не марнуюць часу на пустыя забавы, а пішуць несмяротныя раманы. Ты філолаг? – задаў ён сваё кантрольнае пытанне. Субяседнік гэта праігнараваў і працягваў:

– ...А па-другое, сувязі ў мяне сапраўды не бракуе. І не толькі кампутарнай. А што да філолага, то я мо гэткім чынам збіраю матэрыял для рамана.

– Тады з табой становіцца небяспечна.

– Асабліва нерашучым мужчынам.

– Дзе ўжо нам, вясковым, набрацца адвагі?

– О, яшчэ адно адкрыццё, – засвяціўся здзіўленнем манітор. – Значыць, ты з вёскі?

– Гэта проста так гаворыцца. А ты адразу і верыш. Зрэшты, а хіба ледзь не ўвесь Мінск вясковы?

– О, ты зноў выдаў сябе. Значыць, ты мінчанін, хоць і ў першым пакаленні. А такія людзі заўсёды бываюць больш цікаўнымі за карэнных мінчукоў.

– А чаму мы больш цікаўныя?

– Ты зноў выдаеш сябе. Але гэта так, да слова. Бо карэнным мінчукам усё прыелася, вяскоўцы ж імкнуцца дапяць да большага, дацягнуцца да фальшывай гарадской культуры.

– Якой культуры?

– Фальшывай.

– А чаму фальшывай?

– Чаму, чаму... “Задолбал” пустымі пытаннямі. Паварушы шэрым рэчывам, калі яно ў цябе ёсць, мо і зразумееш...

– А ў цябе слоў не хапае, – з’едліва падлавіў Антон. – Не можаш размаўляць вольна. Падладжваешся пад нас.

– Пад вас, – суразмоўца падкрэсліў слова “пад”, – не хачу. А моцнымі слоўцамі не грэбую.

– Хіба ж гэта моцнае слова?

– Хай сабе... Пазней зразумееш.

Антона пачала займаць гэтая гульня. Ён і не заўважыў, што зялёная адзінка ў правым куточку манітора пераскочыла ўжо на месца першага нуля, а ён усё бегаў і бегаў пальцамі па клавіятуры.

## 2.

Антон нейкі час хадзіў пад уражаннем той інтэрнэтнай размовы. Яму не хацелася нават падыходзіць да кампутара. Адгаворваў сябе: не трэба. Але нешта ўсё ж цягнула. І ён узяў у рукі мышку. Задумаўся ў нерашучасці. Пасля сам сабе злосна прамовіў: “Во даў Бог галаву, ды не сказаў, што з ёй рабіць” і набраў пароль.

Адказ быў імгненны, нібыта той нехта толькі і чакаў Антона.

– Нарэшце. Адумаўся. Відаць, баяўся...

– Я звычайна спачатку вітаюся. Дзень добры, мажлівай асобе жаночага полу.

– Прывет. Не камплексуй і не нервуйся: нервовыя клеткі не аднаўляюцца.

– Не бойся, – перабіў Антон. – Калі што, я пашукаю чысцейшага на іншым балоце. А што да клетак... Ці ведаеш ты, што на адным толькі кавалачку чалавечай скуры памерам шэсць з паловай квадратных сантыметраў знаходзіцца 25 метраў нервовых валокнаў і больш за тысячу нервовыхканчаткаў?

– Давай асветную лекцыю перанясем на пасля. Як ты пражыў гэтыя дні? Не сумаваў?

– Не, я быў свабодны ў выбары заняткаў.

– Ха! Свабодны! Дудкі і дудачкі. Бач, захацеў свабоды. Панавыдумлялі цацак і забаўляюцца. Крычаць усе і ўсюды: “Свабода. Свабода!” А дзе яна? Ты яе бачыў?

– Чалавек ад нараджэння свабодны.

– Што за прапісныя ісціны?! Глупства!!! – злосна выдаў кампутар. Антону падалося, што кампутарнае разумнае нутро ажно затрашчала. – Несусветнае глупства! Чалавек ад нараджэння несвабодны. Не-сва-

бод-ны! Зразумей сэрцам, а не галавой. Ды ты гэта добра ведаеш, але не прызнаешся. Нават самому сабе. Хіба мог ты сам выбраць сабе пол? А маму? Тату? А садзік? А школу? Спрэс несвабода і забароны. “Не хадзі туды. Не рабі гэтага. Не кажы абы што. Нельга. Не бяры, бо разаб’еш. Не чапай, а то паломіш. Не грукай, няможна”... Адны “не, не, не!”.

– Ты перабольшваеш. А мо гэта з табой і было?

– Нічога не перабольшваю. Нават змяншаю вастрыню. Згадай, колькі тваіх слёз пралілося праз гэтыя “Не, не, не!”? Так, мо ў цябе існуе свабода выбару жонкі. Дарэчы, яна ў цябе прыгожая?

– Ого, ты маеш такую цікавасць? Я пакуль не жанаты, – адказаў Антон.

– Дык вось, ты, магчыма, яшчэ можаш выбраць сабе жонку. А пасля? Колькі прыгожых жанчын навокал!

– І ты сярод іх, – падкузьміў нябачнага субяседніка Антон.

Але правакацыя не ўдалася. Субяседнік не губляў пільнасці і ніяк не адрэагаваў на выпад Антона. Экран выдаваў новыя радкі:

– Нехта, як і ты, захоча жыць у Мінску, нельга – няма прапіскі. Атрымае прапіску – няма кватэры. Захоча працаваць на МТЗ – нельга: няма квоты. Хочаш паехаць на Мальдзівы – нельга: няма візы. Хочаш наогул змяніць краіну – не магі...

– Не тупі. Гэта зусім песімістычна... – і тут Антон нечакана вырашыў падсмяяць нябачнага субяседніка. Ён змяніў тэму: – А ці ведаеш ты розніцу паміж песімістам і аптымістам?

– Ну-у-у...

– Не паганяй, пакуль не запрог. Песіміст скардзіцца: “Так дрэнна стала жыць, так дрэнна, што горай і быць не можа”. А аптыміст яму адказвае: “Можа, можа...”

Антон чакаў рэакцыі субяседніка, але той на гэта ніяк не адрэагаваў. Антон мусіў працягваць пачатае:

– Вось і ты так песімістычна заспяваў, што аж мурашкі па спіне. Але ж не ўсе твае довады аднолькава безнадзейныя. У крайнім выпадку яны далёкія ад рэальнага жыцця. Таму слухаць цябе смешна. Усё гэта даўно магчыма. На МТЗ цябе сёння могуць сілай зацягнуць – рабочых не хапае не толькі на МТЗ, а і на МАЗе, нават на БелАЗе.

– Можна, але не ўсім. Слухай далей: значыць, ні дома не маеш свабоды, ні за мяжой не можаш яе пакаштаваць. І ты называеш гэта свабодай выбару?

– А чаму не? Ты ж памыляешся.

– Не памыляюся. Зашторылі сабе вочы і далдоніце: “Свабода! Свабода!” А дзе яна? Нарадзіўся жыдам – хадзі ў сінагогу...

– Ну, гэта наогул несправядліва, – абурыўся Антон. – Забаронены прыём. А Аляксандр Мень? Яўрэй, а быў папом.

– Ты яшчэ Ягайлу згадай. Як ён дзеля каралеўскай кароны памяняў язычніцтва ці праваслаўе на каталіцызм. І гэта ты называеш свабодай? Бо, ведаеш, каб быць каралём Рэчы Паспалітай, яму трэба было стаць каталіком. А-а-а, ты праваслаўны? І хочаш ім заставацца? Тады сядзі на сваёй печы, грэй сабе плечы і не кукарэкай. Не каралеву Ядвігу табе, а бабу з дзярэўні. Бяры і цешся сваёй свабодай...

– І тут ты не да канца маеш рацыю. Я ў інтэрнэце вычытаў, што ў адной з еўрапейскіх краін польскім амбасадарам з’яўляецца праваслаўны...

– Выключэнне, – адказаў кампутар. – Ты ў сваёй несвабодзе зусім заблудзіўся.

– Ты не маеш рацыі. Але давай вернемся да Ягайлы.

– Давай.

– Кім быў Ягайла да караля?

– Спадзяюся, ты ведаеш. Але, калі ты правяраеш мяне, дык адкажу: вялікім князем літоўскім.

– Гэта праўда.

– Як праўда і тое, што каралём ён стаў з-за страху...

– Што-што? – перабіў Антон. – Ну ты і філолаг! Такое сказаць...

– “Такое” – і ёсць праўда. Самая сапраўдная і праўдзівая праўда.

– Не зразумеў, – прызнаўся Антон.

– Вельмі проста. Ягайла стаў каралём польскім праз страх польскай шляхты. Але і праз свой асабісты таксама...

Здалося, што на гэтых словах кампутар таксама спалохаўся, бо нешта ў ім піскнула і экран пакрыўся палосамі. Антон папстрыкаў мышкай, набраў на клавіятуры нейкія яму вядомыя словы і манітор вярнуўся ў ранейшы стан. Субяседнік працягваў:

– Польская шляхта баялася, што крыжакі сваімі няспыннымі набегамі адбяруць у іх многія землі. А то здолеюць і большай шкоды нарабіць. Ды і вялікалітоўскае войска не пакідала ў спакоі свайго суседа, час ад часу брала ў палон польскіх вояў і мірных жыхароў, захоплівала паселішчы...

– Ну-у, ты ўжо гатовы зрабіць Польшчу зусім слабай і нядзеяздольнай.

– Не зусім так, але палякам тады і сапраўды было нялёгка без караля.

– Не хлусі. Кароль у іх быў.

– Так, быў. Я гэта ведаю. Але яны хацелі бачыць над сабой мужчыну. Вось страх і прывёў іх у Крэва, дзе знаходзілася рэзідэнцыя Ягайлы.

– Ведаю. Бываў у Крэўскім замку.

– Не ў замку, а на яго руінах.

– Ладна, хай будзе па-твойму.

– То добра. Ведай і тое, што палякі баяліся і іншага. Баяліся, што Ягайла не згодзіцца.

– Стаць каралём? – моцна здзівіўся Антон.

– Так. Але не перабівай. Таму шляхта падрыхтавала для яго незвычайны падарунак-прывабу. Прапанавала халастому гаспадару Княства жонку. І не абы-якую, а на той час каралеву польскую. Чатырнаццігадовую Ядвігу. Ды і тут баяліся, што вялікі князь не пагодзіцца.

– Ну, гэта ўжо здзек. Які сапраўдны мужчына адмовіцца ад такога?

– Рознае бывала, – хітра адказаў субяседнік.

– Але ж Ягайла згадзіўся?

– Так, згадзіўся. Але тады страх авалодаў Ядвігай.

– Ну-ну, паўсюль табе бачыцца страх...

– А хіба не так? Ядвіга ж павінна была стаць жонкай іншага – еўрапейскага жаніха. Вільгельма з Габсбургаў. З ім бацькі нават пагадненне адпаведнае заключылі. Маладога мужа павінна была мець Ядвіга, бо Ягайлу было 34, а аўстрыйскаму княжычу Вільгельму пятнаццаць. Дзяўчо баялася дзікага паганіна з непраходных балот ды спрадвечных бароў-лясоў. Так, зрэшты, называлі Ягайлу многія палякі.

– Ты што? Польская шляхта захацела мець над сабой дзікага чалавека? – перабіў Антон. – І гэта ж не нейкае там пятае ці дзясятае стагоддзе. Ішоў 1385 год.

– Думай як хочаш, – ухіліўся ад прамога адказу субяседнік. – Але давай вернемся да Ядвігі.

– Давай.

– Дык вось, Ядвіга не толькі панічна баялася ісці за Ягайлу. Яна супраціўлялася, як толькі магла. Нават з палаца каралеўскага ўцякала. Дзверы сякераю секла, абы на волю, каб толькі з каханым равеснікам, а не са старым дзедам век векаваць.

– Ну, трыццаць чатыры – не старасць.

– Яно то так. Але ж Ядвізе было ўсяго чатырнаццаць. Ёй бы жыць ды жыць, кахаць і кахаць, а тут...

– А што тут? І жыць можна, і каханне магло з'явіцца, – асцярожна запярэчыў Антон. – Ды і дзяржаўныя інтарэсы...

– Во-во, ты і сам прызнаў, што страх быў галоўнай падставай такога шлюбу.

– Я такога не казаў.

– Але ж твая згода ёсць, што былі дзяржаўныя інтарэсы. А яны прадыктаваны страхам. За свабоду і існаванне самой Рэчы Паспалітай. Са страхам Ядвіга стала жонкай Ягайлы. Прымусілі. Перамогу святкавалі страх і прымус.

– Ну, гэты погляд можна аспрэчыць...

– Можна. Але аргументаў пераканаўчых і доказных ты не знойдзеш. Тым больш, што страх Ядвігі быў не небеспадстаўны. Мо ад гэтага яна і сышла дачасна ў іншы свет...

– Ну, гэта ўжо залішне.

– А ты доказамі, а не эмоцыямі пацвердзі. Ты ж не філолаг, у якога пераважаюць эмоцыі. Давай паглядзім. Ядвіга баялася за свой лёс? Баялася. Баялася за лёс дзяржавы? Баялася. А калі зацяжарыла, баялася за лёс свайго дзіцяці.

– А чаго ёй было баяцца за лёс дзіцяці?

– Было. Яна не ведала, хто будзе: сын ці дачка. Калі сын, да яго павінен перайсці каралеўскі пасад. Такое правіла – па спадчыне сын атрымліваў уладу. А кім тады стане яна сама? Як павядзецца Ягайла, які стаў каралём не спадчынным чынам, а праз шлюб з Ядвігай?

– Ну, ты мне хутка ўсю польскую гісторыю перакажаш.

– Не толькі польскую, а і вялікалітоўскую. А мо і маскоўскую таксама. Бо Ягайла стаў каралём і праз свой уласны страх.

– Якім чынам? Прычым тут маскоўская гісторыя?

– Вельмі нават прычым. Напачатку Ягайла меў намер пашлюбіцца з дачкой вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога Соф'яй. Але яе бацька быў згодны на гэты шлюб толькі пры ўмове, што Ягайла стане ягоным васалам.

– Няўжо Ягайла спалохаўся? – здзівіўся Антон.

– Спалохаўся. І не толькі за сябе. Бо гэткае ж патрабаванне прагучала і адносна Вялікага Княства Літоўскага.

– Дык хіба ж гэта страх?

– Вядома, страх. Ягайла не захацеў аддаваць у васальную залежнасць магутную краіну. Баяўся страціць не адно сваю пасаду, але і сваю Бацькаўшчыну...

– Ого, як гучна і пампезна, – перабіў кампутар.

– Мо і гучна, але праўдзіва. Але калі не хочаш слухаць, то як сабе

хочаш. Магу больш нічога не казаць. Ды зразумей: усё-ўсё – запрашэнне Ягайлы, шлюб Ядвігі, усе пазнейшыя падзеі былі заснаваны на страху. Страх абумовіў далейшае развіццё гісторыі.

– Ну вось, ты зноў за песіміста выступаеш... Ладна, я паплаваю па інтэрнэту, праверу тваю версію. Пагляджу, якое на гэты конт меркаванне іншых.

– Плавай сабе, адно глядзі – не патані.

– Не, калі што якое, да цябе звярнуся. Дапаможаш?

– Ну а дзе я дзенуся? А можаш і да нашых разведчыкаў звярнуцца. Альбо да іхніх шпіёнаў.

– Блытана гаворыш.

– А гэта таксама гісторыя такая. З гэтым словам. Так склалася, што кожны ўрад сваіх вывядоўцаў называе разведчыкамі. А чужых, іхніх, значыць, кліча шпіёнамі. Вось і атрымліваецца, што людзі аднаго і таго ж занятку называюцца і разведчыкамі, і шпіёнамі. Дык хто ж яны на самай справе – разведчыкі ці шпіёны?

– У цябе большы досвед, ты і скажы.

– Сам падумай, паразважай, бо і ты не жабрак. Не прыбядняйся. Мо і сам не раз налева бегаў, каб свабоду сваю даказаць.

– Не перабольшвай. Але і праўда, бывае, збегае чалавек налева і такі рады, што аж слінай пырскае. Значыць, адчуў пах свабоды. Бо ён загартаваны і вышкалены несвабодай, – Антон і не заўважыў, як згадзіўся з думкай субяседніка. – І ў караля была свабода не стаць каралём. Была... Але ж стаў. Бо цела ўцехі хацела...

– Ага, цела... хацела... – перабіў камп'ютар. – Хацела... цела...

– Не перабівай, філолаг, і не ёрнічай, гэта не верш... Так, цела ўцехі хацела, а душа прагла ўлады, значыць, несвабоды. Во-во, акурат як на адным з навуковых сайтаў археолаг мне выдаў. Раскапаў, кажа, я аднойчы нечыя магілы. Відаць, багатыя былі людзі. Але пазіраю, кажа, я на гэтыя чарапы і косці і думаю сабе: "А што ж рабілі гэтыя косці, калі на іх было цела?" "Ну вядома што – шукалі свабоды". "І знайшлі яе ў тым раскопе?" "Усе там будзем". "Дылетанцкі адказ... Але і туды не трэба спяшацца ад несвабоды". Такі вось у нас адбыўся дыялог.

– Вядома, не трэба спяшацца, – згадзіўся субяседнік.

Антон з'едліва падчапіў:

– Не трэба. Бо косці ж не з'ядуць ужо 40 тон ежы і не ўдыхнуць 380 тысяч метраў кубічных паветра, як зробіш гэта ты за сваё жывое жыццё.

– Не забівай і без таго абмежаваную памяць непатрэбнымі лічбамі.

– Ты зноў за сваё? – абурыўся Антон. – Тады і я паддам пары асобе жаночага полу. Нездарма ж я ў інтэрнэце часам вішу. Калі ты станеш жонкай свайго мужа і маткай дваіх дзяцей, то толькі нажы і відэльцы будзеш мыць за год 18 тысяч разоў...

– Не хвалююся, – нібыта пачаў апраўдвацца нябачны субяседнік. – Мне гэта не пагражае. Бо там, дзе зямля прымае смерць зерня, каб ягоным коласам прадоўжыць жыццё маладых і непакорлівых аратых і сейбітаў, пераважае і перамагае жыццё вольнае і вольналюбівае.

– А вось зараз я цябе падлаўлю.

– Ну-ну, давай. Цікава...

– Я наконт смерці. Колькі цяпер на ўсёй зямлі насельнікаў?

– Не памятаю, але палажу па кампутару...

– Дык вось. Што будзе з зямлёй, калі мільярды жывых ператворацца ў нежывых?

– ?

– Наколькі цяжэйшай стане зямля, якая прыме іх?

– Баішся? Ну вось бачыш...

– Мо і не баюся.... Але не без гэтага. Бо ім на змену прыйдуць мільярды новых. А гэта ж таксама дадатковы цяжар для зямлі.

– І яна можа сысці са сваёй арбіты? – перабіў здагадлівы субяседнік.

– Можа сысці, а можа і не...

– Пакінь ты свой страх. На нашае з табой жыццё зямлі хопіць. А мо нараджальнасць абмяжуюць...

– Аптыміст, аднак... А пасля што – не будзе каму жыць за нас з табой? А ты хто – араты ці сейбіт? – задаў нечаканае пытанне, каб змяніць напрамак гаворкі.

– Я нявольнік кампутара, – выслізнуў субяседнік. – Таму я мудрэю разам з ім.

– О, так, – падхапіў Антон. – Каля вады намочышся, каля агню апячэшся, каля мукі запылішся... А каля дурня?

– Бог мілаваў, – не захацеў спрачацца альбо крыўдзіцца субяседнік. – Не будзем мазахістамі.

– А прычым тут мазахізм? – не зразумеў Антон.

– О-о-о, гэта надта складанае пытанне, – адказаў субяседнік. – Але таксама звязанае са страхам.

– Якім чынам?

– Вельмі проста. Ва ўсе часы беларусы баяліся быць беларусамі...

А – што-о-о? – не мог паверыць сваім вачам Антон.

– Так-так, – парыраваў субяседнік. – Так было. Здаўна беларусы баяліся быць беларусамі. Бо ім за гэта шмат і моцна перападала. Бяды, гора, нястачы... Нават жыццём плацілі за права людзьмі звацца... Дзе іх мова? Дзе гісторыя, якую разабралі і прысабечылі іншыя? Чыімі вачыма яны пазіралі на свет, на іншых, на сябе, зрэшты?

– Сваімі, натуральна...

– Сваімі то сваімі, – перабіў субяседнік. – Але ці былі тыя вочы беларускімі?

– А якімі ж?

– Ну, гэта спрэчнае пытанне. І далёка не адназначнае. Пра каго прыдумалі пажаданне: ”Хавайся ў бульбу”?

– Пра таго, у каго кроў у жылах стыне. Але не трэба ёрнічаць...

Нечакана ў гэтую гаворку ўклініўся трэці субяседнік. Рашуча выставіў сваё:

– А мне падабаецца хавацца ў бульбе, і нават кроў не стыне, ні на градус. Ляжыш сабе на сьвежым паветры, каларадаў зьбіраеш, якія чамусьці таксама там хаваюцца, а калі ворагі падкрадуцца, дык зьнянацку можна й бульбінай у лоб запусьціць. Знаеця, як бульба крэпка б’ецца, як каменем?

– Не дайшло? Гэта ты, мой штодзённы партнёр, ці хто? Адкуль ты?

– Не, гэта не я. Я таксама не ведаю, хто схаваўся ў бульбу. Але ёрнічаць не буду. Вернемся да страху. Ты ж не будзеш спрачацца, што ў беларусаў страх з катэгорыі маральнай вельмі часта пераходзіў у паталагічную з’яву рэальнага парадку?

– Буду.

– Як сабе хочаш. Але ж страх заставаўся адметнай беларускай рысай нават тады, калі беларусаў яшчэ не называлі беларусамі. Праўда, знаходзіліся тыя, хто выракаўся страху і намагаўся прывіць гэты стан іншым. Таксама праўда, што гэта былі адзінкі. Большасць жа складалі людзі, так сказаць, тыражныя, безаблічныя. Хутчэй ахвочыя да плачу, чым да актыўнай дзейнасці. Дык хіба ў такім асяроддзі спрадвечнага плачу і беспадстаўнага спадзявання на "авось" магла перамагчы адзінка?

– А мо гэтай адзінцы не хапала шчырасці, даверлівасці?

– Магчыма. Але не гэта галоўнае. Усё адно перамагала і пераважала тыражнасць, маса. А мо і хітраванне. Гэта і быў беларускі мазахізм. Ім і хацелася, і калолася...

– Гэта прырода займаецца мазахізмам: колькі сама сябе ні дратуе, а ўсё мала, усё новыя і новыя катаклізмы выдумляе сабе: то тайфуны, то патопы, то землятрусы...

– І людзі таксама. Бо ў страху нарадзіліся, са страхам жывуць і ў страху паміраюць.

– Зусім не, – запярэчыў Антон. – Нараджаемся мы з кахання, з уцехі, жывём, стараючыся забыцца пра смерць, і з надзеяй паміраем.

– Э-э, не. З надзеяй нараджаемся, у страху жывём і са страхам паміраем.

– А чаму са страхам паміраем? Там жа, нарэшце, чакае нас сапраўднае жыццё. Відаць, свабоднае.

– Во-во, менавіта відаць, бо адтуль яшчэ ніхто не вярнуўся, каб расказаць. Ды і не відаць нічога...

– Дык і ты не ведаеш? Як жа тады гаворыш пра гэта?

– У "Бібліі" сказана. А яшчэ ёсць цікавы прыклад у Леанарда да Вінчы, – нагадаў субяседнік. – Сведчаць, калі ён маляваў сваю "Таемную вячэру", дык адзін і той жа чалавек быў мадэллю спачатку Хрыста, а праз некалькі гадоў – Юды.

– Ну, гэта зусім з другой оперы...

– Опера то мо і другая, але ж чалавек адзін і той жа.

– Нешта мы зусім зарапартаваліся. Як якія-небудзь сухары-дактары. Давай лепш пойдзем выгуляем мазгі, бо застаяліся.

– Калі ёсць што выгульваць...

– Прымітыўна.

– Не ўсё прымітыўнае дрэннае. Прымітыўныя жывыя істоты далі жыццё разумным і складаным.

– Ладна, будзем рухацца, – згадзіўся Антон. – Бо рухомы чалавек за сваё 70-гадовае жыццё робіць пяцьсот мільёнаў крокаў. А гэта – дзевяць разоў вакол Зямлі. Я пайшоў у першы заход...

## 3.

Калі праз тры дні Антон залез на вядомы сайт, там чакала яго пісьмовае паведамленне:

"А гаворка пра страх і свабоду не была дарэмнай, прымусіла паварушыць мазгамі, разам з якімі варушыліся і ўсе мае 125 тысяч валасінак над імі. І вось што выварушылася. Задачка для цябе.

Людзі баяцца старасці – бо занядужаюць.

Баяцца хваробы – бо абяздолеюць.

Баяцца застацца без пасады, без работы – бо агаладаюць.

Баяцца, што залье сусед зверху, што залезуць зладзеі, што выбухне газ.
Людзі баяцца холаду – бо стыне кроў і думка.
Баяцца гарачыні – бо плавіцца цела і думка.
Людзі баяцца не дагадзіць начальству – бо застануцца без працы, без пасады і без грошай.
Баяцца купляць на рынку – замест мяса свінні могуць падсунуць сабаку.
Баяцца чорнай кошкі, баяцца бадзяжных сабак.
Людзі баяцца бяздомных людзей.
Баяцца... Баяцца... А неяк жа жывуць...
А ты баішся сустрэцца са мной?"

## 4.

Насценны гадзіннік пракукаваў дванаццаць разоў і сціх. Антон зірнуў у правы вугал манітора. На ім ядавіта зялёным колерам высвеціліся чатыры нулі. Чатыры колы невядомай брычкі з недасяжнай яму невядомасці зноў прыкаціліся да яго. Антон гэта ўжо ведаў, а таму, не чакаючы пакуль зменіцца апошні нуль на адзінку, звыкла націснуў на мышку. На экране манітора адразу ж, быццам спецыяльна чакаў яго, з'явіўся тэкст:
– Не палохайся і не перашкаджай, я еду да цябе!

*12.12.2000, 31.1.2015 – 4.1.2016*

## ТУНЭЛЬ ЧАЛАВЕЧАГА ЖЫЦЦЯ

### *Рэфлексія зразумення самога сябе*

Пакуль чалавек не нарадзіўся, яго з усіх бакоў атачала велізарная чорная глыба – незразумелы чалавеку і нябачаны ім свет, сусвет, космас – дык адкуль жа ён ведае што гэта такое. А існуючы свет наадварот, ведае пра свайго новага насельніка, чакае яго, рыхтуецца. І вось наступае той памятны для абодвух бакоў момант, калі чалавек з адной цёмнай невядомасці трапляе ў іншы, але таксама невядомы яму свет. Свет прымае чалавека ў свае абдымкі. І з гэтага часу для малога чалавечка цёмная і велізарная глыба хоць і застаецца велізарнай, але становіцца светлай. Яна таксама з усіх бакоў атачае чалавечка. Ды жыццёва важны тунэль, які да гэтага існаваў толькі гіпатэтычна, запачаткаваўся рэальна. Спачатку маленечкай кропкай, контурам, абрысам на целе агромністай чорнай цвердзі. Але адразу ж кропелька гэтая стала набываць светласць. І зусім хутка светласць пачала нагадваць абрысы чалавечага цела. Аказалася, гэтая мясціна, гэтая кропка на бязмернай бясконцасці належала нованароджанаму чалавеку. Запачаткаваўся тунэль ягонага зямнога жыцця. Церабіць, прабіваць яго было складана і няпроста. Але ж чалавечая ўпартасць адольвала ўсе перашкоды і непамыснасці. Ляжыць малое ў калысцы, ножкамі перабірае, ручкамі махае, быццам нітку прадзе. Дык мо і праўда прадзе. Нітку свайго жыцця, свой тунэль прабівае...

Часам здавалася, што гэты асабісты тунэль канкрэтнага чалавека вось-вось сутыкнецца, перасячэцца з тунэлем іншага церабільніка сваёй жыццёвай дарогі. Але ж – не, тунэлі хоць і небяспечна збліжаліся, ды за-

ставаліся самастойнымі, самадастатковымі і незалежнымі. Нават тады, калі першапачынальнік свайго асабістага тунэля знайшоў сабе спадарожніцу, супольніцу, шчыравальніцу і руплівіцу ў яе ўласным тунэлі, тады, калі іхнія лёсы спляліся, жыццёвыя тунэлі ў кожнага заставаліся асобнымі. І той першапачынальнік уласнага тунэля не мог (ці мо не хацеў) выбавіцца са свайго, быў не здольны пакінуць яго альбо хоць бы прыпыніць далейшае церабленне. Зваблівасць святла ў канцы тунэля, якое хоць і не патухала, але ніяк не набліжалася, не давала супакаення, не дазваляла спыніцца.

Чалавек жа, каб і хацеў, не мог вярнуцца да пачатку свайго тунэля – не дазвалялі ягоныя (чалавечыя) памеры. Тунэль заставаўся за ім вузкім і нізкім, а чалавек станавіўся ўсё больш рослым і мажным. Як ні круціцца, як ні згінаецца ў тры пагібелі, каб зрабіць хоць колькі крокаў назад, а мусіць ісці наперад. Будучыня ніяк не хоча сустракацца з мінулым. Таму чалавек павінен няспынна церабіць свой жыццёвы тунэль. А тунэль той – як рака, якая з часам становіцца ўсё больш шырокай і глыбокай, нястомна кроіць зямную цвярдыню, каб – наперад, каб – удалечыню, у будучыню. Рака жыцця дае жыццё многім – раслінам, рыбам, жывёлам, людзям. Тунэль жыцця абумоўлівае лёс чалавека.

З узростам чалавеку здаецца, што глыба вакол яго становіцца меншай, саступаючы месца чалавечай дасведчанасці. Але чалавек не разумее, што ён праз усё сваё існаванне ў гэтай агромністай глыбе прабівае свой тунэль у неабдымным і нязведаным ім сусвеце, у неабмежаваным памерамі космасе. Так, з гадамі тунэль не толькі падаўжаецца, але і становіцца шырэйшым. Бо і чалавек, які ўступіў у гэты сусвет маленькім, неразумным, несвядомым, з набыццём вопыту, розуму, свядомасці становіцца гаспадаром свайго лёсу, здзяйсняльнікам сваіх задум. Так яму здаецца. Яму хочацца, каб было менавіта так. І калі хаценне становіцца да нясцерпнасці напорыстым і нястомным, чалавеку здаецца, што ён ухапіў сваю будучыню за хвост і вось-вось дагоніць тое недасяжнае яркае свячэнне ў канцы тунэля, якое павінна здзейсніць усе ягоныя памкненні.

Чалавек заўсёды бачыць у канцы свайго жыццёвага тунэля святло. Нязгаснае, яркае, зваблівае, паклічнае. Да яго і імкнецца праз усе нягоды і даброты. Намагаецца, стараецца, высільваецца. І калі здаецца, што тое паклічнае і праяснёнае шчасцем святло ўжо блізка, ужо можна дакрануцца да яго не толькі позіркам, а і рукой, святло раптоўна выбухае з такой сілай, што натуральным чынам асляпляе чалавека. Ён міжволі прымружвае вочы, падымаючы далоні, каб прыкрыць імі зрэнкі. І нечакана апынаецца ў зусім іншай прасторы. З узнятымі рукамі. Азірнуўшыся, бачыць свой ранейшы тунэль. Дакладней, ягонае заканчэнне, абрысы якога нагадваюць аблічча чалавека, вядома ж, значна большае, чым было напачатку. А вось святла ў гэтым тунэлі няма. Цёмна там. Мо таму, што чалавек пазірае ў яго не з пачатку, які маленькі і пастунова пашыраецца, а з канца, які непараўнальна большы і ў зваротнай сваёй перспектыве становіцца зусім маленечкім? Чалавек пакуль не разумее, што пакідае свой абжыты тунэль назаўсёды.

Дух чалавека ўздымаецца ўсё вышэй і вышэй, над прасторай, над светам, над сваім тунэлем. І пакуль што не ўсведамляе, што з жыцця зямнога пераходзіць у свет жыцця вечнага. Чалавек бачыць дзясяткі, сотні, тысячы, мільёны іншых тунэляў. Асветленых і цёмных. Тунэляў жыцця іншых людзей. Яны розных памераў, рознай даўжыні. Але ўсе маюць свой

ачалавечаны абрысамі чалавека пачатак і такое ж ачалавечанае заканчэнне. Заканчэнне...

Яшчэ адным патухлым тунэлем былога чалавечага жыцця на гэтым (тым?) неабсяжным свеце становіцца больш. А на тым (гэтым?) свеце нечакана з'явіліся абрысы новага чалавечага тунэля. Пакуль што невялічкага, не глыбокага, не працяглага – кропка кропкай. Абрыс. Контур. Але ў ім ужо запалілася звабліване, поклічнае і яркае святло.

У мінскім мастацкім салоне адкрылася мастацкая выстава. Адна са скульптур вабіць гледачоў асабліва. Называецца “Тунэль жыцця”. У груваcткім натуральным камені прабіты тунэль, абрысы якога нагадваюць чалавечае цела. Маленечкі пачатак тунэля і высакавата-шырэйшае яго завяршэнне. Людзі прыхінаюць вока да ягонага пачатку. Ды пуста там. Аднак яркае святло на выхадзе з тунэля вабіць іх, прыцягвае, чаруе.

*13.11.2015 – 4.1.2016*



Валеры Дубоўскі



...ты падабенства маё,
дзіўнае белае поле,
схавала нябачны след...

# Белае поле

* * *

Адмоўніца, ды
Не ганьбіцелька,
Каханка мая не бясспрэчная,
Самасевам твой вырас
І выцвіў мак,
Як мінуласць
Пасля несустрэчы.

Роўнаахвотна і раўналежна
З табой мы
Ці
Перасякліся? —
Ісціна без пачатку і межаў,
Першавобраз
Прыдуманай высі.

* * *

Пункт сустрэчы
душы і цела —
жыццё.

Не народзіны
і не смерць.

## ПРЫСМАК ШЧАСЦЯ

Успамін дзіцячы. Шчасце —
З горкі з’ехаць, а затым
Паляцець, у снег упасці...
Смеху з гэтай каўзаты!

Руцяністасць рысак ценяў
Яблынь, бэзаў і бяроз...
Хлеб заечы, мы хацелі,
Бацька каб  ізноў прынёс.

З лесу зімняга, з раёна,
З немаведама адкуль.

Нам зайздросцяць,
Во вам — дуль!

Толькі нам усе гасцінцы.
...Мне б да бацькі зноў прыпасці.

Не журботна, сіня сніцца
Той далёкі прысмак шчасця...

* * *

Мяняю свой пагляд
На твой пагляд.
Ён вышчасціў няласку
Ва усмешку.
Тэй самы...
Ён нястрымнай жарсці сват.
Тэй самы...
Ён быцця сласноту
Усцешвае.

Падобна, колер дзён
Мяняе фарбы лісця.
Падобна, колер слоў
Мяняе вобраз свету.

Праз юр яго
Калісьці змог праплысці
І праспяваць матыў,
Нікім табе не спеты.

### НАД СВІСЛАЧЧУ

Крысо адкідвае палонны месяц,
крысо начы,
свайго жыцця й пакоры.
Спавівіч белы
праз раку павесіць
дарожку,
збеглую за бераг
полем зорным.

Спасцеражоны
святаянскім зеллем,
па той дарожцы
да тваіх любошчаў,
узлётны і такі прыземлены,
крадуся,
мінскім рэхам
агаломшаны.

Крадуся,
хітрым горадам падгледжаны,
між гмахамі,
у неба нагуляцца.
А там, над аблачынай – вежаю,
мне і табе
заўсёды
толькі дваццаць.

А там —
над кожным храмам і гатэлем,
над Свіслаччу,
мастамі ўкрыжаванай,
над мінчукамі
(ды й над парыжанамі!)
узносімся.

Кахаць,
як мы хацелі

### ВОБРАЗ

Прыслужка думкі,
Летняя лянота,
Ахвотніца прасторы прастаты,
З табою спеўна,
Ціха і маркотна, —
Сваволю неўсур'ёз
І ўрастапыр.

Перабіраеш, бы клавіятуру,
Дзянькі і сцежкі —
Ты над імі пан,
...А нейчы вобраз,
Светла унатураны*,
Да люстра думкі
Здзіўлена прыпаў.

---

* Унатураны – які зрабіўся явай, натурай.

### ТУТ ЗАСТАЦЦА

У вечарыну
Дзень прыцёгся строгі,
На згубу стому кінуў далавах.
Вясковы танец —
Хвацка скачуць ногі
І чапурыстая гуляе галава.

Пад полечку,
Пад скрыпачку масніцы
Рыпяць,
Каб танец жарсці болей даў.
Узносіцца душа!
Шпарчэй насіцца
Падзуджвае душэўная дуда.

Як дзеўкі бабы.
Як мужчыны мальцы.
І ходзяць ходарам
І поўня і суседка.
І рупіцца —
Бо так жывецца рэдка —
У горад не вяртацца.

Тут застацца.

* * *

Не ведаю,
адкуль такі рэзон,
з сялянскіх ці шляхецкіх
ёсць традыцый:
мой сад вясёлы
не баіцца маразоў,
халодных сэрцаў
толькі ён баіцца.

* * *

У прыспеху
няма падману.
"Пасля" — з таго,
што ёсць "спярша".

І песні
быць недаспяванай,
калі
спазняецца душа.

### *ПАСАЛОНЬ, АСАЛОНЬ**

Нябёсную казытае далонь
Кажан —
Маланкаю рукакрылай.
Па сонцу —
Імклівая пасалонь.
Супроць —
Маўклівая асалонь
У прысмерку
Над зямлёй неастылай.

Вогнішча.
Нікне агонь.
Дымам – над табой, думкакрылым,
Зямное узяўшы сілы,
Крыляе пасалонь – асалонь,
Забірае астыглы жар.

Зданню
Знікае
З дымам
Кажан...

* Пасалонь, асалонь – старадаўнія арыйскія сімвалы сонца, дагэтуль захаваныя ў нацыянальных беларускіх арнаментах. Знакі свастыкі (пасалонь – рух промняў па сонцу, асалонь – рух супраць сонца) былі зняважаны фашыстамі.

* * *

Чытаю даўніну.
У ёй столькі ёсць навацый.
У ёй праўды – шчэпаццю,
Няпраўды ў ёй – вазамі.
А думкай сённяшняй
Вякі падперазаны —
Што быць яшчэ святлу,
Што цемры заставацца.

## МУДРАСЦЬ

Зноў адчуваю —
Пранікае боль,
У даўнасці, здавалася б,
Забыты.
Магчымасць,
Немагчымае дазволь —
Прайсці
Праз немагчымыя іспыты.

Абвожу круг —
Сябе засцерагчы
Спрабую:
Ні ўвайсці, ні выйсці.
Сумнеўна, цяжка думаю,
Аб чым
Так лёгка
Развважалася калісьці.

Пустэльня ў крузе.
І за кругам пуста.
Даруе мудрасць сёння
Насланнё:
Любіць чужое памяркоўна
Глупства,
Патайна глупства паважаць
Сваё.

## 1956 ГОД

Дарога вясковая...
Трыпутнік пыліцца...
Чародка ластавак,
Трапяткое шматкроп'е...
Паўстаначак Коханава...

Гандлюю чарніцамі...
Дзяцінства...
Мінуласць
З батонам сітро п’е...

Піўнушка.
Такая душэўная бальніца...
Пад пілоткай —
Піўныя адчайныя вочы...
На падшыпніках чатырох
Самакат інвалідскі...
Бязногі мужык
Плача й рагоча:
— Дачка вунь...
Цыцку матчыну смокча...
Хоць кідалі ў атаку,
Хоць кінулі на х...,
Я зноў да піва
І бабы ахвочы...

Лі, буфетчыца, да краёў!
Не ахай...

* * *

У пражыванні
кожнага дня
за спакуслівым часам
помніць адвык:
адзін скрадзены верабейкам
цвік
боль адзін
ад болю Хрыста
адняў.

### *ПАСЭСІЯ*

Навыперадкі дзень і я. Двубой.
І ёсць адна
Магчымая пасэсія*,
Паэзія
Як подумка-пагуба
Весняя —
Узгадаць неразгаданае табой.

Неразгаданае
Сусветы змесціла.

Трапеча подумка няўцямная
Адна:
Наўкола нас — сусветная вайна,
А мы дзіця зачнем
На вуліцы Акрэсціна...

* Пасэсія – водкуп.

* * *

Перажываю ўсё, што спыталі, –
Конь, да аблачыны прывязаны.
Нястрымана б'ю капытамі:
Пытанні даўжэй за адказы.

Сумненні даўжэй за дарогі,
Пакуль не прыйшло
Імгненне –
Дажджынка зорачкай дрогне
На галінцы
Тваіх памкненняў...

* * *

Раніца.
Хочацца жыць.
Дзень будзе цёплы,
Няслёзны.
Працуюць ужо стрыжы
І едуць малакавозы.

А заўтра,
Гадзіне а пятай,
Цягам імгнення быцця
Нехта народзіць дзіця,
Нехта будзе распяты.

## *ПАДЗВОННЕ**

Падзвонне – звону падмога,
Падзвонне сваё не руш.
Пустэльня у краме Бога.
У храме –
Званіца душ.

Д’ябал наш век асурочыў,
А мы баронім свой рок.
За продкамі – крок у крок.
У продкаў –
Святынскія вочы.

Утроп Беларусі,
Цягам
Стагоддзяў надзея ішла,
Чырвоным – па белым,
Пераможным сцягам.
Як Вера,
Малітва,
Душа.

---

* Падзвонне – месца і прыстасаванні пад звонам

* * *

Неба зорнае –
Старажытная тарка.
Ночка месяц у тарку
Торкнула.
У вуголлях спее няшпарка
Бульба з дзедавага
Пагорка.

Вельмі смела
Жытка саспела
Бядота даўняя
Цяперака міла.
Палыном ссівелым
Гаркавіцца цела.
Цвяліцца душа
Званком мабілы.

Праз яліны,
Праз безліч пагоркаў
Мінулае сунецца да жару
Пагрэцца
Вечароваю грэцкаю Зоркаю,*
Што Ранішняй Зоркаю
Стане грэцкай.

Вытрываць трэба
Апошняму нерву.

Небам жыць,
Ды ў неба не рваццa.
Маю застацца
Кшчоным паганцам.
Дзядам і бацькам,
Імгненню веру.

І ў сваю, і ў Максімаву
Зорку Венеру.

---

* Старажытныя грэкі называлі Вечаровай Зоркай першую, якая з'яўлялася на небе, Ранішняй Зоркай – тую, якая апошняй заставалася бачнай уранку. І толькі ад бабілонцаў даведаліся, што гэта адна і тая ж зорка. Прыклад прыводзяць філосафы, гаворачы пра ісціну *apriopi* і *aposteriori*.

## ЛІПОВЫ ДОЛ

Не пераскочыць дождж
І лёс свядома.
Быў роўны з долам,
І за дол вышэйшы стаў.
І вось назад –
Увасабленнем долу,
Як кропелька,
Апалая з ліста.

Ты рэпліка Найвышняга,
А то ж!
Прыснёная ў экстазе
Для бяссоння.
Ты радасцю быцця
Упарасонены...

...Ліповы квет.
Ліповы дол.
Ліпнёвы дождж.

## НАЗАЎСЁДЫ СА МНОЙ

Заўважаю:
пад  дрэвам маім –
і цені ад іншых дрэваў,
аблокаў сляды – лужыны,
у іх –
аджылое лісцё.

Тут цікавосткі,
смуткі, здзіўленні і радасці
многіх,
якія заходзілі і
не засталіся.

Мае ж –
назаўсёды са мной.

## З ДУХУ БЕЛАГА

Конь чырвоны
У белым тумане,
У прасторы маўчання зябкай
Пачуе мяне, не утрывае,
Заржэ... Я папраўлю шапку.
Нацягну на самыя вочы,
Ў халадку павяду плячыма...
Конюхам буду паўночным
У тумановым кутку айчынным.

Свет белы,
Куток мой нязгубны,
З табой прычакаю ранне.
Старадаўнія чую трубы,
Клікі ваяроў параненых.

Гэта іх конь без сядла.
Гэта конь і з майго дзяцінства.
Каня чырвонага перадам
Унуку
На досвітку чыстым.

Чырвоным пасам
З туману ён вынікне,
З духу белага, з белай белі,
Над стромай берага, над Крапівенкай...

Так светла мне.
І балюча вельмі.

* * *

Ты – падабенства маё,
дзіўнае белае поле,
схавала нябачны след
адзінотнае чорнай лісы.

Закідвае беды снег
зніклае
дзіўнае поле,
і белым бачыцца след
чорнай прабеглай лісы.

І падабенствам тваім
снегам нібы станаўлюся,
пройсцем,*
белае поле,
якое назвалі жыццём.

---

* Пройсце – тое, што прайшло, прамінула.

* * *

Бясстрашшам,
Страхам набрыняў
Мой край.
І крывіцца яго прамая.
Не робіць змусу* дабрыня,
Ды іншым разам
Змус прымае.

Быў крывічом,
Ліцвінам, русам.
І спрыт суседскі пераймаю.
Куды ні выведзе прамая,
Крыўлю усмешку сівым вусам
І застаюся беларусам.

---

* Змус – тое, што й прымус.

* * *

Не пад сталом –
за сталом,
у радасным перапудзе
успомніцца ўсё,
што было,
прымроіцца ўсё,
што будзе.

Анатоль Астапенка



...жахлівае – тое, што не ўмяшчаецца ў сістэму нашае логікі...

# Нэйсі

***Фантастычнае апавяданне***

## I. Антон Дворжык

На першы погляд Антон Дворжык нічым не вылучаўся сярод сваіх аднагодкаў – і калі вучыўся ў школе, і калі студыяваў на факультэце псіхалогіі ва ўніверы, і потым, калі пайшоў на "свае хлябы" ў Інстытут малекулярнай псіхалогіі. Адным словам, быў просты як граблі і прадсказальны, як выбары ў СССР. Ціхі, сціплы, правільны. Але, як і ў многіх ціхоняў, была ў яго змалку адна таямніца, ці хутчэй асаблівая зацікаўленасць да ўсім вядомай, але таму і мала зразумелай з'явы – да звычайнага чалавечага сну. Дакладней, не самога сну, а да тых перажыванняў, страшных альбо, наадварот, радасных падзеяў, а часам сапраўдных прыгодаў, што здараюцца з людзьмі ўва сне.

– Ён будзе знакамітым вучоным, – казала маці суседцы па лесвічнай пляцоўцы.

– Не, ён будзе нашым дэпутатам, – адказвала суседка, маючы на ўвазе культуру паводзінаў Антона. Сапраўды ён заўсёды ветліва вітаўся з ёю і пытаўся пра здароўе, чым вельмі цешыў старую.

– Ён будзе чалавекам! – ставіў кропку ў размовах мудры дзед Максім.

Сны... Таемныя, загадкавыя... Цьмяныя або выразныя, пустыя або “вешчыя”, але заўжды са сваім настроем і патаемным сэнсам.

Спачатку Антон проста цікавіўся начнымі відзежамі. Ён пачаў калекцыянаваць падзеі з персанажамі сну, вёў гутаркі на гэтыя тэмы з рознымі людзьмі, запісваў іх аповеды. Аднойчы, калі Антон вучыўся ўжо ў дзявятым класе, да іх прыйшоў новы хлапец, які захапляўся нейкімі таямнічымі навукамі, што зваліся эзатэрычнымі, і выдаваў сябе за вялікага разумніка. У яго было безліч кніг з адметнымі назвамі: “Тайная дактрына”, “Агні ёга”, “Чаша Грааля” і іншая, як здавалася ўсяму класу, цудоўная літаратура. Корпаючыся ў гэтым багатым арсенале патаемных ведаў, Антон неяк выпараў кнігу “Сны і іх тлумачэнні” – і сэрца яго ёкнула ў прадчуванні адкрыццяў. “Нарэшце я буду ведаць пра сны ўсё!” – пераможна адбівалася ў скронях радасная думка. На крылах архімедаўскае эўрыкі ён імчаў па вуліцах начнага горада, і яму здавалася, што вялікае адкрыццё яго даганяе, спалучаецца з ім і вось-вось стане набыткам усяго людства, і гэтае людства нарэшце навучыцца кіраваць светам падсвядомасці, снамі.

Як дурань у пельку кінуўся хлопец у тую кнігу аднакласніка, потым з’явілася яшчэ адна, потым – ужо калі быў студэнтам – натрапіў у Фундаментальнай бібліятэцы на цэлую серыю такіх кніг, і ў выніку атрымаў... поўнае расчараванне. Дзіва што: адзін і той жа сон у розных аўтараў трактаваўся настолькі па-рознаму, што тыя кнігі толькі заблытвалі прадмет яго цікаўнасці і яшчэ больш натхнялі на сапраўды навуковае і дакладнае вывучэнне.

Таму Антон паступіў на факультэт псіхалогіі ўніверсітэта, дзе была спецыяльнасць “Падсвядомая каўзалістыка”.

Вучоба праляцела імгненна, і спыняцца на тых гадах, поўных юнацкага імпэту і пасіянарнага рыўка ў новае, не мае сэнсу. Ад іншых студэнтаў розніла яго адно: за ўсе гады вучобы так і не знайшоў малады рамантык тую адзіную і каханую, з якой сумесна крочыў бы па цернях жыцця. Нельга сказаць, што Антон цураўся жаночага полу ці быў занадта зацяты й нясмелы ў знаёмствах. Былі ў яго даволі блізкія дзяўчаты, з імі ён хадзіў у кіно, тэатры, вандроўнічаў па ваколіцах Заслаўскага вадасховішча ў выходныя дні... Але вось Той, якая б стала і жыццём, і мэтай жыцця, якая б мроілася ў снах і засланіла сабой цэлы свет, – не сустрэў. Нейкі невідочны бар’ер заўсёды ўзнікаў перад магчымай абранніцай, невядомая сіла ўтрымлівала Антона ад сур’ёзных адносінаў. Толькі навука ніколі не ставіла бар’ераў, яна вабіла, захапляла ўсю яго істоту.

Не дзіва, што пасля заканчэння ўніверсітэта Антон па накіраванні трапіў у Інстытут мозгу – апошні прарыў, месца гонару і славы новай прэзідэнцкай палітыкі ў навуцы. Пасля краху праекта пад назвай “Белавежская сіліконавая даліна” і запаўнення нацыянальнага рынку зусім не нацыянальнай прадукцыяй з айфонаў, айпадаў, авесалонідаў і іншай суперсучаснай нанатэхналогіяй, нечакана ўзнікла і, больш таго, пачала трывала заваёўваць сусветны рынак зусім іншая тэхналогія – кібербіялогія. Новы крок быў у тым, што мікрапрацэсары пачалі ўзрошчвацца на біялагічным узроўні, кампутары і іншая прадукцыя інфармацыйных

тэхналогій сталі паступова набываць рысы біялагічных істотаў і нават замяняць іх на побытавым узроўні. Ужо пабеглі першыя мопсы і ратвейлеры на транзістарнай аснове, а кібернентычны кашачы подыюм збіраў поўны аншлаг фанатыкаў новай забавы.

Мікраэлектроніка пачала падбірацца і да самага складанага біялагічнага аб'екта – да чалавечага мозгу. Таму і не дзіва, што наступным крокам па заваёве сусветнага рынку мадэрных тэхналогій быў штурм "мазгоў", г.зн. распрацоўка сістэмнага дзяржаўнага праекта "Мозг і электрон" і адкрыццё Інстытута мозгу.

Антон патрапіў у зусім новую лабараторыю пад назвай "Лабараторыя энцэфалатомных і нейрафлюітобных працэсаў", у якой, нягледзячы на гучную назву, займаліся даследваннямі звычайных сноў. Так, так – менавіта тых сноў, што з дзяцінства не давалі спакою Антону, якім ён прысвяціў столькі часу і з якімі звязваў столькі няспраўджаных думак. Атрымалася так, як у жыцці мала калі й бывае: мара і рэчаіснасць супалі. Тое, аб чым марыў Антон, і тое, што ў выніку амаль атрымаў, з'ядналася. Звычайна на сакраментальнае пытанне "Кім ты хочаш стаць?", што прынята задаваць дзеткам, можна пачуць самыя розныя адказы, але фактычна ніколі тыя адказы не атрымліваюць блаславення звыш і застаюцца смешнымі і пяшчотнымі марамі дзяцінства. У жыцці рэдка хто робіцца касманаўтам, лётчыкам альбо мараком.

Такім чынам, Антон стаў маладым вучоным, спачатку быў залічаны стажорам-даследнікам, а з восені ён збіраўся падаць дакументы ў аспірантуру. Ягоны шэф, загадчык лабараторыі Мікалай Іванавіч Захараў, паставіў перад сваімі падначаленымі шэраг канкрэтных задач, якія ў перакладзе на звычайную мову беларускага гарамадзяніна зводзіліся да наступных пытанняў: "Што такое сон, што такое "сніць", шляхі ўзнікнення сноў, ступень уздзеяння сну на чалавека і г.д.".

Сам Мікалай Іванавіч пры сваім маладым узросце (яму было крыху за сорак) быў доктарам ажно дзвюх навук: біялогіі і псіхалогіі. Ён першы адкрыў тэорыю аператыўных цэнтраў мозгу і паклаў пачатак цэламу накірунку ў нейрапсіхалогіі, які сумяшчаў напаўзабыты метад псіхааналізу дзядулі Фрэйда і закон апісання псі-неўрыда дзеючага неўрасептона, які вядомы ці не кожнаму першакурсніку як закон Герфа-Кура. Злучэнне гэтых зусім не падобных між сабой метадаў дало нечаканыя вынікі: з'явілася – хоць і тэарэтычна – магчымасць актыўна ўздзейнічаць на цэнтры галаўнога мозгу падчас чалавечага сну. І самае важнае ў тых "сонных" доследах, што стала магчымым змяняць увесь арганізм чалавека.

## II. Эксперымент

...З раніцы нешта ўсё пайшло не так. Спачатку Антон прапаліў прасам новенькую кашулю, бо, каб зэканоміць час, адначасова з прасаваннем улез у Інтэрнэт. Не паспеў выйсці з пад'езда, як вялізны чорны кот літаральна перад носам перабег дарогу. І хоць у прыкметы Антон не верыў, але сам выпадак адсачыў, і настрой яго канчаткова сапсаваўся.

"Значыцца, не зацвердзяць, не пройдзе мой план. Не, Захараў не прапусціць такое..." – круціліся ў галаве змрочныя думкі.

Справа ў тым, што зусім нядаўна ён прыняў рашэнне прапанаваць сябе ў якасці паддоследнага, у якасці так званага "труса". Гэтаму рашэнню

папярэднічала ягоная геніяльная, як сам лічыў, ідэя пад назовам “кіраванае трансфармаванне”.

Гэтая ідэя прыйшла да яго пры даволі цікавых абставінах.

Калі ў аўторак Антон вяртаўся з працы дадому, на скрыжаванні вуліц Леніна і Інтэрнацыяльнай, акурат насупраць рэстарана “Патсдам”, ён лоб у лоб сутыкнуўся з Генкам. Гена быў аднакурснік, вельмі добра вучыўся, як кажуць, падаваў надзеі, але на пятым курсе з ім нешта незразумелае здарылася. Можа, тое было з-за непадзельнага кахання – усе ведалі пра яго раман з Юлькай, які вельмі раптоўна скончыўся. А можа, фазы маладзіка пераблыталіся... Як бы там ні было, але Генка цалкам закінуў вучобу – ледзь дыплом потым атрымаў, – і ўсе свае маладыя сілы кінуў на развіццё Супертэорыі, якую ён актыўна развіваў... у шматлікіх піўбарах горада.

– Разумееш, два – мала, але пасля трох куфляў піва свет змяняецца, – сцвярджаў Генка, – і трэба злавіць той момант (не дай Бог перабраць!), калі табе адкрыецца... не абавязкова адразу, але патрэніраваўшыся... адкрыецца шлях да тонкіх “светаў”.

Так казаў не ніцшэанскі Заратустра, якога вельмі любіў цытаваць Генка, так гаварыў ён сам. І тады, на скрыжаванні вуліц Леніна і Інтэрнацыяльнай, праслухаўшы аповед Антона пра ягоныя няўдачы, Генка сказаў:

– А хадзем па куфлі піва зробім. Лепш па тры. І пабачыш: мая тэорыя спрацуе. Толькі трэба “злавіць момант” – не празяваць сувязнога з таго боку. З боку тонкага Свету. Ён з’яўляецца на кароткі час – можа, хвілінаў на пяць, не больш, і калі ўвайсці з ім у кантакт – многае можна зрабіць. Бо той Свет уздзейнічае на наш спрадвеку. Многія сведкі той няўлоўнай сувязі вядомыя чалавецтву.

– Я не вялікі аматар піва, ты ж ведаеш, – паспрабаваў адгаварыцца Антон.

– А хто на Новы год, у вялікай біялагічнай аўдыторыі ўсіх пераспяваў? Як гэта?.. “Снег кружыцца, кружыцца, а мне танчыць і любіць хаціцца, хаціцца...” – зарагатаў Генка.

– Ну было, было. Але ж даўно і няпраўда, – адкручваўся Антон.

– Я табе сур’ёзна рэкамендую пайсці са мною ў “Ясень” і ўдарыць па піўку.

І Антон пайшоў.

Менавіта пасля трэцяга куфля іх гаворка сціхла – здаецца, усё было перагаворана, Генка адышоў у прыбіральню, Антон застаўся адзін. Галаву кружыў лёгкі прыемны хмель, турботы некуды зніклі. Антон перавёў свой позірк з апусцелага куфля на недагрызеную галаву вялізнага ляшча, што нядаўна ўпрыгожваў іх столік-стойку. І раптам яго нібы з-за вугла хто па галаве ляснуў. Не, не ўдарыў фізічна, а неяк як бы знутры скалануў. І пачуўся голас. Ён ішоў не звонку, а гучаў у галаве і станавіўся ўсё выразней. Антон агледзеўся, але піўнушка жыла сваім штодзённым жыццём, мільгацелі куфлі, за суседнім столікам гучна спрачаліся мужыкі, афіцыянтка несла паднос... Раптам з падноса зваліўся куфаль і рассыпаўся тысячай дробных шкельцаў па плітах падлогі кавярні. На шкельцах пераліваліся сонечныя промні, што выслізнулі з-пад лёгкай парцьеры, якая захінала вялікія шкляныя вокны “Ясеня”.

Таямнічы голас прамаўляў: “Разгадка падсвядомых працэсаў ва ўзаемадзеянні нашых Сусветаў. І мост паміж намі – гэта ты. Ты павінен прапанаваць метад кіраванай трансфармацыі, а сябе – у якасці паддоследнага... І тады вы, людзі, будзеце ведаць, што...”

На гэтым сувязь перарвалася. Антон зірнуў на гадзіннік – мінула роўна 5 хвілінаў ад пачатку кантакту. Генка меў рацыю. Толькі пяць хвілінаў. “Што ж было недагаворана?” – варочаліся думкі ў галаве.

Вярнуўся Генка. Убачыўшы ўсхваляванага Антона, ён адразу пра ўсё здагадаўся:

– Было?

– Так. Але мы не дагаварылі.

– Можна паспрабаваць схіліць іх на дадатковы кантакт. Яны любяць, калі на піва “накаціць” гарэлкі. Хадзем на той бок, пасядзім яшчэ ў “Патсдаме”.

Аднак нічога больш не атрымалася. І хоць выпіта было нямала, канктакцёр так і не з’явіўся.

Тым не менш, у агульным плане Антон ужо ведаў, як праводзіць эксперымент. І разумеў, што неабходна ахвяраваць сабой. Дзеля незвычайных ідэй, дзеля развіцця навукі. З такімі думкамі ён праставаў па амаль пустым калідоры інстытута да свайго шэфа.

Ідэя была геніяльная, ды, разам тым, і слабая. Слабасць заключалася ў тым, што малады навуковец нічога канкрэтнага не прапаноўваў. Ён спасылаўся больш на інтуіцыю, бо тое, што мы шукаем у доследах сну, немагчыма апісаць праз свядомае. Ісціна знаходзіцца ў іншай сферы. І сфера гэтая ёсць не што іншае, як падсвядомае.

“Праўда на баку старога Фрэйда!” – з нейкім замілаваннем адзначыў пра сябе Антон ужо каля кабінета Захарава. – “Нейкая няведомая Сутнасць, ці Існае прысутнічала ва ўсіх гэтых доследах. І самае дзіўнае і незвычайнае – я сам,” – ужо зусім упэўнена адзначыў ці не ўслых Антон Дворжык.

Асэнсаванне гэтай канчатковай праўды паступова прывяло да глыбокага пераканання аб выключнасці ягонай місіі: “Паддоследным буду я! Толькі я!”

Без усялякай надзеі Антон пастукаў у дзверы шэфа. Іх размова была нечакана выніковай. Кароткай і на дзіва пазітыўнай. План Антона быў зацверджаны!

“Вось і вер пасля гэтага ў прымхі і забабоны”, – ухмыляўся Антон, успамінаючы ранішняга ката.

Больш за тое! Высветлілася, што шэф і сам думаў вылучыць для доследа некага з іх калектыву і нават думаў пра ягоную кандыдатуру, але не асмеліўся дайсці да актыўных дзеянняў. Усё ж чалавек – гэта самае каштоўнае ў Сусвеце. А сам гэты Сусвет, як казаў Вальтэр, у сваю чаргу – лепшы з усіх Сусветаў, таму ў выніку простых лагічных высноваў няцяжка прадбачыць, да чаго можна дайсці, калі кінуцца ў доследы на злом галавы.

Але пойдзем далей. Усё ж занадта рашучы крок зрабіў Антон, і наступствы не прымусілі сябе доўга чакаць. Вось што запісана ў журнале назіранняў інстытуцкай лабараторыі № 32.

“...Антон Пятровіч Дворжык знаходзіцца ў крэсле-персептоне. На ягоную галаву надзяваюць сігма-шлём. Ён засынае...

Эксперымент пачаўся. Павялічваецца напружанне ў вобласці перакрыжаванай нейрастаксіі. Застаецца толькі некалькі секунд да снакантакту Дворжыка з сігма-полем...”

Раптам запальваецца серыя аварыйных лямпачак. Здарылася нешта надзвычайнае. Яшчэ нядаўна пакорлівыя і нерухомыя стрэлкі прыладаў пачалі бязладна мітусіцца, а з-пад сілавога блока пацянула дымам.

Дворжык стрымгалоў падскочыў уверх, адпіхнуў маладога асістэнта Колю, які кінуўся быў на дапамогу... І пачаў прыглушана, як у гіпнатычным

сеансе, гаварыць дзіўнае. Але амаль нічога з ягоных словаў не ўдалося запісаць. Праўда, пасля сеансу з усёй неразбярыхі меркаванняў сведкі ўсё ж сышліся на больш-менш задавальняючай версіі. Гэта адбылося пасля даволі груваісткай метамарфозы, якая раптам здарылася з Антонам. Голас яго пачаў выроўнівацца, афарбаваўся прыгожым барытанальным тэмбрам, і самае цікавае – выглядала на тое, што ён усё бачыць, а не спіць у лабараторным крэсле.

...Антон гаварыў пра нейкія вялікія чырвоныя кветкі, што растуць на прыгожых сініх дрэвах. Пра лес з сініх дрэваў, які нясцерпна ззяў чырванню пялёстка-кветкавага раю... Твар яго прасвятлеў, голас сцішыўся, і пяшчотным шэптам ён загаварыў пра казачна прыгожую дзяўчыну, якую ён кахае з самага дня народзінаў, якую ні разу не бачыў, якую нарэшце сустрэў, але сустрэў тут – у краіне сініх дрэваў і вялікіх чырвоных кветак.

Магло здацца, што сэнсу ў ягонай блытанай прамове мала, а то й зусім няма. Але раптам у гэтай гаворцы пачалі вылучацца нейкія новыя матывы. Ранейшая логіка пачала хутка, як падпаленая папера, дэфармавацца. Антон, цяжка, павольна асеў на падлогу – і змоўк.

Хвілінаў праз пяць Антон прыйшоў у прытомнасць і адразу запытаўся аб выніках доследу. Сам ён анічагуткі не памятаў – адчуваў сябе не вельмі добра, нясцерпна балелі галава й вочы.

Такім чынам, першая спроба вывучэння феномену сну правалілася. Больш за ўсіх перажываў няўдачу сам шэф – Захараў. Але яму хапіла мужнасці, каб сказаць:

– Эксперымент прыпыняецца. Працу зварочваем.

## III. Нэйсі

У той памятны дзень Антон і сустрэў Нэйсі. Сустрэў не пры якіх-небудзь незвычайных ці хаця б проста адметных абставінах. Не. Так сустракаюцца людзі, якім наканавана сустрэцца. Так сустрэў Майстар сваю Маргарыту. Так сустрэў Рамэа Джульету...

Ён выйшаў з Інстытута і адразу ўбачыў яе. Апранутая ў лёгкую блакітную сукенку Нэйсі ішла насустрач. І было зразумела, што з тысячаў жанчын, якія, нібы здані, пранесліся за многія гады міма яго асобы – яна адзіная, хто раз і назаўсёды імкліва набліжаецца толькі да яго аднаго.

І хоць бачыліся яны ўпершыню, нейкім шостым пачуццём Антон зразумеў, што гэта – яна, яшчэ незнаёмая, але такая родная і блізкая дзяўчына. Каханая.

Мала каму шанцуе сустрэць сваё сапраўднае шчасце – шчасце належнае толькі табе. Яны нават нічога не сказалі адно аднаму, на хвіліну прыпыніліся, а пасля пакрочылі разам. Не выбіраючы дарогі, не думаючы і не пытаючы ні аб чым адно аднаго.

...Яны пачалі бачыцца кожны дзень. Звычайна Нэйсі прыходзіла да ўваходных дзвярэй першага корпусу інстытута а шостай гадзіне вечара і, прытуліўшыся да ствала раскідзістага граба, што ахоўваў па начах сакрэты навукоўцаў, стаяла і чакала свайго каханага. Чакала яго, Антона. На некалькі гадзінаў для іх знікаў навакольны свет, яны блукалі па вузкіх вулачках старога горада, хадзілі ў суперновыя 5-D і 8-G кіно, а аднойчы ім пашчасціла, і яны трапілі на рок-оперу “Ісус Хрыстос – суперзорка”, што прывезлі сталічныя артысты.

Так працягвалася некалькі месяцаў. Але аднойчы Нэйсі сказала:

– Заўтра я не прыйду.

Антон разгубіўся: "Гэтага не можа быць! Чаму?"

– Так трэба. Не пытайся. Прыйдзе час, я ўсё раскажу.

Антон не ведаў, што сказаць. Горкі камяк падкаціўся да горла і паралізаваў вусны. Яму прыйшло ў галаву: "Я ж нічога не ведаю пра яе. Не ведаю дзе жыве, з кім жыве. Дзе вучыцца... А можа, яна працуе?.."

Здранцвенне пакінула яго толькі тады, калі ён адчуў мяккія, салодкія вусны Нэйсі на сваіх, а праз імгнененне яе ўжо не было. Толькі як рэха ў пустым і чужым паветры ціха раствaралася: "Да паслязаўтра... Да паслязаўтра..."

Апусцелая вуліца раскрыла абдымкі імкліва надыходзячай ночы. Нібы кроплі пасля летняга дожджыка ў спякоту, знікалі з вуліцаў людзі. У сапраўднасці толькі здавалася, што яны знікаюць. Насамрэч самотныя мінакі ў паўзмроку зліваліся са сваімі ценямі.

Коўдра цішыні ахутала горад...

І Антон раптам адчуў прысутнасць новага невядомага пачуцця, яно вокамгненна захапіла яго цалкам – здавалася, што ў гэты момант парваліся тыя нябачныя ніты, што з маленства звязваюць чалавека з рэальнасцю, у якой ён мусіць існаваць, нарадзіўшыся ў гэтым жорсткім і разам з тым прыгожым свеце... Адчувалася знітаванасць з навакольным асяроддзем, людзьмі – блізкімі, роднымі і, наадварот, *нябачнымі*, але таксама вельмі патрэбнымі для нас...

"Чаму Нэйсі заўсёды так раптоўна знікае пасля адзінаццаці гадзінаў вечара?" – думаў ён. "І яшчэ: дзе яна жыве? Дзе той прыватны дом у вёсцы альбо кватэра ў шматпавярховым будынку вялікага горада, дзе яна адпачывае ноччу?"

"І наогул я амаль не маю пра яе інфармацыі, – падганялі надыходзячую роспач дакучлівыя думкі. – Мы знаёмыя ўжо тры месяцы. Але я ведаю толькі тое, што яе завуць Нэйсі, і нават прывык да гэтага незвычайнага імя. Дзіўна – мне ніколі не карцела ведаць нешта большае, мне не трэба было ведаць ні прозвішча яе, ні як завуць па-бацьку, ні хто ейныя бацькі...

Думкі змянялі адна адну новымі, зусім нечаканымі. Аднекуль прыгадалася нават іхняя навуковая праца над снамі:

"Сувязь з рэальнасцю... А што такое рэальнасць? Ці рэальнасць сам сон? Альбо – дзе ёсць доказ, што ўсе падзеі "соннай рэальнасці" не матэрыяльныя?" – усе гэтыя пытанні карагодам праносіліся ў галаве Антона.

Раптам побач завішчэлі тармазы таксоўкі:

– Эй, хлопец, ты што, з глузду з'ехаў? – злосна закрычаў таксіст. Выявілася, што Антон ішоў проста па праезнай частцы праспекта. Нешта невыразна прабурчаўшы ў апраўданне, ён падняў вочы, але кіроўцы не ўбачыў, бо той, не даслухаўшы, даў газу і знік. "Сам ты асёл!" – чамусьці падумаў Антон.

І ён зразумеў: сувязь Нэйсі з іхнімі доследамі існуе! Узгадаў казачныя карціны, што апошнім часам прысутнічалі ў ягоных снах. Бездань кветак, блакітных, зялёных, памаранчавых і зноў блакітных, блакітных... І – Нэйсі... Павінна быць сувязь! Але ж якая?

Антон, нібы на пажар, пабег да прыпынку таксі. На гэты, яшчэ не надта позні час, вольных машынаў ставала. Да яго высунуўся першы з чаргі кіроўца.

“Да шэфа, хутчэй да шэфа!” – выгукнуў закаханы навуковец і, схамянуўшыся, дадаў: – “Вуліца Курчатава, дом 32, кватэра...” Ён змоўк, зразумеўшы, што нумар кватэры таксісту непатрэбны.

...Шэф слухаў блытаны аповед Антона пра магчымую сувязь іх нядаўняга эксперымента з ягонай таксама нядаўняй знаёмай Нэйсі. Чым больш гаварыў малады навуковец, тым большы сумнеў выказваў прафесар Захараў, што было бачна па тым, як усё часцей ён ківаў галавой. Усе ведалі пра гэтую прыкмету, што не раз дапамагала своечасова выправіць не надта прыемную сітуацыю.

– Ты, відаць, моцна стаміўся, мой хлопчык. Усё, пра што ты кажаш, гэта твае фантазіі. Трэба б табе крыху адпачыць. Я разумею... Той няўдалы эксперымент... Вось ты кажаш: адчуваю, адчуваю... Гэтага ж мала! І ў той раз ты абапіраўся толькі на эмоцыі – і што гэта дало? Таму слухай: даю табе два тыдні адпачынку. З’ездзі куды-небудзь, пазагарай, у моры паплёскайся – і ўсё будзе о’кэй. А што пра тваю каханую... Ты ж можаш сам прасачыць, куды яна ўцякае ноччу. Упэўнены – жыве ў нейкім мікрараёне! – усміхнуўся шэф на заканчэнне.

– Нікуды я не паеду! Я цвёрда ведаю: усё ў сапраўднасці менавіта так, як я сказаў! Вось пабачыце...

– А загараць у гэты восеньскі час лепей за ўсё ў Егіпце, бяры гарачую пуцёўку ў Хургаду – я там быў, цуд! З’ездзіш на экскурсію ў старажытную сталіцу Луксор да фараона Рамзеса другога... , – як і не пачуўшы Антона, працягваў Мікалай Іванавіч, – і паглядзіш на ўсё зусім іншымі вачыма.

Антон пры апошніх словах шэфа раптам пачаў губляць логіку думак, энергетыка спрэчкі некуды знікла, ён яўна адчуў на сабе позірк Рамзеса II і ціха-мірна сказаў:

– Я згодзен. У Хургаду дык у Хургаду.

Чаму ён так сказаў – невядома. Бо нікуды Антон не збіраўся. У сваіх перакананнях ён застаўся ўпэўнены.

Адчуванне хуткага раскрыцця таямніцы не пакідала яго тыя два дні, што ён пражыў без Нэйсі. Тыя бясконца даўгія хвіліны, што доўжыліся стагоддзі, тыя хвіліны без каханай, тое жыццё – не жыццё без яе...

## IV. Сустрэча двух Сусветаў

...Іх сустрэча прайшла як звычайна. Нібы нічога не адбылося, нібы не было тых бясконца цягучых, змрочных дзён, што прайшлі без яе... Зноў, як і раней, аб адзінаццатай вечара яны развіталіся. Але на гэты раз у Антона быў, можа, не бездакорны і не надта арыгінальны, але рэальны план. На гэтыя дзеянні яго якраз і натхніла прамова з шэфам.

Дачакаўшыся, калі Нэйсі села ў тралейбус, ён, як у дэтэктыўным фільме, злавіў таксі і загадаў таксісту рухацца за ледзь бачным у тлуме машынаў тралейбусам. На тралейбусным кальцы дзяўчына выйшла і рушыла ў накірунку выхаду з горада. Антон разлічыўся з таксістам і на бяспечнай адлегласці пайшоў услед за дзяўчынай. Ён асцярожна крочыў, губляючыся ў супярэчлівых думках, не ведаючы, што атрымаецца, усё больш дакараючы сябе за бязглуздую ідэю.

Адразу за кальцавой дарогай пачынаўся хвойнік, і тое, што Нэйсі ішла менавіта да ляснога масіва, а не прыгараднага пасёлку, які быў адразу за кальцавой, спачатку здзівіла, а потым спалохала Антона.

Было відавочным, што нейкая таямніца хаваецца за незразумелымі паводзінамі дзяўчыны. Яму прыгадаліся дзіцячыя жахі, што тычыліся зданяў, лесавікоў, ваўкалакаў і іншых казачных персанажаў. “Жахлівае – тое, што не ўмяшчаецца ў сістэму нашае логікі”, – падумаў ён, але адступаць назад было ўжо запозна.

Жаданне раскрыць таямніцу Нэйсі стала непадуладным ягонай волі. Змрок ужо даўно заслаў зямлю, і ў цемры гусцеючых дрэў постаць дзяўчыны пачала спачатку зліваецца з лісцем, а потым, наадварот, раздвойвацца, множыцца, і здавалася, нібы ўжо не адна Нэйсі ішла насустрач невядомаму, а мноства ў розных вымярэннях...

Раптам чорныя начныя хмары разам, нібы па сігнале, закрылі абыякавае месячнае святло, і ён ужо зусім нічога не бачыў. Пайшоў дождж. Дождж быў дробны і цёплы. Прыкметна пацяплела, лагодны спакой апанаваў цела. Яму стала вельмі добра і нічога ўжо не хацелася, а засталася толькі безуладная думка, што трэба некуды ісці, а куды – ён ужо не ведаў, хаця заставалася яшчэ нейкая надзея... Дзеля нечага ён жа прыйшоў сюды. Куды гэта – сюды?

Антон, нібы самнамбула, крочыў і крочыў наперад, хоць тое, што было перад ім, даўно ўжо стала незнаёмым ці, дакладней, нечым іншым. Ён даўно ўжо забыў усе веды пра Нэйсі, і гэтая акалічнасць чамусьці яго не закранула зусім. Толькі адно засталося вядомым: трэба ісці, ісці. Часам нават здавалася, нібы гучыць нечы механічна-жалезны голас, і рэхам у галаве аддаецца:

“Ідзі сюды.... Сюды... Павярні туды... Ідзі, ідзі...”

Невядома, колькі прайшло часу, але Антон адчуў, што дождж скончыўся. Цяжкія хмары неўзабаве разышліся, распаліся перад светлай прысутнасцю на незвычайна чыстым небе яркага сонца.

І стала незвычайна ціха.

Ад гэтай нясцерпнай цішыні поўня, якая разам з бліскучымі зоркамі таксама была побач з сонцам на небе, здавалася вялізнай і важкай. Яна выглядала нашмат салідней і сур’ёзней за маленькае й вясёлае сонейка, і гэтая неадпаведнасць прадвяшчала хуткую перамогу тых *іншых*, новых уяўленняў аб сэнсе й бясконцасці жыцця...

Простыя лініі сталі гнуцца, закручвацца ў спіраль, кругі, наадварот, ператварыліся ў квадраты. Лес быў ужо не лес, ён стаў тым *інакшым*, іншым, і гэтае іншае *нешта* знікала ў матэматычнай бясконцасці, бо сама рэальнасць даўно знікла. Карагод з’яў у свеце скажонай геаметрыі хутка змяняўся, і нарэшце, як скрозь туман, Антон убачыў Нэйсі.

Час і прастора паволі прыпынілі свой вар’яцкі бег, і ўрэшце ўсё супакоілася. Ні поўні, ні зорак ужо не было. У блакітным зеніце дня лагодна ззяла сонейка. Да самага небасхілу цягнулася раўніна, злёгку прарэзаная акуратнымі лапінамі незвычайнага, магчыма, трапічнага лесу ўперамешку з прагаламі якойсьці нізкай квітнеючай расліннасці. Антон стаяў пасярод вялізнага поля, проста перад ім да самага небасхілу гарэлі чырванню кветкі незвычайнай велічыні. Павярнуў галаву і ўбачыў густы незвычайны лес. Спачатку ён не ўцяміў, што тут не так, у чым незвычайнасць. Але праз імгненне здагадаўся: дрэвы былі сінімі! У галаве яго пранёсся няпэўны ўспамін, што гэта ўжо ён недзе бачыў. “Так! Гэта было ў маіх дзіўных снах!” – мільганула нечаканая думка. Менавіта такі лес ён бачыў у сваіх відзежах з таго няўдалага, але памятнага эксперыменту.

Нэйсі, апранутая ў лёгкую летнюю сукенку, стаяла зусім блізка, яе блакітныя вочы з сумам глядзелі на яго. Разам з тым нешта святочнае адчувалася ў яе абліччы.

– Ну вось. Ты прыйшоў сам, – ледзь чутна сказала яна. – Тады ведай: я гэтага не хацела, ты сам вінаваты... што пайшоў за мной. Ведай тады праўду пра мяне і свае сны. Ведай...

Нешта цяжкае падкаціла да горла Антона, сэрца зашчымела ад прадчування непазбежнага, і яму нават хацелася спыніць Нэйсі, каб больш нічога не чуць і не ведаць таго, што будзе сказана. Але словы ўжо гучалі.

– Паглядзі наўкол. Пэўна, ты бачыў падобнае ў сваіх снах. Дык вось, ведай: гэта і ёсць твой сон. Калі дакладней, сам ты не спіш – у звычайным сэнсе гэтага слова, а знаходзішся ў іншай рэальнасці, у якую, можна сказаць, сам напрасіўся. Згодна з вашай чалавечай логікай, гэты іншы Сусвет можна было б назваць краінай сноў. І я таксама твой сон... Ты, магчыма, успомніш, што гадоў пяць таму я прыходзіла да цябе ў снах. Я любіла прыходзіць да цябе, бо ўжо тады цябе кахала. Але памяць пра той сон амаль сцертая. Гэта неабходная мера бяспекі. У нас ёсць сродак, каб вы, людзі з альтэрнатыўнага нам свету, раніцай памяталі далёка не ўсё, а то і зусім нічога.

– Нэйсі, – прыпыніў незвычайную прамову Антон, – пачакай. Калі гэта не сон, дык як жа ўсё можна сумясціць? Як?

Ён не знаходзіў словаў. Стала ціха.

– Добра, слухай і паспрабуй зразумець... Свет, у якім я жыву, падпарадкаваны іншай логіцы, чым ваш, тут уладараць свае законы, свой парадак. Ён і падобны і не падобны на ваш, але галоўнае – мы непарыўна злучаныя з вашым светам. Ты мог бы яго назваць светам сноў, аднак ён такі ж рэальны *для нас*, як ваш эўклідаўскі – *для вас*. На першы погляд, у нас тыя ж людзі, што і ў вас, тыя ж праблемы... Больш за тое, у нас амаль такая ж прырода: лясы і рэкі, вёскі і гарады... Ну, можа быць, толькі лес з сініх дрэваў – нашая адметнасць... Ну падумаеш – сіні лес, дык той бяды!..

Нэйсі прыпынілася і пільна паглядзела на Антона:

– Галоўнае вось што: у нашым свеце не хапае вашае логікі! Ды дзе там “не хапае”! З пункту гледжання простага чалавека – яе няма зусім! Вось глядзі...

Антон павярнуўся і ад здзіўлення спачатку нават спалохаўся. На месцы сініх дрэў узнік горад. Добра былі бачныя дзевяці- і шаснаццаціпавярховыя будынкі, вымалёўваліся цыбуліны некалькіх цэркваў і шпілі нейкіх іншых культавых вежаў. Чуўся гарадскі шум, гул тысячаў аўто, лязгат трамвайных рэек і сірэнаў машынаў “хуткай дапамогі”. Горад быў нібы прывід, міраж – ён рухаўся. Горад набліжаўся, набліжаўся, і вось ён проста наехаў на іх, паглынуў...

Яны стаялі на асфальтаванай сцяжынцы ў вельмі знаёмым парку. З-за агароджы была бачная таксама добра знаёмая вуліца, што жыла сваім звычайным гарадскім жыццём. Дзе ж ён бачыў гэтую вуліцу, гэты парк?..

Ён успомніў. Гэта быў Піцер. Але любімы з дзяцінства горад быў нейкі дзіўны і незразумелы. Парк ён пазнаў – гэта, канечне, Летні сад. Неверагоднасць была ў страшэннай дыспрапорцыі перспектываў, парушэнні звыклых геаметрычных формаў і адлегласцяў.

Па Няве плылі прыгожыя старажытныя караблікі пад ветразямі. На палубе некалькі хлопцаў і дзяўчат спявалі пад гітару песню. Антона

асабліва ўразіла тое, што гучала песня яго студэнцкіх гадоў: "А я еду, а я еду за туманом, за мечтами и за запахом тайги..."

Антон павярнуўся і ўбачыў, што скульптура Афіны жывая. Яна сышла са свайго пастаменту і, закінуўшы за плячо канец сваёй тунікі, падышла да Пасейдона. Яны пачалі аб чымсьці весела размаўляць. Позірк Антона прабег далей, адкрываючы захапляльныя карціны ажылага Летняга сада. За антычным сонмам багоў, герояў, наяд і німфаў сталі паказвацца знакамітасці іншых часоў. Прамільгнула постаць Дыянісія, які ўрачыста нёс сваю галаву праз гісторыю, потым запахла дымам вогнішчаў інквізіцыі... Нешта крычала скрозь полымя Жанна д'Арк. Цікава, што яна выкрыквала? "Не вінаватая я..." – падумаў механічна і тупа Антон.

Позірк Антона затрымаўся на адметных на гэтым гістарычным тле фігурах двух барадатых мужчынаў у пацертых джынсах і характэрных акулярах інтэлігенцыі ягонага часу. Яны стаялі пад раскошнай пальмай і пілі нешта падобнае да піва з вялізных бліскучых куфляў. Адзін з іх трымаў у левай руцэ карычневы партфель.

"Аспіранты", – чамусьці падумаў Антон. І тут ён успомніў: "Піва! Яны пілі піва! І ўсё ў падзеях гэтага імкліва-бурнага апошняга часу пачалося таксама з піва... Каб не тая сустрэча з Генкам пад "Ясенем", можа і не было б усяго гэтага..."

Голас Нэйсі вывеў яго са здранцвення:

– Вось я цяпер размаўляю з табой і, разам з тым, у нейкім сэнсе жыву *ў тваёй логіцы.* Але ўсё астатняе навокал, усё, што ты зараз бачыш, гэта наш свет. І ты не спрабуй яго зразумець.

Яна весела засмяялася, убачыўшы, як ледзь не варожа Антон пазірае на двух Арыэляў, што гулялі ў гарадкі на невялікай – можа, з паўметра – вышыні. Адзін, відавочна, лідар паядынку – раз за разам заўзята кідаў біты па даволі складаных фігурах з самаробных круглых брускоў, якія з кожным кідком разляталіся ўбакі.

Антон сутаргава схапіў Нэйсі за руку. Ён адчуў цяпло яе роднага цела, але ад гэтага яго яшчэ больш скаланула. Яму не хапала паветра, сэрца шалёна білася. Ён адчуў яе пяшчотныя тонкія пальцы ў сваёй далоні і здзівіўся, што насуперак усяму яе далонь была такая зямная, маленькая і цёплая і тое страшэннае, што трымала яго ўжо колькі бясконцых хвілінаў, раптам разам адышло.

Ён бачыў яе каханыя вочы. Ён чуў яе такі знаёмы і пяшчотны голас.

– Ты бачыш, Антон, свет нашых сноў, але для мяне гэта рэальны свет, я жыву ў ім, – гаварыла яна, – я не буду спрабаваць растлумачыць яго табе, ды і няма ў гэтым патрэбы. Сутнасць жа ў тым, што мы не можам жыць без вас, істотаў, якія адпаведныя нам. Так, вы з'яўляецеся, у пэўным сэнсе, нашым люстраным адбіткам. Мы нават сустракаемся з вамі, і гэта адбываецца вельмі часта – калі вы спіце. Падчас "соннага" кантакту мы атрымліваем асаблівую энергію жыцця, і адначасна мы аказваем уплыў на вас. Такія двухбаковыя зносіны знаходзяцца ў гарманічнай раўнавазе. Дзякуючы вам, мы змяняем, па вялікім рахунку – будуем наш свет, а з іншага боку, каб ты ведаў, колькі дзівосных адкрыццяў было зроблена на Зямлі з нашай дапамогай. Успомні пра інтуіцыю, натхненне... – Нэйсі ўважліва і неяк па-асабліваму пранікнёна зазірнула ў вочы Антону:

– Нішто дагэтуль не парушала гармонію. І вось нечакана пачаліся вашыя доследы, якія закранулі наш свет, закранулі спрадвечную гармонію. Той

эксперымент, які вы палічылі няўдалым, зрабіў неверагоднае: у адным месцы нашыя прасторы зліліся... і тады ўпершыню я прыйшла да цябе не як сон. Прыйшла менавіта да цябе, бо была бліжэй за ўсіх да цябе. Я кахала цябе. Разумееш цяпер?..

Апошнія словы яна вымавіла ледзь чутна, але менавіта гэтыя гукі, што ціха растварыліся ў паветры *яе Сусвету*, вывелі Антона са здранцвення і ён ужо адкрыў быў рот, каб нешта сказаць сваёй каханай, але не мог... Вусны застылі, нібы прыклееныя да зубоў, і не маглі разамкнуцца, выказваючы маўклівы пратэст і нежаданне гэтага містычнага і неверагоднага кантакту. Нейкім нечалавечым намаганнем волі ён усе ж выціснуў:

– Разумею... але што ж з намі будзе далей?

– Далей будзе, на жаль, горшае. І ты сам вінаваты ў гэтым. Прасторы хутка разыдуцца, і мы развітаемся назаўсёды. Толькі адзін раз мы яшчэ можам сустрэцца, але я прашу цябе аб адным. Ты павінен пакінуць даследванні сноў. Немагчыма сумясціць такія розныя логікі нашых першасных прыродаў. Калі вы, людзі, навучыцеся кіраваць снамі, то гэтым парушыце законы прыроды, адзінства гаромоніяў нашых Сусветаў. І тое, што адбудзецца потым, дасць непажаданыя вынікі, магчыма нават будзе вайна паміж намі... І ваш, і наш Сусветы могуць загінуць у гэтай страшнай вайне... Але мой час заканчваецца, – раптам спахапілася дзяўчына.

На вачах Нэйсі паказаліся слёзы, яна абняла Антона і пацалавала. Яна здавалася такой зямной, неймаверна блізкай і роднай, і гэта зусім не пасавала пачутаму. “Немагчыма, каб мы развіталіся зараз назаўсёды!” – гучала ў ягонай галаве. – “Немагчыма... Не... Як я кахаю яе!... Яна мой адзіны і сапраўдны Сусвет!” – здавалася, закрычаў ён, але вусны па-ранейшаму не варушыліся.

Раптам контуры наваколля зноў пачалі губляць выразнасць. І разам з гэтым прывідным наваколлем пачала мяняцца і сама Нэйсі. Урэшце яна растварылася ў гэтым вечным танцы быцця і небыцця, і да яго даляцелі яе апошнія словы: “Я прыйду да цябе. Не ведаю, калі, але прыйду. Няхай гэта будзе каштаваць мне жыцця. Але ты ніколі не забывай пра тое, аб чым я цябе прасіла. Кінь доследы...”

У наступны момант Антон убачыў сябе ў тым лесе, куды трапіў спачатку. Ноч замыкала свой чарговы цыкл зыбкім, дрыжачым ранкам новага дня. Дзень урываўся ў яго свядомасць да болю знаёмымі і цяпер вельмі роднымі прыкметамі. Весела пераклікаліся між сабой вераб’і і нетаропка стукаў па сасне нястомны дзяцел. Верхавіны магутных разлапістых грабаў гайдаліся ў прывітальным руху галінаў. Ласкава шапацела пад нагамі мокрая, набрынялая расой трава.

“Як жа прыгожа тут!” – падумаў бы яшчэ ўчора Антон. Але як нельга ўступіць двойчы ў адну і тую ж раку, так і нельга прадубляваць учарашняе шчасце. І ён не адчуваў і не заўважаў прыгажосці новага дня. Ён крочыў у бок горада, увесь ва ўладзе перажытага, і нешта новае паступова захлынула яго, напоўніла нечаканай рашучасцю і яснасцю.

...З таго часу Антона Дворжыка ніхто не мог пазнаць. Зусім нядаўна вясёлы, дасціпны, ён цяпер амаль увесь час маўчаў і ўключаўся толькі ў службовыя размовы. Працаваў шмат і, мусіць, яшчэ больш упарта, але толькі дзеля таго, каб забыць пра перажытае. І гэта ў яго атрымалася – у ім нарадзіўся зусім новы чалавек. Тое, мінулае “Я” засталося разам з Нэйсі і назаўсёды для яго знікла.

У першы ж працоўны дзень ён патэлефанаваў шэфу і напісаў заяву аб пераводзе ў іншы аддзел. З даследаваннямі сноў усё было скончана.

Да сённяшняга часу ніхто так і не даведаўся, што ж такое з ім раптоўна здарылася. Сам жа ён маўчаў і на ўсе пытанні толькі паціскаў плячыма. Антон ведаў, што загадка сну, якая адкрылася яму, не павінна быць разгаданай у маштабах усяго чалавецтва. Прынамсі, у цяперашні, вельмі складаны час прагматычных адносінаў і духоўнай дэградацыі грамадства.

Антон разумеў: калі людзі авалодаюць тэхнікай кіравання снамі, пачнецца новая эра – эра міфічнага Эдэма чалавецтва. Відавочна, кожнаму захочацца сніць цікавыя сны – яны будуць нешта накшталт кіно, але больш рэальнымі, матэрыяльнымі, бо адбываюцца пры актыўным удзеле самога чалавека.

І надыдзе момант, калі людзі будуць жыць у сне больш, чым у звычайным стане.

Навошта шукаць задавальненне ў працы, сям'і, каханні... Навошта? Можна ж змайстраваць сабе любое шчасце: вялікае і маленькае, усіх колераў і ўсіх гатункаў. І гэта загубіць чалавецтва, бо яно проста выпадзе з рэальнасці.

Дворжак ведаў пра гэта і маўчаў. Ён чакаў Нэйсі.

...Прайшло шмат гадоў. А ён па-ранейшаму чакаў, памятаючы: яна сказала, што яшчэ адзін раз прыйдзе.

І аднойчы, калі чаканне зрабілася нясцерпным, гэта адбылося.

Неяк пад вечар ён адчуў сябе вельмі кепска. Ледзь дабраўся да ложка, лёг і заснуў. Ноччу, упершыню за ўсе гады пасля працяглага растання з Нэйсі, яму з'явіліся старыя сны. Да яго прыйшла Нэйсі. Вялікая цяга адно да аднаго нарэшце зноў звяла іх разам на скрыжаванні двух Сусветаў, і яны былі разам усю ноч. Яны ведалі, што памруць, але былі бясконца шчаслівыя ад таго, што нарэшце разам.

Раніцой прасторы светаў зноў разышліся, і яны памерлі.

А можа, яны пайшлі ў нейкі іншы Сусвет? Гэтага ніхто не ведае. Памерлі ж яны толькі ў *сваіх* сусветах...



Віктар Жыбуль



...А тунэль ніяк не сканчаецца,
бо тунэль сам з сабою злучаецца.
Ну няма тут, няма канца!..

# Свабода тэлепартацыі

### *ПРЫВІТАННЕ!*

Нехта вылез з-пад гурбы засохлай лістоты,
схаванай у дуба дуплістага цень.
Прывітанне! Я не ведаю, хто ты,
але добры дзень!

Нехлямяжы, як куча паўзучых вушанак,
абматаны аблезлым, смярдзючым рыззём,
ён бразгоча гірляндаю ржавых бляшанак
і жуе чарназём.

Я на неба гляджу – там гудуць самалёты
і ў далёкія клічуць мяне гарады.
Прывітанне – не ведаю, хто ты,
бывай назаўжды!

## *3D*

Жыццё праходзіла, быццам кіно
ў фармаце 3D; заплывалі акулы
ў пакой кватэры. Было даўно –
так, гэта было ў мінулым.

Даводзілася прачынацца сярод
вады, адчуваючы, як усплывае
наш дом, а праз глей і чарот
едуць насустрач рыбам трамваі.

Сэрцы скакалі, быццам мячы,
якім гулялі на чэмпіянаце
ватэрпалісты – арбітр лічыў
галы, збіваўся, роў: “Не пачынайце!”

Не прачынайцеся! Гэта з-пад
вас выходзяць бурбалкі ў ванне
і выліваецца вадаспад
з дзіркі, пракручанай у экране.

## *У! – АН! – ФАС!*

Залоўлены на бягу аб’ектывам у анфас,
сабака выглядае так, нібыта ўсміхаецца.
Ён сапраўды перапоўнены радасцю
і адчувае болей натхнення,
чым сто паэтаў, разам узятых.

Ён нагадае нам пра той час,
калі паднятыя ўсе шлагбаумы,
быццам рукі, якія галасуюць за
свабоду летуценняў,
свабоду перамяшчэнняў,
свабоду левітацыі і тэлепартацыі,
калі хочацца страляць у неба феерверкам
адрэналіну,
выпадкова прабіваючы чужыя парасоны,
імчацца па дарозе, не баючыся ўрэзацца ў плот –
а раптам ён з шакаладу ды з вафляў?

Дванаццацігадовы сабака
пераскоквае праз лінію далягляду
ў промнях захаду.
Вечнае лета.
Вечная маладосць.

І сто паэтаў, разам узятых,
прысвецяць па вершы таму сабаку,
які шырока ўсміхаецца,
ловячы пашчай падкінутую ў неба відэакамеру.

Але калі нават не прысвецяць,
гэта трэба разумець як варыянт нормы:
ненапісанне магічных тэкстаў
ёсць таксама магічны акт.

## *ЛОГІК У ТУНЭЛІ*

Па цёмным тунэлі логік бадзяецца.
Ён хоча знайсці тупік.
А тунэль ніяк не сканчаецца.
Логік змакрэў, на плячы язык.

Не разумее логік
з думкамі цвёрдымі, як свінец:
– Я збіў у кроў усе ногі,
а дзе ж лагічны канец?

Ён далей па тунэлі хістаецца
з надзеяй знайсці фінал,
крэкча, сапе, спатыкаецца
і падае паміж шпал.

То запалкі, то компас, то мапу
ён дастае з кішэні.
– Я пераадолеў шмат этапаў,
а дзе ж лагічнае завяршэнне?

У цёмным тунэлі логік туляецца –
знайсці тупік ён паабяцаў.
А тунэль ніяк не сканчаецца,
бо тунэль сам з сабою злучаецца.
Ну няма тут, няма канца!

Але логік – хлопец упарты надзвычай.
Дзе ж ён, дзе запаветны тупік?
Але што гэта ззаду грукоча, сігналіць, скавыча?
Гэта цягнік!!!

Логік шукаў канец лагічны,
а атрымаў канец трагічны.
Пухам зямелька табе, логік!
Хоць адпачнеш ад доўгай дарогі!

* * *

Доўгія шнары крывыя
цела абшар рассякаюць.
Побач істоты жывыя
крылы свае распускаюць.

Круцяцца восы ды пчолы,
тыцнуцца ў шнары старыя.
Гэта світанак вясёлы!
Гэта вясны эйфарыя!

Доўгія рваныя шнары
быццам намазаны мёдам.
Мухі збіваюцца ў пары –
смокчуць адтуль асалоду.

Доўгія рваныя шнары...
Песня, накрытая хваляй...
Быццам не ў бойцы жаўнеры,
а кулінары іх згатавалі.

* * *

свет пакрыўся дзіўнай абалонкай
мы знутры яе ліжам
не ўяўляючы што там звонку
ці будзе разгон нашым лыжам

ёсць пульсацыя жывых вытокаў
і ў трубаправодах
чуеш нейкі грукат з таго боку
чуеш чыйсьці подых

можа гэта рэвалюцыі прадвесне
можа мы прарвемся
можа абалонка трэсне
як глазура на M&Ms'е

## *ДЗЯЖУРНЫ*

Учора сонечна было на дварэ,
а сёння – пахмурна-хаўтурна.
Хто возьме мяцёлку і хмары ўсе падбярэ?
Хто
сёння
дзяжурны?

Настаўнік крычыць, а я сяджу і маўчу,
чакаючы маланкавых феерверкаў.
Ну, я дзяжурны, але прызнавацца я не хачу.
Мне падабаецца гэты вэрхал.

* * *

Старыя косткі абрастаюць новым мясам.
Старыя пахі абвастраюць нюх і слых.
З пустых галоваў зробім маракасы,
каб з макракосму выгнаць духаў злых.

Саміх сябе спазнаем мы няхутка:
прасцей да зор, чым да сябе, дастаць.
Няўдала ступіш – і памер твайго абутку
набыткам масаў рызыкуе стаць.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПЛАСТЫ

Культурныя пласты
схаваныя пад намі
углыб на дзве вярсты
гнілымі дыванамі,

парванымі штанамі
са швом замест прарэх,
адкуль, нібы цунамі,
калісьці рваўся грэх.

Тут сківіцы кабыл
між сітам і дзяжою –
іржанне конскіх сіл
змяшалася з іржою.

Пакет з-пад малака,
балон з-пад карбафосу,
пагнутая кірка,
паўшланга ад насосу...

Магільны маскарад
мінулых пакаленняў –
сівы кангламерат
культурных наслаенняў.

Гніе кампост густы –
аж пахі казкі баюць.
Культурныя пласты
пад намі ажываюць.

## ФІГВЕДА

Ёсць старая святарная кніга пад назвай Фігведа.
Яна дасць на любое пытанне грунтоўны адказ.
Ты не маеш яе? Папрасі ў сваяка ці суседа
і займі гэтай мудраю кнігай увесь вольны час.

Вось крыніца душэўных даброт, разумовае працы –
замяняе сабой яна тысячы створаных кніг.
І навошта кудысьці імкнуцца, пра штосьці пытацца,
калі фіг яго ведае, фіг яго ведае фіг...

Шмат народу жыццё пражывае паводле Фігведы –
прэпарат з ейных літар святых цыркулюе ў крыві,
а на скуры ад гострых ін’екцый нябачна і следу...
Шмат народу жыве па Фігведзе – і ты пажыві.

Кніга гэтая ўсцешыць, адорыць спакоем і сілай
і ключы падбярэ да старых запаветных замкоў.
І калісь будзе так, як здаўна чалавецтва прасіла:
запануе над намі Фігведы адвечны закон.

## АСАБІСТАЯ ПРАСТОРА

– Паночку, а паночку,
у вас такі прыўкрасны шнар на шчацэ!
Нездарма кажуць:
“Шнары мужчыну ўпрыгожваюць!”

– А ў вас, чароўная пані,
так файна глядзяцца цені вакол вачэй!

– Гэта – не цені, мой паночку.
Фінгалы гэта, фінгалы.

– А, добра, пані,
вы з фінгаламі так цудоўна глядзіцеся,
што вам ніякія цені не патрэбныя!

– А ў вас, мой дарагі спадар,
такі мужны чырвоны нос,
ён ідэальна спалучаецца са шнарам на шчацэ!

– А ў вас, мілая мадама,
не стае на сукенцы гузікаў –
гэта выглядае так эратычна,
што Дольчэ ды Габана абзайздросцяцца.

– А вось гэтая прапаленая дзірка на плячы вашага пінжака...
Яна так пасуе да хлебных крошак у вашай барадзе,
мой любы!

– Гэта не проста крошкі.
Гэта наша сённяшняя вячэра, мая пані!
Ласкава запрашаю!

– Ах, паночку, я да глыбіні душы кранутая
вашай шчодрасцю!

– А я проста млею ад вашай прыгажосці,
о яснавяльможная сяньёра!
Вашыя чаравікі так вытанчана прадзіраўлены,
што бачны ўвесь ваш цудоўны педыкюр!

– Гэта не педыкюр, мой саколік,
гэта я нагою ў мазуту ўлезла!

– Ды што вы, што вы, мая ластаўка,
вашыя пазногці пачарнелі як нельга дарэчы –
цалаваў бы і цалаваў!
(Пад гарэлку добра пайшло б!)
А гэты каўтун у валасох –
ён проста надае вам шарму!
Вы такая чароўная, мадам!

– А вы... Вы проста рыцар маёй мары!

– А як вы думаеце, шаноўная пані,
чаму ўсе гэтыя пасажыры
паадыходзілі ад нас на пяць крокаў
і неяк дзіўна паадварочваліся?
Насы пазаціскалі ды паадварочваліся?

– А гэта, мой даражэнькі,
таму што яны, як у гэтай,
як яе там, Амерыцы
паважаюць нашае права
на асабістую прастору!
Да таго ж, яны бачаць,
што мы адно аднаму сімпатызуем
і хочуць пакінуць нас тэт-а-тэт.

– Якія ж прыемныя, выхаваныя паны і паненкі!

– О так, мой анёльчык, так!..

## *THE URBAN GIRL*

Крочыць дзяўчынка і ліжа марозіва,
а на марозіве дым асядае,
дым ад гарэння прадуктаў гніення,
дым ад гніення прадуктаў гарэння,
дым ад прадуктаў завода хімічнага,
што за калючым дротам хаваецца,
міма якога праходзіць дзяўчынка,
крочыць і ліжа, і ліжа марозіва.

Сонейка свеціць. Асфальт распаляецца.
Па-над дзяўчынкаю пыхкаюць коміны.
Пыхкаюць трубы завода хімічнага
разам з заводам пластмасавых вырабаў,
аўтамабільным, рысорным і трактарным,
вінна-гарэлачным і радыятарным.
Попел і пыл вывяргаюцца з комінаў,
круцяцца, лётаюць па-над дзяўчынкаю
і асядаюць ёй на марозіва.

Толькі дзяўчынку гэта не торгае,
толькі дзяўчынка ідзе, усміхаецца,
дрэвам і птушкам падміргвае вочкамі
і па-ранейшаму ліжа марозіва.

Вось адрываецца кропля марозіва
і на каленца дзявочае падае.
“Ну дык нічога, адмыюся ў возеры”, –
кажа дзяўчынка і ліжа марозіва.
Ну дык нічога, што возера бруднае,
доўгімі трубамі злучана з нафтавым
складам і станцыяй тэхабслугоўвання,
смеццеправодам і каналізацыяй.

Неяк чатыры сяброўкі вясковыя
ў госці да гэтай дзяўчынкі прыехалі,
трошкі паветрам сталічным падыхалі –
і апынуліся ў рэанімацыі.
Ды не такая дзяўчынка з марозівам –
тут яе дом, тут яна нарадзілася
і да прагрэсу тэхнічнага звыклася –
дзеўкі вясковыя хай абзайздросцяцца!

Крочыць дзяўчынка сваёю дарогаю,
крочыць, у мары свае акунутая
і не звяртае ўвагу на дробязі,
а інтэнсіўна ліжа марозіва.

Ліжа і смокча прагнымі вуснамі
і апантана кавалкі адкусвае –
так паглынае шалёна марозіва,
што забываецца нават на возера.

Ліжа яна і нарэшце далізвае,
палачку з фанцікам кідае ў сметніцу,
крочыць у сквeрык, вітаецца з хлопцамі.
Тыя ўручаюць ёй новую порцыю.

## УСЁ АДНОСНА

усё адно – усё адносна
усё адносна ўсё адно
адносна ўсё наўпрост і ўскосна
ці з дна яно йдзе ці на дно

адносна ўсё ўсяго адносна
усё адносна да ўсяго
што невыносна і выносна
уключна з вынасам мазгоў

усё адносна ўсё адносна
усё паспее нас дастаць
і нават тое што дзівосна
адносным хутка можа стаць

усё ў самім табе адносна
ад носа і да самых пят
і зычны гук і гук галосны
што вырабляе млосна-посна
твой гаварыльны апарат

## ЖРЭЦ ПРАФІЛАКТЫЧНЫХ МЕР

З мяне звісае аўтамат,
а ты стаіш на ўскрайку ямы.
Цябе ў жыцці маім зашмат,
мяне ў тваім – таксама.

Мы выйшлі разам пагуляць,
хоць ты і маеш нешта супраць.
Што ж, расстраляць – дык расстраляць,
а мне за гэта хлеб пацукраць.

У барацьбе за Еднасць Сфер
рука мая грубее.

Я – жрэц прафілактычных мер –
на страх усім плебеям.

Ты чуеш: я ўжываю мат
праз кожнае другое слова.
Цябе ў жыцці маім зашмат.
Дык я заб'ю цябе. Часова.

### ***КАМПЕНСАТОРЫКА***

Што толькі дактары ні лечаць:
раўняюць ногі, карэктуюць твар...
Камусьці прышываюць галаву на плечы –
за нервам нерв, за капілярам капіляр.

Але камусьці ж і не прышываюць –
што ж, не ўва ўсіх знаёмы ёсць хірург.
Вось так яны жыццё і пражываюць –
без галавы, затое з сілай ног і рук.

Іх песні з прагаю маторнаю
гучаць зусім не праз раты.
Магчымасці кампенсаторныя
спрыяюць запаўненню пустаты.

* * *

Памёр добры чалавек.
Сёння – пахаванне.
А я сяджу і думаю:
ісці туды, альбо не йсці?
З аднаго боку,
я вельмі паважаў нябожчыка,
а з другога боку –
мне дасюль не верыцца,
што ён памёр.
Вось жыў, жыў – і хоба!..
Не, такога не можа быць!
Якое пахаванне, вы што?!
Лепей я заўтра запрашу яго
на каву.

* * *

Я ўзброіўся падзорнаю трубой
дляназірання за самім сабой.

Ды, сутыкнуўшыся з сабою лоб у лоб,
я зразумеў: патрэбны мікраскоп!

* * *

Піянеры роўна, правільна
сталі дружнай грамадой
у чарзе ў басейнік плавальны
за дзядулем з барадой.

Той дзядок – асоба значная:
кажа ўсім, што ветэран,
ды пры тым – увесь накачаны
і гатовы на таран.

Быў знаёмы нават з Леніным,
дзесьці з кімсьці ваяваў,
пакаленні з пакаленнямі
палітычна падкаваў.

Дзед блішчыць узнагародамі:
тут і зоркі, і крыжы.
Медалі ўсе са штрыхкодамі,
бо, напэўна, з-за мяжы.

Піянеры ж не адчэпяцца:
– Раскажыце нам пра Марс!
І з ягоных словаў лепіцца
дзён мінулых трагіфарс.

Але вось чарга сканчаецца,
прастаяўшы тры гады.
Піянеры раздзяваюцца,
падыходзяць да вады.

Тапкі кінуўшы пад лаваю,
прыклад дзед усім падаў:
ён нырнуў...

...І толькі плавала
па паверхні барада.

* * *

Мы верым: прамільгне стагоддзяў пяць –
і час нарэшце прыйдзе новы,

калі на вуліцах зазіхацяць
Антыдзяржаўныя Ўстановы.

Мы заваюем сінь і гарызонт,
адкінем прэч усё, што нам абрыдла,
і злучацца ў адзіны дружны фронт
Інтэлігенцыя і Быдла.

Мінуць чароўныя стагоддзяў пяць –
мы Плён Эпохі выльем у жалезе.
Не застанецца нам чаго здзяйсняць –
і будзем марыць колькі ўлезе.

## *ІГРУША*

“Чалавек паходзіць ад малпы”, –
прыгадваць я Дарвіна мушу,
калі караскаюся не на Альпы,
а на сваю старую грушу.

Альпінізм не выходзячы з саду –
пілаванне старога суччa.
Рукі, ногі, піла – вось і ўсе прылады.
Унізе – двор, хлеў і будка сучая.

А груша з мяне смяецца,
трасучыся кожнай галінай.
Квецень белая вось-вось сарвецца
і абрынецца снежнай лавінай.

## *ПАДМУРКІ МАРНЫХ НАДЗЕЙ*

...Можна ў пошуках сэнсу жыцця
перaтрэсці ўсе антрэсолі –
недзе знойдзеш скамечаны сцяг
паліняльі, паедзены моллю.

Сцяг дзяржавы няіснай даўно,
эфемернай, як шар надзіманы,
прамільгнулай у нейкім кіно,
ды і тое недаздыманым.

Ёй ужо не паўстаць з руін
на Падмурку Марных Надзей.
Колькі ў свеце такіх краін?
Верагодна, больш, чым людзей.

## *ЛУСКА*

Бывае так, што і рыбам
калісьці надакучвае вада
і ўзнікае жаданне стаць птушкамі
ды ўзляцець высока ў нябёсы.

Але для гэтага неабходна
набыць новую вышэйшую адукацыю
ці, прынамсі, закончыць
спецыяльныя курсы –
вядома ж, платныя
і, мала таго, вельмі дарагія.

А якія грошы ў простых рыб?
Хіба што круглыя лускавінкі,
што могуць зіхацець на сонцы,
быццам срэбныя й залатыя манеты.

Магчыма, яны зведаюць інфляцыю
і іх не хопіць на здзяйсненне мары...
Але што яшчэ застаецца рабіць
гаротным недарыбам-недаптушкам,
калі страчваць няма чаго,
акрамя ўласнай лускі?

## *ЛІШНІЯ*

Замітусіліся лішнія людзі:
нешта няладнае ў іх каралеўстве –
лішніх вакол назбіралася рэчаў
шмат, і за імі нічога не бачна.

Лішняя мэбля, посуд, анучы...
Лішнія стосы, звалкі ды кучы...
Вольнага месца не засталося,
у трэцяга лішняга каб пагуляцца.

Хочаш спакою – спакою не будзе:
знекуль даносяцца лішнія гукі,
і нават лішніх рук не хапае,
пазатыркаць каб лішнія вушы.

Лішнія ногі нясуцца імкліва,
каб уцячы, а куды – невядома.
Ног тых так многа паадрастала,
што немагчыма імі спыніцца.

Шпарка мільгаюць лішнія рухі.
Страшна хадзіць сярод іх – заблукаеш.
Дзіва, што маючы лішнія вочы,
лішнія рухі ўсе не адсочыш.

Лішнія думкі мазгі распіраюць –
ажно сціскаюцца лішнія зубы.
Лішнія мары ды летуценні
дзіка даводзяць да галюцынацый.

Вось бы напружыць лішнія рукі,
павырываць імі лішнія ногі!
Мабыць, пасля такой працэдуры
лішнія рукі і самі адсохнуць!

Лішнія людзі такога не зробяць:
гэта для іх – як самазнішчэнне.
Горш за ўсё лішняе прыкра і страшна
страціць сваю відавую адметнасць.

Лішніх людзей развялося залішне,
як і належыць у лішнім грамадстве.
Але цяпер уявіце, што будзе,
калі туды трапіць нехта нялішні?

* * *

Мы дыфірамбы ўласным траўмам
пяем – вось так наш дух жыве.
Усе мы стукнутыя шлагбаумам
па галаве.

Аматары высокай хуткасці,
мы тармазім занадта позна.
Напэўна, праўда – не ў адсутнасці
маны, але ў страсенні мозгу.

## *Я ЧУЮ ГУКІ НІ ПРА ШТО*

Я чую гукі ні пра што,
хоць марыў жыць паразнастайней.
Я – нібы конь у паліто
перад зачыненаю стайняй.

Я чую гукі ні пра што –
здаюцца словы ўсе пустымі.

Бы пад магільнаю плітой
жывое сэрца гасне-стыне.

Я чую гукі ні пра што,
ад іх хаваюся ў зацішак.
Гуляць не хочацца ў лато
са згубленай паловай фішак!

Я чую гукі ні пра што –
усё вакол занадта проста.
Хоць мог бы жыць і на ўсе сто –
жыву на мінус дзевяноста.

Я чую гукі ні пра што,
у кожным гуку – недарэчнасць.
Чаму ж такая некаштоў-
ная мая дарога ў вечнасць?

Не едуць па шашы аўто,
у лесе вымерлі маньякі.
Я! Чую! Гукі! Ні! Пра! Што!
А вы не чуеце ніякіх...



дэбют

Даша Бялькевіч



...Цела – фон.
Для гульні ў сЭксафон....

# Кветкі і цыгарэткі

## *НЕ МУЗЫКА*

Я глядзела на свет,
А трэба было глядзець пад ногі,
Каб не спатыкнуцца і не расцягнуць звязкі.

Спачатку прывязкі, пасля перавязкі,
Тынкоўкі-замазкі, адмазкі,
Бязглуздыя казкі...

Зноў маўчыць тэлефон.
Цела – фон.
Для гульні ў сЭксафон.
Гэта проста джаз...
Jazz for pleasure
Jazz for fun
А пасля – ў цэ-ла-фан,
Выкінуць,

І абавязкова сказаць што-небудзь суцяшальнае,
І пажадаць поспехаў.
Дзякую. І Вам – усяго добрага...
А злое – я пакіну сабе
І пастаўлю, як сувенір на палічку.
Спадзяюся,
на іншым інструменце
Вы будзеце меней фальшывіць.

### №2

Ці то помста, ці жарт – не ведаю,
Гісторыя паўтараецца.
Лёс, што было тваей мэтаю?
Ці ты хмурышся, ці ўсміхаешся?
Другі шанец, другая спроба –
Памылкі патрэбна выправіць?
Лёс, я прымаю тваю прапанову:
Перапісаць, чорнае выбеліць.
Час з нас смяецца. Неверагодна.
Ільецца жыццё халоднай вадой.
Ты можаш ісці куды заўгодна,
Адкажы: мне ісці за табой?

* * *

Не спявай
Для мяне
Ніколі

Я не буду
Слухаць
Ніколі

Нават без языка
Ты для мяне
Спяваеш

Нават без вушэй
Я цябе
Чую

У маіх снах
На тваіх
Скронях
Попел

Я яго здзьму
Калі будзе
Бой
Я катанай
Стану
Самурай
Пакалечаны
Усходам

### *КВЕТКІ І ЦЫГАРЭТКІ*

зрэзанае сцябло кветкі
пахне смачней за бутон
моц цыгарэткі ў месцы
каля фільтра

трымаешся
за левы бок бо боль
усміхаешся
кветка надламана
зараз пальецца чароўны пах
кашляеш так
што здаецца лёгкія
выскачаць на падлогу
разумееш што
жыццё вучыць цябе
любіць
бутоны жывых кветак
і стоячы на прыпынку
не спяшайся дапальваць
паедзеш на наступным
а лепей хадзі пешкам

### *МУРАШЫ*

Калі ў мяне боль ці сум на душы,
Мяне прыходзяць суцяшаць мурашы.
Яны выпаўзаюць са сваіх хованак,
Танюткія, бурштынна-чырвоныя,
Дакранаюцца вусікамі да маіх пальцаў,
Абдымаюць ледзь бачнымі ножкамі,
Прыносяць травінкі і дробкі,
Водзяць ланцужковыя карагоды,
Становяцца ў клін і шэпчуць:
“Мы пераносім рэчы, у 10 разоў цяжэйшыя за нас,
І ты зможаш стаць цяжкаатлетам.
Мы будзем тваімі трэнерамі,
На алімпіядзе выйграеш золата”.

Мурашы мяне любяць, нягледзячы на тое,
Што я ў дзяцінстве любіла
Смаліць запальнічкай
Іх братоў, якія жылі пад ганкам.
Яны мне кажуць,
Што мае чалавечыя звычкі –
Прыдуманыя, што я – мураш,
Я – крайні правы воін...
Калі ў мяне боль ці сум на душы,
Я ем салодкае
І мурашоў частую.

### *ПАДАРУНКІ*

Што рабіць з падарункамі
Ад мужчыны, які ажаніўся
З іншай жанчынай?
Вяселле, пасля наваселле
Гадавіна шлюбу, дзіця нараджэнне...
А я сяджу на падлозе
І перабіраю падораныя табой рэчы.
Рэчы – сустрэчы.
У рэчах – пустэча,
І без рэчаў – пустэча.
Дык што рабіць з падарункамі?
Выкінуць?
Дык што рабіць з сабою?
Выкінуць?
У цябе свая Вера,
У мяне – свая.
Толькі прашу
Не насі шэры,
Шэры табе не пасуе.
У астатнім у цябе бездакорны густ,
Асабліва на ўпрыгожванні:
На брошкі, музыку, кампліменты
І МУЗ.

### *ДЗЕЦІ*

У дзяцінстве
Я гулялася з палкамі,
Гойсала са скакалкамі,
Марыла стаць русалкаю.
Крычала: “Мама, скінь мячык!”
Мяняла аловак на значак,
Карміла батонам качак.

Я не ведала, што такое адгезія,
Не чытала грэбанае паэзіі,
Лезла на дрэвы, падала, рагатала гарэзліва.
Зараз – дзеці падаюць з дахаў,
Дзецям зрывае дах.
Маленькія кволыя птахі,
Але іх не спыняе страх.

А ты, модны паэт,
П’еш у кафэ свой латэ
Давай, выправі: “*ла*тэ”
І запхай у вершы яшчэ болей матаў.
Цябе дзеці чытаюць, паэт.
А ты не спыняеш свой вінегрэт
Са словаў, думак і сказаў.
І не прымаеш абразаў,
Што ты – ну ніякі, паэт.
Дзеці табой хочуць стаць,
Каб выступаць і чытаць.
Толькі зусім не лёс,
Толькі зусім не час.
Ты прыдумляеш радкі:
“Вочы колеру антрацыту”,
Так прыдумай іншую рыфму
Акрамя “хворага суіцыду”.
Ты пішаш свае палёныя вершы
Вось такой даўжыні,
А дзеці падаюць з вышыні,
Дзеці падаюць з вышыні,
Дзеці падаюць,
Дзеці падаюць!
Дзеці!
Дзеці...

Джузэпэ Манфрыдзі



...каб здолець напісаць добрую старонку,
патрабуецца яшчэ і пэўная ўдача...

# Пейзажныя замалёўкі

***Фрагменты кнігі***

*Публікуецца з ласкавай згоды аўтара.*

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны ДАНІЛЬЧЫК.*

## Ва ўнісон

"Я пражыў з гэтай жанчынай шаснаццаць гадоў, і ніколі, кажу вам, ніколі, не бачыў, каб яна міргала. Ніколі!.. Спачатку, я казаў сабе: "Немагчыма" і вінаваціўся ў верагоднай няздольнасці гэта заўважыць, але з цягам часу быў змушаны пераканацца, што сапраўды яна ніколі не міргае. Яшчэ сёння, калі паміж намі ўсё скончана, я пытаюся: сталася гэта прычынай ці вынікам яе ўласнай фатальнай нечуванай асаблівасці? Вы, што засталіся сябрамі абодвух, ну па шчырасці: што вы пра гэта думаеце?..." – Мы вам не скажам, што мы яму адказалі, але калі рана ці позна і вам здарыцца пачуць гэта ад яго, то вы добра зробіце, калі паведаміце яму, што асаблівасць, выяўленая ў каханкі, з'яўляецца дакладна такой самай, якую яна прыпісвае яму (калі праўда тое, што многія тут ад яе чулі): "Вы вольныя не верыць мне, але гарантую:

ваш сябар ніколі не міргае. Клянуся, ніколі. Абсурд, але праўда. Ён быў здольны гадзінамі глядзець на мяне, з цяжкасцю ўсведамляючы, што я з ім рабіла тое самае, і ніводнага разу я не бачыла, каб ён міргнуў. Бог мой, жудасная рэч. Супраць прыроды. Урэшце, падабаецца вам гэта ці не, вось што мяне падштурхнула да таго, каб пакінуць яго. Вы скажаце, што гэта вар'яцтва? Давайце!"

Тым не менш, хай вам не здаецца, што гэта і ёсць дзівацтва – ён тую жанчыну бясконца кахаў, а яна таксама кахала гэтага мужчыну і даволі доўгі час: шаснаццаць гадоў, аж пакуль, *ва ўнісон*, яны не вырашылі парваць стасункі, і кожны з упэўненасцю, што менавіта ён або яна гэтага захацелі. Прычына? Тая неспасцігальная, узаемная анамалія, якая на самай справе была блаславеннем іх блізкасці. Насамрэч на працягу шаснаццаці гадоў яны абодва міргалі мільярды разоў *у адное і тое ж імгненне*, забараняючы сабе глядзець на свет у той момант, калі другі маланкава ад яго закрываўся.

## Памаранчавы сад

Адзін падарожнік заблукаў у памаранчавым садзе. Дзіўнае месца... нагадвае лабірынт, бязмежны і без гаспадароў. Спрабуючы выйсці з яго, чалавек саслізгвае ў яму і ломіць нагу. Ва ўмовах, у якія ён патрапіў, няшчасны павінен скарыцца і дапусціць, што пакуль не паправіцца, любую надзею выйсці адтуль можна лічыць марнай. Калі толькі хтосьці не заўважыць яго. Але хтосьці – хто? Гэты памаранчавы сад – аазіс, акружаны пустыняй. А хто і калі пераадолее пустыню, каб дасягнуць аазіса, у якім нічога больш няма, акрамя памаранчаў і зноў жа пустыні? Другі падарожнік, вядома. Аднак у свеце, як мы ведаем, падарожнікі больш не прадугледжваюцца. Апошні, які застаўся, сядзіць тут з паламанай нагой. І нават калі б хтосьці з вышыні паглядзеў уніз праз неба, праз змрочную лістоту ў кропках ззяючых пладоў, то ніколі не раскрыў бы сакрэта гэтага беднага параненага, які можа з горам падняцца на ногі, але не здолее зрабіць нават маленькага кроку. Каб выжыць, такім чынам, яму не застаецца нічога, акрамя памаранчаў гэтага падступнага саду. Ён мае незлічоную колькасць памаранчаў, і памаранчы дазволяць яму не памерці ні ад голаду, ні ад смагі. Два дні чалавек харчуецца імі без наступстваў, але на трэці дзень усведамляе, што ідэя есці толькі памаранчы можа прымусіць яго звар'яцець. Як і таго, хто патрапіў у поўную самоту, маючы шчодрыя запасы ежы і толькі адную кнігу, і ў жаданні чытаць вымушаны вечна перачытваць сваю адзіную кнігу. Колькі гэта можа доўжыцца? Я кажу не пра яго цела, а пра яго галаву: колькі? Нават калі шмат, гэтага шмат усё роўна было б недастаткова. – На шчасце для яго, пацярпелы ў памаранчах мае багатую фантазію, якая дазваляе яму знайсці цікавы шлях да выратавання. "Дастаткова – думае ён – каб я еў гэтыя непазбежныя памаранчы, думаючы, што ем нешта іншае. Гэты вось, які я зараз хачу ўкусіць, напрыклад, можна ўявіць мясам курыцы. А вунь той, што я вось-вось выцісну сабе ў рот, добрым чырвоным вінам. Ну давай, паспрабую", – і так і стаў рабіць. Сродак эфемерны, але дзякуючы настойлівасці, чалавеку ўдаецца дасягнуць значных поспехаў у спалучэнні мастацтва пранікнення на вышэйшую прыступку сваіх фантазій, здольваючы нават закрануць надзвычайныя вяршыні віртуознасці, і чырвонае віно вельмі хутка робіцца не простым чырвоным віном, а ператвараецца ў шмат вінаў,

адрозных адно ад аднаго, самых каштоўных ураджаяў і разнастайных якасцяў. Тое ж самае адбываецца з ежай, калі ён робіць выгляд, што спрабуе яе смакаваць. Спачатку чалавек вычэрпвае сваю мізэрную памяць гурмана, узгадваючы і гатуючы смачныя стравы, аб якіх у яго засталіся ўспаміны, але спатрэбілася няшмат часу, каб ён перайшоў да страваў, якімі ніколі не частаваўся, і да рэцэптаў, якія ніколі не спрабаваў прыгатаваць. Наш пацярпелы падарожнік цяпер ужо настолькі абвыкнуў да сваёй нязвыклай практыкі, што часта даходзіў да капрызаў, дзівячыся нязвыклым нечаканым смакам або прадуктам (і гэта, калі падумаць, яшчэ больш незвычайна), якія здаваліся яму надта далёкімі ад яго густаў або дрэнна прыгатаванымі. Але вяршыняй такога вялікага саліпсізма, які прывёў яго да незадавальнення непажаданымі стравамі (хоць гаворка ўсё роўна ідзе пра памаранчы, але невядома пад што замаскіраваныя!), сталі размовы чалавека з самім сабою і абвінавачванні такога зместу: “Ты яшчэ перабіраеш?.. Дзякуй Богу, што маеш нешта паесці. Таму, нават калі табе не падабаецца, глытай і стаўся да гэтага, як да спосабу ацаніць вялікую разнастайнасць смакаў, існуючых у свеце”. – Галоўнае ўжо сказана. Самастойна ўдасканальваючыся ў такой небяспечнай дысцыпліне як уяўленне, чалавек здолеў харчавацца аднымі памаранчамі на працягу доўгіх месяцаў, насамрэч пераконваючыся (насамрэч? Але з якога боку гайдаецца сапраўдная рэальнасць? Звонку ці ўсярэдзіне?)... ва ўсякім разе, пераконваючыся ў тым, што ён смакуе ўсю разнастайнасць гастранамічнай сусветнай культуры. Мексіканская і сенегальская, міжземнаморская і лапландская, трапічная і тыбетская, французская і карэйская... нішто не было пад забаронай; і, абараняючыся ад пэўнай формы вар’яцтва, каб можа быць зарабіць сабе іншую, ён дае такім чынам сваёй беднай назе час, каб цалкам загаіцца. Мноства памаранчаў узмацнілі яго. Ён поўны вітамінаў. Стан яго здароўя можна назваць сапраўды выдатным. Нарэшце падарожніку не застаецца нічога іншага, як працягнуць шлях з выпрастанай спінай і знайсці спосаб выйсці з гэтага памаранчавага саду, які, здавалася, стаў яму родным домам, не здолеўшы стаць яго магілай. Пасля, дасягнуўшы золата выдмаў, таму, хто выжыў, не застаецца іншага, як заваяваць горад. Задача сама па сабе цяжкая, але грандыёзнасць той небяспекі, якой ён пазбавіўся, робіць яе мізэрнай. – Цяпер, калі наш выведнік вярнуўся да свайго заўсёднага жыцця, ён пачаў харчавацца сваім звычайным чынам. Падумайце, аднак, пра такую цікавую рэч: калі ён запускае зубы ў першую ж курыцу, яго ўяўленне непазбежна выклікае вобраз памаранча: таго памаранча, што праходзячы ў яго фантазіі адваротны шлях, прыводзіць яго да першага памаранча, ператворанага пэўны час назад, у курыцу. “Ну і добра, – супакойвае сябе чалавек – гэта значыць, што курыцу прыбяром са стала”, – і налівае сабе выпіць. Аднак і віно выклікае ў яго свядомасці памаранч; не той, што раней, асцярожна!, а другі памаранч, які ў любым выпадку ўсё роўна – памаранч. Памаранч з памаранчавага саду пустыні, выціснутаму соку якога быў нададзены смак віна. “Такім чынам, мне давядзецца адкінуць і віно. Шкада”.

Ці павінен я штосьці дадаць? Я меў на ўвазе пад гэтым, што вы кемлівыя, і ўсё ўжо зразумелі. На працягу месяцаў, праведзеных у памаранчавым садзе, ніякая страва, ніякая магчымая форма харчавання не выключалася з няспыннай плыні яго кулінарных уяўленняў. Нішто, акрамя памаранчаў.

Чалавек спрабуе ўкусіць адзін з іх. Бог мой, ён зусім не мае смаку памаранча. “Але я не хачу харчавацца толькі памаранчамі. Я доўга не працягну,

я ведаю. Гэта значыла б мой канец. Ніякае чалавечае цела не магло б доўга вытрымліваць гэтага. Але хвіліну, паразважаем. Калі ўяўленне мне ўжо дапамагло адзін раз, то можа зрабіць гэта зноў; дастаткова перавыхавацца і ўдасканаліць маё майстэрства. Такім чынам... Памаранч ператварыўся ў курыцу... а таму цяпер сапраўдная курыца прыводзіць мяне да памаранча... дык тут сапраўдная матэматыка! Калі смак, якія выклікаюць у мяне згадкі пра курыцу, гэта смак памаранча, у чым праблема?... Дастаткова пераканаць сябе, што гэта сапраўды памаранч (як той, што я еў тады), каб зноў ператварыць яе (як тады я натрэніраваўся рабіць вельмі добра) у курыцу, якую я на самой справе ем. Усё заключаецца ў тым, каб пераканаць сябе, урэшце, што курыца, якую я ем, – не курыца, а памаранч. Так, нарэшце, я змагу пасмакаваць курыцу, ядучы сапраўдную курыцу, і не дазваляць разбураць сабе страўнік ад лішку кіслаты, якая назбіралася б у мяне ад лішку памаранчаў". – Цікавы момант усёй гэтай гісторыі (менш штучнай, чым яна магла б здацца) ў тым, што падобнае разважанне чалавек ніколі не рабіў, і што шматлікія ўскладненні ніколі не атрымлівалі ў яго мове нават кроплі таго сінтаксісу, якім мы іх упрыгожылі... Не, ні ў якім разе. Уся нудоціна, заблытаная тут у сусальнае золата тэзісаў і антытэзісаў, папросту супала, *у рэальнасці*, з фасфарэсцэнцыяй ядравых памераў... з металінгвістычнай успышкай, здольнай бліснуць на ўзроўні атамаў у ментальнай дузе нашага падарожніка. Насамрэч, чалавек, сядаючы за стол адразу пасля вызвалення са свайго памаранчавага саду, укусіў курыцу, якая яму сапраўды падалася курыцай, – з першага моманту. Або лепш: амаль з першага моманту. Вось, гэтае "амаль" – неабходнае. Больш за тое: фундаментальнае. Яно адпавядае найдрабнейшай прасторы (якая з'яўляецца і прасторай часу), за якую змагла адбыцца ў маланкавых успышках хваляванняў і хітротаў, спрэчка, што з пэўнай педантычнасцю мы павінны былі выкласці і разгарнуць на шырыню цэлага параграфа.

## Кінематограф

Ён зарабляў пару лір, націраючы да бляску прыбіральні адзінага ў гарадку кінатэатра. Частка яго аплаты, у дадатак да мізэрнага заробку, заключалася ў магчымасці заходзіць у залу і глядзець фільмы. Што ён заўсёды і рабіў кожны дзень па абедзе. Але паколькі ён быў прыдуркаватым, то прыносіў з сабой крэсла, ставіў яго насупраць партэра і сядаў там у пульсуючым цені насупраць асляпляльна белага вока праектара, і калі гледачы смяяліся, ён таксама смяяўся. Калі спынялі дыханне, ён таксама так рабіў. Калі пляскалі ў далоні, ён таксама пляскаў. Калі маўчалі, ён маўчаў, а калі сварыліся, ён таксама рабіў тое самае. Штодзённа: за крок ад выхаду, крыху ўбаку, заўсёды спінай да экрана. Лічачы, што галасы з плёнкі былі сваркаю кагосьці звонку і што музыка далятала ад нейкага свята на плошчы. І вось так – на працягу трыццаці гадоў, ні разу не паглядзеўшы ніводнага фільма і пераканаццы, што гэта і ёсць кіно.

## Адначасовая прысутнасць

Гісторыя апошняга пацыента, якога паклалі да нас, асабліва жахлівая. Вытанчанае пяро несумненна змагло б вырабіць з яе чорнае апавяданне вышэйшага гатунку, а я магу толькі пераказаць яе і спадзявацца, што

літасцівы лёс падкажа мне словы адпаведныя колерам яго няшчасця (я заўсёды лічыў, што каб здолець напісаць добрую старонку, патрабуецца яшчэ і пэўная ўдача. Пацвярджаю гэта). Я раскажу вам пачатак гісторыі (які, коратка кажучы, і складае яе сутнасць) так, як нярвова заікаючыся ад самага пачатку, нам у большай ці меншай ступені даў зразумець яе ён. Два дні таму, вяртаючыся дадому з працы, наш знаёмы заходзіць на кухню і цалуе ў шыю жонку, якая збіраецца гатаваць ежу. Спыняецца на некалькі хвілінаў каля яе, каб абмеркаваць некаторыя складанасці, якія ўзніклі на працягу дня і якія жанчына ў той момант, здавалася, здольная была вырашыць найлепшым чынам. Ён чмыхае, у нечым яе абвінавачвае і, крыху нахабна і не да месца, узгадвае пра нейкага яе сваяка, выклікаючы яе злосць. Карацей кажучы, яны сварацца. Не варожа, але настолькі, каб пакінуць у адным і ў другім тое паслягустоўе ад падзеі, аддадзенай на тое, каб найменей згадваць пра яе на наступны дзень. Цяпер яна маўчыць, настойліва паварочваецца да яго спінай, нярвова перастаўляючы нейкі кухонны посуд на пліце. Пауза перапыняе дыялог настолькі, што пакідае яго няскончаным але, адначасова, абвяшчае аб яго завяршэнні. Ён глядзіць на патыліцу жанчыны, якую кахае, і хацеў бы наблізіцца і палашчыць яе, абпаліць пальцы кучаравай хваляй яе рудых валасоў, што выбіваецца з-пад блакітнай хусткі, туга зацягнутай на галаве. Рука гэтага жадае, але дробязнасць раздражнення не дае ёй зрушыцца з месца. Мужчына яшчэ не зняў плашч і трымае тэчку ў руках. Ён лічыць за лепшае не працягваць гэтае бессэнсоўнае стаянне, ад якога адчувае сябе прыгнечаным, і рухаецца ў бок спачывальні. Святло ў пакоі запалена, і гэта яшчэ адна прычына, што падпітвае і ўзрошчвае крыўду, якая яго атручвае. "Пасля скардзіцца на тое, што трачу я!" – вось-вось збіраецца сказаць ён уголас, калі ў праёме дзвярэй бачыць тое, што прымушае яго сэрца скамянець: бачыць як яна, яго жонка, тая, што знаходзіцца ў кухні і гатуе вячэру, сядзіць на крэсле ля вакна. Яна павернутая на тры чвэрці. Ён можа заўважыць у момант лёгкага кіўка галавы ззяючыя прыгладжаныя валасы з неспакойнымі дрыготкімі кудзеркамі. Яна сядзіць з блакнотам у руках і нешта піша. Заўважае яго прысутнасць і спяшаецца скончыць, не адрываючы вачэй ад ліста. "Каханы, я нават не чула, як ты зайшоў. Там усё гатова. Павячэраем, калі захочаш". Тэчка падае на падлогу і мужчына зноў бяжыць у кухню, дзе сцэна, ад якой ён толькі што сышоў прэч, ніякім чынам не змянілася. Жанчына, павернутая спіной, нешта памешвае на патэльні. Ён зноў бяжыць у спачывальню: жанчына цяпер стаіць, яна схавала блакнот і разглядвае ў люстэрку запэцканы лоб. Ён стогне: "Выходзь адтуль, ідзі да мяне, хутчэй!", але яна, як і тая другая, не паварочваецца і працягвае рабіць тое, што робіць. "Дзеля ўсяго святога, прашу цябе, хутчэй!" Жанчына смяецца, паказваючы пальцам на адбітак свайго мужа ў люстэрку. "Ну што з табой адбываецца? Здымі гэтае паліто. Што такое? Ты збіраешся вячэраць так?", і прыхарошвае валасы, не рухаючыся з таго месца, дзе стаіць. Ён вяртаецца адтуль, кліча сваю жонку, просіць яе павярнуцца, але яна, зачарсцвелая ў сваёй крыўдзе, трасе плячыма, працягваючы рабіць тое, што робіць. Небарака адступае назад, гайдаючыся, пакуль не губляе яе з вачэй і, слізгаючы, сядае на канапу ў гасцёўні, вырашыўшы заставацца там, пакуль не адбудзецца нешта такое, што падкажа яму ў які сусвет ён патрапіў. "Не я павінен вырашаць, хто з іх дваіх сапраўдная: тая, што ўжо прыгатавала вячэру, або тая, што яе гатуе. Тая, якую я пакрыўдзіў, або тая, што мне ўсміхаецца. Мне няма розніцы. Я

кахаю сваю жонку. Я кахаю тую і гэтую. Няхай свет выбірае, каторую зноў выправіць мне насустрач". Ён заплюшчвае вочы і націскае рукамі на павекі, быццам бы сціскаючы вар'яцтва гэтай падвоенасці, увасобленай у бачным. Ён думае, што немагчыма знаходзіцца ў двух краявідах адначасова. Толькі чараўнікі гэта могуць. Толькі паэты. Толькі вар'яты. Ці можа мёртвыя. *Ці той, хто іх бачыць.* Адсоўвае далоні, пераводзіць дух і глядзіць. Над парогам кухні – яго нерухомая жонка, павернутая спінай. Над парогам спачывальні – яго жонка, нерухомая, павернутая спінай. Мужчына ўстае, пераходзіць залу. Дрыжачы, падыходзіць, каб палашчыць спіну адной, пасля, дрыжачы, спіну другой. Тое, што ён бачыць, можа нават расхваляваць яго. Ён накіроўваецца да камоды, адкрывае шуфляду, бярэ нажніцы і адразае кучаравую пасму з патыліцы ў кухні і адразае гладкую пасму ў спачывальні. – Я скончыў. І з гэтымі дзвюма рудымі пасмамі валасоў, адной курчавай і адной гладкай, ён з'явіўся да нас. Таму, хто яго прыняў, ён усяго толькі і сказаў: "Памажыце ёй. Яна не ведае, як вярнуцца да мяне". Спіць тут з пазаўчарашняга дня. Пакуль мы памясцілі яго ў аддзяленне вельмі спакойных, у пакой з яшчэ чатырма пацыентамі. Ён не робіць нічога іншага, як бесперапынна гайдае галавой справа налева і злева направа. Здаецца, ён нават і не заўважае крыкаў, якія далятаюць з верхняга паверха, адтуль, дзе буйныя, што, калі разыходзяцца, робяцца сапраўды страшнымі. Ён толькі чакае – так паўтарае, што нехта зойдзе да яго, каб сказаць: "Вашая жонка паправілася". – У яго няма з сабою дакументаў. Пакуль ніхто яго не шукаў, і мы не бачылі ніякіх навінаў аб пошуку нядаўна зніклай асобы. Паліцыя не атрымлівала заяваў на гэты конт і з сённяшняга дня распачала расследаванне. Мне тым часам даручылі напісаць нататку пра ўсю гэтую справу дзеля таго, каб газеты таксама пра гэта ведалі і маглі ім заняцца.

## Без старонак

Ён піша раман. Больш за тое: ён толькі што скончыў пісаць раман. Адзіны момант: ён меў толькі адзін лісцік паперы, каб зрабіць гэта. Нават не лісцік. Марку. Усяго толькі марку. Ён меў толькі гэта, а раман патрабаваўся тэрмінова. Нельга было і падумаць, каб адмовіцца ад яго. Таму ў яго не было іншай альтэрнатывы, як пісаць адну літару на другую. Не было іншых магчымасцяў – і так ён і зрабіў. І вось твор скончаны. Ён увесь тут: у адной страшэнна чорнай кропцы, якая ёсць сэрцам маркі. Найбольш густая кропка з усяго свету. Калі б ён мог, то цяпер бы панёс паўсюль гэтую мізэрную часціну, абвяшчаючы кожнаму: "Гэта напісаў я! Гэта мая кніга. Я прысвяціў ёй гады. Бачыце яе? Яе напісаў я!"

І меў рацыю. Яго твор існуе. Напісаны ад рукі, якая ведала не радок, а толькі настойлівасць цела, што расло над сабой самім.

Можа быць аднойчы дзёрзкія даследчыкі з дапамогай ультрафіялета змогуць дасягнуць безданяў, сціснутых у адным віры, і аднавіць бясконцыя слаі, у якіх твор суіснуе ва ўсіх сваіх частках, акрамя часу, што спатрэбіўся дзеля яго стварэння. У тым, што не відно. Няма даўжыні – няма працягласці.

Можа быць аднойчы людзі здолеюць здабыць неабходныя прылады, каб тое, што ён напісаў, змагло быць перапісана.



# “Госпадзе, ці Ты маеш насоўку?”

***Творы гасцей фестываля “Вершы на асфальце” памяці Міхася Стральцова***

**Мар’юс БУРОКАС**



***ЛЮТЫ***

Ліжа сабака сцюжы
мне рукі. Камень
і снег. Галовы дзяцей
бялеюць за шыбай. У трубах
стыне вада, дрэва колецца,
валіць пара, святло
мацае шкло перламутрам.
Цяпер кожны стан
у стане змяніцца. Час,
нібы вецер ля мора –
прадзьме, апаліць,
растане. Мне так не ставала
гэтае солі, тваёй
скуры, што цяплее пад далоняй,
шурпатых губ

чыстай прысутнасці

* * *

*для дочак*

сяджу
паміж двух сонных
цельцаў

гэтай дала
і гэтай дала

імёны агню і вады
панна сарока

пад ейнай востраю брамай
заўтра
пакрочым
у дзень

азірнуся
цераз плячо –

залатыя латы
залатыя
ручкі і ножкі

чысты ялей
з фіміямам

і дзве
светлыя галавы

------
ужо аддаляюцца

## ***ГАРАДЖАНЕ***

***(рэшка старога верша)***

у горадзе карнавалы
і песні. ніхто не чакае
заўтра.

дождж. на вуліцах
цісканіна. каша
хлюпае пад нагамі.

спехам пакідаем
кватэры.
нервова ўсміхаемся
набываем кілбасы
драўляныя лыжкі
і ліпкіх
пеўнікаў.

не глядзім
уверх. пазбягаем
вачэй. крадком
азіраемся. цягнем
дзяцей за сабой.

хто мы? мы гараджане
мы выйшлі на свята. бяззбройныя
хцівыя й хіжыя
ветлівыя й баязлівыя.

наша дабро – у куфэрках
у пятках нашыя сэрцы.

бо заўтра
(не, не, яго не будзе
не трэба думаць)
бо заўтра
зачыняюць браму
завешваюць
Божых Маці
Зрываюць покрывы.

бо заўтра
ўсіх нас падзеляць
на чырвоных
і сініх.

бо заўтра
мы ўчэпімся
бліжняму
ў горла.

## EASY RIDER

я ехаў бы ў цемры
аўтобусным полымем
паўз вакзал
поўны дахадзягаў бяссоння
паўз гарадскія ўскраіны
з акопамі
дзотамі
амбразурамі

ехаў спакойна
тлеючы
ў акварыуме агню
паўз лустачкі шматпавярховак
зубы і вочныя яблыкі
што бялеюць
у гушчэчы цямрэчы

бачыў бы
як пялёсткі гораду
сціскаюцца ў кулачок
як варушацца й віюцца
яго пясчаныя
падземныя карані

ехаў бы
аўтобусным полымем

усё далей
усё глыбей

у вусціш
гасціннай прыроды
ў вільготны прытулак
у буркатлівы мох

ехаў бы мерацць
халодную
мокрую
апранаху

легчы
тварам у гулкі купал

і выгарэць

* * *

чаго мне ніяк не выкашляць
з прасмоленых лёгкіх
на схіле яснага
жніўня?

свет астываючы
сцягваецца
праступаюць ягоныя швы
змычкі, скулы

святло амаль зрабілася пергамінам
зацукрылася й залегла

мне ўвечары цябе
ўсё меней

сядаем побач
глядзім
як туман выпаўзае з акопаў
пагоркаў

ціхі, нібы твой подых
нібы наша цяпло

нібы пальцы
што не знаходзяць
адно аднаго

* * *

і навошта я караскаўся на гэтыя
рыштаванні веры
ап’янелы
ад позняга пераспелага
сонца
не наважваючыся ўвайсці
у сярэдзіну
дзе прахалодна і ціха?

мой бліжні
там не жыве

няма яго ў гулкай прасторы

між батальёнаў лавак
няма яго ў кнігах
няма ў лясным павуцінні

пусты і гладкі
сподак сусвету
барабан Зямлі
кругі
скамянелі
ад першага дотыку

хоць, здаецца, так мала
мінула
часу

кончык пальца
яшчэ вільготны

*Пераклад з літоўскай мовы Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

## Богдан ЗАДУРА



* * *

неба ў такім харастве
нібы ўсе буры далёка
а змеі шыпяць у траве
ц-цыклон і ты ў самым воку

бо радасць стане журбой
атрутнай слінаю іхняй
так сам гаворыш з сабой
а змей то шыпіць то заціхне

### ВОСЕНЬ

Слязлівыя лісты вяртаюцца дадому
бо адрасат залеве невядомы

### КАЛЫХАНКА

Твой Ахоўнік-Анёл калыханку
Вечарамі больш не пяе

А заснеш – бярэ тваю шклянку
І адбіткі пальцаў твае

Далікатна цераз хусцінку
Каб не сцерці радкоў што правіш

Аглядае паперу й машынку
І здымае адбіткі клавіш

## *SIC TRANSIT*

Валасоў красу залатую
Цень усмешкі ў двухзначным вершы

Што сямнаццаты век цалуе
Ператворыць у пыл дваццаць першы

Чвэрць стагоддзя бы ўдар бліскавіцы
Сонцакосае шчасце пабудзь

Залатая пчала з вачніцы
Паляціць куды крылы нясуць

## *FLY "LOT"*

Зашпіліце рэмень Вядома
Спінка крэсла ў належным стане

Хто скажыце чакацьме дома?
Я не ў стане Напэўна здані

Пішмашынка з аркушам чыстым
І пры ложку – поўная шклянка

Сустракаюць мяне ўрачыста
На аэрадроме світанку

## *[ПРАБАЧ, ШТО ЗВАНЮ НЕПАГОЛЕНЫ]*

Трохдзённай шчэццю на шчацэ
Расце жалоба – і дарма я
Сціскаю слухаўку ў руцэ,
Нібы руку тваю трымаю.

Бо вечнасць белай прасцiной
Накрыла рукi, твар, каленi.
Зямля прасела пада мной...
I, выбачай, не да галення.

## *[ЧАМУ Я НЕ ЛЮБЛЮ НОРВIДА]*

У Ньютана закон трывалы:
Нас цягне да крынiцы болю.
Ды памiж намi – iнтэрвалы
I цэнтрабежнасцi ўсё болей.
Бо прыцягненне – не ўзаема...
А толькi ў адзiн бок. Чаму так?
Быць сябрам любай. Плачу нема.

А ты пяеш... мой боль i смутак.

## *З вершаў першых хрысцiянаў*

* * *

Што ж, Госпад быў аратарам умелым:
прамовiў так, што Слова стала целам.
А бедным рыфмачам ламаць галовы,
як цела зноў ператварыць у словы.
Дарма складаем вершыкi свае:
няпроста выправiць, што Госпад сапсуе.

* * *

Ты быў народжаны, каб рухаць сонцы:
шаснаццаць дочак (пры адзiнай жонцы!).

## *СВЯТАЯ ПРАСТАТА*

Рассмяяўся Амур, лёс падставiў нагу:
з кiм магу – не хачу, з кiм хачу – не магу.

## *ПРАБЛЕМЫ З IДЭНТЫЧНАСЦЮ*

Твая шызафрэнiя – не хвароба:
згадай пра Аднаго – у трох асобах.

### ***ВЕРШЫК***

госпадзе божа
час пераможа

хамскую ўладу
спорт і эстраду

кліпсы і кліпы
ўсхліпы пад ліпамі

холад і полымя
подыюм з голымі

медныя трубы
хаўтуры і шлюбы

трэба працягваць, мой любы?

* * *

Слухаць голас свайго сумлення
слухаць голас уласнага сэрца
і чуць як сумленне згінае калені
а сэрца з цябе смяецца

### ***ПЯЦІДЗЕСЯЦІГАДОВЫ МУЖЧЫНА ГАСІЦЬ ЦЫГАРЭТУ (Попельная серада)***

я зайшоў сюды на хвіліну
так нібы папрасіць агню
пару слоў мінуламу ў спіну
у дзвярох з табой гаманю

смецце з хаты бо маеш звычку
хай жа венік даканчыць працу
з далані зрабіць папяльнічку
а пасля зусім вымятацца

сіла звычкі ніяк не кіну
дурата адна смех дый годзе
я зайшоў сюды на хвіліну
і сяджу палову стагоддзя

*Пераклад з польскай мовы Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

## Ала МІКАЛАЕНКА



### *КРЫГА*

шкло выпадае з вокнаў маіх
дзень што настаў танчэйшы за ўздых
ноч у пакутлівым цёмным бяссонні
з учорашняй цемры ірвецца ў сёння

шкло разляціцца на шчасце канешне
ці насамрэч ці толькі знешне
боль пераходзіць у землятрус
недзе пад скурай ўключаецца блюз

недзе ўсярэдзіне б’ецца вайна
хочацца толькі каб нехта абняў
і каб трымаў за руку як дзіця
і быў табе рытмам сэрцабіцця

недзе ўнутры ненажэрны пажар
шкло разляціцца на шчасце на жаль
іншага выйсця спрадвеку няма
попел гарачы накрые зіма

ты застаешся стаяць як атлант
узняўшы на плечы свой цяжар-талант
моц не пакіне жылаў тваіх
нават у дзень, танчэйшы за ўздых

дойдзеш спыніся на ўскрайку зямлі
ўбачыш світанак у далечыні
сам сабе лекар і сам сабе псіх
шкло вылятае з вокнаў маіх

### *ПАДДАШША*

абцасамі па бруку
асадкаю па паперы
крые мяне і крышыць
розгамі б’ецца дрэва
рухі і жэсты ірваныя
рукі ў п’яным карагодзе
дзень у пыл загорнуты
як у ручнік махровы

торбы ў клетку цыратавыя
ломяцца ў вагоны
па пероне раскрышаная
я цягнікі адпраўляю
дахам вакзал крые
чутна як хорам гукаюць
можна я застануся
буду найлепшай у сьвеце
буду зусім махровай
крыйце мяне
ўкрыйце

### *АДБІТКІ*

мы пакідалі сляды і адбіткі пальцаў
набіралі вады
і ліпкіх яловых шышак
скублі на рассаду паветра
яно выслізгвала
збіралі сябе ў абярэмак рэчаў
абламаўшы галіны лета
увальваліся па калені
зрабіўшыся зыбкім балотам
хапалі за шаты елкі
яны смяяліся
мы беглі як хмары галопам
да саміх сябе па ночы
мы пакідалі сляды
мы пакідалі пальцы

### *ПА КАЛЕНА*

калі б штодня вяртацца мастком да роднае хаты
не было б страхаў перад тымі, што сядзяць у вадзе
нырала б кожную раніцу каб на свежую галаву
дзень праходзіў

ненароджаны тут таксама нырне
зайшоўшы па калена ў ваду
кончыкамі пальцаў адчуе
прахалоду камянёў
і дыван з мяккага моху
замест калючага ржышча
замест цёплага кіліма

і тады падасца
што пад мастком нехта ёсць

### *ПРЫШЧЭПКА*

відзежы намі не наталяліся
прасілі смачнай дабаўкі
па стале грукаталі лыжкамі
але мы не слухаліся
будавалі платы высокія
а сцены самі таўсцелі
трывогі брынялі пад скураю
як проба манту свярбелі
мы зашпіляліся змейкаю
перашывалі гузікі
мы ўбіраліся ў светлае
і ўцякалі праз вокны
зпляталіся з серпантынам
слухалі зямлю што ўздрыгвала
ад нашых халодных дотыкаў
зямля набірала поўныя грудзі святла
відзежы худнелі і знямоглыя падалі
відзежы прасілі ценю
але мы не слухаліся
нас гадавалі птушкі
мы прасілі дабаўкі
перашывалі гузікі

### *МУРАШЫ І СЛІМАКІ*

мы з месца на месца штурхаем ідэі ў дзіцячае шчырасці
мы з гораду ў горад вандруем у пошуках шчасця
хтось не паспявае за намі другі проста вырасці
хаця яму заўтра і выпадзе карта казырнае масці

мы рушым шыхтом на шляху драбнату абганяючы
вялікім натоўпам па цёплым шурпатым асфальце
паўзем слімакамі, бяжым мурашамі знікаючы
шчэ толькі імгненне шчэ трошкі і нас не шукайце

шчэ трохі мы створым адно велічэзнае кола
нябачны ланцуг дзе ўсіх між сабой перамірым
і покуль расце і мацнее наш унутраны голас
ўзвышаемся дрэвамі каб стацца шчаслівымі

### БУМЕРАНГІ ЯКІЯ НЕ ВЯРТАЮЦЦА

столькі пачуццяў стаптана!
столькі істот чалавечых!
сполахі слепяць вочы
кадры – галлё пасечанае

мы так хацелі без фальшу
цёплых і добрых зносін
думалі па-дзіцячы –
возьмем ды і папросім!

бралі людзей за рукі
верылі як анёлам
мы адпускалі зоркі
як бумеранг па коле

у рэчаіснасць вярталі нас
мы выраслі вежамі
колькі разоў нас кідала?
колькі слоў не збярэжана?

*Пераклад з украінскай мовы Усевалада СЦЕБУРАКІ.*

## Дайва ЧАПАЎСКАЙТЭ



* * *

не схавацца па грудзі ў траве
рэдка чуеш як бульба жыве
як у склепе дыхае цвіллю
і пытаеш на мове трысця
колькі часу? – не хопіць жыцця
колькі вінен? – пазык нарабілі

ўсё астатняе – шляхам вады
срэбным вірам травы-лебяды
ў лебядзінае ціхае вусце
вецер спіць і ўздыхае ўва сне
маці босая ходзіць – мяне
не знаходзіць ніяк у капусце

### ГЛІНЯНАЯ СВІСТУЛЬКА

Стала ў птушкі за спінай,
ахапіла ротам хвост –

і дзьмухнула
ў вузкую шчыліну задніцы.
Зацурчэлі гліняныя лёгкія,
затрашчала глінянае горлачка,
і як запяяла,
зацвыркала,
як праліла гук
проста да Бога.
А той схіліў галаву налева,
вычасаў з вуха гліняную песеньку,
пакруціў між пальцаў,
пажмякаў і мовіў:
“Пэўна ж, пачулася...”

### *НАЙЛЕПШЫ*

Ён – адзін з найлепшых літоўскіх паэтаў,
бо так думае яшчэ адзін
з найлепшых літоўскіх паэтаў,
а ён не можа памыляцца, бо ён –
адзін з найлепшых літоўскіх паэтаў
і цікавіцца толькі найлепшымі,
а не называе найлепшымі тых,
якімі цікавіцца.
Ён найлепшы, бо мае відэаролік з самім
сабой, які дні і ночы глядзіць
яго сын, замкнуўшыся ў суседнім пакоі,
ён найлепшы, бо ўзнагароджаны
і прызнаны найлепшым, хай сабе
й не ацэнены, не заўважаны, як належыць,
але ўсе ведаюць, гэта несправядліва,
а ён найлепшы, таму што ўжо хутка
ён скажа нам тое, пра што ніхто не казаў,
і так, як ніхто не казаў,
ён найлепшы, бо ён патрэбны гэтай краіне,
як доктар, пажарнік або паліцэйскі,
хто б іншы так добра выразіў нам
усю нашую марнасць, убоства ды іншыя
гнюснасці, усе нашы найлепшыя хібы,
так, ён найлепшы, а калі нехта гэтага не разумее,
што ж, не ўсім дадзена, нават калі
ён – толькі бурбалка пад
носам у Бога, ведайце,
ён – найлепшая бурбалка.

"Ці ты маеш насоўку?" – пыталася маці
у Герты Мюлер
задоўга да нобэля.
Госпадзе, ці Ты маеш насоўку?

*Пераклад з літоўскай мовы Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

## Люба ЯКІМЧУК



### ЯК Я ЗАБІЛА

усе мае сямейныя сувязі цяпер тэлефонныя
усе мае сямейныя сувязі праслухоўваюцца
ім цікава, каго я люблю болей, маму ці тату
ім цікава, на што хварэе мая бабуля,
калі кажа ў слухаўку: ой, ой-ёй
яны заінтрыгаваныя, што думае мая сястра пра свайго хлопца
які раней быў маім

усе мае тэлефонныя сувязі кроўныя
уся мая кроў праслухоўваецца
ім трэба ведаць, колькі адсоткаў украінскай
польскай, расійскай і ці ёсць цыганская
ім трэба ведаць, чыім донарам я стала
ім трэба ведаць, ці гэта ўпаў гемаглабін, ці дах нада мной
і ці з клеткавых мембранаў можна пабудаваць межы

паміж мной і маёю мамай вырыта сотні магілаў
і я не ведаю, як іх усе пераскочыць
паміж мной і маім бацькам лётаюць сотні снарадаў
і я не навучылася глядзець на іх, як на птушак
паміж мной і маёй сястрой металічныя дзверы падвалу
што знутры падпірае рыдлёўка
паміж мной і маёй бабуляю шырма з малітваў –
ядвабныя тонкія сцены, за якімі не чутна, зусім не чутна

гэта так проста, падтрымліваць сямейныя тэлефонныя сувязі
гэта так танна, папаўняць рахункі бяссоннем і супакаяльным
гэта так п'яніць, слухаць чужую кроў, адзеўшы навушнікі
асабліва, калі мая кроў ператвараецца ў стрэл:
нах!
!

*10 жніўня 2014, Кіеў*

## РАСКЛАДАННЕ

на ўсходнім фронце без зменаў
колькі можна без зменаў?
метал перад смерцю стаецца гарачым
і робіць людзей халоднымі

не трэба казаць мне пра нейкі Луганск
ён даўно проста ганск
лу зраўнялі з асфальтам чырвоным
мае сябры – у закладніках
і да нецка мне ўжо не дабрацца
каб выцягнуць іх з завалаў, з падвалаў, і з-пад валоў

а вы ўсё пішаце вершы, прыгожыя, як вышыванка
вы пішаце вершы гладзенька прычасаныя
золата ўзнёслай паэзіі
пра вайну не бывае паэзіі
пра вайну ёсць адно раскладанне
адно літары
і ўсе яны – ррр

Першамайск разбамбілі на перша і майск –
бясконца маяцца, быццам упершыню
зноў там скончылася вайна
але мір так і не пачаўся

а дзе бальцава?
дзе маё бальцава?
там не народзіцца больш Сасюра
ніхто ўжо з людзей не народзіцца

я ўглядаюся ў далягляд
ён трохкутны, пакутны
і поле сланечнікаў апусціла галовы
яны пачарнелі й засохлі, як я
страшэнна старая
і больш не Люба
а толькі ба

*22 жніўня 2014, Львоў*

## АД СТАРАСЦІ

памерлі дзед і баба
у адзін дзень памерлі

у адну гадзіну
у адну хвіліну –
людзі казалі, што ад старасці

здохла іхняя кура
іхні сабака й каза
(а коткі не было дома)
і людзі казалі, што ад старасці

развалілася іхняя хата
хлеў стаў руінай
і склеп зверху прысыпала зямлёй
людзі казалі, што ад старасці развалiлiся

прыйшлі іх дзеці хаваць дзеда з бабай
Воля была цяжарная
Сяргей быў п'яны
Соні было тры годзікі
і яны таксама памерлі
а людзі казалі, што ад старасці

халодны вецер абарваў жоўтае лісце
і пахаваў пад ім дзеда, бабу, Волю, Сяргея, Соню
якія памерлі ад старасці

*6 верасня 2014, Чарнаўцы*

## ЁН КАЖА, УСЁ БУДЗЕ ДОБРА

ён кажа: разбамбілі школу, у якую ты хадзіла
ён кажа: ежа канчаецца, грошай няма
ён кажа: гуманітарка з белых фураў – наш адзіны ратунак
ён кажа: гуманітарка толькі што паляцела снарадамі

школы няма?
як гэта, калі школы няма?
яна пустая, яна дзіравая ці яе зусім няма?
што сталася з маім фота, якое вісела на дошцы пашаны?
што сталася з маёй настаўніцай, якая сядзела ў класе?

ён кажа: фотаздымак? каму патрэбны твой фотаздымак?
ён кажа: школа расплавілася – гэтая зіма надта гарачая
ён кажа: настаўніцу я не бачыў, нават не прасі мяне глядзець
ён кажа: бачыў тваю хросную – яе ўжо няма

уцякайце
кіньце ўсё і ўцякайце
пакіньце хату, склеп з абрыкосавым сочывам
ружовыя хрызантэмы, што стаяць на верандзе
кідайце гэтую зямлю, кідайце
ён кажа: не вярзі лухты, мы штодня кідаем зямлю
– на труны
ён кажа: усё будзе добра, выратаванне ўжо хутка
ён кажа: гуманітарка ўжо ідзе

*2 снежня 2014, Кіеў*

## ЗЯЛЁНАЯ КУРТКА

зялёнае курткі ўжо не было
на вешалцы вісеў цень ад яе
як хвост маладое яшчаркі
між вішнёвым жакетам
і сінім швэдрам
зялёны-зялёны цень

а ты шукаў і шукаў
у шафе й за ёй
у доме і па-за ім
і нават зірнуў у неба
ці раптам не пралятае там курка
цьху, куртка
кар-кар-кар
толькі чорная
і ніякай зялёнай

а можа, куртка – як лісце –
пажоўкла ад восеньскага холаду
і абляцела ўніз шафы
а потым прыйшоў дворнік
і граблямі сабраў яе ў купку
ды падпаліў
і цяпер тваёй курткай
пахне паветра
пахне дворнік
пахне восень
зялёнай-зялёнай
курткай

*15 верасня 2014, Львоў*

**БРОВЫ**

не-не, я не надзену чорнай сукенкі
чорных туфляў і чорнай хусткі
прыйду да цябе ў белым –
калі давядзецца прыйсці
і дзевяць белых спадніцаў
будуць на мне адна пад адной
я сяду перад люстэркам
(яно будзе завешанае радном)
чыркну запалкай
яна абгарыць, і я
насліню яе й намалюю сабе
чорныя бровы
паўзверх маіх чорных
і будзе ў мяне дзве пары
мае і твае над імі
не-не, я не надзену чорнай сукенкі
я надзену чорныя бровы
твае на сябе

*30 верасня 2014, Кіеў*

*Пераклад з украінскай мовы Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

**Марус Бурокас** (1977) – літоўскі паэт і перакладчык. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. Аўтар паэтычных кніг «Ідэаграмы» (1999), «Быццё» (2005) і «Навучыўся не быць» (2011). Трэцяя кніга была ўганараваная адразу дзвюма літаратурнымі прэміямі. Вершы М. Бурокаса перакладзеныя на польскую, рускую, латышскую, фінскую, славенскую, ангельскую, нямецкую, французскую, грузінскую і ўкраінскую мовы. М. Бурокас перакладаў вершы Т. Х'юза, Ч. Букоўскі, Дж. Дзіка, Р. Джаферса, М. Этвуд; прозу В. Алена, Ч. Букоўскі, Ф. Рота, Дж. Апдайка і інш. Сябра Саюза пісьменнікаў Літвы і Літоўскай асацыяцыі літаратурных перакладчыкаў. Жыве ў Вільні.

**Богдан Задура** (1945) – польскі паэт, празаік, эсэіст, перакладчык з ангельскай, вугорскай, украінскай, рускай, беларускай моваў. Нарадзіўся ў Пулавах. З 1968 па 2002 пабачылі свет шаснаццаць зборнікаў паэзіі, апошнія з якіх: «Усё» (2008), «Начное жыццё» (2010), «Уваскрэсенне пташкі» (2012) і «Кропка над і» (2014). Каля дзевяці кніг прозы і эсэістыкі выйшлі з 1968 па 2002 год. у 2005–2007 гадах выходзілі двухтомнікі яго прозы і эсэістыкі. Сярод аўтараў, чые творы Б. Задура перастварыў па-польску, – Т. Гарысан, Дж. Эшберы, Ю. Андруховіч, В. Махно, С. Жадан, А. Любка, А. Адамовіч ды інш. Жыве ў Варшаве.

**Ала Мікалаенка** (1990) – украінская паэтка. Нарадзілася ў Канато-

пе. Аўтарка зборнікаў паэзіі «Карэкцыя зроку» (2013) і «Напарстак для ведзьмы» (2013). Другі зборнік адзначаны як «Кніга года» ў намінацыі «Лепшая кніга маладога пісьменніка» па версіі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны і Асацыяцыі ўкраінскіх пісьменнікаў (2015). Дыпламантка конкурсу ім. Л. Кісялёва (2013), лаўрэатка прэміі выдавецтва «Факел» імя Алега Ольжича (2014), літаратурнай прэміі «Дабравест» (2014), пераможца фестывалю «Проста на Пакроў» (Корасцень, 2014). Адзначана грантам Прэзідэнта Украіны маладым пісьменнікам на выданне першай кнігі (2013). Вершы А. Мікалаенка перакладаліся на ангельскую, польскую і японскую мовы. Жыве ў Кіеве.

**Дайва Чапаўскайтэ** (1967) – літоўская паэтка, аўтарка драматычных твораў. Нарадзілася ў Марыямпалі, скончыла Каўнаскую медыцынскую акадэмію. Працавала ў Каўнаскім моладзевым камерным тэатры. Апублікавала тры лірычныя зборнікі: «Безыменныя» (1992), «Я з'ела журавіну» (1998) і «Не трэба напэўна неабходна» (2004). Лаўрэатка літаратурнага фестывалю «Вясна паэзіі» (2005). Жыве ў Каўнасе.

**Люба Якімчук** – украінская паэтка, сцэнарыстка і журналіст. Нарадзілася ў Першамайску Луганскай вобласці. Скончыла Луганскі нацыянальны ўніверсітэт імя Т. Шаўчэнкі і Кіева-Магілянскую акадэмію. Аўтарка паэтычных кніг «як МОДА» і «Абрыкосы Данбаса». Лаўрэатка Міжнароднай «паэтычнай славянскай прэміі», прэміі выдавецтва «Паходня» і інш. З 2009 года выступае ў музычна-паэтычным дуэце з фрыджазавым кантрабасістам Маркам Токарам. Вершы і проза Л. Якімчук перакладзеныя на больш як дзесяць моваў свету. 2015 часопіс «Новы час» уключыў яе ў рэйтынг TOP-100 самых уплывовых людзей культуры ва Украіне. Жыве ў Кіеве.

Аляксей Каўка



...Луцкевіч быў з мужыком мужык, з панам пан, з каталіком каталік, з праваслаўным праваслаўны, з пратэстантам пратэстант, але з усімі заставаўся Беларусам...

# Вястун «нашаніўскай» эпохі

## *З жыццяпісу Івана Луцкевіча, або Ідэя ў дзеянні*

*Да 130-х угодкаў нараджэння дзеяча "нашаніўства"*

Неабыякавасць да постаці славутага Беларуса-адраджэнца ў мяне даўняя[1]. На пачатку 1990-х у выдавецтве "Навука і тэхніка" – серыя "Нашы славутыя землякі" – планавалася адпаведная кніжачка: "Вястун "нашаніўскай" эпохі". На жаль, яна не выйшла. Хаця загаловак, згадваючы светлай памяці Генадзя Кісялёва, ледзь не палова задуманай працы, дасюль варушыць даследніцкі неспакой, багаціць новымі матэрыяламі ўжо даволі ёмістую папку "Іван Луцкевіч". Ніжэй прапануюцца дадатковыя звесткі, дэталі з творчага лёсу неспатольнага лідэра "нашаніўства" – асноўнае плыні беларускага вызвольнага руху пачатку XX стагоддзя. Тым самым спадзяюся хоць часткова кампенсаваць нявздзейснены ў свой час выдавецкі праект. Заадно – можа, галоўнае – нагадаць катораму з "чэсных", "элегантных" палітыкаў або "адсутнаму" ("Мяне няма") філосафу аб незнішчальнасці нацыянальнай ідэі беларусаў, над аспрэчваннем якой сёння абодва спаборнічаюць. Марныя патугі!

## Народзіны


Іван ЛУЦКЕВІЧ.

“Метрическая выписка из крестно-приходной книги Шавельского римско-католического костела № 181 Тысяча 881 года июня двадцать восьмого Викарным ксендзом Иово окрещен младенец по имени Яна Германа со всеми обрядами таинств дворян – штабс-капитана Яна Болеслава и Зофии, урожденной Лычковской, Луцкевичей законных супругов сын, родившийся Тысяча восемьсот восемьдесят первого года мая двадцать восьмого в городе Шавли. Воспреемниками были дворяне инженер Маркан Трухницкий с Казимирою Луцкевичевою вдовою. Присутствовали Михаил Гулевич с Вероникою Павла Жулевича супругою. Настоящая метрическая выпись взята с книги свидетельств 1891 года мая 23 дня. Архивариус титулярный советник И. Прелер. *(ЦДГА Спб. Ф. 17, воп. 3, адз. зах. 3993, арк. 22. Публ. – Скарыніч. Вып. 7. С. 162).*

## Гімназіст

“Аттестат зрелости. Дан сей Луцкевичу Ивану Герману Иванову Болеславову в том: Во-первых, что на основании наблюдений за все время обучения его в Минской гимназии поведение его вообще было отличное, исправность в посещении и приготовлении уроков, а также в исполнении письменных работ достаточная, прилежание удовлетворит[ельное]. Любознательность ко всем предметам достаточная и во-вторых, что он обнаружил нижеследующие познания:

В законе Божием 5 (пять) – Русском яз. с Церковно-славянским и Словесностью 3 (три) – Логике 3 (три) – Латинском языке 3 (три) – Греческом языке 3 (три) – Математике 3 (три) – Физике 4 (четыре) –Математической географии 3 (три) – Истории 4 (четыре) – Французском языке 3 (три)...” *(ЦДГА. Ф. 14, воп. 3, спр. 19, адз. зах. 395, арк. 6. Публ. – Скарыніч. Вып. 7. С. 207)*

* * *

«У старым Менску былі тады характэрныя фігуры першых беларускіх пракокаў. Гэта Кастравіцкі і стары археолаг Татур, першы збірацель старыны беларускай, знаўца гісторыі. Генрых Хрыстафоравіч Татур па дакументах знаў усіх людзей мінуўшчыны нашай, усяе эпохі.

Мы хлопцамі разам з Кастравіцкім сядзелі ў музеі Татура, сотні разоў расказвалі яму свае “беларускія” планы. Строгі старык, лысы, з рудой барадой, падобны да прарока Елісея, быў з намі адной думай. Седзячы кружком у сумеркі ў яго музеі, заваленым кальчугамі, мячамі, старымі кнігамі, дакументамі, мэбляю, абразамі, ён выслухіваў нашы “даклады” аб нашых нясмелых яшчэ спрэчках з палякамі, абрусіцелямі, дадаваў рэзалюцыі: “разумна адказалі!” – “гэта пусты чалавек!” Прыводзіў нам аргументы з гісторыі Беларусі. Кастравіцкі быў духам з “беларускай пушчы”, з народу, ад Татура веяла на нас духам Гедыміна, Ягайлы, Канстанціна Астрожскага, князёў Менскіх, Слуцкіх, усіх фундатараў, страіцеляў

Беларускай мінуўшчыны. Гэта былі два магіканіны, дзве крыніцы, каторыя перахавалі зародыш беларускай ідэі, не далі ёй загаснуць. Ад іх яна патроху разгаралася і асвяціла цяпер усю Беларушчыну» *(Уласаў А. – К. Кастравіцкі і Г. Татур // Беларускі шлях. 1918. № 51, 26 мая. З выпіскі, дасланай у Маскву (1985) с. п. Віталем Скалабанам).*

Татураў хатні музей з унікальнай археалагічнай, старапісьменнай і кніжнай калекцыямі сталі для нашага гімназіста, мабыць, першым самаадукацыйным універсітэтам, дзе дапытлівы юнак мог абок іншага пазнаёміцца з «Бібліяй» Скарыны, «Хронікай» М. Бельскага, творамі Л. Барановіча, з найвялікшай рэдкасці – «Гісторыяй рускай і польскай» (выданне адразу ж было спаленае па загадзе папы рымскага, адзін з ацалелых асобнікаў цяпер захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы), «Хронікай Еўрапейскай Сарматыі» Гваніні, Статутам ВКЛ 1588 г. Па смерці настаўніка частка з яго збораў дасталася вучню, якая пазней разам з набыткамі І. Луцкевіча ім жа перакажацца ў заснаванне віленскага Беларускага музея.

## Студэнт

“Личное дело Луцкевич Ивана Германа Болеславова. Начато 1902 г. Оконч. __41 лл.»

«Прошение Его Превосходительству Ректору С.-Петербургского Университета Дворянина Ивана Германа Иванова Болеславова... Имею честь просить Г-на Ректора зачислить меня студентом юридического факультета. Жительство – Минск в 1-й части по Крещенской ул., д. 25. Июля 15 дня 1902 г.». Верхнім вуглавым касячком – на заяве: «зачислить 23/VII/1902”. Ніжэй, пад заявай: «Свидетельство за №5645, выданный билет в университет получил (подпіс) Иван Луцкевич» *(ЦДГА. Ф. 119, воп. 1, спр. 3995, арк. 4).*

Па нядоўгім часе, 10.09.1902 г. – паралельная заява таго ж студэнта – на імя дырэктара Археалагічнага інстытута з просьбай залічыць вольнаслухачом дадзенай установы. З аднačасным прашэннем: «Не имея достаточных средств покорнейше прошу Ваше Превосходительство освободить меня от внесения платы за слушание лекций в Вашем Институте». *(ЦДГА. Ф. 119, воп. 1, спр. 123, арк. 78).* Праз год – прашэнне такога ж зместу, з матывацыяй: “что я не пользуюсь никакими стипендиями и от платы в университете не освобожден. 13.09.1903 – И.И. Луцкевич” *(Тамсама, арк. 17).*

Яшчэ раней, 20.02.1903 г., наш “недастатковы” студэнт звяртаўся ва ўніверсітэцкі рэктарат з прашэннем аб выдзяленні яму дапамогі “в размере взноса в университет за это полугодие из суммы представленной в распоряжение (ун-та) с вечера, устроенного в гор. Минске 20 января с.г. в пользу недостаточных студентов, окончивших там

*Аўтограф з ліста І. Луцкевіча да Л. Сівіцкай (Зоські Верас). 1913 г.*

среднее образование" *(ЦДГА. Ф. 119, воп.1, спр. 39395, арк. 24).*

Апроч вучобы праймалі яго іншыя, не менш выпрабавальныя клопаты. 16 мая 1903 г. студэнта І. Луцкевіча прыцягваюць "к дознанию" ў Губернскай жандарскай управе С.-Пецярбурга "в качестве обвиняемого по делу об интеллигентах и рабочих, принадлежащих к партии социалистов-революционеров и подготовляющих уличную демонстрцию 1 мая сего года". Ніжэй – некалькі пунктаў з допытнае анкеты:




ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Гэтым сьведчыцца, што ............ быў слухачом кароткачасовых Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў у Вільні 1919 г, на каторых слухаў лекцыі Беларускае мовы, Беларускае літэратуры, гісторыі Беларусі, географіі Беларусі, пэдагогікі і дыдактыкі, пяяньня, коопэрацыі і тэатру.

№

Пры гэтым выказалася, што ён чытанае на курсах пераняў.

Дзеля гэтага ............ можа займаць урад вучыцеля ў беларускай школе.

Кіраўнік Курсаў

Лектары:

Сэкрэтар

I–IX–19.

*Пасведчанне слухачу Беларускіх вучыцельскіх курсаў. Вільня 1919 г. БДАМЛМ. Публікуецца ўпершыню.*

"Луцкевич Иван Иванович. Год место рождения... Вероисповедание. Римско-католическое. Происхождение. Сын дворянина. Народность. Поляк (мабыць, адпаведна канфесіі падследнага, самавольнае азначэнне следчым – *А.К.*). Что обнаружено по обыску. В квартире ничего *преступного* не обнаружено. При задержании его в квартире обвиняемой Анны Филатовой при нём обнаружено 287 р. 82 к. и свинцовый кастет. Приняты меры пресечения. Содержится в больнице С.-Петербургской одиночной тюрьмы. Время сообщения о привлечении к дознанию обвиняемого. 27 мая 1903 г. за № 19065. Ректору Петербургского университета". Месяцам пазней, 16 чэрвеня, затрыманага І. Луцкевіча з-за недаказанасці абвінавачання вызваляюць з-пад варты з падпіскай "о невыезде", з дазволам аднавіць навучанне ва ўніверсітэце. Вяртаюць "арыштаваныя" грошы – "как установлено расследованием, представляли часть наследства доставшееся Луцкевичу после смерти его отца, причем каких-либо указаний на нелегальное назначение этих денег расследованием не добыто" *(ДАРФ. 3 д-во. Ф. 102. 1903 г. "Дело о Иване Луцкевиче").* Магчыма, гэтая сума была выдаткавана на друкаванне паэтычнага зборнічка Янкі Лучыны "Лучынка" (1903), выдадзенага кіраўніцтвам "Круга беларускай народнай прасветы і культуры". Не выпадае не адзначыць далікатнасць тагачасных, не раўнуючы цяперашнім, сілавікоў. На хадатайніцтва І. Луцкевіча ў жандарскую ўправу па дазвол адлучыцца ў Мінск да хворае маці начальнік тае ўстановы паведамляў рэктару Універсітэта, што "к удовлетворению означенного ходатайства возражений с моей стороны не имеется".

Са студэнцкае справы І. Луцкевіча даведваемся таксама аб яго просьбе ў рэктарат па дазвол "условного перевода" на другі курс, паколькі не патрапіў з-за арышту здаць усіх экзаменаў. На гэтым, мяркуючы па матэрыялах "Дела", яго ўніверсітэцкая хроніка завершана. Дыпламаваны юрыст «не состоялся». Затое годам пазней у кішэні – пасведчанне археолага: "12 мая 904. № 117. Удостоверение. Представитель сего студент Императорского С.-Петербургского университета И. И. Луцкевич окончил курс С.-Петербургского Археологического института и отправляется для научных занятий по славяноведению в Северо-Западный край и Австрию. В виду этого СПб. Археологический институт имеет честь просить подлежащие учреждения и лиц заведующих древнехранилищами и библиотеками оказать содействие г. Луцкеичу в его научных занятиях. Директор Института Н. Покровский" *(ЦДГА. Ф. 119, воп. 1, адз.зах. 150, арк. 88. Выпіска атрымана ад Маргарыты Пяровай, роду Луцкевічаў – удзячны А.К.).*

## Грамадовец – БСГ

Спалучаючы археалагічныя доследы, антыкварныя росшукі з палітычнай дзейнасцю, вясной 1905 г. на Канферэнцыі сацыялістычных партый Расіі (Фінляндыя) сябра ЦК БСГ І. Луцкевіч ад імя свае партыі ініцыюе прынясце канферэнцыяй адмысловай "Дэкларацыі ППС (Польскай сацыялістычнай партыі) і БСГ" – мабыць, першае ў XX ст. заяўкі беларусаў на міжнароднай пляцоўцы аб самавызначэнні – пакуль федэратыўнай аўтаноміяй – іхняе радзімы: аб "вычляненні тэрыторыі гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) разам з усімі залюднёнымі на ёй нацыянальнасцямі ў асобны палітычны арганізм" *(Przedświt. 1905. № 4-5. S. 176 // CA KC PZPR. Пераклад з польскае)*. Аб тым жа – самавызначальныя заклікі лістоўкі БСГ "За свабоду": "Няхай жыве рэспубліка дэмакратычная! Няхай жыве *Сойм у Вільні для беларусаў*. Краёвы Камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады. 9 грудзеня 1905 году". Тэкст праклямацыі пададзены ў кн. Генадзя Каханоўскага "Адчыніся, таямніца часу", але за выняткам (пільны цэнзар?) вылучанага курсівам радка пра Сойм у Вільні для беларусаў.

З той жа "аўтанамічнай" паслядоўнасцю выступіў прадстаўнік БСГ Шчасны (І. Луцкевіч) у Пецярбургу на канферэнцыі расійскіх сацыялістычных партый, адзначыўшы заадно варожасць расійскіх сацыял-дэмакратаў (бальшавікоў) беларускаму руху: «По отношению к другим партиям было решено поддерживать самые близкие отношения с социалистическими партиями поддерживающихся принципа федеративной республики и территориальной атономии. [...] мы не держимся агрессивной политики, не перебиваем у других партий ни рабочих, ни крестьян, живем с ними мирно, кроме, впрочем, РСДРП, которая долгое время по отношению к Громаде держалась черезвычайно агрессивной политики. К тому же она не признаёт употребления нашего родного языка и держится взгляда отрицающего федеративный строй» (Протоколы Конференции Российских Национально-Социалистических партий. Спб., 1908. С. 93, 95).

Не абыходзілі ўвагай дзейнасць БСГ і наглядчыкі-"охранители". Дэпеша начальніка Віленскай губернскай жандарскай управы 5.04.1910 № 1234 – Дырэктару Дэпартамента паліцыі ў Пецярбургу: «Вследствие предписания от 12 января за 104484 доношу Вашему Превосходительству, что «Белорусская Социалистическая Громада», имея в начале своей деятельности крайне неопределенную политическую программу – нечто среднее между социал-демократами и социалистами – в конце 1906 г. приняла программу социал-демократов (?! – *А.К.*), введя в неё требование отдельно Учредительное собрание для Литвы и Белоруссии. Эта партия пользовалась значительным влиянием среди крестьян Виленской, Гродненской и Минской губерний, причем центром её организации являлся Минск; в г. Вильне с 10 декабря 1906 г. издаётся легальная газета «Наша Нива», являющаяся органом, посвящённым белорусскому населению социалистического направления и по сообщениям Временного


АУТОРАК, 21 КАСТРЫЧНІКА 1919 г. Цана 50 ф.

БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопісь, выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

ГОД I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 18

Гроб Івана Луцкевіча ў Закапаным († 20 жніўня 1919 г.).
Мы даведаліся, што, як пачнуцца марозы, цело памёршага І. Луцкевіча будзе перавезено ў Вільню.

*Надмагілле І. Луцкевіча ў Закапанэ. Фотаздымак з газеты "Беларускае жыццё", 21 кастрычніка 1919 г.*

комитета по делам печати подвергавшаяся конфискации за статьи возбуждающего характера. Во главе «Нашей Нивы» стоял и стоит сын коллежского советника Александр Николаевич Власов (революционная кличка «Старший»), а ближайшие участники братья Ян (револ. кл. «Сченстный») и Антон (револ. кл. «Генрих») *(ДАРФ. Ф. 102, воп. 9, адз. зах. 1908. Дело о «Белорусской Социалистической Громаде». Начато 1908. Кончено 1910).*




*Сімвалічная магіла братоў Луцкевічаў на могілках Роса ў Вільні. Фота Сяргея Плыткевіча.*

## Дзеяч-“нашанівец”

Пасля закрыцця “Нашай Долі” заснаваная “з ініцыятывы і за грошы І. Луцкевіча “Наша Ніва”, стаўшая цэнтрам беларускае палітычнае мыслі і нацыянальнае работы” *(З успамінаў Ант. Луцкевіча // Памяці Івана Луцкевіча. Вільня, 1920. С. 12).* Як рабілася газета, аб тым – яе галоўны рэдактар: “Мала грошы, многа працы і ахвяр пайшло на гэта. Пры ўкладаньні “Нашай Нівы” вялізная і марудная праца была над кожным словам. Тварылася літаратурная мова... Першыя паўтрацця году пісалі “нашаніўцы” ад 12 гадз. вечара да рана, бо ўдзень народ безупынна адрываў ад пісаньня. Неўгамонны Іван працаваў поўным парам ня толькі пры надаваньні кірунку (газеце), але ў развіцьці ўсіх бакоў беларускасьці. [...] Жартавалі, што Іван ведаець на Беларусі 10 % жыхароў з твару, запраўды, знаёмствы яго былі надзвычайна шырокія – усё жыццё ён насіўся як мэтэор” *(Уласаў А. Успамін // Сын Беларуса. 1924. № 29).*

Пакліканыя ратаем-“Нашаніўцам” да сяўбы на родным загоне ўспамінаюць:

«І гэта наш беларускі тэатр, беларуская публіка, беларускі дух, гордасьць і надзея! – А ці памятаеце вы, паночку, як гэты тэатр пачынаў прабіваць цьвёрды грунт векавога няхайства, як вы прыязджалі зь Вільні ў Дзісну на беларускае ігрышча што ставіў Ігнат Буйніцкі, як Вы самі падышлі да мяне і сказалі: “Добра граеце, толькі голас лішне слабы. А вашы рукапісы, пасланыя ў “Нашу Ніву”, атрымалі. Пішэце больш – будзем патрошку друкаваць”. А пасьля Вы нас, усю трупу зьнімалі сваім “кодакам”» *(Леапольд Родзевіч // Пра Івана Луцкевіча. Успаміны сьведчаньні. Укладаньне, прадмова, каментары А. Сідарэвіча. Мн., 2007. С. 40).*

Помны след пакінуў ён у Горадні, сярод удзельнікаў Гуртка беларускай моладзі. Наладжаная гурткоўцамі першая вечарына 9 лютага 1911 г. тым больш памятная, што ўшанаваў яе сваёй прысутнасцю с.п. Іван Луцкевіч, сумысля прыехаўшы з Вільні. Быў рэферат “Адгалоскі душы беларускага народу ў яго песьнях, казках і легендах”. Далей пяяў хор і была пастаўлена камедыйка Каганца “Модны шляхцюк”. І. Луцкевіч пісаў у “Нашай Ніве” 1911 № 8: “...Вынес я ў падзяку за прыемны вечар веру, што горадзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад” *(Л.С.Ш. Успаміны аб Горадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі // Студэнцкая думка. 1925. № 3 (4). С. 31).* Тады ж між іншым наладзіўся лістоўны кантакт І. Луцкевіча з бібліятэкаркай Гуртка, гімназісткай Людвікай Сівіцкай (Зоськай Верас), неўзабаве карэспандэнтам “Нашай Нівы”[2]. У той жа Горадні трыма гадамі раней пры развітанні з Элізай Ажэшка на яе магілу быў ускладзены вянок з надпісам на жалобнай істужцы: «Ад “Нашай Нівы” – заступніцэ пакрыўджаных» *(АР ЛУ. Фотакопія істужкі ў асабістым архве – А.К.).*

З таго ж маладога падлеска на абшары “нашаніўскім” – голас беларускага святара, адметны ўзнаўленнем жывога партрэта нашага героя, разуменнем гістарычнай пераемнасці нацыянальнага руху: “Знаў я Івана Луцкевіча асабіста. Помню яго сяньня – рухавага, гаваркога, сярэдняга росту, цёмнавалосага, з люлькай у зубах, шчырага аткрытага характару. Пазнаў я яго ў 1912 ці ў 1913 г. у Вільні. [...] Быў я тады вучнем Віленскай духоўнай сэмінарыі. Зерне беларускай нацыянальнай сьведамасьці, засеянае песьняром Багушэвічам праз яго “Дудку” і “Смык” і пашыранае “Нашай Нівай” і “Беларусам”, пранікала і да нас у сэмінарыю. Арганізоўваўся тут у нас беларускі гурток, была беларуская бібліятэчка, адбываліся разважаньні і спрэчкі на беларускія адраджэнскія тэмы. Узьніклі пытаньні, адказ на якія быў нам не пад сілу. Апорай нашым слабым маладым сілам была між іншым і рэдакцыя “Нашай Нівы”, а ў ёй перад усім Іван Луцкевіч. Помню, як пры першым маім з ім знаёмстве ахвотна і вычэрпваючы даваў ён адказы на мае сумнівы, як свае доказы падкрапляў рэчамі з беларускай мінуўшчыны... Помню ўрэшце, як ён заахвочваў нас маладых да працы на ніве беларускага адраджэньня, а прадусім на ніве беларускай культуры. [...] Тым усім, што пачуў я ад Івана Луцкевіча, дзяліўся я з сваімі таварышамі, супольна паглыблялі мы і разьвівалі беларускую нацыянальную ідэю і сьнілі залатыя сны аб будучым Беларусі” *(Адам Станкевіч. Іван Луцкевіч – закладчык Віленскай Беларускай Гімназіі // 25-лецьце Беларускай гімназіі ў Вільні. Вільня, 1944. С. 7-8).*

Праменьчык тае самае ідэі трапятаў і над Дняпром. “Было гэта ўлетку 1917 году. Іван Іванавіч, як вецярок беларускага адраджэньня, разумеецца, не мог не зацікавіцца тым што робіцца ў Магілёве, гэтым важным і старадаўнім цэнтры Усходняй Беларусі. Ужо хворы і слабы ён прыехаў у Магілёў, каб на месцы пабачыць, як вядзецца беларуская праца. Склікан быў сход віднейшых беларускіх дзеячоў, на каторым Іван Іванавіч зрабіў даклад аб агульным палажэньні беларускай справы... Раіў нам моцна трымацца лёзунгу: “непадзельная і незалежная Беларусь” і ўсімі сіламі змагацца з ворагамі беларускага адраджэньня. [...] Іван Іванавіч выказаўся і па пытаньню аб арыентацыі, якой павінны трымацца беларусы. Ён бараніў патрэбнасьць цеснага кантакту беларусаў з украінцамі і літоўцамі, як нашымі бліжэйшымі суседзямі і наогул са ўсімі вызваляючыміся народамі, знаходзіўшыміся пад ярмом расейскага царызму” *(Кахановіч М. // Памяці Івана Луцкевіча... С. 47. Перадрук – Ратуша. 1993. № 40, кастрычнік).*

Сведчыць сваю перакананасць у нашаніўстве яго прадстаўнікі не лічылі крамольным нават за кратамі ў вольнай БССР: “Еще с юношеских лет под влиянием руководителей нашенивского национального движения, именно Ивана Луцкевича... я была воспитана в духе нашенивства, в сущности нацдемократизма, когда национальное возрождение Беларуси было первой и главной целью моей жизни” *(З паказанняў Паўліны Мядзёлкі на справе так зв. Саюза вызвалення Беларусі 5.08.1930 г. // АКДБ РБ. Ф. 20951-с. Т. 17. С. 247).*

## Навука. Школьніцтва. Музей

У ранейшых нашых публікацыях закранаўся тэма навукова-асветніцкіх намаганняў і знаходак І. Луцкевіча[3], уключна з выяўленымі ім у архівах Каралеўца (Кёнігсберга) матэрыяламі пра наведванне Ф. Скарынам прускага герцага Альбрэхта (апублікаванымі А. Мілавідавым), а таксама помніка татарска-беларускай пісьменнасці “Аль-Кітаб”[4]. Дадамо яшчэ колькі істотных драбніц.

Падчас навуковай стажыроўкі ў міжнародным славістычным семінары пад кіраўніцтвам вядомага славіста Ватраслава Ягіча (Вена, 1904) І. Луцкевіч змяшчае ў часопісе “Рутэнішэ рэвю” (Ruthenische Revue. 1904. № 19) артыкул “Нібы памерлая Беларусь” *(пераклад з нямецкае на беларускую мову П. Садоўскага –*



Іван ЛУЦКЕВІЧ.
Малюнак Пётры Сергіевіча. 1936 г.

*Скарыніч. Вып. 7. С.21-26)* – мабыць, першую ў замежным друку пач. XX ст. публікацыю беларуса аб этнічнай індывідуальнасці яго Радзімы, пра супраціў прымусовай русіфікацыі, неабарачальнасць "нацыянальнага адраджэння беларускага народу". У віленскім архіве (ф. 21 Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Літвы) захаваўся рукапіс незавершанага накіда І. Луцкевіча "Жменя слоў пра Белую Русь, яе гісторыю, літаратуру" – выкліканага відавочна знаёмствам з фундаментальнай працай "Белорусы" (1903) Я. Карскага. Прынамсі, першыя старонкі "Жмені" адносна абшару рассялення беларусаў амаль дакладна "перагукоўваюцца" з "Этнографической картой белорусского племени" у названым вышэй томе. Наогул, грунтоўней засяродзіцца ў навуковых доследах яму, у адрозненне ад малодшага брата-супольніка па "нашаніўству" Антона, не выпала. Яго творчая энергія амаль цалкам была скіравана на *практычныя* дзеянні ў беларускай справе – здабыванне сродкаў для "Нашай Нівы", пэўных выдавецкіх праектаў, ладжанне культурніцкіх, палітычных мерапрыемтваў, асабліва – збіральніцтва археалагічных і гістарычных памятак. Гэтым жа намаганням быў падначалены павышаны антыкварны інтарэс І. Луцкевіча[5], фінансавыя набыткі з якога не раз падсілкоўвалі тую самую справу.

Пасля адкрыцця (1915) з ініцыятывы й клопатамі І. Луцкевіча і Цёткі першых беларускіх школ у Вільні, на Беласточчыне, Гродзеншчыне, адпаведных вучыцельскіх курсаў, на чарзе – беларуская гімназія, таксама першая. Згадвае першы дырэктар гэтае вучэльні: "Зусім хворы, павінны ляжаць у ложку, Іван Іванавіч на вялікую шкоду свайму здароўю працаваў над тым, каб адчыніць у Вільні беларускую гімназію. Ён хадзіў па розных – спачатку польскіх, потым камуністычных установах, каб заручыцца згодай на аддачу будынку па Вострабрамскай № 9 пад беларускую гімназію. Ён прыняў жывое ўчасьце арганізатарскай працы ініцыятыўнай групы беларускіх пэдагогаў, у склад каторай увайшлі: А. Чарняўская, А Сакалова, Ю. Мэнке, М. Кахановіч і інш. Гімназія была хутка адчынена. Гэта было 1 лютага 1919 году. Іван Іванавіч сам узяўся выкладаць беларусазнаўства і краязнаўства" *(Кахановіч М. // Памяці Івана Луцкевіча... С. 48).*

Годам раней, зноў жа з яго ініцыятывы, засноўваецца Беларускае Навуковае Таварыства. "На паседжаньні Ураду Таварыства 13 траўня 1918 году Іван Луцкевіч зрабіў афіцыяльную заяву, што ён аддае Таварысту плады сваёй многагодняй працы: архіў, бібліятэку, гістарычныя беларускія памяткі, сабранне ікон, абразоў, партрэтаў, нумізматаў і інш. Гэты надзвычайна цэнны з навуковага боку дар, прыняты Таварыствам з глыбокай удзячнасьцяй, стаўся асновай Беларускага Музэю [імя Івана Луцкевіча], закладзенаго ўжо пасьля сьмерці ахвярадаўцы – у 1921 годзе – у Базылянскіх мурох" *(Даклад Старшыні Ураду Беларускага Навуковага Таварыства А. Луцкевіча на паседжанні 22.XII.1932 // Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства. Вільня, 1933. Кн. 1. С. 6. Перадрук: Луцкевіч А. Барацьба за вызаленьне. Уклад., каментары і прадмова А. Сідарэвіча. Вільня, Беласток, 2009).*

## Хараству спрыяючы

Згадаем “нашаніўскі” класічны ўзлёт беларускага мастацкага слова, нацыянальнай думкі. Цётка, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйла, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Ігнат Буйніцкі, Францішак Аляхновіч, Язэп Драздовіч, кс. Адам Станкевіч... Калі, у якім іншым адначассі нашаму пісьменству, мастацтву шчасціла на гэтак вабнае, шчодрае суквецце дзівосных талентаў? Праз якіх маўклівы, пагарджаны мацнейшым суседам тутэйшы насельнік “Западного (“западлого”) края”, “kresyw wschodnich” выказаў свету сваё духоўнае хараство, сваю нацыянальную душу, неадольнае імкненне да самараскрыцця сваіх творчых рэсурсаў, векавечнае ідэі “людзьмі звацца”, н а р о д а м стацца – годным высокага наймення Беларус, прыстойнага пасаду ў міжнароднай сябрыне.

Жыццёвыя пуцявіны згаданых, многіх іншых творцаў пазначаныя выразнай пячаткай дабрадзейнасці лідараў “Нашае Нівы”, менавіта братоў Луцкевічаў – названых “душой беларускага адраджэння” (Якуб Колас), іхняга спрыяння кожнаму пакліканаму да беларускае справы, да асваення здзірванелых аблогаў нацыянальнай літаратуры, культуры, грамадскай думкі. Аб чым, дарэчы, неаднойчы ўдзячна пасведчылі самі творцы беларускага хараства.

## Жыве Беларусь!

Вось як пісаў пра дзяржаўна-незалежніцкія парыванні неспатольнага грамадоўца-“нашаніўца” А. Адамовіч: “Але найбольш шырокімі ды важнымі, ужо еўрапейскімі форумамі, на якіх давялося Івану Луцкевічу прадстаўляць беларускую справу, сталіся з’езды народаў Расіі ў Штакгольме і ў Лазане ў 1916 г. Газета “Гоман” пасьля гэтых з’ездаў у № 46 за 21 ліпеня 1916 г. у артыкуле “Першыя выступленьні” за подпісам “І. Мялешка” (гэтак падпісваліся артыкулы, накіданыя Іванам, аканчальна апрацаваныя Антонам Луцкевічам) дала гэткую ацэнку гэным падзеям: “Народ, каторы сто гадоў маўчаў, губляе зусім свой голас, ня ўмее гаварыць аб сабе і за сябе. Але бываюць такія здарэньні ў жыцьці прыспаных народаў, каторыя прымушаюць іх падаць свой голас, вырываюць той голас з грудзей. У нас у беларусаў гэта першы раз зрабіла вялікая расійская рэвалюцыя [1905], тады вырваўся з грудзей народу крык: “Жыве Беларусь!” і пачалася ўнутраная творчая работа над абуджэньнем нацыянальнай культуры, над агульным адраджэннем” *(Адамовіч Антон. Як дух змаганьня Беларусі. Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча. Нью-Йорк 1983. С. 19).*

Затым – архіўны дакумент. З рэзалюцыі Беларускай Рады 18 лютага 1918 г. у Вільні:

“Прымаючы пад увагу [...] 4) Што Беларусь ад XIII да канца XVIII сталецьця была незалежна, творачы разам з літвінамі асобную дзяржаву (Вялікае Княжства Літоўскае) і – пасьля прылучэньня яе гвалтам да Расеі – праз 120 гадоў няволі і ўціску не пакідала дабівацца незалежнасьці нават з аружжам у руках (1812-1905 гг.) [...], Беларуская Рада апіраючыся на рэзалюцыю Беларускай Канферэнцыі ў Вільні 25-26-27/1 1918... і на пастанове разагнанага бальшавікамі Беларускага Кангрэсу у Менску 30-31/XII.1917 зьвяртаецца да ўсіх гасударств, прыняўшых прынцып самаазначэньня нацыянальнасцей,... з прызывам аказаць помач у справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасьці колішняга Літоўска-Беларускага гасударства... Вільня, 18 лютага 1918 г.” Подпісы-аўтографы: Антон Луцкевіч. Протоіерей М. Голонкевич, Уладзіслаў Толочко, Johann (так у тэксце — *А.К.*) Луцкевіч, Д. Семашко, Язэп Салавей, усяго 12 подпісаў *(БДАМЛМ. Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 140, арк. 36 – 36 адв. Рукапіс-аўтограф А. Луцкевіча).*

З адпаведным мандатам дэлегацыя беларускіх віленчукоў у складзе А., І. Луцкевічаў, Я. Станкевіча, Я. Туркевіча, Д. Сямашкі падаецца ў Менск на паседжанне Усебеларускае Рады. Там, у будынку Дваранскага сходу з начы 24 на 25 сакавіка пасля зацята гарачай дыскусіі дэкларуецца:

“Урэшце настаў станоўчы мамэнт: галасаваньне. Новыя спробы сарваць справу, новыя “адводы” з боку ворагаў незалежнасьці. Дарэмна! [...] Каля шостае гадзіны раніцы старшыня ставіць на галасаваньне формулу: “Рада Рэспублікі аб’яўляе Беларусь незалежнай і суверэннай дзяржавай і выдае аб гэтым устаўную грамату”... І яно сталася: новая ідэя нарадзілася. Вялізарнай перавагай галасоў формула прынята! Радаснымі клікамі нарушаецца ціша. Пачынаюцца гарачыя авацыі. “Новае сьвятло нарадзілася на Беларусі!” – кліча нехта ў экстазе... Тухнуць электрычныя лямпачкі... “А старое сьвятло загасла!” – адказвае брат Іван. [...] А з наступленьнем новае ночы мы ізноў у сьцюдзённых нятопленых, *намерзлых* “цяплушках”. Мароз ажно трашчыць. На ўсёй дарозе ад Менску да Вільні нельга дастаць ані кроплі вады, ані чым сагрэцца. Але нам гэта – нічога! Бо цёпла і радасна на душы, бо мы, старыя дзеячы, першыя *сяўцы беларускае ідэі* (курсіў наш. – *А.К.*) неўспадзеўку ўбачылі, які багаты плён дала наша сяўба, пераросшы самыя сьмелыя нашы спадзяваньні. І якой дзіўнай радасьцю, якой глыбокай верай і пераконваньнем веець ад слоў брата Івана:

“Ну цяпер дык нам і паміраць ужо можна...” *(Луцкевіч А. 25 марца 1918 году: З маіх успамінаў // Наша думка. 1921. 25 сакавіка. Перадрук: “Пра Івана Луцкевіча”. С. 56, 58, 59).*

## Развітанне

Вычарпаны ахвярнымі, да самаспалення, грамадскімі клопатамі, бытавой няўладкаванасцю, праняты хваробай сухотніка, неспатольны пасіянар наш дажываў апошні год наканаванага яму кароткага веку. «Стан здароўя Івана вельмі благі, – натуе ў сваім дзённіку малодшы Антон, – але ён працуе праз сілу і нават ходзіць на свае лекцыі (у гімназію)». Свядомы крытычнасці свайго становішча, хворы тэлеграфуе з Вільні ў Петраград малодшаму брату-ўрачу: «Военно санитарный поезд 87а Степану Ив. Луцкевичу. Немедленно приезжай домой гимназии врача. Я болен серьёзно. Иван» (АР ЦНБЛ. F. 21 38. Аўтограф).

Радня, бліжэйшыя сябры наважваюцца скіраваць яго на лячэнне ў адпаведную здраўніцу польскага Закапанэ. Туды 15 чэрвеня 1919 г. і падаецца знядужаны Іван у суправаджэнні Лялі Мэнке, малодшай сястры Юльяны – яго каханай і супольніцы ў беларускай справе. Па дарозе – марудлівае затрыманне ў Варшаве. Дзякуй, польскія калегі акажуць спагаду й спрыянне драматычным клопатам хворага беларуса. Анджэй Струг (Т. Галэцкі) – пісьменнік і сацыяліст – звяртаецца пісьмова да кіраўніка санаторыя ў Закапанэ з просьбай паспрыяць уладкаванню й лячэнню “Яна Луцкевіча – асабіста мне знаёмага выбітнага беларускага дзеяча” *(БДАМЛМ. Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 261, арк. 47).* У тым самым, зняможаным стане нашага дзеяча не адпускае адвечна неспатольны клопат. Аб чым – яго тэлеграма-просьба з Варшавы ў Вільню да Ад. Станкевіча даслаць брашуру А. Цвікевіча “Беларусь” на адрас: Hotel Saski 35 Luckiewicz *(БДАМЛМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 226, арк. 152).*

Аднак ні лагодная цяплынь Прыкарпацкага прадгор’я, ні апека санаторных лекараў ужо не маглі прадухіліць сыход зняможанага пацыента. Ціха неабарачальна доўжылася яго дагасанне. Хаця яшчэ здолеў адгукнуцца лістоўна да А. Луцкевіча, які пад той час на Вярсальскай мірнай канферэнцыі правам Старшыні народных міністраў БНР адчайна бараніў дзяржаўныя інтарэсы паняволенай Беларусі. Гэтыя “прадсмяротныя пісьмы з 16.VIII.1919 да брата Антона” захоўваліся ў Віленскім

Беларускім Музеі, адкуль у жніўні 1945 г. разам з многімі скрынкамі іншых бясцэнных матэрыялаў іх забяруць (*изымут*) супрацоўнікі НКВД *(Лабынцаў Ю. Архіў беларускага адраджэння. Мн. 1993. С. 31)*.

Апоўначы 19 жніўня 1919 ён адышоў на вечны супакой – на руках свае бліжэйшае сяброўкі Юльяны Мэнке. Яна з сястрою і купкаю спачувальных і правялі нябожчыка ў апошні шлях. "Нашы прыяцелі-украінцы, – успамінала пазней, – неслі пекны вянок з галінаў лімбы, горнай сасны і верасу, на стужках красаваўся надпіс: "Борцові Білорусі від братів українців". (Кранальны жэст з боку "братоў-украінцаў" не быў выпадковым. Пэўна, ведалі пра судакрананне абодвух Луцкевічаў з вызвольнымі парываннямі іхняе Радзімы, аб творчых узаемінах відных "нашаніўцаў" з вядомымі руплівцамі ўкраінскага руху – М. Грушэўскім, Дм. Дарашэнкам, А. Шэптыцкім, іншымі). "Я паклала яму вянок з беларускай стужкай: "Майму дарагому другу". Ляля – вялізны букет ягоных любімых мечыкаў, шмат кветак прынеслі й іншыя. І сьвежы насып тануў у зелені і кветках" *(Вітан-Дубейкоўская Ю. Мае ўспаміны. Вільня 1994. С. 170)*.

## Меморыя

Асыпаны кветкамі надмагільны курганок засвеціцца фотавыявай на першай паласе газеты "Беларускае жыцьцё" ад 21 кастрычніка 1919 г. Пад здымкам паведамлялася, што з надыходам маразоў цела памерлага будзе перавезена ў Вільню. У тым самым часе ў беларускім друку прагучаць высока памінальныя галасы па нябожчыку – Зм. Бядулі, М. Гарэцкага, М. Краўцова, Янкі Купалы, П. Бадуновай, Ф. Аляхновіча, кс. Ул. Талочкі, іншых. Лістападавым надвячоркам 1923 г. ля таго ж курганка запыніцца ў журботнай самоце паэт Казімер Сваяк (кс. К. Стэповіч) і малітоўна пазначыць у сваім дзённіку: "Сумная адзінокая магілка ваякі ідэі беларускай Яна Луцкевіча. Вечны спакой яму, Божа, дай" *(Сваяк К. Дзеля маёй мысьлі, сэрца і волі. Выд. другое. Лондан, 1991. С. 41)*. Пазней, з берага Волгі, спачувальным лістом адгукнецца да А. Луцкевіча 27 чэрвеня 1927 г. Адам Багдановіч, бацька Максіма: «...С грустью и сожалением узнал из Вашего письма о смерти Вашего доброй памяти брата Ивана. Я знаком с его и Вашей деятельностью по русской и польской печати и со слов покойного сына, который восхищался его коллекцией слуцких поясов и другой белорусской старины..." *(АР ЦНБЛ. F. 21 239)*. У памяці сваіх сучаснікаў – ідэйных гадунцоў ён застаўся руплівцам нацыянальнага адзінства на вызвольным шляху (што да нядаўняга выкрывальнікамі "классового солидаризма" лічылася ледзь не страшнейшай заганай нацыянальнага руху): "У ўсёй сваёй дзейнасці стыкаючыся з рознымі людзьмі Іван Луцкевіч быў з мужыком мужык, з панам пан, з каталіком каталік, з праваслаўным праваслаўны, з пратэстантам пратэстант і г. д., але з усімі заставаўся Беларусам" *(Станкевіч Я. Найвыдатнейшыя нашаніўцы // У яго кн. "Гістарычныя творы". Мн., 2003. С. 489)*.

Вяртанне ж у родныя абсягі задоўжылася на многія, "маразлівыя", дзесяцігоддзі. З пацяпленнем грамадска-палітычнага клімату, сонечным маёвым дзянёчкам 1991 г. на даўнінных віленскіх могілках Роса адбылося сімвалічнае перазахаванне праху Івана Луцкевіча. Пры адкрыцці помніка Івану і Антону Луцкевічам ля сімвалічнае магілы выказалі ўдзячнасць іх неўміручаму подзвігу дзеля маці-Беларусі – Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч, генеральны дырэктар Дэпартамента нацыянальнасцей Літвы Галіна Кабецкайтэ, віцэ-старшыня Рады БНФ Юры Хадыка, лідэр беларускае дыяспары ў Вільні Хведар Нюнька, іншыя прадстаўнікі грамадскасці Мінска, Магілёва, Маладзечна *(Мілаш Л. Таварыства Беларускай культуры ў Літве. Вільня, 2000. С. 39)*.

Наперадзе, трэба спадзявацца, адпаведнае ўшанаванне памяці абодвух нацыянальных прарокаў на іхняй Бацькаўшчыне. Новы, сапраўдны беларускі Гаспадар краіны рушыць нашым Адвечным шляхам, ведучы за сабою, цвярэзячы замбаваннем ачадзены люд паспаліты. І тады – цалкам верагодна – на Плошчы Незалежнасці стольнага Менска ўзнясецца помнік з надпісам: “Івану, Антону Луцкевічам – вольная адроджаная Беларусь”.

Будзем верыць. Будзем жыць.

*Кастрычнік 2015*

С к а р а ч э н н і :

АКДБ РБ – Архіў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.
АР ЦНБЛ – Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Літвы.
АР НБЛ – Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі ім. В. Стэфаніка ў Львове.
АР РДБ – Аддзел рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі.
БДАМЛМ – Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.
БЛУ – Бібліятэка Лодзінскага ўніверсітэта (Польшча).
ДАРФ – Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі.
ЦДГА – Цэнтральны гістарычны архіў у С.-Пецярбургу.
CA KC PZPR – Цэнтральны архіў ЦК Польскай Аб’яднанай Рабочай Партыі.

[1] Каваль А. (Каўка А.). Іван Луцкевіч 1881-1919 // Ніва. 1981. № 13. Яго ж. Яшчэ пра Івана Луцкевіча // Там жа. № 45. Яго ж. Іван Луцкевіч – адраджэнец // Беларусіка. Albaruthenica. Кн. 1. Мн., 1993. С. 41-47. Вяртанне // Скарыніч. 1993. Вып. 2. С. 130-138. Кавко А.К. От Скорины до Купалы. Белорусская литература в контексте национально-культурного возрождения. М., ИМЛИ РАН, 2006. С. 140-156.

[2] Праз вельмі-вельмі шмат гадоў пані Людвіка, усебеларуская крынічка памяці, згадае ў лісце да гарадзенца Аляксея Пяткевіча 5 сакавіка 1986 г.: “Паміж іншым, не ведаю, хто і калі пачаў старэйшага Луцкевіча называць Іванам, бо ён у лістах падпісваўся Ян. Маю пару яго лістоў з такім подпісам” (“А думкі ляцелі ў Гродна”. Лісты Зоські Верас да Аляксея Пяткевіча. Публ. М. Скоблы // Асоба і час. Мінск: “Лімарыус”, 2013. Вып. 5. С. 142). Аўтограф аднаго з лістоў Яна Луцкевіча – у нашай публікацыі.

[3] Каўка А. Тут мой народ. Мн. 1989. С. 211-214. Яго ж. Іван Луцкевіч – адраджэнец... С. 42 – 45.

[4] Прыняты ў навуковым абыходку як “Кітаб Івана Луцкевіча”. Пад такой назвай нядаўна выдадзены ў Літве – Ivano Luckevicius Kitabus / Китаб Ивана Луцкевича. Vilnus, 2009.

[5] У закранутым “антыкварным” кантэксце прыкметнай падаецца архівальная зацемка аб набыцці ў 1904 г. князем Уладыславам Сапегам сямейных памятак роду Сапегаў“ад супрацоўніка Археалагічнага інстытута ў Пецярбургу Яна Луцкевіча” (АР НБЛ. Ф. 444).

Леанід Дранько-Майсюк



...Вашая падтрымка і добрыя словы для мяне, як пагода ў час жніва...

# "...Гатовы Вам заўсёды дапамагчы..."

***Ліставанне з Міхасём Стральцовым***

Часам хочацца, каб тыя лісты, якія ты пісаў у маладосці і пасылаў чорт ведае каму, зніклі – бо зазвычай яны паказваюць нягегласць думкі і нязграбнасць стылю, няшчырасць, а то і ўвогуле прыхоўваюць да пары нешта такое, ад чаго ўмомант на душы робіцца і сорамна, і брыдка.

Аднак жа большая трывога ў сэрцы, як згадваеш свае даўнія пасланні людзям любімым...

Калі паэт Міхась Скобла паведаміў, што адшукаў маю карэспандэнцыю да Міхася Стральцова, я напалохаўся, бо не памятаў ніводнага радка з таго, што пасылаў аўтару "Загадкі Багдановіча"!

Вядома, не памятаў і колькасць пасланага – як выявілася, напісаў М. Стральцову трынаццаць лістоў.

Што я, студэнт маскоўскага Літаратурнага інстытута, а крыху пазней рэдактар мінскага выдавецтва "Мастацкая літаратура", крэмзаў у сваіх пісьмах?

Хіба што мог з пятага на дзясятае ўгадаць па атрыманых

адказах – у сваім архіве маю дзесяць стральцоўскіх лістоў, і яны, гэтыя лісты – мастацтва і такая ж проза, як, скажам, “Смаленне вепрука” ці “Свет Іванавіч, былы донжуан”, а часам – філасофскія разважанні, эмацыянальная эсэістыка і далікатная паэзія...

Я не імкнуўся быць вучнем М. Стральцова, але незаўважна ён стаў эпістолярным маім настаўнікам, і, перачытваючы ягоныя пісьмы, я пераконваўся: лісты ж увогуле – нашыя лепшыя творы, праўда, пры той умове, калі мы сапраўдныя самі.

М. Стральцоў якраз такім і быў...

Я палюбіў яго адразу, як толькі ўбачыў у часопісе “Маладосць” яго партрэт – так, спачатку, як толькі скончыў школу, напаткаў у часопісе фота пісьменніка, а творы пазней, і не апавяданні з вершамі – артыкулы.

Калі ўжо служыў, маці прыслала мне ў казарму прыгожае выданне “У полі зроку” – стральцоўскі зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ.

Па службе сваёй гэтую кнігу я пакінуў маёру Казіміру Маслоўскаму, беларусу з Лагойшчыны, майму камандзіру...

У Маскве, у Літінстытуце, студэнты з захапленнем гаварылі пра стральцоўскае апавяданне “Смаленне вепрука”, і я пастанавіў: калі буду жыць у Мінску, то першае што зраблю – пазнаёмлюся з ім, Міхасём Стральцовым...

Знаёмства ў Мінску і адбылося, улетку 1981 года – тады Міхась Стральцоў вандраваў, жыў сабе вольна і адначасова паходзіў на Поля Верлена і Сяргея Ясеніна...

Праз паўгода я даведаўся, што ён апынуўся ў лячэбна-працоўным прафілакторыі (ЛПП) – знаходзілася тая сумная ўстанова ў нейкіх Міхалках пад Мазыром.

Я напісаў туды – так і пачалося яно, нашае ліставанне...

А ранкам 28 студзеня 1982 года я сеў у аўтобус Давыд-Гарадок – Мазыр, а ўжо з мазырскай аўтобуснай у тыя Міхалкі за дзесяць рублёў мяне давёз таксіст.

Пра гэта, пра сваю сустрэчу з Міхасём Стральцовым у казённым доме, я расказаў у нарысе “Устойлівае суседства” (“Дзеяслоў” № 18, 2005 г.; С. 220-226), таму паўтарацца не буду.

Скажу толькі: з Міхалак вяртаўся замаркочаны; ужо зусім сцямнела, і даехаў я толькі да Лельчыц і там заначаваў – за рубля касірка аўтобуснай пусціла мяне ў дарожную спальню з мулкай лавай.

Я не спаў там – думаў пра яго...

У Міхалках ён ужо быў падобны не на Верлена і Ясеніна, а на доктара Казіміра Ірмалевіча, героя рамана Кузьмы Чорнага “Сястра” – прынамсі, ён мог услед за гэтым чорнаўскім персанажам прамовіць: “Я звяў ад стомленасці, я пачынаю паддавацца ўсяму вакольнаму...”

На жаль, была ж неабходнасць у яго знаходжанні на прымусовым лячэнні.

У Міхалках ён хацеў пісаць сваё, бо так і паведамляў у адным з лістоў: “...а пісаць хочацца...”, аднак на мастацкае пісьмо бракавала спакою, хоць працу меў у спакойным кутку – у бібліятэцы...

Другі персанаж “Сястры” вандроўны рамантык Ваця Браніславец ведаў пра сябе “...што не ўсё ў ім і ён не ўва ўсім, а ўсё вышэй і шырэй, а ён у маленькім кутку ўсяго, нізкім, цёмным і няважным...”

Такімі, ці амаль такімі, былі і думкі Міхася Стральцова там, у Міхалках, за калючым дротам ЛПП, і мне хацелася хоць як-небудзь і хоць у чым-небудзь паспрыяць яму.

Але што я мог, акрамя паштовых слоў: “...гатовы Вам заўсёды дапамагчы...”

# Лісты да Міхася Стральцова

**Першы ліст**[1]



*Міхась СТРАЛЬЦОЎ*

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Зусім выпадкова даведаўся я пра Ваша апошняе месца знаходжання[2].

Пішу з такой мэтай: павіншаваць Вас са святам, а таксама даведацца – ці маеце Вы зараз больш-менш спрыяльныя ўмовы для сваёй[3] працы.

Хто я такі?

Мусіць, Вы помніце мяне[4] па апошнім леце.

Тады я праходзіў практыку ў “Мастацкай літаратуры” ў рэдакцыі паэзіі[5].

Мы з Вамі нават некалькі разоў сустракаліся. Зараз я дабіваю сваю вучобу ў Маскве, у Літаратурным інстытуце. А недзе пасля 20 студзеня[6] збіраюся дахаты, на Палессе.

Мне хочацца з Вамі сустрэцца. Ці будзе на гэта згода з Вашага боку[7]? Калі будзе, то мо нешта патрэбна Вам, пішыце, і я захаплю тое з сабой у дарогу[8].

А пакуль што буду развітвацца, спадзеючыся на Ваш ліст[9].

Адрас мой такі:

117393, Москва В-393,

ул. Профсоюзная, д. 60, к. 1, кв. 67.

*Леанід Драньestablished-Майсюк.*

[1] Гэты ліст – навагодняя каляровая паштоўка “С Новым Годом!” Даты няма, але на штэмпелі маскоўскай пошты можна ўбачыць такое чысло: “28.12.81...” – значыць, напісаў я гэтую паштоўку 27-га ці ранкам 28 снежня 1981 года. Ліст пасланы на адрас: “Гомельская вобласць, г. Мазыр – 11, ЛПП-2...”; штэмпель мазырскай пошты на канверце адсутнічае.

[2] Пра тое, што М. Стральцоў нечакана апынуўся пад Мазыром, у вядомай установе, паведаміла мне мая цешча Валянціна Шчадрына (1927-2008). У тыя гады спадарыня Валянціна працавала ў Саюзе пісьменнікаў СССР і перакладала на рускую мову прозу У. Караткевіча.

[3] Гэта слова падкрэслена.

[4] У сваім першым да мяне лісце 7 студзеня 1982 года М. Стральцоў пісаў: «...Ты трошкі крыўдзіш мяне, як бы нанова пачынаеш наша знаёмства. Ну, вядома, я памятаю цябе, нашы харошыя сустрэчы ў Мінску, памятаю пачуццё даверу адзін да аднаго, што засталося пасля іх – хіба гэта мала?..”

[5] У 1981 годзе я, студэнт маскоўскага Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага, прыехаў у Мінск, у выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Збіраўся ў часопіс “Полымя”, але паэтэса Валянціна Коўтун (1946-2011) параіла адбыць рэдактарскую практыку ў выдавецтве.

[6] Маецца на ўвазе: 20 студзеня наступнага 1982 года.

[7] У тым жа сваім першым да мяне лісце ад 7 студзеня 1982 года М. Стральцоў пісаў: “...Бачыць цябе буду рады і нават вельмі...”

[8] На гэта ў двойчы ўжо згаданым лісце М. Стральцоў паведамляў: “...Везці мне нічога не трэба – могуць не ўзяць (тут, відавочна, Міхась Лявонавіч меў на ўвазе тое, што адміністрацыя ЛПП можа не дазволіць узяць прывезенае. – *Л. Д.-М.*) Дробязь хіба якую...”

[9] Паводле штэмпеля маскоўскай пошты першы ліст ад М. Стральцова я атрымаў 14 студзеня 1982 года.

**Другі ліст**

*14.1.(19)82*

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Ліст Ваш[1] мяне вельмі ўсцешыў – Вы адгукнуліся, і разам з тым трохі засмуціў, асабліва радок "...для працы сваёй часу амаль няма". Сапраўды, нейкае безнадзейнае экзістэнцыяльнае становішча[2]. Дзякуй богу, што яно часовае. Дзякуй богу, што дзень пераходзіць у ноч, а ноч зноў у дзень. Прыйдзе час, і з'явіцца ў Вас тое новае, па маштабу свайму роўнае "Загадцы Багдановіча"[3]. Дарэчы, пра Багдановіча[4]...

Здаецца, у першым сваім лісце я гаварыў Вам аб вечары Багдановіча[5], які адбыўся ў ЦДЛ[6]. Прыйшло шмат людзей. Нейкая частка з іх, вядома, невялікая, чытала Багдановіча; большасць складалі людзі, якія толькі чулі пра паэта і то адным вухам; астатнія нават і не ведалі – хто гэта такі. Улічваючы ўсё [...], як мне здаецца, у гэтай маскоўскай зале ў першую чаргу павінен быў прагучаць шчыры асветніцкі[7] матыў: трэба было масквічоў натхніць Багдановічам, па-чалавечы расказаць пра яго, спыніцца на яго лепшых творах. Я разумею, што гэта задача велізарнай складанасці і ўрэшце рэшт разбэшчанай маскоўскай публіцы напляваць на [нашага паэта]. Але ўсё ж... Танк[8] і Гілевіч[9] [...] (проста) вяшчалі[10]. Мой сябар са Славакіі[11], якога я запрасіў на вечар, толькі ўздыхнуў: "Бедны Багдановіч!" А што мне было яму адказаць. За тыдзень да гэтага вечара я прынёс яму Вашу "Загадку", перакладзеную на рускую мову[12]. Ён прачытаў, і чытанне гэтае яшчэ больш узмацніла яго жаданне перакладаць Багдановіча. Тэадор (імя сябра) хоча бачыць Багдановіча па-славацку. Са свайго боку я спрыяю (ягонаму) жаданню. Раблю падрадкоўнікі, тлумачу асобныя словы. І ёсць яшчэ ў мяне задума – паказаць Тэадору Беларусь; як перакладчыку яму гэта спатрэбіцца. Замінка толькі вядома ў чым – няма грошай. А на паездку іх трэба багата[13].

Ну ды годзе. Я ўжо надакучыў Вам сваімі плёткамі. Дахаты збіраюся пасля 20-га студзеня[14]. Колькі дзён пабуду ў сваім Давыд-Гарадку, супакою бацькоў (даўно мяне бачылі)[15], а пасля да Вас[16]. Думаю, што перашкодаў ніякіх не будзе, і мы сустрэнемся, як і некалі сустракаліся.

У "Полымі" (адзін з апошніх нумароў) знайшоў Вашыя вершы[17]. Здзівілі мяне радкі пра Купалу і Ахматаву[18]! Але пра гэта шчэ пагамонім.

Яшчэ раз[19] Вам дзякуй за ліст, ён даў магчымасць узнікнуць нашаму дыялогу.

Буду рады кожнаму Вашаму радку.

Да пабачэння.

*Ваш Дранько-Майсюк.*




*З гэтых лістоў пачалася перапіска Л. Дранько-Майсюка з М. Стральцовым.*

[1] Маецца на ўвазе першае пісьмо.

[2] Пра мазырскае ЛПП М. Стральцоў пісаў, як пра "...месца, дзе найпрасцей падацца ў экзістэнцыянісцкую веру..."

[3] "Загадка Багдановіча" – аповесць М. Стральцова, якая ўбачыла свет у 1968 годзе.

[4] Максім Багдановіч (1891-1917) – паэт.

[5] У сваім першым лісце пра вечар М. Багдановіча я не пісаў.

[6] ЦДЛ – Цэнтральны дом літаратара ў Маскве. Тут у снежні 1981 года прайшла вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча.

[7] Гэта слова падкрэслена.

[8] Максім Танк (1912-1995) – народны паэт Беларусі.

[9] Ніл Гілевіч (1931) – народны паэт Беларусі.

[10] Меркаванне студэнта, які знаходзіўся ў палоне максімалізму. На той вечарыне, дарэчы, змястоўную вусную лекцыю, прысвечаную вершу М. Багдановіча “Агата”, прачытаў Мікалай Улашчык, а Н. Гілевіч зрабіў цікавы разбор рэцэнзіі М. Багдановіча на пераклад М. Гумілёвым паэтычнай кнігі французскага паэта Тэафіля Гацье “Эмалі і камеі”.

[11] Тэадор Крыжка (1956) – славацкі паэт.

[12] “Загадку Багдановіча” на рускую мову пераклаў П. Кабзарэўскі.

[13] Паездка адбылася ў красавіку 1982 года.

[14] Гл. да першага ліста заўвагу – 6.

[15] З Давыд-Гарадка ў Маскву я выехаў 29 жніўня 1981 года, – значыць, бацькі мяне не бачылі паўгода.




*Аўтограф М. Стральцова на кнізе “На ўспамін аб радасці”, падпісанай Л. Дранько-Майсюку ў мазырскім ЛПП.*

[16] У мазырскім ЛПП мы сустрэліся 28 студзеня 1982 года.

[17] Згадка пра публікацыю вершаў М. Стральцова ў часопісе “Полымя” № 12, 1981 г.

[18] Маецца на ўвазе верш “Жалейка” (пазнейшая назва “Купала”).

[19] «Яшчэ раз” – словазлучэнне лішняе, бо я дзякую М. Стральцову за ягоны ліст толькі ў гэтым абзацы.

**Трэці ліст**

*9 лютага, (19)82 г.*

*Масква.*

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Едучы ад Вас у свой Давыд-Гарадок, я ўвесь час шкадаваў, што мала Вам пакінуў сала. Маці[1] мне давала вялізны кус, але я неяк пасаромеўся везці Вам столькі багата. Маці раіла – бяры больш і г.д. ...Гэтае прыкрае пачуццё і дагэтуль не знікла. І ліст да Вас пачаў я пад яго ўплывам[2].

У Маскву [...] выбраўся не зусім удала. Прыехаў у Мінск – была нядзеля. Да Барадуліна[3] не дазваніўся, Сямёнаву[4] не ўбачыў. Зайшоў да Вадзіма Спрынчана[5]. Вашу просьбу Вадзіму пераказаў (заяўка, пераклад, кніга выбранага і г.д.) і папрасіў, каб ён пагутарыў з Алай Сямёнавай[6].

Яшчэ з Давыд-Гарадка пазваніў В. М. Шчадрыной[7]. І тут, у Маскве, мне ўжо казалі, што яна[8] выходзіла на Законнікава[9] (здаецца, ён з ЦК) і, відаць, была ў яе размова з Макаёнкам[10]. Пра ўсё гэта можа Вы ўжо ведаеце з яе ліста[11]. А калі ліста гэткага не было, то, я мяркую, варт(а) напісаць свой да яе і распытаць аб усім.

Выйшаў “Дзень паэзіі – 81”. Кніга нечаканая, асабліва для мяне – мяне ў ёй перахрысцілі з Леаніда ў Міхаіла. На 73-й старонцы так і стаіць – Міхаіл Дранько-Майсюк[12]. Жарт лёсу або маладой наборшчыцы.

Сёння зранку пазваніў Аскоцкаму[13]. Ён запісаў Ваш адрас, распытаў – дзе Вы, што Вы, як Вам...

Тэлефон В. Івашчанкі[14] я не знайшоў. [...] шукаў у старым даведніку, трэба зазірнуць у новы. Там, пэўна, будуць яго каардынаты[15].

З Мінскам пакуль што ў мяне нічога не атрымліваецца. Прапіска? Хата? Работа? Відаць, застануся ў Маскве[16]. Буду вам пісаць і буду гатовы Вам заўсёды дапамагчы.

*Ваш Леанід.*

[1] Мая маці – Люба Дранько-Майсюк [дзявочае прозвішча: Нічыпорка] (1933-2009).

[2] У сваім другім лісце, напісаным 16 лютага 1982 года, М. Стральцоў супакойваў мяне: “Дарагі Леанід! Ну чаго ты так засмучаешся, браце, – ты і так для мяне надта многа зрабіў і, галоўнае, па ўнутранаму парыванню, нязмушана, шчыра: для мяне ў мае ўжо не такія харцэрскія гады гэта важна і ад гэтага цяплей на душы...”

[3] Рыгор Барадулін (1935-2014) – народны паэт Беларусі.

[4] Ала Сямёнава (1938) – пісьменніца, аўтар аповесці пра М. Стральцова “Бэзавы попел”.

[5] В. Спрынчан (1950) – паэт, перакладаў на рускую мову вершы М. Стральцова.

[6] Гаворка вялася пра будучую кнігу выбраных твораў М. Стральцова.

[7] Гл. заўвагу 2 да першага ліста.

[8] В. Шчадрына вяла перамовы з І. Шамякіным (1921-2004) наконт датэрміновага вызвалення М. Стральцова з ЛПП. Па яе просьбе І. Шамякін званіў пракурору Гомельскай вобласці. Таксама ж па просьбе В. Шчадрыной М. Стральцова ў ЛПП у першай дэкадзе снежня 1981 года наведаў яе старэйшы брат В.М. Кохненка (1922-1987) – на той час рэнтгенолаг супрацьсухотнага дыспансера Нароўлі.

[9] Сяргей Законнікаў (1946) – паэт, працаваў у апараце ЦК КПБ, спрабаваў дапамагчы М. Стральцову.

[10] Андрэй Макаёнак (1920-1982) – народны пісьменнік Беларусі.

[11] В. Шчадрына напісала М. Стральцову каля дзесяці лістоў.

[12] У лісце за 16 лютага 1982 года М. Стральцоў так мяне разважыў: “...Наконт памылкі ў друку не перажывай, хоць я і ведаю, як прыкра бывае гэта. У мяне вунь горш: ёсць Б. Стральцоў (1926-2009; пісьменнік, доктар філалагічных навук. – *Л. Д.-М.*), з якім мяне (ці яго) доўга блыталі, пакуль не прайшоў час і не стала ўсё на месца, а цяпер вось аднекуль выкаціўся нехта М. Стральчэня, а Вялюгін (1923-1994; паэт, загадваў рэдакцыяй паэзіі ў часопісе “Полымя”. – *Л. Д.-М.*) нічога лепшага не прыдумаў, як надрукаваць нас у адным нумары (“Полымя” № 12, 1981 г. – *Л. Д.-М.*). А можа тут ёсць і мондры (так у М. Стральцова. – *Л. Д.-М.*) разлік, і сярмяжная праўда: няхай чубяцца, можа хто і адступіцца. Я жартую, вядома. Не надавай твайму факту значэння: у цябе ўсё наперадзе, будзе час і напамінаць аб сабе чытачу, і запомніцца яму...”

[13] В. Аскоцкі (1931-2010) – маскоўскі літаратуразнаўца; яму М. Стральцоў прысвяціў верш “У самых дальніх, дальніх гарадах...”

[14] В. Івашчанка – маскоўскі крытык, напісаў пасляслоўе да кнігі М. Стральцова “Журавлиное небо” (выдавецтва “Известия”, Масква, 1978 г.).

[15] Да В. Івашчанкі я ўсё-ткі дазваніўся і паведаміў яму, што М. Стральцоў знаходзіцца ў

*Аўтографы: злева – М. Стральцова, справа – Л. Дранько-Майсюка.*

Мазыры. У тым жа лісце за 16.02.1982 года можна прачытаць такія радкі: "...Слухай: нечакана і хораша адгукнуўся Слава Івашчанка! Я чакаў найперш ліста ад Аскоцкага, а Слава, добрая душа, яго апярэдзіў. І я крыўдую трохі на Валянціна (Аскоцкага. – *Л. Д.-М.*): усё [ж] добра, што ты да яго (В. Івашчанкі. – *Л. Д.-М.*) "дапяў"..."

[16] У вышэйзгаданым лісце М. Стральцоў прапаноўваў: "...Прапіску табе мо неяк зробім, толькі была б цвёрдая гарантыя работы. Прапісацца можна, урэшце, і ў Каралішчавічах, а жыць у Мінску. Я сваю кватэру мяняю, седзячы тут, і аднапакаёўка ў мяне будзе – значыць, будзе дзе прыткнуцца па першым часе і табе..."

Улетку 1982 года я завяршаў сваю вучобу ў Літаратурным інстытуце і меркаваў з Масквы перабірацца ў Мінск. Так яно пазней і сталася. З работай дапамог Міхал Дубянецкі (1927-1990) – уладкаваў у выдавецтва "Мастацкая літаратура", дырэктарам якога на той час ён з'яўляўся, а з прапіскаю паспрыяў Уладзімір Караткевіч (1930-1984) – прапісаў у сваёй кватэры.

**Чацвёрты ліст**

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Ваш ліст[1] мяне супакоіў, дакладней сама яго інтанацыя – нібы мы зноў сустрэліся і пагаманілі. Сумаваць Вам апошнім часам не давялося – я маю на ўвазе візіты сяброў, а таксама патрэбныя лісты з Мінска[2]. Гэта ўсё добра, і разам з тым цяперашняе Ваша жыццё не падстава для супакаення. Калі я званіў Івашчанку, гаворачы пра Вас, ён абяцаў пайсці да Сураўцава[3] ў вялікі Саюз[4] і праз яго дапамогу нешта зрабіць. Не ведаю, ці хадзіў ён? Сёння абавязкова сустрэнуся з Валянцінай Міканораўнай Шчадрынай, даведаюся ў яе, што чуваць на фронце нашай агульнай справы. Апрача Законнікава яна званком з Масквы турбавала яшчэ нейкага пана. Думаю, Вам яна аба ўсім напіша.

Што робіцца ў мяне асабіста?

Рыхтуюся да свае абароны, яна 4-га сакавіка. Учора прачытаў два водгукі на свой дыплом. Яны станоўчыя, але першы (пісаў В. Дзяменцьеў[5]) вельмі павярхоўны, адпісачны, другі ж – мяне па-сапраўднаму здзівіў. Напісаны з цеплынёй, з веданнем справы і г.д. Зрабіла яго выкладчыца нашага інстытута Г. І. Сядых[6]. Дзякуй ёй!

У Маскве ў колах літаратурных і калялітаратурных зараз горача абмяркоўваецца артыкул Кожынава[7] ("Наш современник" № 11[8]), прысвечаны русафільскім праблемам. Гаворка ў артыкуле йдзе таксама пра касмапалітызм і нацыяналізм. Паводле Кожынава, з'явы гэтыя, кожная ўвасобку, небяспечныя. Трэба, каб яны не размяжоўваліся. А ўсім славянам наогул трэба згуртавацца. На якой падставе? Здаецца, Кожынаў пра гэта не гаворыць. Але, вядома, што ў (такім) яднанні руская нацыя павінна адыграць выключную ролю, ролю гегемона, ці як. Шчыра кажучы, гэта мне не зусім падабаецца, і наогул пра гэта [...] не хочацца думаць. Галоўнае ўсё-ткі – [...] добрыя вершы. А хто іх напісаў – беларус ці яўрэй, дальбог, знаку вялікага не мае[9].

Аперацыя "перасяленне ў Мінск" пакуль што замарожана. Хоць мне трохі й крыўдна робіцца, быццам ужо беларусы Мінску непатрэбны. Жонка мая[10] перадае Вам сваё прывітанне, і хлопчык мой Васіль[11] таксама дзядзьку Міхасю маша ручкай.

Буду чакаць Вашых лістоў.

Да пабачэння, Міхась Лявонавіч.

23.02.(19)82 г.

*Леанід.*

[1] Маецца на ўвазе пісьмо М. Стральцова ад 16 лютага 1982 года.

[2] У вышэйзгаданым пісьме М. Стральцоў паведамляў: "... Па дарожцы, пратоpанай табой, нядаўна пабывалі ў мяне ўніверсітэцкі аднакурснік Іван Шуцік (рэдакт.[ар] "Же-

лезнодор.[ожника[ Белорусс.[ии]) і Анат.(оль) Аўруцін... Прывезлі лісты ад Барадуліна, Паўлава, Эд. Валасевіча...”

[3] Юры Сураўцаў (1931 – 2001) – літаратурны крытык, адзін з кіраўнікоў СП СССР.

[4] Тут у сэнсе: пайсці ў Саюз пісьменнікаў СССР.

[5] Валеры Дзяменцьеў (1925 – 2000) – рускі літаратуразнаўца. Летам 1978 года, адразу пасля службы ў войску, я трапіў у паэтычны семінар, якім кіраваў В. Дзяменцьеў. На гэтым семінары, дарэчы, я пазнаёміўся з паэтам Уладзімірам Марозам.

[6] Галіна Сядых – кандыдат філалагічных навук, у Літаратурным інстытуце чытала курс лекцый па тэорыі верша і кіравала адным з семінараў паэзіі.

[7] Вадзім Кожынаў (1930 – 2001) – літаратурны крытык, адэпт нацыянальнай рускай ідэі.

[8] Згадка пра артыкул В. Кожынава “И назовёт меня всяк сущий в ней язык” (часопіс “Наш современник” № 11, 1981 г.)

[9] Імя і філасофія В. Кожынава ў стральцоўскім трэцім лісце (7.03.1982 г.) адгукнуліся гэткім чынам: “... хай бы... ўсё ж мяне адсюль неяк хутчэй выдзіралі. На сваіх айчынных я таксама, як і ты, вялікай надзеі не маю, бо “несть пророка в отечестве своём” – няхай масквічы аб’ядноўваюцца, хоць і па кожынаўскіх рэцэптах, але дапамагаюць...”

[10] Вольга Шчадрына.

[11] Гаворка пра нашага з Вольгай сына, якому на момант напісання гэтага ліста было сем месяцаў.

**Пяты ліст[1]**

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Учора ўвечары[2] званіў я В. Івашчанку. Чалавек ён, мяркуючы па голасу, цудоўны і вельмі спагадлівы. З такімі людзьмі хочацца сябраваць. У Мінск на імя Я. Сіпакова[3] ён даслаў ліст, у якім (што ў ім было канкрэтна, я не ведаю, але здагадваюся) амаль што рускім матам прайшоўся і па самому Янку[4], і па другіх нашых “затлусцеўшых” класіках, якія зараз дзеляць дзяржпрэміі, пасады, кватэры і якім цяжка пальцам зварухнуць, каб зрабіць нешта сапраўды добрае і карыснае. Сіпакоў, за што яго можна паважаць, адказаў Івашчанку – нешта ён там тлумачыў, нешта абяцаў, адным словам, пачаў варушыць пальцам. Але ж Вы самі разумееце, Міхась Лявонавіч, гэтае варушэнне яшчэ не дапамога. Івашчанка пра [...] свой ліст і пра іншыя свае заходы ў гэтым (на)кірунку[5], як мне здаецца, лепш раскажа сам, калі ўжо не расказаў. Я яшчэ ведаю, што ён сустракаўся з Валянцінай Міканораўнай, а пра што яны гаварылі?.. Недзе ў канцы сакавіка ён едзе ў Мінск, а адтуль мае намер наведаць Вас[6]. Валянціна Міканораўна ліст Вам напісала, Вы яго павінны атрымаць. Яна вельмі заклапочана Вашым становішчам, і ўсё што можна было ў Мінску абзваніць, яна абзваніла. Але (і)зноў жа – людзі дзеляць пасады, прэміі і г.д. Гэта якраз прыклад да Вашага разважання пра браткоў-беларусаў, пра іх свінства і зачуханства[7]. Са свайго боку я амаль нічым дапамагчы не здолею, хіба што толькі яшчэ раз прыеду да Вас, прывязу нейкія не зусім патрэбныя маскоўскія навіны, вось і ўсё[8]. Ніхто са мной ні тут, ні ў Мінску размаўляць не будзе. Я ўжо спрабаваў нешта рабіць [...], але выніку станоўчага не было. Здаецца, 20 сак.(авіка) у Мінску адбудзецца нейкі пленум[9], прыме ўдзел у яго рабоце Валянціна Міканораўна. Яна, відаць, паспрабуе выкарыстаць гэты час для Вашай справы.

А ў мяне набеглі нейкія свае клопаты. 18 сакавіка трэба будзе выступаць на тэлебачанні. Гэта будзе толькі запіс[10], а калі выйдзе перадача яшчэ невядома. Справа для мяне зусім незнаёмая, але павінен я вытрымаць [...].

Міхась Лявонавіч, за гэты “міхалкаўскі час”, а ён немалы, на жаль, што-небудзь зроблена Вамі? Мне гэта вельмі цікава ведаць. Можа, апавяданнне вырасла ці артыкул? Хоць я разумею – для жывой работы ўмоў няма.

Буду Вам пісаць, буду чакаць Вашых слоў, буду спадзявацца разам з Вамі.

Да наступнага ліста.

*Дранько-Майсюк.*

[1] І ў гэтым пісьме я забыўся паставіць дату. На адрасным баку канверта штэмпель маскоўскай пошты паказвае: “16.03.(19)82”. Трэба думаць, ліст напісаны ўвечары 15 сакавіка ці ранкам 16-га.

[2] То-бок, В Івашчанку я званіў 14-га ці 15 сакавіка 1982 года.

[3] Янка Сіпакоў (1936 – 2011) – пісьменнік.

[4] Мусіць жа, В. Івашчанка блізка сябраваў з Я. Сіпаковым, калі пасылаў яму такія “шчырыя” пісьмы.

[5] У мяне напісана было: “...ў гэтым накірунку”, а правільна ўсё ж: “... у гэтым кірунку”.

[6] Здаецца, гэты добры намер так і застаўся намерам.

[7] У трэцім сваім лісце (7.03.1982 г.) М. Стральцоў з відавочным балючым жалем даводзіў: “...Канечне, у браткоў-беларусаў многа свінства, зачуханства, хутаранства, непавагі да саміх жа сябе [...] і гэта праяўляецца нават у людзей далёка не пасрэдных. Мы дарослыя людзі і абмежаванасць сваю нацыянальную павінны называць абмежаванасцю, як і абмежаванасць расейскую, якая таксама існуе і часта заключаецца ў тым, што квас бессаромна разбаўляецца бражкай, а на лапці начэпліваюцца падкоўкі і г.д.”

[8] З маёй другой паездкай у Міхалкі не склалася.

[9] Пленум Саюза пісьменнікаў БССР.

[10] Запіс адбыўся ў маскоўскай тэлевізійнай студыі Астанкіна.

**Шосты ліст[1]**

*26.4.82,*

*Мінск.*

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Неяк мы з Вамі згубілі сувязь. На свой апошні ліст я чакаў адказу і не прычакаў. Мусіць, ліст мой не дайшоў да Вас[2]. І такое здараецца ў нашай краіне. Калі сцісла паведаміць аб сваіх навінах, то яны такія – сыну майму ўжо 10 месяцаў, дыплом свой я абараніў, збіраюся ўладкоўвацца ў Мінску. А зараз з Тэадорам Крыжкам (славацкі паэт, пра яго я пісаў Вам) ездзім па Беларусі, чытаем Багдановіча і марым убачыць “Вянок” па-славацку.

Я ведаю, што Шамякін узяўся за Вашу справу. Хочацца думаць, што ўсё атрымаецца. Толькі калі... ад гэтага і ўся гаркота. Вядома, ёсць у Мінску людзі, якім Ваша хуткае вяртанне не надта спадабалася б. Гэтым толькі я магу вытлумачыць тое, што й па гэты дзень Вы ў Міхалках. Нехта з моцных Вам хціва зайздросціць, а то й проста ненавідзіць. Хто ён? Некалі даведаемся, калі ўсе сыдземся ў адным месцы, якое вылучаецца найвялікшай дэмакратыяй.

Міхась Лявонавіч, дасылаю Вам красавіцкае “Полымя”. Тут шмат вершаў, ёсць і мае радкі[3]. Толькі, калі ласка, не чытайце першы верш “Удовы”[4]. Ён дрэнны, дый яшчэ Вялюгін[5] руку прыклаў...

Пішыце мне на мой ранейшы маскоўскі адрас. Буду вельмі чакаць.

*Дранько-Майсюк.*

[1] Гэты ліст без канверта, бо я яго паклаў у бандэроль, пасылаючы М. Стральцову з мінскай галоўнай пошты часопіс «Полымя”. І, мусіць, гэта не чацвёрты ліст, а пяты! Тлумачэнне аб тым – у наступнай зносцы.

[2] Магчыма, пісьмо не захавалася (ці пакуль не знойдзена!), але яно дайшло да адрасата. Пасылаў я яго ў Міхалкі пасля 23 лютага 1982 года і ў ім сярод іншага паведамляў, што свайго сына назваў Васілём. Адказваючы на гэты ліст, 7 сакавіка 1982 года М. Стральцоў перадаваў “...прывітанне шчырае жонцы і міламу сынку, якога ты добра-такі назваў Васільком. Харошая кветка мужчынскага роду...” Як бачна, адказ я ўсё-ткі “прычакаў”!

[3] Леанід Дранько-Майсюк. “Удовы”, “Я чуў салоўку зблізку...”, “Ты магутнікам стань на зямлі!..”, “Ты мне што-небудзь раскажы...”, “Пазычу талеркі ў суседкі...”, “Хто раскажа пра гаспадара...”, “Васілёк”, “Прагрукаў нечаканы воз...”, “Малюнак хвалі уздымі...” – вершы: часопіс “Полымя” № 4 (636) 1982 г., красавік; с. 101, 102.

[4] У сваім чацвёртым да мяне лісце, дата якога 16.05.1982 г., М. Стральцоў паведамляў: “...Надумаў я адразу, як прачытаў “Полымя” з тваімі вершамі, адгукнуцца на іх у “Ліме”,

загарэўся гэтай думкай, а далей пайшло не так, як марылася. Не выбраў, браце, часу [...] Вершы мне твае спадабаліся. Сказаць так – сказаць мала. Найперш, яны арыгінальныя – не вонкавай нейкай аздобай, а спосабам мыслення – “паганскім” (языческим) [... ] Як паэт мысліш ты па-свойму [...] мовай паэзіі, вяртаючы вобразу першароднасць, а не падмяняючы яе, першароднасць, адно бачнасцю тропа. Адчуванне ў цябе непадробнае, цэльнае – вось што галоўнае. Табе не падабаецца першы верш [...] Я прачытаў уважліва [...] Ты дарэмна, верш харошы [...] “Ты магутнікам стань на зямлі...” – вельмі спадабалася. “Да цябе яна йдзе з агароду” (Апошні радок верша “Ты магутнікам стань на зямлі!..” – *Л. Д.-М.*) – вельмі хараша, так проста, па-харошаму нечакана і “наіўна-світальна”. Віншую. “Я чуў салоўку зблізку...” – таксама добра. “І ў кветку майго слыху залётвала пчала” (Фінал верша “Я чуў салоўку зблізку...” – *Л. Д.-М.*) прымусіла мяне па-харошаму зноў жа ўсміхнуцца, прыгадаўшы сваё нешта, у якім, памятаю, сумняваўся. Нейк гэтак: “... так пчала апошні раз цалуе памяць кветак”. Значыць, падобная логіка вобраза можа быць натуральнай – ці не так?

Стог нечакана пахіліўся
І, палымнеючы, паплыў
У захад.
(Радкі з верша “Прагрукаў нечаканы воз...” – *Л. Д.-М.*)

Здаецца, драбніца, на першы погляд, але як пачуццёва і зрокава выразна. Па-сапраўднаму экспрэсіўна і нават сюррэалістычна. Віншую [...] Папярэдзь мяне наконт новых тваіх публікацый [...] Я загадзя падрыхтаваўся б і нешта напісаў пра твае вершы – шчыра, з ахвотай, бо яны блізкія мне і, здаецца, я разумею, чаго ты хочаш ад верша наогул. Ці дамовіліся, ці згода?..”

[5] Анатоль Вялюгін (1923-1994) – паэт, адзін з рэдактараў часопіса “Полымя”.

**Сёмы ліст[1]**

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Мне было вельмі прыемна чытаць Ваш ліст[2]. Яшчэ ніхто з беларусаў такога дакладнага і ўважлівага слова пра мяне не казаў. Было больш эмоцый, чым патрэбнай удумлівасці[3].

У чэрвеньскім нумары “Юности” павінны з’явіцца некалькі маіх вершаў у перакладзе адной маскоўскай кабеткі[4]. Нумар гэты я Вам прывязу (калі выйдзе ён), і разам падумаем[5] над адным з самых складаных пытанняў – пытаннем перакладу.

А зараз пра справы больш цікавыя. Я заходзіў у “Дружбу народов” да Іны Сяргеевай[6]. Гаварылі пра рэчы не зусім абавязковыя, а калі я перадаў Ваша прывітанне, яна ажывілася. Вельмі хараша гаварыла пра Вас як празаіка – “...он создан для прозы” і г.д. Прасіла, каб я ў наступным лісце перадаваў Вам яе прывітанне і яшчэ... Прасіла, каб Вы даслалі свае пазнейшыя рэчы (апавяданні, крытычныя нататкі ці проста назіранні, або лірычныя запісы), адным словам, усё, што Вы лічыце вартым і што, вядома, яшчэ не друкавалася ў “Др.(ужбе) нар.(одов)”. Уласна я мяркую, што на гэта трэба адгукнуцца. Як Вы лічыце[7]?

1 чэрвеня (1982 г. – *Л. Д.-М.*) з сям’ёй збіраюся ў Давыд-Гарадок. Недзе 8-га (праз тыдзень. – *Л. Д.-М.*) зноў вярнуся ў Маскву. 22-га (чэрвеня 1982 г. – *Л.Д.-М.*) – уручэнне дыпломаў. А пасля зноў на ўсё лета дамоў. Вось мой палескі адрас: 225540, Брэсцкая вобл., г. Давыд-Гарадок, вул. Жданава, д. 18.

Наконт “Маладосці”[8]. Трэба будзе завітаць да Грачанікава[9], можа нешта й атрымаецца.

Тэадор пераклаў ужо 16 вершаў Багдановіча. Пакуль што хоча зрабіць публікацыю ў брацілаўскім літаратурным тыднёвіку “Новэ слово”. А далей будзе рыхтаваць кнігу. Справа, як мне здаецца, цікавая і патрэбная. Багдановіч у Славакіі яшчэ не выдаваўся.

Учора, чытаючы брылёўскія мініяцюры, падумаў – няўжо ўсё патрэбна дру-

каваць? Ну, сонца ўзышло, ну, раса заззяла, ну, вольна дыхаецца раніцай і г.д. [...][10]. Калі палічыце патрэбным, скажыце пра гэта мне – пра Брыля і яго запісы[11].

Са спадзяваннем на ўсё лепшае развітваюся з Вамі. Калі пісаў, дакладней, калі пачынаў пісаць гэты ліст, хацелася быць і шчырым, і ўважлівым да Вас, а зараз, перачытаўшы ўсё напісанае, бачу, што якраз гэтага трохі й не стае. Думка страціла належную плынь.

Да 18 чэрвеня (1982 г. – *Л. Д.-М.*) пішыце мне ў Маскву, а далей – будзе Д(авыд)-Гарадок.

А зараз перада мной Ваша кніга "Что будет сниться", "Мол.(одая) гвардия" (19)68 г.[12] Чытаюць мае хатнія.

*Ваш Дранько-Майсюк.*

[1] На канверце, на штэмпелі маскоўскай пошты, дата – 20.05.1982 г.

[2] Пісьмо за 16.05.1982 г., у якім, дарэчы, просячы папярэдзіць яго адносна маіх новых магчымых публікацый, М. Стральцоў параіў мне аднесці вершы і ў рэдакцыю часопіса "Маладосць".

[3] Дагэтуль мае творы ацэньваліся толькі ў Літінстытуце.

[4] Гл. заўвагу 14 да восьмага ліста

[5] Гэтае цвёрдае "разам падумаем" хіба не сведчыць аб тым, што ўпэўненасць студэнта Л. Дранько-Майсюка часам заскоквала ў самаўпэўненасць.

[6] Іна Андрэеўна Сяргеева – супрацоўніца маскоўскага часопіса "Дружба народов"; перакладала творы беларускіх празаікаў – у прыватнасці раманы Івана Чыгрынава.

[7] У пятым сваім лісце (дата на штэмпелі маскоўскай пошты: 9.06.1982 г.) М. Стральцоў даў такі адказ: "...Рады твайму ўспаміну пра Іну Андрэеўну – прыемна мне было. Нейкае харошае, бадай улюбёнае пачуццё да яе ў мяне засталося – таму і прыемна. Толькі вось прозы, на жаль, прыслаць ёй не магу. Хіба з часам прышлю ёй нешта накшталт нататак [...] А наогул жа, паспрабую напісаць ёй і сам. Пакуль жа вітанні перадавай, скажы, што рады яе ўвазе, што скаланулася ва мне нешта добрае ў адказ, тое, што я чапаць баюся, а проста рады, што яно недзе прыхаванае ёсць..."

Дарэчы, у "Дружбе народов" з 1968-га па 1977 год друкаваліся самыя знакамітыя творы М. Стральцова – аповесць "Адзін лапаць, адзін чунь", апавяданне "Смаленне вепрука", іншыя апавяданні, а таксама вершы.

[8] Часопіс "Маладосць".

[9] Анатоль Грачанікаў (1938-1991) – паэт, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць".

[10] Зноў-такі настраёвая думка студэнта, які знаходзіўся ў палоне ацэначных крайнасцей. Цяпер перачытваю гэта з горкай усмешкай, бо Янка Брыль – мой любімы пісьменнік, аўтар "Марылі", "Гуртавога", "Ніжніх Байдуноў", "Муштука і папкі" – твораў, без якіх не ўяўляю сваё чытацкае жыццё.

[11] У пятым лісце М. Стральцоў прапанаваў такі аналіз: "...ягонае (Я. Брыля. – *Л. Д.-М.)* юнацкае захапленне Талстым, талстоўская прага споведзі, культ маральнай пакуты – у нейкім дзіўна і часам [...] скажоным выглядзе, абіўшыся (так напісана ў М. Стральцова. – *Л. Д.-М.*) у цяперашнім проста Іване Антонавічы, паўстае з ягоных мініяцюр [...]"

[12] Михась Стрельцов. Что будет сниться. Рассказы / перевод с белорусского Э. Корпачева. – Москва: Молодая гвардия, 1968. – 65 000 экз.

**Восьмы ліст[1]**

*20 чэрвеня (19)82 г.*

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Я доўга не адказваў на Ваш апошні ліст[2], збіраў да гурбы свае растрэсеныя думкі, марудзіў і нават свядома марудзіў. Вялікая шчырасць жыве ў Вашым лісце, а я палохаўся свае(ёй) раптоўнае няшчырасці.

Маскву пакінуў увечары 17-га (чэрвеня 1982 г. – *Л. Д.-М.*). Інстытут свой скончыў[3], наперадзе, калі ўсё будзе добра, чакае праца ў выдавецтве[4]. Увечары 19-га (чэрвеня 1982 г. – *Л. Д.-М.*) выправіў у Мінск сваю жонку[5]. У яе пачынаецца чарговая сесія. А сам да канца ліпеня застануся ў Давыд-Гарадку, буду глядзець свайго Васіля. А клопату з ім пакуль што хапае[6].

Чытаў і перачытваў Ваша выказванне [...] (“пра юнацкае захапленне Талстым”)[7]. [...] Нешта такое бачыцца мне і ў Адамовічу, які [...] (мерае ўсё па) Дастаеўскім. Дарэчы, чаму яго лічаць беларускім празаікам, калі ён піша па-руску? Нейкая таксама гульня ў беларусаў “русских”. Мне гэта так не падабаецца[8].

Калі быў у Мінску, заходзіў у “Маладосць”. Макаль[9] дазволіў пакінуць шэсць вершаў. Трохі дзіўным паказаўся мне гэты чалавек і паходзіў ён у час нашай сустрэчы не на загадчыка аддзела паэзіі “Маладосці”, а на літкансультанта райгазеты. Вельмі хочацца, каб [...] маё раптоўнае ўражанне было памылковым[10]. Вершы ў “Маладосці”, калі пойдуць, то некалі ў канцы года[11]. А што не прыняў Макаль, занёс я Жуку[12] ў “ЛіМ”. Вось такія ў мяне рэдакцыйныя справы. І яшчэ – “Юность” № 6 надрукавала тры маіх вершы ў перакладзе М. Вірты[13]. Ёсць у гэтым нумары вершы Барадуліна і Бураўкіна[14].

У Маскве паспрабую быць у жніўні. Абавязкова зазірну ў “Дружбу народов”. Можа да гэтага часу Вы зробіце для іх рукапіс.

Валянціна Міканораўна Шчадрына некалькі разоў ездзіла да Ів. П. Шамякіна ў “крамлёўку”[15]. Ён абяцаў, як толькі выйдзе, адразу ўзяцца за гомельскае начальства. Вашым лёсам ён глыбока заклапочаны. Я думаю, усё ў гэтым сэнсе будзе добра, бо Шамякін, слава богу, яшчэ з’яўляецца ў нашым свеце той сілай, якая здольна(я) дапамагчы.

У Мінску бачыўся з Р. І. Барадуліным. Ён якраз з’яўляецца рэдактарам маёй кнігі[16]. Казаў мне, каб да верасня я падрыхтаваў рукапіс у канчатковым варыянце. Спрабую гэта рабіць.

Хлопчык мой спіць. А я, пакуль дайшоў да гэтай старонкі, некалькі разоў падбягаў да яго ложачка. Спіць ён варухліва.

Думка зноў вярнулася да Адамовіча. Як Вы лічыце, наколькі яго сён(н)яшняя вядомасць (я гавару пра яго, як аб празаіку) адпавядае ісціне[17]?

Міхась Лявонавіч, можа пашчасціць і некалі бліжэй да жніўня я прыеду да Вас. Вельмі хачу гэтага[18]. І паспрабуйце для “Др.(ужбы) нар.(одов)” падрыхтаваць матэрыял. Мне здаецца, улічваючы ўсё, што такая публікацыя з усесаюзным выхадам проста неабходна[19]. Калі ласка, пішыце ў Гарадок[20].

*Ваш Лёня.*

[1] Ліст пасланы з Давыд-Гарадка.

[2] Пісьмо М. Стральцова за 9.06.1982 г.

[3] Паводле афіцыйнага запісу ў пасведчанні № 13 Літаратурны інстытут імя А.М. Горкага СП СССР я скончыў 30 чэрвеня 1982 г.

[4] Маецца на ўвазе выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

[5] Мая жонка Вольга Шчадрына ў 1982 годзе вучылася на філалагічным факультэце БДУ.

[6] У майго сына Васіля тады быў самы неспакойны, як мне здавалася, дзіцячы ўзрост – адзін год.

[7] Такая ацэнка – акрамя ўсяго іншага, яшчэ і вынік абставін; не трэба забываць, Стральцоў знаходзіўся ў той рэжымнай установе, якая не магла спрыяць душэўнаму спакою... У іншых умовах (на волі!) ён пісаў пра бескарыслівую праўдзівасць Янкі Брыля, што ў ягонай прозе яму падабалася новае разуменне эпічнасці, што слова аўтара “Птушак і гнёздаў” – слова ўплывовае і што Янка Брыль – гэта непрыманне самазадаволенасці. А яшчэ паводле М. Стральцова Янка Брыль – пісьменнік добрага паэтычнага слыху, і наогул у беларускім апавяданні існуе школа імя Янкі Брыля.

[8] Таксама студэнцкае меркаванне. Алесь Адамовіч (1927 /сапр. 1926/ – 1994) – беларус па ўсёй глыбіні сваёй душы, аўтар выдатных твораў пра Якуба Коласа, М. Гарэцкага, Кузьму Чорнага, Янку Брыля, І. Мележа. У маскоўскім універсітэце ён чытаў бліскучыя лекцыі па беларускай літаратуры, а лепшую сваю празаічную рэч “Хатынская аповесць” спачатку надрукаваў па-беларуску, а тады ўжо па-руску, што даволі сімвалічна.

[9] Пятрусь Макаль (1932-1996) – паэт, загадчык аддзела паэзіі часопіса “Маладосць”.

[10] Нешта сваё, вельмі глыбокае, турбавала тады П. Макаля, а мой прыход не палепшыў ягонае дрэннае самаадчуванне.

[11] Публікацыя з'явілася ў студзені 1983 года – Леанід Дранько-Майсюк. Вершы "Дом", "Халоднай вады нап'юся...", "Болей за ўсё хацелася спаць...": часопіс "Маладосць" № 1, 1983 г., рубрыка "Упершыню ў "Маладосці"; с. 116.

[12] Алесь Жук (1947) – празаік, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".

[13] Леонид Дранько-Майсюк. Стихи: «Стань всесильным – опорой земли!..», «Холодной воды напьюсь...», «Больше всего хотелось уснуть...» // перевела с белорусского М. Вирта: журнал «Юность» № 6, 1982 г., рубрика «Стихи поэтов Белоруссии»; с. 6.

[14] Генадзь Бураўкін (1936-2014) – паэт.

[15] Цэнтральная клінічная бальніца 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР; знаходзілася ў Кунцаве пад Масквой.

[16] Гаворка пра мой зборнік вершаў "Вандроўнік" (серыя "Першая кніга паэта"), які ўбачыў свет у 1983 годзе.

[17] У шостым сваім лісце да мяне, дата якога 28.06.1982 года, М. Стральцоў толькі намеціў адказ: "...Пра Адамовіча, калі хочаш, пагаворым іншы раз, у наст.(упным), скажам, лісце. Можа, у звязку з Быкавым нават..."

Свой адказ ён адклаў з той прычыны, што ў гэтым, шостым, лісце даволі шырока выказаўся пра іншых пісьменнікаў і, гэта бачна, не хацеў у шэраг іншых ставіць Адамовіча. Невыпадкова ж даў знаць мне: калі ўжо гаварыць пра Адамовіча, то толькі ў звязку з Быкавым! Аўтар "Загадкі Багдановіча" і ў эпісталярным жанры пільнаваўся стылю!

[18] На жаль, другая мая паездка ў Міхалкі не адбылася.

[19] Вядома, цяжка было што-небудзь падрыхтаваць для маскоўскага друку, знаходзячыся ў ЛПП.

Вярнуўшыся ў Мінск, М. Стральцоў даслаў у рэдакцыю "Дружбы народов" свае вершы, і яны з'явіліся ў 6 нумары часопіса за 1984 год: "Под шелест капель дождевых...", "Настанет день..." (пераклад А. Паршчыкава).

[20] Маецца на ўвазе – Давыд-Гарадок.

**Дзявяты ліст**

2 ліпеня (19)82 г.

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Учора я атрымаў шмат лістоў, сярод якіх адшукаўся самы жаданы – Ваш[1]. Я нават і не чакаў, што ў ім столькі будзе пра Макаля[2]. А зараз, пішучы свой адказ, разумею, што столькі й патрэбна было – маладому пеўніку навука. Дзякуй Вам за гэта. Учора ж я перагарнуў макалёўскую кніжку "Дотык да зямлі" 1975 г.(ода)[3]. Уражання, на жаль, аніякага. Адчуваецца, што тэхнічны бок справы ім засвоены добра. Але той жывінкі або скажам гучна – паэзіі, няма, ізноў такі на жаль[4]. У гэтым сэнсе Вярцінскі[5] на шмат галоў вышэй за свайго сябра.

Званіў у Мінск. У нейкім нумары "Ліма" збіраюцца друкаваць мае вершы[6]. Даведаўся, што ёсць нейкія заўвагі. Калі яны, лімаўцы, будуць людзьмі, то, спадзяюся, пакажуць мне свае заўвагі. А то аднойчы яны вырабілі штуку – далі маю падборку[7], у якой, ці не геній Свіркі[8] папрацаваў, было 50 маіх слоў, а 50 іхніх[9].

А хатніх клопатаў у мяне зараз даволі. Хлопчык на руках – 29 чэрвеня яму быў годзік. І наварыць трэба, і папраць [...], і кніжку даць новую, каб ён раздзёр (асабліва любіць "политиздатовские" выданні), і спаць пакласці. А пра песні я ўжо й не кажу. Спяваю яму, што ў галаву ўзбрыдзе, нешта накшталт таго – хлопчык маленькі, хлопчык залаценькі, хлопчык будзе спаткі, бацьку анігадкі. А ён слухае і засынае.

З 1 – 5 жніўня збяруся ў Мінск. Буду ўладкоўвацца на работу, шукаць кватэру. З работай, здаецца, прасцей – бяруць у "Маст.(ацкую) літ.(аратуру)" да Ул.(адзіміра) Паўлава[10]. А з кватэрай трэба падумаць. А пакуль што не думаецца. Штодня маю тры-чатыры гадзіны вольныя. Спрабую чытаць. Неяк так атрымалася, не ведаю чаму, што ўсё ніяк не даходзілі рукі да польскай літаратуры. І вось ухапіўся за Б. Пруса[11], як за нешта нечуванае, у перакладзе Брыля[12]. Прачытаў апавяданняў

пяць-шэсць і па-добраму ўсміхнуўся. Зрабіў вывад – ранні Брыль (“Сірочы хлеб”, “У сям’і” і яшчэ некалькі твораў) выйшаў адсюль. Здаецца, нават і сама інтанацыя прусаўская, толькі ў паляка болей кплівасці або гумару. У Брыля няма гэтага. Ёсць, відаць, больш засяроджанасці на рэчах, якія вакол дзіцяці.

А пра Адамовіча хацелася б пачуць, хоць і ў звязку з Быкавым[13]. Справа ў тым, што мяне апошнія часы непакоіць такая даволі значная рэч – як адносіны да вайны. Талент Быкава [...] (накіраваны ў адзін бок) [...] Я гавару пра тое, што тыя аповесці, якія з’явіліся пасля “Сотнікава”[14] амаль што нічога не прыбавілі да агульнай карціны – беларус на вайне. Пра нешта другое, новае, Быкаў, пэўна, пісаць ужо не можа[15] [...] таму [...] толькі перасоўвае акцэнты (“Яго бат.[альён]”[16], “Воўч.[ая] згр.[ая]”[17], “Пайсці і не вярн./уцца/”[18]). Адамовіч жа /даводзіць/, што гэта “новы крок”[19] і г.д. [...] Адсюль мой неспакой і раздражнёнасць. Відаць, я не зусім маю рацыю, хоць нешта й адчуваецца [...] запраграмаванае зверху. У 6-м нумары “Дружбы народов”[20] на тэму вайны выказ(в)аліся шэсць “ведущих писателей Белоруссии” (словы редакцыйныя) – Адамовіч, Казько[21], Жук, Шамякін, Быкаў. Брыдка было [...] чытаць[22]. Але хай жыве й гэта.

Развітваюся з Вамі, Міхась Лявонавіч. Прыехаць паспрабую, можа нават з Мінска. Шануйце сябе, каб яшчэ паваяваць. Я ў Вас ніколі не пытаўся пра здароўе. Баюся нават пытацца. Хай яго будзе столькі, колькі Вам патрэбна. Зірніце, калі ласка, на гэты верш. Ці варты ён увагі (?)

**Ігруша**[23]

Ігруша бегла па мяжы,
Лічыла крушні і аблокі.
У ручаіне ці ў дажджы
Вясельныя ўсчынала скокі.

Ёй малако даваў пастух,
Дарылі хусткі маладзіцы...
Набеганую – ледзьве дух –
Пускалі ў тамбур праваднiцы.

Буслам і ластаўкам сястра.
...Спакоем наталяла душы
І разуменнем хараства
Мая палеская ігруша.

Ля гарсавета прамільгне,
Пабудзе трохі на базары
І на вячэру ў чыгуне
Густога крупніку наварыць.

*(2 ліпеня 1982 г.)*

*З павагай Л. Дранько-Майсюк.*

[1] Шосты ліст М. Стральцова ад 28.06.1982 г., дасланы ў Давыд-Гарадок.

[2] Падаўшы некананічны партрэт П. Макаля, М. Стральцоў звяртаўся да мяне гэтак: “... Ты добра робіш, што хочаш людзей зразумець, не націскаючы на эмоцыі. Зразумець глыбінна – і псіхалагічна, і біягр.(афічна), і праз літаратурны лёс...”

[3] П. Макаль “Дотык да зямлі” (кніга паэзіі), выдавецтва “Мастацкая літаратура”, 1975 г.

[4] Сёння творчасць П. Макаля я ацэньваю больш памяркоўна – П. Макаль, безумоўна ж, паэт, і ў ягоных кнігах ёсць “жывінка” – то-бок, паэзія.

[5] Анатоль Вярцінскі (1931) – паэт, грамадскі дзеяч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

[6] Публікацыя з’явілася ў верасні – Леанід Дранько-Майсюк. Вершы “У вершалінах дрэў густых...”, “Увесну грады капаць...”, “Тут, у палескай глыбі...”, “Гэта цень мой вярнуўся дамоў...”, “Горад чужы не сустрэне па-хатняму...”, “Вось нарэшце і ранак узнік...”: штотыднёвік

“Літаратура і мастацтва” № 38 (3136), пятніца, 24 верасня 1982 г., с. 9; рубрыка “З паэтычнага сшытка”.

[7] Мой няўдалы лімаўскі дэбют – Лявон (?) Дранько-Майсюк. Вершы “Прытча”, “Ручай”, “У тых мінулых снах...”, “Ты мне што-небудзь раскажы...”, “Выплісне з калодзежа вада...” (уступнае слова Валянціны Коўтун): штотыднёвік “Літаратура і мастацтва”, 12 снежня 1980 г.

[8] Юрась Свірка (1933 – 2010) – паэт, загадчык аддзела паэзіі і прозы “Літаратуры і мастацтва”

[9] Маіх слоў было, вядома, больш, аднак той, хто рыхтаваў да друку мае вершы, не валодаў педагагічным тактам.

[10] Уладзімір Паўлаў (1935) – паэт, празаік, у выдавецтве “Мастацкая літаратура” загадваў рэдакцыяй паэзіі, а пазней рэдакцыяй збору твораў.

[11] Баляслаў Прус (1847 – 1912) – польскі пісьменнік.

[12] Б. Прус. Грахі маленства. 1981 г. Апавяданні (Для старэйшага школьнага ўзросту) // Укладанне і пераклад з польскай мовы Янкі Брыля.

[13] Васіль Быкаў (1924 – 2003) – народны пісьменнік Беларусі.

[14] “Сотнікаў” (1970 г.) – аповесць В. Быкава.

[15] Дарма малады максімаліст Л. Дранько-Майсюк рабіў такія высновы! Якасна новыя творы В. Быкаў напісаў – гэта і «На чорных лядах” (1994 г.), і “Жоўты пясочак” (1995 г.), і “Сцяна” (1997 г.), і “Доўгая дарога дадому” (2002 г.)

[16] “Яго батальён” (1975 г.) – аповесць В. Быкава.

[17] “Воўчая зграя” (1974 г.) – аповесць В. Быкава.

[18] “Пайсці і не вярнуцца” (1978 г.) – аповесць В. Быкава.

[19] Алесь Адамовіч шмат цікава і змястоўна пісаў пра творчасць Васіля Быкава. А што да маіх тадышніх ацэнак, то яны, мякка кажучы, вельмі і вельмі спрэчныя.

[20] Маецца на ўвазе шосты нумар маскоўскага часопіса “Дружба народов” за 1982 год.

[21] Віктар Казько (1940) – празаік.

[22] Названыя пісьменнікі даволі блякла адказалі на пытанні часопіснай анкеты “Што нам сёння дае памяць пра вайну?” Тое, што я чуў пра вайну ад бацькі і маці, было нашмат цікавейшым.

[23] Верш “Ігруша” ўпершыню быў надрукаваны У. Някляевым: газета “Знамя юности” № 203 (9709), чацвер, 20 кастрычніка 1983 г., с. 3; рубрыка “Из поэтической тетради”. Пазней верш з’явіўся і ў маскоўскім друку – “Груша” // с белорусского. Перевод Юрия Кабанкова: журнал “Дружба народов” № 10, 1986 г., с. 80; рубрика “Новые имена”.

**Дзясяты ліст[1]**

Паважаны Міхась Лявонавіч,

дзякуй Вам за шчырасць, за ўвагу да мяне. Добрая гэта(я) гутарка, што так нечакана пачалася паміж намі, ужо дапамагла мне ў такой вялікай справе, як свая ўласная ўстойлівасць або цвёрдасць падчас сустрэч з розным або з рознымі.

Пра Быкава[2] адзін масквіч, якога я вельмі паважаю, гаварыў мне: “Ленечка, ну и что ж такого... У Быкова слабо чувствуется нац.(иональный) колорит, язык и проч.(ее), ну и пусть не чувствуется. Быков писатель общеевропейского масштаба, незачем ему встряхивать одежками нац.(ионального) своеобразия...” Але такая абскубаная еўрапеізацыя мяне ніколі не цікавіла, дакладней кажучы, не захапляла. І разам з тым, усё напісанае Быкавым я ахвотна прачытаў. І зараз чакаю яго новай аповесці “Знак бяды” (8-мы нумар “Полымя”[3]).

А раптам ён падужае свой рацыяналізм[4]?

Мне было прыемна адшукаць у Вашым лісце добрыя словы аб Адамчыку[5]. Мне здаецца, што яго два раманы, вельмі значныя для нашай літаратуры, якраз і пераадольваюць тое вузкае фальваркоўства, пра якое Вы згадалі, відаць, маючы на ўвазе апавяданні Адамчыка.

Неяк, а так заўсёды здараецца ў мяне, калі душа напечана паганымі думкамі, зрабіў я прыкладна такі запіс: “А ці трэба абараняць усё беларускае? Ці само яно патрабуе абароны? Маецца на ўвазе сапраўднае беларускае – Купала, Багдановіч, нашы(я) песні, казкі, наша гісторыя і г.д. Калі яно сапраўднае, то ж яно й моцным

павінна быць, і такім чынам яго ніколі не захлісне брудная хваля русіфікацыі. А сама гэта хваля, якая штогод мацнее і шырыцца, некалі сама задушыцца ў сваім уласным брудзе. І адсюль такі выснаваўся вынік – усё йдзе сваім ладам, і трэба спакойна рабіць сваю работу".

І аднак жа гэта заспакаенне не супакойвае. Таму спакойна працуючы, мы нічога не зменім [...], нават калі й створым шэдэўры. Бо шэдэўры тыя з цягам часу, можа й так здарыцца, ужо ніхто не прачытае. Ратунак, відаць, можна было б пашукаць на тым полі, якое называецца дзяржаўнасцю. Беларусы ніколі гэтага поля не ўраблялі. Хоць працавалі і працуюць шмат, ды ўсё на карысць чужым. Здаецца, дарэчы прыгадваюцца купалаўскія радкі – Вораг польскі і рускі // Шчыра множыў курганы, – // Не было Беларусі, // Толькі быў "Край забраны"...[6]

Цяжка мне пра гэта гаварыць, бо калі я звяртаюся з нейкімі такімі пытаннямі да сваіх сяброў, суседзяў, нават бацькоў, усе здзіўлена на мяне глядзяць. Некалі Глебка[7] гаварыў, што паляк яшчэ не паспее нарадзіцца, а ўжо крычыць: "Я поляк малы". А беларус сябе ніколі беларусам не назаве, назаве сябе тутэйшым альбо рускім – у залежнасці ад таго, куды ён ходзіць: у царкву ці ў касцёл[8]. Зноў жа можна супакоіцца і палічыць усё вышэй сказанае нашай нац.(ыянальнай) адметнасцю. Шмат хто так і робіць.

Я Вам хачу паказаць свой верш, які трохі адпавядае гэтым сумным настроям. У ім ёсць радок "... сугучны стральцоўскай прозе". Верш пісаўся ў той час, калі я з вялікім задавальненнем чытаў Вашы(я) апавяданні.

Яшчэ раз дзякую Вам за добрыя адносіны да мяне. Буду чакаць Вашых шчырых заўваг і думак.

*Ваш Дранько-Майсюк.*
*13.07.(19)82 г.*

**/Храм беларускі/[9]**

Будзённы пакіну пакой,
Да гонкага неба збяруся –
Да медных балот і да хвой,
Што толькі ў маёй Беларусі.

Дзень добры, апчолены сад,
Як вольна табе пры дарозе!
Твой сумна-святочны пагляд
Сугучны стральцоўскай прозе...

Цябе праміну, адплыву
І страчу прысутнасць явы,
І раптам убачу царкву,
І голас пачую ласкавы:

"Ідзі, брат заходні, сюды...
Расчыніцца яркая брама...
Свой дух адмяжуй ад бяды
Іконамі рускага храма..."

І голас пачнецца другі,
Пад сонцам касцёл запануе,
Зірну на яго з-пад рукі
І словы другія пачую:

"Ідзі, брат усходні, да нас
І розум кантычкай здаволі,
І самы свой радасны час
На нашым сустрэнеш ты полі..."

Ды вось яно зноў – берагі,
Балоты, зязюля кукуе...
Ні першы ўжо і ні другі –
Ніякі я голас не чую.

Іду сабе зноў, як ішоў,
Да гонкага неба, і плачу,
І ў цемры палескіх лясоў
Свой храм беларускі бачу[10].

*(6 лістапада 1981 г.)*

[1] Ліст пасланы з Давыд-Гарадка 14.07.1982 г.

[2] Гл.: зноску 13 да дзявятага ліста.

[3] Васіль Быкаў. Знак бяды: Аповесць // Полымя № 8, 1982 г. Менавіта ў гэтым творы В. Быкаў раскрыўся, як вялікі нацыянальны мастак!

[4] Адносна гэтага ў сёмым лісце 8 ліпеня 1982 года М. Стральцоў так скіраваў маю ўвагу: "...У Быкава ёсць выходны (тут і далей падкрэслена М. Стральцовым. – *Л. Д.-М.*) матэрыял, ёсць імкненне псіхалагічна-абагуленага даследавання, але і, па-сутнасці, таго ж матэрыялу і няма, ёсць толькі імпульс /яго я, у дадзеным выпадку, і разумею як матэрыял/. А далей... рацыяналізм... На рацыяналізм хварэе і Адамовіч. Толькі ён яшчэ і "філасофствуе". Не будзем абгаворваць феномен мовы. Айтматава цяжка зразумець, але яму памагае ў тым, чаго ён дамагаецца, пэўнасць менавіта нацыянальнай стыхіі..."

[5] Вячаслаў Адамчык (1933-2001) – пісьменнік.

[6] Радкі з верша Янкі Купалы "Летапіснае" (1928 г.)

[7] Пятро Глебка (1905-1969) – паэт, вучоны-лінгвіст, акадэмік АН БССР, аўтар дзівоснай успамiннай прозы "Мая анкета".

[8] У П. Глебкі думка выказана так: "...Беларус (характарыстыка нацыі). А што такое беларус? Сам ён ніколі не называў сябе так. Адказваў на пытанне пра нац-насць: – Не ведаю. Або: – Тутэйшы. Не тое што паляк. Той адразу, нават з калыскі, адказваў: "Хто ты естэсь? Поляк малы". Але не думайце, што "тутэйшы" такі ўжо наіўны. Калі ў панскім маёнтку ён адказваў на пытанне: "Адкуль ты?" – "Тутэйшы", дык ён падразумяваў, што не сам пан тут гаспадар..." ("Мая анкета", раздзел "Нацыянальнасць").

[9] Яшчэ на стадыі выдавецкага рэдагавання верш быў зняты з кнігі "Вандроўнік" (1983 г.).

[10] На гэты верш М. Стральцоў адгукнуўся такімі словамі: "Дзень добры, браце Леанідзе! Найперш дзякуй табе за верш (рыфму выбачай) – хораша ад яго стала мне на душы і на сэрцы (ці адно гэта і тое ж?) не таму, вядома, што стрэціў там сваё прозвішча – думка там харошая і выканана яна паэтычна і непрымушана, ненатужна. І ні крыку, ні надрыву няма [...] сапраўднае мастацтва ўсё перамагае і ўсё "прымірае" (уціхамірвае) – не ў сэнсе, вядома, "примирения с действительностью", якая ва ўсе часы бывае дастаткова гнюснай, а ўціхамірвае ў сузіранні вышэйшага сэнсу і вышэйшых высноў быцця і прадракае міг гармоніі, які ў нас ці па-за намі – якая розніца?.." (Восьмы ліст за 21 ліпеня 1982 г.; ліст дасланы ў Давыд-Гарадок).

**Адзінаццаты ліст[1]**

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Пасля Вашага ліста (за 21.07.(19)82 г.)[2] ухапіўся я чытаць "Кала Бруньёна"[3]. Цешыўся добрай прозе і думаў, а няўжо няма ў нас свайго Бруньёна? Гумар і шчыры смех беларусам уласцівы гэтак жа сама, як і французам. І наогул наша душа мае ўсё тое, што й душа людская. У гэтым сэнсе (Б)ог роўна падзяліў. А вось ці маем мы свайго літаратурнага Бруньёна? Мяркую, што не маем. Бо і незабыўнай душэўнай моцы дзядзька Антось[4], і кудраўцоўскі Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі[5], і мележаўскі Зайчык[6], і купалаўскія прымакі[7], і сучасныя байдуны[8], і яшчэ нешта – усё гэта даволі здробнена ў параўнанні з раланаўскім героем. Бруньён шырэй і больш бясклапотна глядзіць на свет, чым гэта робіць коласаўскі Антось. Бог для Антося гэта мяжа, праз якую не пяр(о)йдзеш, а Бруньён такой мяжы нават не заўважае. Досціп Антося грунтуецца на вобразах жыцця

навакольнага, а Бруньёнаўскі, апрача гэтага, яшчэ й на "мудрасці кніжнай"[9]. Культура трошкі іншая і ў гэтым, відаць, уся справа. Але вылепіць /.../ нешта сваё, адметнае, беларус яшчэ знойдзе сілу[10].

Што мне паказалася цікавым і вельмі істотным у раманах Адамчыка – думка пра шчасце, каханне, жыццёвы спакой і думка пра смерць. Усяго гэтага пазбаўлена гераіня раманаў Алеся. Нават падумаць страшна – пазбаўлена смерці(!) Жыві, а як жыць(?) У гэтым сэнсе фінал першай кнігі проста выдатны. У адрозненне ад мележаўскай Ганны Алеся парушае самае немагчымае для вясковай кабеты: "Не убий(!)". Яна забівае, таму яна яшчэ й пазбаўлена даравання людскога і (Б)оскага. Адамчык пераканаўча аб гэтым гаворыць.

Вы кажаце, што ў Адамчыка, у яго таленце, мала гармоніі і элемента "мысліцельнага"[11]. Здаецца, так я Вас зразумеў. Хочацца папрасіць у Вас тлумачэння, бо ў маім разуменні гэтыя раманы якраз і жывуць нейкай вялікай першароднасцю, яснасцю прыроды і чалавечага жыцця[12].

29 ліпеня паеду ў Мінск, пасля ў Маскву на колькі дзён. Буду выпісвацца[13], а таксама трэба атрымаць дыплом. У Мінску трэба шукаць жытло. Ніколі не шукаў, не ведаю, як гэта рабіць, з чаго пачынаць[14].

Вельмі Вам удзячны я, Міхась Лявонавіч, за ўважлівае прачытанне майго верша[15]. Ваша падтрымка і добрыя словы для мяне, як пагода ў час жніва. Не пакідаю думкі завітаць да Вас. Дай (Б)ог, каб гэта спраўдзілася ў жніўні[16]. Вельмі добра было б. Глядзіце сябе, не марнуйце дарма сілы (ці мала ёсць недарэчнасцяў, на якія яны зводзяцца?). Наперадзе яшчэ шмат цікавай работы.

Развітваюся з Вамі і як заўсёды чакаю Вашых лістоў. Пішыце ў Давыд-Гарадок.

*Ваш Дранько-Майсюк.*

*26.07.(19)82 г.*

[1] Адасланы з давыд-гарадоцкай пошты 27.07.1982 г.

[2] У гэтым, восьмым па ліку, пісьме М. Стральцоў, заўсёды непрыхільны да раманаў з працягам, даваў такую карціну: "... У нас на Беларусі, здаецца мне, акрамя іншага, нейкая Аўстра-Венгерская правінцыя ("лоскутная") жыццёвых сопляў і душ – нам цяжка перамагаць гэта, і сведчаннем таму хаця б літаратура. І "Кала Бруньёнаў" не нараджаецца, і "Працэсаў" кафкіянскіх таксама не адбываецца. Нейкія гіпертрафіраваныя (з галавой плеазаўра) эпапенцыі ("На рубяжы вякоў" /раман А. Чарнышэвіча. – Л. Д.-М./, "На парозе будучыні" /раман М. Лобана. – Л. Д.-М./ і г. д.) Мележ зайшоў па гэтай дарозе ў тупік – навошта яшчэ і Адамчыку?.."

[3] "Кала Бруньён" – аповесць лаўрэата Нобелеўскай прэміі французскага пісьменніка Рамэна Ралана (1866 – 1944). Гэты твор Р. Ралан напісаў у 1914 годзе, а надрукаваў у 1919 годзе.

[4] Персанаж паэмы Якуба Коласа (1882 – 1956) "Новая зямля" (1923 г.)

[5] Герой прозы Анатоля Кудраўца (1936 – 2014) – спачатку дзейнічаў у апавяданні, якое так і называлася "Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі" (1979 г.), а тады ўжо і ў рамане "Сачынне на вольную тэму" (другая назва рамана "Пасеяць жыта") (1984 г.)

[6] Гарэзны Зайчык, у якога дзяцей поўная хата – дзеючая асоба ў рамане Івана Мележа (1921 – 1976) "Людзі на балоце" (1962 г.)

[7] "Прымакі" – сцэнічны жарт у адным акце, створаны Янкам Купалам (1882 – 1942) у 1913 годзе.

[8] Алюзія на дзівосную аповесць Янкі Брыля (1917 – 2006) "Ніжнія Байдуны" (1975 г.)

[9] Словазлучэнне з верша Янкі Купалы "Мая навука" (1919 г.):

*Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці,*
*Мой бацька не мог даць раскошаў такіх –*
*Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці*
*І дум беларускіх без школы і кніг...*

[10] Усё-ткі аптымістам быў Л. Дранько-Майсюк – учарашні выпускнік Літаратурнага інстытута.

[11] На гэты конт у восьмым лісце М. Стральцоў выказаўся гэтак: "... Баюся, што многія з нас бяруцца за пяро "без бога ў душы" – нават таленавітыя. Калі-небудзь пагаворым з

табой пра раманы Адамчыка – такі бліскучы талент, і так мала ў ім усё той жа гармоніі, не кажучы ўжо пра элемент "мысліцельны", што не абавязковы для рамана наогул..."

[12] У наступным, дзявятым, лісце (за 14.08.1982 г.), дасланым у Давыд-Гарадок, М. Стральцоў даў разгорнутае тлумачэнне: "... Наконт Адамч.[ыка]. Я, здаецца, выказаўся пэўна. Не супраць паэзіі ягонай я, не супраць паўнакроўнасці ў адлюстраванні жыцця, калі не абыходзяцца "вечныя" праблемы чалавечага існення, – без гэтага, (адно слова не чытаецца. – *Л.Д.-М.*), мастацтва сапраўднага наогул не бывае.

Я казаў пра пэўную "безадноснасць" раманнай канструкцыі, раманнай формы – а ўвогуле – канцэпцыі рамана як жанру ў сучасных умовах. Што ў Адамч.[ыка] раманы, і харошыя, – супраць гэтага пярэчыць можа хіба бурбон, гэтак жа, як і ставіць пад сумненне іх літаратурнае, г. зн. прафесійнае майстэрства. Я хацеў сказаць толькі, што аднаго гэтага мала. Зноў кажу, арыгінальнай думкі няма і раманнай (жанравай) і сугуба творчай, па-мастацку – індывідуальнай! Я ўвесь час пытаю сябе – дзеля чаго? Прывесці да нейкай развязкі раманных калізій – калі ласка! Але як і якіх? Мы любім вырашаць усё грамадскай падзеяй, гісторыяй – якая адбылася – тут, маўляў, гіст.[арычны] аптымізм, праўда аб'ектыўная гісторыі і г.д. і г.д. Але ж гэта ілюстрацыя і храналогія, якую, папраўдзе, наўрад ці схаваеш пад майстэрствам. Што далей? Абарваць раманы, іх працяг храналагічны, як гэта здарылася з Мележам, дзе "пасобілі" "боскія" акалічнасці, працягваць – дакуль? Бясконца? Вось я пра што!.."

[13] Мае маскоўскія сябры і знаёмыя лічылі мяне вар'ятам, што па сваёй волі я адмовіўся ад маскоўскай прапіскі.

[14] На некалькі месяцаў я знайшоў прытулак у Валянціна Акудовіча (дзякуй яму!), які жыў тады ў аднапакаёвай кватэры на вуліцы Пятра Мірашнічэнкі. У 1984 годзе я пазнаёміў В. Акудовіча з Міхасём Стральцовым, які працаваў тады ў рэдакцыі часопіса "Нёман". М. Стральцоў папрасіў В. Акудовіча напісаць пра Янку Брыля, і ў выніку з'явіўся бліскучы артыкул пра аўтара "Ніжніх Байдуноў" (В. Акудович. Быть собеседником /Заметки о прозе Янки Брыля/: "Нёман" № 1, 1985 г., с. 163 – 166; рубрика "Литературная критика")!

[15] Верш "Храм беларускі".

[16] На жаль, задума не спраўдзілася.

**Дванаццаты ліст[1]**

Паважаны Міхась Лявонавіч!

Ваш ліст, датаваны 14.08.(1982 г. – *Л. Д.-М.*), я атрымаў у Маскве. З Д(авыд)-Гарадка[2] яго мне прывезла жонка. Наконт эпасу нашых эпікаў і ў прыватнасці наконт Айтматава[3], увогуле згодзен. Ёсць аднак нейкія дэталі ў мяне, пра якія і сапраўды варт(а) пагаманіць пры сустрэчы.

Што раблю ў Маскве? Выпісваюся, пакідаю вялікую сталіцу, еду ў Мінск. На працу ўладкаваўся ў "Мастацкай літаратуры" ў рэдакцыі паэзіі[4]. Самае для мяне надзён(н)ае зараз – гэта кватэра. Заходзіў у Саюз[5], напісаў заяву на імя Танка[6]. Недзе ў верасні павінны разгледзець. Спадзявання вялікага на тое, што ўсё вырашыцца станоўча, не маю, але ж нейкая маленькая надзея ўсё пацвельвае мяне. А раптам... Праўда, мяне яшчэ ў Мінску мала ведаюць як літаратара, таму "плошчу" могуць аддаць якому-небудзь шафёру ці бухгалтару літфонду. Хоць шчыра кажучы, і яны ж людзі, ім таксама патрэбна. Але хопіць пра гэта. Як толькі ў Мінску з'явіцца ў мяне якое-небудзь жытло, адразу Вам паведамлю[7].

Буду вельмі рады, калі Вы прачытаеце гэты мой верш[8]. А пішацца даволі скупа – верш у месяц. Пішыце мне пакуль што ў Д(авыд)-Гарадок. У верасні я туды збіраюся.

Жонка мая і мой малы Васіль жадаюць Вам самых вялікіх поспехаў.

*Ваш Леанід(.)*

**Паэзія**

Людзі раілі: "Абыдзі
Места гэтае сёмай дарогай..."

Ноч была, і стаяў маладзік
Па-над кожным акном і парогам.

Ці прымроілася, а ці не –
Ды жанчына прайшла маладая,
Знікла ў хаце – глухім будане,
А ў якім? Ці адразу згадаеш?

І пайшоў я шукаць-вандраваць,
Абыходзіў двары-агароды,
Спадзяваўся лагоду спаткаць
У таемнасці кожнай гасподы.

Узбіваўся на кучы калод,
На сталюгі і цэбры цяжкія
І, за плотам адолеўшы плот,
Узыходзіў на ганкі крутыя.

Людзі спалі і чулі адно,
Як анёлы пад столлю сышліся,
Маладзік набракаў праз акно
Малаком, што ў глінянай місе.

На сцяну налятала сцяна –
Пэўна, чорт у адрыне гуляе!
Выйшла з хаты глухой – будана,
Да каровы бабуля сівая.

*(5 ліпеня 1982 г.)*

[1] Ліст адасланы з Масквы 28.08.1982 года.

[2] Гэты ліст (дзявяты па ліку) М. Стральцоў напісаў мне ў Давыд-Гарадок.

[3] Чынгіз Айтматаў (1928-2008) – кіргізскі пісьменнік.

Згадваючы аб'ёмістыя, толькі з павярхоўным кірункам на эпас, раманы беларускіх празаікаў, у сваім дзявятым лісце М. Стральцоў даводзіў: "... гэты эпас – запознены і не можа сур'ёзна ўплываць на літаратурны працэс (...) эпас патрэбен нейкі другі, калі патрэбны цяпер увогуле. У апошнім, напрыклад, я не дужа ўпэўнены (...) Хіба ў Айтматава "мележаўскі", "сачанкаўскі", "адамчыкаўскі" эпас? У пісьменніка, які, здавалася б, павінен быць пад уплывам выразных форм нац.(ыянальнага) эпасу, нацыянальнага ўкладу, традыцый, якія, сам ведаеш, куды *больш пэўныя, адасоблена-закончаныя, чым нашы* (вылучана. – *Л. Д.-М.*)? А ён (Айтматаў. – *Л. Д.-М.*), не перастаючы быць нацыянальным, гаворыць з намі вунь на якім узроўні думкі і формы..."

[4] 1.08.1982 года я заступіў на пасаду рэдактара паэзіі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

[5] Маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў БССР.

[6] У 1982 годзе Максім Танк з'яўляўся старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[7] Аднапакаёвую кватэру я атрымаў у лютым 1983 года.

[8] Ліст я напісаў на адваротным баку машынапіснага тэксту верша "Паэзія". Упершыню ён быў надрукаваны У. Някляевым: газета "Знамя юности" №203 (9709), чацвер, 20 кастрычніка 1983 г., с. 3; рубрыка "Из поэтической тетради". Пазней верш быў уключаны ў зборнік "Вандроўнік", а таксама ў кнігу "Гаспода" і ў новай рэдакцыі ў кнігу "Места і свет".

**Трынаццаты ліст[1]**

*18 верасня (19)82 г.*

Паважаны Міхась Лявонавіч,

учора я прыехаў у свой Давыд(-Гарадок), марыў знайсці тут Ваш ліст[2]. Заўтра ўвечары збіраюся зноў у Мінск, маці ўжо ўзяла білета. Дарэчы, Вы можаце мне напісаць на выдавецтва: 220600, пр.(аспект) Машэрава, 11.

Шмат у мяне пакуль хатніх спраў. З прапіскаю, здаецца, усё абыходзіцца

няблага[3], а вось з кватэрай невядома. Кажуць, што будуць нешта даваць у Саюзе[4], заяву я напісаў.

Заходзіў з вершамі да Вялюгіна[5]. Ён адабраў вершаў 12 і шчыра са мной пагаманіў. А мне такія рэчы заўсёды прыемныя.

У выдавецтве работы хапае. Рукапісаў шмат і амаль палова з іх нічога не вартая. У нас перамены. Вадзім[6] будзе загадваць рэдакцыяй, Ул.(адзімір) Андр.(эевіч) Паўлаў пайшоў на месца Шахаўца[7]. А “папа”[8] на пенсію.

Пішыце мне, Міхась Лявонавіч.

За апошні месяц я ўжо занадта паглыбіўся ў сваё ўласнае, таму, відаць, наша перапіска нешта страціла прывабнае для нас абодвух.

*Ваш Драньо-Майсюк(.)*

*P.S.* Заходзіў у машбюро і бачыў, як дзяўчаты[9] перадрукоўвалі вершы з “Ценю ад вясла”[10]. Гэта, відаць, на тую кнігу, якая запланавана ў перавыданнях[11].

[1] Ліст пайшоў з давыд-гарадоцкай пошты 19.09.1982 г.

[2] Дзясяты (апошні) ліст ад М. Стральцова я атрымаў у Мінску 6 кастрычніка 1982 года.

[3] Мяне прапісаў у сваёй кватэры (Мінск, вул. Карла Маркса, д. 36, кв. 24) Уладзімір Караткевіч.

[4] Маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў БССР.

[5] Гэта значыць, я заходзіў у рэдакцыю часопіса “Полымя”.

[6] Вадзім Спрынчан, супрацоўнік выдавецтва “Мастацкая літаратура”, у верасні 1982 года быў прызначаны на пасаду загадчыка рэдакцыі паэзіі.

[7] Уладзімір Шахавец (1918-1991) – празаік, паэт, перакладчык; у “Мастацкай літаратуры” ўзначальваў рэдакцыю збору твораў.

[8] “Папа” – такую жартоўную мянушку насіў у выдавецтве У. Шахавец.

[9] Супрацоўніцы выдавецтва С. Расянчук і Л. Ганчарэнка.

[10] “Цень ад вясла” – зборнік вершаў М. Стральцова, які быў выдадзены ў 1979 годзе.

[11] Маецца на ўвазе рэдакцыя перавыданняў; кніга выбраных вершаў М. Стральцова ў гэтай рэдакцыі (серыя “Бібліятэчка беларускай паэзіі”) “Яшчэ і заўтра” ўбачыла свет у 1983 годзе.

Генрых Далідовіч



...трэба цярплівасць,
без яе нам не выжыць...

# “Закон Дамашэвіча”

## *Згадка пра старэйшага сябра*

Звычайна рэцэнзент ужо загалоўкам водгуку на пісьменніцкую працу спрабуе вызначыць яе літаратурную і грамадзянскую вартасць. Крытыкі характар творчых здзяйсненняў Уладзіміра Дамашэвіча ў рэцэнзіях на розныя яго кнігі ў розны час вызначалі так: “абуджэнне дабраты”, “у пошуках гераічнага і незвычайнага”, “у лабірынце чалавечага жыцця”, “ураўнаважанасць”, “мера сталасці”. А што да ягонай чалавечай асаблівасці, звычкі пры размове не спяшацца на словы, а нібы наўмысна марудзіць, узважана весці размову, то за гэта знаёмыя называлі яго Дзедам, а ягоныя паводзіны, учынкі – паўжартам “Законам Дамашэвіча”.

У другі зборнік аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў “Пра час і сябе” (1966) патрапіў і ягоны жыццяпіс. Празаік коратка і больш чым сціпла расказаў тое-сёе пра сябе, тады аўтара дзвюх кніжак, сам сабе даў заўвагу, што яму “...Трэба працаваць больш. Трэба спяшацца!” Бывае, многім таленавітым асобам пажадана пазбягаць пабочных заняткаў ці мець большую творчую актыўнасць, але такое Дамашэвіча тычылася мо найперш. На

той час яму падбіралася пад 40, ён сам перажываў, што "жаданне пісаць ува мне жыло даўно, асабліва ў студэнцкія гады", што ўжо "добры кавалак дарогі адмераў я і дарогі нялёгкай, а вось зрабіў карыснага мала і дакараю сябе за гэта". Сапраўды, першае апавяданне "Трэці лішні" надрукаваў у "Маладосці" толькі ў трыццаць, а першы зборнік прозы "Заклінаю ад кулі" выдаў на два гады пазней (1960), калі маладзейшыя за яго ўжо мелі па некалькі празаічных кніг, былі запатрабаваныя чытачом, былі "на пяры" ў крытыкаў.

Прычыны ягонага крыху запозненага ўваходжання ў літаратуру мелі свае, глыбока асабістыя адметнасці. "Нешта я марудна "спеў". Хто ў гэтым вінаваты? Перш-наперш я сам. Але трохі вінаваты і ўмовы, у якіх я жыў, рос, набіраўся сілы. Умовы былі нялёгкія". У шчырых гутарках з ім можна было даведацца больш: змалку акалічнасці жыцця склаліся цяжкія. Не толькі таму, што ён у 1928-м "нарадзіўся ў глухой беларускай вёсцы" на Ляхаўшчыне (у гэтым ён не першы і не апошні з нашых пісьменнікаў, ды многія з іх менавіта з-за гэтай "глушы" ў змалку спазналі жыццёвую натуральнасць, у тым ліку і роднай мовы). Цяжкасць была ў тым, што выпала пабачыць свет у Заходняй Беларусі ў малазямельнай сям'і. Гэта па савецкай ідэалогіі лічылася станоўчай класавай адзнакаю, а на самой справе ў жыцці было пакутай. "Нястачы і беднасць былі часта прычынамі сварак і непаладак", хоць па-сялянску кемны, руплівы бацька высільваўся, шукаў любых заробкаў, каб не толькі ўратаваць ад голаду сямейнікаў. Ён яшчэ і разумна клапаціўся, каб і даць магчымасць дзецям вучыцца. Заўсёдныя нястачы змусілі перабрацца на новае месца (да родзічаў у цяперашні Клецкі раён), але і там чакалі зусім не поўныя скрыні дабра: новая зямля таксама не стала грунтоўнаю карміцелькай: была балоцістай, "яе то залівала, то яна высыхала". А яшчэ дадалося новае ліха. З-за тутэйшага дзядзькі-камсамольца: мясцовая ўлада і яго сваякоў, у тым ліку і юнага Уладзіміра, залічыла ў "чырвоныя" (забягаючы наперад: во дар лёсу! У Заходняй Беларусі будучага пісьменніка асавецілі, а ў Савецкай ідэолагі абвінавачвалі яго ў антысавецкасці!). Пасля верасня 1939-га галетнікам дадалі зямлі, што дазволіла не заставацца доўга без хлеба, а дзецям працягнуць вучобу. І ўжо на роднай мове. Ды "вайна, як няпрошаны госць, прыйшла на нашу зямлю, і ўсё, аб чым марылі і чаго ўжо дасягнулі, пайшло прахам". Бацька апынуўся на фронце, акупанты абрабавалі гаспадарку. Вярнулася галеча, змусіла спыніць вучобу, яшчэ ў падлеткавым узросце чапляцца за бедную гаспадарку, каб не памерці ад галоднай смерці. Да ўсяго ва ўмовах акупацыі трэба было хітраваць, ратавацца, каб не вывезлі падрослага ў германскі рэйх на прымусовую рабскую працу. "Адзіным светлым момантам было чытанне кніг". Карацей, прыйшлося скончыць школу ў 20 гадоў. Засмучэнню давала палёгку тое, што адданыя сваёй высакароднай справе настаўнікі "навучылі разумець прыгажосць роднай мовы", "абудзілі ўва мне літаратара, што прывяло на філфак БДУ".

Жыццёвае ліхалецце, ранняе пасталенне, новыя веды, знаходжанне ў дапытлівым студэнцкім асяроддзі паклікалі... глыбейшага пазнання "палітычнага боку нашага жыцця, эканамічнага стану краіны". Не абыякой краіны, а нядаўняй пераможцы над лютым ворагам чалавецтва – фашызмам. Краіны, якая гучна заяўляла дэкларацыі пра самае светлае, лепшае ў свеце жыццё, у якой на фоне ўсеагульных радасці за Перамогу, эмацыянальна-патрыятычнага пад'ёму, жадання аднаўлення страчанага і дасягнення больш-менш нармальнага дабрабыту значна суцішыліся начныя хапуны, але ўзмацніліся дэмагогія, чэпкі назірк за ўсім "несавецкім", вытоптванне ў грамадстве, у кожным чалавеку духоўнасці і асабліва гістарычнай памяці, нацыянальнай годнасці. Улада пачала ўтаймоўваць пераможны дух франтавікоў і партызанаў (каб "лішняга" сабе не дазвалялі ў эйфарыі), узвышаць "арганізатараў" усіх поспехаў – партыю і яе правадыра. Да ўсяго ў лагерах працягвалі гібець мільёны палітзняволеных. У такой фальшывай сітуацыі ўдумлівы Дамашэвіч не мог не быць

відушчым розумам і душой, не задумацца пра сваю новую працу. На ніве прыгожага пісьменства. “Цягнулі да сябе больш за ўсё драматычныя, трагічныя тэмы, а яны былі тады не ў пашане”. Ён адкладае сваю прозу на пазней і прысвячае грунтоўныя філалагічныя веды, спрыяльны ўзрост для напісання сваіх твораў рэдактарству, друкаванню твораў іншых аўтараў. Рэдактарскі хлеб у розных рэдакцыях ён зведаў ажно 35 гадоў – з 1953-га па 1988-мы. Праўда, з некаторымі перапынкамі: не раз яго змушалі.



*На пярэднім плане: Уладзімір Дамашэвіч і Генрых Далідовіч.*

І рабілася гэта хітра ды вераломна: вялікага шуму не падымалася (каб грамадскасць не ўведала пра ганенне і не паспачувала ахвяры за яе слушныя погляды), было вуснае ўказанне кіраўніку рэдакцыі сабраць сход і асудзіць Дамашэвіча яго ж калегамі, а пасля прапанаваць яму напісаць заяву на звальненне. І... хоць мякка, выкрутліва, але ўсё ж “выхоўвалі”, за што пасля было сорамна! Рана-позна ўсё станавілася вядомым, многія аказвалі “беларускаму дысідэнту” маральную падтрымку, а смялейшы з галоўных рэдактараў літчасопісаў ці выдавецтваў лічыўся з гэтым і асмельваўся запрашаць яго на працу ў аддзел прозы. І гэтак не адзін раз...

Асабіста мне пашанцавала не толькі зведаць яго як рэдактара, але амаль дзесяцігоддзе папрацаваць з ім, нават быць яго службовым начальнікам у часопісе “Маладосць”. Тады галоўны рэдактар гэтага выдання быў прызначаным ЦК КПБ, намеснік – ЦК ЛКСМБ. Дык вось у 1979-м Дамашэвіч угаварыў галоўнага сабраць сход і на ім самім вылучыць кандыдатуру на месца пераведзенага на іншую працу намесніка, прапанаваць яе на зацвярджанне камсамолу. Да сходу ён павёў агітацыю за мяне, супрацоўніка аддзела прозы часопіса “Полымя”, аўтара трох зборнікаў прозы (а перад гэтым паспрыяў мне, нядаўняму настаўніку на Барысаўшчыне, аўтару першага зборніка прозы яшчэ толькі ў рукапісе, прапісацца на кватэры ў Алеся Пальчэўскага, чым замацаваў маю аселасць у Мінску). Рэдакцыйная нарада падтрымала яго, у ЦК ЛКСМБ прапаноўвалі свайго, але саступілі пад націскам сакратарыята Саюза пісьменнікаў. Такім чынам Дамашэвіч сам захацеў быць падначаленым мне. А я, паверце, не столькі началіў, колькі працягваў вучыцца літаратурна-рэдактарскім, рэдакцыйным тонкасцям у яго і іншых старэйшых маладосцеўцаў. Я і пры ягоным жыцці пісаў пра яго, і цяпер ад усёй душы паўтараю: ён, Уладзімір Максімавіч, меў лепшыя рысы лермантаўскага Максімыча з рамана “Герой нашага часу”. Сваёй прастасцю – натуральнай, па-народнаму шырокай і глыбокай, высакароднай, найперш скіраванай на карысць беларускай літаратуры. Ён меў не толькі бездакорны прафесійны рэдактарскі дар, але і вялікую чалавечую радасць ад знаёмства з таленавітым творам, вялікую цярплівасць у рабоце са здольным, аднак нявопытным аўтарам. Ён “праходзіўся” з пачаткоўцам літаральна па кожным сказе яго твора, падказваў яму выгадныя літпрыёмы і хады, а пасля яшчэ перачытваў твор раз-другі і даводзіў яго да мастацкай спеласці. Бывала, гэтым некаторыя і злоўжывалі, забіралі ў яго творчы, так патрэбны яму самому, час. Заўвагу пра тое, што гэты аўтар не ўмее пісаць прозу, Максімавіч спакойна выслухоўваў, а пасля называў асобныя вядомыя прозвішчы і пытаўся: усе на

пачатку іхняй творчасці верылі, што яны стануць такімі, як цяпер? І што было б, каб іх тады не падтрымалі як след рэдактар і часопіс? Калі з пяці, нават з дзесяці такіх "падцягнутых" аўтараў хоць адзін пазней стане добрым празаікам, то хіба не варта дзеля гэтага цяпер папрацаваць з ім? Тых здатных, каго ён своечасова і дбайна падштурхнуў угору і хто дасягнуў не малой вышыні ў літаратуры, дзясяткі.

Неўзабаве пасля публікацыі сваёй біяграфічнай нататкі Дамашэвіч выдаў новую кнігу "Абуджэнне" (1968). Думаю, ніхто не запярэчыць: змешчаныя там аповесць і апавяданні паднялі не толькі рэдактарскую, але і празаічную яго ацэнку – да прызнання аўтарытэта. Гэтага ў прозе ён дабіўся адметным асэнсаваннем калізій жыцця заходнебеларускай вёскі, сваёй пранікнёнасцю ў пэўныя з'явы рэчаіснасці і характары сучаснікаў, нідзе не зацягнутым, але жывапісным адлюстраваннем някідкай, але вабнай сваім хараством палескай прыроды, ашчаджанай ад штампаў і канцылярызмаў, нават ад празмерных дыялектызмаў, жывой, высокакультурнай мовай, уласным і натуральным беларускім па характары стылем мыслення і яго выяўлення (пра гэта, пісаць сваім, "беларускім складам", была вельмі вялікая турбота Максіма Багдановіча). Тут хараша адбыўся сплаў Дамашэвіча-празаіка і рэдактара. Пазней менавіта з гэтай кнігі значная частка апавяданняў будзе ўключацца ў ягонае выбранае. Што да твораў на заходнебеларускую тэматыку, то давайце ўспомнім: тады з ёю не проста было "выбіцца ў людзі". Тут ярка азначыў свае мастацкія арыенціры і вышыні Я. Брыль, пра рэвалюцыйнасць заходнебеларусаў сказаў ёмістае слова П. Пестрак, уразіў апісаннем духоўных настрояў моладзі, кахання ў аповесці "Данута" А. Карпюк, дабіўся многіх узораў у навелістыцы, асабліва ў апісанні лёсу абпаленага вайной дзяцінства, маладзейшы за іх В. Адамчык. Але Дамашэвіч не толькі зноў далучаўся да названай тэматыкі, ён дапаўняў яе і пашанотнай чыннасцю. Перачытайма хоць бы яго невялічкае апавяданне таго часу "Сівы конік". Невыпадкова твор патрапіў і ў анталогію беларускага апавядання: у ім сплаў жыццёвай мудрасці і філасофскага погляду на залежнасць кожнага з нас ад многіх жаданых і засмучальных з'яваў і іншых людзей, на нястрымнае жаданне быць самім сабою. Пра гэта можна было напісаць калі не раман, то аповесць, а Дамашэвічу хапіла замалёўкі пра вольналюбнасць, пра нежаданне жывёлы мець на шыі хамут і запрагацца ў аглоблі. Тут нават ужыванне слова не "конь", а "конік" мае свой падтэкст і сэнс. Хіба тут не наклалася і аўтарская асабістая пазіцыя?..

З апавядання "Абуджэнне" (таксама невялічкага), што дало назву кнізе, раю пачаць чытаць выбранае пісьменніка. Там ён зноў звяртаецца да асэнсавання і свету вялікага, і ў ім аднаго "я". Мабыць, ужо на асабістым прыкладзе. Няспешна і нешматслоўна празаік "пасяляе" чытача ў заходнебеларускай вёсцы і яркімі дэталямі малюе карціну таго часу. З удала падабраных драбніц-мазкоў мы бачым басаногага падлетка, змалку знясіленага працай, бязхлеб'ем, горыччу і амаль з безвыходнасцю. "Амаль" – бо самае цяжкае жыццё не бывае суцэльна чорнае, зусім нечакана сярод тугі можа ўспыхнуць чалавечае захапленне, узбуджэнне, радасць, што прыносяць, поўняць душу іншым, светлым. Падлетку з "глухой" вёскі, з сярмяжнай доляй, як пісаў Янка Купала, аднойчы шанцуе патрапіць на вяселле. Няхай сабе яно чужое і іншыя людзі ўвабраныя, смачна наетыя, павясялелыя ад шчодрага застолля, жартаў, музыкі, песень, танцаў (на вяселлі спакон вякоў ніякай гавэнды пра злыбеды!). А яшчэ пачастункі-прысмакі дзецям. Герой твора, уражлівы хлапчук, на гэтых асабліва вясёлых шлюбінах забываецца пра свае штодзённыя нягоды, зведвае новае пачуццё, падсвядомае разуменне, што жыццё разнастайнае, што яно можа быць і ўзнёслае, радаснае. Як могуць быць іншымі і людзі. Не толькі спакораныя здабыццём кавалка хлеба, ад чаго захмураныя, як Лявон Бушмар з аднайменнай аповесці К. Чорнага, а разняволеныя, з паўнатой душы. "Ва мне

абудзіўся чалавек", – прамаўляе герой, заканчваючы сваю лірычную споведзь. Можна дадаць: і, як некалі вызначалі, "інжынер чалавечых душ". Пісьменнік.

З часам, з творчымі інтарэсамі, вопытам абсяг тэмаў твораў Дамашэвіча шырэе і глыбее. Новыя апавяданні пра заходнебеларушчыну ("Начныя страхі", "Звяруга"), пра трагічнае ў ліхі ваенны час, што магло знявечыць чалавечую, нават абарваць жыццё ("Заклінаю ад кулі", "Першая група крыві", "Паядынак сярод жыта") і ўжо не подступ, а ўварванне ў сучаснасць. Як ні падасца каму з сённяшніх маладых дзіўным, а тады пісаць пра сучаснасць, жывую, штодзённую, было няпроста: тагачасная ідэалогія і пасля ХХ з'езда КПСС у 1956-м не саступала сваёй кіруючай ролі як у галіне палітыкі, так і ў літаратуры, мастацтве. Па-ранейшаму не дапускала паўнацэннага адраджэння гістарычнай памяці нашага народа, "ратуючы" яго ад здані нацыяналізму, патрабавала найперш вытворчай – рабочай і калгаснай – тэматыкі пра працоўныя поспехі эпохі "развітога сацыялізму" (значыць, ухвалення, мудрага кіраўніцтва; цяпер у нас гэта ажывілася ў ідэйнай, матэрыяльнай падтрымцы нават слабога, але "социально (?) значимого (?) писательства), вобразаў новага, савецкага, чалавека, зняважліва ставілася да так званай маральна-этычнай літаратуры, лічачы, што ў ёй даніна мяшчанству, непатрэбнае корпанне ў асабістым і дробязным. Мо і з-за гэтага партыйнага самавольства значныя інтэлектуальныя сілы нашай прозы ў 1950-1980 гадах пазбягалі не ў прыклад І. Тургеневу, М. Салтыкову-Шчадрыну ў рускай літаратуры "гарачага", "заселі" на паказе калізій Другой сусветнай вайны, дзе дабро і зло акрэслена больш-менш выразна. Бясспрэчна: многія нашыя таленавітыя пісьменнікі падарылі чытачу шмат выдатных твораў пра страшную вайну, пра не менш жахлівую існасць люду ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі. Аўтары, якія дзецьмі зведалі ў час вайны зло, бяду і гора, пашырылі прасторы нашай прозы балючымі расказамі пра сваё зглумленае вайной маленства, пра спаленыя захопнікамі вёскі, пра вываз нашай моладзі, абяздомленых сем'яў на прымусовую працу ў Германію. Ды і не раз чутае мной на літаратурных сустрэчах і тое, што чытачы, асабліва маладыя, наракалі: яны ўжо стаміліся ад мноства твораў пра вайну ў беларускай прозе, пара пісаць ужо і пра мір, пра сённяшні дзень, памагчы разабрацца ў ім. А таксама часцей звяртацца і да далёкіх, некранутых пластоў нашай гісторыі.

Дамашэвіч, вядома, ведаў пра ўсё гэта. Цікавіўся феноменам ВКЛ, Полацкай зямлі ды за распрацоўку якой-небудзь задумы на гэты конт не браўся ("там ужо вы, маладыя і дасведчаныя, капайце разам з Караткевічам і Ермаловічам"). Але, як я гаварыў ужо, не ўхіляўся ад спасціжэння сучаснасці, імкнуўся пазбягаць павярхоўнасці. І ён добра разумеў, што з часоў Авеля і Каіна былі, ёсць і будуць складаныя адносіны ў такіх аб'ектаў, як дзяржава і грамадства, а таксама сужыццё між імі і кожным чалавекам ды людскія ўзаемаадносіны, узнікненне, існаванне не толькі супярэчнасцей, але і змаганне дабра, прагрэсу з рэтраградствам, злом і гвалтам. Праўда, ён свядома не развіваў глабальныя філасофскія канцэпцыі, так моцна "не обличал», як Талстой ці Дастаеўскі (апошні, як і Гогаль, удзяляў вялікую ўвагу сістэме поглядаў на мізэрнае жыццё-быццё "маленькага чалавека", а яшчэ на адчайна-жорсткага носьбіта ідэі "ўсё дазволена", каб сцвердзіцца). Дамашэвічу, як і іншым пісьменнікам, прызнаным больш за яго, жывучы ў новы час, калі ўспыхнулы фашысцкі пажар патушылі агульнымі вялікімі сіламі, а сацыялізм з яго пераможнасцю, па-ранейшаму з ваяўніча-баявымі лозунгамі пацясніў капіталізм і ахапіў паўсвету, пытанні глабальныя не выпадала задаваць і пасягаць па-прарочаму адказваць на іх: здавалася, сам час вырашыў іх, тыя пытанні, спрэчкі, прагнозы XIX ст. Заставалася, бадай, адно глабальнае: капіталізм – сацыялізм. Хто – каго. Ды, лічылася, што тут літаратура не можа шмат зрабіць. Тут – найперш двубой ідэалогій, эканомік, ваеншчыны (хоць пасля падзення КПСС пачало прызнавацца, што, напрыклад, А. Сажаніцын раманам "Архіпелаг Гулаг" падклаў міну пад падмурак сацыялізму, ад выбуху якой не такі

ўжо і трывалы гмах захістаўся, даў трэшчыны). Дамашэвіч, як і іншыя аўтары, у меру здольнасцяў і магчымасцяў для надрукавання асэнсоўваў рэчаіснасць лакальна, намагаўся сказаць сваё слова ў даволі новай для нашай прозы сферы: у паказе рэалій гарадскога жыцця (і са старэйшых, і з маладзейшых ён пра гэта напісаў найбольш). З гарадской, на першы погляд, цывілізаванасцю, адносным дабрабытам, задаволенасцю насельнікаў, а на самой справе ў многіх са схаванай разгубленасцю, неўладкаванасцю, нерэалізаванымі марамі і амбіцыямі, нават у сваіх пачуццях, заблытаным сямейным жыццём. Цяпер таго савецкага чалавека некаторыя фанабэрліва мянуюць саўком, але і гэты тып гома сапіенс варты ўвагі, вывучэння. Тым больш, што такіх было, а можа, і цяпер ёсць большасць. Як сярод простага люду, так і высокаадыпломленага і пасаднага. У адлюстраванні гэтага ён не мог адмовіцца ад спрадвеку апрабаванага сусветнай літаратурай прыёму – паказу ўзаемаадносінаў Яго і Яе. Кожны ў маладосці летуценіў пра шчаслівую дарогу ў жыццё, пра светлае каханне, любімую працу, моцную сям’ю. Але... Кагосьці адарыла гэтым багіня ўдачы і шчасця Фартуна, а камусьці толькі пасміхнулася на міг, а нямала ад каго ўвогуле адвярнулася. Лёс нешчасліўцаў розны. Хтосьці шукае выйсця з жыццёвага лабірынту, тупіка і, часта бывае, сам ці пры дапамозе сяброў, каханага становіцца кавалём свайго шчасця ды дорыць яго іншым. А хтосьці, на жаль, не знаходзіць паратунку. Не можа ўладкаваць у горадзе сваё жыццё, у дадатак мусіць заплаціць дарагую цану за непрадуманы давер да любімага чалавека, за шчырае каханне. Любоўныя трохкутнікі ў аснове зместу навелаў “Падаць руку” і “Ад шчасця таксама плачуць”. Калі ў першай паказаная жыццёвая неразбярыха ў паводзінах персанажаў, то ў другой – тое, што чалавеку для кахання, стварэння моцнай сям’і патрэбна не толькі моцнае пачуццё, але і разуменне сужэнца, вытрымка, калі нечакана абрынаюцца цяжкасці. Герой жа гэтага твора без асаблівага роздуму знаходзіць суцяшэнне з іншай жанчынай, якая даўно марыла пра сямейнае шчасце, шчыра пакахала яго, а ён не здольны ацаніць гэта. І жонка нямілая, і пакідаць яе, сям’ю, ашчаслівіць іншую не можа...

На пачатку творчасці нарыс і замалёўка, а пазней і навела на аснове амаль дакументальных рэалій былі любімым жанрам Дамашэвіча. У перапынку паміж імі засвойваліся і іншыя. Аповесць, раман, рэцэнзія... Публіцыстыка. Сённяшнія маладыя могуць запярэчыць: назавіце кнігі, дзе, у прыватнасці, ягоная публіцыстыка. На жаль, не толькі ў кнігах, але і ў газетных публікацыях яе мала знойдзеш. Яна і пры ўраўнаважаным Дамашэвічавым характары эмацыянальна, заклапочана не адно дзесяцігоддзе гучала на пісьменніцкіх сходах, з’ездах. З вялікай турботай пра бездухоўнасць нашага часу, пра грэблівыя адносіны да Боскага дару – беларускай мовы і культуры, гвалтоўнага выціскання іх адусюль: з садкоў, школ, ВНУ, дзяржаўных устаноў, што несла непасрэдную пагрозу пераўтварэння Беларусі, члена ААН, раўнапраўнага сябра сусветнага супольніцтва, усяго толькі ў навукова-эканамічна-нарыхтоўчы рэгіён СССР, а беларусаў – у насельнікаў яго, рабсілу заводаў і калгасаў. Фактычна такі тэзіс быў кінуты самім лідарам КПСС і СССР М. Хрушчовым, які апантана развіваў не толькі пастулат атэізму, але і ілжывага інтэрнацыяналізму, што, на яго думку, разам з навукай і эканомікай павінны былі стаць асновай пабудовы да 1980 года “коммунизьма». А для гэтага кожнай рэспубліцы трэба было адмовіцца ад свайго, нацыянальнага. Ён літаральна трызніў жаданнем “слияния языков”, на аснове рускай мовы, з дабаўкай лексікі з усіх 15 рэспублік стварыць адну агульнасавецкую мову. Смешна ад такога мовазнаўства? Не. Беларусі быў аказаны “гонар” першай пайсці па гэтым “пачэсным” шляху. Нашыя паслугачы, спадзеючыся на высокія пасады ў Маскве і ўзнагароды, ажно захлімзалі ад такога “даверу”, кінуліся вытрасаць душу з Беларусі. Зразумела, Дамашэвічавы занепакоеныя заклікі не аддаваць старажытную беларускую мову (у дакументах на пануючай стараславянскай мове адзнакі беларускасці праявіліся яшчэ ў 1229-м у так

званай “Смаленскай праўдзе”) на здзек і глум былі не ва ўнісон, раздражнялі ўлады. Праўда, распраўляліся з ім нібыта ціхім, але праверaным спосабам – асуджэннем ад імя працоўнага калектыву, пазбаўленнем яго і сям’і кавалка хлеба. Агаладаеце, перасварыцеся – нідзе не дзенешся, прыбяжыш на паклон, будзеш як і ўсе... Ды быў, ёсць і будзе конік, які не сцерпіць прымусу і гвалту!.. Помніце, пра “закон Дамашэвіча”? Пра гэта мне расказаў А. Клышка, які адзін час разам з Дамашэвічам працаваў у часопісе “Полымя”. Дык вось Уладзімір Максімавіч павучаў малодшых – хлопцы, заўсёды асцярожна пераходзьце вуліцу: бывае, нават ёсць такі закон, што машына вылятае нібы з-пад зямлі! Мо сам ён і асцярожна, апасліва пераходзіў вуліцу, але ў жыцці сама найменш быў абачлівы. А ў сваіх творах ён з любоўю ствараў вобразы людзей культурных, шчырых, сціплых і смелых. І, заўважце, не адзін моцны духам яго герой гаворыць разгубленаму, знявераному, ужо амаль апустошанаму душой: трэба цярплівасць, без яе нам не выжыць...

У сувязі з Дамашэвічавай актыўнай абаронай роднай мовы ад гвалтоўнага русіфікатарства ўспамінаецца адна таксама смешная і адначасова горкая показка, пачутая ад самога Максіма Танка. У часы адурманенага пад старасць ад больш чым царскай улады, апантанага манілаўшчынай Хрушчова ў суседняй расійскай вобласці адбываецца Дэкада беларускай літаратуры і культуры. Сустракаюць, сапраўды, па-братэрску. Пасля, за келіхам гарбаты першы сакратар абкама КПСС у эйфарыі пры ўсёй пачэснай кампаніі звяртаецца да тагачаснага кіраўніка нашага пісьменніцкага саюза М. Танка: “Яўген Іванавіч, гэтая Дэкада – добра, усё беларускае нам спадабалася. Але ж мы будуем камунізм. Чаму для яго хутчэйшай перамогі і вам, пісьменнікам, не перайсці на вялікую, вельмі блізкую вам мову? Тым больш, што вас чакае такая вялікая аўдыторыя!” Прысутныя прыціхлі. М. Танк умеў маўчаць, дзе трэ было крычаць, але ён – геніяльны паэт, імправізатар. “Ага, – тут жа нібы падтакнуў. – Мы ж хочам знішчыць капіталізм і ва ўсім свеце пабудаваць камунізм. А дзе найбольш падмогі – люду, камуністаў? У Кітаі. Дык і давайце пераходзіць на кітайскую мову, каб яна стала агульнакамуністычнай!” Усе пырснулі смехам. Але паколькі першы насупіўся, то надзьмуліся і яго падначаленыя. Адным словам, камунізм гэпнуўся ды ножкамі накрыўся. І названы адрэзак перад ім – “развіты сацыялізм” (хоць не ўсё ў ім было толькі дрэнна), – здаецца, кануў у Лету... З незразумелым на здаровы сэнс “менталітэтам” Беларусь, здаецца, напрасткі, па бездаражы сапраўды бегла паперадзе ўсіх з трактарамі, бітонамі малака і кумпякамі мяса, задыханая, у многім абяздухоўленая, у вялікай колькасці з трасянковым натоўпам. Не бачачы і прывіду камунізму, які ўгледзеў Маркс, азірнулася: іншыя далёка за спінай крочаць больш абладжаным шляхам, паблажліва махаюць услед. З-за далечы не відаць у вачах і на вуснах іхняй іранічнай ухмылкі... Пры Брэжневе ўжо не ўспаміналі пра “слияние языков”, пабудову камунізму адклалі, але па-ранейшаму былі ў сіле лозунгі інтэрнацыяналізму, выхавання гібрыда-савецікуса як грамадзяніна СССР. Нацыянальнае не забаранялася, ды толькі без яго пашырэння і паглыблення: маўляў, нацыянальнае пытанне ў СССР ужо вырашана па-ленінску! Так што новы Ільіч дзейнічае па ягоным запавеце!

Буйныя творы Дамашэвічам пісаліся ў перапынках паміж невялікімі па аб’ёме. І яны маюць пэўную тэматычную сувязь, дапаўняючы адзін аднаго. Аповесці “Між двух агнёў” (1962), “Порахам пахла зямля” (1973), “Кожны чацвёрты” (1983) адрозныя па часе напісання, па матэрыяле, толькі прысвечаныя аднаму перыяду нашай гісторыі, 1941-1944 гадам. У “Порахам пахла зямля” – глыбокая пачцівасць да тых, хто здолеў нават у хвіліны самай страшэннай небяспекі праявіць усе свае лепшыя рысы, што можна назваць адным словам: гераізм. У іншых аўтар паспрабаваў расказаць пра тое, што ў нашай літаратуры амаль замоўчвалася. У аповесці “Між двух агнёў” закранута становішча нашага настаўніцтва па першым часе вайны і на пачатку ўтварэння партызанскага руху. У “Дамашэвічавай” вёсцы

Падлясейкі ў школе сярод іншых працуюць двое маладых, настаўніца пачатковых класаў Валя Каленік і выкладчык фізікі Лявон Лукашык. Маладосць паволі збліжае іх, яны становяцца мужам і жонкаю. На добры лад жыць ім, вучыць падлеткаў, гадаваць сваіх дзяцей. Ды вайна парушае заведзены ўклад і іхняе асабістае жыццё. Каленіка мабілізуюць, але ваюе ён нядоўга, трапляе ў палон, вырываецца з яго і вяртаецца да жонкі. Яна па натуры прыстойны чалавек, але катэгарычна выхаваная ў духу 1930-х (сябра – вораг) сумняваецца нават у шчырасці мужа, за што яму балюча ўдвайне: за рэпрасаваных перад вайною бацькоў, за папрокі блізкага чалавека ў ягоным дэзерцірстве. Іх у ваенны час усюды залічалі ў ворагі, маглі расстраляць адразу ж, па нейчым загадзе. Калі Валя вырашыла звязаць свой лёс з партызанамі, то Лявон – застаўся працаваць у школе. Вось тут і для аўтара, і для крытыкаў была першая загвоздка: як адносіцца да гэтага персанажа? Нават, калі б ён нават не схібіў, не стаў вінаватым у смерці жонкі? У часы публікацыі гэтага твора, да слова, і В. Распуціна не толькі не ўхвалілі б, але і наўрад ці нават надрукавалі б ягоную выдатную аповесць “Жыві і помні”, дзе расповед пра сапраўднага дэзерціра, яго не адкрытае, а патаемнае жыццё, за якога ахвяруе сабой, гіне жонка, выдатная з выдатных жанчын, якая любіць яго і такога.

У нас гэтае пытанне не вырашанае і сёння: варта было нашым настаўнікам у час вайны вучыць дзяцей ці на чатыры гады адлучаць іх ад вучобы? Трэба было партызанам разбураць, паліць гэтыя школы? А як адносіцца да моладзі, што ішла вучыцца ў розныя прафесійныя вучэльні? На жаль, Дамашэвіч у той час не мог так заглыбіцца, толькі збольшага абмаляваў, як ён падкрэсліваў, “драматычнае і трагічнае”. Амаль тое ж і з аповесцю “Кожны чацвёрты”, хоць тут сітуацыя крыху іншая. У гэтым творы ён, завёўшы сваіх герояў у партызанскі стан, іхнімі вуснамі расказвае таксама пра тое, што выклікала б гнеў прыхільнікаў партызанскай святасці. Побач з барацьбой з ворагам было паказана і іншае: не толькі суб’ектывізм, недавер і да сапраўды сумленных людзей, але і панаванне некаторых камандзіраў, асабістаў, якія патрабавалі ад усіх рабскай пакоры і ў адносінах да нават толькі падазроных прымянялі толькі адзін палюблены механічны сродак – расстрэл. Зноў трэба ўжыць выраз “на жаль”. Толькі тут з іншай нагоды: мы ў “Маладосці” не змаглі “правесці” праз цэнзуру не адну старонку карэктуры з гэтага твора з апісаннем асобных сцэнаў, дыялогаў. Адпаведна, калі не ўсё, то многае не прайшло і ў “Мастацкай літаратуры”. У выніку стаў ужо не такі тыран і бабнік камандзір Дарашэнка, паменела прыстасаванства ў Нікановіча, прагі самому судзіць у Паланейчыка. Нават многае адшчыкнулі ад апісання гібелі сям’і Ваўчэцкіх, ад асобы камісара Дзятко, які супрацьстаіць уладнай усёдазволенасці, беспакаранага прымянення зброі, заклікае біць ворага ды ашчаджаць вёскі, люд, іхнія гаспадаркі, не залічаць усіх пагалоўна ў “пасобнікі акупантаў”. Але і пры абрэзцы ўсё ж засталося Дамашэвічава дрэва з яркімі вобразамі, сярод якіх хараша выдзяляецца жаночай і чалавечай прыстойнасцю і вабнасцю Юлія Казак. І яшчэ. Ва ўсім напісаным ён не дае ацэнак сваім героям, не маралізуе, запрашае чытача самому паразважаць нават над самым складаным: як у суровы час праяўляецца кожны чалавек, зведвае, што яму па сіле, а што не.

“Цывільныя” аповесці, раман, самыя апошнія публікацыі Дамашэвіча ахопліваюць немалую эпоху – з першых пасляваенных гадоў да першых часоў так званай перабудовы. У вельмі абаяльнай аповесці “Студэнты апошняга курса” (1965) у яго апісанне сапраўды цяжкага пасляваення саступае іншаму – узнёслай атмасферы ў студэнцкім асяроддзі. Бадай, нідзе ён не выяўляў асаблівай ідэалізацыі, а тут, ідучы ад праўды жыцця, ад настрояў ягонага пакалення, ён дазволіў сабе пабыць рамантыкам. І зусім дарэчы: тагачасныя студэнты не маглі не радавацца мірным дням, магчымасці вучыцца. Паколькі аўтар заўсёды шанаваў фактуру, ён прыводзіць сваіх герояў на філфак БДУ, дзе і сам вучыўся, у аўдыторыі і інтэрнат. Узнаўляе

іхнія зацікаўленасці, размовы, спрэчкі і, галоўнае, у цэнтр вылучае пытанне наконт таго, якім цяпер павінен быць настаўнік, інтэлігент. Зразумела, у многім падобны да любімца некалькіх пакаленняў чытачоў Коласавага Лабановіча, бо без таго "не было б нас з вамі". Ды новы час перад новымі Лабановічамі ставіць новыя задачы. Дарэчы, прататыпам аднаго з герояў стаў аднакурснік аўтара незабыўны Алег Лойка – будучы ўніверсітэцкі выкладчык высокай годнасці, які разам з Н. Гілевічам, іншымі пісьменнікамі і літаратуразнаўцамі памог ступіць на пісьменніцкую сцежку не аднаму дзясятку філфакаўцаў.

Значнай з'явай у беларускай літаратуры на сучасную тэматыку стала аповесць "Німфа"(1977). У ёй на поўную моц прагучала трывога пра з'явы бездухоўнасці ў грамадстве, а таксама пра тое, што яна, духоўнасць, не гарантуецца самымі гучнымі пастановамі. Галоўныя героі, Карыцкі і Німфа, з самага пачатку знаёмства завязваюць спрэчлівы вузел, які будзе цяжка разблытаць. Тым больш, што ў Карыцкага новая сям'я складваецца не па вялікім каханні, а па карыслівым разліку маці дзяўчыны. Ёй хочацца і дачку добра ўладкаваць, і палепшыць свае кватэрныя ўмовы. Як пісаў Л. Талстой, амаль усё вырашаецца ў мужа і жонкі тым, як яны раніцай устаюць з адной пасцелі. Пры перавазе не кахання, а разліку ложак можа не зблізіць, а толькі аддаліць. Німфа магла б быць шчаслівай, прынесці шчасце іншаму, але ў свой час не ацаніла сапраўдных якасцей іншага чалавека, які здаўся ёй зусім не прынцам. А ён не змог ці не хацеў падкрэсліваць свае якасці. Многія жыццёвыя пралікі, перажыванні герояў, як і ў талстоўскім рамане "Ганна Карэніна", псіхалагічныя тонкасці ў творы падмацаваныя драматычнымі момантамі з асабістага сямейнага жыцця аўтара, калі ў яго ў немаладым ужо ўзросце страцілася паразуменне з першай жонкаю. Да яго гонару, пры гэтым ён не даў волі эмоцыям, прыстойна абышоўся з прататыпамі (некаторыя з іх мне вядомыя), больш засяродзіўся ў сваёй любоўнай сазе на тым вядомым, але з кожным пакаленнем новым, што няпростая гэта рэч – заглыбіцца не толькі ў нейчую, але і сваю сутнасць. А па-другое, трэба ўмець бачыць, ацэньваць і свае памылкі.

Працяглая праца ў розных рэдакцыях, шматлікія сустрэчы з самымі рознымі людзьмі (у такім інтэлектуальным асяроддзі, здавалася, не павінннна было мець месца такое заганнае, як плёткі, паклёпы, даносы), супярэчлівая атмасфера ва ўсім грамадстве падказалі яму задуму рамана "Камень з гары". Як і раней, тут таксама амаль усё заснавана на жыццёвай праўдзе, на яркіх дэталях, аддадзена належнае клапатлівым, сумленным прататыпам, якія найперш дбалі пра справу. Але, мабыць, упершыню ўжо не стрымана, а на ўсю моц у творы паказаныя тыя, хто, як Рымар, яшчэ ў 1930-я не толькі адкрыта шальмаваў лепшыя творы беларускай літаратуры і тайна крэмзаў даносы на іх аўтараў, што стала падставай для зняволення, беззаконнага суду над імі, прысуджэння да высылкі ці да жудасных расправаў. Тыя рымары прыціхлі пасля выкрыцця культу асобы, лісліва зазіралі ў вочы ацалелым "падапечным" і працягвалі "мець харч нязводны". Як і многія следчыя, пракуроры і суддзі, якія зусім не каяліся за сваё беззаконне, і ўлада іх не пераставала падвышаць па службе, узнагароджваць. Раман быў закончаны ў канцы 1960-х, калі пасля Хрушчова сталінскія рэпрэсіі пачалі замоўчваць, узмацняць барацьбу з "дысідэнцтвам". Яго залічылі ў спіс "іншадумных", таму ён чакаў свайго часу аж да 1990-га. Але хіба апублікаваны, скажам, у 1970-я твор не прынёс бы аўтару большую вядомасць? У той час, у той сітуацыі, калі многія з нас, літаратараў, чытачоў, яшчэ, скажам, не чыталі Салжаніцына. Кожнаму пісьменніку не так бяда, калі яго крытыкуюць. Страшней, калі ягонае наўмысна не друкуюць альбо замоўчваюць.

Дамашэвіч застаўся Максімычам. Атрымаўшы мо і не самы буйны па суме ганарар, ён даволі значную частку з яго перадаў у Літфонд тагачаснага Саюза пісьменнікаў і заклікаў калег утварыць фонд для матэрыяльнай падтрымкі маладых літаратараў. Але наступалі ўжо "ліхія" 1990-я, аплата за твор стала такая, што

нават за аўтарскае ўзнагароджанне за буйнаваты аб'ёмам твор, які пісаўся год-два, а то і больш, можна было купіць толькі нейкія дробныя рэчы. Тым не менш Дамашэвіч (чаму быў і я сведка) захоплена радаваўся, калі пасля разгону путчу ў Маскве агрэсіўная камуністычная большасць у нашым парламенце палахліва за некалькі хвілінаў прагаласавала за нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт, калі па дэмакратычнай Канстытуцыі была абвешчана Рэспуліка Беларусь, калі адкрыліся перспектывы паўнацэннага развіцця нашай мовы, культуры – асновы кожнай нацыі. Ён ніколі не падкрэсліў, толькі, мусіць, у душы радаваўся, што і ягонае пісьмовае, вуснае патрыятычнае слова было кінута не на вецер, што гэта на дзяржаўным узроўні падтрымалі іншыя. Як і яшчэ аднаго шчырага заўзятара беларускасці – Міколу Ермаловіча, чыю выдатную даследчую шматгадовую працу "Старажытная Беларусь"нарэшце "правялі" праз цэнзуру ў перабудовачным 1988-м, а крыху пазней ацанілі Дзяржпрэміяй. Далібог, асабіста я не так рады за некаторыя свае творы, а больш за тое, што мне пашанцавала ўзяць на сябе немалы цяжар па публікацыі і цяпер так патрэбнага ўсяму нашаму люду ў добрым сэнсе каваля адлюстравання нашай мінуўшчыны Міколы Іванавіча, а таксама "Споведзі" Ларысы Геніюш.

Аднак... Да мужнага змагара, аптыміста Дамашэвіча вярнулася і яшчэ з большай горыччу прыгнечанне: новую беларусізацыю згарнулі значна хутчэй, чым у 1920-я. Пачалі нават пазбаўляцца ад таго, што было дазволена ў савецкі час.

"Глядзіце, што і як хітра, вераломна робіцца, – не мог ён аднойчы не стрымаць абурэння пры нашай сустрэчы. – Паўтара дзясятка гадоў ужо з дня абвяшчэння беларускай дзяржавы, а паўсюль камуністычныя атрыбуты, былыя назвы вуліц, вёсак, гаспадарак – імёнамі чужых нам людзей. Розных мясніковых, якія глуміліся над намі, не дапускалі, каб была нават савецкая Беларусь, а ўсяго толькі Заходняя вобласць. Цяперашні вольны выбар мовы па канстытуцыйным праве даў падставу непрыяцелям беларускасці нібыта законна выганяць яе са свайго ж дома на двор. Ці вось яшчэ. Прыбралі беларускамоўную газету для дзяцей "Піянер Беларусі", часопіс для падлеткаў "Бярозка", газету для моладзі з даўнімі традыцыямі "Чырвоную змену", ліквідавалі так неабходныя для маладых аўтараў "Бібліятэку часопіса "Маладосць" і выдавецтва "Юнацтва". Зрабілі неабавязковым экзамен па беларускай літаратуры ў школе, калі не закрылі, то падрэзалі крылы акадэмічнаму Інстытуту беларускай літаратуры. Беларускай дзяржаве, калі яна жадае быць такой, трэба пра гэта вунь як клапаціцца, а яна метадычна зубілам і малатком выбівае цагліну за цаглінай з падмурку беларускага гмаху. Каб ён нарэшце рухнуў. А тэлебачанне? Бясконцыя серыялы, з якіх не разбярэш: дзе злачынцы, а дзе праваахоўнікі. З нашага – дэманстрацыя красунь, іхняга моднага адзення, звесткі пра надвор'е, суцэльны хваласпеў уладзе. Ніякага шчырага, як некалі казалі, голасу з народа... Усе за ўсё дзякуюць... Ніякага доступу да экрана так званай апазіцыі, "нячэснаму" пісьменніку... За рэдкім выключэннем усё не на "мове", а на "языке" – вельмі сухім, казённым, нейкім шкляным... Вазьмі ў краме што-небудзь, як заклікаюць, сваё, беларускае – на ўпакоўцы пабачыш рускія, украінскія, казахскія, узбекскія надпісы, толькі не па-нашаму... Добра, што Мінск, іншыя гарады чыстыя, але хіба так трэба з іх вымятаць усё беларускае? І што асабліва балюча – нашыя ж ды яшчэ з народным званнем многія артысты, кампазітары, спевакі, таксама многія гісторыкі, розныя інтэлігенты гучна заяўляюць пра вялікую любоў да сваёй Радзімы, як (назваў некалькі гучных імёнаў), але... Прыстасаванцы... А гэта, як і абыякавыя, страшнае племя... – Махнуў рукой і ўжо адчайна: – Мо, праўда, няхай бы лепш заставаўся СССР з яго ідэалогіяй. Хоць ведалі б, каму і чаму супрацьстаяць. А то, выходзіць, трэба выступаць супраць сваіх жа. Хоць якія яны нашы? Нават на самыя невысокія пасады назначаюцца тыя, хто "в ни в чём белорусском не замечен». Быў адзін міністр культуры, які добра ўмеў і часамі адважваўся гаварыць па-беларуску, дый таго адправілі за мяжу, як некалі Бураўкіна ..."

Што можна было сказаць на гэта дбайнаму творцу і грамадзянскаму ваяру? Тым больш, што ён самотна ўсміхнуўся, узяў за локаць: “Даруйце за такі мой настрой, зусім не за настальгію па СССР... Стары я стаў, бурклівы, – і прызнаўся ўпершыню: – Стаміўся...” Каюся, тады і я яго, з кім знаўся не менш 35 за гадоў, не ва ўсім зразумеў. Толькі потым даведаўся, што перад гэтым у паважаным мной беларускім штотыднёвіку, які я даўно выпісваю і чытаю ад пачатку старонкі да апошняй, адзін маладаваты і нахабнаваты шарачок дазволіў сабе выказацца, а выданне дазволіла сабе згадзіцца з ім, што пры ўсёй павазе Дамашэвіч – “сярэдні” празаік... У гэтым выданні я пазней прачытаў і яшчэ адзін выпад – лічу, здольны, дасведчаны гісторык узяў ды заявіў: а Ермаловіч – ніякі не гісторык. Сябры, прыніжэннем іншага, свайго папярэдніка, не падвысіш сабе цану! Як тут не ўспомніць выдатны прыклад Пушкіна, які ў адказ крытыкану творчасці Жукоўскага гнеўна заявіў прыкладна так: “Зачем кусать грудь кормилицы нашей?!”

Дамашэвічу было каля 85-ці, калі мы з ім пра гэта размаўлялі. Сярэдняга росту, заўсёды хударлявы, ён некалі быў жылісты, дужэц. У маладосці мог і з дзябёлымі пабарукацца. А тут зусім схуднеў, нават выпетраў, ужо не ссівеў, а пабялеў, ясныя вочы прытухлі (як потым я ўведаў, зрабіла сваё і ягоная цяжкая на старасці адзінота). І адышоў ён незаўважна, ціха, але, як і згаданыя М. Ермаловіч, Л. Геніюш, верным сынам Бацькаўшчыны, якой ён умеў служыць стойка, плённа і высакародна.

Сяргей Шапран



...Эміграцыя — гэта як...

Ну, як рэпетыцыя смерці...

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

*Заканчэнне. Пачатак у №№6 (73), 1-6 (74-79).*

## ПАЛКОЎНІК ПЯТРОВІЧ

У чэрвені 1999-га Някляеў піша здзеклівую песенку «Полковник Петрович», якую адразу друкуе газета «Имя».

По роскошной Варшаве гуляю
В тополином июньском снегу.
Заметаю тебя, заметаю
И никак замести не могу.

*Припев:*
Руки в брюки, кепчонку на брови,
Сигаретка дымит на губе...
До свиданья, полковник Петрович,
Поцелуй за меня КГБ.

С панной Анной мазурку танцую,
С ней купаюсь в любви и вине,
Только что мне её поцелуи! —
Если друг мой тоскует по мне.

*Припев.*

Как прекрасна свободная Польша,
Разорвавшая лагерный круг!..
Мы с тобой не увидимся больше,
Если даже и встретимся вдруг[1].

“Герой” песенкі, як пазней напіша яе аўтар, патэлефанаваў яму — і з гэтага часу Някляеў урыўкамі, даволі дазіравана стаў распавядаць пра тое, што ж начасмрэч адбывалася ў Беларусі і Польшчы пасля таго, як ён абвесціў, што вяртацца з замежжа пакуль не збіраецца.

«Пры вонкавым алімпійскім спакоі рэальна ўлада паставілася да сітуацыі нервова і зусім сур’ёзна. Нават больш нервова і больш сур’ёзна, чым я меркаваў. Былі ў мяне і сустрэчы з яе прадстаўнікамі, і тэлефонныя перамовы з імі, але паколькі кожны раз ставіліся ўмовы канфідэнцыяльнасці, і я даваў на тое згоду, дык няхай так яно і застанецца. Хіба што Урал Латыпаў, з якім мы таксама сустракаліся ў Варшаве, не ставіў ніякіх умоў і не рабіў з нашай сустрэчы таямніцы, гледзячы на гэта, мусіць, працей за іншых — як на частку сваёй работы.

Сутнасць усіх размоў зводзілася ў агульных рысах да майго вяртання і да магчымых у такім выпадку ўзаемных кампрамісаў. Мяне пераконвалі, што вось-вось адбудзецца значная карэкцыя ў знешняй палітыцы, ураўнаважанне яе ў накірунках на Усход і Захад, і ўжо ўсё падрыхтавана да змен у палітыцы ўнутранай — са зменай на ключавых пасадах людзей, якія за яе адказваюць. Даводзілі гэта ўсё ў адзін голас, і я ўжо гатовы быў даць таму веры, бо паверыць хацелася. Уладзімір Канаплёў ні слова не выдумаў, калі сказаў у сваім інтэрв’ю “Советской Белоруссии”, што я далечваюся і вяртаюся. Але ж нічога тым часам не адбывалася і не змянялася. [...]

Ад пачатку ўсіх цікавіла місія Паўла Якубовіча [...].

Ён раскінуў карты ў нечаканы для мяне расклад — і па тым раскладзе я гарантавана і шмат у чым выйграваў, але гэта была не мая гульня. Дый нагуляўся я ў падобныя гульні з вялікім пераборам. І Павел Якубовіч, як мне здалося, без асаблівай крыўды за дарэмныя свае высілкі тое зразумеў. Можна колькі заўгодна падазраваць яго ў тым, што ён тут нешта і для сябе выгадаў, але гэта быў адкрыты рух насустрач, а не ўдар у спіну. Тое самае магу сказаць і пра Уладзіміра Канаплёва.

Справабавалі мне дапамагчы і яшчэ колькі чалавек з самых сур’ёзных дзяржаўных структур, з якімі раней я быў ледзь знаёмы, ці нават яны былі толькі знаёмымі маіх знаёмых. Так што не ўсё кепска з людзьмі на нашай Бацькаўшчыне. Нават за грошы і прывілеі не ўсім падабаецца абыякаваназіраць, як знішчаецца Беларусь»[2].

Праз дзесяцігоддзе ў адным з інтэрв’ю Някляеў прывядзе нават вытрымкі з тэлефоннай размовы з Замяталіным, які, згодна іранічнай заўвагі Някляева, узначаліў штаб па яго вяртанні і неаднойчы тэлефанаваў яму ў Варшаву, бо Лукашэнка даў прамое ўказанне: зрабіў памылку — выпраўляй! Тры мікракасеты з запісам тэлефонных размоў з Ул. Замяталіным, У. Латыпавым, Ул. Канаплёвым[3] і М. Падгайным Някляеў знайшоў у сваёй паштовай скрыні... як падарунак да дня народзінаў[4].

«*В. Заметалин: Владимир, мы тебя ждём по окончании отпуска, ждём в нашей стране, ждём, собственно, гражданина нашей страны, не видим совершенно повода и причин, чтобы Владимир Прокопович Некляев сделал те шаги, которые не соответствуют... [Далей неразб.]*

*В. Некляев: Ну, и под что, Владимир Петрович, ждём-с? Пад краты, як кажуць беларусы? Под компромат с доносами, который увидел я на твоём столе и ты его на моих глазах картинно порвал, а у президента оказался другой...*

*В. З.: Погоди, Владимир, какой другой? Ты видел его у президента?*

*В. Н.: Нет. Как я мог его там видеть?*

*В. З.: Тогда о чём мы говорим?.. Я порвал то, что ты видел.*

*В. Н.: Да... И начал рвать меня с корешком...*

*В. З.: Владимир, кто-то тебя дезинформировал. В этом направлении нет и вообще не может быть разговора.*

*В. Н.: В этом направлении есть разговор.*

*В. З.: Поверь мне, нет. Давай доверять друг другу.*

*В. Н.: Тогда есть разговор в параллельном направлении... Вот ты мне объясни: допустим, Подгайный, то есть Госкомитет печати, всё по своей инициативе делал...*

*В. З.: Не допустим, а так оно и было.*

*В. Н.: Хорошо, но не распространяется ведь власть Подгайного на то, чтобы напустить на меня и Комитет госконтроля, и ОБЭП, и КРУ Минфина — это ведь уже совсем другие дела. И так копали, будто я, не знаю, нефтью торгую, валюту печатаю. А потом ещё и документы украли, чтобы кто-то подумал, будто что-то в них всё же нашлось.*

*В. З.: Про документы я впервые в твоей статье прочитал, даже не понял, что за документы?.. Что же касается Комитета государственного контроля, то Подгайный действительно не имеет таких полномочий, равно как и я. Эта организация напрямую подчиняется главе государства...*»[5]

Аднак наўрад ці ў падмурку такіх рашэнняў, як няхай часовая, але ўсё ж (калі рэчы называць сваімі імёнамі) палітычная эміграцыя, палягае нейкая адна прычына, звычайна гэта шэраг прычын. Вось яшчэ адна, можа быць, найбалючая, пра якую Някляеў сказаў толькі аднойчы — з відавочным унутраным напружаннем. «Калі той жа міністр замежных спраў Урал Латыпаў, з якім былі мы ў прыязных, амаль сяброўскіх адносінах, угаворваў мяне вярнуцца і пытаў: “Ты што: не верыш гарантыям прэзідэнта? Ці ты мне не верыш?..” — я ківаў, як балванчык кітайскі, на ягоныя словы галавой і не мог растлумачыць, не мог сказаць яму ўсё, як ёсць: “Урал, ды не мучайся ты, веру, але... Але як мне быць з “сябрамі” маімі?.. Як да іх вярнуцца?.. Як з імі размаўляць?.. Як іх слухаць?.. Як рукі паціскаць?.. Як глядзець вочы ў вочы?..” Я перад ад’ездам у Варшаву ўсе іхнія кніжкі і падарункі за ўсе гады з хаты павыкідваў! Я бачыць іх не мог, мяне трэсла, калі я думаў, што выпадкова магу з імі на вуліцы спаткацца. Я нібы захварэў на нейкую хваробу псіхічную. І не хлапчук ужо быў, на свеце пажыў, а так прабіла. Наскрозь. І ўсё круціўся і круціўся ў мазгах, быццам іх заела, адзін і той жа эпізод. [...] Калі мяне ўрэшце так прабіла, што я ў шпіталь патрапіў, адзін з маіх “сяброў” — не буду ўжо казаць хто — прыйшоў мяне нібыта праведаць, а насамрэч прынёс паперу падпісаць... Хоць бы з дзяжурным апельсінам ці яблыкам з’явіўся, дык не — з паперай. [...] З лістом у гараж, каб рэдакцыйную машыну выпусцілі! Я рухацца не магу, а ім пакатацца закарцела. І ён бярэ маю руку, якая не рухаецца, і так падсоўвае яе сваёй рукой, падсоўвае, а я падпісваю, падпісваю — катайцеся...

Вось праз што я з’ехаў — і вось да чаго не мог вярнуцца»[6].

Зрэшты, нават гэта была не апошняя прычына, па якой у чэрвені 1999-га Някляеў пакінуў Беларусь.

## ПАЛАНЭЗ

«Тут я был главный редактор газеты, главный редактор журнала, из меня сделали некоего общественного деятеля, который должен был участвовать во всём. В таком положении, как я, не был никто: я стоял на митинге БНФ, а потом шёл в администрацию президента, где собирали всех главных редакторов и учили, как бороться с БНФом. С ума уже стал сходить от этого, — рэзюмаваў Някляеў

праз дзесяцігоддзе. — И вдруг такой подарок! Да пошли вы к чёрту, сказал я и засел за письменный стол. И перестал мучаться. Если бы не было этого, не было бы и последних книг — я бы просто не успел их написать»[7].

У паэме «Паланэз», завершанай вясной 2000 года перад ад'ездам з Варшавы ў Хельсінкі, ён агучвае яшчэ адну і, мабыць, найгалоўнейшую прычыну развітання з Радзімай. Сустрэўшыся з Быкавым у чэрвені 2001-га ў Фінляндыі, ён назаве яе.

«Пайшлі прагуляцца па Тампэрэ. Горад паміж двума велізарнымі азёрамі, рака, стары млын — прыгожа... І пасярод гэтай замежнай прыгажосці Васіль Уладзіміравіч, нібы ў працяг дыскусіі пра эміграцыю, спытаўся, якая ўсё ж з усіх прычын, па якіх з'ехаў я за мяжу, была настолькі важкай, што змусіла да такога кроку? "Тут жа ў нечым, — сказаў ён, — адчай..." [...]

Мы стаялі на мосце, вада шумела пад намі... І ў шум вады я стаў расказваць, як яно было, і як паасобку ўсё выглядала драбязой, а, склаўшыся ў адно, сталася прычынай. І я назваў яе ў паэме "Паланэз", напісанай у Варшаве. Лірычная гераіня паэмы не разумее, чаму лірычны герой пакінуў радзіму, дапытваецца: "Скажы, скажы, дзеля чаго зрабіў ты гэта?.." — і той адказвае: "Найперш, каб ратаваць паэта". Для мяне гэта і прычына больш чым дастатковая, і адказ вычарпальны, да якога нічога не трэба прыплятаць. Ды тое для мяне, а для астатніх?.. "Вось для вас, — я спытаў, — гэтага дастаткова?» — і ён, гледзячы ў ваду, кіўнуў...»[8]

Праз паўзу Быкаў папрасіў Някляева прачытаць што-небудзь з паэмы. Гэта быў адзіны выпадак у яго жыцці, калі ён чытаў Быкаву — яму аднаму — сваю паэзію[9]. У Тампэрэ, пад шум вады...

— Я не баюся пустаты.
— Таму і край свой кінуў ты,
І зараз тут і там чужы
Сабе і ўсім... Скажы, скажы,
Дзеля чаго зрабіў ты гэта?..
— Найперш, каб ратаваць паэта.

— Якога?
— Можа, не благога.
Я забывацца стаў, якога.

Ён у апошнія гады
Адчуў, што ўжо не малады,
Што ўсё спазнаў: каханне... славу...
Надзеў хамут, упрогся ў справу —
І паміраць пачаў...

— Тады
Прыдумаў сам сабе забаву?
— Лічы, што так... Яшчэ з ваўкамі
Не захацеў па-воўчы выць,
Хоць быў абкладзены сцяжкамі...[10]

На развітанне Быкаў падорыць дзве свае кнігі — у адной напіша: «Аднаму з "пахаджанаў". Паэту Беларусі — Ул. Някляеву з пажаданьнем шчасьця»[11], у другой: «Міламу "пакутніку" ў экзылі Валодзю Някляеву з найлепшымі пажаданьнямі»[12].

## «АГЕНТ 007»

Някляеў яшчэ не з'ехаў з Беларусі, а газета «Славянский набат» ужо запісала яго разам з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Святланай Алексіевіч, Уладзімірам Арловым ды іншымі сябрамі Беларускага ПЭН-цэнтра ў масонскія спісы, у якіх Някляеў значыўся пад нумарам 007. «ПЕН-клуб

цара” з печанежскім ці то палавецкім ханам. Да таго ж даследчыкаў бянтэжыць тое, што, паводле быліннага апісання Індыя надта падобная да мусульманскай краіны, а амбіцыі цара выражаюцца наступным чынам:

Індзейскі цар апранаецца,
А хваліцца-пахваляецца,
Хоча Кіеў-град *(у інш. версіі Царград. – Аўт.)*
за шчытом увесь узяць,
А божыя цэрквы на дым пусціць
І чэсныя манастыры разбурыць.

Што ж гэта за індзейскі цар такі? Звернемся да сусветнай гісторыі. Тая вялікая дзяржава Індыя, якую сёння мы бачым на картах свету, у сярэднявеччы не існавала. Уся гэтая тэрыторыя была падзеленая на княствы вялікія і малыя, добрасуседскія і варагуючыя, з рознымі вераваннямі і мовамі, з рознымі традыцыямі і нават розным колерам скуры ў людзей. У VII стагоддзі княствы Паўночнай Індыі на кароткі час аб’ядналіся, і пануючай рэлігіяй на гэтых землях стаў індуізм. Але ўжо з 712 года на землі гэтыя сталі мэтанакіравана ўчыняць свае набегі мусульмане, якія ў X стагоддзі стварылі ў Газні моцную дзяржаву.

У XI стагоддзі гасудар гэтай дзяржавы, амбіцыйны і няўтаймаваны Махмуд Заваёўнік абвясціў сваёй місіяй распаўсюджванне “адзіна правільнай веры”, іслама, па ўсім свеце. Лёс спрыяў Махмуду. Ён пашырыў межы сваёй дзяржавы ад Ірана і Каспійскага мора да ракі Ганг і ад Аральскага мора да Раджапунты. Махмуд лічыў сябе не толькі гасударом Індыі, але і Персіі. Пры двары яго вялікі персідскі паэт Фірдаўсі стварае свой вялікі твор “Шах-намэ” і пісаў медыцынскія трактаты вялікі ўрач Ібн-Сіна. Махмуд Заваёўнік памёр у 1030 годзе. Але яго наступнік Масуд I, які правіў да 1041 года, меў жарснае жаданне працягваць экспансію мусульманства. Аднак, пры ўсёй амбіцыйнасці, ён быў яўна менш харызматычнай асобай. Гэта адчулі скораныя народы прыкаспійскага рэгіёна, суседняя Візантыйская імперыя, індыйскія княствы. Пачаліся паўстанні, лакальныя ваенныя канфлікты.

Імперыя Газневідаў стала губляць сваю моц, і разам з тым патроху тэрыторыі. У гэты працэс мог лёгка ўмяшацца любы ваяр з больш-менш падрыхтаваным войскам. Стаць на бок адной з варагуючых груповак, зрабіць шэраг нападаў на землі Масуда і, калі пашанцуе, з вялікімі трафеямі вярнуцца дамоў. Быліна пра Волха Усяслава сцвярджае, што князю ўдалася захапіць сталіцу “слаўнага царства Індзейскага”, забіць правіцеля – “цара індзейскага Салтыка Стаўрульевіча”, заняць яго стол, ажаніцца з яго ўдавой, царыцай Аленай Аляксандраўнай і незлічона ўзбагаціцца.

Ён злата-срэбра выкаціў,
А й коней, кароў табуном дзяліў,
А на ўсякага брата па сту тысячаў.

Што з гэтага ўсяго можа быць рэальнасцю? Безумоўна, захоп вялікага горада, забойства ўладара гэтага горада Салтыка (імя арабскае) – пэўна, то быў намеснік Масуда I, узбагачэнне і нават, жаніцьба. У гарэмах газнявідскай знаці было нямала высакародных хрысціянак, якія траплялі туды супраць сваёй волі і супраць волі сваіх родных – проста як паланянкі. Алена Аляксандраўна магла быць грузінскай ці армянскай князёўнай, а аднапляменнікі яе цалкам маглі аказацца ў шэрагах саюзнікаў полацкага князя падчас гэтага пахода.

Саюзнікамі для нападу на “цара індзейскага” ахвотна сталі б і курдскія князі-вогнепаклоннікі, якія ярасна супраціўляліся насаджэнню асманамі мусульманства ў прыкаспійскім рэгіёне. Яшчэ адным указаннем на тое, што Усяслаў быў са сваёй дружынай на Каспіі, з’яўляецца адно з полацкіх паданняў. Яно сцвярджае,

што князь, маўляў, заснаваў ля цёплага мора крэпасць Дзвін, засумаваўшы ў паходзе па знаёмых з дзяцінства мясцінах, па рацэ Дзвіне. На тэрыторыі Арменіі сапраўды, не так ужо і далёка ад цёплага Каспійскага мора, захаваліся руіны горада-крэпасці Дзвін. І хаця і заснавана яна была на некалькі стагоддзяў раней, чым жыў і дзейнічаў наш герой, ды і назву ўзяла, кажуць, зусім не ад нашай беларускай Дзвіны, – пэўным арыенцірам для даследчыкаў можа стаць. Бо напрыклад, атабарыўшыся ў крэпасці Дзвін, адтуль лёгка было б учыняць набегі на землі "індзейскага цара" Масуда І.

А каб сумненні ў магчымасці "індыйскага" пахода і зусім пакінулі нас, варта звярнуцца да такой канкрэтнай навукі, як археалогія. У 1965 годзе каля вёскі Гараўляны Глыбоцкага раёна былі знойдзеныя два скарбы, прыхаваныя ў ХІ ст. У адным з іх – акрамя ювелірных упрыгожанняў і заходнееўрапейскіх дынарыяў – 220 арабскіх дырхемаў. У другім – 134 дырхемы. Прысутнічаюць фрагменты дырхемаў ў скарбе, знойдзеным на ўскраіне вёскі Дзягцяны Капыльскага раёна (гэты скарб быў схаваны каля 1050 года). Ёсць дырхемы ў двух скарбах, знойдзеных яшчэ ў 1898 і 1903 гадах каля вёскі Стражавічы Чашніцкага раёна. Гэтыя скарбы былі закапаныя каля 1040 і каля 1045 гадоў. У першым з іх сярод іншых грошай і каштоўнасцяў – 48 дырхемаў, у другім – 46. Усе гэтыя вёскі былі на тэрыторыі Полацкага княства, і значыць, дырхемы маглі быць здабытымі падчас паходу воінаў Усяслава на арабаў-газнявідаў.

З дакладнасцю ўзнаўляючы даты Тмутараканскага паходу Усяслава, мы не можам пакуль вызначыць дату паходу індыйскага. Мяркуючы па датах захавання скарбаў з дырхемамі, можна разважаць толькі, што тое адбылося да 1040 года. У 1044 годзе памёр Брачыслаў, і Усяслаў мусіў прыняць полацкае княжанне. Аднак некаторыя дадзеныя дазваляюць сцвярджаць, што пэўны час і пасля бацькавай смерці Усяслаў ладзіў далёкія і авантурныя паходы, пакідаючы замест сябе кіраваць Полацкам бацькавага паплечніка, варага Эймунда. У прыватнасці, пра тое сведчыць і славутая "Эймундава сага", якая сцвярджае, што Эймунд княжыў у Полацку; і паведамленне гісторыка Торфея, які ў "Гісторыі Нарвегіі" сцвярджае, што нейкі ўладар нарвежскі Гольфдан жаніўся на дачцэ "Расійскага правіцеля" Эймунда, Альмвейзе.

У 1052 годзе памёр старэйшы сын Яраслава Уладзімір – Усяслаў стаў старэйшым па ўзросце пасля Яраслава князем. У 1054 памёр сам Яраслаў. Паводле ягонай апошняй волі, сыны падзялілі рускія землі паміж сабою і сваімі дзецьмі. Ніякіх новых земляў пры гэтым перадзеле Усяслаў не атрымаў. Зрэшты, як самы старэйшы з рускіх князёў, ён мог бы цяпер прэтэндаваць і на Кіеўскі стол. Але хітры Яраслаў, магчыма, прадчуваючы тое, Кіеў нікому канкрэтна не адпісаў, наказаўшы сынам правіць у гэтым горадзе сумесна. Ці спрабаваў нейкім чынам Усяслаў адстойваць у тыя часы свае правы? Звестак пра тое няма. Наадварот, у 1060 годзе, паводле летапісаў, Усяслаў разам з Яраславічамі хадзіў у паход на торкаў. Ці не значыць гэта, што да Кіеўскага сумеснага князявання быў далучаны і Усяслаў? Аднак пазней ва ўзаемаадносінах родзічаў нешта зламалася, а з-за чаго і калі менавіта – наўрад ці магчыма цяпер аднавіць.

Хаця што датычыць гістарычнай навукі, то тут заракацца не варта, бо заўжды ёсць магчымасць нечакана адкрыць новы пісьмовы дакумент. Такі дакумент, напрыклад, удалося выявіць у 1990-х гадах у кнігасховішчы Маскоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў даследчыцы Марыне Ліннікавай. Гэта аказаўся ўрывак аповеда пра Усяслава Чарадзея, які выпадкова патрапіў у рукапіс "Ступеневай кнігі" XVII стагоддзя. Урывак падзелены на чатыры часткі, кожная з якіх прыводзіць пэўны эпізод з часоў праўлення Усяслава. Галоўная асаблівасць рукапісу – сведчанні яго ўнікальныя, бо ў летапісах не ўзгадваюцца.

Першы кавалак тэксту прысвечаны ўзаемаадносінам полацкага князя з

язычніцкім жрацом па імені Воўк. Увязнены за нейкія правіны Усяславам жрэц прапаноўвае князю ўзяць удзел у магічным рытуале, які мусіць прынесці полацкаму ўладару неперамажнасць. *“Кажа Воўк Усяславу: вось табе, княжа, полымя нябеснае запаленае, у якім жалеза, калі загартуецца, ніколі не разламаецца, а гэта кроў цмокава (які Еву прамацерку спакусіў). Памачы ж у ёй тройчы дзіду, а гэтаксама ж валоссе з галавы тваёй дай на ахвяру богу бацькоў нашых, тады дзяржава твая ніколі не разбурыцца праз моц ейную!”*

Усяслава зацікавіла сказанае, але як хрысціянін ён адмовіўся ад прынясення валасоў у ахвяру паганскім багам. Тады жрэц прадказаў яму варожасць іншых князёў, перамагчы якіх Усяслаў не зможа, як бы ён ні стараўся. Раззлаваны Усяслаў загадаў зноў увязніць Ваўка.

У другім урыўку перад чытачом паўстае іншы жрэц, Мантый, таксама вязень Усяслава. Палачане, занепакоеныя загадкавай астранамічнай з’явай, якая, ім падаецца, прарочыць бяду *(“...была праява ў месяцы цудоўная...”*), і князь збірае лепшых мужоў сваіх на раду. У рэшце рэшт, пасля доўгіх спрэчак вырашана выцягнуць з вязніцы “*чараўніка на імя Мантый*”, бо *“быў нямоцны Усяслаў”* (трэба думаць, не целам, а духам, што згадзіўся раіцца з паганскім чарадзеем). Мантый згаджаецца прадказваць толькі за абяцанне волі. Усяслаў гаворыць няпэўна: *“Душы тваёй не ўчыню благога!”* Чараўнік прадказвае бяду ворагам Усяслава, захоп полацкім князем іх “жазлоў”, ці бо сімвалаў улады, вызвалення ад “вузаў іхніх”. Узрадаваны Усяслаў (як жа ж, гэты жрэц у адрозненне ад Ваўка прарочыць яму перамогі!), тым не менш не адпускае Мантыя. *“Душы тваёй дапраўды не ўчыніў благога, адно толькі целу благое ўчыніў...”*

З-за таго, што ў аповедзе гэтым прыгадваецца пра цікавую прыродную з’яву, ёсць магчымасць устанавіць час, калі здарыліся апісаныя падзеі. Рускія летапісы захавалі сведчанне пра “жахлівыя дзівосы”, з якіх, на думку летапісцаў, пачаліся беды Русі. Рака Волхаў ішла ўверх пяць дзён, крывавая зорка цэлы тыдзень з’яўлялася на Захадзе, сонца страціла сваё ззянне і ўсходзіла без промняў, падобна поўні. Некаторыя верылі, што гэта і ёсць поўня, якая паўстала на небе сярод дня. *“Неба правасуднае!* – усклікваў Нестар. – *Яно карае Русічаў за іх беззаконствы. Мы называем сябе хрысціянамі, а жывем, як язычнікі. Храмы пустыя, а на гульбішчах тоўпяцца людзі. У храмах цішыня, а ў дамах трубы, гуслі і скамарохі”*.

З гэтага пункту гледжання зразумелымі становяцца канфлікты Усяслава Брачыславіча з мясцовымі вешчунамі. Ён імкнуўся ўсяляк абараніць хрысціянства. Між тым, здаецца, менавіта гэта і выклікала незадаволенасць князем у палачанаў, якія, паводле трэцяга ўрыўку тэкста, знойдзенага Марынай Ліннікавай, хутка пасля здарэння з чарадзеем Мантыем узнялі ў Полацку мяцеж.

Паспрыяла гэтаму і пошасць, якая раптам абрынулася на горад. Адзін з баяраў Усяслава, па імені Вадзіла, вырашыў скарыстацца момантам, захапіць уладу, аддаўшы Усяслава “на згубу”. Баярын быў яры паганец і марыў *“звычаі старадаўнія звяртаць: слугаванне балванам ды дэманаванне”*. Вадзілу ўдалося ўзняць народ, узброіўшы яго. Натоўп кінуўся на “дворышча княскае”. Усяслава ратавала вернасць варажскага ваяводы Эсціна і яго 99 ваяроў. Тры дні варагі адбівалі ўсе спробы паўсталых захапіць княжацкі церам. На чацвёрты дзень Вадзіла загадаў абстрэльваць драўлянае княжае жытло запаленымі стрэламі. *“І сталася моцная гарачыня, ад якой загінула шмат, пагарэўшы”*. Аднак, Усяслаў па прапанове хрысціянскага святара Макея, які таксама ратаваўся ў цераме ад раз’юшаных язычнікаў, узнёс маленні свае Богу. І раптоўна пайшоў моцны дождж, які суцішыў полымя. Уражаныя палачане часова страцілі здольнасць біцца. І гэтым тут жа скарыстаўся Усяслаў. *“І казаў: “Дружына харобрая, адзінакроўная*! (сапраўды, варагі былі датчанамі, як маці Усяслава. – *Аўт.) Вось нашыя багі з намі: мой Спадар Ісус Хрыстос, і вашыя, якія нам дапамагаюць у бітвах. Будзьма*

*мужныя, браты, каб перамогу здабыць над ворагамі нашымі!" І выйшлі ваяры з дому і напалі на іх без марудпасці. І пабілі шмат каго з іх, і Усяслаў біўся і параніў Вадзілу таго, і запаланіў яго".*

Дванаццаці завадатарам на плошчы адцялі галовы. Вадзілу па загадзе Усяслава асляпілі і пасля палілі паходнямі да смерці. З бунтам было скончана.

А праз год – пра тое сведчыць чацвёрты эпізод са знойдзенага ў архіве тэксту – Усяслаў распачаў будаўніцтва Сафійскага сабора, аднойчы і назаўжды абвясціўшы падданым пра свае рэлігійныя прыярытэты. Папярэднічаў будаўніцтву гэтаму нібыта дзіўны сон, убачаны князем. *"Бачыў ён тройчы дзяўчыну-ваярку ў чорным воблаку, асветленую бліскавіцамі, са святым крыжам у правіцы. А потым перамянілася хмара і з'явіўся палац, і яна ўвайшла туды ды зачынілася. І быў жа голас надта жахлівы: "Гэта Сафея-Прамудрасць"...*

Ці быў сапраўды такі сон? Можа, й не. Надта ж падобны расповед да здарэння з візантыйскім імператарам Юстыніянам. Ён таксама пабачыў у сне Сафію. Тую самую, першую, Канстанцінопальскую, на ўзор якой нашыя князі будавалі свае Сафійскія саборы – у Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку. У 532 годзе Юстыніян, гэтак жа, як пасля і Усяслаў, знішчыў скіраваны супраць яго ўлады мяцеж, падчас якога згарэла шмат пабудоў у візантыйскай сталіцы і ў тым ліку царква. І адразу ж у сне паўстаў перад ім новы храм – сабор Святой Сафіі (толькі ў выглядзе будынка, а не жанчыны, як ва Усяслававым выпадку). Неадкладна на будоўлю было сагнана 100 дойлідаў і мноства народу. Калі будаўніцтва было скончана, Юстыніян усклікнуў: *"Слава Госпаду, які палічыў мяне вартым выканаць гэтую вялікую працу! О, Саламон, я цябе перамог!"*

Пэўна, славалюбіваму Усяславу надта хацелася прымерыць на сябе ролю Юстыніяна Вялікага. Ён і прыдумаў аналагічную гісторыю для сваіх падданых. Але, як бы там ні было, яна патрапіла ў хроніку. І, дзякуючы знойдзеным запісам, сёння мы можам казаць пра веданне дакладнай даты пачатку будаўніцтва Полацкага Сафійскага сабора – 1062 год.

Што ж было далей з князем, які вырашыў раўняцца з самім Юстыніянам? Рускія летапісы кажуць, што ў 1065 годзе ён раптоўна напаў на Пскоў. Момант быў скарыстаны спрыяльны – Яраславічы, пакінуўшы гарады свае, рушылі на Тмутаракань, каб правучыць пляменніка Расціслава Уладзіміравіча, які, з іх пункту гледжання, незаконна захапіў гэты горад. Пскоўскі паход – што гэта? Мудрасць ці амбіцыйнасць? Даўняя крыўда, што прарвалася, урэшце, на паверхню, ці *беспредел*? Даследчыкі расцэньваюць па-рознаму. І хто тут з іх мае рацыю?

Пскоўскі паход вялікага задавальнення не прынёс. Пскавічам на дапамогу прыйшоў з Ноўгарада сын Ізяслава Яраслáвіча Мсціслаў. Біліся з ім на рацэ Чарэсе. Хто каго? Невядома. Кожны пасля бойкі вярнуўся у свой горад.

У гэтым жа 1065 годзе, трэба думаць, адбылася яшчэ адна значная падзея ў жыцці полацкага князя. Польскі кароль Баляслаў II ажаніўся з рускай князёўнай. Гісторык Длугаш называе яе Вышаславаю, адзінай дачкой князя рускага, *"якому па спадчыне належала большая частка Русі"*(!) Гэтая рэпліка дае ясна зразумець, што князёўна – не дачка кагосьці з Яраславічаў, ім жа бацька завяшчаў Русь падзяліць на тры роўныя часткі. Значыць, яе бацька – іхні супернік Усяслаў. Ён жа сапраўды мог прэтэндаваць калі не на "большую частку Русі", то на галоўны яе горад – па старшынству. І з гэтага пункту гледжання становіцца цалкам зразумелым паход на Пскоў і ўсе далейшыя прэтэнзіі Усяслава на вялікакняжацкі прастол.

Між іншым, другі даследчык, Губнэр, у сваіх генеалагічных табліцах піша, што руская князёўна, якая стала польскай каралевай, была *"дачкой Выслава, сына Яраслава"*. У Яраслава, як мы ведаем, не было сына з такім імем. Але быў родзіч з імем падобным – Усяслаў. Такім чынам, Усяслаў Полацкі парадніўся з польскім каралём. Тым самым, сястра якога Гертруда была жонкаю старэйшага

з Яраславічаў, Ізяслава. Цяпер у выпадку канфлікту паміж імі Баляслаў II мусіў трымацца нейтралітэту.

У 1066 годзе Усяслаў збірае паход на Ноўгарад – каб узяць рэванш у супрацьстаянні, якое на рацэ Чарэсе скончылася, хутчэй за ўсё, нічыёй. Летапісец сведчыць: *“Прыйшоў Усяслаў і ўзяў Ноўгарад, з жанчынамі і дзецьмі, і званы зняў са святой Сафіі. О, вялікая бяда была ў той час!”*

Бяды большай, чым звычайна, калі гарады бяруцца “на шчыт” суседнімі правіцелямі, насамрэч не было. Палон, праўда, захапіў Усяслаў вялікі. Сярод наўгародцаў было шмат умелых майстравых людзей, якіх ён разам з сем’ямі пасяліў вакол Полацка. І званы Наўгародскія ў Полацк прывёз. Тут ужо зусім усё зразумела. Наўгародская “Сафія” яшчэ, як і Полацкая была недабудаванай. А калі так, дык хто сказаў, што прыгожыя мілагучныя званы павінны дастацца наўгародскаму храму? Няхай вучацца лічыцца з Полацкам!

У адказ на гэта Яраславічы, зімою 1067 года, “у люты мароз”, сабраўшы вялікія сілы, павялі іх у землі Усяслава. Але не на Полацк скіравалі яны ўдар свой, а чамусьці на Менск. *“І зачыніліся мяняне ў градзе. Браты ж узялі Менск, перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей узялі ў палон і пайшлі да Нямігі”.*

На Нямізе Яраславічаў сустрэў ужо сам Усяслаў. Апавядаючы пра трагізм Нямігскай бітвы 1067 года, невядомы аўтар “Слова аб палку Ігаравым” піша: *“На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць мечамі харалужнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не травою засеяны, засеяны касцямі рускіх сыноў”...*

Хутчэй за ўсё страты ў гэтай бітве былі вялікія з абодвух бакоў, бо Яраславічы не адважыліся ісці далей на Полацк, але праз чатыры месяцы пасля бітвы запрасілі Усяслава на перамовы. Летапісец так распавядае пра гэта: *“Цалавалі крыж чэсны Усяславу, казалі: “Прыйдзі да нас, а мы не зробім табе благое”.* Але сыны Яраслава ашукалі полацкага князя.

10 ліпеня 1067 года ён прыбыў на перагаворы з двума сынамі-падлеткамі – каб паказаць, што давярае Яраславічам. Пераплыў у чаўне праз Дняпро ў раёне Оршы, і – быў схоплены адразу ж, як толькі нага яго ступіла на бераг. Усяслава і юных полацкіх княжычаў адвезлі ў Кіеў і кінулі ў поруб. Гэта была страшная земляная цямніца без дзвярэй, з адным маленькім акенцам, праз якое падавалі ежу. У порубе гінулі ад холаду і бруду. У порубе страчвалі розум. Поруб ламаў людзей, прымушаючы ганарлівых плакаць і прыніжана на каленях прасіць аб літасці. Усяслаў пратрымаўся з годным чалавечым абліччам чатырнаццаць месяцаў, уключаючы суровыя зімовыя і золкія асеннія. І захаваў сыноў сваіх фізічна і духоўна ў стане спрыяльным. Можа, ён і сапраўды быў чарадзеем? Альбо шчыра верыў у сваё выратаванне. Хто ж мог унушыць яму веру гэтую, калі простых людзей блізка не падпускалі да поруба? Толькі Бог!

*“О! Крыжу найсвяты, суцяшэнне верным! Хто ў цябе верыць, не будзе расчараваным. Хто цябе шануе, ніякай не можа дазнаць прыгоды. Твая моц і ўлада ёсць найвышэйшая. Ты нават наймацнейшых непрыяцеляў і блюзнерцаў перамагаеш, трушчыш і караеш. А тых, якія боскасць тваю шануюць і пакорна вызначаюць, бярэш пад тваю апеку, вызваляеш з нядолі і абдорваеш хвалой!”*– усклікае летапісец, апавядаючы гісторыю чудоўнага вызвалення Усяслава Брачыславіча. А можа, ён проста прыводзіць словы малітвы, складзенай самім полацкім князем у порубе? Той самай, якую пачулі Нябёсы, паслаўшы ўратаванне...

Тым часам, як Усяслаў сядзеў у вязніцы, кіеўскі люд стаў выказваць нездавальненне Яраславічамі. Больш за ўсё людзей абурала, што яны парушылі клятву на крыжы, дадзеную Усяславу. І пэўна, спробы вызваліць полацкага князя ў Кіеве рабіліся. Бо частку дружыны сваёй Ізяслаў раптам таксама звязеніў – летапісы не кажуць за што, але можна здагадацца.

У 1068 годзе на Русь абрынуліся полаўцы. Яраславічы былі разбітыя ў бітве з імі на рацэ Альце і дружна пабеглі ратавацца па сваіх гарадах. Кіеўляне папрасілі ў Ізяслава зброі, каб абараняць сталіцу, але князь ужо не давяраў падданым. Абураныя паводзінамі Ізяслава, кіяўляне ўзнялі мяцеж, вызвалілі спачатку дружыннікаў, а пасля і Усяслава Полацкага. У жаху старэйшы Яраславіч пакінуў горад, пабег ратавацца ў Польшчу. І тады кіяўляне ўрачыста вянчалі ўчарашняга вязня княжай шапкай. І Усяслаў, выступіўшы на чале кіеўскай дружыны, разбіў полаўцаў, адагнаў іх падалей ад рускіх земляў.

На Кіеўскім стале сядзеў Усяслаў сем месяцаў. Кіеўлянам ён падабаўся, ды і сам князь, пэўна, планаваў зацвердзіцца тут надоўга. Але з Польшчы Ізяслаў прывёў войскі. Хто б мог падумаць – зяць Баляслаў II усё ж вырашыў дапамагчы бегляку! Мала таго, ён сам скіраваўся ў паход на Кіеў, непакоячыся за лёс Гертруды, якая засталася тут. Баляслаў не ведаў, што Гертруду Усяслаў трымае ў гонары і называе не інакш як “сястрой”.

Выходзіць супраць зяця Усяславу, безумоўна, не хацелася. Аднак кіяўляне настойвалі. Усяслаў выступіў з войскам. Але ноччу перад самай сечай таямніча знік са свайго стану. Ці толькі нежаданне сустракацца ў бітве з Баляславам было прычынай гэтаму? Пэўна, не. Вешчы старац-манах Антоній, заснавальнік Пячэрскага манастыра, даваў нейкія таемныя парады Усяславу ў Кіеве. Слова такога святога чалавека было дастаткова, каб князь адмовіўся ад амбіцыйнасці і славалюбства і знік уначы, даючы суперніку шанец вярнуць страчанае ў Кіеве. Між іншым, за дружбу з Усяславам святому Антонію Пячэрскаму давялося пасля хавацца ад гневу Ізяслава. Пацярпелі і прыхільнікі Усяслава з ліку гараджанаў. Сын Ізяслава, Мсціслаў, якога бацька паслаў у Кіеў наперад сябе, забіў 70 чалавек, тых, хто вызвалялі полацкага князя з вязніцы. Яшчэ некалькі дзясяткаў – асляпілі, іншыя былі закатаваныя падчас гэтак званага “расследвання”.

Пасля Ізяслаў павёў войскі на Полацк, дзе аб’явіўся урэшце Усяслаў. Горад быў захоплены, але палачане ўратавалі свайго князя і яго сям’ю, вывезлі з Полацка. Ізяслаў жа пасадзіў тут на стол лютага Мсціслава. Дарэмна ён гэтак зрабіў, бо княжыч раптоўна памёр – не пажадалі палачане мець такога звера над сабою! Яны чакалі вяртання Усяслава, якому былі адданыя.

А Усяслаў тым часам знайшоў прытулак у фінскага племя водзь – можа, з іх была яго другая жонка? Яна нарадзіла яму шэсць сыноў! Разам з водскімі ваярамі 23 кастрычніка 1069 года Усяслаў з’яўляецца пад Ноўгарадам. На рацэ Гзені наўгародцы разбіваюць саюзнікаў Усяслава. Сам полацкі князь зноў трапляе ў палон. Але аўтарытэт героя такі моцны, што наўгародскі князь Глеб Святаславіч вырашае лепш адпусціць яго.

У 1071 годзе Усяславу Брачыславічу ўдаецца вярнуць сабе Полацк, прагнаўшы Ізяславава сына Святаполка. Але хутка кіеўскае войска на чале з Яраполкам, самым малодшым з Ізяславічаў, разбівае Усяслава каля Галацічаска. Аднак, Яраполк заключае саюз з пераможаным героем – ён яго паважае, як паважаюць яго многія з Яраслававых унукаў. Час надыходзіць перагледзець сваё стаўленне да Усяслава, замірыцца з ім, урэшце, і Яраслававым сынам.

Першым пачаў шукаць магчымасці дамовіцца з Усяславам Ізяслаў Яраславіч. Гэта зразумела – яны ж абодва былі родзічамі польскаму Баляславу! Але братам Ізяслава, Святаславу і Усеваладу, тое не спадабалася. У 1073 годзе Святаслаў паслаў таемнае пісьмо Усеваладу: *«Брат наш Ізяслаў змовіўся з Усяславам Брачыславічам і замысляе супраць нас. Калі не апярэдзім яго, то павыганяе ён нас з нашых вотчын»*.

Удваіх Святаслаў і Усевалад пайшлі на Кіеў і выгналі Ізяслава з яго сталіцы. Старэйшы Яраславіч зноў апынуўся ў Польшчы. Але гэта – зусім іншая гісторыя, і ў ёй няма месца Усяславу Брачыславічу.

Некалькі гадоў летапісы не ўзгадваюць пра яго. Але археолагі адзначаюць, што менавіта ў гэты час быў адбудаваны полацкі замак.

У 1076 годзе актыўна заяўляюць пра сябе маладзейшыя князі Уладзімір Усеваладавіч Манамах і Алег Святаславіч. Яны выклікаліся дапамагаць Баляславу Польскаму ў яго барацьбе з герцагам Багемскім Враціславам. Цікава, што паводле дадзеных гісторыка Тацішчава, спісаных ім з невядома якой іншаземнай крыніцы, рускія князі хацелі залучыць сабе ў памочнікі нейкага "караля Уладзіслава". Але персанаж гэты быў яшчэ раней падкуплены багемцамі – атрымаў тысячу сярэбраных грыўняў. Ён адмовіўся ісці на герцага, і між іншым заклікаў Манамаха і Алега лепш ісці з ім на памаран і прусаў. Тыя адмовіліся. Давялося герцагу Багемскаму і гэтым двайм срэбра адвешваць, каб не ўлазілі ў яго справы з палякамі.

Можна было б зверыць імёны герояў эпізода з рускімі летапісамі, калі б там хаця штосьці было напісана пра тое. Можа, летапісец абыходзіць маўчаннем падзею, таму што адной з дзейсных асоб тут з'яўляецца Усяслаў Брачыславіч? Падобна, што "кароль Уладзіслаў" – гэта ён і ёсць, бо ў тагачаснай Еўропе няма манарха з такім імем, а Усяслава хтосьці з храністаў цалкам мог "перахрысціць" ва Уладзіслава. Тытул "кароль"? А хіба ён не быў каралём ва ўяўленні сучаснікаў з Заходняй Еўропы? Уладны, незалежны, моцны.

У канцы таго ж 1076 годзе ад рук няўмёхі-лекара, што ўздумаў ускрываць нажом пухліну, памірае Святаслаў Яраславіч. Ён на некалькі гадоў узурпаваў кіеўскі прастол. Цяпер Вялікім князем Кіеўскім абвясціў сябе Усевалад Яраславіч. І адзначыў сваё ўвакняжанне... новым паходам на Полацк. Прымаў удзел у ім і Уладзімір Манамах. Безвынікова. Палачане адбіліся. Другі раз вялікае войска Манамаха рушыла на Полацк зімою 1078 года. Зноў узяць Усяслававу цвержу не ўдалося.

А як толькі пацяплела, палачане з Усяславам нанеслі ўдар па Манамахаваму гораду Смаленску. Горад быў спалены. У пагоні за Усяславам Манамах, паводле яго словаў, *"папаліў зямлю і пavаяваў яе да Лукомля і да Лагожска, пасля на Друцк пайшоў вайною*".

Варожасць не скончалася. У 1084 годзе, восенню, разам з саюзнікамі-полаўцамі Манамах захапіў Менск, *"не пакінуўшы там ні чалядзіна, ні жывёліны"*.

Сямнаццаць апошніх гадоў жыцця Усяслава – пакрыты таямнічай невядомасцю. Не нападаў ні на каго, не адбіваўся ад ворагаў. На Любічскі з'езд князёў, які ў 1097 годзе збіраўся, каб тыя мелі магчымасць дамовіцца паміж сабой "кожнаму сваю вотчыну трымаць", не ездзіў. І сыноў не пусціў. Ён што, адасобіў Полацк ад астатняй Русі? Ва ўсялякім разе, яму гэтак падавалася. І сапраўды – "кароль". З пэўных фактаў толькі аднаўленне Менску, які паўстаў цяпер на новым месцы, пры ўпадзенні ракі Нямігі ў Свіслач. І яшчэ – заснаванне Менскага Узнясенскага мужчынскага манастыра. Кажуць, Усяслаў мог па старасці гадоў прыняць схіму ў гэтым прыстанку. Мог бы, але мы ведаем, што ў апошні, ці то перадапошні год жыцця князя нарадзілася яго малодшая дачка. Пэўна, завяршаючы свой зямны шлях, князь Усяслаў думаў не пра смерць, а пра жыццё і каханне. Ён трэці раз ажаніўся і паспеў падараваць свету яшчэ адно, новае жыццё.

Ваўкалак? Чарадзей? Праведнік? Святы? Хто ты, князь Усяслаў?



Сяргей Чыгрын



...кошт на запалкавыя этыкеткі і запалкі XIX стагоддзя ніколькі не ніжэйшы, чым, напрыклад, на банкноты ці манеты...

# Аматары агню і святла

***Беларускамоўная філуменія***

## Філуменія – гэта...

Тыя, чыё маленства прайшло ў 1940-х–1970-х гадах, добра памятаюць час, калі амаль кожны з іх збіраў этыкеткі ад запалкавых карабкоў. Асабліва вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі. Некаторыя мелі цэлыя скрынкі з рознымі этыкеткамі, іншыя наклейвалі іх у альбомы. Часта абменьваліся этыкеткамі паміж сябрамі і зайздросцілі таму, у каго была лепшая калекцыя або рэдкая этыкетка. З узростам гэтая цяга гублялася, а калекцыі іх бацькі выкідвалі на сметнік ці палілі ў печах. Але ў некаторых людзей прага збіральніцтва засталася на ўсё жыццё. Тых, хто займаецца калекцыянаваннем запалкавых этыкетак ці карабкоў ад запалак, называюць філуменістамі, а калекцыянаванне этыкетак ад карабкоў запалак, саміх запалкавых карабкоў, буклетаў (кніжак-запалак) і іншых прадметаў, звязаных з запалкамі, называецца філуменіяй (ад грэцкага “phileo” – люблю і лацінскага “lumen” – агонь ці святло).

Сёння філуменія не з’яўляецца такім распаўсюджаным хобі, як, напрыклад, калекцыянаванне манет, паштовых марак, паштовак, самавараў, прасаў, але аматары этыкетак працягваюць пашыраць сваю калекцыю. Хачу адзначыць, што кошт на запалкавыя этыкеткі і запалкі XIX стагоддзя ніколькі не ніжэйшы, чым, напрыклад, на банкноты ці манеты гэтага перыяду. На аўкцыёнах сёння можна ўбачыць, што калекцыі этыкетак і запалак амаль заўсёды знаходзяць сваіх пакупнікоў, бо гэта таксама антыкварыят, які расце ў цане.







Аднак размова пойдзе пра беларускамоўную філуменію. А менавіта пра беларускамоўныя этыкеткі на запалкавых карабках. Тым больш, што вытворчасць запалак на тэрыторыі Беларусі мае даўнюю гісторыю. Першыя прыватныя запалкавыя фабрыкі на тэрыторыі сучаснай Беларусі з’явіліся ў канцы другой паловы XIX стагоддзя. Іншая справа, што этыкеткі на карабках тады не былі на беларускай мове. І толькі ў 1920-х–1930-х гадах з’явіліся першыя беларускамоўныя этыкеткі.




## Запалкі з Барысава




У 1901 годзе ў Новабарысаве Ісідор Берман заснаваў фабрыку “Бярэзіна”. Яе першая прадукцыя пайшла на экспарт у 1906 годзе. Усе этыкеткі на карабках друкаваліся на рускай і польскай мовах, а таксама на агельскай і персідскай. Восенню 1917 года ў Новабарысаў прыйшла савецкая ўлада і “Бярэзіна” была нацыяналізаваная. Потым зноў мянялася ўлада, але запалкавая фабрыка працавала. У 1920 годзе яна атрымала новую назву “Чырвоная Бярэзіна”. У гэты час пачалі з’яўляцца этыкеткі і на беларускай мове. З аднаго боку быў тэкст па-беларуску, з другога – па-расейску. Напрыклад, на этыкетках Новабарысаўскай фабрыкі ў 1924-1926 гадах было напісана: “Дзяржаўная серніковая фабрыка “Чырвоная Бярэзіна”. БССР ВСНХ. Новабарысаў Беларусь”. І намаляваны герб БССР.




У 1926-1929 гадах “Чырвоная Бярэзіна” пачала актыўна выпускаць запалкі з беларускамоўнымі этыкеткамі. На адным баку запалак было напісана: “Бел.Дзярж.Серніковы трэст. Фабрыка сернічак “Чырвоная Бярэзіна”. ВСНГ. Новабарысаў, БССР. Цана 1 1/2 к.”. І быў намаляваны караблік, а з іншага боку – зорачкі і чорна-белыя квадрацікі.




Са снежня 1929 года ў Новабарысаве пачала працаваць новая фабрыка, якую назвалі “Пралетарская Перамога”. Фабрыка выпускала запалкі з надпісамі на рускай і беларускай мовах, але большасць з іх былі на роднай мове. З 1930 года Беларускае запалкавае аб’яднанне на этыкетках Новабарысаў пачало пісаць праз злучок: Н.-Барысаў і Нова-Барысаў.




З 20 па 29 красавіка 1932 года адбыўся IX з’езд прафсаюзаў СССР. Да гэтай падзеі фабрыка “Пралетарская Перамога” выпусціла на беларускай мове дзве памятныя этыкеткі. На адной з іх было напісана: “Ударны выпуск імя 9-га Зьезду Прафсаюзаў. Тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё. Ф-ка запалак “Пралет.Перамога” г. Н.-Барысаў. БССР. Цана 2 кап.”. На другой змешчаны такі тэкст: “Ударны выпуск імя 9-га
























Зьезду Прафсаюзаў. СССР. Ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту. Ф-ка запалак “Пралет.Перамога” г. Н.-Барысаў. БССР. Цана 2 кап.”.

Запалкавая фабрыка “Пралетарская Перамога” у 1930-я гады выпускала шмат запалак з беларускамоўнымі этыкеткамі. Але ўсе яны былі ў бальшавіцкім духу. Напрыклад, на запалках у 1933-1934 гадах было напісана так: “Дэлегату Усесаюзнага злёту ўдарнікаў пільшчыкаў, бракераў і пілаточаў – ад калектыва рабочых ІТР Бярэзінскага камбіната – бальшэвіцкае прывітанне. БССР, Нова-Барысаў”.

У 1934 годзе быў забіты сакратар Ленінградскага абкама ВКП (б) Сяргей Кіраў. Пачаліся масавыя рэпрэсіі партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў. Адначасова сотні заводаў і фабрык перайменавалі ў гонар Кірава. У іх лік патрапіла і “Пралетарская Перамога”, якую перайменавалі ў 1935 годзе ў “Фабрыку імя таварыша Кірава”. Але ў хуткім часе з запалак знікла слова “таварыш” і фабрыка пачала называцца проста імя Кірава. У 1949 годзе на ёй былі выпушчаныя запалкі з малюнкам, прысвечаным 30-годдзю БССР, у 1950 годзе запалкі з малюнкам, на якім быў адлюстраваны танец “Лявоніха” і шэраг іншых.

Пасля 1953 года запалкавая фабрыка імя Кірава (потым гэта будзе фанерна-запалкавы камбінат, цяпер – ААТ “Барысаўдрэў”) стала рэдка звяртацца да беларускай мовы. У 1958 годзе з’явілася серыя беларускамоўных этыкетак, прысвечаных 40-годдзю Савецкай Беларусі. У 1964 годзе выйшла серыя этыкетак, прысвечаных 20-годдзю вызвалення Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама серыя з нагоды 20-годдзя вызвалення Беларусі. Беларускамоўных этыкетак заслужыў у 1961 годзе і Чырвоны Крыж БССР – выйшла серыя этыкетак з нагоды 40-годдзя таварыства Чырвонага Крыжа БССР, на якіх таксама былі заклікі, каб людзі ўступалі ў члены таварыства Чырвонага Крыжа.

У 1961 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў запалкі з этыкеткамі, на якіх рэкламавалі кнігі і творы беларускіх літаратараў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Янкі Брыля, Зінаіды Бандарынай, Аляксея Кулакоўскага, Віталя Вольскага, Яна Скрыгана і іншых пісьменнікаў і заклікалі іх купляць праз кнігу-поштай.

Рэкламаваў Барысаўскі камбінат у 1961 годзе і беларускія газеты “Звязда” і “Чырвоную змену”. На розных этыкетках беларусы маглі прачытаць такія тэксты: “Выпісвайце “Звязду”; “Чытайце “Звязду”, пішыце ў яе”; “Чытайце “Чырвоную змену”; “Выпісвайце газету “Чырвоная змена”. Да 45-годдзя “Чырвонай змены” камбінат выпусціў запалкі з беларускамоўнай этыкеткай “Чырвонай змене” – 45 год. Выпісвайце і чытайце сваю камсамольскую газету”.

У 1970-х –1990-х гадах беларускае слова вельмі рэдка трапляла на этыкеткі карабкоў запалак барысаўскага прадпрыемства. І на працягу апошніх 20 гадоў мовы родная на прадукцыі ААТ “Барысаўдрэў” амаль не з’яўлялася. Некалькі каляровых этыкетак запалак са словамі “Квітней, Беларусь!” выйшла з варштату камбіната пару гадоў таму. Але з іншых бакоў гэтых карабкоў тэкст пададзены па-руску.

## Запалкі з Пінска

Мне не траплялі ў рукі запалкі з беларускамоўнымі этыкеткамі з пінскіх фабрык 1900-х—1930-х гадоў. Дарэчы, першая запалкавая

фабрыка ў Пінску “Вулкан” была заснаваная Луі Гершманам яшчэ ў 1892 годзе. Потым яна згарэла. А тое, што ад яе засталося, выкупіў Іосіф Гальперын. Ён аднавіў фабрыку пад назвай “Прагрэс-Вулкан”. Але гэтыя прадпрыемствы не выпусцілі ніводнага карабка запалак з этыкеткай на беларускай мове.

Пасля 1920 года Пінск знаходзіўся пад Польшчай. Пра беларускую мову на запалках тады і думаць не маглі. У верасні 1939 года ў Пінск прыйшла савецкая ўлада. Запалкавая фабрыка атрымала назву “Імя 20 верасня” – у гонар уваходу войск Чырвонай Арміі ў Пінск. Але хутка фабрыка стала называцца інакш, а менавіта: “Пінская запалкавая фабрыка імя 17 верасня”.

Да пачатку Другой сусветнай вайны фабрыка выпусціла толькі адзін від запалак з беларускамоўнай этыкеткай. Яна была прысвечаная Сталіну – “Слава Сталіну”. Калі б можна было друкаваць партрэты правадыра, то, магчыма, на этыкетцы быў бы Сталін, але ў той час гэта рабіць катэгарычна забаранялася.

У гады Другой сусветнай вайны запалкавая фабрыка не спыняла сваёй працы і выпускала прадукцыю пад кантролем нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Выглядае, што за немцамі беларуская мова была роўнай з нямецкай, бо этыкеткі запалак у 1941-1944 гадах выпускаліся на дзвюх мовах. Найбольш было выпушчана запалак з выяваю нямецкага салдата ў касцы. Зверху над малюнкам на нямецкай мове было напісана: “Streichholzfobrik in Pinsk”, а ўнізе пад малюнкам быў тэкст па-беларуску: “Фабрыка сярнічкоў у Пінску”. Гэтымі запалкамі карысталіся ўсе: партызаны і падпольшчыкі, немцы, сяляне ў вёсках, у храмах імі запальвалі свечкі...

Пасля вайны “Фабрыка імя 17 верасня” выпусціла некалькі этыкетак запалак з беларускамоўнымі надпісамі. На іх былі надрукаваныя розныя малюнкі і тэксты: то герб БССР, то юнак, які бяжыць, то рабочы і сялянка з сярпом і молатам, то зубр. Усе гэтыя этыкеткі асаблівай цікавасці для філуменістаў не ўяўляюць, хіба толькі тым, што яны былі выпушчаныя з беларускамоўнымі надпісамі і ў 1940-х—1950-х гадах.

Арыгінальная этыкетка на беларускай мове з’явілася ў 1947-1953 гадах. Яна была прысвечаная каларадскаму жуку. На ёй быў намаляваны каларадскі жук і напісаны тэкст: “Выяўляйце шкодніка бульбы – каларадскага жука, паведамляйце аграному”.

У 1958 годзе Пінская запалкавая фабрыка выпусціла серыю беларускамоўных этыкетак, прысвечаных 40-годдзю Савецкай Беларусі. На ўсіх іх напісаны альбо лічба 40, альбо стаяць гады: 1919-1959 і розны невялікі тэкст.

У Мінску ў 1967 годзе адбывалася трэцяя зімовая спартакіяда прафсаюзаў БССР. Да гэтай нагоды ўжо Пінскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў тры беларускамоўных этыкеткі.

Да 80-годдзя газеты “Звязда” прадпрыемства “Пінскдрэў” выпусціла этыкетку з малюнкам звязды калядоўшчыкаў і з






















тэкстам: “Беларускай газеце Звязда – 80”. Выпускаліся ў Пінску яшчэ некалькі запалак з беларускамоўнымі этыкеткамі, але іх было няшмат. Цяпер холдынгавая кампанія “Пінскдрэў” запалак беларускамоўнымі этыкеткамі амаль не выпускае.

## Запалкі з Рэчыцы

Запалкавую фабрыку “Днепр” у Рэчыцы арганізавалі браты Шышкіны ў 1898 годзе. У 1908 годзе гаспадаром фабрыкі стаў С.Цімафееў з сынамі. У 1919 годзе запалкавую фабрыку “Днепр” нацыяналізавалі, а ў кастрычніку 1930 года перайменавалі ў фабрыку “Х гадоў Кастрычніка”. Падчас Другой сусветнай вайны запалкавую фабрыку з Рэчыцы эвакуявалі ў Барнаул (Расія).

Этыкеткі запалкавай фабрыкі “Днепр” ці “Дняпро” друкаваліся ў асноўным на беларускай мове. Праўда, на іх трапляліся і рускія словы. Напрыклад, на адной этыкетцы напісана: “Беларускі сернікавы трэст. Гомель. СССР. Ультиматум. Фабрыка “Днепр”. Рэчыца. Цана 1 ½ кап.”. На іншай слова “Рэчыца” напісана праз літару “Е”. А калі фабрыку перайменавалі ў фабрыку “Х гадоў Кастрычніка”, то пісалі і “Х Октябр”, і “Х Окцябр”, і “Х Кастрычнік” і “Х Октябрь”. Большая палова этыкетак гэтай фабрыкі была падобная да этыкетак іншых беларускіх запалкавых фабрык 1930-х гадоў. Але былі і цікавыя этыкеткі з асаблівымі малюнкамі. На адной, напрыклад, мастак намаляваў чалавека з молатам, які разбівае ланцуг, накінуты вакол глобуса.

На многіх этыкетках публікаваліся розныя заклікі. У 1933 годзе з’явілася этыкетка ў гонар 15-га з’езда кампартыі Беларусі. Была і этыкетка з такім тэкстам: “Белзапалаб’яднаньне ВСНГ БССР. Ударны выпуск 9-му зьезду прафсаюзаў СССР – ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту. Ф-ка “Х Кастрычнік”. Рэчыца Цана 2 к.”.

Выключную па сваёй грамадскай значнасці і хуткую па тым часе запалкавую этыкетку фабрыка “Х Кастрычнік” выпусціла ў гонар гераічнай эпапеі чалюскінцаў, калі з лядовага палону было вывезена на самалётах больш за сто чалавек.

У 1933-1936 гадах шмат беларускамоўных этыкетак выйшла з вялікімі літарамі СССР.

## Запалкі з Гомеля

Гомельскую запалкавую фабрыку, якая знаходзілася ў вёсцы Панурова (цяпер Чарнігаўская вобласць) у 1879 годзе заснаваў Вітэнберг. Пасля пажару гаспадар перанёс фабрыку ў пасёлак Новабеліца недалёка ад Гомеля. У 1892 годзе ён назваў сваю фабрыку “Везувій”. У 1903 годзе фабрыка стала ўласнасцю Вітэнберга і Дунаеўскага. Запалак прадпрыемства выпускала шмат, яны актыўна экспартаваліся ў Персію і краіны Бліжняга Усходу.

У 1918 годзе запалкавая фабрыка ў Новабеліцы стала называцца “Полымя рэвалюцыі”, але праз некалькі месяцаў ёй вярнулі старую назву “Везувій”. Калі ўзнікла БССР, фабрыку “Везувій” нацыяналізавалі, але старую назву пакінулі. 8 красавіка 1937 года Гомельскі фанерны завод і запалкавую фабрыку “Везувій” аб’ядналі ў Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат.

Да 1930 года беларускамоўных этыкетак на запалкавых карабках фабрыкі "Везувій" не было. І толькі ў 1930 годзе выйшлі першыя этыкеткі з тэкстам: "Белзапалкаб'яднаньне БССР Ф-ка "Вэзувій" Горад Новабеліца Цана 2 кап.". І быў малюнак, падобны да герба СССР. Падобная беларуская этыкетка выпускалася шмат разоў, на ёй мяняўся толькі кошт запалак: 1 ½ кап. і 3 кап. Таксама па-рознаму было напісана: то Н.-Беліца, то г. Нова-Беліца, то горад Новабеліца.

У 1934-1936 гадах з'явіліся новыя этыкеткі фабрыкі "Везувій", на якіх быў намаляваны вялікі паветраны шар з зоркаю і літарамі "СССР", а таксама з такім тэкстам: "Наркомлес Галоўзапалкпром Ф-ка "Везувій" г. Нова-Беліца, БССР У карабку 52 шт. Цана 3 кап.". У 1937 годзе на фабрыцы "Везувій" выпускаюцца запалкі з беларускамоўнай этыкеткай, прысвечанай розным савецкім экспедыцыям на Паўночны полюс і палётам у Антарктыку.

Пасля Другой сусветнай вайны фабрыка "Везувій" выпусціла шэраг беларускамоўных этыкетак, прысвечаных Трэцяй зімовай спартакіядзе прафсаюзаў БССР у Мінску, 40-годдзю БССР і інш.

## Янка Купала і Якуб Колас у філуменіі

Меў рацыю аршанскі калекцыянер Алесь Сярожкін, калі апублікаваў у газеце "Беларускі калекцыянер" за люты 2005 года свой "Дадатак да энцыклапедычнага даведніка". У ім аўтар напісаў, што, гартаючы старонкі энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", які выйшаў у 1986 годзе, дарэмна шукаць у ім "раздзел філуменія, каб даведацца, якія этыкеткі запалак прысвечаныя беларускаму песняру. Ёсць там раздзел філакартыя, дзе падаюцца звесткі пра паштоўкі з выявай Купалы. Раздзелу фалерыстыка няма, але ёсць артыкулы пра купалаўскія значкі і медалі".

Сапраўды, аўтары-складальнікі Купалаўскай энцыклапедыі ці то ўвогуле нічога не ведалі пра Купалаўскую філуменію, ці то палічылі, што гэтыя звесткі не вартыя таго, каб уключыць іх у энцыклапедыю. Але відавочна, калі змяшчаюцца артыкулы па адных галінах калекцыянавання, то варта публікаваць і іншыя.

У 1967 годзе Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат да 85-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы выпусціў серыю запалак з этыкеткамі, прысвечанымі гэтай даце. На адной з іх адлюстраваны партрэт песняра. Пад ім чорнай фарбай напісаны тэкст: "85 год з дня нараджэння Янкі Купалы". На другой – хата ў Вязынцы, дзе нарадзіўся Янка Купала. На трэцяй – здымак музея Янкі Купалы ў Мінску.

Пінскі фанерна-запалкавы камбінат таксама ў 1967 годзе выдаў серыю падобных этыкетак. Але надпіс "85 год з дня нараджэння Янкі Купалы" на іх напісаны зялёным і сінім колерамі.

У 1961 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат распачаў выпускаць серыю этыкетак на якіх рэкламаваліся













творы беларускіх пісьменнікаў. Выйшла з друку і этыкетка, прысвечаная Янку Купалу з тэкстам: “Янка Купала. Падпісвайцеся ў кнігарнях БССР на збор твораў Я.Купалы ў 6 тамах”. На этыкетцы змешчаны гусляр і іншыя героі купалаўскіх твораў.

Да 90-годдзя Янкі Купалы Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат у 1972 годзе выпусціў запалкі з партрэтам Янкі Купалы і тэкстам: “90 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы”, а таксама з музеем Янку Купалы ў Мінску і хатай у Вязынцы.

У 1962 годзе да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат выдаў некалькі запалкавых этыкетак, прысвечаных гэтаму юбілею. Усе яны выйшлі пад адным загалоўкам “80 год з дня нараджэння народнага паэта БССР Якуба Коласа”. На розных этыкетках былі змешчаныя хата ў вёсцы Акінчыцы, дзе нарадзіўся Якуб Колас, Мінскі літаратурны музей Якуба Коласа, Плошча Якуба Коласа ў Мінску і вокладка кнігі “На ростанях”.

Да 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, у 1972 годзе, гэты ж Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў зноў некалькі відаў этыкетак. На іх адлюстраваны партрэт песняра, малюнкі філіяла літаратурнага музея ў вёсцы Мікалаўшчына Стаўбцоўскага раёна, тэатра Якуба Коласа ў Віцебску, фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР, Мікалаеўшчынскай школы імя Якуба Коласа, літаратурнага музея імя Якуба Коласа ў Мінску.

У 1962 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа разрэкламаваў на этыкетках яго мастацкі твор “На ростанях”. А годам раней гэты камбінат выпусціў запалкі з такім заклікам: “Якуб Колас. Падпісвайцеся ў кнігарнях БССР на збор твораў Я. Коласа ў 12 тамах”.







## Постскрыптум

Сёння ў Беларусі запалкі выпускаюць холдынгавая кампанія “Пінскдрэў” і ААТ “Барысаўдрэў”, а таксама прыватнае прадпрыемства “Каралева агню”. Спрабуе выпускаць сувенірныя запалкі на магніціках і прыватны прадпрымальнік Ерашэнка Г. І. “Барысаўдрэў” і “Пінскдрэў” у апошнія два гады выпусцілі серыю цікавых каляровых этыкетак, прысвечаных гербам гарадоў Рэспублікі Беларусь, узнагародам і зброі Перамогі, а таксама галаваломкам з запалак. На жаль, усе яны толькі на рускай мове.

Ірына Шаўлякова



…крытычная актыўнасць робіцца
больш важкім чыннікам літпрацэсу,
чым самі экспертныя ацэнкі, чым уласна тэксты…

# “Net-паязджане”: побыт і норавы сеціўнай літаратурнай крытыкі

Да сярэдзіны 2010-х гадоў праблематыка стасункаў літаратурнай крытыкі і інтэрнэта перайшла з разраду метафізічнай у экзістэнцыяльную: літаратурная крытыка ў Сеціве не проста існуе – яна пэўным чынам эвалюцыянуе як сацыякультурны і мастацкі феномен.

Даследчыкі канстатуюць паўставанне ўжо напрыканцы 1990-х гадоў у Рунэце сапраўднай індустрыі сеціўнай літаратурнай крытыкі[1]. У дачыненні да беларускага сегмента Сеціва і ў другім дзесяцігоддзі бягучага стагоддзя не выпадае гаварыць нават пра ўмоўна індустрыяльныя маштабы крытычнай вытворчасці. Разам з тым можна сцвярджаць, што ў беларускай літаратурнай прасторы асноўнай пляцоўкай (каналам) камунікавання літаратурнай крытыкі з актыўным чытачом нацыянальнага прыгожага пісьменства паступова робіцца Сеціва.

[1] Матвеева, И. Ю. Литературная критика как средство продвижения художественной литературы. Сергунина, Н. Литературная критика в Интернете как явление постмодернизма.

Цяпер ключавое пытанне ў дачыненні да беларускай літаратурнай крытыкі ў Сеціве фармулюеццца наступным чынам: "...ці стварае новая тэхналогія новую якасць крытыкі"[1]?

На наш погляд, перамяшчэнне эпіцэнтру крытычнай актыўнасці ў 2000-х гадах у інтэрнэт, па-першае, істотна паўплывала на якасныя змены беларускай літаратурнай крытыкі як сістэмы ў цэлым. Па-другое, літкрытыка ў інтэрнэце цягам апошняга дзесяцігоддзя афармляецца ў якасна новую з'яву – сеціўную літаратурную крытыку.

Асэнсаванне беларускай сеціўнай літаратурнай крытыкі як уласналітаратурнага і – шырэй – сацыякультурнага феномена ўжо на этапе вызначэння праблемнага поля даследаванняў (якія будуць мець міждысцыплінарны характар) актуалізуе неабходнасць выпрацоўкі адпаведнага тэзаўрусу. Прапануем магчымы ўнёсак у згаданы тэзаўрус у выглядзе аднаго з кампанентаў: *сеціўная літаратурная крытыка* – літаратурна-крытычная дзейнасць у інтэрнэце ва ўсёй разнастайнасці формаў (працэсуальны аспект) і вынікаў (падзейны аспект) яе ажыццяўлення.

Адрознасць сеціўнай крытыкі ад традыцыйнай ужо зараз фіксуецца ва ўзаемасувязі аспектаў, звязаных з функцыямі, прадметам увагі, фарматам урэчаўлення ў літаратурным працэсе, аўтарствам, адрасатам.

Да ліку асноўных функцый крытыкі як культурнага і мастацкага феномена адносяцца аналітычная, ацэначная, камунікатыўная. У новай інфармацыйнай рэальнасці згаданыя функцыі ў сінтэзаваным выглядзе выконвае *экспертная крытыка*. Мяркуем, што экспертная крытыка як вынік прафесійнай дзейнасці (літаратурна-крытычнай творчасці) сёння з'яўляецца чыннікам шматпалярнай літпрасторы. Гэта звязана з тым, што крытыка непрафесійная (як умоўны полюс папярэдняй) уключае побач з відавочна прафаннай (выказванні некваліфікаваных чытачоў) і аматарскую крытычную рэфлексію, аўтар якой выяўляе сябе як кваліфікаваны чытач.

У дачыненні да літаратурнай крытыкі ў цэлым, на нашу думку, варта гаварыць не столькі пра замену набору культурных функцый у новай інфармацыйнай рэальнасці, колькі пра змены ў іх іерархіі. Так, крытычныя тэксты, што выконваюць аналітычную і ацэначную функцыі, у колькасных адносінах відавочна саступаюць тэкстам, функцыянальна скіраваным найперш на камерцыялізацыю тых ці іншых літаратурных з'яў (твораў, выданняў, праектаў) шляхам анансавання, інфармавання, рэкламавання і г. д. Што тычыцца перспектыў беларускай сеціўнай літкрытыкі, то ў аспекце функцыянальным яны звязаны з камунікатыўнай функцыяй як часткай больш шырокага *сацыяльнага функцыяналу* (напрыклад, з выбудоўваннем стратэгіі, скіраванай на актуалізацыю нацыянальнай мастацкай літаратуры ва ўмовах прагрэсіравання "крызісу чытання").

Эвалюцыйныя змены фармату існавання літаратурнай крытыкі ў Сеціве таксама звязваюцца са станаўленнем новых фарматаў камунікацыі. Даследчыкі літпрацэсу ў Сеціве вылучаюць "два віды існавання крытыкі: аналітычны – унутрысайтавае прадстаўленне крытыкі – і асобныя праекты літаратурнай крытыкі (кумулятыўныя сайты і персанальныя старонкі крытыкаў"[2].

Яшчэ ў сярэдзіне 2000-х гучала меркаванне, што "цягам некалькіх бліжэйшых гадоў як сродкі масавай інфармацыі, так і літаратурныя праекты інтэрнэту будуць выяўляць цікавасць да фармату камунікацыйнай пляцоўкі паміж людзьмі. Пры гэтым доля маналагічных выданняў будзе паступова зніжацца"[3]. Амаль праз дзесяць год гэтае меркаванне выяўляецца слушным і ў дачыненні да

[1] Ермолин, Е. Критик в Сети.

[2] Матвеева, И.Ю. Литературная критика как средство продвижения художественной литературы.

[3] Пасынков, Н.В. Литературная критика в средствах массовой информации в русскоязычном Интернете 1994–2006 гг.

спосабу (фармату) бытавання беларускай літаратурнай крытыкі ў Сеціве: цэнтр цяжару відавочна змясціўся з маналагічных форм да віртуальнага палілога. Пры гэтым віртуальны (сеціўны) палілог можа разглядацца на двух узроўнях: 1) як камунікацыйная сістэма; 2) як форма сеціўнай крытыкі, сутнасць якой складае “калектыўны рэцэптыўны аналіз”[1].

Інтэрнэт сёння бачыцца ці не найбольш натуральным асяроддзем для развіцця непрафесійнай крытыкі. Арганізаваная ў форме сеціўнага палілога крытычная камунікацыя ўтрымлівае элементы аналізу і ацэнкі, якія могуць у шэрагу выпадкаў мець вынікам групавы аналіз літаратурнага твора (з’явы), “немагчымы для асобнага аматарскага крытычнага меркавання”[2]. У сувязі з гэтым пільнай увагі, на нашу думку, заслугоўвае феномен калектыўнай уплывовасці *карыстальніцкай крытыкі*.

Мы аддаем перавагу паняццю *карыстальніцкая крытыка*, паколькі ў паняцці *аматарская крытыка*, да якога найчасцей звяртаюцца даследчыкі, на нашу думку, акцэнт змешчаны з сутнаснай характарыстыкі з’явы на яе ацэначнае ўспрыманне. У першым набліжэнні да ключавых *параметраў* карыстальніцкай літкрытыкі можна аднесці:

– імгненнасць (як эвалюцыйную версію аператыўнасці традыцыйнай крытыкі);

– інтэнсіўнасць (колькасную агрэсію);

– суб’ектывізм (адрозны ад суб’ектыўнасці як іманентнай уласцівасці любога меркавання ў гуманітарным дыскурсе);

– правакатыўнасць (у процівагу арыентаванасці экспертнай крытыкі на верагоднаснасць, аргументаванасць выказвання);

– інтэрактыўнасць (шматвектарную зваротную сувязь паміж крытыкамі-карыстальнікам, пісьменнікамі, чытачамі).

Крытык-эксперт у Сеціве функцыянальна (у сэнсе колькасным, хуткасным і г.д.) прайграе карыстальніку з крытычнымі амбіцыямі. Бо экспертная крытыка чыста тэхналагічна працэс больш доўгі, складаны, чым імгненная суб’ектыўная рэакцыя чытача-карыстальніка, які ў любы момант можа стацца “пісьменнікам” (у нашым выпадку – аўтарам квазікрытычных тэкстаў). Аб’ектам крытычнай рэфлексіі ў Сеціве робіцца абсалютна ўсё. Так, карыстальніцкая крытыка ў Байнэце з энтузіязмам трактуе як раўназначныя факты літаратуры эксперыментальны філасофскі раман – і фасон вышыванак, якія рэкамендуецца апранаць на “прэміяльныя” імпрэзы, нонфікшн постсентыменталісцкага кшталту – і фэйкавыя інтэрнэт-рэсурсы, створаныя аднымі літжурналістамі ад імя іншых.

У беларускім сегменце Сеціва маюцца адзінкавыя спробы разнастаіць жанравую палітру экспертнай крытыкі праз выкарыстанне элементаў вэб-палілога з удзелам чытачоў-карыстальнікаў. Спробы гэтыя адзінкавыя, бо саміх спецыялізаваных літаратурна-крытычных рэсурсаў у Байнэце – адзінкі, што існуюць па энтузіястычным прынцыпе.

Увесну 2015 года на рэсурсе bookster.by з’явілася рубрыка “Прэпарацыя: тры крытыкі пра адзін твор”. Тром экспертам прапануецца выказацца пра адносна невялікі празаічны ці паэтычны твор, чыё аўтарства спачатку не раскрываецца. Калі меркаваць па першых трох выпусках рубрыкі, крытычная рэфлексія выбудоўваецца па змешанай матрыцы: элементы экспертнай крытыкі шчодра перамяшаныя з адзнакамі карыстальніцкай крытыкі. Так, адным з ключавых параметраў крытычных тэкстаў “Прэпарацыі” становіцца правакатыўнасць выказвання, модус і стылявыя адзнакі якой задаюцца ўжо ў назвах: “Як з перадапошняй старонкі раённай газеты” (*freakadelka* / Адэля Дубавец), “Аўтар хацеў некаму адпомсціць вуду-тэкстам” (*zamirouskaya* / Таццяна Заміроўская), “Смачна ўдыхае міязмы Італіі”

---

[1] Садовников, А.А. Литературная и телевизионная критика в Интернете.
[2] Тамсама.

(*hanna_kislitsyna* / Ганна Кісліцына), “Без смеласці ў чужых снах рабіць няма чаго” (*стрэльнікаў* / Аляксей Стрэльнікаў “Прэпарацыя: тры крытыкі пра адзін твор”).

Парадокс карыстальніцкай літкрытыкі звязаны з тым, што адзінкавае выказванне няздольнае істотна паўплываць на літаратурны працэс, але з’яўляецца каталізатарам палемікі, што ў адкладзеным рэжыме можа прыводзіць да істотных наступстваў, змяняючы параметры літаратуры як сістэмы. Гэта чымсьці нагадвае флуктуацыі ў тэрмадынаміцы: польскі фізік-тэарэтык Марыян фон Смалухоўскі (1872–1917) на шматлікіх прыкладах паказваў, як “мікраскапічна зваротныя працэсы прыводзяць да незваротных макраз’яў”[1].

Сінергетычны падыход тлумачыць “калектыўнае генерыраванне значных меркаванняў як сінергетычны скачок ці выбух”; у сваю чаргу, “некіруемая палеміка ці «мёртвая зона» крытыкі ў інтэрнэце” можа быць прадстаўлена як сінергетычны хаос[2]. Сама магчымасць руху сеціўнага крытычнага палілога ад стану хаатычнага да ўпарадкаванага залежыць, на наш погляд, і ад кантэксту, у якім гэты палілог разгортваецца (г. зн. ад спецыфікі канкрэтнага нацыянальнага гісторыка-літаратурнага хранатопа, што ўбірае і рэальны, і віртуальны літпрацэсы), і ад характару самаразвіцця і самарэгуляцыі ўдзельнікаў згаданага палілога.

Рэпутацыйны крызіс традыцыйнай беларускай крытыкі, як ні дзіўна, нібыта не закрануў крытыку сеціўную. Ёй як бы дадзены картбланш: “дзеці” за “бацькоў” не адказваюць. Перафразуючы выказванне расійскага даследчыка новых медыя К. Мартынава (“аўтар не памёр, ён проста пераехаў у Facebook”[3]), можна зрабіць наступную выснову: беларуская літаратурная крытыка ў сярэдзіне “нулявых”, каб не паддаца на ўгаворы памерці, зрабіла выгляд, што пераехала ў Сеціва.

У Сеціве 2000-х гадоў адметным жанрам творчасці робіцца віртуальная асоба. У гэтым сэнсе віртуальная асоба літаратурнага крытыка ў Байнэце – з’ява дваістая. Па адчуваннях, у 1990-х нашмат больш людзей пісалі літаратурна-крытычныя тэксты пад псеўданімамі ў беларускіх папяровых выданнях, чым сёння ў Байнэце. Агенты беларускай віртуальнай літпрасторы не карыстаюцца выгодамі ананімнасці (так званыя “нікі” нярэдка выкарыстоўваюцца як дадатковы сродак ідэнтыфікацыі). Дэмаграфічны крызіс у беларускай літкрытыцы апошніх двух дзесяцігоддзяў меў наступствам тое, што зараз попыт на аўтараў, здольных да стварэння экспертных крытычных тэкстаў, устойліва перавышае прапановы.

Адзін з самых удалых прыкладаў натуралізацыі экспертнай крытыкі ў Сеціве дэманструе Павал Абрамовіч. “Чытаць, каб жыць” – слоган адной з яго віртуальных асоб (*paval_abramovi4* у LiveJournal), мяркуючы па характары і змесце крытычнай актыўнасці карыстальніка, ёсць і жыццёвым, і прафесійным крэда. Апошні запіс у ЖЖ-блогу карыстальніка *paval_abramovi4* датуецца студзенем 2013 года (“Паважаныя сябры! Цяпер я буду бавіць час за чытаннем кніг толькі ў “Facebook”. Заходзьце ў госці да мяне!”) утрымлівае дакладнае ўказанне, дзе можна знайсці новую інкарнацыю віртуальнай асобы крытыка. Што істотна, гэта віртуальная асоба належыць да экспертнай крытыкі, дзе задавальненне выказвацца абцяжарваецца адказнасцю за ацэнкі. Між тым карыстальніцкая крытыка ў яе прафанным выяўленні падаецца адной з самых яркіх айчынных ілюстрацый агульнай характарыстыкі сучаснага грамадства як “цывілізацыі, што піша дзеля задавальнення”: “Чытанне і пісьмо цяпер цесна звязаны адно з адным. Людзі чытаюць дзеля таго, каб ствараць новыя тэксты. Мы навучыліся чытаць з пазіцыі пісьменніка, і мы пішам, звяртаючыся да іншых людзей, якія пішуць”[4].

[1] Дубнищева, Т.Я. Концепции современного естествознания.
[2] Садовников, А.А. Литературная и телевизионная критика в Интернете.
[3] Мартынов, К. Век писателей: текст и письмо в новых медиа.
[4] Тамсама.

Інакш кажучы, своеасаблівай гарантыяй развіцця карыстальніцкай крытыкі ў інтэрнэце можа стацца згаданая версія геданізму, закладзеная ў самой прыродзе стасункаў публікі і новых медыя: карыстальніцкая крытыка – гэта задавальненне ў чыстым выглядзе, хуткі шлях адчуць сябе творцам без высілкаў і адказнасці.

Асобнай увагі вымагае адрасат сеціўнай крытыкі: "размытасць", няпэўнасць аўдыторыі выступае своеасаблівым каталізатарам, які прымушае нават экспертную крытыку актыўна шукаць "мову", з дапамогай якой можна паразумецца з кім заўгодна. У сярэдзіне 2010-х гадоў наступствам гэтых пошукаў (ці спроб канструявання новай крытычнай "метамовы" ў Сеціве і для Сеціва) становіцца, на наш погляд, апрашчэнне крытычнага выказвання. Паэтыка экспертнай крытыкі мімікруе пад асяроддзе, пераймаючы такія яскравыя адзнакі карыстальніцкай крытыкі, як правакатыўнасць і неахайнасць выказвання.

Пры гэтым найбелліт – надзвычай утульны хранатоп для крытыка, асабліва для актыўнага карыстальніка інтэрнэт-рэсурсаў, які ўяўляе сабе маштабы сучаснай слова-вытворчасці: "Па падліках канадскага *IT*-журналіста Клайва Томпсана чалавецтва сёння кожны дзень адпраўляе 154 мільярды электронных лістоў, піша больш за 500 мільёнаў твітаў і больш за 1 мільён постаў у блогах толькі на платформе *Wordpress.* У *Facebook* штодня з'яўляецца больш за 16 мільярдаў слоў. Гэта тычыцца толькі заходніх краін, а ў Кітаі паралельна ідзе сваё жыццё: тут толькі на мясцовым аналазе *Twitter* пад назвай *Sina Weibo* 100 мільёнаў абнаўленняў штодня"[1].

Па кантрасце з гэтым касмічным (бясконца-бязмежным) словаспадам найбелліт уражвае / супакойвае сваёй "вымернасцю", "абсяжнасцю". Падаецца, быццам сеціўны крытык у стане не проста адсочваць літаратурна-мастацкія навінкі (з дзясятак літаратурна-мастацкіх часопісаў, уключна з інртэрнэт-выданнямі; адносна сціплая наменклатура кніжных выданняў прозы-паэзіі і г. д.), але і імгненна адгукацца (у параметрах карыстальніцкай крытыкі, вядома) на значную іх колькасць.

Магчыма, адбываецца гэтак не ў апошнюю чаргу таму, што ў Сеціве акцэнт перамяшчаецца з выніку творчасці (экспертнага тэксту) на працэс (генерыравання карыстальніцкага выказвання). Інакш кажучы, крытычная актыўнасць робіцца больш важкім чыннікам літпрацэсу, чым самі экспертныя ацэнкі, чым уласна тэксты. Статус гэтых тэкстаў як амалькрытыкі, квазікрытыкі не проста даруецца іх аўтарам, але як бы легітымуецца ў якасці эталона. Бо ў гэтым выпадку крытыкам можа любы звацца, а крытык у Сеціве – гэта той жа пісьменнік, Аўтар, які ніколі не памрэ, бо пераязджаць з месца на месца ў інтэрнэце можна бясконца / вечна.

[1] Мартынов, К. Век писателей: текст и письмо в новых медиа.

Леанід Галубовіч



...паэтка змушана па жыцці, як мантру, складаць з тых паасобных нязгіблых у ёй словаў сэнс свайго выраку...

# За прычыненымі дзвярыма

***Развагі пра творчасць паэткі Надзеі Артымовіч***

*Спіць яшчэ думка пра таго,*
*хто чакае цярпліва дня свайго*
*там, за нашымі дзвярыма...*

Уладзімір Арлоў

У сапраўдных паэтаў па сутнасці няма грамадзянскай біяграфіі. Ёсць – творчая і мастацкая. Таму з жыцця паэткі Надзеі Артымовіч нічога асаблівага, апроч афіцыёза, невядома. Яна не схільная да публічнасці, але жыццё яе натуральнае, час ад часу наўмысна схаванае ўнутр, як той слімак у ракавіну...

Для зацікаўленага чытача можна ўсё ж пазначыць, што нарадзілася паэтка 18 лютага 1946 года ў вёсцы Аўгустова Беластоцкага ваяводства ў Польшчы. Скончыла беларускую пачатковую школу і Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй імя Б. Тарашкевіча. Вывучала рускую філалогію на настаўніцкіх курсах у Беластоку і ў Варшаўскім універсітэце (1968-1972). Працавала перакладчыцай. З 1979 года жыве ў Бельску. Першы верш надрукавала ў 1970 годзе ў беластоцкай газеце “Ніва”.

Выдала кніжкі вершаў: "Роздумы" (1985), "Сон у белых пейзажах" (1990), "Дзверы" (паралельна з кантэкстам А. Разанава, 1994), "Łagodny czas" (з паралельнымі перакладамі на польскую мову, 1998), "адплывае спакойнае неба" (1999).



*Надзея АРТЫМОВІЧ*

Праўда, мне не зусім зразумела, чаму не вёсцы Аўгустова, як "калысцы" свайго нараджэння, а месцу пазнейшага пастаяннага пражывання – Бельску надае Надзея найбольшую паэтычную ўвагу. І ў сваім, агучаным Тэрэзай Занеўскай, уступным слове, якое папярэднічала разгорнутаму разгляду яе "постаці" ў "Крыніцы", Артымовіч падкрэсліла, што знаходзіцца *"ў паэтычным трохкутніку: вершы – жыццё – Бельск. Бельск – гэта малое месца, маё роднае месца"*, і пасля, у адным сваім вершы, насуперак біяграфічнай дадзенасці, напіша так:

мой дзень
у бельскім небе
у дзіцячай калысцы
спіць

Зрэшты, ці так ужо важныя сучаснаму чытачу падрабязнасці яе чалавечага жыцця, а не тое, што з іх вынікла і сталася жыццём творчым? Біяграфіяй часцей за ўсё цікавяцца тады, калі творы недастаткова поўна выяўляюць паэта. У выпадку з Н. Артымовіч чалавечае і творчае згарманізавана. Чытачу застаюцца толькі вершы.

І што ж, калі быць абсалютна шчырым, то паэтка напісала не больш адной кніжкі арыгінальных вершаў. Па вялікім рахунку яна напісала адну невялікую кніжку вершаў, хоць выдала іх у пяці зборніках, кампануючы змест залежна ад задумы, дадаючы некалькі новых тэкстаў да ўжо вядомых. Не "Вянок", вядома, але – вянец свайго сціплага па аб'ёму паэтычнага плёну.

Дзіўна, але ў трохтомную "Анталогію беларускай паэзіі" (адзін з укладальнікаў якое У. Гніламёдаў, сам па нараджэнні чалавек "крэсавы") чамусьці вершы Н. Артымовіч не ўключаны, хоць там прысутнічаюць творы яе асобных калегаў і землякоў з Беласточчыны (А. Барскага і Я. Чыквіна). Магчыма, гэта адбылося з той прычыны, што паэтка не друкавалася ў літаратурнай перыёдыцы БССР, прынамсі, у біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" зафіксаваны толькі публікацыі яе вершаў у беластоцкім тыднёвіку "Ніва" ды ў тамашнім "Беларускім календары".

Адносная вядомасць паэткі ў беларускім літаратурным асяроддзі пачалася недзе на пачатку 1990-х гадоў разам з выхадам яе зборніка "Сезон у белых пейзажах" і ў звязку з дэмакратычнымі незалежніцкімі пераменамі ў айчынным грамадстве, асабліва пасля публікацыі яе "постаці" ў элітарным часопісе "Крыніца" (№ 6, 1994). Тая публікацыя надала розгаласу яе творчасці ў літаратурных колах, пры гэтым выклікаўшы ў некаторых калег заўважную зайздрасць. Ды яно і напраўду, пасля такога творчага небыцця, раптам пра цябе ўсчыняецца цэлая дыскусія ў салідным часопісе, дзе выказваюцца Т. Занеўская, Я. Чыквін, Л. Дранько-Майсюк, Г. Каржанеўская, У. Бойка, аўтар гэтага опуса, а нізку вершаў тлумачыць не хто-небудзе, а сам А. Разанаў. Можа і галава закружыцца. Але не ў Надзеі Артымовіч. Бо яна ведала свае магчымасці і вартасці. Памятала пра недахопы.

*"Пяро паэта – скальпель, які патрабуе дакладна зняць першую скуру паэта. Але ніводзін скальпель не з'яўляецца дасканалай прыладай. Гладкая скура з цяжкасцю*

*паддаецца знішчэнню. Даходзіць часам да цяжкіх калецтваў, парэзаў, ран, якія вельмі марудна гояцца. Ніякіх лекаў ты не можаш ужыць, таму што калецтва павінна прывесці да самавыздараўлення. Але працэс самавыздараўлення* выздараўлення часта ачышчае скуру паэта ад паэзіятворных бактэрый. Паэзія – гэта пастка. Небяспека, што хаваецца за кожным моўленым словам", – пісала яна адносна свайго разумення паэтычнай творчасці. Можа яшчэ і з гэтай прычыны ў вершах Н. Артымовіч обмаль "моўленых слоў"...

Цяжка сказаць, хто з беларускіх, польскіх ці замежных паэтаў паўздзейнічаў на паэтку, каго яна магла наследаваць. У яе вершах на гэта няма аніякіх асаблівых намёкаў, як і ў рэдкіх выказваннях на тэму жыцця і творчасці. Хіба, як уласна мне падаецца, падчас ёсць нешта блізкае да Я. Юхнаўца. Хоць аднойчы Т. Занеўская пераказала такую згадку: *"Артымовіч упэўнена, што "паэтам з'яўляецца той, каму выпаў гэтакі лёс". Тут яна аспрэчвае думку Цыпрыяна Каміла Норвіда, што "чалавек паэтам не ёсць, чалавекам паэт бывае", якую многія літаратары лічаць трапнай."*

Шмат якія вершы Артымовіч складаюцца са слоў, падчас слаба знаёмых адно з адным, часцей агулам супярэчлівых, адкуль і сыходзіць лагічны канфлікт – уяўная творчая дзея. Калі большасць паэтаў працуюць з ідэяй, тэмай, сюжэтам, вобразам, метафорыкай, то Артымовіч супрацоўнічае са словам. Даверліва апіраючыся на яго пэўнасць, напаўняючы яго паўнавартасным жыццём, агаляючы яго сутнасць яна выносіць слова на чытацкі бязжальны суд. Слова яе – важкае і лёгкае, нерухомае і рухавае, ранімае і глухое, яснае і сляпое... "Я пішу такія малыя словы", але нават імі *"можна акрэсліць наш час",* – кажа яна.

Мінімалізм, лаканізм і лакалізм Н. Артымовіч, на маё меркаванне, – часткова – ад збяднення мовы і вузкага вусна-моўнага беларускага асяроддзя. Калі ў творчасці іншых гэта спрашчае верш данельга і канчаткова выпетрывае яго дух, ператвараючы працэс напісання тэкста ў пустэльнае рыфмаванне, то Надзея скарыстала гэта дзеля паглыблення, шматвектарнасці і шматмернасці сваёй паэзіі, калі адным-двума дзясяткамі словаў выбудоўваўся мастацкі вобраз у аўтарскай і чытацкай падсвядомасці. Паэтка мысліць абрывачнымі сэнсамі і катэгорыямі, якія, бы разнародныя полюсы, прыцягваюцца і пры гэтым прыцягваюць да сябе ўвагу, у тым ліку чытацкую:

іржа твой цень
як музыка
у белых пальцах

адзін неабходны верш
іржа музыка цень

адзін неабходны верш
як матчынае маўчанне
    анямелы парог

верш як час

Няскончанасць фразы, недавершанасць метафары, абарванасць дзей і вобразаў – гэта ад недастатковасці аднамоўнага атачэння ў соцыуме, і гэта падобна на тое, як чалавек выблытваецца з дзядоўніку, калі ўсе самыя нязбытныя, кроўна-дарагія словы наўслед усё яшчэ чапляюцца за цябе (за тваю зямную сутнасць) і не адпускаюць са свайго родавага нацыянальнага палону...

трэба знайсці ключ да дзвярэй
зашнураваць вусны
пашукаць месца для новай жмені зямлі
выслухаць неспакойную цішыню"

І паэтка змушана па жыцці, як мантру, складаць з тых паасобных нязгіблых у ёй словаў сэнс свайго выраку. Нешта параўнальнае можна прывесці ў прыклад, як скажам, напісанне апошнім часам вершаў (і нават кніг) А. Разанавым па-нямецку. Праўда, тут паэт зазірае наперад сябе, жадаючы прысвоіць іншаземныя словы, а ў выпадку з Артымовіч, Надзея змушана азіраецца ў сваё мінулае, каб узнавіць з памяці родныя словы... У вершы, прысвечаным бацьку яна піша:

твая кніжка і цяпер для нас завялікая
зразумелы можа толькі алфавіт
а да слоў
чынаў праўдзівых
далёка

На даўжыню крэпкай цыгарэтнай зацяжкі, кубачка падвойнай чорнай кавы альбо глытка настоенага віна...

У Н. Артымовіч амаль няма любоўнай лірыкі, тэмы кахання ўвогуле. Ледзь-ускосна-мімаходзь... Аднак нярэдка здараецца так, што менавіта візуальная адсутнасць той ці іншай тэмы і матывацыі якраз і з'яўляецца ключом да разгадкі таго, што ёсць таемна прысутным і глыбока наболеным.

прачакай яшчэ
ад слова кахаю
да закаханага верша
шмат дарогі

Надзея кажа, што яе *"верш ёсць выказваннем і недаказам"*. Так, яна прамаўляе, гаворыць, але не выказваецца дарэшты, чым выклікае свайго чытача на сумоўе. Літаральна днямі я прачытаў падобную думку ва ўжо згаданага А. Разанава, якую ён выказаў падчас лекцыі ў "лятучым універсітэце", дзе зазначыў, што *"в*ерш заўсёды не да канца вымаўлены". Відаць, не проста так у свой час ён надумаў і патлумачыў на свой розум і лад вершы Н. Артымовіч у іх сумеснай кніжцы "Дзверы". Ёсць нейкая прыцягальная субстанцыя, што збліжае іх мастацкія светы, якія знаходзяцца на блізкіх арбітах і ў адным гравітацыйным творчым полі, – там, дзе аўтарскі аскетычны вобраз, самадастатковы ў сваёй сутнасці, аддае апошняе, абсалютна нічога не патрабуючы наўзамен...

Нярэдка адны і тыя ж словы ў творах Артымовіч штораз паўтараюцца – з верша ў верш – з рознай інтанацыяй і пратэстным сэнсам пры ўзаемаадносінах з іншымі словамі (час, іржа, бель, цень, сон, перадапошні і апошні дзень...). Адсюль супярэчлівае назіранне – адсутнасць (прынамсі, знешніх – відавочных і адчувальных) эмоцый, гэткі ціхамірны стан, у якім адбываецца ўнутранае пераасэнсаванне свайго і акаляючага жыцця, дзеяў і ўчынкаў... Нават назвы зборнікаў паказваюць на тую своеасаблівую "пазіцыю ёгі", якую займае аўтар у працэсе сваёй творчасці: "роздумы", *"сезон у белых пейзажах"*, *"адплывае спакойнае неба"*, *"łagodny czas"*... Падчас ствараецца ўражанне, што ў пераважнай бальшыні вершаў няма не толькі ўзрушэнняў, але і самога руху – фізічнага і душэўнага – ні ў прасторы, ні ў часе. Гэта як ціхая затока з люстраной паверхняй вады, у якую раптам падае кропля расы, апалы ліст альбо кімсьці кінуты камень – усплёск, кругі на вадзе... Духоўная медытацыя. Аддаленая асацыяцыя з вершамі Басё... Як следства, няма звычнай для традыцыйнай беларускай паэзіі, у тым ліку і сучаснай, цвёрда акрэсленай грамадзянскай пазіцыі, змагарскай лозунгавасці, трыбунна-барабаннай рытмікі, акторска-дэкламацыйнай найгранасці. Магчыма таму, што аўтар знаходзіцца па-за межамі нашай балюча-грамадскай сітуацыі і нацыянальнай дыскрымінацыйнай прыгнечанасці? Але не думаю, што толькі таму.

Мне здаецца, што гэта, найперш, з прычыны закрытасці ўласнай натуры, калі чалавек, тым больш творца, жыве ўнутр, а не вонкі, у глыбіню, а не ўшыркі... Канстатацыя падобнага стану ёсць у такіх радках Н. Артымовіч:

нерухома стаяць
мае дні
шчыліны ў часе
усё большыя
мой каляндар патрэсканы
нерухома стаяць
мае дні
  як перапалоханы цень
  чалавека

Сама творчасць паэткі як бы па-за грамадскім жыццём, але само грамадскае жыццё сваім зрушным і актыўным атачэннем змушае яе пэўным чынам адгукацца на ўціск сваёй незалежнасці (са знешняга боку тых дзей і праяў часу).

баюся выразнасці свайго партрэта
баюся ілюзіі слоў у вершах

З кантэксту большасці вершаў Н. Артымовіч выразна выяўляецца праекцыя яе адстароненасці ад людзей, хутчэй, аддаленне, а не зблiжэнне з імі (па вядомым пушкінскім запавеце: *"Поэт – ты царь. Живи один"*). І гэтай аўрай адзіноты, стрымана-неперабарлівым вобразам жыцця прапітаная аснова ўсёй яе паэзіі. Кажучы яе ж словамі: *"Жыццё таксама бывае паэзіяй"*. Таму абсалютна не здзіўляюць адпаведныя прызнанні:

у сваіх кароткіх вершах
я ніколі нічога не сказала нікому
я нямая
я не люблю эксперыментаў над чалавекам

Хоць мы ведаем, што таленавітыя паэты пішуць не так словам, як падтэкстам, перакладваючы на чытача выяўленне сутнасці імі пераджытага. Найбольш класічна і даходліва для публікі ахарактарызаваў жыццёвы і творчы шлях Н. Артымовіч яе зямляк, вядомы паэт і літаратуразнаўца Ян Чыквін:*"Верш Надзеі Артымовіч, які пры першым чытанні гучыць для нас* арытмічна, выяўляе, па сапраўднасці, проста іншую, толькі для паэткі характэрную рытміку. Яна, гэтая рытміка, ідзе не ад кніжна-літаратурнай традыцыі, а адтуль, ад унутранага складу хвалявання яе асабовасці. А наколькі яе асабовасць фармавала перш за ўсё знешняя рэчаіснасць, то "нерытмічныя" рытмы вершаў Артымовіч якраз і дакладней і глыбей адлюстроўваюць складанасць і драматызм як чалавечага існавання, так і яго часу. (...) Зместу вершаў Артымовіч адпавядае іх форма. Інтанацыйны малюнак твора, яго кампазіцыя і семантычная "неразборлівасць" паяўляюцца як вынік спомненай немажлівасці, пераскоку вобраза-думкі, абрывістасці, ментальнасці, кантамінацыі розных планаў. (...) Артымовіч на нашым беларускім літаратурным фірмаменце паэтка ўнікальная. Але за гэту арыгінальнасць жыццё бярэ ад яе сваю празмерную плату."

Шчыра скажу, я не ведаю гэтай платы, але вычуваю і ўяўляю яе, чытаючы лепшыя вершы паэткі. Менавіта сваёй паэтычнай (фармальнай, стылёвай, мысленча-філасофскай) неардынарнасцю яна стала пазнавальнай (вылучнай) постаццю ў беларускай літаратуры. Улічваючы тое, што Н. Артымовіч нарадзілася, жыве і творыць у Польшчы, гэтую яе выбітнасць можна лічыць як выключэнне з агульных правілаў нацыянальнага краснага пісьменства. Пры ўсім гэтым нельга

сказаць, што Н. Артымовіч зрабіла ў сваёй творчасці нейкія значныя адкрыцці і глабальныя прарывы. А ўсё ж умудрылася ў шматлікім паэтычным хоры выявіць свой адметны голас, інтанацыю, зрабіць запамінальным свой літаратурны вобраз. У яе набытку ёсць некалькі блізкіх да геніяльнасці радкоў і дзясятак проста выдатных вершаў. Хіба гэтага мала, каб застацца ў беларускай паэзіі?! Больш чым дастаткова.

Калі любіш паэзію
Маўчы, не гавары нікому...

І Надзея Артымовіч цярпліва перажывае верш у сабе, каб увасобіць яго ў словы... Можа таму паэзія жыла і жыве ў ёй самой больш арганічна, чым у саміх яе вершах.

І наастатку, чыста ўласнае. Мы не бачыліся з Надзяй чвэрць веку, і я не ўпэўнены, што сходу пазнаў бы яе пры сустрэчы. А вось у паэзіі, бадай, і праз больш значную тоўшчу часу, я вызначыў бы яе адразу і беспамылкова. Незважаючы на даўно згубленыя адрасы, а хутчэй нават дзякуючы таму, бо, як піша яна ў сваім знакавым вершы: "паэты паміраюць тады / калі знойдзены дакладныя адрасы */ сытыя жэсты"*. Што праўда, апошнім часам у нашых тэлефонных размовах Надзя ўсё часцей жаліцца на ўзрост і на зрок... Я маўчу ў адказ, бо мы ўсё адно не бачым адно другога... Але, дзякаваць Богу, я чую яе пазнавальны голас...

Пара зачыняць дзверы...

Не думаю, што ў сапраўднага паэта агулам ёсць такая магчымасць, бо адкрытае свету ўжо наноў не зачыніш і не схаваеш, тым больш, што *"яшчэ рана амаль зарана / каб прачытаць горкую жывую паперу / яшчэ спіць* перадапошні дзень", а ў тваёй *"шклянцы цверазее віно / і гэта не пара / каб зачыніць / апошнія дзверы"*.

Таму, пакідаючы іх прычыненымі, кожны творца спадзяецца на тых, хто з той ці іншай прычыны (зацікаўленасці, прагі патаемнага, альбо проста душэўнага адхлання) зойдзе туды, каб убачыць, адчуць і зразумець, што ж "там за дзвярыма"...

---

***"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць***
***Надзею АРТЫМОВІЧ***
***з пашанотным юбілеем***
***і зычаць ёй моцнага здароўя,***
***душэўнай трываласці***
***і творчага плёну!***

Наста Грышчук



...які белліт без балота?..

# Кветкі на магілах атлантаў

## *Рэцэнзіі на кнігі Леаніда Галубовіча і Людмілы Рублеўскай*

### Загадка Галубовіча

*Леанід Галубовіч. Поўня. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 17). – 144 с.*

Што такое поўня? Можна сказаць так: “Поўня — фаза Месяца, пры якой рознасць экліптычных даўгот Сонца і Месяца роўная 180°”. Ці вось так: “Поўня — адна з фаз Месяца, калі Месяц звернуты да Зямлі сваім асветленым бокам і мае выгляд светлага круга”. Але пры гэтым не скажаш нічога.

Поўня — частка сусветнага хараства і чалавечы неспакой. І гэтак жа варта казаць пра кнігу Леаніда Галубовіча.

Больш удалую назву для яе прыдумаць наўрад ці магчыма. Хіба што проста – “Паэзія”. “Поўня” – гэта яе росквіт, поўнасць мастацтва, залатая вяршыня. І менавіта поўня, а не зеніт ці поўдзень, якія б гучалі падробна, з крэтынічным камсамольскім запалам. Паэзія – заўжды самота. У той час як поўня — ці не самы паўнагучны сімвал гэтага стану.

Поўня – час, калі чалавек застаецца сам-насам і падводзіць рахункі, прытым не столькі са светам, колькі з самім сабою.




Поўня – недасяжнае і жаданае, што нязменна хвалюе, незалежна ад таго, філістэр ты ці энтузіяст.

Усё гэта ёсць у вершах Галубовіча.

А яшчэ — натуральная лёгкасць, якую іначай як пушкінскай не назавеш. Можна запярэчыць: чаму б не параўнаць Галубовіча з "нашымі"? Хіба не стае прыкладаў?

Можна і з нашымі. Але так ці іначай, гэта будзе толькі частковае параўнанне, толькі адна рыса. У паэзіі Галубовіча – Коласаў роздум, Купалаў драматызм, Багдановічава хараство і Сысаў адчай (на што ёсць непасрэдныя аўтарскія спасылкі). І ўсе разам яны складаюць менавіта Галубовіча, унікальнага для беларускай літаратуры, папушкінску лёгкага.

Лёгкасць гэтая сведчыць пра самае значнае ў паэзіі – натуральнасць стварэння. Вершы Леаніда Галубовіча непадзельныя, цэласныя, пра іх не скажаш: тры катрэны, два радкі. Менавіта пра гэта пісаў Джон Кітс: "Калі паэзія не нараджаецца гэтак жа натуральна, як лісце на дрэвах, няхай яна лепей зусім не нараджаецца".

У такой натуральнасці, калі верш гучыць як выдых, нават банальныя рыфмы ажываюць; вы і думаць не думаеце пра тысячы кіламетраў радкоў, дзе жорстка эксплуатаваліся "вочы"/"ночы".

Пра што я думаю, калі
змрок вечаровы засціць вочы
і ўсё жывое на зямлі
маўчыць заложнікам у ночы?

Тое ж датычыць дзеяслоўных рыфмаў, якіх збольшага не заўважаеш. Ці асобных вобразаў. Прыкладам, страшна ўявіць, колькі разоў рыфмачы расплочваліся са сваім чытачом словамі "боль" і "паэзія". Урэшце словы гэтыя, як манеты, сцерліся да асновы, іх гучанне стала глухім, а рэльефу зусім не стала. Але прыйшла паэзія, і з мёртвых слоў стварыла самую сябе:

Ты — боль, паэзія. Ты – быль.
Тваe суровыя законы
Не для забаў, не для гульбы...

Цікава, што гэты верш, адзін з самых, Галубовіч у выбранае не ўключыў. Відаць, рахункі з сабою ўсё ж пераважылі "поўню мастацтва".

Тут дарэчы прывесці адну агаворку, зробленую ў анатацыі: невядомы аўтар піша, што ў кнізе змешчаныя "лепшыя вершы аўтара (па яго версіі)". Відавочна, аўтар агаворкі пэўныя тэксты не стаў бы ўключаць. І з ім нельга не пагадзіцца. Сапраўды, кніга-вяршыня цудоўна абышлася б без "Эпілогу" 1998 года, без "Беларускай замовы" (грамадзянскае душыць мастацтва), без чатырохрадкоўя пра адзінокіх людзей і сіямскіх блізнят, без вершаў "У куце бязлюднага бара..." і "Рускі чалавек Барыс Бур'ян".

Але ў тым і справа, што гэта не кніга-вяршыня. Гэта ўвасоблены страх паэта быць недасказаным і недачутым. "Поўня" – кніга Галубовіча, а не чытача ці крытыка.

Ёсць яшчэ адзін чыннік, праз які іншыя вершы выглядаюць "лішнімі". Побач з геніяльным тэкстам тэкст добры, таленавіты, якасны будзе выглядаць бедна, у той час як самы слабы верш "Поўні" заззяе золатам у шэранькім зборніку шараговага аўтара.

Трэба ўлічваць і наступныя прыкрыя сітуацыі, калі да паэта "адтуль" пры-

ходзяць тры радкі, а чацвёртага – няма. Даводзіцца дапісваць. І гэты чацвёрты абавязкова будзе заўважны. Прыкладам, *“Сатканы восеньскі матыў / Сівою вяззю павуціны”* толькі прадмова да *“Рудзеюць з вуліцы платы / Перагарэлаю націнай”*.

Наіўна было б лічыць, што такая паэзія – заслуга адно Галубовіча. Гэта – дар, што сам паэт цудоўна ўсведамляе. Ён пакорліва схіляе галаву і моліцца на паэзію. Ён паўтарае з разу ў раз, відаць, баючыся сурочыць ці ўгневаць шчодрага падаўцу: я толькі служка.

*“Я – раб паэзіі”. “Толькі душа мая мне не належыць”. “Паэзія – лёс і дар / распнутым быць на крыжы...” “...бо, калі браць па сутнасці, / я – іх [вершаў] палова”.*

Ці іншае, з зацемак: *“І так хочацца напісаць верш, ажно рукі свярбяць! І ведаю – што змагу. Аднак падсвядома нейчы голас мне кажа: без майго ведама і дазволу не псуй паперу”.*

Словам ён дыхае, нібы жабрамі; пра сябе самога піша: *“Я ж — ад мамы, як верш дачасны...”* І як наіўна было б верыць у творчую самастойнасць Галубовіча, гэтак жа наіўна лічыць яго дабраахвотнае прыніжэнне какецтвам ці позай, а словы пра служэнне – “красным слоўцам”. Паэту без слова не жыць, і калі яно даецца па чужой волі, — а чыёй, ты і сам не ведаеш, — горшай пакуты ўявіць цяжка.

Леанід Галубовіч рэдка з’яўляецца на публіцы і не прымае ўдзел у мястэчковых бойках. Прынамсі, такі яго вобраз склаўся. Рыгор Барадулін у гутарках з Сяргеем Шапранам не раз зазначаў, што творца па натуры сваёй – хутаранін. Творца чапляецца за ўсё сапраўднае, за ўсё, у чым заключанае жыццё. У самых звычайных з’явах бачыць сімвалы — і расшыфроўвае іх вершам.

Мабыць, найпершым такім сімвалам варта назваць каня – неад’емнага складніка вёскі — нядзіўна, што намёртва ўрэзанага ў свядомасць паэта і ўрослага ў творчасць з усёй сваёй “атрыбутыкай” (аброць, калёсы, аглоблі, падковы, мужык з лейцамі ў руках, дарога і інш.). У кожным вершы сімвал прачытваецца па-рознаму: тут – замалёўка з натуры, лёгкі жывапіс; там – паралель з чалавечым лёсам, такім жа цяжкім і “цягучым”; іншым разам конь і не сімвал, а герой твора, дэталь карціны свету.

Найгарманічнейшыя вершы Галубовіча выраслі з вёскі, над галавой якой – зоры, зоры і зоры, а ў нагах якой – познія яблыкі. Зоры і яблыкі адлюстроўваюць адно адное, пазначаюць пункцірам зямное і нябеснае, нізавое і высокае.

Трэці значны сімвал – дрэва: як жывы арганізм (тут жа цягнецца ўгору трава – “запахла зялёнай крывёю травы”, прыкладам) ці матэрыя, з якой складаецца сусвет паэта – ад калыскі да крыжа.

Але нельга сказаць, што такая паэзія — вясковая. Галубовічава вёска —не пэўны лад жыцця, парушэнне якога баліць аўтару, праз што і нараджаецца верш.

Вёска Галубовіча – мікракосм, які ўбірае ў сябе агульныя законы сусвету і спраўна па іх існуе. Кожны партрэт – выпадковага мужыка ці аднакласнікаў – ператвараецца ў архетып, і вось што дзіўна: паэт цураецца абагульненняў. Ён не мае жадання ствараць нешта глабальнае, страшэнна значнае. Хутчэй, назірае і пераказвае. І атрымліваецца якраз тое, чаго іншыя – пры ўсім іх відавочным жаданні – дасягнуць не могуць.

Прычакаўшы глыбокага снегу,
Аб’язджаюць каня мужыкі:
Маладому, шалёнаму бегу
Дзве аглоблі сцінаюць бакі.
Ні на міг не правісне ляйчына.
Не папусціць свабоды рука,
І – туды, дзе глыбее лагчына,
Да апошняга правіць рыўка.

Вось ён – потны, загнаны, знямоглы –
Ад тугі і адчаю захроп...
Заўтра стане пакорна ў аглоблі
І без пугі не пойдзе ў галоп.

Але бывае і зваротнае, і датычыць гэта інтымнай лірыкі. Калі Галубовіч піша толькі пра пачуццё, верш не гучыць так, як мог бы; так, як гучаць "Усе мае лепшыя вершы..." ці "Ноч у бацькоўскім ложку". Але калі ён выходзіць за межы пачуцця і далучае рацыянальнае – мы чытаем

"Люблю", — і ты ў адказ шапні —
у вечнасці глухое вуха...

"Поўня" — вельмі няроўная, нервовая кніга, дзе ёсць месца ўсяму: выпіўцы і малітве, жарсці і суму па маме, гэтак падобнаму да барадулінскага. І ўсё ж гэта далёка не тое выбранае, якое магло б быць. Пры гэтым кніга сапраўды поўная: у ёй розны, усякі і таму найбольш блізкі да арыгіналу Леанід Галубовіч. Думаецца, менавіта гэтага ён і хацеў.

## Кветкі на магілах атлантаў

***Людміла Рублеўская. З'яўленне Інфанты. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 16). – 112 с.***

Цяжка ўявіць аўтара больш паслядоўнага за Людмілу Рублеўскую. З кнігі ў кнігу, з верша ў верш яна вымалёўвае контуры краіны, якой няма, якой не было, але якая, быць можа, аднойчы будзе.

Урэшце, толькі са спадзевам на тое і пішуцца гэтыя вершы – страшна прыгожыя і невясёлыя.

Кожны чацвёрты з іх гучыць абвінавачваннем, як звонкая аплявуха "дзецям бетоннай купелі"; кожны трэці – як фрынас; кожны другі – як апошні верш. І ўсё гэта падобна да няшчаснага кахання: разумееш, што шчасця не будзе, – але не маеш моцы адмовіцца ад сваёй жарсці.

Не здрадзіць, не кінуць забытымі продкаў сваіх,
Няхай ты згараеш і сам па дарозе да іх.

"З'яўленне інфанты" не здзівіць дасведчанага чытача. Людміла Рублеўская ўсё тая ж.

Стылістычна яе паэзія па-ранейшаму наследуе барока і рамантызму (які часам звужаецца да готыкі). Гэта дазваляе аўтару найбольш дакладна адлюстраваць свой светапогляд, выявіць драматычнае, абвостранае ўспрыняцце рэальнасці. Готыка – у змрочных гісторыях, якія расказваюцца, вядома ж, не адно каб застрашыць чытача: за ўсімі гэтымі магіламі, крыжамі, мерцвякамі, ноччу і дажджыма (іншую форму слова паэтка не прымае), прывідамі і крывёю на белым мармуры, – за ўсім гэтым паўстае Беларусь.

Прыхільнасць да барока з яго кантрастамі, скокамі смерці, пірам падчас чумы, раскошай на тле адчаю прыўносіць у паэзію Людмілы Рублеўскай элементы, якія сёння выглядаюць экзатычна – і дазваляюць пазнаць Рублеўскую між тысячы іншых аўтараў. Атрута ў віне (ад цыкуты да стронцыю, золата ў трунах, цяжкія пярсцёнкі на тонкіх пальцах, чорны шоўк масак, пышныя, багатыя тканіны на целах мерцвякоў, карнавалы і балаганы ("А балаганаў хапае. Вакол балаганы."). І гэта таксама – Беларусь.

Нязвыклая. Але ёсць і звыклая, з ваўкоў ды цмокаў, змеяў між камянёў,




вядзьмарак, скрыжаванняў – і балота. Які белліт без балота? А калі ёсць яно – то з’яўляюцца і сакральныя “тут”, “тутэйшы”.

Асобна ад гэтай сімвалічнай раскошы стаіць Сад. Успрымаць яго як алегорыю Раю няварта. Прырода гэтага саду зямная, ён не дадзены звыш. Ён узгадаваны на роднай зямлі, паліты і слязьмі, і крывёй, і потам. У ім нельга аддацца асалодзе сузірання, прыемнай дрымоце – у ім трэба працаваць, а калі і заснеш, дык толькі вечным сном.

І ў гэтым шчасце. Бо пасля, калі-небудзь, *“сад мой на хвілю / зямлю маю зробіць шчаслівай”.*

На сімвалах і стаіць паэзія Людмілы Рублеўскай. Як на палях, што не даюць творам абрынуцца ў багну пасрэднасці.

Рамантызм Людмілы Рублеўскай па легкадумнасці можна прыняць за праяву эскапізму. Але ўсё якраз наадварот. Не яна пазбягае рэчасінасці – гэта рэчаіснасць такая нішчымная, што таленту ў ёй цесна. Ёсць паэты, якім хапае найменшага; яны сузіральнікі, якія ператвараюць у мастацтва травінку, горкі яблык, бег каня (такі Леанід Галубовіч). Талент Людмілы Рублеўскай іншы. Калі першы тып таленту можна ўявіць сівабародым мудрацом, то другі – юнак, максіміліст, якому патрэбныя яркія, густыя фарбы і звон словаў, бо іначай яго пачуцці не выказаць. І на пачуцці трэба паставіць націск.

У празаічным вымярэнні вершы Рублеўскай былі б навэламі: і справа нават не ў сюжэтнасці асобных твораў, але ў эмацыянальным напружанні, якое задаецца з першага радка і не паслабляецца да апошняга. Наадварот: апошнія радкі самыя важныя, яны падводзяць рысу ўсяму сказанаму – вострую і бліскучую, як лязо дарагога кінжала. Словы, прамоўленыя напрыканцы, гучаць у Людмілы Рублеўскай як гнеўны вокліч у апусцелым храме. Іх рэха яшчэ доўга гучыць увушшу. І калі паэзію немажліва чытаць запар, то “З’яўленне інфанты” пацвярджае гэтае правіла.

Вобразу паэта ў зборніку адводзіцца асобная роля. Яго можна ўбачыць і ў гладыятары, і абозным лекары: паэт не мае права выпусціць з рук “меч”, бо падымецца рогат на трыбунах; і ён жа пакідае за спінай тлумную мітусню, пацягваючы віно з дзьмухаўцоў і ідучы... Куды? У сэрца згубленай Еўропы, напэўна. А хутчэй – на пошукі Атлантыды.

Сярод яе спачылых атлантаў – расстраляныя паэты. Ніхто іншы, здаецца, не піша пра іх столькі і так. Хоць тэма гэтая мала каго не хвалюе. Відаць, справа ў тым, што расстраляны паэт (не як канкрэтная асоба, але як сімвал, а ў нашых рэаліях нават архетып) з’яўляецца жывым увасабленнем усіх тэм, якія баляць Рублеўскай: пакуты за радок, пакуты за волю, пакуты за волю радка, тутэйшасць, Беларусь, загубленае жыццё, мінуўшчына... У гэтых ценях адбіваецца яна сама. І карыстаючыся яе ж вобразнасцю, вершы Рублеўскай – кветкі, што ўзрастаюць на магілах.

Наўрад ці XVIII стагоддзе калі-небудзь адпусціць свайго паэта. Дый сама Рублеўская не збіраецца яго пакідаць. Ёй як нідзе ўтульна за пышным сталом з неверагоднымі стравамі і чырвонымі (абавязкова чырвонымі! – як кроў) вінамі, між п’яным ад выпітага і ўласнае адвагі сарматам і строгай, прыўкраснай паннай, у якой вочы – абавязкова караткевічаўскія: вялікія і тужлівыя.

Да каменных не страшна хадзіць.
Расчароўвацца позна,

А насмешлівасць ім не ўласціва.
Каменныя вусны
Крыўдным словам не зганьбяць, –

гаворыць яна ў “Мармуровым героі...”. І маўклівая статуя бярэ на сябе адразу дзве ролі. З аднаго боку – помнік былому, адзіны алтар паэта. З іншага – “галатэй”, і, вядома ж, не ў тым сэнсе, што Людміла Рублеўская закаханая ў статую: з мармуру яна стварае жывыя, палымнеючыя вобразы, якія ў ідэале мусяць апякаць не толькі рукі стваральніка, але і сэрцы чытачоў. Аднак паэтка сама ў гэта слаба верыць. І пасмейвацца з уласных спадзяванняў.

І тым больш прывязваецца да мармуровых герояў.

# Воляй абраны

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Валянціна Аксак. Дзікая сліва. Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 18). – 104 с.**

Вершаваны зборнік паэткі, публіцысткі, лаўрэаткі прэміі «Залаты апостраф» Валянціны Аксак пабачыў свет у Бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў» і стаў васямнаццатым выпускам серыі і шостай кнігай аўтаркі. «“Дзікая сліва” — гэта свет несвядомай прыроды, першароднага граху і безабароннай душы. Свет, у якім згубіліся словы і знайшоўся сэнс», — паведамляе анатацыя, і такім чынам дае чытачам ключ ад брамы, за якой знаходзіцца паэтычны сад спадарыні Валянціны.

Праўда, адкрыецца гэтая брама не перад кожным, а перад тым, хто здольны ўспрыняць найтанчэйшыя рухі душы лірычнай гераіні, таму, хто любіць і цэніць паэзію філасофскую і гатовы правесці прыемны зімовы вечар ля каміна, накрыўшыся цёплым пледам, са зборнікам вершаў у адной руцэ і келіхам дарагога віна ў другой. Як вядома, добрыя напоі з часам толькі паляпшаюцца і мацнеюць, набываюць унікальны смак. Так сама, як і добрыя вершы.

Вытанчаная жаноцкасць, шляхетная інтэлігентнасць і ўменне проста і карэктна распавесці пра складаныя сітуацыі і пра сэнс самога жыцця, безумоўна, прываблiваюць у гэтай кнізе. Эмоцыі, вытрыманыя часам, думкі, спраўджаныя на ўласным досведзе — *sapienti sat*. Сказанага дастаткова.

*Уваходзячы ў сад,*
*нізка голаў схіляю,*
*кланяюся і прашу,*
*каб дазволіў пабыць*
*у ягоных шатах.*
*Гладзіць галінамі рукі,*
*казыча карэннямі ногі,*
*упрыгожвае лістотай валасы,*
*атуляе водарам сэрца,*
*наталяе цішшу душу.*
*Разумее.*




**Анатоль Бароўскі. Воляй абраны. – Мінск: Кнігазбор, 2015. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 68). – 352 с.**

Гістарычны раман Анатоля Бароўскага працягвае айчынную каліноўскіяну: следам за творамі Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Якімовіча, Уладзіміра Арлова, Алеся Наварыча, як бачым, з’яўляюцца ўсё новыя і новыя кнігі. Цікавасць да паўстання нядаўна была актывізаваная святкаваннем 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага супраць Расійскай імперыі. У сваёй кнізе Анатоль Бароўскі засяродзіў сваю ўвагу на каханні кіраўніка паўстання і яго нарачонай

Марыі Ямант, якое яны пранеслі праз віхуры і здзекі, вытрымаўшы і перамогшы, выстаяўшы і даказаўшы, што вышэй пачуцця нічога ў свеце не існуе.

Паралельна з гэтай тэмай, як сцвярджае анатацыя да кнігі, «аўтар паспрабаваў разабрацца ў тым, чаму вызвольнаму паўстанню, нават задоўга да пачатку яго, была наканавана параза. І – перамога. Бо імя Каліноўскага і яго духоўны подзвіг застануцца ў памяці нашчадкаў на вякі...»

**Брама: літарутарна-мастацкі альманах. Магілёў. №3, 2015. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 216 с.**




Выйшаў трэці выпуск літаратурна-мастацкага альманаха «Брама» магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Нумар гадавіка змяшчае тэксты 32-х мясцовых аўтараў, сярод якіх старэйшыны Ф. Шкірманкоў, М. Булавацкі, Н. Сандамірскі, а таксама іх маладзейшыя калегі Т. Аўсяннікава, Т. Барысік, А. Бацюкоў, А. Быкава, Ю. Несцярэнка, С. Украінка, М. Яцкоў і інш. Рубрыка «Пераклады» змяшчае перастварэнні тэкстаў Э. Мядзведскага, Н. Сандамірскага і Г. Грывэла. Раздзел «Спадчына» утрымлівае ўспаміны С. Панізьніка да 95-годдзя з дня нараджэння магілёўца А. Пысіна, аздобленыя рэдкімі фотаздымкамі і рэпрадукцыямі аўтографаў. Пра раннюю лірыку Пысіна піша нататкі і С. Украінка. У. Ліўшыц прапануе біяграфічны артыкул пра пісьменніка міжваеннага часу В. Каваля.

У рубрыцы «З літаратурнай спадчыны» з артыкулам выступае слонімскі краязнаўца С. Чыгрын, які распавядае пра знакавую і легендарную для Магілёўшчыны постаць – Машэку. Толькі гаворка ідзе не пра купалаўскага ці караткевічцкага героя, а пра аднайменную малавядомую паэму заходнебеларускага літаратара А. Бартуля.

Крытыка і літаратуразнаўства ў алльманаху прадстаўлена артыкуламі Т. Аўсяннікавай, якая аналізуе кнігу Н. Гілевіча «У віры быцця», Я. Клімуця – пра літаратурна-крытычны талент А. Адамовіча; А. Быкавай пра паэтычны зборнік Т. Аўсяннікавай «Скрыжалі». Сёлетняя прызёрка прэміі імя Ежы Гедройца Т. Барысік публікуе артыкул «Уюн на пяску трохлітровага возера» пра кнігу «Белы бусел, чорнае пяро» С. Украінкі. В. Еўмянькоў аналізуе пакручастую гісторыю газеты 1563 года «Навіны грозныя...», якая ў гісторыі журналістыкі лічыцца першым беларускім перыёдыкам.

*«Нахінецца магілёўская брама, пахіснецца брамнік – не ўтрымаецца наш нябесны Іерусалім, наша Беларуская Рэч паспалітая. Так ужо было, але так не павінна быць сёння. Не павінна! Бо, дзякуй Богу, ёсць у Магілёве «Брама», і стаяць у ёй сякія-такія брамнікі... Няхай будзе так і надалей»* – піша ў прадмове сябра Рэдакцыйнай Рады альманаха В. Еўмянькоў. З ім нельга не пагадзіцца.

**Зміцер Дзядзенка. Гісторыі ў прыцемках. – Мінск: Кнігазбор, 2015. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 67). – 120 с.**




Творы Змітра Дзядзенкі, якія ўвайшлі ў кнігу “Гісторыі ў прыцемках”, знаёмыя чытачам “Дзеяслова”. Яны вызначаюцца цікавасцю да таямнічага і неспазнанага, а таксама вострасюжэтнасцю. Героі твораў спрабуюць разгадаць загадкі, паходжанне якіх губляецца ў прыцемках гісторыі. Гэта характэрна як для містычнага апавядання “Яйкі птушкі Рух”, так і для дэтэктыўных аповесцяў “Голем з Малой Мар’ямпольскай” і “Вуаерыст”. Гісторыя “Голема з Малой Мар’ямпольскай” сюжэтна пераплятаецца з біяграфіяй беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Злачынства, якое адбываецца задоўга пасля смерці вялікага палачаніна, здараецца пры ўдзеле невядомых сілаў, а месцы злачынства знаходзяць след гліны. Голем з пражскіх легендаў працягвае помсціць нашчадкам Скарыны за нейкія даўнейшыя правіны...

**Свэн Нурдквіст. Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2015. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 10). – 32 с.**




Цёплыя і смешныя гісторыі пра прыгоды дзядулі Пэтсана і коціка Фіндуса, створаныя шведскім пісьменнікам і мастаком Свэнам Нурдквістам, — вядомыя і любімыя дзецьмі і іх бацькамі ў многіх краінах свету, перакладзеныя больш як на 30 моў. А цяпер дзядуля і коцік упершыню загаварылі па-беларуску дзякуючы Саюзу беларускіх пісьменнікаў і перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч.

Кнігі Свэна Нурдквіста ўжо сталі класікай шведскай літаратуры, а яго незвычайныя ілюстрацыі, адначасова насычаныя колерам і дэталямі, прываблiваюць і дзетак і дарослых. Аўтар нарадзіўся ў 1946 годзе ў Хельсінборгу, працаваў у розныя часы архітэктарам, настаўнікам, ілюстратарам, але толькі маляванне цікавіла яго найбольш цягам усяго жыцця.

Распачынаецца чароўная казка так: «*Нарэшце хоць крыху пацяплела! Ужо некалькі дзён было так холадна, што Пэтсан не мог носа высунуць за дзверы, нават у краму не хадзіў. У хаце няма ні кавалачка ежы, а заўтра ўжо Каляды. Трэба абавязкова набыць што-небудзь да святочнага стала, ссекчы ялінку ў лесе і прывезці яе дахаты, напячы імбірнага печыва і зрабіць яшчэ шмат чаго.*

*Фіндус стаяў ля дзвярэй і чакаў Пэтсана. Падстаўку пад ялінку ён ужо адшукаў.*

*– Пэтсан! – паклікаў Фіндус. – Хадзем ужо ў лес па ялінку!*»

І тут здарылася тое, што не мусіла здарыцца — Пэтсан падвярнуў нагу. Як жа яны дойдуць да крамы, як набудуць ежы, як прынясуць з лесу ялінку?! Пра прыгоды герояў чытайце ў кнізе.

**Сяргей Украінка. 9 гранаў. – Мінск: Кнігазбор, 2016. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 70). – 136 с.**




Кнігу “9 гранаў” правамерна адносіць да “кнігі вершаў” як жанру, бо арганізуецца яна, як і знакамітыя зборнікі сімвалістаў, буйнымі паэтычнымі цыкламі, якім папярэднічае верш-эпіграф. Самая наяўнасць эпіграфа (далёка не абавязковага для традыцыйных беларускіх перайманняў “цыклічнай” кнігі) указвае на першакрыніцу – “Вянок” Максіма Багдановіча, сёлетняга 125-гадовага юбіляра.

Дзевяць цыклаў (ці “гранаў”, як у аўтара) раскрываюць розныя праявы ўнутранай біяграфіі Сяргея Украінкі, але пытанні і тэмы “рубам” не ставяцца – аўтар называе іх, у поўнай адпаведнасці з сімвалісцкай спадчынай, крыху няпэўна, туманна: “Замова”, “Тэарэма”, “Род”, “Повязь”, “Дзівасіл”, “Сон”, “Пачуццё”, “Ухмылка”, “Начаткі”. Разам з тым, пэўную логіку ў менавіта такім структураванні можна адчуць. Чытаючы той ці іншы цыкл, мэтазгоднасць уключэння верша ў яго разумеецца, але не так пляската, як гэта маглі б падаць школьныя падручнікі: вершы пра мову, грамадзянская лірыка, гістарычная тэма і г.д. Класіфікацыя тут калі і верагодная, то гэткая ж туманна-сімвалічная, як і сама структура кнігі Украінкі.

Нягледзячы на ўсе культуралагічныя рэмінісцэнцыі ў структуры зборніка і на яўную абазнанасць аўтара ў сусветнай паэтычнай практыцы, самая лірыка магілёўскага літаратара хутчэй адпрэчвае эстэцтва і канструктывізм сваёю сутнасцю – на карысць жыццёвай прозы, трансфармаванай у паэзію.



# Нашыя аўтары

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Алека» (Балгарыя, 2016). Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Астапенка Анатоль** – публіцыст, навуковец. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Доктар паліталогіі МАІТ. Аўтар кніг «Паслухайце нацыяналіста» і «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Пад псеўданімам Антон Кулон выдаў кнігу эсэ «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Мсцібава на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Багадзяж Мікола** — гісторык. Аўтар кнігі «Сыны зямлі беларускай». Сумесна з Ірынай Масляніцынай напісаў кнігі «Слава і няслаўе», «Радзівілы — нясвіжскія каралі», «Радзівілы ў эпоху інтрыг і авантур» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Траянаўка на Барысаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Быкаў Васіль** – народны пісьменнік Беларусі. Празаік, публіцыст. Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар'ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст, журналіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісціка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці», кніг перакладаў С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хэмінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Бялькевіч Даша** – паэтка. Удзельніца слэма паэтычнага фестываля «Вершы на асфальце» (2015), пераможца слэма «Сільное слово» (2014) і слэма Беларускага Калегіума (2014), прызёр літаратурнага конкурса «A-Lovak» (2014). Нарадзілася ў вёсцы Жыровічы Слонімскага раёну Гродзенскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапееў Валерый** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання», «Ведзьміна тоня», «Я размалюю для цябе неба», «Праклён» і інш. Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Грышчук Наста** – крытык. Вучылася ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Працуе ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Нарадзілася ў вёсцы Стаі Лепельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для

спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Каўка Аляксей** — публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык. Аўтар кніг «Тут мой народ», «Жывом!», «Будам жыць!» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеншчыне. Жыве ў Маскве.

**Манфрыдзі Джузэпэ (Giuseppe Manfridi)** – італьянскі пісьменнік, драматург, сцэнарыст, акцёр. Сярод яго найбольш вядомых драматычных твораў – «Джакама-ганарліўца», прысвечаны Леапардзі, «Я кахаю цябе, Марыя!», «Адмарозкі», «Прыцісніся да мяне, прыцісні мяне да сябе», «Дзозас» і інш. Неаднаразова выступаў у якасці сцэнарыста і выканаўцы роляў. Аўтар празаічных кніг «Пейзажныя замалёўкі» (2006), «Вастрыё лёду» (2008). Нарадзіўся ў 1956 годзе ў Рыме.

**Масляніцына Ірына** — гісторык. Сумесна з Міколам Багадзяжам напісала кнігі «Слава і няслаўе», «Радзівілы – нясвіжскія каралі», «Радзівілы ў эпоху інтрыг і авантур» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў горадзе Пачынак на Смаленшчыне (Расія). Жыве ў Мінску.

**Мінкін Алег** — паэт, празаік, драматург, перакладчык. Лаўрэат літаратурнай прэміі Таварыства вольных літаратараў «Гліняны Вялес» (2007). Аўтар кніг паэзіі «Сурма», «Расколіна», «Пенаты», кнігі прозы «Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў». Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Чарняўка на Хоцімшчыне. Жыве ў Маскве.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі»; прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Піневіч Наталля** – мастачка. Удзельніца шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выстаў, у тым ліку выстаў аб'яднання «Пагоня», прысвечаных Я. Драздовічу, К. Каліноўскаму, Янку Купалу, Якубу Коласу, М. Багдановчу, Бітве пад Оршай і інш. Нарадзілася ў вёсцы Ілля на Вілейшчыне ў 1965 годзе.

**Сцебурака Усевалад** — паэт. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2004). Аўтар кнігі «Крушня» і «Бег па самаадчуванні». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Жлобіне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007). Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Наталкі таткі» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Чыгрын Сяргей** — паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» і інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Самнасам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляванне», «Тэорыя літаратурных тропаў», «Рэстаўрацыя шчырасці». Нарадзілася ў 1974 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.